# СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

Беларускі этнас налічвае больш чым тысячагадовую гісторыю існавання. Ужо ў далетапісны перыяд беларусы спявалі ўласныя меладычныя песні, мелі развітую каляндарна-абрадавую паэзію. Асабліва пашыраліся валачобныя і веснавыя спевы — карагодныя, кустовыя і русальныя, летнія — купальскія і жніўныя, восеньскія — ярынныя і талочныя. У глыбіню вякоў сягаюць непаўторныя жамчужыны сямейна-абрадавага меласу — вясельныя і радзінныя песні.

Сотні гадоў налічваюць беларускія замовы — ад хвароб і ўкусаў змей, ад дзікіх звяроў і злых ворагаў. Дзякуючы сакральнаму статусу, рэліктавыя замовы-формулы захаваліся амаль у нязменным выглядзе. У іх выразна адбіліся найбольш архаічныя пласты мастацкай культуры народа, выявілася глыбіннае стаўленне чалавека да слова, якое надзялялася магічнай сілай, уласцівасцю вылечваць людзей, уплываць на прыроду і стыхіі.

На золку цывілізацыі ўзніклі надзвычай каларытныя народныя галашэнні з іх непаўторнымі паэтычнымі формамі і зваротамі да сіл прыроды — нябёсаў, сонца, месяца, ветру, якія ўспрымаліся як жывыя адухоўленыя істоты. У беларусаў ужо ў часы глыбокага язычніцтва сфарміравалася адрозная ад суседзяў галерэя казачных сюжэтаў, вобразаў і персанажаў.

У даўнія, дахрысціянскія часы з'явіліся архаічныя легенды і паданні. У іх знайшло адлюстраванне міфалагічнае мысленне старажытнага чалавека, яго светаразуменне і кругагляд. Менавіта ў эпоху політэізму ўзніклі захапляльныя расповеды пра волатаў-асілкаў, пра міфічных істот: лесуноў, дамавікоў, вадзянікаў, начніц,— з'явіліся містычныя гісторыі пра знахароў і ваўкалакаў, пра дзівоснае паходжанне рэк і азёраў, пра ўзнікненне агню, пра знакамітыя курганы і валуны.

Жыхары старажытных беларускіх зямель мелі ўласныя вераванні, звычаі, рытуалы і абрады, спецыфічнае светаўспрыманне і сістэму рэлігійных уяўленняў. На працягу стагоддзяў беларусы карысталіся агульнай гутарковай мовай, праявы якой адбіліся ў ранніх пісьмовых крыніцах — рарытэтным Полацкім Евангеллі XII стагоддзя, творах Кірылы Тураўскага, надпісах на Крыжы Ефрасінні Полацкай.

Спакон вякоў продкі беларусаў стала жылі ў басейнах магутных рэк — Дняпра, Дзвіны, Нёмана, Прыпяці, Бярэзіны і Сожа. У IX—X стагоддзях на протабеларускіх землях паўсталі першыя дзяржаўныя ўтварэнні, з'явіліся правобразы сучасных палітычных інстытутаў (гарадское веча, княская ўлада, войска), элементы судовай і прававой сістэм. Асабліва высокага эканамічнага і палітычнага развіцця ў X—XII стст. дасягнулі Полацкае і Тураўскае княствы. У XIII ст. узвысілася Навагрудская зямля, на грунце якой паўстала найбуйнейшая ў тагачаснай Еўропе дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае, спачатку са сталіцай у Навагрудку, а затым — у Вільні.

Беларускі народ ужо ў старажытныя часы меў высокую прававую культуру. Найбольш яркімі помнікамі нацыянальнага права справядліва лічацца Статуты 1529, 1566 і 1588 гадоў.

У перыяд сярэднявечча, рэнесансу, барока і асветніцтва беларускія інтэлектуалы стварылі самабытную мастацкую культуру, багатую ў жанравых адносінах літаратуру, неацэнныя творы прыгожага пісьменства. У гэты час надзвычай актыўна назапашваліся веды пра прыроду і чалавека, выпрацоўваліся і ўдасканальваліся нормы літаратурнай мовы, з'явіліся першыя слоўнікі і граматыкі.

Паралельна з актыўнай дзяржаватворчасцю, сацыяльнай і інтэлектуальнай эвалюцыяй грамадства адбываліся глыбінныя працэсы этнічнай самаідэнтыфікацыі і кансалідацыі. Беларуская народнасць фарміравалася на грунце буйных племянных саюзаў — крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і літвінаў. Паняцце «Белая Русь» у дачыненні да беларускіх зямель упершыню было ўжыта ў XIII стагоддзі.

Галоўная каштоўнасць Беларусі — выдатныя людзі, таленавітыя стваральнікі, шчырыя працаўнікі. Найбольш выбітныя

асобы, геніі нацыі смела рухалі наперад гісторыю, спрыялі росквіту краіны, вызначалі культурнае і духоўнае аблічча эпох.

Беларусы стварылі ўласную дзяржаву, адбудавалі гарады і мястэчкі, захавалі этнічную і культурную самабытнасць. Палітычны і эканамічны суверэнітэт краіны стаўся вынікам неверагодных высілкаў усяго народа, а таксама дзякуючы нязломнай волі, таленту і самаахвярнай працы лепшых сыноў краіны.

Героямі гэтай кнігі з'яўляюцца яркія постаці мінулага Беларусі — Рагвалод і Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Міндоўг, Вітаўт Вялікі, Астафей Валовіч, Сымон Будны, Леў Сапега, Іпацій Пацей, Іосіф Вельямін Руцкі, Кастусь Каліноўскі і Вацлаў Ластоўскі. Яны ўнеслі велізарны ўклад ва ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці, садзейнічалі росту міжнароднага аўтарытэту краіны, спрыялі росквіту нацыянальнай культуры.

# СКАРБ КРЫВІЧОЎ



## 1

Незвычайны страх запанаваў сярод крывічоў. У людзей ажно кроў стыла ў жылах. Магічная зброя — лук са стралой і бліскучы кароткі меч, якія дасталіся племю ў спадчыну ад далёкіх прашчураў, людзей-волатаў,— раптоўна страцілі сваю моц. Усе жылі прадчуваннем немінучай бяды. Старэйшыны родаў у адзін голас вінавацілі Ваўка — валадара крывічоў. Ён здзейсніў смяротны грэх — у гневе забіў нявіннага земляроба, які ў нейкай дробязі запярэчыў яму, і таму, як тлумачылі жрацы, назаўсёды пазбавіўся падтрымкі багоў.

У адчаі і паніцы, некалі магутны і непераможны, Воўк насіўся на ўзмыленых скакунах ад паселішча да паселішча, раіўся з найбольш абазнанымі вешчунамі, шукаў выйсця. Яго прыгняталі цяжкія думкі: «Народ загіне, ворагі завалодаюць усімі багаццямі, спапяляць зямлю, расцярушаць людзей, а мяне разарвуць на кавалкі і кінуць дзікім звярам». Цела Ваўка напялася, мускулы здранцвелі, нібы скамянелі. Сон не ішоў да яго. Вочы наліліся чырванню, сталі злымі.

Канчаткова зморany і знясілены, ён спыніўся ля разгалістага дуба над Палатой. У засені магутнага дрэва Воўк, здаецца, на хвіліну звёў вочы, задрамаў. Яму прысніўся сон, які, на шчасце ўсёй крывіцкай зямлі, стаўся прарочым. Воўк выразна ўбачыў: паўз лес бяжыць малады і дужы лось. Зямля дрыжыць пад яго капытамі. Рогі ў лася залатыя, у іх адсвечваецца Сонца. Раптам лось паварочваецца і ляціць

наўпрост да Ваўка. Той нібыта і рады, але не ведае, што рабіць, як рэагаваць. Спрабуе агледзецца, але не можа павярнуць галавы...

Праз сілу Воўк прачнуўся. Адразу адчуў палёгку на сэрцы. Паклікаў вешчуна, расказаў свой сон.

Вяшчун патлумачыў:

— Малады лось з залатымі рагамі — гэта малады князь, наш новы валадар. Трэба пасылаць за Варажскае мора. Там у магутнага князя люцічаў Любаміра ёсць малодшы сын — Рагвалод. Твой сон ясна сведчыць: малады княжыч абраны багамі, каб валадарыць у нас. Такая воля нябёс! Яе не абмінеш, інакш кара спасцігне нашу зямлю!

Неўзабаве пасольства ад крывічоў выправілася ў няблізкі шлях.

## 2

Ішоў 945 год ад Нараджэння Хрыстова.

Магутная Дзвіна ўпэўнена патрушчыла лядовы панцыр, які скоўваў яе цягам доўгай зімы, пазбавілася ад халодных крыг. Усю вясновую каламуць і сцёкі з прыдзвінскіх абшараў імкліва праглынула салёнае Варажскае мора. У прыродзе пачалося абнаўленне. Настаў спрыяльны момант, каб увасабляць у жыццё смелыя планы.

Рагвалод, якому ўзімку споўнілася дваццаць год, прыняў канчатковае рашэнне — сёлета ўвесну пакінуць абветраныя берагі Варажскага мора і перабрацца на сталае жыццё ў лясістую Крывіцкую зямлю. У Полацку яго з нецярпеннем чакалі.

Дасведчаныя і спрактыкаваныя мараходы старанна падрыхтавалі тры правераныя салёным морам ладдзі, надзейна ўпакавалі ўсе рэчы, неабходныя для доўгага плавання. Шлях ім быў, канечне, знаёмы, але зусім не блізкі і даволі цяжкі.

Рагвалод з вернымі і надзейнымі сябрамі, а таксама прыслугай накіраваўся ўздоўж марскога ўзбярэжжа да вусця Дзвіны. Плылі ў добрым настроі. Спадарожны вецер дапамагаў веслярам.

Княжыч углядаўся ў марскую далеч, пазіраў на маўклівы бераг, у думках развітваўся са знаёмымі з дзяцінства мясцінамі. Прыблізна

сто гадоў таму гэтым жа шляхам плыў Рурык-вараг, гэтаксама запрошаны ўсходнімі славянамі на княжанне. Рагвалод ведаў, што Рурык доўгі час валадарыў у Ноўгарадзе, стварыў там магутную дзяржаву.

Сэрца Рагвалода крыху маркоцілася, але ў цэлым ён пачуваўся задаволеным — наперадзе самастойнае жыццё, напоўненае вялікімі справамі і прыгодамі.

Яшчэ летась да бацькі прыязджалі паслы ад крывічоў. Гаваркія госці, як і належыць, прывезлі каштоўныя падарункі: мячы і лукі, мяккія вырабы з футра, упрыгожанні і добры пачастунак. Князь прымаў падарункі, радаваўся, бо прадчуваў: паслы прыйшлі з добрымі навінамі.

Падчас раскошнай вячэры пасла-крывічы перашэптваліся з князем Любамірам. У знак згоды ён паківаў. Як высветлілася пазней, яны прасілі накіраваць княжыць да іх малодшага сына — Рагвалода. Князь не запярэчыў. Наадварот, быў вельмі ўсцешаны, што яго род пашырыць уладанні, а ён праз гэта стане яшчэ мацнейшы.

Рагвалод таксама быў задаволены: нарэшце ён выйдзе з-пад строгага бацькоўскага нагляду. Хацелася жыць уласным розумам. Аб свабодзе Рагвалод ужо марыў шмат гадоў, даўно лічыў сябе дарослым. Да таго ж ён меў практычны досвед у розных рамёствах, быў першым падчас паляванняў на дзікіх звяроў.

Сапраўды, да таго часу Рагвалод атрымаў належную вайсковую загартоўку. Шмат разоў яго меч трушчыў галовы вурдалакаў-германцаў пры сутычках з імі. Даволі рана ён зведаў асалоду перамогі над ворагамі.

Без асаблівых прыгод мараходы дабраліся да вусця Дзвіны, а затым уверх па цячэнні накіраваліся ў зямлю крывічоў. Клопатаў з харчаваннем не мелі. Накопчаных мясных вырабаў хапала. Адпачывалі і частаваліся часцей за ўсё наўпрост на ладдзях.

Зрэдчас выходзілі на бераг, распальвалі вогнішча, варылі і смажылі рыбу. Дзвіна, асабліва надвячоркам, ажно кіпела ад розных яе відаў. Разгортвалі сетку-брэдзень, працягвалі раз-другі ўздоўж берага, і ўлову — хоць адбаўляй! Карма аж кішэла ад рачной жыўнасці: шчупакі, акуні, ліні, плоткі, доўгія мяні. Смачней і наедней нічога не прыдумаеш!

Стараліся, аднак, не вельмі часта спыняцца. І не таму, што нечага асцерагаліся ці баяліся. Ашчаджалі час, спяшаліся ў Полацк.

Плылі доўга, часцей трымаліся берага. Бліжэй да берагоў цячэнне здавалася не такім моцным, як у сярэдзіне ракі.

Рагвалод углядаўся ў дзівосныя прыбярэжныя краявіды, марыў пра хуткую сустрэчу са Звеніславай — дачкой старэйшыны Ваўка. Яе дзівосную прыгажосць летась на ўсе лады расхвальвалі прыезджыя крывіцкія паслы.

Сэрца княжыча, аднак, вярэдзілі трывожныя думкі: «Ці не стане гэты дынастычны шлюб цяжкім ярмом для мяне? А можа, гэтая хвалёная Звеніслава разаб'е маё сэрца, зробіць рабом, прынізіць? Дзе і якое выйсце тады шукаць? Але нічога ўжо не зменіш. Так распарадзіўся Кон. Ды і рашэнне прынята канчаткова».

Рагвалод супакойваў сябе, верыў у лепшае.

## 3

Напярэдадні прыезду Рагвалода ў Полацк на падаконнік да Звеніславы прыляцелі сінічкі. Яны радасна ціўкалі, махалі крылцамі, пераскоквалі з месца на месца. Звеніслава ўбачыла ў гэтым добры знак. «Значыць, усё ідзе да лепшага, багі не супраць майго шчасця», — падумала дзяўчына. Яе сэрца суцішылася, трывожныя думкі адляцелі прэч.

Ладдзі з гасцямі прычалілі да берага бліжэй да поўдня. Прамяні вясновага сонца саграvalі зямлю, усё навокал зелянела. Рагвалод саскочыў з ладдзі, агледзеўся, паправіў адзенне. Ён быў сярэдняга росту, але моцнага целаскладу, з правільнымі рысамі твару і светлымі валасамі. Апрануты ў кароткую туніку з вышытай каймой. Падпяразаны скураным поясам з бронзавай чаканай бляхай. Зверху на плечы накінуты паўкруглы плашч. На нагах — мяккія саф'янавыя боты.

Гасцей сустракала шмат палачан. Усе хацелі бачыць князя. Мужчыны, жанчыны і падлеткі стаялі на вале, іншыя — наўпрост на беразе. Галовы дзяўчат упрыгожвалі вянкі, сплеценыя з яркіх лугавых і лясных красак.

Паводле звычаю, прыгожа апранутая маладая дзяўчына паднесла Рагвалоду каравай. Воўк стаяў наперадзе натоўпу. Ён ступіў насустрач і моцна сціснуў у абдымках Рагвалода — як меркавалася, будучага зяця і новага валадара Полацкай зямлі.

Рагвалод падзякаваў гаспадару, перадаў добрыя пажаданні ад бацькі.

Госць зрабіў прыемнае ўражанне.

Людзі ў натоўпе шапталіся, нехта даволі гучна прамовіў:

— Бач ты, вараг, а апрануты як і мы, ды і размаўляе амаль па-нашаму.

Хор дзяўчат у святочных белых сукенках заспяваў песню ў гонар госця. Іх звонкія галасы кранал і сэрцы. Цёплы летні вецер панёс песню над Дзвіной.

Воўк быў незвычайна ўзрушаны. Ён, відавочна, радаваўся прыезду Рагвалода. Павёў дарагога госця ў святліцу, адмыслова ўзведзеную для яго са звонкай смалістай сасны.

Новы палац для будучага князя стаяў на ўзвышшы. Валадар павінен далёка бачыць, сузіраць наваколле! Амаль казачнай прыгажосці будынак усцешыў вока Рагвалода. Здзівілі маляўнічыя ўзоры, выразаныя на дзвярах. Дошчачкі акуратна падагнаны адна да адной. Відаць было: дрэва апрацоўвалі ўмелыя рукі майстроў. У прасторных пакоях усё ўпарадкавана, належным чынам падрыхтавана для ўтульнага жыцця.

Вечарам у гонар прыбыцця Рагвалода ўчынілі раскошны баль. Моцныя дубовыя сталы ўгіналіся ад страў, прыгатаваных мясцовымі кухарамі. Драўляныя і гліняныя місы былі з коптурам напоўненыя смажаным і вяленым мясам — аляніна й, ласінай, дзічынай, зайчацінай,— каўбасамі, рознымі відамі рыбы, салёнымі грыбамі. Пілі медавуху і яблычнае віно. Слугі падносілі новыя стравы, лоўка абслугоўвалі гасцей і гаспадароў. Воўк і Рагвалод сядзелі побач, аб нечым размаўлялі.

Раз-пораз гучалі тосты за здароўе валадара крывічоў і шаноўнага госця. Усе ў знак згоды ківалі, далучаліся да сказанага. Высока ўздымалі напоўненыя да краёў кубкі, выпівалі да дна.

Нарэшце наступіў галоўны момант. Воўк загадаў слугам паклікаць дачку. Тая з хваляваннем чакала сустрэчы з суджаным.

Звеніслава ўвайшла, прывіталася, села леваруч ад бацькі.

За вечар Рагвалод толькі некалькі разоў абмяняўся з ёй позіркам. Пагутарыць, а тым болей застацца сам-насам не дазваляў звычай.

## 4

Назаўтра Воўк паказваў Рагвалоду горад. Агляд пачалі з Верхняга замка, які быў найбольш абаронены. Полацкі дзяцінец стаяў на высокім правым беразе Дзвіны. Ад Палаты да Дзвіны пракапаны глыбокі роў, запоўнены вадой. Замак быў умацаваны дубовымі сценамі, меў дзевяць вежаў з некалькімі паверхамі байніц. З іх лучнікі маглі беспераешкодна страляць па ворагу.

Бліжэй да брамы знаходзіўся прасторны будынак. Там жыла асабістая ахова князя, у склад якой уваходзілі найбольш спрактыкаваныя і правераныя дружыннікі.

У Верхнім замку, апрача палаца князя, стаялі два вельмі значныя збудаванні — Збройная палата і Скарбніца.

Будынак, дзе знаходзілася зброя, быў даволі вялікіх памераў. Ён меў акруглую форму. Бярвёны стаялі вертыкальна, шчытна падагнаныя адно да аднаго. Накрытая вострым дашчатым дахам, Збройная палата мела некалькі ўваходаў, каб у выпадку патрэбы можна было хутка раздаць мячы, дзіды, тарчы, баявыя сякеры, лукі з калчанамі стрэл. Звонку, каля кожных дзвярэй, стаяў узброены стражнік. Халоднай зброі і markerрознай абарончай амуніцыі было даволі шмат. Тут захоўваліся стратэгічныя рэзервы на выпадак працяглай абароны. Дружыннікі, якія жылі ў Ніжнім замку і Запалоцці, трымалі ўласную зброю пры сабе. На ўсіх вежах таксама знаходзілася неабходная колькасць зброі. Апрача таго, рамеснікі і практычна ўсе мужчыны горада мелі зброю ва ўласным жытле.

Асабліва ўразіла Рагвалода Скарбніца. Над зямлёй узвышалася пабудова, нібы асобная вежа, прыстасаваная да абароны. Яе ахоўвалі

ўзброеныя дружыннікі. Воўк, Рагвалод і ваявода Лось увайшлі ў будыніну, спусціліся па ступенях, выкладзеных з камянёў, у асветленае памяшканне. Сцены і столь мацаваліся дубовымі плахамі і пляскатымі камянямі. Уздоўж сцен на нізкіх лаўках стаялі металічныя і дубовыя куфры. Воўк адчыняў іх па чарзе, паказваў Рагвалоду скарб крывічоў. Куфры да краёў былі напоўненыя залатымі і сярэбранымі вырабамі рэдкай прыгажосці — пярсцёнкамі з каштоўнымі камянямі, амулетамі, каралямі, завушніцамі, бранзалетамі. Асобна захоўваліся манеты — скандынаўскія, візантыйскія, хазарскія.

Воўк тлумачыў:

— Скрыні, напоўненыя каштоўнымі рэчамі, залатымі і сярэбранымі манетамі,— зарука нашай магутнасці. У крайнім выпадку заўжды можна адкупіцца золатам і каштоўнасцямі.

Рагвалод не чакаў убачыць столькі багаццяў. Ён ніколі ў жыцці не сустракаў столькі скарбаў, сабраных у адным месцы.

Ніжні замак выглядаў больш сціпла. Ён меў сем абарончых вежаў. Амаль у цэнтры ўзвышаўся прыгожы палац ваяводы Лася, а таксама дагледжаныя дамкі, дзе жылі заможныя гандляры і дружына князя.

Значную частку тэрыторыі Ніжняга замка займала Ратніца. Тут адбывалася загартоўка дружыннікаў. На пляцы былі адмысловыя прыстасаванні для трэніровак, вырабленыя пераважна з дрэва.

У Запалоцці, абнесеным сценамі з вежамі, шчыравалі майстры і рамеснікі: збройнікі, кавалі, залатары, ганчары, цесляры, ткачы, шаўцы, мяснікі і хлебнікі. Тут таксама жыла пэўная колькасць дружыннікаў князя. У выпадку патрэбы яны маглі імкліва заняць абарону на сценах.

Усяго ў Полацку на той час жыло больш за тры тысячы чалавек.

З жытлом палачане аніякіх клопатаў не мелі: вакол шумелі лясы, будаўнічага дрэва ўсім хапала. Гароднікі — будаўнікі гарадскіх умацаванняў — і цесляры добра ведалі сваю справу. Спакон веку крывічы ўмелі спраўна абыходзіцца з сякерай, будаўнічым начыннем і сталярнымі прыладамі.

Воўк падрабязна распавядаў, як узводзілася абарончая сістэма горада, хваліў майстроў, звяртаў увагу на шматлікія дэталі. Горад

уразіў Рагвалода — дагледжаны, добра ўмацаваны, належным чынам упарадкаваны.

Ваявода Лось, які таксама суправаджаў Рагвалода, пераважна маўчаў. Звыш двух метраў ростам, чалавек-волат, мускулісты, з імгненнай рэакцыяй, ён практычна не меў сабе роўных: цудоўна валодаў мячом, умела спраўляўся з доўгай дзідай. Лось асабіста адказваў за абарону замкаў, ведаў кожную дэталь абарончых сцен, усе вежы і байніцы на іх.

## 5

Рагвалода, аднак, чакаў сюрпрыз. Воўк і іншыя кіраўнікі родаў не сказалі галоўнага. Праз дзень, надвячоркам, яны паклікалі яго ў Свяшчэнную дуброву, што раскінулася на высокім беразе Дзвіны.

У цэнтры ўзвышаўся велізарны Дуб-Велікан. Вакол яго роўнымі колцамі раслі меншыя дубы, высаджаныя жрацамі. Нешта містычнае і велічнае панавала ў векавечнай дуброве.

Іх ужо чакаў высокі сівабароды жрэц, які трымаў тугі лук з на дзіва кароткай стралой і двухбаковы меч, выраблены з невядомага рэчыва. Зброя належала продкам крывічоў. Паводле падання, гэтыя лук са стралой і меч крывічы атрымалі з рук самога Перуна.

Калі прыехалі і сышлі з коней, Воўк звярнуўся да Рагвалода:

— Вялікі князь! Мы паклікалі цябе гаспадаром да нас, бо багі выбралі цябе. Нашы жрацы прачыталі волю нябёсаў. Зараз я ўручу табе гэтыя лук са стралой і меч. Яны маюць вялізную сілу. Той, хто стане іх валадаром, ніколі не будзе пераможаны ворагам.

Усе ў здранцвенні чакалі. А раптам жрацы памыліліся?

Як толькі Рагвалод дакрануўся да рэліквій, неба прарэзала Маланка і ўдарыў Пярун. Наваколле скаланулася. Паўсюль стаяў страшэнны гул і грукат. Сонца закрыў Месяц. Людзі ад страху ўпалі на калені.

Лук са стралой і меч зноў набылі магічную сілу. Нябёсы пацвердзілі абранасць Рагвалода.

Як толькі ўсё сціхла, Воўк першым узняўся і выгукнуў:

— Слава князю! Няхай квітнее Полацк і багацее наша зямля!

Астатнія паўтаралі за ім:

— Слава князю! Слава Перуну!

Наблізіўся Вяшчун і паведаміў князю:

— Гэтыя лук са стралой і меч атрымалі нашы даўнія прашчуры ад багоў. Яны — доказ велічы нашага народа! Ніколі не загінем, не забудземся, хто мы ёсць! Ніколі не страцім душы сваёй і сутнасці сваёй!

## 6

Вяселле згулялі праз некалькі дзён. Яно адбывалася паводле звычаяў і абрадаў крывічоў.

Людзі чакалі галоўнай дзеі, калі Званіслава перад усімі разуе князя і абмые яму ногі. Крывічы клапаціліся аб тым, каб захаваць даўні звычай.

Перад высокім ганкам паставілі драўляны княжацкі трон, перад ім — нізенькі ўслончык для ног. Побач — кадка з цёплай вадой.

Рагвалод падышоў, сеў на ўслончык. Ён крыху хваляваўся. Не за сябе — за Званіславу. Але, як аказалася, князь дарэмна непакоіўся. Званіслава ўпэўнена наблізілася да месца вясельнага рытуалу, хуценька расшнуравала Рагвалодаў абутак. Прыгаршчамі набрала з кадкі вады, абмыла князю ногі. Затым пяшчотна выцерла іх хусткай, якую трымала напагатове служанка. Шмат разоў прыслужніца Збыня прымушала яе паўтараць рытуальнае мыццё ног князю, пакуль Званіслава не засвоіла ўсё да дробязей.

Старадаўні звычай, які сімвалізаваў вечную адданасць жонкі свайму князю-валадару, гатоўнасць ва ўсім служыць і дагаджаць яму, быў належным чынам здзейснены. Менавіта з гэтага моманту Рагвалод і Званіслава станавіліся мужам і жонкай.

Хор спяваў вясельныя песні. З усіх бакоў гучалі пажаданні здароўя, дабрабыту, працягу княжацкага роду. Затым пачаліся скокі з выразнымі прыпеўкамі:

Голуб сівы, голуб сівы,
Галубка сівейша.
Бацька мілы, матка міла,
Дзяўчына мілейша.

Усе засталіся задаволеныя. Дынастычны шлюб заключаны, палітычны альянс заходніх і ўсходніх славян створаны, мір і спакой гарантаваны. Полацкая зямля ў асобе Рагвалода сапраўды знайшла надзейнага князя-абаронцу.

Падчас вяселля Рагвалод быў нешматслоўны, ён спакойна ўступаў у свае правы. Мянушка Вараг, якую даў князю нехта ў той момант, калі ён ступіў на Полацкую зямлю, так і прыжылася. Амаль усе міжсобку клікалі яго Варагам, але ён не крыўдзіўся і не пярэчыў. «Вараг дык Вараг, чаго тут крыўдаваць. Галоўнае, каб справы ішлі на лад»,— разумна разважыў Рагвалод.

## 7

У хуткім часе пасля ўзыходжання на княжанне Рагвалод паклікаў ваяводу Лася і загадаў яму склікаць дружыну. Князь жадаў праверыць уменні і вайсковыя здольнасці ваяроў.

Дружына князя — асобная каста, эліта Полацкай зямлі. У яе склад уваходзілі дужыя і рослыя юнакі, сабраныя з усіх паселішчаў княства. На вяршыні вайсковай піраміды стаяў ваявода Лось, які меў бясспрэчны аўтарытэт сярод дружыннікаў. Ён быў адчайны ў бітвах і справядлівы падчас спрэчак, што ўзнікалі паміж воямі.

У склад дружыны жадалі трапіць многія, але выбіраліся найбольш прыдатныя да вайсковай справы. Хлопцы штогод у вызначаны дзень на конях і пешшу збіраліся ў Полацк. Прыязджалі адусюль — з Лукомля, Друцка і Барысава, з Браслава і Янкавічаў, з Лагойска і Менска, з усяго бліжняга і дальняга наваколля. Яны дэманстравалі баявое майстэрства, сілу і спрыт. У дружыну адбіралі лепшых — найбольш дужых і загартаваных.

Дружыннікі паказалі новаму князю ўсё, што ўмелі. Назіраць за відовішчам прыйшлі ўсе гараджане. Натоўп адгукаўся воклічамі адабрэння пасля ўдалых прыёмаў і гудзеў, калі нешта ішло не так.

На момант узыходжання Рагвалода на трон у княскай дружыне налічвалася звыш трохсот ваяроў. Каля трыццаці — асабістая ахова князя. Прыкладна сто дружыннікаў жылі ў Ніжнім замку і адказвалі за яго абарону. Каля двухсот знаходзіліся ў Запалоцці. Іх жытло стаяла амаль па ўсім перыметры абарончых сцен, што было вельмі зручна.

Рагвалод увёў сістэму рэгулярных трэніровак. Займаліся пераважна ў першай палове дня. Затым рабілі перапынак на абед і адпачывалі. Пасля зноў да позняга часу асвойвалі баявыя майстэрствы. Князь не толькі назіраў за трэніроўкамі, але і сам біўся на мячах — пешшу і конна. Стралялі з лукаў. Узброеныя, з усёй паходнай амуніцыяй, пераплывалі на конях Дзвіну.

Часта дружыннікі дзяліліся на групы, ішлі адна на адну. Воі вучыліся трымаць абарону, ладзіць шыхты, наступаць на ворага. Княжацкая дружына рыхтавалася да доўгіх паходаў і абароны Бацькаўшчыны.

Амаль увесь час Рагвалод праводзіў з дружынай. Разумеў: узмоцненая загартоўка і скардынаванасць дзеянняў — важныя перадумовы перамогі.

Цягам часу князь стаў сваім сярод дружыннікаў. Паступова даведаўся пра здольнасці і магчымасці кожнага з іх. Сярод дружыннікаў вылучаўся каранасты юнак, які меў выключныя фізічныя даныя. Шыракаплечы, з налітымі сілай мускуламі, ён віртуозна наносіў магутныя ўдары меднай булавой і сякерай. Яго празвалі Мядзведзем. Астатнія воі з часам таксама атрымалі мянушкі-імёны: Верабей, Белы, Бык, Рыжы, Сава, Шпак, Камар. Хлопцаў называлі часцей за ўсё ці паводле галоўных рыс характару, ці ў залежнасці ад знешняга выгляду.

Дружыннікі хоць і спаборнічалі, змагаліся за першынство, але сябравалі. Пазней, у паходах і сечах, ім гэта вельмі спатрэбілася.

## 8

Рагвалод шчасліва княжыў у Полацкай зямлі. Шлюб, здзейснены нібыта паводле неабходнасці, зусім не стаў для яго цяжарам. Наадварот, жыццё са Звеніславай прыносіла Рагвалоду невымоўную радасць. Ён усім сэрцам пакахаў яе. Яна стала не толькі самым блізкім і дарагім для яго чалавекам, але і вельмі добрым дарадцам.

Звеніслава першай пазнаёміла Рагвалода з мясцовымі звычаямі. Яна распавяла яму пра галоўных багоў крывічоў — чатырох дзяцей Сонца, якія па чарзе прыходзяць валадарыць на зямлю.

Першым з'яўляецца *Каляда*. Старыя людзі не раз бачылі яго. Ён падобны да казла з доўгай барадой. Менавіта таму з'яўленне Каляды вітаюць у казліных масках, каб ён бачыў, што ўсе шануюць яго. У яго гонар спяваюць калядныя песні, дзеці збіраюць у торбы і плеценыя кашы пачастунак для яго.

Другі сын Сонца — *Ярыла*. Ён прыносіць на зямлю першае цяпло, дапамагае людзям засяваць палеткі. Людзі чакаюць Ярылу. Кожнае паселішча як можа ўслаўляе яго. Гаспадыні выпякаюць смачныя галушкі, а найбольш старанныя — лепяць з цеста птушачак, запякаюць іх на агні, а затым частуюць дзяцей. Усе імкнуцца задаволіць Ярылу, выказаць радасць з нагоды яго прыходу.

Самы прыгожы і ласкавы — *Лада*. Яго валадарства — пара выспявання ўраджаю, з'яўлення ягад і пладоў. Калі Лада нечым не задаволены, дык пачынаецца спёка — і тады трэба як след улагоджваць яго. Лада прыходзіць якраз у купальскую ноч. Менавіта ў яго гонар дзяўчаты спяваюць песні-гімны, просяць спраўдзіць іх мары аб шчаслівым каханні. На Купалу дзяўчаты і хлопцы гуляюць да раніцы, да ўзыходу Сонца — аддаючы даніну павагі богу кахання.

Чацвёрты сын Сонца — *Яшчар*. Ён прыходзіць тады, калі Сонца пачынае ніжэй хадзіць над Зямлёй. Яго мала хто любіць, апрача хлопцаў. У час, калі Яшчар пануе, хлопцы забіраюць дзяўчат з бацькоўскіх сем'яў і вязуць у свае хаты. Яшчар прыносіць халады і хваробы. Большасць людзей баяцца яго, таму сустракаюць са сполахам і трымценнем.

Расповеды Звеніславы шмат на што адкрылі вочы Рагвалоду. Ён лепш пачаў разумець народ, да якога прыйшоў на княжанне.

Князь і княгіня бралі ўдзел у народных святкаваннях, падчас якіх ушаноўваліся галоўныя багі крывічоў. Яны разам прыносілі ахвяраванні *Воласу,* богу жывёл, часцей за ўсё — маладое ягня. Верылі: за гэтую ахвяру Волас абавязкова паспрыяе плоднасці і абароніць хатніх жывёл ад злых духаў і смяротных хвароб.

Летнімі сонечнымі днямі, калі Лада валадарыў на зямлі, Рагвалод са Звеніславай выпраўляліся на конныя прагулкі. Коні імкліва неслі закаханых па лугах, абапал узлескаў, уздоўж жытнёвых палёў. Спыняліся на ўзгорку пад раскідзістым дрэвам. Агонь кахання ахопліваў Рагвалода і Звеніславу, асалодай і шчасцем палалі іх сэрцы.

Нарэшце ў князя нарадзіўся сын. Першынца назвалі Рацьмірам. Праз тры гады з'явіўся на свет другі сын. Па жаданні бацькі яму далі імя Святазар. Так сталася, што і першы, і другі раз, калі Звеніслава нараджала, князь быў у паходах. А калі Рагвалод вяртаўся, стары Воўк паведамляў яму радасную навіну.

## 9

Малады князь упадабаў паляванні — незаменны адпачынак і дадатковая загартоўка для дружыны. Перад ім паўставалі яго ўладанні — палі і лугі, пушчы і лясы, рэкі і азёры.

Круглы год білі дзікоў. Без мяса воям нельга, трэба сіла і спрыт. Увосень, калі ападаў ліст і ў лесе станавілася далёка відаць, ганяліся за казулямі і ласямі.

Найбольшага спрыту і нават мужнасці патрабавала паляванне на пушчанскіх валадароў — бізонаў-зуброў, якія мелі круты нораў. Здабыць зубра было няпроста, але дапамагаў адмысловы паляўнічы досвед. Звера заганялі ў клінападобную пастку, загадзя ўзведзеную з драўляных слупоў. Хаця часцей зуброў, ласёў і дзікоў даганялі на конях і валілі дзідамі.

Змораныя вярталіся дадому. Кожны раз наведвалі бога *Перуна,* які велічна стаяў сярод лесу. Высечаны з магутнага ясеня, Пярун стаяў на ўзгорку, маўкліва чакаючы належную яму ахвяру — зайца ці

казулю. Хто і калі паставіў тут выяву славянскага бога Перуна, дакладна было невядома.

Рагвалод пешшу набліжаўся да капішча, узіраўся ў грознае аблічча Перуна. Князь адчуваў сполах, унутры халадзела, рукі нямелі. Ён кідаў Перуну ахвяру, сцішана шаптаў замову, прасіў абароны ў валадара зямлі і нябёсаў.

## 10

У 947 годзе Рагвалоду паведамілі, што кіеўская княгіня Вольга, удава князя Ігара, накіравала ўверх па Дняпры дружыны, каб пашырыць межы сваіх уладанняў на Поўначы. Яна прагнула цалкам кантраляваць водны шлях з Грэцыі ў Скандынавію. Невыпадкова яе людзі заставаліся ў Магілёве, Оршы і нават дабраліся да Віцебска і Пскова, заснавалі пагосты па рацэ Мсце і ў вярхоўі Волгі.

Рагвалод і ўся полацкая знаць успрынялі дзейнасць Кіева як пагрозу ўласным інтарэсам, замах на іх правы. Мясцовыя князькі даўно марылі пра новыя землі і ўладанні. Спрактыкаванага князя-варага таму і запрасілі, каб распачаць рашучую і энергічную дзейнасць, смела рушыць за гарызонт, перайсці звыклыя межы.

Рагвалод дэманстраваў стрыманасць. У адказ на заклікі старэйшын, якія ўсё больш выказвалі занепакоенасць і нават незадавальненне, ён спакойна прапанаваў склікаць Веча і прыняць супольнае рашэнне.

Хутка ў Полацк з'ехаліся прадстаўнікі ад усіх куткоў Полацкай зямлі. Пасля гучных спрэчак і сварак, якія ледзьве не перараслі ў бойкі, Веча вырашыла: адваяваць землі на ўсходзе, паставіць, дзе толькі магчыма, уласныя пагосты.

Рагвалод паклікаў мясцовага астролага Ворана, празванага так з-за чорнага колеру валасоў. Юркі і надта гаваркі Воран карыстаўся павагай і меў вялікі аўтарытэт сярод крывічоў. Ніводная значная справа не пачыналася без парады з ім.

Князь запытаў Ворана:

— Якая воля нябёсаў, што раяць планеты?

Воран дастаў з торбы скрутак, разгарнуў на стале карту зорнага неба, размаляваную фігуркамі жывёл і невядомых Рагвалоду прадметаў. Ён нейкі час углядаўся, вызначаў размяшчэнне рухомых планет — Марса, Меркурыя, Сатурна, Юпітэра і Венеры — адносна нябесных сузор'яў. Воран ледзь гучна прамаўляў: «Гідра, Змяя, Леў, Скарпіён, Вялікая Мядзведзіца, Малая Мядзведзіца, Ліра, Трохкутнік, Вагі, Цэфей, Андрамеда, Арыён, Блізняты...» Нарэшце, ён азваўся:

— Княжа, нябесныя свяцілы прадракаюць поспех. Усё паказвае на добрыя вынікі.

Першы паход быў здзейснены ў 950 годзе на Віцебск.

Напярэдадні выступлення войска адбылася ахвярная вячэра. У Свяшчэннай дубраве, непадалёк ад Дуба-Велікана, на вогнішчы служыцелі культу смажылі мяса маладых бычкоў. Дружыннікі наядаліся ўволю. Яны шчыра верылі: супольнае з'яданне бычкоў надае ім сілы, з'ядноўвае дружыну ў адзіны арганізм, што надта неабходна ў працяглым паходзе і крывавых сечах.

Раніцай адкормленыя коні панеслі полацкую дружыну на ўсход.

Паколькі віцябчане і жыхары наваколля адразу неўзлюбілі кіеўскіх стаўленікаў, то Рагвалод з дружынай вельмі хутка дасягнуў мэты. Людзі княгіні Вольгі, пачуўшы пра набліжэнне полацкага князя з войскам, у спешцы селі на коней і пакінулі горад. Віцябчане сустрэлі Рагвалода як вызваліцеля, з радасцю адчынілі яму гарадскую браму.

У наступныя амаль паўтара дзясятка гадоў, як толькі сыходзіла вада і глеба станавілася цвёрдай, Рагвалод з дружынай выпраўляўся ў паходы. Баявыя навыкі дружыны паляпшаліся, кожны новы горад здабывалі лягчэй за папярэдні. Людскія страты змяншаліся, воіны амаль не гінулі. Так авалодалі Оршай, Магілёвам, Копысем, Веліжам, Усвятамі, Смаленскам, Крычавам і Прапошаскам. Вядома, кожны горад меў асаблівасці геаграфічнага размяшчэння і адметныя абарончыя збудаванні. Але Рагвалод з дружынай, якой кіраваў асілак Лось, умела пераадольваў перашкоды.

Сакрэт поспехаў Рагвалода заключаўся не толькі ў вайсковым майстэрстве дружыны. Ён перамагаў дзякуючы правільнаму выбару стратэгіі і падтрымцы багоў. І галоўнае — Рагвалод меў магічны меч

і тугі лук са стралой, якія ўручыў яму стары Воўк і мясцовыя старэйшыны родаў. Перад паходам князь запускаў стралу высока ў неба. Яна доўга кружляла, а затым абірала пэўны кірунак. Конніца ішла тым шляхам, куды накіроўвалася страла. Калі войска спынялася на адпачынак, страла нерухома стаяла ў высі. Дзівосную стралу назіралі ўсе дружыннікі. Гэта быў знак таго, што багі — на баку князя. Так даходзілі да горада, які належала скарыць. Тады магічная страла бясшумна вярталася ў калчан Рагвалода.

Аблога і штурм горада не былі складанымі. Абарончыя збудаванні крушылі лёгка, нібы цацачныя. Меч Рагвалода таксама меў магічную сілу. Як толькі князь даставаў яго перад бітвай, ён пачынаў выпраменьваць асляпляльна-белае святло і напаўняў уладальніка неверагоднай дужасцю. Ніхто не мог перамагчы Рагвалода, баявы дух і зброя князя вырашалі зыход бітвы. Па ўсім відаць, цені магутных продкаў і багі дапамагалі Рагвалоду.

Пасля захопу гарадоў полацкі валадар пакідаў там сваіх людзей на чале з намеснікамі. У іх задачу ўваходзіў кантроль над тэрыторыяй, а таксама збор падаткаў у княжацкую казну.

## 11

Рагвалод, нарэшце, вырашыў наведаць Скрыпторый — месца, дзе захоўваліся даўнія і пісаліся новыя кнігі. Ён ужо шмат чуў пра дзівосы, якія там зберагаліся.

Будынак кніжнікаў размяшчаўся ў Ніжнім замку, насупраць палаца ваяводы. У ім штодня шчыравалі кніжнікі-летапісцы. Князь выбраў больш-менш вольны дзень. Разам са Звеніславай і сынам Святазарам накіраваўся да летапісцаў. Да іх прыходу належным чынам падрыхтаваліся.

Кніжнік-мудрэц па імені Любамысл расклаў перад гасцямі кнігі крывічоў. Яны былі напісаны на пергаменце — апрацаванай скуры — даволі вялікімі літарамі. Тэкст часта перамяжоўваўся каляровымі малюнкамі.

— Тут змешчаны расповеды пра галоўныя падзеі нашага роду, — патлумачыў Любамысл.— Напісана, галоўным чынам, пра даўніх герояў і іх подзвігі.

Рагвалод акуратна перагортваў старонкі, з цікаўнасцю разглядаў малюнкі. Захоплены Любамысл з ахвотай і веданнем справы распавядаў розныя займальныя гісторыі, часам зачытваў фрагменты з кнігі. Затым запрасіў Рагвалода і Звеніславу да стала, дзе ляжала кніга вялікага памеру.

— Гэта Праўда — галоўная кніга роду. У ёй — звод законаў крывічоў. Тут запісаны рашэнні старэйшын аб пакараннях за розныя правіннасці.

Пасля гарталі іншыя кнігі — пераклады мудрасцей егіпцян і халдэяў, грэкаў і лацінян на мову крывічоў.

Усе кнігі былі напісаны мяшаным алфавітам — лацінскімі і грэчаскімі літарамі, а таксама знакамі-сімваламі крывічоў.

«Сапраўды, каб іх чытаць, а тым болей — пісаць, трэба вялікая мудрасць»,— падумалася Рагвалоду.

Святазар папрасіўся ў бацькоў застацца ў кніжнікаў. Яны дазволілі, бо бачылі ў яго схільнасці да навукі. Пасля гэтага Святазар часта завітваў у Скрыпторый і падоўгу там знаходзіўся, з ахвотай спасцігаючы кніжную мудрасць.

Князь з жонкай пакінулі Скрыпторый. Яны выйшлі за браму і накіраваліся да Дзвіны. Там прыселі на высокім беразе. Рагвалод прытуліў жонку, глядзеў на задзвінскія лугі, аб нечым думаў.

— Хочаш, раскажу табе, адкуль пайшоў наш род? — запытала Звеніслава.

— Ты ведаеш пра гэта? — здзіўлена перапытаў князь.

— Мне ў дзяцінстве расказвала бабуля. Дык вось, слухай. Нашы далёкія пращчуры былі вельмі высокія і прыгожыя людзі. Яны спусціліся на зямлю з нябёсаў. З сабой яны прынеслі збожжа, авёс і ўсё чыста, што мы зараз вырошчваем. Мужчыны ўмелі лётаць у паветры, нібы птушкі, апрацоўвалі жалеза, маглі вырабляць металічныя рэчы. Усё, што зараз умеюць нашы людзі, пайшло ад іх. Наш род — абраны багамі! Мы — дзеці нябёсаў!

Рагвалод яшчэ мацней абняў жонку, пацалаваў у мяккія вусны...

## 12

964 год стаўся адметным у жыцці Рагвалода. Звеніслава нарадзіла дачку. Нараджала цяжка, у пакутах. На вачах князя прыгажуня Звеніслава пачала чахнуць і згараць.

Знахар Зенька ўжываў усе даступныя яму лекі, каб толькі выратаваць князёўну. Паіў настоямі і адварамі траў, націраў ногі барсуковым тлушчам. Выкарыстоўваў нават магію: падкладваў пад галаву камяні, закопваў адрэзаныя кавалачкі нагцей і пасму валасоў Звеніславы ў дрымучым лесе. Не дапамагло. Князёўна зусім аслабела. Тады Зенька рашыўся на апошні крок. Паводле яго загаду, Звеніславу адвезлі ў лес, прывялі да вялікай сасны з аголенымі каранямі. Лекар загадаў зусім кволай да таго часу жанчыне пралезці пад коранем пракаветнага дрэва. Але і гэты сродак лячэння аказаўся марным.

Пасля родаў Звеніслава пражыла менш за месяц.

Памерла князёўна раніцай. Цела яе на другі дзень спалілі, а попел развеялі ў Свяшчэннай дубраве.

Народжаную дзяўчынку назвалі Рагнедай.

Сум авалодаў Рагвалодам. Цiснула ў грудзях, на вачах часта выступалі слёзы. Усведамленне таго, што Рагнеда ніколі не ўбачыць маці, працінала сэрца. Усё навокал стала абыякавым.

На нейкі час Рагвалод нават прыпыніў паходы. «Навошта тыя землі і гарады, навошта багацці?» — думаў замаркочаны князь. Ды і ваяваць з адзінакроўнымі братамі-славянамі ён, па ўсім відаць, больш не жадаў.

Рагнеду карміла і даглядала мамка. Дачцэ князя дазвалялася больш, чым астатнім дзецям, аднак яна не надта гэтым карысталася. Рагнеда выяўляла схільнасць да працы. Яна змалку навучылася ткаць, рабіць палатно і вышываць прыгожыя ўзоры на кашулях і ручніках.

Зенька з ахвотай распавядаў Рагнедзе пра яе маці. Дзяўчынка любіла праводзіць з ім час. Яна ўважліва слухала, запаміналa ўсе дэталі. Разам з лекарам князёўна збірала травы і карэньчыкі, дапамагала яму гатаваць настоі і адвары.

Рагнеда з радасцю займалася кухарскімі справамі. Ёй падабалася гатаваць прысмакі — мясныя вырабы і выпечку, збіваць масла і вырабляць сыры з каровінага і казінага малака.

Калі дачка падрасла, Рагвалод часцей пачаў браць яе з сабой. Яна ўдзельнічала ў паляваннях, выездах князя па даніну. Паступова князёўна далучылася да баявых мастацтваў. Асабліва ёй удавалася стральба з лука — дачка князя трапляла ў мішэнь не горш за дарослага лучніка.

## 13

Паступова Рагвалод акрыяў, вярнуўся да звыклых заняткаў. Разам з ім была Рута — чарнявая дзяўчына рэдкай прыгажосці. Дачка полацкага каваля змагла суцешыць князя, вярнуць яму цікавасць да жыцця. Рута пасябравала з Рагнедай, шмат чаму навучыла яе. Яна прынесла ў дом князя ўтульнасць, супакоіла яго сэрца.

Рагвалод наладзіў адносіны са старэйшынамі суседніх славянскіх плямён — радзімічаў і дрыгавічоў. Але асабліва ён даражыў дружбай з уплывовымі кіеўскімі валадарамі, пры неабходнасці аказваў ім дапамогу.

Полацкі князь уважліва сачыў за падзеямі ў Кіеве. Там княжыў Святаслаў — сын Ігара і Вольгі. Ён лічыўся князем з трох год, пасля смерці бацькі ў 945-м. Але рэальную ўладу ажыццяўляла маці, княгіня Вольга. Паўнаўладным кіеўскім валадаром Святаслаў стаў толькі ў 964 годзе.

Ужо ў 965 годзе кіеўскі князь арганізаваў вялікі паход на Хазарскі каганат. Рагвалод доўга не вагаўся. З уласным войскам ён вырашыў далучыцца да Святаслава. Старэйшы сын Рацьмір, які меў да таго часу дастатковы вайсковы досвед, таксама прасіўся ў паход. Але Рагвалод загадаў яму з часткай дружыны ахоўваць княства.

Таемная зброя князя на вялікай адлегласці ад Полацка не мела сілы. Таму браць яе не мела сэнсу. Спадзяванні ўскладаліся на вайсковы досвед і баявое майстэрства дружыны.

На конях даімчалі да Оршы. Там пераселі на ладдзі і ўніз па Дняпры даплылі да Кіева. Пасля ўз'яднання з войскам Святаслава рушылі на паўднёвы ўсход — на горад Саркел, сталіцу Хазарскага каганата.

На шляху мелі некалькі буйных сутычак з хазарскай конніцай. Высакарослыя крывічы супольна, плячо ў плячо з кіяўлянамі, грамілі хазараў, а потым дзялілі заваяваныя скарбы.

Саркел стаяў на рацэ Дон, меў добрыя ўмацаванні. Асада крэпасці доўжылася некалькі тыдняў. Нарэшце, штурмам узялі горад. Захапілі шмат каштоўнасцей.

Сталіцу хазараў, паводле прапановы Рагвалода, перайменавалі. Назвалі на крывіцкі лад — Белая Вежа. У горадзе пакінулі вялікі гарнізон славянскіх воінаў.

Рагвалод павёў з сабой некалькі дзясяткаў узятых у палон хазарскіх хлопчыкаў і дзяўчатак, каб выкарыстоўваць іх на радзіме як слуг. Але, як паказаў час, гэта была яго непапраўная памылка.

Полацкі валадар і надалей падтрымліваў уладныя амбіцыі Святаслава Ігаравіча, бо меў ад гэтага немалыя набыткі. Апрача вайсковага рыштунку і табуноў пародзістых коней, незлічоныя багацці — золата, каштоўнасці, рэдкія ўпрыгожанні — ракой цяклі ў Полацкую зямлю. Скарбніца крывічоў імкліва папаўнялася.

## 14

Увесну 970 года Рагвалод з дружынай пайшоў у паход на Візантыю. Ініцыяваў кампанію магутны кіеўскі князь Святаслаў Ігаравіч. Як найбольш спрактыкаваны і ўплывовы, ён і ўзначаліў аб'яднаныя славянскія дружыны.

Больш за тры сотні караблёў накіраваліся праз Рускае мора ў напрамку Царграда. Салёная марская вада і сонца спрыялі дружыннікам. Ваявода Лось з хлопцамі кідаліся за борт, сваволілі, цешыліся. Усе спадзяваліся на ўдачу. Славяне наведваліся пад сцены Царграда неаднаразова. У 860 годзе атрады русаў прыходзілі да сталіцы Візантыі, праўда, многія там палеглі. Легендарны князь Алег з дружынай штурмаваў Царград у 907 годзе.

Войска высадзілася ў Фракіі. Дружыннікі пераселі на коней і рушылі на сталіцу Візантыі.

Рагвалод і яго воіны ўпершыню ўбачылі непрыступныя каменныя сцены Царграда. Яны крыху сумеліся, убачыўшы цвярдыню. Але паступова пераадолелі страх і гатовы былі дзейнічаць адчайна і рашуча: надта ж вабіла здабыча.

Дасведчаны візантыйскі ваявода Патрыкій Пётр прыняў, аднак, іншае рашэнне. Ён адкупіўся. Славяне атрымалі вялікую даніну, у тым ліку і на тых дружыннікаў, якія загінулі падчас папярэдніх сутычак. Задаволеныя, яны адступілі і рушылі назад.

Вярталіся дамоў з незлічонымі скарбамі. Везлі рэдкія рэчы і каштоўныя ўпрыгожанні. Частку багаццяў перадалі ў Скарбніцу княства. Астатнім распараджаліся як хацелі: прадавалі, абменьвалі, дарылі сваім жанчынам, якія чакалі мужоў з паходу.

Рагвалод прывёз дачцэ Рагнедзе каштоўныя ювелірныя вырабы, якія ўдалося здабыць у Візантыі — залатыя ланцужкі, завушніцы, пярсцёнкі. Асабліва ўсцешылі Рагнеду каралі. Яны былі незвычайнай прыгажосці, ззялі ўсімі колерамі. Рагвалод старанна замацаваў іх на шыі Рагнеды. Вочы дачкі свяціліся невымоўнай радасцю і ўдзячнасцю.

## 15

У канцы лета адзначалі свята ўраджаю. Рагвалод з дачкой выехалі праз Запалоцце за горад. Земляробы з усяго наваколля сабраліся ў паселішчы над Дзвіной, каб адсвяткаваць дажынкі.

Жнейкі на полі з апошніх каласкоў «завівалі бараду». Улагоджвалі духа поля. Апошні сноп са жніва — імяніннік — абвязалі вышытымі ручнікамі і неслі яго да святочнага стала, ставілі ў куце.

З калосся рабілі вянок і ўскладалі яго на галаву прыгожай дзяўчыны — валадарыцы дажынак.

Абраная дзяўчына наблізілася да Рагвалода, зняла вянок і ўсклала яго на галаву князя. Рагвалод, паводле звычаю, падарыў ёй пярсцёнак з каштоўным каменем. Іншых жнеяк таксама ўзнагародзіў — завушніцамі і бранзалетамі.

Рагнеда далучылася да хору дзяўчат і разам з імі спявала жніўную песню:

Хадзіў раю па вуліцы,
Ніхто раю ў хату не пусціць,
Толькі папрасіла наша маці:
— А хадзі, раю, ка мне ў пакой,
А ў маім пакоі як у святліцы,
Мае сталы цясовыя,
Мае скацеркі бялёныя,
Мае хлебушкі залатыя,
Мёдам налітыя.
А мы жнейкі маладыя,
Сярпы залатыя —
Пад гарою жалі,
Сярпы пазлачалі.

Затым усе земляробы скіраваліся ў прыбраную для свята хату, дзе смачна елі — бліны з салам, яечню, мёд. Да позняга вечара не сціхалі жніўныя песні, поўныя хараства і жыццёвага аптымізму.

**16**

Полацкі валадар вітаў пашырэнне ўлады кіеўскага князя Святаслава. Прыглядаўся да яго сыноў, аўтарытэт якіх павялічваўся. Яны станавіліся валадарамі ў асобных гарадах і землях. Каля 970 года сын Святаслава Уладзімір стаў гаспадаром Ноўгарада. Другі сын — Алег — атрымаў драўлянскую зямлю. Старэйшы сын — Яраполк,— паводле спадчыннага права, заставаўся княжыць у Кіеве.

Полацкі князь спадзяваўся на мір са святаславічамі. Думаў пра новыя сумесныя паходы на Балканы, на Волгу, далёкую мардву і булгараў, касогаў і аланаў.

Рагвалод з сумам успрыняў у 972 годзе вестку пра смерць Святаслава. Кіеўскага князя забілі печанегі каля дняпроўскіх парогаў, калі той вяртаўся з чарговага паходу на Балгарскае царства.

Пасля смерці Святаслава паміж яго сынамі, замест узаемавыручкі і братэрскай згоды, успыхнула страшэнная варажнеча. Пачаліся няспынныя і крывавыя міжусобіцы. Што паслужыла нагодай для

ўзаемнай нянавісці — таямніца за сямю пячаткамі. Але хутчэй за ўсё галоўнай прычынай стала неўтаймаваная прага Яраполка аднаасобнай і бязмежнай улады над усімі славянскімі землямі. Увосень 975 года ён пайшоў на брата Алега, драўлянскага князя, і той пры ўцёках загінуў, зваліўшыся ў роў.

Пад націскам войскаў кіеўскага валадара Яраполка, другі яго брат — ноўгарадскі князь Уладзімір — мусіў уцякаць да шведаў. Увесну 978 года ён вярнуўся з дружынай наёмнікаў і здолеў адваяваць Ноўгарад. Выкінуў намеснікаў Яраполка і ўсталяваў сваю ўладу.

Крывавыя разборкі прэтэндэнтаў на кіеўскі прастол істотна змяншалі пагрозы для Полацкага княства. Але святаславічы ва ўзаемнай барацьбе шукалі саюзнікаў і ўсё часцей звярталі свой погляд на Полацк. Таму Рагвалоду трэба было вызначацца: на чый бок стаць, з кім сябраваць, каго падтрымліваць.

Нейкі час полацкаму валадару ўдавалася хітрыць і лавіраваць паміж рознымі лагерамі, захоўваць вайскова-палітычны нейтралітэт.

## 17

Паводле старадаўняга звычаю, крывічы штогод чынілі памінальныя трызны, ушаноўвалі духаў продкаў. На восеньскія Дзяды клікалі продкаў за стол, запрашалі частавацца, прамаўлялі словы ўдзячнасці.

У сям'і полацкага князя Рагвалода таксама старанна рыхтаваліся. Напярэдадні палілі лазню. Парыліся бярозавымі і дубовымі венікамі, апраналі свежае адзенне.

Бліжэй да апоўдня Рагвалод з дачкой накіраваліся ў Свяшчэнную дубраву, дзе быў развеяны прах Звеніславы.

Каля каменя-валуна Рагнеда прысела і пачала галасіць. У яе галашэнні-імправізацыі гучалі невымоўныя боль і смутак:

Мамачка мая родная,
Жаласніца мая!
А чым жа мы цябе так угнявілі,
Што ты нас пакінула?

Чаму ж ты не адгукнешся,
Чаму ж ты не абзавешся?

У адказ падзьмуў прахалодны вецер, у вяршалінах дубоў зашумела лістота. Так у дыханні ветру сустрэліся родныя душы, абняліся, прылашчыліся.

Рагвалод стаяў сцішана, у роздуме. Успамінаў вочы і пагляд Звеніславы, згадваў яе дзівосную ўсмешку.

Затым моўчкі вярталіся дадому. Рагнеда заслала белым абрусам памінальны стол, загадала кухарам ставіць стравы, нагатаваныя яшчэ з вечара.

За сталом сядзела ўся сям'я Рагвалода — два сыны і дачка, а таксама Рута. Князь узняў кубак з медавухай, напоўнены да краёў, прамовіў словы-зварот:

— Родныя Дзяды, завём вас, ідзіце да нас! Ёсць тут усё, чым палаты багаты!

Рагвалод крыху праліў на абрус медавухі. Тое ж паўтарылі і астатнія. Паводле старадаўняга звычаю, частаваліся куццёй, поліўкай, кашай, блінамі. Узгадвалі продкаў, іх справы і ўчынкі.

Закончылі памінальную трапезу позна. На завяршэнне Рагнеда сказала рытуальныя словы-развітанне:

— Слаўныя Дзяды! Добра елі і пілі, а цяпер ідзіце да сябе!

Так шанавалі продкаў — і тыя як маглі дапамагалі жывым.

## 18

Наступіў 978 год. Ён стаўся вырашальным для сям'і Рагвалода і ўсёй Полацкай зямлі.

Рагвалод марыў аб тым, каб парадніцца з кіеўскім князем Яраполкам. Менавіта ён з'яўляўся паўнаўладным валадаром Кіева, законным спадчыннікам прастола. Паводле планаў Рагвалода, яны разам з Яраполкам змаглі б супрацьстаяць агрэсіўным ордам, здзяйсняць сумесныя паходы на стэпавікоў, збіраць з іх даніну.

Рагнедзе якраз споўнілася 14 год. Самы час выходзіць замуж. Найлепшай кандыдатуры для яе, чым Яраполк, Рагвалод і не ўяўляў. Рагнеда мела багаты пасаг. Але і яна сама — неацэнны скарб, сапраўдная жамчужына Полацкай зямлі — годная нявеста для кіеўскага князя!

Яраполк быў старэйшы за Рагнеду на чатыры гады. Ён толькі і чакаў, каб пасватацца да яе.

Аднак наўгародскі князь Уладзімір апярэдзіў. Праз свайго ганца ён паведаміў, што хутка прышле сватоў да Рагнеды. Амбіцыйны князь Уладзімір не надта клапаціўся пра ўзаемныя пачуцці. Ён разважаў груба і цынічна: «Рагнеда будзе добрай жонкай, а яе бацька — князь Рагвалод — надзейным хаўруснікам у змаганні з Яраполкам». Уладзімір прагнуў улады над Кіевам. Для яго, сына князя Святаслава і ключніцы Малушы, не было нічога важней за валадаранне ў багатай Кіеўскай зямлі.

У ноч перад прыездам сватоў Рагвалод кепска спаў. Яго сэрца моцна білася, часта перасыхала ў горле. Рашучасць рэзка змянялася на трывогу. Перад самай раніцай яму трызнілася: у промнях яркага сонца ён кружыць у паветры вакол свайго палаца. У баявых даспехах, з мячом у руках, ён змагаецца з незвычайна вялікімі, быццам вераб'і, пчоламі. Яны балюча джаляць яго рукі і неабароненыя месцы. Рагвалод з усёй сілы б'е мячом, знішчае іх дзясяткамі, але пчол не менее...

Узмакрэлы і стомлены, ён прачнуўся. Абмыў халоднай вадой твар, крыху супакоіўся.

Раніцай ахова паведаміла князю, што ў Полацк прыехалі паслы. Перад гарадской брамай стаялі госці з Ноўгарада — сваты ад князя Уладзіміра.

У якасці галоўнага свата завітаў Дабрыня — дзядзька Уладзіміра, родны брат яго маці Малушы. Госця выйшаў сустракаць ваявода Лось. Ён ласкава прывітаў Дабрыню. Затым наўгародцаў праводзілі ў раскошны Гасцінны двор у Ніжнім замку, дзе зазвычай і размяшчалі гасцей.

Увечары Рагвалод запрасіў Дабрыню з дружкамі на вячэру да сябе ў Верхні замак. Кухары і чэлядзь накрылі багаты стол.

Дабрыню з сябрамі пасадзілі на кут, леваруч ад князя. З правага боку ад Рагвалода сядзелі Воўк і ваявода Лось. Потым — сотнікі і заможныя купцы. За спінай князя стаялі два ахоўнікі — на ўсялякі выпадак, дзеля спакою.

Гаспадары і госці шмат пілі, смачна елі. Гутарылі, жартавалі, смяяліся.

Ваявода Лось выказаў шчырую надзею на сяброўства паміж князямі. Ён агучыў сваю даўнюю мару:

— Полацк і Ноўгарад павінны скарыць хазараў, знішчыць іх дазвання. Было б добра пабіць і германцаў. У іх шмат золата і каштоўнасцей.

Рагвалод і Дабрыня ківалі ў знак згоды. Усім хацелася верыць, што так яно і будзе.

## 19

На другі дзень Рагвалод паклікаў да сябе ў пакоі Рагнеду. Яна неўзабаве з'явілася ў ярка-чырвоным уборы, з дарагімі каралямі на шыі і залатымі пярсцёнкамі на руках, Рагнеда выглядала надзвычай прывабнай.

Гутарылі нядоўга.

Князь сцішаным голасам запытаўся ў Рагнеды:

— Няўжо ты, законная дачка полацкага князя, пагодзішся жыць з сынам рабыні?

Рагнеда памаўчала. Яна выглядала на дзіва спакойнай і ўпэўненай. Было відаць, што яна належным чынам падрыхтавалася да будучай ролі княжоўны.

— Не трывожся, бацька,— рашуча адказала яна.— Я ніколі не разую сына рабыні. Хачу быць з законным кіеўскім князем Яраполкам. Толькі за Яраполка хачу. Нікога іншага не жадаю і бачыць!

Рагвалод устаў, наблізіўся да Рагнеды, прытуліў да сябе і прамовіў:

— Няхай усё будзе так, як хоча тваё сэрца.

Ваявода Лось перадаў Дабрыню адмову Рагнеды. Раззлаваныя сваты неўзабаве пакінулі горад і стрымгалоў паімчаліся ў Ноўгарад.

Князь Уладзімір, пачуўшы зняважлівую адмову, ускіпеў ад злосці. Ён прагнуў неадкладнай помсты.

Тым часам Рагнеда сніла сон: безліч пацукоў і вялізных прусакоў носяцца па ўсім горадзе, агідна пішчаць. Яна спрабуе схавацца ў палацы, але яны паўсюль, лезуць за ёй у жытло, спрабуюць укусіць за ногі. Яна адмахваецца, крычыць...

Ад уласнага голасу князёўна прачнулася. Уся калацілася.

Прадчуванні не падманулі Рагнеду. Праз некалькі тыдняў агромністае па тым часе войска Уладзіміра, колькасцю звыш пяці тысяч воінаў, стаяла пад Полацкам.

Дабрыня, перш чым пакінуць горад, падкупіў княжацкага чашніка Цішылу. Стары ваявода прадбачыў гнеў і рашучыя дзеянні свайго гаспадара. Ведаў, што той неўзабаве вернецца з войскам, каб адпомсціць Рагвалоду і жорстка пакараць Полацк.

Сквапны Цішыла чакаў умоўленага знака. Як толькі атрымаў яго, уначы скраў лук са стралой і меч князя Рагвалода. Завалодаўшы магічнай зброяй, злодзей кінуўся наўцёкі. Чашнік перабраўся праз абарончыя збудаванні, спусціўся да Дзвіны. Асцярожна паклаў зброю ў невялікі човен, адштурхнуў яго ад берага. Каб справіцца з моцным цячэннем, пачаў з сілай грэбці вяслом. Але раптам човен, на якім Цішыла пераплаўляўся праз раку, без нейкіх відавочных прычын, нібы яго пацягнула нябачная рука, разам са злачынцам імкліва пайшоў пад ваду і знік у глыбокім віры.

Дзвіна назаўжды паглынула рэліктавы меч і лук са стралой. Ніхто з таго часу больш не бачыў магічнай зброі крывічоў.

## 20

Раніцай каля брамы Ніжняга замка з'явіліся ганцы ад ноўгарадскага князя Уладзіміра. Рагвалод загадаў адчыніць браму і асабіста выехаў насустрач. Ганцы прапанавалі яму мірна здаць горад і разам з

дружынай прысягнуць на вернасць іх гаспадару. Рагвалод не прыняў ганебную прапанову і гнеўна заявіў:

— Вы прыйшлі з мячом, ад мяча і загінеце. Няхай ваш князь-сабака ідзе прэч з маёй зямлі!

Пасланцы рэзка павярнулі і паімчалі ў лагер да Уладзіміра, які паставіў свой шацёр на ўзвышшы, непадалёк ад Дзвіны, каб бачыць усю панараму Полацка.

Рагвалод аддаў загад рыхтавацца да бітвы. Неўзабаве ён даведаўся, што знікла яго зброя — лук са стралой і меч. Сэрцам адчуў нядобрае. Ён распарадзіўся неадкладна перахаваць скарб далей ад горада. Уначы каштоўнасці асцярожна пагрузілі ў ладдзі і адправілі ўніз па Дзвіне. У лясістай мясцовасці, на ўзвышшы, у таемным сховішчы, падрыхтаваным загадзя, жрацы надзейна замуравалі скарб Полацкага княства.

Штурм Полацка ўзначаліў Дабрыня, які добра ведаў абарончую сістэму горада. Рагвалод, аднак, паспрабаваў перашкодзіць планам ноўгарадцаў. Ён вырашыў выйсці за браму і змагацца ў адкрытую, у чыстым полі.

Рагвалод разлічваў моцным ударам адкінуць ворага, жалезнай булавой назаўсёды адбіць ахвоту не толькі пагражаць, а нават набліжацца да яго ўладанняў. Конніца рушыла насустрач варожаму войску. Але харугву палачан заманілі ў пастку, коннікаў расстралялі з лукаў. Загінула шмат дружыннікаў. Князь з астаткамі мусіў павярнуць назад і хавацца за сценамі горада.

Пасля першай паразы было прынята рашэнне: дзяцей і жанчын вывезці з абложанага горада. Уначы па Дзвіне іх удалося пераправіць у бяспечнае месца.

Рагнеда адмовілася пакідаць горад. Яна засталася разам з бацькам і братамі біцца з ворагам. У кальчузе і шаломе, з уласным тугім лукам заняла месца на вежы каля адной з байніц.

Як толькі полацкі князь адступіў і зачыніўся ў Ніжнім замку, частка варожага войска пераправілася цераз Палату. Адначасова з Ніжнім замкам, войскі Уладзіміра пачалі штурмаваць і Запалоцце, якое мела стратэгічнае значэнне: адтуль у Верхні і Ніжні замкі, праз масток, пастаўляліся прыпасы і харчаванне.

Абарону Запалоцця ўзначаліў асабіста ваявода Лось. Побач з ім змагаўся Рацьмір — старэйшы сын Рагвалода. Дабрыня цудоўна ведаў ролю гэтага прадмесця ў жыцці горада, таму асноўны ўдар скіраваў менавіта на яго.

## 21

Аблога Полацка доўжылася амаль тыдзень. Палачане мужна змагаліся. На абарону горада паўсталі ўсе жыхары: рамесны люд і чэлядзь, мужчыны і жанчыны,— усе, хто мог трымаць зброю.

Ніжні замак, сем вежаў якога былі вельмі добра ўмацаваныя, абараняла дружына пад кіраўніцтвам Рагвалода. Князь біўся поплеч з астатнімі абаронцамі горада.

Уначы горад з усіх бакоў абстрэльвалі падпаленымі стрэламі. Стрэхі, накрытыя асінавай шчапой, імгненна ўспыхвалі. Жыхары спрабавалі гасіць полымя вадой і пяском, але не спраўляліся. Склады з харчаваннем ахоўвалі найбольш пільна, не пакідалі без нагляду ні ўдзень, ні ўначы.

Уратаваць Скрыпторый не ўдалося. Каштоўныя рукапісныя кнігі крывічоў згарэлі. Хаця, як потым казалі, кніжнікі-летапісцы здолелі сёе-тое выхапіць з полымя, перахаваць і зберагчы.

Праз некалькі дзён безупынных штурмаў Полацк, калісьці дагледжаны і велічны, выглядаў жахліва. На месцах жылых дамоў дыміліся галавешкі. Паўсюль на вуліцах ляжалі трупы забітых. Разносіліся стогны і енкі параненых.

Лекар Зенька не паспяваў аказваць усім дапамогу. Рагнеда спускалася са сцен і разам з ім перавязвала раны. Адцягвалі жывых у больш бяспечныя месцы. Жанчыны, якія засталіся ў горадзе, раздзялілі лёсы сваіх мужчын. Яны рабілі ўсё, каб спыніць ворага.

Войска Уладзіміра, узмоцненае азвярэлымі наёмнікамі-шведамі, урэшце здолела зламаць супраціўленне. Спачатку ўзялі Запалоцце. Затым уварваліся ў Ніжні замак. Азлоблена дабівалі параненых, з ацалелых дамоў выцягвалі багацці і каштоўныя рэчы.

Рагвалод з рэшткамі дружыны з болем у сэрцы адступіў і зачыніўся ў Верхнім замку. Некалькі штурмаў адбілі, але шэрагі абаронцаў з кожным новым наступам радзелі.

Ноўгарадцы насядалі з ўсіх бакоў. Урэшце яны таранам прабілі замкавую браму і ўварваліся ў замак. Полацкі князь з дружыннікамі спусціўся з абарончых сцен і біўся на пляцы. Сеча доўжылася яшчэ некалькі гадзін. Амаль усе дружыннікі загінулі.

Рагвалод адчайна біўся да апошняга, да таго моманту, пакуль не ўбачыў яркае святло. Яно моцна ззяла і паступова авалодвала ўсёй яго існасцю, а затым узняло князя і імкліва панесла ў нябёсы...

# ЗАЛАТЫ АМУЛЕТ



**1**

Полацкі дзядзінец вусцішна маўчаў. Горад трывожна чакаў нараджэння княжыча-спадчынніка. На поўначы ў нябёсах гарэў-бушаваў страшэнны вогненны Змей. Ён шугаў жарам, афарбоўваючы ўсё неба чырванню. Наваколле ўсцяж ззяла, дрыжэла ад сполаху і жудасці.

Набліжалася поўнач. Вочы сямі ведзьмакоў-вешчуноў, якія прыбылі на дзядзінец, свяціліся: іх векавая надзея неўзабаве павінна была спраўдзіцца. «Ад нябеснага Змея народзіцца чалавек-волат. Душа народжанага будзе знітаваная з жывым і мёртвым светам. І зможа ён чуць галасы зямлі і вады, валадарыць над людзьмі і драпежнымі звярамі»,— упэўнена прагаворвалі ведзьмакі.

Магутная плынь Дзвіны велічна ўздыхала, зрэдчас выварочвала нутро, выяўляла стрыманую моц. Імклівая Палата ўразалася ў магутнае цела Дзвіны, імгненна паглыналася ёю і незваротна знікала ў чэраве ракі.

Ведзьмакі не памыліліся. Як яны і чакалі, на зямлю прыйшоў князь-волат. Хлопчык з’явіўся на свет з радзімай меткай на галаве — адзнакай магутнага рыцара. Ведзьмакі параілі маці навязаць на метку немаўляці ваярскую стужку: «Няхай княжыч не здымае гэтую стужку праз усё жыццё. З ёю ён заўжды будзе стрыманым і міралюбным».

Хлопчыку далі імя Усяслаў, каб учынкі і слава яго разышліся-разляцеліся па ўсім свеце.

У сямігадовым узросце Усяслава пачалі навучаць грамаце. Настаўнікам прызначылі хрысціянскага святара Іллю, які валодаў грэчаскай і лацінскай мовамі, мог лёгка паразумецца з іншапляменнікамі. Майстэрствам гукапісання Ілля-палачанін авалодаў падчас знаходжання ў Канстанцінопалі ў манастыры і цяпер мог з лёгкасцю перадаць набыты досвед нашчадку княжыцкага роду.

Акурат Ілля раскрыў Усяславу найвялікшую таямніцу кніжнай мудрасці. Настаўнік даходліва растлумачыў, што словы — назвы ўсіх рэчаў і з'яў — складаюцца з гукаў. Ён паказаў, як кожны гук можна запісаць літарай-знакам. Затым Ілля давёў, што са збегу гукаў утвараюцца склады, з якіх ужо зусім проста складаюцца знаёмыя, чутыя ім раней словы: *ва-да, дрэ-ва, князь, га-ла-ва, дуб...*

Цягам аднаго месяца Усяслаў з лёгкасцю засвоіў назвы славянскіх літар, а таксама навучыўся адрозніваць галосныя і зычныя гукі. Неўзабаве хлопчык мог ужо бегла чытаць. Усё аказалася значна прасцей, чым уяўлялася Усяславу спачатку. Словы і выразы, якія ён чуў змалку і якія ўжывалі старэйшыя падчас гутаркі, можна вельмі лёгка, з дапамогай літар і складоў, запісваць на пергаменце, апавядаючы пра ўсе рэчы на свеце.

Пачатак быў пакладзены, княжыч далучыўся да вялікай ракі — кніжнай мудрасці, якую ён не пакідаў на працягу жыцця.

Пазней на сродкі полацкага князя набываліся кнігі ў Візантыі і Рыме. Яны старанна перакладаліся, уважліва перапісваліся і зберагаліся. Прыхільнае стаўленне Усяслава да кнігі і асветы саслужыла добрую службу ўсяму Полацкаму княству.

## 2

Усяслаў рос-гадаваўся, набіраўся жыццёвай моцы на ўлонні чароўнай прыдзвінскай прыроды. Седзячы на гладкіх спінах пародзістых скакуноў, юнак, нібы імклівы птах, насіўся па сакавітых лугах і ўзгорках, начаваў пад разгалістымі дубамі.

Княжыч аглядаў землі Полацкага княства, дзе яму было наканавана валадарыць. З замілаваннем ён сузіраў фантастычна прыгожыя

краявіды: ранішнія лугі, пакрытыя іскрыстай расой і густымі туманамі, шчыльную раслінласць высокіх берагоў, яркую лістоту восеньскіх клёнаў. З любасцю ў сэрцы юнак слухаў цішыню зімовага лесу, захапляўся дзівоснай прыгажосцю векавых дуброў.

Разам з полацкімі дзецьмі княжыч, не зважаючы на сваё паходжанне, гуляў у «Палачку-шукалачку» і ў «Пераскочкі», паўтараў заклічкі і прыгаворкі, выслухоўваў крыху крыўдныя для яго дражнілкі. Магутная Дзвіна абмывала і загартоўвала мускулістае цела Усяслава. Юнак поўнасцю давяраўся воднай стыхіі, занырваў у яе вірлівае нутро, пераплываў на другі бераг і без спачыну вяртаўся.

Неверагоднае задавальненне Усяслаў атрымліваў ад рыбалкі. Ён налаўчыўся віртуозна валодаць трохзубай астрогай, з дапамогай якой біў даўгавусых самоў, магутных лінёў і асятроў, якія заплывалі ў Дзвіну з Варажскага мора. Загарпуненую рыбу ён падцягваў на вяроўцы, прымацаванай да астрогі, і лоўка выкідваў на бераг. На медную блясну, выробленую з авальнай пласціны і да бляску начышчаную, юнак лавіў вялізных шчупакоў і акунёў, якіх умела падцягваў да берага або да лодкі, заплываючы на ёй у ціхія завадзі.

Княжычу падабалася ўзбірацца на дрэвы і ласавацца мёдам дзікіх пчол, з асалодай ён спажываў суніцы і чарніцы, любіў пах смажаных грыбоў. У вачах Усяслава з'яўляўся асаблівы бляск, калі ён адпраўляўся на паляванне. Азартныя ловы магутных ласёў і хуткіх казуль мацавалі характар маладога княжыча. Вострай стралой Усяслаў метка трапляў у шыю звера — і той кумельгам падаў з капытоў. На рацэ лавілі баброў, футра якіх выкарыстоўвалі для пашыву шапак або вывозілі на продаж. Асаблівага спрыту і меткасці патрабавалі паляванні на качак і гусей, якіх збівалі стрэламі на ўзлёце. Ваўкоў здабывалі з дапамогай лоўчых ям, рысяў і куніц лавілі капканамі. Позняй восенню выкопвалі з нор тлустых барсукоў.

Надта цешыўся Усяслаў падчас паляванняў на зайцоў і ліс з дапамогай лоўчых птушак — сокалаў і ястрабаў, якія каменем кідаліся на звяркоў і намёртва прыціскалі іх да зямлі. На мядзведзяў звычайна палявалі на конях, выкарыстоўваючы дзіды і трывалыя рагаціны.

Звер, які трапляў у поле зроку Усяслава-паляўнічага, не меў аніводнага шанцу выратавацца ад стралы, выпушчанай з тугога,

аздобленага магічнымі знакамі, паляўнічага лука княжыча. Небяспеку, аднак, уяўлялі паляванні на дзікоў: тыя часта кідаліся на паляўнічых. Аднойчы мускулісты, з доўгімі ікламі і чорнай поўсцю-шчацінай кабан рынуўся наўпрост на Усяслава, каб магутным целам збіць вершніка. Але дзік за крок спыніўся, усёй істотай беспамылкова адчуўшы, што будзе знішчаны няўмольнай дзідай гаспадара.

На ўсё жыццё засталося ў памяці Усяслава, як падчас спачыну пад разгалістым дубам таўшчэзная чорная гадзюка з шыпеннем кінулася на яго, гатовая смяротна ўджаліць. Аднак не паспела. Вострым кароткім мячом княжыч адчайна рассек тлустае цела змяі на кавалкі.

У вольны час Усяслаў разам з полацкімі хлопцамі і дзяўчатамі гуляў на беразе Палаты ў «Яшчура» — старадаўнюю гульню, якая служыла напамінам пра далёкія часы, калі цнатлівыя дзяўчаты прыносіліся ў ахвяру Дракону-Яшчуру — гаспадару падземнага царства. Пасля ігрышча і спеваў, напоўненых хараством і гармоніяй быцця, пачыналася чаканая гульня: хлопцы ганяліся за дзяўчатамі, каб узяць тое, што калісьці забіраў у іх Яшчур.

Незабыўнае ўражанне на Усяслава зрабіла свята ў гонар Ярылы — бога ўрадлівасці. На белым кані ўздоўж палеткаў ехаў малады юнак у белым адзенні, босы, на галаве — вянок, у руках — каласы. Дзяўчаты спявалі песні Ярылу, а затым вадзілі святочныя карагоды. Магічны рытуал, мілагучныя вясновыя песні, верагодна, сапраўды спрыялі добраму ўраджаю.

Поўнае зліццё з прыродай, небывалае адчуванне радасці жыцця адбывалася ў летнюю Купальскую ноч, напоеную водарам і пахамі кветак. Незвычайную асалоду і ўцеху Усяславу прыносілі вячэрнія скокі праз вогнішча. Пяшчотныя рукі і гарачыя вусны дзяўчат п'янілі маладое цела...

## 3

Усяслава рыхтавалі не для забаў і ўцех, а для княжання — абароны Бацькаўшчыны. Цела і дух юнака загартоўвалі ў жорсткіх умовах. Князь мусіў быць першым у баявых мастацтвах. Таму шмат часу

адводзілася трэніроўкам — змаганням на мячах, уменню валодаць шчытом, стральбе з баявога лука, спаборніцтвам у кіданні дзіды.

Калі Усяслаў дасягнуў паўналецця, адбылося яго пасвячэнне ў рыцары. Вядзьмак Амеля падчас цырымоніі надзеў на шыю княжыча залаты ланцужок з амулетам-абярэгам. На падвесцы выразна прагля-далася выява Перуна — магутнага бога грому і маланкі, які сядзеў на кані, узброены цяжкім молатам, лукам і стрэламі.

— Гэты пракаветны амулет,— запэўніваў Амеля,— мае неверагодную моц. Ён дасць табе, княжыч, уладу над людзьмі, заўжды будзе надзейна ахоўваць ад варожай стралы і мяча, адвядзе бяду і хваробы.

Усяслава, народжанага ад нябеснага Змея, даглядалі-выхоўвалі ведзьмакі. Яны навучалі яго таемным ведам, тлумачылі юнаку, як упэўнена валадарыць над людзьмі, гаспадарыць над светам.

Услед за настаўнікамі княжыч паўтараў замовы ад розных хвароб. Ён старанна завучваў закляцці ад злых духаў, ад Дамавіка, Русалкі ды Лесуна. Асабліва ўважліва Усяслаў засвойваў, як належыла выклікаць на дапамогу, у выпадку патрэбы, розныя стыхіі і планеты, напрыклад, месяц-маладзік. Вельмі карыснай уяўлялася замова ад сурокаў:

Урок-урачышча,
Ідзі на цяплішча.
Ад каго стала —
Штоб на ім цела патрашчала.
Соль яму ў вочы,
Галаўня ў плечы.

Ведзьмакі навучалі Усяслава, як лекаваць цела рознымі травамі і настоямі. Але аніякія лекі, паводле іх меркавання, не дапамаглі б без замовы, асабліва калі трэба спыніць крывацёк. Княжыч-рыцар запамінаў таемныя словы: «Цяклі тры ракі: адна вадзяная, другая медавая, трэцяя крывавая. Вадзяную выліваць буду, медавую выпіваць буду, крывавую замаўляць буду».

У чатырнаццаць год Усяслаў атрымаў поўную ўладу над уласным духам і целам. Людзі шмат разоў бачылі дзіўныя пераўтварэнні, аб

чым нястомна шапталіся: «Княжыч лёгка перакідваецца ў хуткага сокала і лётае высока пад аблокамі. Пры патрэбе ператвараецца ў магутнага тура, пераадольвае пушчы і лясныя нетры». Усе сведкі ў адзін голас распавядалі: «Калі Усяслаў жадаў, ён куляўся праз галаву і імгненна станавіўся драпежным ваўком. Тады ўсё навокал трымцела ў страху перад ім».

Княжыч сапраўды ператвараўся ў Гаспадара. Лес першым прызнаў уладу Усяслава. Дрэвы бясшумна схіляліся ў паклоне, калі ён бязветраным надвячоркам праязджаў уздоўж дубравы.

Людзі ведалі пра ўладу Усяслава над стыхіямі і праз вякі захавалі памяць пра полацкага князя-чарадзея.

## 4

У 1044 годзе памёр князь Брачыслаў — бацька Усяслава. Пахаванне адбывалася ў адпаведнасці з пажаданнем Брачыслава — паводле старадаўняга звычаю. Нябожчыка апранулі ў княжацкае адзенне і акуратна ўзнеслі на бярозавую скірду. Побач з целам Брачыслава паклалі зброю: меч, шчыт і дзіду,— каб князь і на тым свеце заставаўся валадаром.

Усяславу падалі распалены факел, які ён паднёс да скірды. Агонь пачаў імкліва паглынаць сухое дрэва. Княжыч назіраў, як бацькава душа, разам з клубамі дыму, вырывалася з полымя, уздымалася ў неба, а затым павольна растваралася — пранікала ў краскі, паглыналася навакольнымі дрэвамі, запаўняла прастору. Калі касцёр дагарэў, попел сабралі ў гліняны сасуд, паставілі ў сярэдзіне, а затым прынеслі ахвяру — зарэзалі маладога аленя. На месцы пахавання князя насыпалі высокі курган.

Узімку 1044 года Полацкая зямля прысягала маладому князю Усяславу — сапраўднаму нашчадку Рагвалода, унуку Ізяслава. Усяслаў сядзеў на дубовым троне. Побач стаялі прысадзістыя дружыннікі з кароткімі кінжаламі ля пояса. Галаву князя ўпрыгожвала шыкоўная шапка, вырабленая з меха лісы і куніцы. Плечы сагравала мяккая

скураная куртка чырвонага колеру, старанна сшытая ўмелымі рукамі майстроў. На нагах — цёплыя саф'янавыя боты.

Галоўны вядзьмак княства Амеля паднёс Усяславу востраканечны меч, булаву і залаты бранзалет з узорамі. Востры меч — знак княскай моцы. Чатырохгранная булава — сімвал чатырох бакоў свету — адзнака ўлады князя над яго вотчынай. Сіметрычныя лініі ромбікаў, крыжыкаў, кропак-кружочкаў і хваль на бранзалеце ўвасаблялі магутныя сілы прыроды — Ваду, Зоркі, Сонца і Вецер, якія будуць услугоўваць князю.

Затым знатныя асобы Полацкага княства па чарзе падыходзілі да дубовага трона, станавіліся на калені, схілялі галовы і гучна прамаўлялі словы прысягі. Спачатку прысягнуў ваявода Жынь з дружынай. Голас ваяводы гучаў роўна і ўпэўнена:

— Клянуся, княжа, служыць табе верай і праўдай! Клянуся бараніць тваю вотчыну і ўсю Полацкую зямлю ад ворагаў нашых! Абяцаю ніколі не здрадзіць, а калі трэба — пакласці жыццё за цябе!

Следам да Усяслава наблізіліся старэйшыны гарадоў — Друцка, Віцебска, Менска, Оршы, Браслава, Усвятаў, Заслаўя, Лагойска, Копыся, Лукомля. Пасля іх падышлі купцы, апошнімі кляліся рамеснікі і майстры. Цырымонія доўжылася ад самага ранку да абедзеннага часу.

Па завяршэнні ўрачыстасці Усяслаў запрасіў гасцей за стол. Частавалі смажаным мясам, рыбай, грыбамі. Пілі за здароўе князя, за моц і славу Полацкай дзяржавы.

Усяслаў, якому споўнілася 16 год, стаў паўнаўладным валадаром Полацкага княства. Наперадзе было шмат спраў. Галоўная — узняць, узвысіць горад, умацаваць абарончыя збудаванні, каб аніякі вораг не змог зганьбіць княжацкі род, каб слава пра Полацк разнеслася па ўсім свеце! Затым узвесці новы палац — велічны і прыгожы.

Усяслаў склікаў майстроў-гароднікаў, дойлідаў і цесляроў з усяе Полаччыны. Увесну распачалася праца. На вазах прывозілі пясок, гліну і камяні, мацавалі грунт, уздымалі горад над Дзвіной.

Потым пачалі ўзводзіць вежы і сцены дзядзінца — Верхняга замка. З навакольных лясоў звозілі магутныя дубы, з вярхоўя сплаўлялі ракой. Дрэва старанна апрацоўвалі, падганялі пад належныя памеры. Спрактыкаваныя майстры-фартыфікатары будавалі вежу за вежай,

клалі вянец за вянцом. Асабліва трывалай рабілі замкавую браму, якая адчынялася і зачынялася з дапамогай хітрага механізма.

Неўзабаве прыступілі да ўзвядзення княскага палаца. Атрымаўся сапраўдны цуд. Вокны і дзверы аздобілі фігурамі звяроў і птушак. Цягляныя печы расфарбавалі рознымі дзівоснымі ўзорамі. Дах накрылі меддзю. Гутнікі падрыхтавалі адмысловае шкло для вокнаў. Палац зіхацеў, пераліваўся ў сонечных промнях, цешыў вока.

— Прыйшоў час, княжа, прывесці ў дом маладую князёўну! — лагодна падказвалі дарадцы.— У новы палац абавязкова трэба князёўна. Яна прынясе ўтульнасць, ахутае цябе каханнем.

Усяслаў, аднак, не спяшаўся. Трэба было агледзець гарады, шматлікія весі, што раскінуліся па берагах рэк і азёраў, уласнымі вачыма ўбачыць усю вотчыну, адчуць дыханне зямлі.

Князь загадаў рыхтаваць ладдзі, каб у пачатку лета плысці ўніз па Дзвіне. Ежу і напоі сабралі хутка. Дзякаваць богу, усяго хапала: сушанай рыбы, закопчаных кумпякоў і каўбас.

Чэрвеньскай раніцай чатыры ладдзі адштурхнуліся ад берагоў Палаты. Спрактыкаваныя кормчыя ўмела кіравалі суднамі. Князь з бліжэйшым атачэннем плыў у другой ладдзі, у першай знаходзіліся дружыннікі, у трэцяй размясціліся кухары з прыпасамі, а таксама гаспадарнікі з розным начыннем. У апошняй, чацвёртай ладдзі плылі купцы з таварамі на продаж.

Каля буйных паселішчаў, што трывала гняздзіліся ўздоўж шчодрай Дзвіны, ладдзі прычальвалі. Князя ўрачыста сустракалі з нізкімі паклонамі папярэджаныя ганцамі жыхары. Мясцовыя старэйшыны распавядалі пра клопаты, хваліліся здабыткамі, паказвалі ўмацаванні. Усяслаў здабываў патрэбны яму досвед, веданне зямлі і людзей.

Кожны наступны год, калі лета ўбіралася ў сілу, а дні станавіліся доўгімі, князь на конях дабіраўся да вярхоўяў рэк, адкуль спускаўся на ладдзях. Гэтак Усяслаў агледзеў Бярэзіну і Дзісну, Друць і Вілію, Обаль і Дняпро.

Падчас адной з чарговых паездак-вандровак Усяслаў у Магілёве «ўпаляваў куніцу» — спаткаў чарнавалосую крывічанку Дабраславу — дачку гарадскога пасадніка Куна. Акуратны бронзавы вянок з яркімі колцамі-падвескамі гожа ляжаў на галаве дзяўчыны. Мілавід-

ны, адкрыты, крыху прадаўгаваты твар выяўляў арыстакратычнасць яе паходжання. У куточках вуснаў хавалася ўсмешка. Вочы Дабраславы свяціліся чароўным святлом. На правай руцэ прывабна сядзеў арнаментаваны бранзалет, на якім цягнуліся роўныя лінія знакаў — сімвалаў прыродных стыхій. Вышытая каляровымі ніткамі сукенка падкрэслівала гнуткі стан прыгажуні.

Дабраслава назаўжды паланіла сэрца князя Усяслава.

Вяселле згулялі ў Полацку. Госці прыехалі з усяго княства, а таксама з суседніх плямёнаў і гарадоў. Усе прыбылі з каштоўнымі падарункамі.

Усяслаў сядзеў на куце ва ўрачыстым убранні. Побач — Дабраслава — сапраўдная жамчужына,— у белай вясельнай сукенцы з чырвонай вышыўкай. На галаве — прыгожы вянок з залатымі скроневымі колцамі. Тонкай работы каралі і завушніцы ззялі каштоўнымі камянямі. На правай руцэ нявесты — віты залаты бранзалет з выявамі звяроў, на нагах — скураныя чаравічкі, упрыгожаныя каляровым арнаментам.

Сталы ўгіналіся пад цяжарам мясных і рыбных вырабаў, смажанага і варанага. Усё вiравала і гуляла. Госці пілі і елі, гучна віншавалі маладых.

Дудар зазыўна граў. Яго змянялі дзесяціструнныя двукрылыя гуслі і цымбалы, пад звон якіх дзяўчаты і хлопцы вадзілі карагоды. Нарэшце ўдарылі барабаны, трашчоткі і лыжкі — пачаліся скокі з прыпеўкамі.

Музыка, скокі і спевы перапыняліся забавамі і ўцехамі. Паўсюль панавалі гарэзлівасць, смех і жарты.

Вяселле дало пачатак новаму жыццю.

## 5

Усяслаў мірна княжыў-гаспадарыў на Полацкай зямлі. Ён выношваў вялікія планы — разбудоўваць і ўмацоўваць гарады, пашыраць рамёствы і гандаль. На радасць князю Дабраслава нарадзіла пяцёра

сыноў: Давыда, Барыса, Глеба, Рамана, Святаслава і Расціслава. Дзеці гадаваліся, спазнавалі жыццё, а князь цешыўся: «Нарэшце адродзіцца вялікая дынастыя Рагвалодавічаў. Кроў мужнага славяніна-памора, бясстрашнага рыцара-варага, загартаванага ў бітвах з германцамі, павінна ўзяць сваё, і род яго будзе правіць вечна!»

Усяслаў часта бавіў час з дзецьмі. На замчышча запрашаліся полацкія акрабаты, якія дэманстравалі захапляльныя здольнасці ў хаджэнні па канаце, скачках цераз галаву. Яны паказвалі неверагодныя трукі. Усім надта падабалася сцэна, калі Каваль-асілак перамагаў Цмока-Яшчура, які прыходзіў забіраць дзяцей для ўласнай спажывы. Пасля ўцехі князь шчодра ўзнагароджваў акрабатаў і акцёраў.

Калі сыны падраслі, Усяслаў загадаў паклікаць да яго Іллю — адукаванага святара, які ўмеў чытаць, валодаў грэчаскай і лацінскай мовамі, ведаў кніжную мудрасць.

Князь звярнуўся да Іллі з такімі словамі:

— Трэба абсталяваць новую школу ў Полацку, а таксама адкрыць школкі ў гарадах княства, каб пачаць навучанне дзетак. Неабходна, каб як мага больш нашых людзей маглі чытаць і пісаць па-славянску, спасцігаць кніжныя веды.

Усяслаў выдатна ўсведамляў сутнасць і значэнне найвялікшага з адрыццяў чалавечай цывілізацыі — запісу гукаў і слоў знакамі-літарамі. «Далучэнне шырокага кола людзей да гэтага фенаменальнага, але адначасова даволі простага вынаходніцтва дасць неверагодны штуршок развіццю краіны,— слушна меркаваў князь.— Адукаваныя палачане змогуць хутчэй засвойваць мовы іншых народаў і плямён, пераймаць лепшыя здабыткі, карыстацца дасягненнямі і адкрыццямі, зробленымі ў іншых землях».

Валадар даручыў наладзіць навучанне мовам іншых народаў. Усяслаў глядзеў далёка ў будучыню: «Паперадзе пойдзе культура, за ёю неўзабаве — купцы з таварамі, а потым усталюем у далёкіх краінах нашы двары».

Ілля неверагодна ўсцешыўся з такога рашэння князя. Нарэшце вялікая справа зрушыцца з месца, адукацыя дзяцей стане звычайнай з'явай, а падрыхтаваныя ім настаўнікі змогуць напоўніцу прымяніць свае здольнасці і таленты.

Усяслаў меў і яшчэ адзін важны клопат. Ён даўно думаў пра заснаванне пры княскім двары Скрыпторыя. Князь падзяліўся ўласнымі думкамі з адукаваным дарадцам Міраславам.

— Вялікія справы, што дзеюцца ў Полацкай зямлі, павінны запісвацца для нашчадкаў, трэба прадоўжыць летапіс нашай зямлі.

Міраслаў з радасцю пагадзіўся. Ён распавёў Усяславу пра ўжо распачатую ім працу над «Словам пра славян». Полацкі валадар з цікаўнасцю слухаў аповеды Міраслава пра паходжанне славянскіх народаў, якія абшары займаюць, хто з'яўляецца іх прашчурамі, якія яны маюць звычаі і як здзяйсняюць розныя рытуалы.

Усяслаў даручыў акурат Міраславу стварыць пры княскім палацы Скрыпторый. Паводле задумы князя, адукаваныя скрыптары мусілі выконваць важную місію — пісаць гісторыю Полацкага княства, узмацніць, а дзе трэба — і наноў наладзіць культурныя сувязі і кніжны абмен са славянскім светам, перадусім з Балканамі і варажскімі славянамі, з краінамі Заходняй і Паўночнай Еўропы, Візантыяй, Блізкім і Сярэднім Усходам.

Усяслаў шчодра ўзнагародзіў Міраслава і загадаў, каб той асабіста суправаджаў яго ва ўсіх паходах, дакладна і падрабязна занатоўваў на пергаменце ўсе падзеі і здарэнні.

Полацкі валадар, відавочна, адразу выявіў мудрасць і пачаў пазіраць у люстэрка гісторыі, ацэньваць уласнае месца ў ёй і ролю ў жыцці княства.

## 6

Усяслаў цудоўна разумеў, што без развіцця рамёстваў, найперш, без уласнага вырабу зброі, Полацкаму княству ніколі не ўзняцца і не ўстаяць пад націскам агрэсіўных суседзяў.

У хуткім часе ў Полацк пачалі запрашаць лепшых майстроў з усяго княства. Усяслаў дбаў і ўсяляк спрыяў развіццю разнастайных рамёстваў, дапамагаў набыць патрэбныя інструменты і прылады, стварыў рамесніцкую слабаду, вызваліў майстроў ад выплаты падаткаў.

Князя надта цікавілі таямніцы чорнай металургіі, тысячагадовыя сакрэты вырабу жалеза з балотных і лугавых руд. Разам з ваяводам Жынем і трыма ахоўнікамі, якія суправаджалі Усяслава верхам на конях, ён накіраваўся ў адну з бліжэйшых рудняў. Там вясковыя металургі паказалі князю радовішчы жалезнай руды, спосабы яе здабычы. Затым, крок за крокам, раскрылі ўвесь доўгі працэс варкі жалеза ў доменных печах: адкідванне шлакаў, атрыманне крыцы і, урэшце, выраб сырадутным чынам высакаякаснай сталі.

Знешне ўсё выглядала даволі проста. Металургі патлумачылі валадару, што складанасці пачынаюцца якраз тады, калі кавалі бяруцца за апрацоўку метала і выраб з яго неабходных канструкцый, надзейнай зброі, інструментаў і прылад.

Як пераканаўся Усяслаў, кавалі сапраўды тварылі цуды з жалеза і сталі, карыстаючыся горнамі з мяхамі для паддзімання паветра, кавадлам, молатамі і малаткамі, кляшчамі і зубіламі, бародкамі і напільнікамі. У кузнях яны рабілі сотні металічных інструментаў і прылад: сякеры, пілы, скоблы, разцы, стамескі, свярдзёлкі, стругі. Вельмі тонкай працы патрабаваў выраб інструментаў для апрацоўкі каляровых металаў: пінцэтаў, секачоў, кавадлаў, паяльнікаў.

Галоўны клопат Усяслава — выраб зброі для дружыны. Князь часта наведваў майстэрні збройнікаў, дзе нярэдка надзяваў тоўсты скураны фартух і разам з дасведчанымі майстрамі, якія валодалі старадаўнімі збройнымі сакрэтамі, працаваў над вырабам мячоў і булаў, кінжалаў і баявых сякер, шастапёраў, шабель і кісцянёў, вострых металічных наканечнікаў для коп'яў, суліц і стрэл, дэталяў арбалетаў і самастрэлаў, а таксама трывалых шлемаў, пласцінчатых і лускаватых кальчуг, наруч'яў і накаленнікаў.

Шчыты — як правіла, круглай формы — выраблялiся ў асобных майстэрнях. Над імі сумесна працавалі сталяры, гарбары, кавалі і мастакі. Сталяры рыхтавалі драўляную аснову, гарбары падбіралі найбольш трывалыя гатункі скур. Кавалі ажыццяўлялі акоўку шчытоў, умацоўвалі іх металічнымі заклёпкамі. Мастакі размалёўвалі шчыты яркімі сімваламі.

Усяслаў высока цаніў стараннасць седляроў, якія выраблялі надзейныя сёдлы для баявых коней і збрую для дружыны князя.

Выробленая ў кузнях зброя, сродкі абароны і ўся амуніцыя паступалі ў княжацкае войска, апрабоўваліся дружыннікамі.

Першы і галоўны абавязак Усяслава — абарона княства ад варожых уварванняў, узвядзенне абарончых збудаванняў. Дзеля гэтай мэты князь стварыў арцель гароднікаў на чале з майстрам Ваўком. Абарончыя збудаванні ўзводзіліся з улікам рэльефу мясцовасці — на мысах, узгорках, на выспах сярод балоцістых нізін. Фартэцыі складаліся з землянога вала-грады, драўляных сцен і вежаў, а таксама рвоў, якія запаўняліся вадой. Усяслаў умацоўваў горад за горадам. У выніку на абшарах Полацкай зямлі абнаўляліся колішнія і паўставалі новыя гарады-замкі.

Асабліва старанна Усяслаў умацоўваў паўднёвую абарончую лінію, якую ўтваралі Менскі, Заслаўскі, Барысаўскі, Клецкі, Слуцкі, Лукомльскі і Друцкі замкі, а таксама абарончыя збудаванні Оршы і Копыся, Магілёва і Рагачова, Быхава і Мсціслава. На ўсходзе былі наноў адбудаваны Віцебск і Усвяты, на захадзе — Браслаў, Герсіке і Кукейнас. Князь не толькі пільна сачыў за стварэннем фартыфікацыйных збудаванняў, але і з сякерай у руках, разам з плотнікамі, узводзіў сцены і абарончыя вежы з бярвенняў, выбіраў найбольш прыдатныя тыпы зрубаў, канструяваў байніцы і забаралы, мацаваў асновы валоў камянямі.

Дзеля аховы гарадоў Усяслаў сфарміраваў сталыя гарнізоны, кіраўнікамі якіх прызначыў правераных у бітвах дружыннікаў. Гарады старанна ўпарадкоўваліся, праводзіліся інжынерныя работы — кладзіся маставыя і рабіліся водаадводы.

У Полацкай зямлі імкліва павялічвалася колькасць невялікіх паселішчаў. Абарончыя збудаванні паўсталі ў Сёмкавым Гарадку, Свіслачы, Гарадзішчы на рацэ Пціч, Цяцерыне, Навасёлках на рацэ Бярэзіна і Панізоўі на рацэ Гайне. Кожнае мястэчка шмат у чым пераймала досвед Полацка. Тут узнікалі рамесніцкія арцелі. Мясцовыя майстры гэтаксама сяліліся ў слабодах, вызваляліся ад выплаты падаткаў у княскую казну. Такім чынам, Полацкае княства Усяслаў ператварыў у магутны фарпост, дзе было ўзведзена звыш трох дзясяткаў фартыфікацыйных сістэм.

Амаль увесь час князь праводзіў з дружыннікамі. Разам з імі ён няспынна практыкаваўся ў баявых майстэрствах. Вучыліся трапляць

дзідай у мішэні, біліся на мячах, практыкаваліся ў стральбе з лука, адшліфоўвалі тэхніку абароны ад udaraў праціўніка з дапамогай шчыта, асвойвалі прыёмы вольнай барацьбы і рукапашнага бою.

Усяслаў правёў рэформу войска. Усю дружыну ён раздзяліў на тры часткі: атрады стралкоў-лучнікаў, пяхоту і конніцу, што дазваляла найбольш функцыянальна выкарыстоўваць войска ў бітвах. Стралкі-лучнікі стрымлівалі першыя атакі ворага. Пяхота мела на ўзбраенні коп'і і кінжалы, а таксама шчыты для абароны. Найбольш узброенай і мабільнай з'яўлялася кавалерыя. Коннікі мелі коп'і і суліцы, мячы і шаблі, кінжалы і кісцяні. У кожны род войска адбіраліся найбольш прыдатныя дружыннікі, з улікам іх баявых здольнасцей, што істотна ўзмацняла прафесіяналізацыю войска. Рэгулярныя турніры, набліжаныя да рэальных баявых умоў, загартоўвалі вайсковы дух.

Полацкая зямля ажывала, імкліва набіралася моцы.

Усяслава цешыла, што ўвесь час расла колькасць майстэрняў. Князь цікавіўся станам гаспадарчых рамёстваў, спрыяў бондарам і шорнікам, завітваў у майстэрні ганчароў, наведваў гарбароў і краўцоў, якія апрацоўвалі скуры, шылі з іх цудоўны абутак і вопратку.

Кавалі-ювеліры працавалі ў асобных княскіх майстэрнях. З каляровых металаў — золата, срэбра, медзі ды бронзы — яны стваралі ўнікальныя, надзвычай каштоўныя рэчы: жаночыя ўпрыгожанні і элементы касцюма, культавыя прадметы, дэкаратыўны і сталовы посуд, конскую збрую, аздабленне для зброі. Майстры рабілі рарытэтныя рэчы шляхам ліцця або механічнай апрацоўкі — коўкі, чаканкі, гравіроўкі, пракаткі, цiснення, штампоўкі, чарнення, эмалі і інкрустацыі металу.

Усяслаў набываў ювелірныя вырабы ў якасці падарункаў для жонкі. Упрыгожанні з дэкаратыўнымі малюнкамі і дзівоснымі выявамі зачароўвалі князёўну. Каштоўныя завушніцы і каралі, кольцы і пярсцёнкі, маністы і пацеркі, залатыя бранзалеты і падвескі вылучалі Дабраславу сярод іншых жанчын Полацкай зямлі.

За набытыя рэчы князь разлічваўся залатымі ды срэбранымі манетамі — візантыйскай, еўрапейскай ці арабскай штампоўкі. Сярэбраныя дырхемы і дынарыі папаўнялі скарбонкі майстроў. Асабліва шанцавала ювелірам, калі Усяслаў разлічваўся залатымі манетамі князя Уладзіміра, якія лічыліся сапраўдным скарбам.

## 7

Усяслаў з радасцю назіраў, як земляробы з навакольных вёсак кожны тыдзень везлі для гараджан харчы: мясныя вырабы, смажаных кур, гусей і качак, муку, збожжа, гарох, капусту, моркву, агуркі, мак, часнок. Узамен сяляне набывалі неабходныя для хатняга ўжытку вырабы з гліны і металу, вопратку і абутак, прылады для землякробчых заняткаў: лемяхі, рыдлёўкі, ланцугі. На раскошных кірмашах бойка ішоў гандаль, па заканчэнні якога ўсе з прыўзнятым настроем і карыснымі набыткамі вярталіся дамоў.

Гандаль шырыўся не толькі ў Полацку. Ва ўсіх гарадах і буйных паселішчах княства пачалі рэгулярна, раз на тыдзень, наладжвацца кірмашы.

Усяслаў усё больш пераконваўся ў неабходнасці для Полацкага княства сапраўднага гандлёвага флоту — рачнога і марскога,— каб наведваць далёкія краіны. Князь сабраў майстроў і, пасля папярэдніх узгадненняў, накіраваўся за досведам будавання караблёў да вільцаў-люцічаў — славянскага племя, якое жыло на беразе Варажскага мора. Вільцы-люцічы пакланяліся богу Сварогу і сапраўды валодалі выключным майстэрствам пабудовы суднаў, няйнакш перанятым імі ад вікінгаў.

Пасля сыходу лёду Усяслаў з адабранымі майстрамі накіраваўся ўніз па Дзвіне. Потым плылі паўз бераг Варажскім морам. Прыбылі ў Радагост — галоўны горад вільцаў-люцічаў, які стаяў акурат на ўзбярэжжы.

Усяслаў жыў без асаблівых выгод і штодня разам з майстрамі працаваў на верфі. Спрактыкаваны майстар Руба, паплечнік князя, вельмі хутка асвойваў тэхніку пабудовы караблёў. Праз некалькі месяцаў тры судны памерам звыш дзесяці метраў былі гатовы. Караблі мелі па дваццаць вёслаў, шырокі парус і масіўны руль-вясло. Яны маглі змясціць каля пяцідзесяці чалавек і некалькі тон паклажы.

Развітаўшыся з гасціннымі гаспадарамі, Усяслаў на пабудаваных караблях вярнуўся ў Полацк.

Неўзабаве князь заклаў уласную верф для пабудовы лодак і караблёў. Кіраваў на верфі майстар Руба. Будаўнічыя матэрыялы —

дубы для кіля, сосны для абшыўкі і вёслаў — дастаўлялі з наваколля. Трывалыя вяроўкі са шчаціны і поўсці рыхтавалі полацкія майстры. У хуткім часе Полацкае княства мела ўласны флот, прыдатны для гандлёвых і вайсковых мэт.

Усяслаў усяляк спрыяў гандлярам, асабліва тым, якія адважваліся наведваць далёкія краіны і царствы. Ён выдзяляў ім найбольш дасведчаных дружыннікаў для аховы, выдаваў падарожныя граматы, замацаваныя княскай пячаткай. Гандляры шчодра плацілі князю за клопат.

Полацкага валадара з дзяцінства вабіў далёкі свет, зачароўвалі аповеды пра дзівосныя краіны. Прагны да ведаў і падарожжаў, ён неаднойчы пераапранаўся ў звычайнага гандляра і здзяйсняў рэйды ў далёкія краіны — на Усход, у арабскія землі, дастаўляў тавары на кірмашы Бухары і Самарканда, Антыёхіі і Багдада. Разам з купцамі на лодках, нагружаных таварамі, князь спускаўся па Дняпры, праз Рускае мора рабіў гандлёвыя візіты ў Канстанцінопаль і Афіны. Пад ахоўвай надзейных ваяроў Усяслаў наведваў здаўна асвоеныя Рыжскія базары і востраў Готланд.

Вярталіся дамоў, як правіла, з багатымі набыткамі: з Заходняй Еўропы прывозілі франкскія мячы, баявыя сякеры, доўгія кінжалы, круглыя шчыты. Асабліва прыбытковымі былі візіты ў Паўночную Германію, адкуль дастаўлялі свінец, волава, медзь і срэбраныя зліткі — маркі. Найбольш заможныя гандляры Полацкай зямлі ішлі на рызыку і дабіраліся да халоднай Скандынавіі, адкуль дастаўлялі каштоўныя ўпрыгожанні: шыкоўныя грыўны, каралі, падвескі. З Крыма прывозілі віно і аліўкавы алей.

Усяслаў і яго гандляры з Полаччыны заўжды прывозілі на радзіму не толькі каштоўнасці і ўсялякае дабро, але і новыя ўражанні. Вярталіся яны з унікальнымі ведамі і неацэнным досведам, набытым у іншых народаў, якія неўзабаве ўжывалі на карысць роднай зямлі.

Князь скупляў або забіраў у гандляроў у кошт падаткаў многія прывезеныя імі прадметы раскошы, вырабы з золата, срэбра ды бронзы, каштоўныя камяні, узорныя шаўковыя тканіны — як для патрэб уласнай сям'і, так і для дзяржаўнай казны. Яго бліжэйшае атачэнне — тысяцкія, сотнікі, пасаднікі — таксама імкліва багацела.

Па прыездзе дамоў заможныя купцы, маючы добрыя набыткі, за ўласныя сродкі ўзводзілі шыкоўныя палацы на берагах рэк і азёр, на прыгожых узвышшах у атачэнні дубраў. Вымененыя на замежных кірмашах залатыя і срэбраныя зліткі часткова прыхоўваліся ў надзейных месцах, а часткова перадаваліся ў княскую казну, на патрэбы дзяржавы — утрыманне князя і дружыны, плату за выраб зброі.

Усяслаў радаваўся таму, як багацелі купцы, вітаў росквіт рамесніцкіх арцеляў. Земляробы таксама атрымалі магчымасць даражэй прадаваць вырашчаны ўраджай, набываць неабходны для апрацоўкі зямлі інвентар і — галоўнае — коней і валоў.

Князь, аднак, не забываўся на інтарэс дзяржавы. Збор даніны быў яго нязменным клопатам. Усяслаў асабіста наведваў гарады і буйныя паселішчы, збіраў падаткі — пушніну, шкуры, мёд, каштоўныя вырабы, адмысловыя замкі, якія затым адпраўлялі на знешнія рынкі, дзе абменьвалі на залатыя і срэбраныя зліткі. Гарадскія пасаднікі і мясцовыя старэйшыны сачылі за парадкам, памерамі падаткаў. Ніхто не асмельваўся ўхіляцца ад выплаты ў дзяржаўную казну. Тых, хто спрабаваў пярэчыць волі князя, чакала жорсткае пакаранне — збіванне, пазбаўленне маёмасці, ганебнае выгнанне з Полацкай зямлі.

Полацкае княства на вачах уздымалася, павялічвалася дружына князя, узрастаў аўтарытэт дзяржавы. Усяслаў прыйшоў да цвёрдай высновы: неабходна наладзіць чаканку манет. Князь слушна меркаваў, што ўласныя грошы паскораць гандаль унутры краіны і асабліва на знешніх рынках.

«Золата і срэбра ў падвалах дастаткова, майстры, дзякаваць богу, ёсць. Трэба пачынаць вялікую справу. Полацк павінен пераўзысці Рым і Канстанцінопаль»,— разважаў-планаваў валадар.

Усяслаў паклікаў на дзядзінец залатароў і сярэбранікаў, падзяліўся задумай. Майстры ўхвалілі грандыёзныя планы князя. Неўзабаве былі падрыхтаваны формы для адліўкі манеты, а ў хуткім часе Усяслаў трымаў у руках першыя ўзоры ўласных залатовак. На аверсе манеты — выява князя, на рэверсе — коннік з мячом. Аверсная легенда ўтрымлівала надпіс: «Усяслаў князь Полацкі. А се его злато». Усяслаў застаўся задаволены працай залатароў.

Неўзабаве ў Ніжнім замку быў закладзены манетны двор. Пачалася яго сталая праца — на славу Полацкай дзяржавы.

## 8

Полацк і іншыя гарады княства імкліва раслі. Хоць зямельныя падаткі не павялічваліся, але ў княстве неўзабаве пачаў адчувацца недахоп хлеба, ячменю, пшаніцы, грэчкі і бабоў. Не ставала аўса і сена для коней. Патрабаваліся большыя пастаўкі мясных прадуктаў. Адчуваўся недахоп палатна, якое выраблялі ў асноўным з льну.

Усяслава не задавальняў гэткі стан земляробства і жывёлагадоўлі. Князь асабіста паехаў па вёсках, дзе на ўласныя вочы ўбачыў, як зарастаюць кустоўем пакінутыя неўрадлівыя землі. Новыя палі рыхтаваліся марудна, бо падсека і выкарчоўванне лясоў патрабавалі шмат часу.

Пасля наведання гаспадара па імені Кулеш, у якога ўсяго было ўдосталь — і збожжа і жывёлы,— рашэнне было знойдзена:

— Неабходна, каб земляробы чаргавалі пасевы культур і кожны трэці год пакідалі траціну зямлі для выпасу жывёлы. Да таго ж перад пасевамі ў глебу варта ўносіць угнаенні,— параіў князю Кулеш.

Неўзабаве замест драўлянай сахі земляробы пачалі выкарыстоўваць саху, якая мела шырокі металічны наканечнік з плечыкамі,— рала. Узвялі пабудовы для захавання ўраджаю: склепы, амбары, жытніцы і клеці. Паблізу дамоў паставілі капцільні і паварні, прыбудовы для ўтрымання хатніх жывёл і птушак — канюшні і хлявы. У гаспадароў з'явіліся новыя косы, сярпы і жорны, металічныя рыдлёўкі і сякеры.

Праз некалькі год справы сапраўды выправіліся. Ураджаі выраслі, павялічваліся сткі кароў і валоў, свіней, авечак і коз, хатніх птушак — кур, качак і гусей. У гарады стала паступаць больш хлеба, мукі і мясных вырабаў.

Адзін раз на месяц Усяслаў чыніў княскі суд, разглядаў справы аб збіванні, забойствах, гвалтаваннях жанчын і дзяўчат, падпалах, крадзяжах маёмасці і скаціны. Пасля заслухоўвання бакоў валадар выносіў прысуды, кіруючыся даўнім звычаем і пісанай «Праўдай». Забойцаў і дзяржаўных злачынцаў прыгаворваў да павешання або адсячэння галавы, злодзеяў караў адсячэннем пальцаў або рукі — у залежнасці ад памераў крадзяжу.

Асаблівы розгалас у княстве выклікала пакаранне разбойніка Кубла, які шмат год рабаваў людзей на лясных дарогах. У нядзелю на гандлёвай плошчы паставілі вісільню. Натоўп чакаў рашэння Усяслава. Набліжаны да князя дружыннік Дрот агучыў вырак валадара: прылюдна павесіць, каб іншыя заракліся чыніць падобнае! Кат неадкладна выканаў прысуд.

Колькасць судовых спраў з часам расла, і Усяслаў ужо не паспяваў нават азнаёміцца з імі. Таму князь прыняў мудрае рашэнне: гарадскія старэйшыны і пасаднікі павінны ад яго імя чыніць суды і выносіць прысуды.

З ахвотай і вялікім задавальненнем Усяслаў прымаў паслоў ад іншых народаў і плямён, гарадоў і княстваў. Гэта было ўскосным прызнаннем яго магутнасці і міжнароднага ўплыву.

Князь загадаў узвесці ў Ніжнім замку пасольскі двор, дзе госці спыняліся для адпачынку. Паслы прывозілі каштоўныя падарункі, выказвалі шанаванне Усяславу. Афіцыйныя прыёмы гасцей адбываліся на дзядзінцы, у асобным, добра абсталяваным княскім палацы, дзе праводзіліся сходы рады. Ва ўрачыстай атмаферы князь заключаў з пасламі дамовы, якія дазвалялі замежным купцам вольна гандляваць у гарадах Полацкай зямлі.

Да Усяслава прыязджалі датчане і туркі, германцы і венгры, ноўгарадцы і маскавіты. Наведвалі Полацк паслы з Галіцкай зямлі і Валыні, Смаленскага і Турава-Пінскага княстваў. На рынках гарадоў Полацкага княства неўзабаве загучалі замежныя мовы. Паўсюль актыўна ішоў гандаль, на мясцовых кірмашах з’явіліся шаўковыя тканіны і спецыі з Усходу, віны з паўднёвых земляў, зброя і ўпрыгожанні са Скандынавіі.

Наладжваючы міжнародныя кантакты, полацкі валадар шмат даведваўся пра далёкіх і блізкіх суседзяў. З асаблівай цікавасцю ён прымаў паслоў ад літвы і яцвягаў, якія хацелі, каб іх гандляры гэтаксама маглі беспераШкодна наведваць гарады Полаччыны. Абазнаны ў жыцці іншых народаў і плямён паплечнік князя па імені Бет дэталёва распавёў князю пра літву і яцвягаў:

— Жывуць яны на зямлі, якая мае назву Чорная Русь, уздоўж рэк Віліі, Нёмана і Шчары, Буга і Ясельды. Некалі там, да прыходу

славян, сядзелі невялікія купкі балтаў. Але з часам частка іх была выцеснена на поўнач, а іншыя змяшаліся са славянамі. Ад іх цяпер засталіся толькі назовы асобных мясцін. Цягам пяці стагоддзяў славяне дарэшты каланізавалі ўсе землі Чорнай Русі. Галоўныя гарады літвы і яцвягаў — Ваўкавыск, Наваградак, Слонім, Горадня, Бярэсце. Гавораць яны на мове, вельмі падобнай да нашай.

Усяслаў вітаў паслоў ад літвы і яцвягаў, даў ім прывілеі на вольны праезд і гандаль у гарадах і мястэчках Полацкага княства.

## 9

Князя Усяслава надта цешыла тая акалічнасць, што ў царкве Багародзіцы хрысціянскія святары і місіянеры нарэшце пачалі навучаць дзетак славянскай грамаце. Князь усім сэрцам вітаў асветніцкую справу, бо добра ведаў: магутная Візантыя і Рым трымаюцца на асвеце і пісьмовай культуры, заходнія князі гэтаксама заахвочваюць да дзейнасці хрысціянскіх настаўнікаў.

«Шкоды дзяржаве не будзе,— меркаваў Усяслаў.— Наадварот, адукаваныя купцы змогуць смялей наведваць далёкія землі, выгадней збываць тавары».

У 1050 годзе на княскі дзядзінец завіталі хрысціянскія святары. Усяслаў уважліва выслухаў іх просьбы і прапановы. Яны даводзілі, што прыйшоў час Полацку заявіць пра сябе на ўвесь свет і ўзвесці велічны храм.

— Полацк мае ўсе падставы быць цэнтрам цывілізацыі,— пераконвалі святары.— Трэба, каб князь дазволіў ва ўсіх гарадах княства будаваць цэрквы, у якіх дзеткі будуць навучацца грамаце, спасцігаць кніжную мудрасць. І галоўнае — у Полацку варта ўзвесці сабор у гонар Мудрасці, або, па-грэчаску, Сафіі. Ён будзе сімвалам велічы тваёй дзяржавы, праславіць цябе і твой род па ўсім свеце.

Усяслаў не пярэчыў. Ён слушна меркаваў: «Ведзьмакі па-ранейшаму будуць навучаць дзяцей жыць у суладдзі з прыродай: як кіраваць хатнімі жывёламі і дзікімі звярамі, як чуць галасы дрэў і

кветак. Казляры няхай вучаць паразуменню з духамі лесу, вады і палёў. Звездары захаваюць і перададуць наступнікам таемныя веды пра рух нябесных свяціл і ўплыў зорак на людскія лёсы. А хрысціянскія святары навучаць запісваць гутарку людзей, зафіксуюць падзеі, што адбываюцца ў нашай зямлі, каб пра іх ведалі нашчадкі. Усім хопіць месца пад небам! Кожны будзе прыносіць карысць княству!»

Не здагадваўся князь пра тое, што неўзабаве між імі пачнецца варажнеча ды змаганне. Хрысціянскія святары з аднаго боку, а ведзьмакі — з другога будуць агрэсіўна даводзіць, што толькі іх вера і абрады — адзіна праўдзівыя, толькі яны прыносяць выратаванне душы і вечнае жыццё на нябёсах, а веды іншых — паганскі блуд і падман.

Хрысціяне атрымалі дазвол Усяслава на ўзвядзенне ў Полацку галоўнага сабора ў гонар Сафіі. Князь дапамог і грашыма.

Будоўлю распачалі адразу, у тым жа 1050 годзе. Кіравалі ўзвядзеннем святыні чатыры архітэктары — Давыд, Таўма, Мікула, Капес. Уласныя імёны яны выбілі на камені, які паклалі ў падмурак будынка, каб навекі захаваць сваю прыналежнасць да стварэння цуд-храма.

На пяты год будаўніцтва Сафійскі сабор узняўся над Дзвіной ва ўсёй сваёй прыгажосці. У вышыню храм дасягаў трох дзясяткаў метраў. Купалы, крытыя золатам, ззялі на шмат міль навокал. Вокны, аздобленыя каляровай мазаікай, надавалі будынку казачнае аблічча. Велічную цырымонію асвячэння назіралі не толькі палачане. Убачыць на ўласныя вочы цуд-храм прыехалі людзі з іншых гарадоў і вёсак.

Задуманае здзейснілася. Полацкі Сафійскі сабор стаўся сімвалам новай магутнай дзяржавы, знакам уладных амбіцый князя Усяслава.

## 10

У 1060 годзе кіеўскія князі Яраславічы звярнуліся да Усяслава з прапановай — супольна ісці на торкаў. Полацкі князь не вагаўся.

«Дружына не павінна сядзець без справы! — вырашыў князь.— Хопіць воінам песціцца ў жаночых абдымках. Няхай нарэшце натоляць смагу варожай крывёй. Трэба неадкладна выступаць!»

Усяслаў распарадзіўся рыхтаваць зброю і прыпасы.

Увечары, перад выступленнем, полацкі князь з дружынай накіраваўся да агароджанага ўзвышша на беразе Валовага возера, дзе знаходзілася Капішча. Князь пакланіўся каменю-Гаспадару, прытуліўся да Дуба, векавая моц якога напоўніла яго мускулістае цела сілай пракаветнай прыроды. Ён падкінуў цяжкія дубовыя палены ў нязгасны Агонь — зямное ўвасабленне магутнага бога Ярылы. Затым прынёс маладога аленя ў ахвяру Перуну, каб заручыцца яго падтрымкай і здабыць спрыянне падчас бітвы.

Вядзьмак Амеля шэптам прамаўляў таямнічыя словы-закляцці, падносіў Усяславу і яго дружыне напоі, якія напаўнялі ваяроў незвычайнай адвагай і дзіўным спрытам. Затым абліваліся вадой з крыніцы. Містычны рытуал скончыўся пасля апоўначы. Кароткі сон — і раніцай, яшчэ да ўзыходу сонца, войска выступіла.

Блізу Кіева войска Усяслава сустрэлася з палкамі братоў Яраславічаў — Ізяслава, Святаслава і Усевалада. Супольна рушылі ў стэпавыя прасторы. Дрэнна ўзброенае войска торкаў-стэпавікоў было зходу і ўшчэнт разгромлена. Усе трафеі: зброя, усходнія пародзістыя скакуны, абоз са скарбам — дасталіся пераможцам.

Падчас паспяховага паходу на торкаў Усяслаў зрабіў для сябе важныя высновы: «Кіеўскія князі не такія моцныя, як яны дэкларуюць. Полацкае княства мае права на ўласнае годнае месца сярод славянскіх народаў, варта толькі распачаць справу».

Пасля першага буйнога паходу ў стэп Усяслаў пераканаўся ў тым, што вайсковы поспех шмат у чым залежыць ад наяўнасці баявой конніцы. Па вяртанні ў Полацк ён неадкладна загадаў заняцца конегадоўляй. Пародзістых коней у Полацкае княства дастаўлялі з захаду і ўсходу, з поўдня і поўначы. Праз некалькі год Усяслаў меў выдатна падрыхтаваную цяжкую і лёгкую конніцу. Дзякуючы няспынным трэніроўкам шліфавалася баявое майстэрства рыцараў-вершнікаў.

Улетку 1064 года Усяслаў паклікаў да сябе на дзядзінец ваяводу Жыня. Шырокія плечы, тоўстыя, нібы дубовыя сукі, рукі сведчылі пра неверагодную рыцарскую сілу і спрыт ваяводы. Жынь заўсёды быў гатовы імгнення агаліць шаблю або выхапіць кінжал і знішчыць праціўніка. Бясстрашны позірк яго вачэй быў скіраваны на князя.

Усяслаў звярнуўся да Жыня:

— Як лічыш, ваявода, ці зможам мы перамагчы Ноўгарад? Прыйшоў час адпомсціць за знявагу Полацка, за забойства Рагвалода! Мы павінны вярнуць нашы рэліквіі, адабраць у ганарыстых ноўгарадцаў належныя нам па праве кап'ё, меч і шчыт Рагвалода!

— Дружына гатова выступаць хоць сёння, князь. Баявых коней і зброі дастаткова, асадныя вежы і лесвіцы майстры падрыхтуюць на месцы,— запэўніў ваявода.

— Трэба склікаць веча,— выказаў меркаванне Усяслаў.— Без згоды ўсіх гарадоў і ўсіх станаў не здолеем здзейсніць паход. Апрача таго, можа быць шмат забітых, і тады мы будзем адказныя за няўдачы. Абавязкова трэба згода ўсяго княства.

«Калі пераможам Ноўгарад, слава ўсё адно дастанецца мне,— разважаў князь.— У выпадку ж няўдачы кожны, хто браў удзел у вечы, раздзеліць адказнасць».

Княскія ганцы паляцелі ва ўсе куткі Полацкай зямлі з заклікам прыязджаць на веча — народны сход — каб разам прыняць рашэнне: ісці на Ноўгарад або не. Трывога і адначасна ўсеагульны ўздым ахапілі дзяржаву. Усе адчувалі: надыходзіць час цяжкіх выпрабаванняў.

На веча ў Полацк з'ехаліся прадстаўнікі ад усіх гарадоў княства, прыбылі тысяцкія, сотнікі і дзясяцкія, звычайныя дружыннікі, пасаднікі і старосты, рамеснікі і гандляры, паляўнічыя і бортнікі. Князь Усяслаў выехаў да людзей верхам на белым жарабцы. Яго суправаджалі ўзброеныя дружыннікі на чале з ваяводам Жынем. Князь спыніўся, спрытна саскочыў з каня і ўзышоў на памост. Усяслаў узняў руку — плошча сціхла.

— Братове! — пачаў князь.— Прыйшоў час нашай славы! Мы павінны пайці на Ноўгарад і скарыць ганарлівых наўгародцаў. Полацк — галоўны горад усіх славян. І мы зброяй дакажам нашу моц і веліч!

— Ідзём за табой, князь! — упэўнена заявілі рамеснікі, збройнікі і кавалі: яны ведалі, што вайна — гэта новыя заказы князя і гарадоў на выраб зброі.

— Слава князю! Гонар Усяславу! — падхапіла веча.— Возьмем Ноўгарад і спалім дарэшты! Адпомсцім наўгародцам за знішчэнне Полацка, за гвалт над Рагнедай!

Атрымаўшы згоду веча, Усяслаў неадкладна загадаў ваяводу Жыню:

— Будзем неўзабаве выступаць, каб людзі раптам не змянілі думкі! Збірай дружыну і рыхтуй прыпасы!

Усяславу раілі запрасіць наёмнікаў з іншых плямён і народаў, але князь адмовіўся ад іх паслуг, бо тыя заўжды патрабавалі высокай аплаты і не надта шчыравалі ў бітвах, пры магчымасці ўсяляк унікаючы рызыкі.

Традыцыйны рытуал на Капішчы — і войска выступіла ў паўночным напрамку. У паходзе на Ноўгарад бралі ўдзел палкі і дружыны з усіх буйных гарадоў Полацкага княства. Усяго войска налічвала каля сямі тысяч ратнікаў. Кіраваў палкамі асабіста Усяслаў. Галоўны ваявода князя Жынь і падначаленыя яму мясцовыя дружыны прагнулі як найхутчэй уступіць у бітву, зламаць ворага, выканаць волю Усяслава.

Полацкае войска імкліва пераадольвала шлях. Усё складвалася найлепшым чынам. Князь быў задаволены. Чародкі сініц суправаджалі палкі Усяслава вясёлымі спевамі-ціўканнем, прадвяшчаючы поспех. Шчыты дружыннікаў blішчэлі-пераліваліся на сонцы, трапяталі на ветры рознакаляровыя харугвы-знамёны з выявамі дзікіх звяроў, баявыя коні ўпэўнена неслі рыцараў да славы.

Неўзабаве войскі Усяслава стаялі пад Ноўгарадам. Горад абклалі з усіх бакоў. У ноч перад пачаткам штурму ваяры пілі адмысловае зелле, якое напаўняла іх выключнай смеласцю.

На світанні з дапамогай катапульты закідалі горад падпаленымі смалянымі шарамі. Усчаўся страшэнны пажар, клубы дыму ахуталі горад. Вышкаленыя полацкія лучнікі засыпалі градам стрэл абарончыя сцены. Распачаўся штурм. Таранам раструшчылі браму, ратнікі спрытна ўзабраліся па лесвіцах на гарадскія сцены. Ноўгарад не вытрымаў націску. Неўзабаве ўвесь горад быў у руках Усяслава.

На белым жарабцы, накрытым папонай з дарагой вышыўкай, Усяслаў заехаў у Ноўгарад, упэўнена трымаючыся ў сядле з залатой чаканкай. Зняслаўленыя наўгародцы на каленях прасілі літасці князя. Задаволены Усяслаў цешыўся ўласнай веліччу. Вочы яго свяціліся ад усведамлення здзейсненага. Усё аблічча князя сведчыла пра рашучасць і гатоўнасць да новых подзвігаў.

Адшукаць залатыя даспехі Рагвалода ў Наўгародзе не змаглі. Але і без таго палачане ўзялі шмат каштоўных трафеяў: скарбы Ноўгарадскай Сафіі, маёмасць заможных купцоў і рамеснікаў, безліч коней. У палон павялі мноства людзей.

Па вяртанні ў Полацк Усяслаў з дружынай зладзіў шыкоўны пір. На гарадзішчы шмат пілі і елі. Гусляр спяваў у гонар Усяслава, ваяводы Жыня і княскай дружыны песні-быліны, услаўляючы веліч непераможнага князя і мужнасць воінаў. Позна ўвечары яго голас заціх. Усяслаў накіраваўся да каханай Дабраславы. А гульба дружыны хутка перайшла ў п'яную оргію-любошчы. Воі разамлелі ў абдымках прыгажунь, якія гарачымі вуснамі і гнуткімі целамі доўга і ўмела лекавалі іх, зацягвалі ў бяздонныя глыбіні асалоды...

## 11

Лёгкая перамога над Ноўгарадам і багатая здабыча акрылілі Усяслава. Увесну 1065 года, як толькі падсохла зямля і рэкі пасля паводкі ўвабраліся ў берагі, ён распачаў раць. Вядзьмак Амеля прадказваў князю нядобрае. Ён настойліва адгаворваў Усяслава ад новых паходаў.

— Князь,— даводзіў Амеля,— на захадзе бачылі вялікую зорку, нібы крывёй налітую. Яна гарэла цягам сямі дзён, а гэта знамянуе толькі адно — няшчасце і кровапраліцце.

Тады ж адбылося і сонечнае зацменне, ці, як гаварылі людзі, месяц з'ядаў сонца, што таксама сведчыла пра хуткую бяду, наступленне цяжкіх часоў.

Усяслаў не прыслухаўся. Ён не прыняў пад увагу засцярогі мудрага вешчуна-прарока. Сын Брачыслава, нашчадак Рагвалода, ён верыў у сябе, уласную абранасць і выключнасць, спадзяваўся на вайсковае ўмельства ваяводы Жыня, самаахвярнасць тысяцкіх, сотнікаў і дзясяцкіх, адвагу дружыны.

Князь распачаў паходы на гарады суседніх плямён — славенаў, радзімічаў, драўлян, вяцічаў, севяран. Кіеўскія валадары Яраславічы

абурыліся, бо лічылі гэтыя землі ўласнай вотчынай. Праз ганцоў яны заявілі полацкаму князю аб сваёй нязгодзе, колькі разоў заклікалі яго спыніцца. Але палітычныя амбіцыі перапаўнялі полацкага князя. Усяслаў не зважаў на пярэчанні і заклікі кіеўскіх князёў. Ён ужо выношваў куды больш маштабныя планы: аб'яднаць усіх славян пад уладай Полацка, знішчыць Хазарскі каганат, падпарадкаваць прусаў, ліваў і корсь.

Захоплены ўласнай веліччу, Усяслаў запэўніваў ваяводаў:

— Настане дзень, калі мы, згуртаваўшы ўсю моц славянскіх дружын, пойдзем на германцаў! Затым рушым на поўдзень, скорым Візантыю! Усе народы схіляць калені перад нашым мячом! Багацці ўсяго свету будуць належаць нам!

Цягам двух год полацкае войска на чале з князем Усяславам здзяйсняла крывавыя рэйды, падпарадкоўваючы ўсё новыя гарады і землі. Трыумфальныя поспехі стварылі ілюзію абсалютнай непераможнасці Усяслава.

Яраславічы тым часам рыхтавалі войска супраць полацкага князя.

У канцы зімы 1067 года кіеўскія палкі падышлі пад Менск — паўднёвы горад Полацкай зямлі.

Усяслаў даведаўся пра напад Ізяслава, Святаслава і Усевалада на яго вотчыну. Знясілены папярэднімі паходамі, ён акурат у гэты час моцна хварэў. Корань — галоўны лекар князя — паіў валадара настоямі з траў, але нічога не дапамагала.

Тым не менш, не зважаючы на адгаворы лекара, Усяслаў рушыў ратаваць Менск і яго жыхароў.

## 12

Усяслаў з войскам як мог спяшаўся пад Менск. Рухаліся на санях і верхам на конях. Шлях быў надта цяжкі, коні стамляліся ад вялікіх пераходаў, грузлі ў снезе, падалі. Трывожна трашчалі сарокі, прадвяшчаючы хуткую бяду. Груганы, нібы чорная хмара, моўчкі

суправаджалі харугвы. Уначы страшна вылі ваўкі. Іх незлічоныя зграі, шукаючы лёгкай спажывы, ішлі густымі лясамі следам за войскам.

У першыя вясновыя дні 1067 года Усяслаў з дружынай быў пад Менскам. Але спазніўся. Кіеўскія палкі захапілі горад штурмам і амаль цалкам спалілі. Тых, хто застаўся ў жывых, узялі ў палон.

3 сакавіка 1067 года варожыя войскі сустрэліся на Нямізе. У кіеўскіх князёў налічвалася каля дванаццаці тысяч ваяроў, што крыху перавышала войска Усяслава.

Перад вайсковымі шэрагамі Яраславічы паставілі палонных менакоў, «вывелі на шчыт» захопленых жанчын і дзяцей. Такім чынам, Усяслаў быў пазбаўлены магчымасці звыкла атакаваць праціўніка ўдарным палком цяжкой конніцы.

Перад тым як кінуцца ў смяротную бойку, князь Усяслаў і дружыннікі ўчынілі звычайны вайсковы рытуал: адны прыкладалі да вуснаў нагрудныя амулеты-абярэгі з алегарычнымі выявамі ваўкоў, мядзведзяў, драконаў і дзівосных птахаў, каб набрацца ад іх моцы; іншыя дакраналіся пальцамі да завушніц. Усе паўтаралі замовы ад ворагаў: «Сонцам асвячуся, а месяцам абгараджуся, злых ворагаў не баюся. Я да іх з просьбаю, а яны да мяне з ласкаю. Як яно кацілася, так яно і раскацілася, і раздраблося, і размялося, і на гэтым засталося». Клікаліся на дапамогу магутныя сілы прыроды.

Вырашальная сеча пачалася бліжэй да апоўдня. Кіеўскія палкі першымі распачалі наступ адначасна з абодвух флангаў. Адчайна звінелі мячы і шаблі. Узмакрэлыя коні напружана хрыпелі, білі капытамі. Тысяцкія, сотнікі і дзясяцкія мужна вялі людзей у бітву. Усяслаў у сталёвым бліскучым шлеме, на вараным кані біўся плячо ў плячо з радавымі дружыннікамі. Усё змяшалася ў адзіным клубку жорсткасці і першабытнай дзікасці, крыві і бруду. Крыкі болю і адчаю, загады і стогны разлягаліся па полі бітвы.

Бітва князёў за першынство працягвалася амаль да заходу сонца. Усяслаў пацярпеў паражэнне. Крывавае жніво забрала амаль усё войска полацкага князя. Загінуў паплечнік і першы дарадца князя — ваявода Жынь. Кап'ё трапіла яму ў шыю, з правага боку, і прайшло наскрозь.

Глыбокі снег уздоўж Нямігі ператварыўся ў бруднае месіва. Паўсюль ляжалі знявечаныя трупы, рэшткі зламанай зброі, стагналі смяротна параненыя воіны. Пераможцы збіралі трафеі: здымалі з забітых воінаў каштоўныя рэчы, амулеты-абярэгі, бранзалеты, падбіралі зброю, шчыты і шлемы.

Усяслаў з невялікай аховай збег з поля бітвы. Ён хутка адарваўся ад пагоні, бо добра ведаў расцяробы, лясныя сцежкі і таемныя пераходы. Боль, роспач і адчай панавалі ў душы князя. Збітае цела ныла. Вочы глыбока запалі і згаслі. Бледны твар і моцна сашчэпленыя сківіцы сведчылі пра знядужанасць і ўнутраную спустошанасць Усяслава.

Жорсткі Кон пакараў Усяслава. Трывожная адзінота агарнула яго. Князь адчуваў уласную віну перад палеглымі, асабліва перажываў страту Жыня, які быў апорай ва ўсіх яго справах. Полацкі валадар зразумеў сваю непапраўную памылку: «Я пайшоў супраць волі багоў. Не прыслухаўся да прарочых слоў Амелі, які ведаў загадкавыя расклады зорак і планет, настойліва папярэджваў мяне».

Полацк сустрэў Усяслава сцюдзёным змрокам. Князь загадаў выставіць узмоцненую варту на гарадскіх сценах і вежах, а ўначы часцей правяраць дазоры на подступах да горада. Ён распарадзіўся мацней напаліць лазню, бо добра ведаў, як зняць напружанне пасля цяжкога паходу, як найхутчэй вылечыць душу і цела. Распараны бярозавы венік — лепшы лекар.

Пасля лазні знядужаны Усяслаў пайшоў адпачываць. Князь нібыта яшчэ і не спаў, але яму надта выразна мроілася: агромністыя павукі знянацку нападаюць на яго, хутка аблытваюць усё цела ліпкай павуцінай. Князь спрабуе ўзняцца, вырвацца, але не можа нават зварухнуцца — рукі зусім не слухаюцца, ногі быццам акамянелі. Усяслаў спрабуе клікаць на дапамогу, але голас прапаў, ён не ў стане вымавіць ані слова. Поўная бездапаможнасць палохае князя, і раптам ён ляціць у чорную бездань.

Усяслаў прачнуўся толькі на другі дзень, калі сонца ўзнялося зусім высока. Сон не напалохаў валадара. Ён упэўнена ўзняўся з ложка: «Усё трэба пачынаць наноў: збіраць сілы, трэніраваць вояў, гартаваць мячы».

Князь рашуча ўзяўся за справу.

## 13

Усяслаў накіраваў у найбуйнейшыя гарады княства праверaных мечнікаў, загартаваных у сечах, якія ў выпадку варожага нападу маглі імкліва наладзіць абарону і пратрымацца, прынамсі, да прыбыцця князя з войскам. Намеснікі аператыўна ўзмацнялі абарончыя сцены і брамы, узбройвалі мясцовыя гарнізоны, рыхтавалі воінаў да бітваў.

Улетку 1067 года Усяслаў прымаў паслоў ад кіеўскіх трыумвіраў, якія прапаноўвалі заключыць мір і разам, як у колішнія часы, абараняць славянскія землі ад нападаў стэпавікоў. Паслы слёзна запэўнівалі, што без Полацка Кіеў не справіцца з агрэсіўнымі гаспадарамі стэпаў. Усяслаў паверыў. Аслаблены пасля Нямігі, ён гэтаксама шукаў перадышкі. Сустрэчу прызначылі на 10 ліпеня 1067 года на Дняпры, каля Оршы.

У вызначаны дзень Усяслаў разам з двума сынамі, ні аб чым не падазраючы, адплыў ад правага берага ў шырокай ладдзі. Дужымі рукамі вясляр упэўнена трымаў вёслы, вёў лодку на другі бераг. Дняпроўскія віры ўздымалі са дна рудую каламуць, імкліва неслі яе па паверхні ракі, паперадзе ладдзі. Князь не зважаў на трывожныя знакі-папярэджанні.

На левым беразе Дняпра Усяслава сустрэў кіеўскі князь Ізяслаў. Яны адразу накіраваліся ў лагер, разбіты ў маляўнічым месцы, дзе полацкага госця чакалі князі Усевалад і Святаслаў. Як толькі Усяслаў пераступіў парог шатра, на яго раптоўна напалі, заламалі рукі, скруцілі.

Пад моцнай аховай Усяслава разам з сынамі адправілі ў Кіеў. На здзіўленне ўсім людзям, палонных трымалі ў металічнай клетцы, нібы дзікіх звяроў. Пільна сцераглі, каб прыхільнікі полацкага князя раптам не перахапілі абоз і не вызвалілі яго з палону. Усяслаў дакараў сябе за даверлівасць і легкавернасць, але было позна. Падман і вераломства — вечныя спадарожнікі ўлады...

У Кіеве полацкага князя і яго сыноў кінулі ў вязніцу, спадзеючыся на іх хуткую пагібель. Аднак лёс распарадзіўся інакш.

На землі Кіеўскага княства напалі дзікія полаўцы. Ворагі захапілі значныя тэрыторыі. Безабаронныя людзі чакалі ад Ізяслава дапамогі, але той марудзіў. Абураныя гараджане склікалі веча і

запатрабавалі ад князя даць ім зброю і коней, каб самім вызваліць зямлю ад полаўцаў. Ізяслаў, аднак, не даў ім ні зброі, ні коней. У адчаі кіяўляне кінуліся да ваяводы Каснячка, але той наогул схаваўся ад людзей.

Тады жыхары Кіева пастанавілі: неадкладна вызваліць «з порубу» полацкага князя, каб пад яго кіраўніцтвам выступіць супраць полаўцаў. 15 верасня 1068 года Усяслаў і яго сыны былі вызвалены з палону. Перапалоханы Ізяслаў збег у Польшчу. Усяслава абвясцілі кіеўскім князем і ўрачыста ўзвялі на вялікі Кіеўскі прастол. Справядлівасць была ўзноўлена.

Усяслаў аператыўна згуртаваў войска і ўшчэнт разбіў полаўцаў. Затым ён прыступіў да ўмацавання памежных гарадоў на паўднёвым усходзе. Князь уважліва сачыў за выкананнем яго даручэнняў. Усяслаў асабіста наведаў нават самую аддаленую славянскую крэпасць — Тмутаракань. Усе паездкі ён здзяйсняў надзвычай імкліва. Князь як бы і не пакідаў Кіева, але ў той жа час яго бачылі ў шмат якіх гарадах. Гэтую таямніцу валадара ведала невялікае кола набліжаных да Усяслава людзей і перадусім дружыннік па імені Гесь, надта падобны і тварам і паставай да полацкага князя.

Энергіі і стратэгічнага досведу ў князя было дастаткова, каб упарадкаваць і надзейна абараніць Кіеўскую зямлю.

## 14

Сем месяцаў полацкі князь Усяслаў трымаў Кіеўскі прастол. Яго лідарства прызналі ўсе прыдняпроўскія землі і гарады-княствы.

Увесну 1069 года Усяславу паведамілі, што супраць яго з вялікім войскам ідзе Ізяслаў — колішні кіеўскі князь, які стварыў хаўрус з польскім каралём Баляславам. Усяслаў імкліва склікаў войска і выступіў насустрач.

Каля Белграда палкі Усяслава спыніліся. Князь быў у роздуме. Ваяваць з Ізяславам ён не жадаў, да таго ж і вынікі бітвы былі непрадказальныя.

Усяслаў цвёрда вырашыў: «Трэба вяртацца ў Полацк. Варта бараніць тое, што належыць паводле права. Прэтэнзіі на чужыя землі да дабра не прыводзяць. Дастаткова належным чынам упарадкаваць уласную вотчыну — Полацкую зямлю. На радзіме шмат працы і шмат клопатаў». Уначы князь пакінуў вайсковы лагер і з дружынай ад'ехаў у родны Полацк.

Усяслаў і яго дарадцы памылкова меркавалі, што, як толькі Ізяслаў атрымае назад Кіеўскае княства, ён супакоіцца. Адбылося інакш. Неўзабаве Усяславу паведамілі: Ізяслаў пачаў наступ на землі і гарады Полацкага княства і рухаецца на Полацк.

Аблога горада доўжылася больш як тры месяцы. Полацк амаль дарэшты згарэў ад запаленых стрэл, якімі шчытна абстрэльвалі кіеўскія лучнікі з невялікай адлегласці. Шмат абаронцаў на сценах і простых гараджан загінула. Трупы складвалі ў ямы і палілі, каб не ўсчалася эпідэмія. Палачане мужна абаранялі горад, але сілы, відавочна, былі няроўныя. Урэшце запасы ежы скончыліся, абараняць напаўразбураныя сцены практычна ўжо не было каму. У маі 1069 года Усяслаў разам з сям'ёй і невялікай дружынай праз таемны ход пакінуў Полацк. Зрабіць такі крок яго ўгаварылі паплечнікі. Яны змаглі пераканаць князя ў тым, што ён павінен застацца ў жывых, каб згуртаваць новае войска і выгнаць ворагаў з Полацка.

Два цяжкія гады Усяслаў таемна пераязджаў з аднаго месца ў другое. Прытулак ён знаходзіў звычайна на аддаленых капішчах, каля жыватворных крыніц, дзе валадарылі прыхільнікі старой веры,— у Чарнавоках, Мушыне, Лісне, Забор'і, Дрыгунове, Слоніме, Хоўхаве, Свіры, Лоску, на Валовай гары, каля Дажбогава каменя, на Перуновай гары... Употай князь сустракаўся з гарадскімі старэйшынамі і пасаднікамі, дамаўляўся з імі, рыхтаваў воінаў.

Сэрца Усяслава разрывалася ад крыўды і злосці. На полацкім прастоле Ізяслаў пакінуў сына Мсціслава. Праўда, той раптоўна памёр. Да Усяслава даходзілі чуткі, што дапамог яму пайсці на той свет вядзьмак Амеля. Каханка Мсціслава, якая належала да старой веры, таемна наведвала капішча і ва ўсім слухалася Амелю, выканала даручэнне вешчуна і падсыпала атрутнага зелля ў напой чужынцу.

Але Полацк не вызваліўся з-пад улады кіеўскіх князёў: на гарадскім пасадзе хутка з'явіўся новы кіеўскі стаўленік — князь Святаполк, брат Ізяслава, які яшчэ больш узмацніў ціск на палачан. Пры яго падтрымцы і патураннях хрысціянскія святары ўсяляк зневажалі старадаўнюю веру крывічоў, ганьбілі пракаветныя звычаі славянскіх народаў. Яны замахнуліся нават на святыні: разбурылі некалькі капішчаў, спалілі драўляныя статуі мясцовых багоў, якім людзі спакон веку прыносілі ахвяраванні і ў якіх прасілі паратунку ад хвароб, абароны ад ворагаў.

Князь Усяслаў цяжка перажываў ганьбаванне горада і здзекі над палачанамі: «Вялікі і слаўны Полацк плаціць даніну кіеўскім князям! Бясправаўе трэба спыняць!».

Нарэшце, улетку 1071 года, на світанні, Усяслаў акружыў горад і пачаў штурм. Адначасна ў Полацку паўсталі прыхільнікі князя, з якімі ён меў папярэднюю дамову. Паўстанне падрыхтаваў і ўзначаліў вядзьмак Амеля, аўтарытэт якога быў надзвычай высокі сярод палачан. Галоўны полацкі вядзьмак меў дастаткова падстаў не любіць кіеўскіх стаўленікаў. Полацкія паўстанцы хутка перабілі варожую ахову і адкрылі для конніцы Усяслава гарадскую браму. Агульнымі намаганнямі Полацк быў вызвалены.

Над людзьмі Святаполка ўчынілі жорсткую расправу. Але на гэтым справа не скончылася.

Усяслаў быў бясконца ўдзячны Амелю і яго аднадумцам — усім, хто дапамагаў вызваліць Полацк. Але князь не мог спакойна назіраць за тым, як ведзьмакі, прыхільнікі даўняй веры, пачалі нацкоўваць людзей на хрысціянскіх святароў. Бязлітасныя і крывавыя расправы, гвалт і забойствы запанавалі на Полацкай зямлі. Шмат каго са святароў зарэзалі, павесілі на дрэвах, пасеклі шаблямі і сякерамі.

Усяслаў сустрэўся з Амелем. Вядзьмак даводзіў князю ўласную праўду:

— Княжа, нікчэмныя асобы захапілі дагледжаныя палеткі, псуюць нашу зямлю! Брудныя і агрэсіўныя дзікуны ганьбяць нашу веру! Мы спрадвеку мелі багоў у сваіх сэрцах, пакланяліся іх выявам і вечнаму Агню. Лес і вада, дрэвы і краскі — вось жывы дух, а яны носяцца з нейкім Хрыстом! А чаго вартыя іх заклікі бязлітасна пана-

ваць над прыродай? Іх вера — пустэча і смерць! Наша вера — жыццё і росквіт!

Усяслаў падзяляў заклапочанасць Амелі: бары і лясы, азёры і рэкі, свойскія і дзікія жывёлы — з даўніх часоў з'яўляліся асновай жыцця. Ашчаднае стаўленне да ўсяго жывога — галоўная ўмова працягу чалавечага роду. Аднак князь разумеў і іншае: «Хрысціянства — гэта сувязь з магутнай Візантыяй, Рымам і заходнімі краінамі. Не даць ходу хрысціянству — значыць перарваць стасункі з даўнімі цывілізацыямі, закрыцца ад іх досведу і набыткаў».

Усяслаў выразна бачыў станоўчыя бакі дзейнасці настаўнікаў-місіянераў, у чым пераконваў і галоўнага полацкага вешчуна:

— Хрысціянскія святары робяць вялікую справу для нашай дзяржавы. Яны навучаюць дзетак пісьму і чытанню, далучаюць народ да кніжнай мудрасці. Мы зможам запісаць і перадаць нашчадкам усе веды, назапашаныя нашымі продкамі і намі, зберагчы паданні прашчураў, старадаўнія песні і быліны, зафіксаваць усё, што дзеялася раней і адбываецца цяпер на нашай зямлі. Моц пісьмовага слова — невымерная!..

Амеля перапыніў Усяслава:

— Княжа, але разам з пісьменствам яны насаджаюць сваіх багоў, заклікаюць адмаўляцца ад нашай старадаўняй веры, ганьбяць нашы веды, уводзяць уласныя звычаі і рытуалы!

— Няхай кожны сам выбірае, да якога бога ісці,— адказаў князь.— Я не пацярплю прымусу і гвалту на маёй зямлі. Варажнеча і нянавісць, калі іх не суняць, зруйнуюць нашу дзяржаву! Не спатрэбяцца і ворагі!

Князь, аднак, не сказаў Амелю галоўнага. У вучэнні хрысціянскіх настаўнікаў яго асабліва прываблівалі іх словы пра божае, нябеснае паходжанне княскай улады, яе вечнасць і непарушнасць. Усяславу надта прыйшліся даспадобы сцвярджэнні хрысціянскіх прапаведнікаў аб тым, што кожны чалавек у дзяржаве павінен безагаворачна падпарадкоўвацца валадару, безадказна выконваць яго волю.

Амеля не пагадзіўся з Усяславам, але палічыў помсту хрысціянам кепскім заняткам. Сутычкі і ўзаемныя крыўды ў хуткім часе сапраўды спыніліся.

Успененыя рэкі ўзаемнай нянавісці пакрысе ўвайшлі ў берагі.

## 15

Полацк паступова адбудоўваўся. Крывавыя часы засталіся ў мінулым, гарады паўставалі з руін, зямля адраджалася. Пасля сканчэння забурэнняў Усяслаў амаль дваццаць год мірна княжыў на полацкім прастоле. Адносіны з Кіевам і суседнімі народамі наладзіліся.

Але ў 1091 годзе зноў прыйшла бяда — страшны мор. Полацкую зямлю ахапіла эпідэмія. Зараза пачалася ў Друцку, а затым перакінулася на Полацк. Людзі паміралі дзясяткамі. Напалоханым палачанам здавалася неверагоднае, ім мроіліся жахлівыя сцэны. Нібыта на вуліцах горада ўначы з'яўляліся наўі. Паўсюль стаяў неверагодны тупат, штосьці пранізліва стагнала і енчыла. Нарэшце, наўі пачалі з'яўляцца і ў дзень. Яны гойсалі вярхом на конях, але ні іх саміх, ні коняў не было відаць, толькі мільгалі конскія капыты. У горадзе пайшла пагалоска, што гэта мерцвякі прыйшлі за жывымі.

У Полацкім княстве да таго ж пачалася страшэнная засуха, гарэлі балоты і лясы. Хрысціянскія святары гаварылі пра надыход канца свету, увесь час маліліся аб выратаванні, нічога, аднак, не прадпрымаючы.

Тысяцкія настойліва раілі Усяславу разам з сям'ёй пакінуць Полацк. Князь адмовіўся, за што неўзабаве заплаціў надта высокую цану. Захварэла Дабраслава. Яна згарала літаральна на вачах, аніякія лекі і травы не дапамагалі. Прыгажуня Дабраслава ўся схуднела і імгненна састарылася. Памерла яна ў страшэнных пакутах.

Святары ўпэўнівалі Усяслава адпець цела жонкі ў царкве. Маўляў, тады яе душа ўвойдзе ў Нябеснае Царства, дзе знойдзе вечнае супакаенне.

— Няхай мая душа застанецца на роднай зямлі, растворыцца сярод дрэў і кветак, палёў і лугоў,— прасіла мужа Дабраслава перад сконам.

Князь выканаў апошнюю просьбу жонкі: яе цела, разам з усімі каштоўнымі ўпрыгожаннямі, паклалі ў ладдзю, спалілі на агні паводле старадаўняга звычаю. Галасілі-прычыталі жанкі, якія пры жыцці

прыслужвалі князёўне. Плакалі звычайныя людзі, якія памяталі чулае сэрца Дабраславы, не аднойчы спазналі яе клопат і дабрыню.

Полацкая зямля абязлюдзела. Насланнё пакрысе адступілася, але паўсюль панавалі пустэча, няшчасці і голад.

Усяслаў адчуў глыбокую адзіноту. Нечаканае суцяшэнне і невымоўную радасць састарэламу валадару прынесла нараджэнне ў сына Святаслава дачкі.

Усяслаў даў унучцы імя Прадслава. Яго жыццё зноў напоўнілася сэнсам. Князь, не зважаючы на неверагодную стомленасць, як мог дапамагаў зямлі адрадзіцца. Але гады ўсё адно бралі сваё.

Некалі магутны валадар паступова пачаў адыходзіць ад дзяржаўных спраў. Ён размеркаваў вотчыну паміж сынамі. Полацкі пасад Усяслаў пакінуў у спадчыну сыну Давыду. У памежны Менск накіраваў сына Глеба.

У 1101 годзе полацкі князь Усяслаў памёр.

* * *

За доўгі 57-гадовы княжацкі век Усяслаў здзейсніў шмат вялікіх і важных спраў. Ён застаўся ў гісторыі як князь-рэфарматар, князь-будаўнік, князь-абаронца і князь-чарадзей. Дзякуючы яго стараннім над Дзвіной узняўся магутны і велічны Полацк, з надзейнымі абарончымі сістэмамі і фартэцыямі, гандлёвымі плошчамі і дварамі заможных гаспадароў. Шараговыя, закінутыя паселішчы Полаччыны ператварыліся ў буйныя мястэчкі і гарады-замкі.

Усяслаў даў штуршок небываламу развіццю рамёстваў: апрацоўцы чорных металаў і збройніцтву. Пры ім на якасна новы ўзровень узняліся ювелірнае майстэрства, костарэзанне, вытворчасць шкла, апрацоўка скур, бондарства і ганчарная справа. Усяслаў дбаў пра паляпшэнне земляробства, жывёлагадоўлі і пчалярства, клапаціўся пра абнаўленне тэхналогій апрацоўкі ворных зямель. Князь стварыў уласную фінансавую сістэму, увёў празрыстую і справядлівую сістэму падаткаў.

Дзякуючы энергічным дзеянням і кругагляду Усяслава, істотна пашырыўся міжнародны гандаль Полацкай зямлі, узраслі сувязі княства з іншымі краінамі і народамі. Усяслаў паспрыяў станаўленню адукацыі, асветы і кніжнай справы.

У спадчыну нашчадкам засталося велічнае тварэнне Усяслава — Полацкая дзяржава, стрыжнем якой стала рэгулярнае войска з баявой конніцай і гарнізоны ў гарадах-замках. Князь усталяваў суды і заклаў прынцыпы прававой дзяржавы і справядлівай улады.

Змяняліся валадары і сталіцы, але менавіта дзяржава, створаная князем Усяславам, на працягу стагоддзяў канцэнтравала волю народа, дапамагла выстаяць пад націскам грозных ворагаў.

# ТРОН

## 1



рыкі стражнікаў разбудзілі Крывы горад[1]. Паўсонныя дружыннікі хапалі зброю: вострыя мячы, цяжкія булавы, баявыя сякеры, тугія лукі — і стрымгалоў кідаліся на сцены. На ходу нацягвалі кальчугі, шлемы, імкліва займалі абарону.

Германскія мечаносцы, апранутыя ў белыя плашчы з крывава-чырвонымі выявамі мячоў і крыжоў, на самым досвітку незаўважна падышлі да места. Недзе ў вярхоўі ракі яны перабраліся на левы бераг Віліі. Абмінуць таемныя дазоры і бесперашкодна пераправіцца праз раку ім дапамаглі мясцовыя хаўруснікі — ахрышчаныя місіянерамі ліvы і жамойты.

Заваёўнікаў заўважылі толькі тады, калі тыя выйшлі з густога туману і падступілі ўжо пад самыя сцены горада.

Крыўгарадскі князь Давіл загадаў ганцу:

— Імчы ў Навагрудак, да брата Маўкольда, кліч на дапамогу! Адны не адаб'ёмся!

Ганец стрымгалоў паляцеў у Навагрудак.

Стары Маўкольд моцна хварэў і таму накіраваў на дапамогу сына Міндоўга, які жыў тады ў Руце — мястэчку на ўсходзе ад Навагрудка.

Чатыры сотні дружыннікаў паімчалі на выручку Крывому гораду. Коннікі міналі ўзлескі і палі, без затрымкі перапраўляліся праз

---

[1] Крывы горад — старадаўняе крывіцкае паселішча, якое стаяла на хуткаплыннай Віліі, акурат там, дзе ў яе ўпадала рачулка Віленка.

рэчкі. Больш за ўсё баяліся спазніцца. Першымі ішлі дазоры, за імі імчаў Міндоўг у атачэнні дружыны. Затым — тры сотні, выдзеленыя навагрудскім князем.

Абложаны Крывы горад, які спасцігла бяда, адбіваўся як мог. Бітва за горад доўжылася некалькі дзён. Найбольш адчайныя мечаносцы паспелі па лесвіцах узабрацца на гарадскія сцены. На вузкіх праходах драўлянага замка стражнікі мужна біліся з дзікімі захопнікамі.

Імклівы Міндоўг з дружынай падаспеў на падмогу своечасова. Фактычна з марша адразу ўступілі ў бітву. Мечаносцы не чакалі ўдару з тылу. Воі Міндоўга адчайна секлі мячамі і калолі дзідамі разгубленых германцаў.

Ворага ўшчэнт разбілі, але за волю заплацілі высокую цану. Пасля сечы Міндоўг убачыў жахлівую сцэну. Абарончыя збудаванні горада былі моцна пашкоджаны, згарэла шмат пабудоў. Загінулі амаль усе крыўгарадскія дружыннікі. Быў забіты і князь Давіл — дзядзька Міндоўга, які разам з іншымі абаронцамі горада мужна адбіваў атакі ворагаў.

Ад немінучай смерці ўдалося выратаваць Таўцівіла і Скочку — унука і ўнучку Маўкольда. Слугі схавалі іх у падзямеллі і трымалі там, пакуль не скончылася навала. Пасля вызвалення Крывога горада страшэнна напалоханых і панылых дзяцей прывялі да Міндоўга. Ён забраў Таўцівіла і Скочку з сабой, далей ад небяспекі,— ва ўласную рэзідэнцыю ў Руту.

Рэйд рыцараў-мечаносцаў на землі Навагрудскага княства і іх раптоўны напад на Крывы горад адбыўся ў 1229 годзе. Гэты ўчынак надоўга сапсаваў адносіны паміж славянамі і германцамі.

Міндоўг ясна зразумеў, з кім мае справу. Германцы парушылі клятву. Чатыры гады таму паміж іх магістрам Фольквінам фон Вінтэрштатэнам і навагрудскім князем Маўкольдам было падпісана мірнае пагадненне. Цяпер, пасля нападу на Крывы горад, усе ранейшыя дамоўленасці пайшлі дымам.

Крывадушныя мечаносцы прагнулі новых зямель і багаццяў. Экспансія з'яўлялася праявай іх агрэсіўнай сутнасці ад пачатку з'яўлення

на землях ліваў. Яны прыйшлі нібыта з місіянерскімі мэтамі. Але пашырэнне вучэння Хрыста з'яўлялася толькі прыкрыццём, туманам для наіўных тубыльцаў.

Германскія рыцары і каталіцкія епіскапы дзейнічалі рашуча і зладжана. Заснаваны ў Рызе у 1202-м Тэадорам з Турэйды нямецкі духоўна-рыцарскі ордэн праз два гады быў зацверджаны булай Папы Рымскага Інакенція III і атрымаў пагрозлівую назву — Брацтва воінаў Хрыста. Зазвычай іх называлі мечаносцамі — паводле выявы чырвонага мяча і мальтыйскага крыжа на іх форменных плашчах.

У 1205-м епіскап Альберт заснаваў ля вусця Дзвіны манастыр Святога Мікалая. Яшчэ праз два гады Брацтва воінаў Хрыста захапіла крэпасць Кукейнос. Абарону крэпасці ўзначальваў князь Вячаслаў Барысавіч, празваны ў народзе Вячка. Германцы разгрымілі дружыны князя Вячкі, ліквідавалі Кукенойскае княства, устанавілі кантроль над эстамі і латгаламі, а таксама над усім ніжнім цячэннем Дзвіны. Вячка быў вымушаны адступіць. Іншыя намеснікі полацкіх князёў, якія некалі мелі гарнізоны ў многіх паселішчах і валадарылі практычна над усім ніжнім цячэннем Дзвіны, пад ціскам мечаносцаў з болем пакідалі абжытыя месцы.

Вераломны напад германцаў на Крывы горад, які адбыўся ў 1229 годзе, паклаў пачатак варажнечы паміж Міндоўгам і мечаносцамі. Такое нельга было пакінуць без належнай адплаты. Страты крыўгарадцаў былі значнымі.

Гэтым разам Міндоўгу з яго натрэніраванай дружынай удалося не толькі адбіць рыцараў-мечаносцаў ад сцен Крывога горада, але і адкінуць ды выгнаць іх з абшараў Навагрудскай зямлі. Аднак ці надоўга? Ці не з'явяцца яны дзе-небудзь паблізу зноў? Можа, наступным разам нахабныя германцы акажуцца пад самім Навагрудкам? Гэтыя пытанні хвалявалі Міндоўга, прымушалі дзейнічаць рашуча і хутка.

## 2

Дадому Міндоўг вярнуўся ўстрывожаны. Бацька пачуваўся яшчэ горш. У 1230 годзе князь Маўкольд памёр.

Нашчадак полацкіх князёў, унук Расціслава Рагвалодавіча, трыццацігадовы Міндоўг стаў навагрудскім князем. Дагэтуль ён валадарыў на ўсходніх землях, стала жывучы ў Руце. Бацька аддзяліў яго, калі нашчадку споўнілася 18 гадоў. Да таго часу Міндоўг умеў практычна ўсё, валодаў рамёствамі, без цяжкасцей мог выкаваць з жалеза кінжал або неабходную гаспадарчую рэч. Не цураўся ён і сялянскай працы.

Перад ад'ездам у Руту Міндоўг узяў у жонкі Радмілу. З ёй княжыч спазнаў радасць жыцця і слодыч кахання. Праз некалькі год у іх нарадзіўся сын, якога назвалі Войшалкам. Пазней з'явілася дачка Любіца. Бацька пераважна займаўся дзяржаўнымі справамі і амаль не дбаў пра выхаванне дзяцей. Увесь час яны праводзілі з маці, якая разам з імі пачувалася шчаслівай і задаволенай.

Моцны фізічна, высокі, з мускулістымі плячыма і дужымі рукамі, Міндоўг шмат часу адводзіў баявым мастацтвам. Няспынныя трэніроўкі загартавалі яго цела. Лёс Міндоўга быў прадвызначаны — аберагаць Бацькаўшчыну ад ворагаў і пашыраць уладанні. З часам Міндоўг амаль дасканала авалодаў мячом і лукам, мог на адлегласці збіць праціўніка дзідай, бліскуча асвоіў прыёмы рукапашнага бою.

Узыходжанне Міндоўга на Навагрудскае княства сталася вызначальным для ўсёй зямлі. Новы валадар, адчуўшы цяжар адказнасці за лёс Бацькаўшчыны, паставіў амбіцыйную мэту — згрупаваць разрозненыя ўдзелы і асобныя дэцэнтралізаваныя землі ў адну моцную дзяржаву.

Вялікі князь набываў усё большы аўтарытэт. Досвед падказваў яму: «Толькі сілай можна ўтрымаць уладу і захаваць трон! Толькі дасягненне адзінства ўсіх гарадоў і зямель дасць шанец абараніць дзяржаву ад унутраных і знешніх ворагаў!»

Міндоўг энергічна разбудоўваў краіну. Абшары вакол Навагрудка, у вярхоўях Нёмана і ажно да Віліі, засялялі яго суродзічы — старадаўняе славянскае племя літва. Недзе ў пятым стагоддзі пад ціскам германцаў літвіны перасяліліся сюды. Асеўшы ў краі векавечных пушчаў, яны рупліва асвойвалі новыя землі, пашыралі арэал пражы-

вання. Іх паселішчы межавалі з землямі крывічоў, з якімі літвіны імкліва змешваліся. За сем прамінулых стагоддзяў славянскія плямёны асімілявалі балцкіх аўтахтонаў, якія там-сям мелі свае паселішчы. Нярэдка ў выніку сутычак з імі славяне наогул выцяснялі іх з занятых тэрыторый, далей — на паўночны захад. З часам у свядомасці ўсіх мясцовых людзей за рэгіёнам замацавалася назва — Літва.

Першай справай Міндоўг загадаў умацаваць сцены галоўнага горада дзяржавы — Навагрудка. Затым абнавілі абарончыя валы. Унутры горада ўзвялі новыя будынкі. Паступова Навагрудак набыў сапраўды прывабны выгляд, з'яўляючыся адначасова надзейнай крэпасцю.

Князь выдатна разумеў: каб абараніць уладанні ад знешніх ворагаў і зберагчы ўласны трон, неабходна паўсюль узводзіць гарады, умацоўваць рубяжы Бацькаўшчыны. Якраз з памежных гарадоў зручней наносіць удары па ворагах, адцясняць іх і, такім чынам, далей пашыраць межы дзяржавы.

Навагрудскі валадар неадкладна прыступіў да ўвасаблення ў жыццё абранай стратэгіі. Важным крокам на шляху ўмацавання межаў дзяржавы стала адбудова крэпасці на месцы колішняга Крывога горада.

Увесну 1231 года з арцеллю будаўнікоў-гароднікаў Міндоўг асабіста накіраваўся на поўнач краіны. Драўляны замак-крэпасць узвялі за адно лета. Новаму гораду далі найменне — Вільня, паводле назвы рачулкі Віленкі, якая ўпадала ў Вілію. Міндоўг размясціў тут найбольш моцны вайсковы гарнізон. Ён прагнуў помсты, гарэў жаданнем спыніць агрэсію мечаносцаў, правучыць іх як след, а можа, і наогул скарыць! Навагрудскі валадар інстынктыўна спасціг жорсткі закон жыцця: калі ворагі не адчуюць сілы — яны не супакояцца, зноўку нечакана нападуць.

Але трэба было выйграць час, набрацца сіл. Міндоўг актыўна рыхтаваўся, чакаючы зручнага моманту, каб пaквітацца з крыўдзіцелямі.

## 3

Навагрудскі валадар не губляў часу. У гарадах і мястэчках расстаўляў надзейных людзей, раздаваў распараджэнні, жорстка патрабаваў выканання загадаў. Правай рукой Міндоўга ва ўсіх справах быў Мірон — старэйшы брат жонкі Радмілы. Адчайны і мужны, ён з часам стаў ваяводам, галоўным военачальнікам Навагрудскай дзяржавы.

Прага моцнай улады з боку Міндоўга ішла, аднак, уразрэз з уладнымі жаданнямі шматлікіх князькоў-феадалаў. Ён добра ведаў многіх з іх. У 1219 годзе ва Уладзіміры яны разам заключалі пагадненне аб міры з уплывовым галіцка-валынскім князем Данілам Раманавічам. На той сустрэчы прысутнічалі князь Жывінбуд, князь Даўят, князі Рушкевічы і Булевічы — усяго больш за паўтара дзясятка знатных асоб.

Міндоўг неўзабаве сілай устанавіў сваю ўладу над Дайноўскім княствам, зямлёй яцвягаў. Затым ён падпарадкаваў Дзяволту, а ў яе галоўным горадзе Вількаміры пакінуў надзейны і добра ўзброены ахоўны гарнізон.

Адначасна ў Слоніме, Ваўкавыску і Гародні, а таксама на мяжы з яцвягамі абачлівы Міндоўг узводзіў надзейныя крэпасці. З іх было даволі зручна кантраляваць прылеглыя тэрыторыі і весці заваёвы новых земляў.

Найбольш вабілі Міндоўга багатыя нальшанскія землі. З вялікай дружынай ён пайшоў на Нальшаны, і тамтэйшы князь, не зважаючы на ваяўнічасць і прыроджаную ганарлівасць, мусіў прызнаць васальную залежнасць ад Навагрудка. Далучэнне, зноў жа, адбылося не па добрай волі. Але такой была няўмольная логіка часу, палітычныя норавы і звычаі.

Па краі хутка разнеслася чутка: Міндоўг сілай змушае скарыцца найбольш упартых і наравістых. Ён ні перад чым не спыняецца. Калі нехта з мясцовых князькоў не прысягае, не жадае прызнаваць яго ўлады, ён фізічна знішчае непрыяцеля і замест яго ставіць адданага чалавека.

Улада Міндоўга над краінай хутка пашыралася. Сакрэт поспеху заключаўся не толькі ў яго адпрыродных лідарскіх якасцях. На баку

Міндоўга былі простыя жыхары ўсіх земляў — земляробы, рамеснікі, гандляры. Людзі хацелі мець моцнага і валявога валадара, які ў выпадку патрэбы здолее абараніць іх, дапамагчы ў бядзе.

Міндоўг прыходзіў з мірам, адбудоўваў замкі і гарады. Праз пяць год пад яго ўладай апынуліся практычна ўсе землі і паселішчы ў Панямонні.

Навагрудскі валадар спрыяў рамёслам і дбаў пра развіццё гандлю. Ён загадаў вырабляць сярэбраныя зліткі-копы, якія выконвалі функцыю грошай на абшарах яго ўладанняў.

За плячыма Міндоўга стаяў магутны галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч, які выступаў надзейнай апорай ва ўсіх справах гаспадара Навагрудка. Як славянскі валадар Даніла Раманавіч лічыў сваім абавязкам дапамагаць суседу. Яго адгаворвалі дарадцы, але ён стаяў на сваім:

— Дапамагаць братам — мой святы абавязак! Міндоўг і яго народ — славяне па крыві, значыць, яны нашы суродзічы. Прыйдзе час — можа, і мне спатрэбіцца іх рука!

Нябёсы спрыялі навагрудскаму князю. Здавалалася, так будзе вечна і нішто не азмрочыць час яго княжання. Але ўпэўненасць і вера ў шчаслівую зорку пахіснуліся, калі Міндоўг узімку, падчас самай доўгай ночы, убачыў трывожны сон: пяць агромністых павукоў з вялізнымі вачыма, па восем у кожнага, пільна ўзіраліся ў яго. З розных бакоў яны былі гатовы накінуцца на яго, выпіць усю кроў да апошняй кроплі...

Міндоўг здрыгануўся, падхапіўся. Усім сэрцам ён адчуў набліжэнне бяды.

## 4

Пакуль што ўсё складвалася найлепшым чынам. Навагрудская дзяржава імкліва ўмацоўвалася, багацела. З князем Міндоўгам настойліва пачалі дабівацца хаўрусу жамойцкія князькі. Каб засцерагчыся ад германцаў, жамойты імкнуліся да шчыльнага саюзу з ім.

Асноўныя паселішчы жамойтаў пачыналіся якраз за Віліяй. Ужо колькі стагоддзяў славянскія плямёны жылі побач з імі. Здаралася ўсякае — і гандлявалі, і бралі міжсобку шлюбы, і, вядома, ваявалі.

Жамойты разумелі, што без паразумення і палітычнага саюзу з Міндоўгам яны незваротна згінуць пад ярмом зацятых мечаносцаў. Самы надзейны сродак атрымаць дапамогу ад навагрудскага князя ў выпадку неабходнасці — як найхутчэй парадніцца з ім.

Пасля настойлівых зваротаў Міндоўг пагадзіўся выдаць сястру Ружыцу замуж за жамойцкага князя Локіса. Дынастычны шлюб быў здзейснены, тым больш што Навагрудак таксама імкнуўся займець саюзнікаў, каб не дапусціць прамога ўварвання германцаў на ўласныя абшары.

Апрача таго, жамойцкім князькам, схільным да авантур і анархіі, звязваліся рукі, ставіўся заслон на шляху заключэння таемных хаўрусаў з мечаносцамі. Істотна змяншаліся пагрозы здрады з боку жамойтаў, якіх каталіцкія місіянеры ахрышчвалі, а затым нацкоўвалі на жыхароў Навагрудскай зямлі, што трымаліся старой веры.

Недзе праз год пасля шлюбу ў сям'і жамойцкага князя Локіса і Міндоўгавай сястры Ружыцы нарадзіўся сын. Яму далі імя Транята. Змалку ён не вылучаўся аніякімі здольнасцямі. Быў хударлявы, меў хваравіты выгляд.

Маці рабіла ўсё ад яе залежнае, але намарна. Транята, як падрос, стаў надта задзірысты і капрызны. У юнацкім узросце паводзіў сябе нахабна і агрэсіўна. Заўжды нейкі расхрыстаны, знерваваны і неахайны, ён гвалціў дзяўчат, здзекваўся з падданых і сялян, крыўдзіў рамеснікаў.

Знатныя асобы і простыя жамойты скардзіліся Локісу на ўчынкі Траняты. Але распусніку ўсё сыходзіла з рук. Ніхто не змог знайсці на яго ўправу.

Транята вырас з нянавісцю ў сэрцы — зайздрослівы і нахабны. Ён вызначаўся ўладалюбствам, пры кожнай нагодзе дэманстраваў уласную перавагу над іншымі. Прыдворныя пакутавалі ад яго жорсткасці і самаўпраўства. Можа, усё ішло ад таго, што ў Траняты былі замутнёныя вочы, колеру густога туману,— выразнае сведчанне прыроджанай прыдуркаватасці.

Падчас сутычак жамойтаў з немцамі-мечаносцамі Транята хаваўся за плечы іншых. З яго смяяліся, кпілі, але, як правіла, за спінай. Ніхто не хацеў мець непрыемнасцей.

У сваёй большасці жамойцкія мужчыны адрозніваліся стрыманасцю і настойлівасцю, былі працавітыя, упартыя і надзвычай вынослівыя. Транята ж аказаўся звычайным вырадкам.

## 5

Сын Міндоўга Войшалк рос у свеце мрояў. Змалку ён быў ціхмяным і задуменным. Яго маці — надзвычай спагадлівая і мяккая жанчына — не магла нацешыцца з хлопчыка. Шчырая хрысціянка, яна ведала мноства малітваў і царкоўных песнапенняў. Калі Войшалк падрос, яна брала яго з сабой у царкву, паступова прывучыла да рэлігійных абрадаў, растлумачыла сутнасць царкоўных святаў. Менавіта маці выхавала ў Войшалку пачуцці хрысціянскай любові і шанавання чалавека.

Хлопчык рана пачаў задумвацца над таямніцамі і цудамі прыроды. Яго цікавіла, чаму на зямлі існуе незлічонае мноства раслін і жывых істот, адкуль усё з'явілася. Асабліва хвалявала яго дапытлівы розум пытанне, хто жыве на Сонцы і Месяцы.

У 1235-м Войшалку споўнілася 12 год. Ён больш за ўсё любіў чытаць кнігі. Яго вабіў свет разважанняў, думак пра чалавека і сусвет. Хлопчыку карцела ведаць, чаму ідзе дождж. Адкуль бяруцца хмары? Куды цякуць рэкі? Дзе знаходзіцца край свету? Чаму дзьме вецер і адкуль ён бярэ сваю сілу? На ўсе пытанні ён шукаў адказы ў кнігах, але многае для яго заставалася незразумелым.

З часам Войшалк зразумеў: яму, сыну князя, давядзецца ў жыцці часцей выяўляць, чым жыць у свеце кніг і думак. Аднаго разу, седзячы пад вязам на ўзгорку, ён убачыў, як у небе б'юцца дзве птушкі — коршун і воран. Яны па чарзе ўзляталі і атакавалі, білі клювамі адзін аднаго з усёй сілы. Войшалка незвычайна ўразіла ўбачанае: «Што яны маглі не падзяліць? Няўжо ім не хапае месца ў бяскрайніх нябёсах?

Відаць, так упарадкавана ў прыродзе, дзе кожны імкнецца сцвердзіцца за кошт іншага. Але так не павінна быць сярод людзей, бо чалавек не птушка і не агрэсіўная жывёліна!»

Чысты сэрцам, Войшалк шчыра верыў у тое, што людзей можна навучыць добрым норавам, стрымаць гнеў у іх душах, наогул спыніць зло ў свеце.

У царкве Войшалк чуў, што пасля смерці душы людзей трапляюць у пекла, якое недзе пад зямлёй, ці ў рай, што знаходзіцца высока ў нябёсах. Куды трапіць душа — залежыць ад зямных учынкаў чалавека.

Войшалк дужа хацеў спасцігнуць усе загадкі прыроды, авалодаць таямніцамі кніжнай мудрасці. Ён неверагодна прагнуў узняцца над штодзённасцю, стаць вышэй і мудрэй.

Калі юнаку споўнілася шаснаццаць, ён пачаў марыць пра далёкія падарожжы ў дзівосныя краіны. Надта ж хацелася даведацца пра шырокі свет. Ён імкнуўся на свае вочы ўбачыць салёнае мора, пра якое шмат чуў ад сталых купцоў.

І яшчэ княжыч прагнуў кахання — светлага і чыстага. Усё здарылася нечакана. На беразе возера, куды ён улетку прылятаў вярхом на кані, каб паплаваць, юнак спаткаў высокую чарнявую дзяўчыну па імені Ясна — дачку заможнага каваля-збройніка. Войшалк не мог адвесці ад яе вачэй, іскрысты смех дзяўчыны прымушаў трапятаць яго сэрца. Яна здавалася яму сонцам і зорамі, найпрыгажэйшай краскай усяго свету!

Войшалк жыў чаканнем спатканняў з Яснай, гатоў быў служыць ёй да канца жыцця, быць з ёю вечна. Юнака неверагодна ўразіла, што Ясна без пярэчанняў і капрызаў, нават з ахвотай дазволіла пацалаваць яе ў вусны. Пры наступных сустрэчах ён бясконца абдымаў яе, яго сэрца замірала падчас працяглых пацалункаў. Юнак быў перакананы: нічога ў свеце даражэй за яе ў яго не будзе. Ён гатовы быў насіць Ясну на руках, услаўляць да нябёсаў. Дзяўчына адказвала ўзаемнасцю і, як ён адчуў, згаджалася на ўсё. Але Войшалк настолькі захапляўся Яснай, што не ўяўляў фізічнай блізкасці з ёю.

Празмерная закаханасць, нерашучасць і сарамлівасць дорага каштавалі Войшалку. У наступным годзе бацька выдаў Ясну замуж за купецкага сына з суседняга паселішча. Дзяўчына не адмовілася і без пратэстаў стала жонкай іншага.

Войшалк ціха перажыў боль. З часам усё забылася, але сум і расчараванне нікуды не зніклі. Пазней ён чуў, што Ясна нарадзіла дзіцё. Але плынь жыцця панесла Войшалка сваім шляхам і ён больш ніколі не сустракаўся з каханнем свайго юнацтва.

## 6

Германскі магістр Фольквін фон Вінтэрштатэн пачуваўся надзвычай упэўнена. Пад яго кіраўніцтвам Брацтва воінаў Хрыста агнём і мячом усталёўвала на акупаваных землях жалезную дысцыпліну і новы парадак.

Пачынаючы з 1209 года, калі Фольквін фон Вінтэрштатэн заняў месца абезгалоўленага Віна фон Рорбаха — першага магістра мечаносцаў,— справы пайшлі значна шпарчэй. Разам з епіскапам Альбертам 20 кастрычніка 1210 года ён атрымаў ад Папы Рымскага Інакенція III дабраславенне на поўнамаштабную дзейнасць Ордэна, што на практыцы азначала яго сапраўднае зацвярджэнне і дазвол на падзел Лівоніі і Семігаліі.

Магістр настойліва і метадычна захопліваў новыя абшары, якія належылі аўтахтонам, што спакон веку жылі на берагах Варажскага мора. На заваяваных тэрыторыях, на месцы паселішчаў карэнных жыхароў, узводзіліся мураваныя крэпасці. Сваёй галоўнай рэзідэнцыяй магістр зрабіў Вендэнскі замак[1]. Асабліва цешыўся Фольквін фон Вінтэрштатэн заваёвай у 1224 годзе горада Юр'ева, які абараняў князь Вячка. Пасля працяглай аблогі крэпасці амаль увесь гарнізон быў знішчаны. Магістр быў задаволены: нарэшце ўдалося забіць грознага князя Вячку — галоўнага ворага германцаў.

За кароткі час заваёўнікі завалодалі велізарнай тэрыторыяй. Частка зямель заставалася ва ўладзе Ордэна мечаносцаў, астатнія перадаваліся ва ўласнасць каталіцкіх епіскапаў — рыжскага, эзэльвікскага, дэрпцкага і курляндскага. Магістр і каталіцкія біскупы, у

---

[1] Цяпер знаходзіцца ў Латвіі, каля горада Цэсіс, за 90 км на паўночны ўсход ад Рыгі.

сваю чаргу, раздавалі здабытыя землі рыцарству і духавенству, якія няшчадна эксплуатавалі і рабавалі мясцовае насельніцтва.

Папа Рымскі і імператар Святой Рымскай імперыі Фрыдрых II усяляк ухвалялі дзейнасць магістра і выказвалі задаволенасць поспехамі Ордэна мечаносцаў. У 1226 годзе імператар афіцыйна зацвердзіў за мечаносцамі права на іх уладанні. Пасля захопу рыцарамі выспаў Саарэмаа і Муху Папа Рымскі Ганорый III у 1227 годзе звярнуўся да ўсіх славянскіх князёў, «каралёў рускіх» з патрабаваннем-ультыматумам — не перашкаджаць германцам у іх місіянерскай дзейнасці.

Значнай уласнай заслугай магістр лічыў падпарадкаванне эстаў. У 1230-м, паводле дамовы з Ордэнам мечаносцаў, датчане перадалі яму значную частку заваяваных зямель эстаў. Яны кантралявалі іх з 1217 года, калі дацкі кароль Вальдэмар II высадзіўся на берагах паўночнай Эстландыі, захапіў землі эстаў і заснаваў крэпасць Рэвель[1].

Заходнія валадары пачуваліся вельмі ўпэўнена. На захопленых землях германцы за кароткі тэрмін узвялі блізу дзесяці крэпасцей. Магутныя мураваныя фарпосты атрымалі пагрозлівыя назвы: Марыенвердэр, Рагніт, Тыльзіт, Велау, Георгенбург, Дурбен, Кандау і Велун. Яны сталі цэнтрамі каланізацыі і няшчаднай эксплуатацыі новых тэрыторый.

Неўзабаве яшчэ адна моцная групоўка германцаў, якія называліся тэўтоны, пачала наступ на землі прусаў. На адваяваных тэрыторыях яны пабудавалі непрыступны замак Бальга. Прусы, у венах якіх таксама цякла кроў крывічоў, самі, аднаасобна, не маглі адбіць германцаў. Яны звярталіся па дапамогу да суседзяў, з надзеяй слалі ганцоў да Міндоўга.

Нахабства германцаў даўно выклікала занепакоенасць Міндоўга, а іх наступ на прусаў цалкам пазбавіў яго раўнавагі, змусіў прыняць канчатковае рашэнне — гальванізаваць падрыхтоўку да вайны з германскімі захопнікамі.

Немцы між тым, працягваючы напады, нішчылі святыні прусаў. Жрацы прусаў, якія насілі славянскае найменне — крыве (крывейты),—

[1] Цяпер — горад Талін.

разам са старэйшынамі родаў арганізоўвалі супраціўленне. Аднак спыніць агрэсію тэўтонаў, якім да таго ж дапамагалі палякі, не маглі.

На поўначы і захадзе Навагрудскай дзяржавы выбудоўваўся цвёрды мур, паўставала смяротная пагроза славянскім інтарэсам на ўзмор'і.

Міндоўг выразна адчуваў, як на яго зямлю насоўваецца чорная хмара.

## 7

Рэальная пагроза над дзяржавай Міндоўга навісла літаральна праз некалькі год. Куршы, лівы, жамойты, латгалы, селы і земгалы амаль безупынна дасылалі ў Навагрудак ганцоў, якія з трывогай паведамлялі пра новыя захопы іх земляў германцамі. Ад імя старэйшын пасланцы слёзна прасілі аб дапамозе, бо самастойна не маглі абараніцца ад мечаносцаў.

У паняволеных народаў заставалася усё менш і менш надзей на выратаванне. Людзі гінулі, як мухі. Больш за два дзесяцігоддзі яны спрабавалі са зброяй у руках змагацца з мечаносцамі за ўласную незалежнасць. 12 ліпеня 1210 года адважныя куршы здзейснілі напад на Рыгу. У 1228 годзе, аб'яднаўшыся з земгаламі, яны разбурылі Даўгаўрыеўскі манастыр. У знак помсты нямецкія рыцары ўварваліся ў Курсу і спустошылі землі куршаў, у выніку чаго там пачаўся страшэнны голад.

Валадар Навагрудскай дзяржавы добра разумеў, што мае няшмат часу на падрыхтоўку да вайны з германцамі. Рана ці позна давядзецца ўступіць у адкрыты канфлікт з агрэсіўнымі рыцарамі — мечаносцамі і тэўтонамі.

Міндоўг дбаў пра ўласную карысць. Ён разлічваў не толькі патрушчыць германцаў, але і ўсталяваць кантроль над балцкімі плямёнамі, каб збіраць з іх даніну ў сваю казну. Ён імкліва ўмацоўваў дзяржаву і рыхтаваў войска.

Пры двары Міндоўга з радасцю ўспрынялі весткі пра разгром наўгародскім князем Яраславам Усеваладавічам у 1234 годзе войска

мечаносцаў на рацэ Амоўжы. Перамога суседзяў над германцамі абнадзейвала і акрыляла Міндоўга: «Значыць, мечаносцы ніякія не асілкі, а тым больш — не багі. Яны звычайныя людзі, іх можна смела біць і перамагаць!»

Натхнёны прыкладам Ноўгарада Вялікага, Міндоўг у 1236 годзе рашыўся на буйны паход супраць мечаносцаў. Ядро яго войска склалі славяне — харугвы з гарадоў Падзвіння, Прыдняпроўя і Прынямоння.

На чале аб'яднанага войска Міндоўг выступіў з Навагрудка ў напрамку Вільні. Там крыху адпачылі, папоўнілі запасы і рушылі далей. Без прымусу і ўгавораў да славянскіх харугваў далучаліся конныя аддзелы ад ўсіх балцкіх народаў. Яны не прымалі германскага валадарання і гатовыя былі прынесці любыя ахвяры, каб толькі вызваліцца з няволі.

Германскае войска ўзначальваў вялікі магістр Ордэна мечаносцаў — Фольквін фон Наўмбург. На яго баку выступалі ахрышчаныя прадстаўнікі заваяваных плямён. Таксама ў германскае войска ўлілося блізу двухсот пскоўскіх воінаў, якія разам з Ордэнам мечаносцаў пайшлі на Навагрудскую дзяржаву.

Вялікая бітва адбылася 22 верасня 1236 года пры мястэчку Саўле[1]. У смяротнай і вырашальнай бітве сышліся дзве грозныя сілы. Міндоўг прагнуў перамогі, канчатковага знішчэння ворага. Крывавая сеча доўжылася ўвесь дзень. Біліся адчайна. Ніхто не думаў пра страты, бо на кон было пастаўлена самастойнае жыццё, воля і захаванне ўлады.

Славянскія войскі пад кіраўніцтвам Міндоўга і пры падтрымцы балцкіх харугваў ушчэнт разграмілі закутых у жалеза тупагаловых мечаносцаў і іх хаўруснікаў. Ворагі атрымалі па заслугах. На полі бітвы загінуў вялікі магістр і склалі галовы 48 рыцараў. Сотні нямецкіх пешых воінаў, а таксама 180 пскоўскіх аматараў прыгод былі знішчаны падчас сечы.

Пасля паразы пры Саўле Ордэн мечаносцаў спыніў сваё фактычнае існаванне як самастойная вайскова-палітычная адзінка. Яго рэшткі ўліліся ў склад Тэўтонскага ордэна. Праўда, магістр тэўтонаў,

---

[1] Цяпер — горад Шаўляй.

не забываючыся на стратэгічную мэту германцаў — рухацца далей, на славянскія гарады і землі,— амаль адразу стварыў на рэштках разгромленага Ордэна мечаносцаў новую, падуладную яму арганізацыю рыцараў — Лівонскі ордэн.

Не зважаючы на спробы германцаў аднавіць колішнюю моц, Міндоўг пачуваўся пераможцам. Значная частка куршаў, ліваў, жамойтаў, селаў, земгалаў і эстаў, якім ён дапамог пазбавіцца германскага ярма, прысягнула яму на вернасць і пагадзілася плаціць даніну Навагрудку.

## 8

З перамогай над германцамі пры Сауле выпрабаванні Міндоўга не скончыліся. Прадажны польскі князь Конрад I Мазавецкі, каб задаволіць уласныя палітычныя амбіцыі, распачаў шчытнае супрацоўніцтва з Тэўтонскім ордэнам. З-за бесхрыбетнасці і бязглуздасці палякаў тэўтоны неўзабаве занялі правы бераг Віслы і імкліва рухаліся далей. Каля 1230 года Конрад I Мазавецкі перадаў пад уладу агрэсіўных тэўтонаў Хелменскую зямлю.

Палітычны альянс палякаў з магістрам Германам фон Зальца стаў апошняй кропляй цярпення навагрудскага валадара. Міндоўг накіраваў паслоў да галіцка-валынскага князя Данілы Раманавіча з прапановай супольна выступіць супраць хцівага польскага валадара Конрада I Мазавецкага, належным чынам правучыць яго.

Міндоўг аператыўна сфарміраваў войска ў колькасці каля трох тысяч вояў. Недзе столькі ж налічвала дружына Данілы Раманавіча. У сакавіку 1238 года яны ўжо стаялі пад Драгічынам — колішнім галоўным паселішчам протабеларускага племя дрыгавічоў. Нізінная мясцовасць крыху бянтэжыла дружыну і ваяводу. Але асада горада працягвалася нядоўга. Баявыя здольнасці войска Міндоўга былі надзвычай высокія. Навагрудскі князь асабіста кіраваў штурмам горада.

Драгічын узялі без цяжкасцей. Германскага рыцара Бруно, які кіраваў гарнізонам, захапілі ў палон. З ім доўга не цырымоніліся. На

другі дзень на галоўнай плошчы горада, на вачах усіх жыхароў, ашалелага ад страху крыжака пасадзілі на кол. Простых германцаў павялі ў палон, каб выкарыстоўваць у цяжкіх працах.

Значная частка Драгічынскай зямлі, пераважна на поўначы і ўсходзе, перайшла пад уладу Міндоўга. Горад Драгічын, паводле дамовы, дастаўся Данілу Раманавічу.

Пасля кароткага адпачынку на беразе Драгічынскага возера, дзе дружыннікі паілі і чысцілі коней, войска Міндоўга прадоўжыла паход. Рушылі далей, на захад. Адбылося некалькі кароткіх сутычак з палякамі. Ваяры Конрада І Мазавецкага аказаліся надта палахлівымі і не вельмі ўмелымі воінамі, яны ўцякалі з поля бітвы ледзьве не адразу пасля яе пачатку.

Конрад І Мазавецкі зразумеў, які лёс чакае асабіста яго і ўсё Мазавецкае княства ў выпадку далейшага хаўрусавання з агрэсіўнымі тэўтонамі.

Пасля трыумфальнага паходу на палякаў Міндоўг доўга адпачываў у Бярозе і Зэльве, а затым скіраваўся дадому. У Навагрудку князя-пераможцу сустракалі вясёлымі спевамі. Шчаслівы горад святкаваў вяртанне валадара з багатай здабычай. Стомленыя, але задаволеныя дружынікі прывезлі шчодрыя падарункі сваім жанчынам, за што атрымлівалі заслужаныя ўзнагароды.

## 9

У 1238 годзе Міндоўг з розных куткоў атрымліваў данясенні, поўныя трывогі і страху. На спрадвечныя землі ўсходніх славян уварваліся ардынцы. Тры велізарныя тумены, якімі кіравалі чынгізіды Батый і Кадан, а таксама военачальнік Субэдэй, імкліва захоплівалі гарады і княствы.

Шалёнае гіканне стэпавікоў-наезнікаў разносілася па абжытых славянскіх абшарах. Пяцісоттысячная арда разбурыла Разанскае княства і Уладзіміра-Суздальскую зямлю. У 1239 годзе пад іх уладай апынулася Чарнігаўскае княства, гарады Пуціўль, Рыльск, Глухаў, Гомель, а таксама безліч мястэчак і вясковых паселішчаў.

Батый пачуваўся гаспадаром свету. Унук Чынгісхана, сын Джучы, ён у 1227 годзе стаў валадаром велізарных абшараў — Кіпчацкага стэпу, Харэзма, Крыма і часткі Каўказа. Невысокі, з пузам і кароценькімі тлустымі пальцамі, ён здаваўся дабрадушным дзядком. Падчас гаворкі дэманстраваў спагадлівасць да субяседніка, выяўляў знешні клопат пра яго. А калі васал ад'язджаў, загадваў падначаленым усяляк зневажаць яго. Скораныя гарады і княствы Батый душыў непамернымі падаткамі.

5 верасня 1240 года Батый і Субэдэй асадзілі Кіеў. Тысяцкі Дзімітр, які ўзначаліў абарону горада, слаў да Міндоўга ганцоў, маліў аб дапамозе. Але як дапаможаш, калі на самога павярнуў велізарны тумен Кадана?!

Зусім маленькі і худы Кадан, якога мясцовыя людзі назвалі на свой лад — Койдан,— вынішчаў усё, што траплялася яму пад руку. Агрэсія, нянавісць і людажэрнасць з'яўляліся праявай яго дзікай прыроды.

Міндоўг склікаў сход князёў-васалаў. Ніхто не выявіў маладушша. Пастанавілі біцца з Ардой насмерць. Неўзабаве войска Навагрудскай зямлі і саюзнікаў выступіла насустрач ардынцам.

Восенню 1240 года за Мазыром, на рэчцы Акунёўцы, адбылася вырашальная бітва. Міндоўг ужыў супраць стэпавікоў адмысловую тактыку. Яго капейнікі сталі ўперадзе і, калі варожая харугва, нібы лава, наблізілася, адступілі за надаўбы — востраканечныя бярвёны, закапаныя ў зямлю. Коні ардынцаў траплялі на вострыя палі і каналі. У гэты момант капейнікі контратакавалі. Шмат ардынскіх вершнікаў загінула. Затым пайшла ў атаку цяжка ўзброеная конніца Міндоўга. Напалоханыя і дэзарганізаваныя ардынцы не вытрымалі націску і кінуліся наўцёкі.

Наёмнікі з заваяваных народаў, якіх хан без разбору кідаў у бітву, не ўяўлялі сур'ёзнай небяспекі. Іх было безліч, нібы саранчы, але яны не мелі ні якаснай зброі, ні належнай вайсковай арганізацыі.

Міндоўг доўга гнаў ардынскага хана Кадана. Уцекачоў няшчадна seклі мячамі, білі кісцянямі. Шмат ворагаў трапіла ў палон.

Дзікім стэпавікам быў закрыты шлях на абшары Навагрудскай дзяржавы якраз у той час, калі яны ўяўлялі найбольшую пагрозу.

Палонных людзей Кадана навагрудскі валадар распарадзіўся пасяліць каля Крутагор'я[1]. Ім далі зямлю, каб яны маглі жыць і працаваць.

Міндоўг не паспеў прыйсці на дапамогу Кіеву. 6 снежня 1240 года Батый і Субэдэй штурмам авалодалі горадам. Захоп Кіева стаў нечуванай бядой, катастрофай для славян.

Навагрудскага валадара па-ранейшаму непакоіла, каб ардынцы зноў не пайшлі на яго. Ён рыхтаваўся з усіх сіл. Неба злітасцівілася над Навагрудкам: Арда рушыла на захад. Неўзабаве ардынцы захапілі горад Уладзімір — сталіцу магутнага Галіцка-Валынскага княства. Некалі саманадзейны і пыхлівы князь Даніла Раманавіч папросту збег. Спачатку ён схаваўся ў Венгрыі, а пазней перабраўся ў Польшчу, дзе жыў пэўны час пры двары Конрада I Мазавецкага.

Спыніць войскі Батыя, Кадана і Субэдэя больш нікому не ўдалося. У наступныя гады ардынцы разграмілі Польшчу і Венгрыю, нават рыхтаваліся да вырашальнай бітвы з імператарам Святой Рымскай імперыі Фрыдрыхам II. Толькі раптоўная смерць хана Угедэя прымусіла Батыя з войскам вярнуцца на Ніжнюю Волгу, якая стала асяродкам улуса Джучы.

## 10

Міндоўг гарэў адзіным жаданнем — неадкладна вызваліць усходнеславянскія землі і княствы ад ардынскага іга. Ён выразна ўсведамляў, што барацьба з дзікай Ардой можа зацягнуцца на гады і дзесяцігоддзі. Але выбару не было. Без знішчэння ардынскай навалы — шчаслівага жыцця не відаць! Арда увесь час будзе небяспекай яго трону і ўсёй краіне.

Дарадцы настойліва раілі князю першай справай схіліцца да праваслаўнай веры. Паводле іх меркавання, такі крок спрашчаў вырашэнне задачы, істотна павялічваў шанцы на кансалідацыю славянскіх народаў

[1] Відаць, з таго часу мястэчка атрымала назву Каданава, або Койданава. Цяпер — Дзяржынск.

і княстваў вакол Навагрудка. Міндоўг пагадзіўся. Усе сродкі прыдатныя, абы толькі здужаць ардынцаў, дарэшты вынішчыць нечысць!

Для хрышчэння ў праваслаўную веру Міндоўг абраў Віцебск. Улетку 1241 года князь з атачэннем прыбыў у горад на Дзвіне.

Абрад прыняцця праваслаўя праходзіў у велічным мураваным храме, пабудаваным архітэктарамі з Візантыі. Светлы сакральны будынак на левым беразе Дзвіны нібы чакаў сустрэчы з Міндоўгам.

У царкве на ўрачыстай цырымоніі знаходзіўся тагачасны гаспадар Віцебска — князь Ізяслаў Брачыславіч, а таксама намеснікі Міндоўга з усіх гарадоў Княства.

Пасля завяршэння абраду навагрудскі валадар правёў нараду. Яго зварот да военачальнікаў быў кароткім, але гранічна канкрэтным.

— Галоўная задача,— даводзіў Міндоўг,— захаваць уладу над землямі ўздоўж Дзвіны і Дняпра, Нёмана і Прыпяці. Гэта наша жыццёвая прастора. Трэба паўсюль, дзе можна, будаваць крэпасці, узводзіць новыя гарады! Прыйшоў час вяртаць захопленыя германцамі землі. Яны спакон веку належалі нашым продкам! Мы не павінны далей абыякава глядзець на тое, як ардынцы рабуюць гарады і княствы на ўсходзе! Трэба гуртаваць сілы і рыхтавацца да вырашальнай бітвы з імі!

Намеснікі і васалы ківалі ў знак згоды. Пасля Міндоўга гаварыў ваявода Мірон. Ён выказваў клопат пра неабходнасць дадатковага ўзбраення гарнізонаў, найперш тых, якія размяшчаліся ў памежных гарадах.

## 11

Заходнія агрэсары не збіраліся адмаўляцца ад захопніцкіх планаў. Не прайшло і дзесяці гадоў пасля бітвы пры Саўле, як германцы зноў пачалі няшчадна рабаваць паселішчы куршаў. Мясцовыя феадалы аказвалі супраціўленне, але не мелі дастаткова сіл, каб самастойна перамагчы Лівонскі ордэн. Старэйшыны куршаў зноў звярнуліся да Міндоўга з просьбай абараніць іх ад сквапных захопнікаў.

У пачатку 1244 года Міндоўг пайшоў на Амбатэн[1]. Старажытнае паселішча куршаў, якое на іх мове да германскага захопу называлася Эмбутэ, месцілася ў цудоўным кутку, якраз там, дзе рэчка Ланка ўпадала ў Дзвіну.

Дружыннікі Міндоўга, загартаваныя ў ранейшых сечах, прагнулі хуткай перамогі і багатай здабычы. У складзе войска было таксама некалькі дзясяткаў напаўпрафесійных коннікаў, пераважна маладых людзей, што шукалі вайсковых прыгод. Яны мелі ўласных коней, зброю — у асноўным сякеры — і сякі-такі вайсковы досвед.

Замыкаў войска абоз. Там везлі харчаванне і фураж, а галоўнае — розныя прыстасаванні і адмысловыя прылады, загадзя падрыхтаваныя майстрамі-збройнікамі для ўзяцця замкаў і крэпасцей.

Міндоўг разлічваў на лёгкую перамогу над германцамі.

Праз некалькі дзён войска ўвайшло ў азёрны край. Прамінулі Мядзел, зрабілі непрацяглы адпачынак у Браславе, а затым імкліва рушылі на Амбатэн.

Міндоўг акружыў замак і некалькі тыдняў трымаў у аблозе. Горад неаднаразова спрабавалі штурмаваць, але безвынікова.

Лівонскі магістр Генрых фон Хэймбург накіраваў на выратаванне крэпасці добра ўзброенае войска. Дапамога прыйшла акурат у момант вырашальнага штурму горада. Міндоўг страціў звыш 1500 воінаў. Германцы атакавалі, адкінулі войска, захапілі абоз. Раструшчанае і дэзарганізаванае войска Міндоўга паспешліва адступала. Крыжакі доўга гналіся следам.

Нарэшце, Міндоўг схаваўся ў Ашмянах, а крыжакі з-за нейкіх прычын адступілі. Няйнакш нейкія пільныя справы змусілі іх вярнуцца назад.

Навагрудскі валадар добра засвоіў урок, дадзены германцамі. Выхад да Варажскага мора для яго аказаўся закрытым.

З сумам Міндоўт вярнуўся дадому. Яго жонка — княгіня Радміла — моцна хварэла. Яна аддалілася ад княжацкага двара, усё больш займалася духоўнымі справамі, жыла царкоўнымі клопатамі, дбала пра ўбогіх і нямоглых. Неўзабаве яна пайшла з жыцця. Войшалк і Любіца доўга сумавалі па маці, яны пачуваліся адзінокімі і пакінутымі.

---

[1] Цяпер — Даўгаўпілс у Латвіі.

## 12

Пасля крывавых бітваў з германцамі і ардынцамі Міндоўг усё часцей скіроўваў погляд на ўсход. Яму карцела як найхутчэй абараніць ад ардынскіх здзекаў і рабаўніцтва братоў-славян, узяць пад сваё крыло землі Ноўгарада Вялікага, а таксама Растова-Суздальскае, Чарнігаўскае, Бранскае і Разанскае княствы.

Адказную місію Міндоўг даручыў братанічу Таўцівілу і некалькім военачальнікам. Паводле стратэгіі навагрудскага валадара, яны мусілі не толькі аберагаць землі Полацкага, Віцебскага і Смаленскага княстваў, але і ўсталяваць кантроль над усходнімі абшарамі, даастатку выгнаць ханскіх баскакаў з усіх славянскіх гарадоў.

Таўцівіл з дружынай першым прыбыў у Полацк. Тамашні князь Брачыслаў Полацкі, даведаўшыся пра набліжэнне стаўленіка Міндоўга, збег у Вялікі Ноўгарад, да свайго зяця Аляксандра Яраславіча Неўскага. Яшчэ ў 1239 годзе валадар Ноўгарада Вялікага ажаніўся з прыгажуняй палачанкай Аляксандрай. Вяселле згулялі ў Тарапцы.

Таўцівіл увайшоў у Полацк і стаў там княжыць. Ён хутка навёў парадак. Заможныя гаспадары своечасова забяспечылі новага князя ўсім неабходным, прыгналі табун пародзістых коней для княжацкай дружыны.

Ціхага і спакойнага жыцця, аднак, не атрымалася. Міндоўг загадаў Таўцівілу збіраць войска і ісці на ўсход, вызваляць славянскія гарады і княствы ад ардынскай залежнасці. 25-гадовы Таўцівіл — дужы, стрыманы і ўпэўнены ў сабе — усё ж пабойваўся Міндоўга. Ён добра памятаў, што адбылося з тымі, хто пярэчыў волі навагрудскага валадара.

На ўсходзе гаспадарыў Аляксандр Яраславіч Неўскі, які жорстка кантраляваў усходнеславянскія абшары і надзейна забяспечваў інтарэсы Арды. Да таго часу ён праявіў сябе як бліскучы военачальнік, спыніў агрэсію немцаў, ачысціў ад іх землі Вялікага Ноўгарада. Урэшце, 5 красавіка 1242 года Аляксандр Неўскі разбіў тэўтонаў на Чудскім возеры і цалкам вызваліў Пскоў. Ваяваць з такім сапернікам было не простай задачай.

Міндоўга не напалохалі заслугі Аляксандра Неўскага. Паводле яго загадаў, харугвы Віцебскага, Полацкага і Смаленскага княстваў, на чале з Таўцівілам, пачалі здзяйсняць вайсковыя рэйды на ўсход.

Неверагодна глыбокі і асабліва рызыкоўны паход Таўцівіл ажыццявіў у 1245 годзе. Войска выступіла з Віцебска, прайшло праз Усвяты, дзе спынялася на адпачынак. Таўцівілу ўдалося захапіць і абрабаваць буйныя гарады — Тарапец, Таржок і Бежацк[1]. Пра свае вайсковыя поспехі ён з радасцю паведамляў Міндоўгу.

Аляксандр Неўскі адбіў напад Таўцівіла. У хуткім часе ён вярнуў пад сваю ўладу Тарапец. У адкрытай бітве Аляксандр Неўскі забіў восем князёў, а астатніх дагнаў і пасек каля Жыжыцкага возера.

Каб супрацьстаяць Міндоўгу і не прапусціць Таўцівіла з войскам далей, на паўночны ўсход, Аляксандр Неўскі ўзвёў некалькі крэпасцей на рацэ Шэлоні. Такім чынам, ён закрыў Міндоўгу шлях на землі Вялікага Ноўгарада.

Але ў Ардзе хацелі іншага. Там патрабавалі не абароны ад Міндоўга, а яго канчатковага разгрому. Неўзабаве бацьку Аляксандра Неўскага — Яраслава Усеваладавіча — выклікалі ў Арду і там 30 верасня 1246 года атруцілі.

## 13

Прэтэнзіі Міндоўга на ўсходнеславянскія землі катэгарычна не падзялялі галіцка-валынскія князі. Яны знаходзіліся ў поўнай залежнасці ад ардынцаў і вымушаны былі ўсяляк выслужвацца перад імі. У 1245 годзе Даніла Раманавіч наогул прысягнуў Ардзе на вернасць.

Галіцка-валынскія князі — браты Васілька Раманавіч і Даніла Раманавіч — неўзабаве адкрыта выступілі супраць Міндоўга. Узімку 1246—1247 года яны здзейснілі буйны вайсковы паход на землі Навагрудскай дзяржавы.

Каб абараніць уласныя ўладанні, Міндоўг з адборным войскам выступіў насустрач. Ішлі хутка, для кароткіх адпачынкаў спыняліся ў Баранавічах, Целяханах і Лагішыне. У Пінску да Міндоўга далучыліся дружыны з паўднёвых тэрыторый Княства. Імі кіраваў князь Міхаіл Пінскі.

---

[1] Цяпер — Цвярская вобласць.

Сеча адбылася за рэчкай Пінай. Біліся адчайна. З абодвух бакоў палегла шмат дружыннікаў і наёмнікаў. Міндоўг адкінуў галіцка-валынскіх князёў, але і яго войску быў нанесены значны ўрон.

Пасля бітвы пад Пінскам Міндоўг пачуваўся вельмі кепска. Ён разумеў бессэнсоўнасць змагання з колішнім саюзнікам Данілам Раманавічам. Але іншага выйсця не было. Даніла Раманавіч і яго сям'я трапілі ў залежнасць ад Арды. Яны служылі ворагам, выступалі на баку ардынцаў, значыць, з імі трэба біцца насмерць!

Саслаблены навагрудскі валадар вярнуўся дадому, дзе яго чакала другая жонка Марфа. З юнацкіх гадоў Марфа — дачка заможнага віцебскага купца — добра спасцігла сакрэты жаночай прыгажосці, ведала, чым завабіць мужчыну, як прываражыць да сябе. Яна прамянілася чароўным святлом, прыцягвала непаўторнай магіяй жаноцкасці. Спрактыкаваныя служанкі рыхтавалі для яе, паводле старадаўніх рэцэптаў, мядовыя і малочныя мазі. Так яна аберагала скуру ад зморшчын і старэння.

Марфа цудоўна ведала галоўнае — для захавання здароўя і жаночай прывабнасці неабходна добра высыпацца. Не падхопліваццa надта рана з ложка, а дачакацца пакуль сонца ўздымецца высока над зямлёй. Яна добра харчавалася, рэгулярна ўжывала надзвычай карысныя для здароўя арэхі, моркву, часнок, піла крынічную ваду. Старалася менш хваляваццa, апранала зручнае адзенне і насіла мяккі абутак, у якім нагам было цёпла і камфортна.

Марфа любіла Міндоўга. Калі ён вяртаўся дадому, яна шчодра залівала яго промнямі кахання. Міндоўг нібы лётаў у нябёсах, пачуваўся па-сапраўднаму шчаслівым. Яе пацалункі, дотыкі мяккіх рук прыносілі невымоўную асалоду і наталенне целу.

Калі Міндоўг з дружынай ад'язджаў, Марфа ахвотна займалася доглядам дома, кіравала вялікай княжацкай гаспадаркай. Яна авалодала майстэрствам вязання і шытва, выраблялa прыгожыя сукенкі і кашулі, цёплыя рукавічкі ды іншыя рэчы.

Асабліва апантана Марфа займалася кулінарыяй. Прыгатаванне страў з'яўлялася яе стыхіяй. Назіраць за тым, як яна выраблялa разнастайныя мясныя, рыбныя, грыбныя і мучныя прысмакі, было сапраўднай асалодай. Марфа наглядала за памолам мукі, каб жорны

належным чынам змалолі зерне. Дадавала ваду і розных прыпраў, гатуючы цеста. Хлеб у яе атрымліваўся выключна смачны. Яна ўважліва падбірала адпаведныя збаны і патэльні. Сачыла, каб страву не ператрымалі на агні.

Марфа аказалася прыроджанай князёўнай — прыгожай, шчодрай, адданай.

## 14

Ад братаніча Таўцівіла Міндоўг патрабаваў неадкладных і рашучых дзеянняў на ўсходзе. Выконваючы яго загад, полацкі намеснік у 1248 годзе здзейсніў чарговы буйны паход на ўсходнія абшары, якія належалі Аляксандру Неўскаму. Разам з Таўцівілам у паход пайшлі віцебская і смаленская дружыны.

15 студзеня 1248 года на рацэ Протве адбылася буйная бітва. Абодва бакі панеслі вялікія страты. Загінуў Міхаіл Харабрыт — чацвёрты сын Яраслава Усеваладавіча.

Таўцівіл пачаў адступленне. Але каля Зубцова[1] яго перастрэў уладзімірскі князь Святаслаў Усеваладавіч і нанёс яму сакрушальную паразу.

Таўцівіл быў не ў стане перамагчы Аляксандра Неўскага і яго саюзнікаў. Ён разумеў, што новы паход нават не здолее распачаць. Таму Таўцівіл, а таксама віцебскі і смаленскі намеснікі адмовіліся зноў ісці на ўладанні Аляксандра Неўскага.

Абураны і раззлаваны Міндоўг накіраваў карную экспедыцыю, каб пакараць Таўцівіла і іншых за непаслухмянасць. У роспачы Таўцівіл, разам з валадарамі Віцебска і Смаленска мусілі ўцякаць. Яны накіраваліся да Данілы Раманавіча, разлічваючы на яго разуменне і спагадлівасць.

Каб задобрыць Данілу Раманавіча, схіліць на свой бок, Таўцівіл у 1248 годзе выдаў за яго сваю пляменніцу Ганну, дачку Скочкі. Галіцкаму князю на той час ішоў пяты дзясятак. Юная Ганна стала для яго прыемным суцяшэннем.

---

[1] Цяпер — Цвярская вобласць.

## 15

Ардынцы не драмалі. Яны імкнуліся пасварыць славян, як мага мацней убіць клін паміж братамі, натравіць іх адзін на аднаго. Апынуўшыся ў поўнай залежнасці ад ханаў Залатой Арды, галіцка-валынскія князі мусілі выконваць іх волю і загады.

Перш чым пачаць наступ на Міндоўга, спрактыкаваны ў вайсковай стратэгіі Даніла Раманавіч заключыў пагадненне з Лівонскім ордэнам і Рыжскім біскупствам. Восенню 1248 года хаўруснікі адначасова распачалі вайну супраць Навагрудскай зямлі.

Насустрач немцам, якімі камандаваў магістр Генрых фон Хэймбург, пайшоў Міндоўг. Ён з цяжкасцю здолеў адкінуць ворага.

Войшалк з дружынай выступіў супраць галіцка-валынскіх князёў. Ворагі даволі хутка ўзялі Ваўкавыск і падышлі пад Навагрудак.

Выратавала становішча, бадай, толькі тое, што Таўцівіл не выяўляў моцнага жадання ваяваць з Войшалкам. Пажыўшы пэўны час ва Уладзіміры, ён яскрава ўбачыў, наколькі шчыльныя стасункі галіцка-валынскіх князёў з ненавіснымі яму ардынцамі. Менавіта таму ў крытычны момант бітвы Таўцівіл са сваёй дружынай перайшоў на бок Войшалка. З гэтага часу паміж імі ўсталяваўся не толькі поўны давер, але і працяглае сяброўства.

Пасля гераічнага ўчынку Таўцівіла Міндоўг дараваў яму ранейшыя грахі. У 1250 годзе Таўцівіл зноў паехаў княжыць у Полацк.

У доме Міндоўга адбылася незвычайная падзея. Стары паляўнічы Крот прынёс з лесу малое ваўчаня. Нейкім дзіўным чынам ён выкраў яго з логава, што знаходзілася ў аддаленым гаі. Ваўчаня так і назвалі — Гай. Навагрудскі валадар успрыняў падарунак як знак нябёсаў, прадвесце рэзкіх перамен.

Як і параіў Крот, князь штодня карміў Гая са сваіх рук.

— Воўк здатны выручыць чалавека з любой бяды,— запэўніваў стары паляўнічы.— Варта толькі заслужыць яго давер, завалодаць душой звера.

З часам паміж ваўком і Міндоўгам сапраўды ўсталяваўся давер, нейкая толькі ім вядомая сувязь.

Гай рос на свабодзе, яго ніколі не трымалі ў няволі. Паступова ў ваўка сфарміраваліся вострыя клыкі — яго галоўная зброя. Шэра-

бурага колеру густая поўсць, з двух слаёў, падкрэслівала яго сілу і спрыт. Першы слой поўсці — жорсткі, бараніў ад дажджоў і бруду, другі — мяккі падшэрстак, саграваў ваўка, аберагаў ад лютых маразоў.

Прыкладна праз год Гай пачаў падоўгу знікаць. Ён, верагодна, адшукаў сваю зграю. Міндоўг па начах чуў з пушчы выццё, адрозніваў яго голас ад скавытання іншых ваўкоў, выразна разумеў сэнс кожнага паслання свайго гадаванца.

Пазней, як важак зграі, Гай суправаджаў Міндоўга падчас доўгіх паходаў. Ён ніколі не ведаў стомы, бездакорна служыў гаспадару — надзейна ахоўваў ад злых людзей і згаладалых лясных драпежнікаў.

## 16

Міндоўг адчуваў набліжэнне небяспекі. Войска парадзела. Рэсурсаў не ставала. Адначасовае змаганне з Тэўтонскім ордэнам на захадзе, Лівонскім ордэнам — на поўначы і славянскімі князямі, цалкам залежнымі ад ардынскіх ханаў,— на поўдні і ўсходзе знясільвала краіну. Набліжэнне пагрозы прымушала Міндоўга думаць пра выратаванне дзяржавы і захаванне ўласнага жыцця.

У 1250 годзе князь запрасіў майстроў з Тэўтонскага ордэна, каб пабудаваць у Навагрудку мураваны замак. Немцы з радасцю згадзіліся, бо навагрудскі валадар паабяцаў шчодрыя ўзнагароды. Да ўзвядзення замка далучыліся і мясцовыя будаўнікі-гароднікі.

Праз некалькі год новы замак — рэзідэнцыя князя Міндоўга — быў збудаваны. Ён выглядаў велічна і непрыступна, меў пяць вежаў з байніцамі. Вельмі цешыліся мясцовыя будаўнікі. Ад запрошаных майстроў-немцаў яны хутка навучыліся тэхніцы ўзвядзення мураваных замкаў.

Міндоўг таксама ацаніў перавагі мураванага замка. «Цяпер, у выпадку патрэбы,— меркаваў ён,— можна надзейна схавацца і перачакаць небяспеку». Але ў душы ўсё адно заставалася трывога: «А як жа людзі, краіна? Ворагі ціснуць з усіх бакоў. Асабліва дапякаюць галіцка-валынскія князі, падбухтораныя ардынцамі».

Міндоўг напружана шукаў выйсце. Пасля доўгіх разваг ён прыняў рашэнне стварыць вайскова-палітычны саюз з Рымскім прастолам і нямецкімі крыжакамі, каб супольнымі намаганнямі ачысціць славянскія землі ад улады Арды. Але дзеля стварэння трывалага вайскова-палітычнага альянсу трэба было змяніць веравызнанне — пакінуць праваслаўе і перайсці ў каталіцтва. Міндоўг пагадзіўся на такі крок. Палітыка і знешнія абставіны прымушалі рабіць няпросты выбар, аддзяляць галоўнае ад другараднага.

Пра сваё рашэнне князь паведаміў Папу Рымскаму Інакенцію IV. Той з радасцю ўспрыняў вестку ад Міндоўга. Уласнай булай ад 17 ліпеня 1251 года Інакенцій IV дабраславіў навагрудскага валадара і даручыў Кульмскаму біскупу вянчаць яго на караля Вялікага Княства Літоўскага і ўсіх земляў, якія ён вырваў з рук няверных.

Хрышчэнне адбывалася ў Рызе. Міндоўг з жонкай Марфай неўзабаве прыехалі туды. Высокая чарнявая, з магнетычным позіркам, у святочным убранні, Марфа выглядала вельмі прывабнай і жаданай. Міндоўг усім сэрцам кахаў жонку, і яна адказвала яму ўзаемнасцю.

Ва ўрачыстай атмасферы касцёла біскуп прачытаў малітву, апусціў свечку ў купель з вадой. Затым намоленай вадой ён тройчы акрапіў Міндоўга і Марфу, прамаўляючы: «Я хрышчу вас у імя Айца і Сына і Святога Духа».

Ахрышчаныя паводле каталіцкага абраду, Міндоўг і Марфа спакойна выслухалі настаўленні біскупа пра неабходнасць выканання запаведзяў і трываласці ў веры.

Такім чынам, Міндоўг здабыў апеку Папы Рымскага і дапамогу заходняга каталіцкага свету. Пагроза вайны з боку германцаў істотна зменшылася. «Усе сілы цяпер можна кінуць на змаганне з Ардой і галіцка-валынскімі валадарамі»,— слушна меркаваў навагрудскі валадар.

## 17

Міндоўг паспеў своечасова. Глыбокай восенню 1251 года, калі пачаліся замаразкі і ўжо выпаў снег, галіцка-валынскія князі з удзелам асобных тураўскіх і пінскіх дружын, якіх нацкоўвалі на Міндоўга

ханскія баскакі, зноў атакавалі Навагрудскае княства. Гэтым разам яны пайшлі на Гарадзен[1].

Паводле даручэння Міндоўга войска Навагрудскай дзяржавы ўзначаліў Войшалк. Ён накіраваўся насустрач, каб адбіць небяспечны наступ галіцка-валынскіх князёў і ардынцаў. Ворагі няшчадна рабавалі абжытыя паселішчы. Жыхары ратаваліся як маглі. Уцякалі ў лясы і пушчы. Мужчыны і юнакі ўзбройваліся, рыхтаваліся да змагання.

Буйная бітва Войшалка з галіцка-валынскімі князямі адбылася непадалёк ад Шчучына, каля Турыйска[2]. Войшалк прайграў, бо сілы ворага шматкроць пераўзыходзілі сілы яго дружыны. Ён вымушаны быў адступіць, але і галіцка-валынскія князі з-за панесеных страт павярнулі дадому.

У канцы 1252 года ворагі з поўдня зноў пайшлі ў наступ. Праўда, на гэты раз яны змянілі напрамак і рушылі адразу на сталіцу княства — Навагрудак.

Войска Навагрудскай дзяржавы зноў узначаліў Войшалк. Ён адабраў найбольш загартаваныя харугвы і павёў іх насустрач ворагу. Войшалк быў упэўнены, адчуваў усім нутром, што гэтым разам пераможа. Перад вырашальнай бітвай ён на кані, у атачэнні ахоўнікаў, аб'ехаў харугвы і заклікаў біцца з усёй сілы, перамагчы і адкінуць захопнікаў.

Дасведчаны ў тактыцы галіцка-валынскіх князёў, Войшалк заняў найбольш выгадныя пазіцыі, умела расставіў харугвы і атрымаў істотныя перавагі падчас сечы.

Наступ на Навагрудак удалося адбіць. Галіцка-валынскія князі паспешліва адступілі.

## 18

Каранацыя Міндоўга праходзіла 6 ліпеня 1253 года ў Навагрудку. Цёплы сонечны дзень падкрэсліваў урачыстасць падзеі. Усё праходзіла велічна, з помпай. Прыехала вялікая колькасць гасцей.

---

[1] Відаць, на Гародню.

[2] Цяпер — вёска Турэйск у Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці.

Апрача біскупа Кульмскага прысутнічалі мясцовыя князі-васалы, дэлегацыі ад Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў.

Галоўная цырымонія адбылася ў Латаўскім касцёле — рэзідэнцыі каталіцкіх святароў. Міндоўг быў апрануты ва ўрачыстае адзенне. Кароткая чырвоная туніка з вышытай золатам каймой, накінутая зверху і замацаваная каштоўнай спражкай, падкрэслівала высокі статус. Яго суправаджала жонка Марфа. У дарагім атласным уборы з надзвычайнымі жаночымі ўпрыгожаннямі: залатымі бранзалетамі і пярсцёнкамі, ланцужкамі і завушніцамі,— яна выглядала шыкоўна.

Хор заспяваў духоўныя гімны на латыні. Затым біскуп Кульмскі паднёс Міндоўгу знак рыцарскай годнасці — шпоры. Кульмінацыяй абраду палітычнай рэпрэзентацыі манарха стала ўскладанне на яго галаву каралеўскай кароны. Для Марфы таксама была зроблена карона, якую біскуп, услед за Міндоўгам, усклаў ёй на галаву. Каштоўныя сімвалы каралеўскай улады былі адмыслова выраблены і асвечаны ў Рыме.

У адказ навагрудскі валадар прынёс клятву, паабяцаўшы заўжды падтрымліваць рымскіх першабіскупаў. Гаварыў Міндоўг гучна і ўпэўнена.

Па завяршэнні працэдуры надзялення правіцеля ўладай Кульмскі біскуп выгукнуў:

— Няхай жыве кароль! Слава Міндоўгу!

Прысутныя паўтарылі ўслед за ім:

— Слава каралю Міндоўгу!

Так адбылася сакралізацыя свецкай улады, умацаванне міжнароднага аўтарытэту Міндоўга.

Атрымаўшы карону, Міндоўг у 1253 годзе выдаў ахоўную Грамату рыжскім купцам, паводле якой ім дазвалялася свабодна гандляваць на абшарах Навагрудскай дзяржавы без аплаты мыта.

Таксама ў ліпені 1253 года навагрудскі валадар, як і абяцаў, падараваў Лівонскаму ордэну частку зямель у Жамойці.

У знак удзячнасці Рыму Міндоўг дазволіў заснаваць на абшарах Княства каталіцкае біскупства з цэнтрам у Любчы. Першым біскупам стаў Віт. Аднак ён не вельмі ладзіў з Міндоўгам, які пад пагрозай

смерці забараніў біскупу пераследаваць людзей старой веры, бурыць капішчы і знішчаць выявы язычніцкіх багоў.

Але Віт не спыняўся. Больш за тое, ён расправіўся з некалькімі жанчынамі-знахаркамі, якія лячылі людзей. Іх абвінавацілі ў сувязях са злымі сіламі і, паводле прысуду біскупа, спалілі жывымі.

Жыхары не пераставалі скардзіцца Міндоўгу на жорсткасць біскупа, які зневажаў іх веру, сілай гнаў да касцёла. Навагрудскі валадар выклікаў Віта ў рэзідэнцыю, апошні раз папярэдзіў яго і прыгразіў, што пазбавіць усёй маёмасці і зямельных уладанняў.

Напалоханы Віт неадкладна напісаў Папу Рымскаму прашэнне аб адстаўцы. У наступным годзе яго месца заняў біскуп Хрысціян, які быў нашмат хітрэйшы. Хрысціян загадаў святарам паўсюль услаўляць учынкі караля Міндоўга, узносіць яму малітвы падчас богаслужэнняў.

Міндоўг не скупіўся на ўдзячнасць. У 1254 годзе ён выдаў чарговую Грамату аб дараванні біскупу Хрысціяну і Каталіцкаму Касцёлу значных зямельных уладанняў.

Так, праз выпрабаванні і саступкі, беларускія землі далучаліся да супольнасці еўрапейскіх дзяржаў, арганічна ўваходзілі ў прастору заходняй культуры.

## 19

Нябёсы злітасцівіліся над Навагрудскай дзяржавай. У 1253 годзе Міндоўг атрымаў доўгачаканыя радасныя навіны. Папа Рымскі Інакенцій IV заклікаў стварыць кааліцыю дзяржаў, каб супольна выступіць супраць Арды. Ён звярнуўся да ўсіх хрысціянскіх вернікаў Багеміі, Маравіі, Сербіі, Памераніі, а таксама да католікаў Прыбалтыйскіх зямель.

Вельмі ўсцешылі Міндоўга звесткі аб тым, што галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч, нарэшце, таксама пагадзіўся ўдзельнічаць у крыжовым паходзе супраць Арды. Наўзамен за мужны крок Папа Рымскі ў 1253 годзе каранаваў і яго. Даніла Раманавіч стрымаў слова.

У 1254-м ён выгнаў са сваіх гарадоў ханскіх баскакаў і разбіў ардынскае войска на чале з Курэмсам.

Міндоўг скарыстаўся спрыяльнымі знешнепалітычнымі абставінамі. Ён накіраваў свайго сына Войшалка ў Холм, тагачасную сталіцу Галіцка-Валынскага княства, з адказнай місіяй — заключыць мірны дагавор з каралём Данілам Раманавічам. Вядома, Міндоўг рызыкаваў, пасылаючы да колішніх ворагаў уласнага сына. Але толькі так яны маглі паверыць у шчырасць яго намераў.

Войшалк выехаў у Холм. Там ён аказаўся, па сутнасці, у стане заложніка. Ніхто на той момант не ведаў і не мог дакладна прадказаць, як будуць разгортвацца падзеі, што чакае наперадзе, як пройдуць перамовы з былымі праціўнікамі. Заставалася толькі спадзявацца на спрыянне нябёсаў і Божую ласку.

Аўдыенцыі давялося чакаць вельмі доўга. Войшалк пачуваўся няўтульна, з кожным днём у сэрцы расла трывога. Нарэшце, адбылася доўгачаканая сустрэча з Данілам Раманавічам і яго сынамі. Пасля няпростых размоў, узаемных дакораў і абвінавачванняў знайшлі прымальнае для ўсіх выйсце. Вырашылі парадніцца сем'ямі. Войшалк паабяцаў выдаць родную сястру Любіцу за Свараміра Данілавіча — малодшага сына Данілы Раманавіча.

Неўзабаве згулялі вяселле. Войшалк не толькі паразумеўся са Свараміram, але і вельмі зблізіўся з ім. Так у 1254 годзе быў дасягнуты мір паміж навагрудскім валадаром Міндоўгам і галіцка-валынскімі князямі.

Паводле дамовы, чацвёрты сын Данілы Раманавіча і колішні няўдалы прэтэндэнт на аўстрыйскі прастол Раман Данілавіч атрымаў княжанне ў Навагрудку, Слоніме і Ваўкавыску[1].

Германцы не пакідалі Міндоўга ў спакоі. Дасланая магістрам дэлегацыя настойліва патрабавала ад яго новых саступак. Навагрудскі валадар выдатна ўсведамляў: без кампрамісу і паразумення з немцамі, хаця б часовага, трона не ўтрымаць. З цяжарам на сэрцы, наўзамен

---

[1] Тагачасны летапісец сцісла занатаваў факт надзялення Рамана Данілавіча новымі ўладаннямі: «Войшалк перадаў Раману Данілавічу Навагрудак ад Міндоўга, а ад сябе – Слонім і Ваўкавыск».

за жыццёва неабходны мір, ён у 1254 годзе ўсё ж пагадзіўся перадаць Жамойць пад уладу Лівонскага ордэна. Атрымаўшы новую спажыву, ненажэрныя германцы, нібы дзікія звяры, на нейкі час супакоіліся.

Жамойцкія князі абураліся і ўпарціліся. Яны слалі ганцоў да Міндоўга, але той заставаўся няўмольны. Раз'юшаны жамойцкі князь Транята асабіста прымчаў у Навагрудак. Аднак Міндоўг нават не пажадаў з ім сустракацца, а тым болей аб нечым размаўляць. Барацьба за захаванне ўлады патрабавала ахвяр, змушала дзейнічаць эгаістычна і гранічна жорстка.

Не ў стане штосьці змяніць, жамойцкі князь Транята затаіў глыбокую крыўду на Міндоўга, чакаючы зручнага моманту, каб пры нагодзе адпомсціць яму.

## 20

Незвычайны сум панаваў у сэрцы Войшалка. Ён прагнуў адзіноты і супакаення. Нясцерпна хацелася цішыні. Ён ішоў у пушчу, блукаў па лесе, моўчкі глядзеў на кустоўе восеньскага арэшніку, спыняўся пад разгалістамі шапкамі векавых дрэў. Жаданне зусім аддаліцца ад людзей, тлуму і мітусні ўсё больш авалодвала ім.

Войшалк падоўгу маліўся. Ён часта разважаў пра сутнасць жыцця. Змрочна думаў пра непазбежнасць смерці: «Зямное жыццё — імгненне. Усё мінае, знікае без следу. Застаецца толькі душа чалавека. Яна адлятае ў нябёсы, дзе шукае ціхага супакаення».

Праз нейкі час Войшалку прыйшло азарэнне. Рашэнне саспела само сабой: «Трэба неадкладна ісці ў манастыр, жыць паводле прыкладу вялікіх хрысціянскіх святых, ачышчацца душой і целам». У яго на сэрцы стала лёгка і светла.

Войшалк без ваганняў прыняў манаскі сан. Ён здзейсніў сімвалічнае пастрыжэнне валасоў і ўзяў інацкае імя — Лаўрыш[1]. Святое месца, якое ён абжыў на рацэ Нёман, атрымала сярод навакольных людзей адпаведную назву — Лаўрышаў, або Лаўрышаўскі манастыр.

[1] Лаўрын.

У манастыры Войшалк хутка знайшоў для сябе занятак. Ён адкрыў прытулак для параненых і хворых. Няшчасныя і абяздоленыя людзі, беспрытульныя і юродзівыя, шукаючы спагады і выратавання, з розных мясцін пацягнуліся да манастыра. Разам з іншымі манахамі Войшалк збіраў лекавыя расліны, карэнні, гатаваў настоі, як мог ратаваў хворых і нямоглых.

Высокі, з мяккімі рысамі твару, Войшалк ніколі не крычаў, гаварыў нягучна, як бы глухавата. Яго клопат пра іншых быў шчыры і натуральны. Манаская раса і камілаўка арганічна дапаўнялі яго ўнутраны стан супакоенасці. Чуткі пра дабрыню і спагадлівасць княскага сына імкліва разнесліся па ўсёй зямлі.

Зранку Войшалк, як правіла, маліўся, а потым заглыбляўся ў чытанне святых кніг. Духоўныя творы прыносілі спачын душы. Ён засвойваў глыбокія разважанні айцоў царквы, завучваў на памяць мілагучныя песнапенні ў гонар Госпада Бога, Дзевы Марыі і святых угоднікаў. Перад Войшалкам адкрыўся багаты свет кніжнай культуры Візантыі і Рыма. «Трэба, каб больш людзей даведваліся пра гэтыя багацці, чэрпалі з чыстай, незамутнёнай крыніцы духоўную сілу»,— справядліва меркаваў ён.

Войшалк згуртаваў вакол сябе найбольш адукаваных людзей. Прывезлі кнігі з Канстанцінопаля і Рыма. Пачалі перакладаць на ўласную мову Біблію, яркія пропаведзі і павучальныя словы, найбольш каштоўныя гістарычныя запісы і помнікі агіяграфіі. Зробленыя раней пераклады і арыгінальныя творы Кірылы Тураўскага, Жыціе Ефрасінні Полацкай, а таксама летапісы, хронікі і хаджэнні старанна перапісвалі. Не занятыя тэкстам палі старонак аздаблялі каляровымі малюнкамі. На іх змяшчалі сцэны з біблейскіх кніг, выявы святых, вайсковыя сутычкі, малявалі заморскія расліны, рэдкіх жывёл і рыб.

Праз нейкі час адкрылі школку пры манастыры. Пачалі вучыць дзетак, далучаць да кніжнай мудрасці. Войшалк цешыўся: «Праз нейкі час зерне, кінутае ва ўрадлівую глебу, абавязкова прарасце, дасць шчодры ўраджай! Адукаваныя юнакі, нібы ясныя сокалы, разляцяцца па ўсім свеце, прасветляць розум і сэрцы людзей жыццядайным святлом ведаў!»

Апрача духоўнай працы, Войшалк засвоіў навуку апрацоўкі зямлі, навучыўся займацца агародніцтвам. Ён пераняў вопыт дасведчаных земляробаў, са здзіўленнем даведаўся, што ўсе пасадкі лепей рабіць, калі Месяц на небе пачынае расці. Тады ўсё буяе і квітнее. У час поўні і яе сыходу варта ўстрымацца ад пасеваў, гэты час варта прысвяціць догляду за раслінамі.

Войшалк паспеў зрабіць яшчэ адну добрую справу, якой вельмі ганарыўся. Ён пасадзіў яблыневы сад, аб чым даўно марыў. Амаль усе дрэўцы прыжыліся і пачалі набіраць сілу. Радасць Войшалка не ведала межаў, душа спявала.

Бацька дакараў Войшалка за манаскі лад жыцця, за адыход ад дзяржаўных спраў. Сын, у сваю чаргу, гневаўся на бацьку за тое, што той, як яму здавалася, не разумеў важнасці далучэння людзей да кніжнай мудрасці. Войшалк быў перакананы: веды і асвета — найважнейшая дзяржаўная справа, першы клопат уладароў!

Аднаго разу, улетку, Міндоўг наведаў Лаўрышаўскі манастыр. Бацька і сын спусціліся да Нёмана, доўга глядзелі на яго плынь. Гаварылі пра дзяржаўныя справы, але неяк незаўважна зайшла гутарка пра жанчын.

— Трэба табе, сынок, жаніцца. Час падумаць пра нашчадкаў,— папрасіў Міндоўг.

— Я служу нябёсам і вечнасці. Жанчыны непрадказальныя і здрадлівыя. Яны нібы д'яблы. Не ведаеш, што і калі ўтвораць. Лепей трымацца ад іх падалей.

Міндоўг нервова запярэчыў:

— Д'ябал жыве ў тваёй галаве! У нас, мужчын, усё проста, на паверхні. Жанчыны — далікатныя стварэнні. У кожнай з іх спалучаецца, прынамсі, тры існасці. Жанчына — увасабленне ўсёй зямной і нябеснай прыгажосці! Яна — найвышэйшая каштоўнасць, крыніца радасці і асалоды! Жанчына — сапраўднае багацце і скарб! Наш першы і галоўны абавязак — бараніць іх!

Войшалк уважліва слухаў бацьку, але вёў сваю лінію:

— Усе жанчыны аднолькава агідныя. Варта прыгледзецца, і ўбачыш, якія яны брыдкія — сквапныя, падманлівыя, мярзотныя і бессаромныя!

Міндоўг пачаў гаварыць спакайней:

— Ты памыляешся. Няма непрыгожых жанчын. Кожная з іх — адметная і непаўторная, нібы кветка на лузе. У кожнай свой нораў, свой бляск. Розумам і сэрцам жанчына імкнецца да галоўнага — прадоўжыць жыццё, нарадзіць і ўзгадаваць дзяцей. Навек запомні, сынок: ніколі не крыўдзі жанчыну! Ніколі не кажы пра яе абразлівых слоў. Што б яна ні зрабіла, як бы цяжка табе ні было. І ніколі не асуджай жанчыну!

— Нават калі яна ідзе да іншага? — хмыкнуў Войшалк.

— Няма ў тым вялікай бяды,— ціха адзначыў Міндоўг.— Галоўнае, каб жанчыне было хораша і ўтульна, каб яна пачувалася абароненай і шчаслівай.

Войшалк змоўк, задумаўся: «Мо і сапраўды нешта трэба мяняць ва ўласным жыцці?»

Пачаўся моцны лівень з маланкамі і грымотамі. Бацька і сын зірнулі адзін аднаму ў вочы. У гэтым паглядзе сустрэліся дзве родныя душы, яны зліліся ва ўзаемным паразуменні і даравані, пасля чаго больш не спатрэбілася ніякіх слоў. Скінуўшы цяжар недаверу, Міндоўг і Войшалк з лёгкім сэрцам пайшлі пад манастырскі дах, зусім не спяшаючыся хавацца ад дабратворнага і ачышчальнага дажджу.

## 21

Міндоўг меў рацыю. Без моцнай улады і цвёрдай гаспадарскай рукі ў краіне пачынаецца бязладдзе. Яго меркаванне неўзабаве пацвердзіла жыццё.

На землях, якімі ён раней валодаў, прарасло зерне ўзаемнай нянавісці і распачаліся канфлікты. Пакуль ён ціха жыў у Любчы, над Нёманам, некалькі дробных князькоў утварылі ў 1256 годзе кааліцыю супраць яцвягаў. Ваўкавыскі князь Глеб, свіслацкі — Ізяслаў, навагрудскі — Раман Данілавіч, а таксама галіцка-валынскія і польскія феадалы змовіліся і пайшлі вайной на яцвягаў.

Мірны і працавіты народ, які жыў паміж Нёманам і Мазурскімі азёрамі, зайздрослівыя суседзі прагнулі абрабаваць і скарыць. Яцвягі

нікому не замінालі і тым болей — нікому не пагражалі. Яны ціха рассяліліся ўздоўж ракі Нараў, увішна працавалі, старанна абраблялі зямлю, захоўвалі ўласныя традыцыі і абрады. Прыгожыя мужчыны і жанчыны нараджалі здаровых дзяцей, выхоўвалі іх у сваёй мове і культуры. Здавалася, яны жылі ў раі. Немцы называлі іх судавамі, жамойты — дайновай.

Захопнікі прыйшлі нечакана. Яны няшчадна рабавалі і палілі яцвяжскія паселішчы. Нарэшце, дабраліся да галоўнага горада яцвягаў — Сувалак. Чужынцы зганьбілі святыні, разбурылі некропаль. Яцвяжскі народ быў знішчаны амаль поўнасцю. Нянавісць да яцвягаў, відавочна, падагравалася знешнімі ворагамі — ардынцамі. Невыпадкова асаблівую лютасць выяўляў Раман Данілавіч.

Войшалк зразумеў прароцкую праўдзівасць бацькавых слоў: калі не адстойваць краіну сілай зброі, ворагі знутры і звонку канчаткова разбураць яе, усё зруйнуюць, зганьбяць, давядуць да скону.

Сын Міндоўга прыняў рашэнне дзейнічаць. Каля 1257-га ён пакінуў манастыр над Нёманам, дзе пражыў больш за тры гады. Яго вяртанне да актыўнай палітыкі стала паваротным момантам у жыцці дзяржавы. Першае, што зрабіў Войшалк,— звярнуўся па дапамогу да полацкага князя Таўцівіла. Той ахвотна пагадзіўся змагацца разам.

Створаны Войшалкам і Таўцівілам альянс стаўся добрым грунтам для барацьбы з ворагамі Навагрудскай зямлі. Іх планы былі грандыёзнымі: адцясніць Арду і расправіцца з залежнымі ад яе галіцка-валынскімі князямі.

Войшалк энергічна сфарміраваў войска і быў гатовы да вайны. Першым чынам яны з Таўцівілам распрацавалі таемны план знішчэння князя Рамана Данілавіча. Дзейнічалі асцярожна, але хутка і рашуча.

Таўцівіл запрасіў Рамана Данілавіча на сустрэчу ў Барысаў, нібыта для перадачы пад яго ўладу новых зямель. Той пагадзіўся і прыехаў.

Змоўшчыкі перабілі ахову Рамана Данілавіча і паланілі яго. Затым учынілі над ім публічную экзекуцыю. Кат абцугамі выдраў звязанаму Раману язык — і той сканаў ад болю.

Пасля расправы над Раманам Данілавічам аб'яднанае войска Войшалка і Таўцівіла ўвайшло ў Навагрудак. Горад зноўку вярнуўся пад уладу надзейнага валадара. Жыхары ўздыхнулі з палёгкай.

Войшалк неадкладна пачаў прыводзіць да ладу гаспадарку горада, разбураную нядбайным чужынцам. Апрануты ў свецкае адзенне, ён пры гэтым заўсёды насіў манаскую шапку.

Навагрудская зямля пакрысе ажывала і аднаўлялася.

## 22

Малады і амбіцыйны князь Нальшанаў Даўмонт прагнуў славы і шырокага прызнання. Плаціць даніну Навагрудку і выконваць загады Міндоўга яму зусім не хацелася. Даўмонту здавалася, што ён мае ўсё, каб пачувацца незалежным. Нальшанскае княства — багатае, землі ўрадлівыя і дагледжаныя. У рэках і азёрах віруе рыба. У пушчах і лясах поўна звярыны. Майстравыя людзі і гандляры забяспечваюць неабходнымі прыладамі і рэчамі. Ежы, абутку, адзення — усяго даволі для жыцця.

Але як вырвацца з абцугоў васальнай залежнасці? Зусім не проста, калі з розных бакоў падсцерагае смяротная небяспека. На ўсходзе гарады і княствы пакутуюць пад ярмом Арды. Нават вольналюбівы Вялікі Ноўгарад адкупляецца ад усходніх ханаў грашыма і данінай. На захадзе гаспадараць германцы. Саюз з Міндоўгам, няхай сабе жорсткім і акрутным валадаром, усё ж меншае зло. Трэба цярпець, інакш нашкодзіш і сабе, і астатняму люду.

Жыццё неўзабаве пацвердзіла справядлівасць абранай Даўмонтам лініі паводзін. У 1257 годзе да ўлады ў Ардзе прыйшоў хан Берке. Ён накіраваў намеснікам на ўсходнеславянскія землі Бурундая, які адрозніваўся асаблівай жорсткасцю.

У 1258 годзе аб'яднаныя войскі ўладзіміра-валынскага князя Васількі Раманавіча і Бурундая ў колькасці каля трыццаці тысяч чалавек напалі на Навагрудскую дзяржаву. Ворагі няшчадна рабавалі славянскія гарады і землі.

Усе без выключэння крэпасці і гарнізоны аказвалі супраціўленне. Найдаўжэй трымаў аблогу Вішчын. Умацаваны замак стаяў на правым беразе Дняпра. Узяць яго было няпроста. Гарнізон і жыхары, не зважаючы на стому і страты, мужна біліся. Жанчыны, прыхаваўшы свае ўпрыгожанні і каштоўнасці, сталі на сценах побач з мужчынамі. Урэшце, ардынцы ўварваліся ў знясілены горад, спалілі яго і пад корань вынішчылі абаронцаў.

Асобныя атрады Бурундая дайшлі да Нальшанскай зямлі. Ашалелыя ад крыві, атрады Бурундая наносілі велізарны ўрон Нальшанам і ўсёй Навагрудскай дзяржаве.

Падобны на тлусты кумпяк з маленькімі, заплыўшымі тлушчам вочкамі, Бурундай не меў літасці ні да старых, ні да малых. Ён атрымліваў асалоду ад пакутаў людзей, здзекваўся як мог з палонных.

Ардынцы захоплівалі ўрадлівыя землі і абязлюдзелыя вёскі. Жыхары ад страху нярэдка пакідалі абжытыя хаты і ўцякалі ў лясы. Многія ардынцы атабарваліся каля вадаёмаў — чыстых рэк і азёраў. Яны сілай бралі прыгожых славянскіх жанчын і дзяўчат сабе ў жонкі, намерваючыся назаўжды асесці на заваяваных землях. Астатнія ішлі далей, на поўнач, шукаючы для сябе здабычы і багаццяў.

Міндоўг згуртаваў усе сілы Княства, каб супрацьстаяць ворагу і выгнаць іншаземцаў прэч са славянскіх зямель. Да навагрудскага валадара далучыўся полацкі князь Таўцівіл, а таксама нальшанскі князь Даўмонт са сваімі харугвамі.

У вайне з Бурундаем Міндоўг умела скарыстаў наравістага і самаўпэўненага нальшанскага князя. За асаблівую жорсткасць Даўмонта да чужынцаў людзі празвалі яго Дрывасекам, паколькі ён нішчыў ворагаў без спачування, нібы сек дровы. Падчас генеральнай бітвы з войскам Бурундая, недзе каля Арэхаўска, Міндоўг загадаў Даўмонту першым уступіць ў бітву.

Нальшанскія харугвы мужна біліся са свежымі сіламі ворага. Мноства ардынцаў палегла на полі бітвы, але і харугвы Даўмонта панеслі вялікія страты. Тактычны ход Міндоўга, разлічаны не толькі на знішчэнне ворага, але і на саслабленне Даўмонта, валадар Нальшанаў зразумеў толькі пасля завяршэння бітвы. У сэрцы маладога князя зарадзіўся спачатку гнеў, а з часам пачала расці глыбокая нянавісць на Міндоўга.

Справа, аднак, была зроблена. Пасля прайгранай сечы Бурундай пачаў імкліва адступаць. Войска Міндоўга пераследвала яго і знішчала ўсходніх качэўнікаў. Косці тысяч ардынцаў засталіся ляжаць у зямлі, якой яны хацелі валодаць.

Да зімы харугвы Міндоўга ачысцілі ад аселых ардынцаў поймы Дзвіны, Лучосы, Бярэзіны, Бабра, Друці, Проні, Басі, Дняпра і Сожа. Толькі асобныя з іх змаглі ацалець, зашыўшыся ў лясах і балоцістых мясцінах.

Супольнымі намаганнямі навагрудчане, палачане і віцябчане здолелі выгнаць клятых ардынцаў прэч са сваёй зямлі.

## 23

Узімку 1260 года Міндоўгу паведамілі, што крыжацкія рыцары рыхтуюцца да буйной вайсковай кампаніі на землях куршаў. Немцы планавалі ўстанавіць татальны кантроль над узбярэжжам Варажскага мора, захапіць Курляндыю і тэрытарыяльна злучыць дзве часткі Ордэна — Прусію і Лівонію. Баючыся за свае паўднёвыя тэрыторыі, тэўтоны 15 чэрвеня 1260 года падпісалі мір з мазавецкім князем Земавітам.

Міндоўг распачаў падрыхтоўку да летняй вайсковай кампаніі супраць крыжакоў. Ён выразна ўсвядоміў, што аднаасобна не здолее адужыць тэўтонаў, тым болей у сітуацыі, калі славянскія гарады і княствы на ўсходзе цалкам залежныя ад Арды.

Навагрудскі валадар прыняў рашэнне — стварыць альянс з Аляксандрам Яраславічам Неўскім. Ён неадкладна накіраваў да яго пасла.

Пасол Міндоўга перадаў Аляксандру Яраславічу волю свайго валадара. Аляксандр Неўскі напачатку вагаўся. Але ён добра разумеў, што прыйшоў час выкінуць прэч ворагаў, ачысціць славянскія землі ад нямецкай і ардынскай навалы. Праўда, ён добра памятаў пра лёс бацькі Яраслава Усеваладавіча і брата Андрэя, які княжыў ва Уладзіміры. У 1252 годзе той выказаў пярэчанне Ардзе. У адказ ардынцы разбілі яго войска, а ярлык на княжанне ва Уладзіміры пасля вялікіх

паднашэнняў, дзякуй богу, перадалі яму. Асцярожны і абачлівы Аляксандр Неўскі ў 1258 годзе асабіста ездзіў у Арду, каб ушанаваць ханскага намесніка Улаўчыя. Ён умеў цярпліва чакаць. Урэшце Аляксандр Неўскі пагадзіўся на альянс з Міндоўгам, папярэдне пераканаўшы недаверлівых ардынцаў, што яны будуць мець з гэтага саюза толькі дадатковыя набыткі.

Рашучы навагрудскі валадар, уступіўшы ў саюз з князем Аляксандрам Неўскім, атрымаў істотныя перавагі. Ён скасаваў папярэднія дамовы з крыжакамі і гальванізаваў падрыхтоўку да вайсковай кампаніі супраць іх.

Перад вырашальным паходам на германцаў Міндоўг стварыў рэгулярнае войска, аснову якога складалі прафесійныя воі, падзеленыя на сотні. У войску, велізарным па тым часе, налічвалася звыш 4000 жаўнераў. Узброеныя мячамі, дзідамі, лукамі і самастрэламі, яны ўяўлялі грозную сілу.

У чэрвені 1260 года войска выступіла з Навагрудка. Кіраваў харугвамі асабіста Міндоўг. З кароткім мячом і кісценем, у кальчузе з трывалай тарчай, ён выглядаў вельмі ваяўніча. Здавалася, кароль у адзіночку здатны адужыць любога, самага грознага ворага.

Ішлі праз Ліду, Воранава і Вільню.

Крыжацкім войскам, якое налічвала каля 3000 рыцараў, кіравалі лівонскі магістр Буркхард фон Хорнхаўзен і маршал Прусіі Генрых Ботэль. Галоўную ўдарную сілу складала рыцарская конніца ў колькасці 200 вершнікаў. У нямецкім войску знаходзіліся таксама дацкія і шведскія наёмнікі на чале з прынцам Карлам.

Генеральная бітва з крыжакамі адбылася каля возера Дурбэ[1]. Раніцай, 13 ліпеня 1260 года, як толькі сышоў туман, Міндоўг аддаў каманду атакаваць. Затрубілі баявыя дуды, рыцары прышпорылі коней і рушылі ўперад.

Міндоўг быў упэўнены ў перамозе. Апрача адборнага, вышкаленага войска, ён меў папярэднія дамоўленасці з куршамі і эстамі, якіх германцы змусілі стаць пад іх сцягі. Пасланнікі ад куршаў і эстаў падчас таемных перамоў з Міндоўгам выказалі гатоўнасць перайсці на

[1] Знаходзіцца на захадзе Латвіі.

яго бок. Навагрудскі ж валадар паабяцаў ім пасля разгрому германцаў значныя свабоды.

Як толькі Міндоўг атакаваў, куршы і эсты напалі на крыжакоў ззаду. Магістр і яго хаўруснікі не чакалі такога павароту падзей. У іх войску пачалася паніка. Неўзабаве баявыя парадкі крыжакоў пабурыліся і яны пачалі ліхаманкава шукаць паратунку.

Міндоўг ушчэнт разграміў крыжацкае войска. Загінулі 150 нямецкіх рыцараў і мноства простых воінаў. Былі забіты галоўныя военачальнікі — магістр Буркхард фон Хорнхаўзен, маршал Прусіі Генрых Ботэль і прынц Карл. 15 рыцараў трапілі ў палон. У знак помсты за палеглых, дружыннікі Міндоўга васьмярых рыцараў спалілі жывымі. Іх моцна прывязалі да дрэў металічнымі ланцугамі, а знізу расклалі вогнішчы. Палонныя курчыліся ад болю, стагналі і вылі, пакуль не страцілі прытомнасць.

Перапалоханыя рэшткі крыжакоў збеглі і схаваліся ў Мемелі[1] — найбліжэйшай мураванай крэпасці.

Планы лівонскага магістра і прускага маршала па ўсталяванні кантролю на ўсім узбярэжжы Балтыйскага мора сышлі ў нябыт. Урон крыжакоў быў настолькі значны, што на працягу наступных дваццаці год яны не зрабілі аніводнай значнай вылазкі супраць славян.

Мужныя куршы і эсты атрымалі значныя палёгкі. Яны пачалі адраджаць жыццё, аднаўляць свае гарады і паселішчы.

Разгром крыжакоў каля возера Дурбэ актывізаваў жамойцкую знаць. Неўзабаве жамойты ўзброіліся і таксама паўсталі супраць германскіх нобеляў. На чале іх партыі стаяў Транята. Не маючы дастатковых сіл самастойна адужаць германцаў, жамойты зноўку звярнуліся да Міндоўга з просьбай дапамагчы ім.

Міндоўг злітасцівіўся над імі і ў 1260 годзе, адразу пасля пераможнай бітвы каля Дурбэ, накіраваў харугвы на Жамойць. Яго войска не шкадавала заваёўнікаў. Няшчадна забівалі немцаў разам з іх сем'ямі, захопленых у палон катавалі — секлі, палілі, вешалі, разрывалі конямі на часткі, закопвалі жывымі ў зямлю. Жамойць была цалкам вызвалена ад нямецкага панавання. Яшчэ адзін народ пазбавіўся залежнасці ад агрэсіўных і сквапных крыжакоў.

---

[1] Цяпер — горад Клайпеда ў Літве.

Пасля доўгіх угавораў Міндоўг згадзіўся з просьбай жамойцкіх феадалаў прызначыць ім у якасці намесніка Траняту. Навагрудскі валадар не любіў неахайнага і нахабнага Траняту. Той выклікаў у яго агіду. Траняту ўсяляк пазбягалі жанчыны, бо ён не мог задаволіць іх цялесных жарсцяў і фізічных патрэб. Здрадлівы і брыдкі, з віскрывым голасам, ён, аднак, неверагодна прагнуў улады, каб сцвердзіць сябе, перадусім, як мужчына.

У Міндоўга было жаданне абаперціся на больш надзейнага чалавека, але жамойты кляліся ў вечнай адданасці. Хлуслівы Транята навыперадкі прысягнуў на вернасць. Празорлівы навагрудскі валадар ведаў, што абяцанні непаслядоўнага і хцівага жамойта — не болей чым пусты гук. Але, урэшце, пагадзіўся на ўгаворы, прыняў багатыя падношэнні і прызначыў Траняту намеснікам у Жамойці.

## 24

Землі латгалаў іліваў сцякалі крывёй. Паняволеныя народы цярпелі неверагодныя здзекі і страшэнны ўціск з боку крыжакоў, якія ўжо амаль шэсць дзесяцігоддзяў панавалі на іх землях. За гэты час тэўтоны здолелі вынішчыць практычна ўсе славянскія гарнізоны і завалодаць крэпасцямі, якія ўзводзіліся полацкімі князямі на працягу двух папярэдніх стагоддзяў. У час, калі славяне кантралявалі Латгалію і Лівонію, яны мірна ўжываліся з мясцовым насельніцтвам. Прыход немцаў паставіў іх на грань выжывання.

Старэйшыны латгалаў і ліваў неаднаразова дасылалі да Міндоўга паслоў з просьбай вызваліць іх ад нямецкага панавання. Мясцовая знаць прагнула самастойнасці, а простыя людзі — волі і абароны ад агрэсараў.

У 1261 годзе Міндоўг рашыўся і здзейсніў паход на далёкі Вендэн. Магутны мураваны замак, пабудаваны ў 1209 годзе, стаяў над ракой Гаўя. Ён з'яўляўся рэзідэнцыяй ландмайстраў Лівонскага ордэна з часоў Германа фон Балка. Адсюль ажыццяўлялася кіраўніцтва захопленымі землямі.

Міндоўг некалькі тыдняў стаяў пад Вендэнскім замкам. Прывезенымі катапультамі, на якія быў асноўны разлік, закідвалі горад га-

ручымі шарамі, вырабленымі са смалы. Здзейснілі некалькі адчайных штурмаў. Але ўсё безвынікова. Ландмайстар Юрген фон Вюрцбург арганізаваў бездакорную абарону. Раззлаваны Міндоўг ужываў усе наяўныя сродкі, каб зламаць супраціўленне.

Праз нейкі час Міндоўг са скрухай зразумеў: узяць крэпасць не атрымаецца. Расчараваны няўдачай, ён даў каманду здымацца і адступаць. Па дарозе дамоў у адчаі знішчалі, дзе толькі маглі, германскіх феадалаў, забіралі іх дабро. Аднак вынікі не суцяшалі Міндоўга. Галоўная мэта кампаніі — захапіць ключавы ордэнскі замак Вендэн — не была дасягнута.

Асечка пад Вендэнам стала для Міндоўга добрым урокам, прымусіла яго змяніць тактыку барацьбы. Ён ясна зразумеў: без падтрымкі іншых славянскіх гарадоў і княстваў, найперш — магутнага Ноўгарада Вялікага, Пскова і Цвяры, разбіць германцаў не ўдасца.

Па вяртанні дадому Міндоўг загадаў ваяводзе Мірону рыхтаваць сустрэчу з Аляксандрам Яраслававічам Неўскім. Неўзабаве ўсе неабходныя прыгатаванні былі зроблены.

З'езд караля Міндоўга і князя Аляксандра Неўскага адбыўся ў 1262 годзе ў Смаленску. Першым прыехаў Міндоўг. Жыхары сустрэлі караля хлебам-соллю, хор спяваў у яго гонар. Усе вельмі цешыліся, жылі прадчуваннем міру і згоды.

Міндоўг выступаў у якасці гаспадара, аказваў належнае ўшанаванне высокаму госцю. Яны абодва разумелі, дзеля чаго сабраліся.

Сустрэча праходзіла без дыпламатычных умоўнасцей і хітраванняў. Міндоўг адкрыта звярнуўся да Аляксандра Неўскага:

— Час прымірыцца, спыніць міжусобіцы. Колькі ты будзеш плаціць даніну Ардзе і цярпець здзекі ад іх?! Узаемнай варажнечай мы толькі саслабляем нашы сілы, а ворагі — немцы і ардынцы — напоўніцу карыстаюцца нашай дурнотай. Калі не перастанем варагаваць, яны даб'юць нас паасобку. Трэба як мага хутчэй гуртаваць сілы, аб'ядноўвацца. Толькі супольна зможам абараніць нашы землі і сваіх людзей ад варожай напасці!

Аляксандр Неўскі не пярэчыў. Ён уважліва слухаў, а напрыканцы прамовіў:

— Няхай будзе мір паміж нашымі землямі. Адкінем старыя крыўды і будзем біць ворагаў разам!

На працягу дня хутка і без спрэчак дамовіліся пра сумесную барацьбу супраць тэўтонаў. Сустрэча завяршылася, як і належыць, добрым пачастункам.

Зусім відавочна, добрай справе паразумення двух славянскіх валадароў спрыялі абставіны і дапамагалі зоркі. Паміж каралём і князем сапраўды ўсталяваўся глыбокі давер. Раз'ехаліся задаволеныя, з упэўненасцю ў добрых выніках распачатай справы.

## 25

Неўзабаве рашэнне Міндоўга і Аляксандра Неўскага ўвасобілася ў жыццё. Аб'яднаныя войскі Вялікага Княства Літоўскага, Ноўгарада Вялікага і Цвяры здзейснілі сумесны паход супраць Лівонскага ордэна.

Месцам збору і адпраўкі свайго войска Міндоўг прызначыў Полацк. Адсюль у чэрвені 1262 года ён выступіў у паўночным кірунку.

Харугву Полацкага княства ўзначальваў князь Таўцівіл. Побач з ім быў яго сын Канстанцін, які толькі што стаў валадаром Віцебскага княства. Даўмонт ішоў на чале нальшанскай харугвы.

Належным чынам падрыхтаванае войска рушыла з надзеяй на перамогу. На шляху знішчалі крыжацкія гарнізоны, вызвалялі латгалаў з няволі.

На паўдарозе аб'ядналіся з дружынамі Ноўгарада Вялікага і Цвяры, фармальнае кіраўніцтва якімі ажыццяўляў 12-гадовы Дзімітрый Аляксандравіч — сын Аляксандра Неўскага.

Пайшлі на горад Юр'еў — замак на рацэ Амоўжы, які быў узведзены на спрадвечнай зямлі эстаў, на месцы іх колішняга паселішча Тарбату[1]. Некалькі тыдняў войскі Міндоўга і Дзімітрыя Аляксан-

[1] «Тарбату» перакладаецца як «першабытны бык». Паселішча Тарбату было заснавана блізу пятага стагоддзя. Пасля заваявання немцамі горад атрымаў назву Дэрпт і стаў буйным гандлёвым цэнтрам, вайсковым і палітычным апірышчам нямецкай каланізацыі. Тут таксама размяшчалася рэзідэнцыя каталіцкага біскупа.

дравіча трымалі Юр'еў у аблозе. Спалілі амаль увесь пасад. Аднак цвярдыню так і не здолелі ўзяць.

У роспачы Міндоўг павярнуў войска на Кукейнос — замак на правым беразе Дзвіны, які калісьці належаў Полацкаму княству. Падчас аднаго са штурмаў выпушчанай са сцяны стралой, па ўсім відаць, атручанай, конь Міндоўга быў паранены. Навагрудскі валадар успрыняў гэта як трывожнае папярэджанне, знак нябёсаў. Ён загадаў ваяводзе Мірону неадкладна здымаць аблогу і адступаць.

Добра правучыўшы германцаў, кароль з войскам вярнуўся ў сваю зямлю.

## 26

Міндоўга раздражняла новае хаўрусаванне ляхаў з ненавіснымі тэўтонамі. З горыччу ў сэрцы ён часта думаў: «Палякі — нашы суседзі і браты. Але паводзяць сябе горш за клятых ворагаў! Агрэсіўныя і злыя, яны гатовы ў любы момант уджаліць, нібы ядавітыя змеі. Трэба спыніць іх нахабныя ўчынкі!» Міндоўг доўга цярпеў іх выхадкі.

Самаўпэўненасць ляхаў пераўзыходзіла ўсе межы. 15 ліпеня 1260 года яны адкрыта заключылі з германцамі дамову аб міры і пачалі рыхтавацца да супольнага паходу на ўладанні Міндоўга.

Навагрудскі валадар не стрымаўся і ўвесну 1262 года пайшоў вайной супраць польскага князя Земавіта. Разам з Міндоўгам у паходзе браў удзел Астап Канстанцінавіч, які калісьці ўцёк з Разані.

Спачатку рушылі на сталіцу Мазавецкага княства — Плоцк. Замак стаяў на высокім беразе Віслы і меў выключнае стратэгічнае значэнне. Абарончыя збудаванні былі даволі моцныя. Стаяла кепскае надвор'е, ішлі праліўныя дажджы. Войска Міндоўга, не зважаючы на непагадзь, здолела ўзяць горад штурмам. Надзвычай прыдалося вайсковае майстэрства, набытае падчас рэгулярных трэніровак дружыны і папярэдніх баталій. Таранам прабілі браму і ўварваліся ў крэпасць. Гарнізон аказваў супраціўленне, але яго зламалі, а абаронцаў жорстка перабілі. Плоцк дарэшты абрабавалі і спалілі.

Затым Міндоўг фарсіраваў Віслу і пайшоў на крэпасць Уяздоў. Там зачыніўся князь Земавіт І Мазавецкі са старэйшым сынам Конрадам. Жыхары горада не любілі Земавіта. На Купалле, уначы, яны адчынілі Міндоўгу браму — і ён здолеў захапіць крэпасць. Падчас сутычкі 23 чэрвеня 1262 года дружыннікі Міндоўга забілі польскага князя Земавіта. Яго сына Конрада ўзялі ў палон і павялі ў Літву. Так Міндоўг адпомсціў Земавіту і палякам за хаўрус з тэўтонамі.

Дома караля чакалі непрыемнасці. Амаль перад самым яго вяртаннем памерла Марфа. Міндоўг доўга сумаваў. Упершыню ён адчуў, што часу для зямных спраў у яго засталося зусім няшмат.

## 27

Канкурэнты падціскалі. Асабліва дапякаў Даўмонт. Ён сябраваў з пскоўскімі князямі, умела апекаваўся купцамі і меў дастаткова багаццяў. Даўмонт імкнуўся да лідарства, прагнуў прызнання і славы, а галоўнае — больш не жадаў нікому падпарадкоўвацца. Каб зламаць яго волю, Міндоўг пакінуў пры сваім двары маладую жонку Даўмонта, якая прыязджала на пахаванне Марфы. Абражаны нальшанскі князь не мог сцярпець такой знявагі і ганьбы. Ён пачаў шукаць сродкі, каб адпомсціць навагрудскаму валадару.

Якраз у 1263 годзе з новай сілай разгарэўся канфлікт Міндоўга з Васількам Раманавічам, які княжыў у Берасце. Ён знаходзіўся ў палітычнай залежнасці ад Арды, бездакорна выконваў даручэнні ардынцаў.

Міндоўг загадаў ваяводзе Мірону:

— Мярзотнікі, якія служаць ворагу, павінны быць знішчаны! Альбо мы, альбо яны! Іншага не дадзена.

Міндоўг распачаў з Васількам Раманавічам вайну. Ён гарэў жаданнем знішчыць здрадлівага князя і вярнуць пад сваю ўладу Берасце — важны фарпост на захадзе краіны.

Аднак Даніла Раманавіч Галіцкі апярэдзіў. Ён прыслаў на дапамогу брату свежыя войскі. Адбылася сеча. Харугвы Міндоўга былі ўшчэнт разбіты.

Дадому кароль Міндоўг вяртаўся змрочны. Яго сэрца разрывалася на кавалкі: зло засталося без пакарання, а ворагі святкавалі перамогу. Спыніўшыся ля вялізнага пляскатага каменя, каб падсілкавацца, Міндоўг моцна задумаўся. У галаве мітусілася мноства думак пра ўладу і дзяржаву. «Можа, сапраўды варта спыніцца і жыць з таго, што Бог паслаў? Можа, не трэба новыя ўладанні? Распусціць войска, адмяніць суды, спустошыць дзяржаўны скарб і жыць як птушкі нябесныя! А што наўзамен? Ворагі спустошаць краіну, знішчаць людзей, жанчын і дзяўчат павядуць у рабства. Не, усё робіцца правільна. Нельга папускаць ворагам! Нельга саслабляць краіну! Кожны дзень належыць дбаць пра дзяржаву, пра ўмацаванне войска, пра дабрабыт зямлі. Адпусціш лейцы — усё пойдзе прахам! Ніколі нельга здавацца. Кожны раз пасля няўдачы неабходна ўздымацца з каленяў, ісці наперад, з усіх сіл бараніць трон і пашыраць уладу!»

Хваробы, аднак, не адпускалі. Кароль Міндоўг адчуваў набліжэнне смерці. Нешта ўнутры падказвала: яго зямны шлях падыходзіць да завяршэння. У размове з пасцельнічым ён загадаў, каб у выпадку раптоўнай смерці яго цела, паводле старадаўняга славянскага звычаю, спалілі.

Навагрудская дзяржава панесла вялікія людскія страты. Працяглае змаганне з крыжакамі і ардынскімі наймітамі — галіцка-валынскімі князямі,— а таксама залежнымі ад ардынцаў валадарамі ўсходнеславянскіх зямель запатрабавала неверагодных высілкаў, знясіліла дзяржаўны арганізм.

Знешнія і ўнутраныя ворагі не замарудзілі скарыстацца аслабленнем краіны і хваробамі караля.

## 28

Састарэлы і аслаблены Мідоўг не збіраўся здавацца, адступаць ад сваіх прынцыпаў. У канцы лета 1263 года ён загадаў склікаць войска і ісці вайной супраць бранскага князя Рамана Міхайлавіча Старога. Той хацеў парадніцца з галіцка-валынскімі князямі, што якраз і выклікала неверагодны гнеў з боку Міндоўга.

Войска навагрудскага валадара ўжо фарсіравала Дняпро, як раптам да караля прыскакаў ганец на ўзмыленым кані і паведаміў, што ляхі рыхтуюцца нанесці ўдар па Княстве. Міндоўг не меў іншага выйсця, як вярнуцца, каб у выпадку чаго арганізаваць супраціўленне. Ён накіраваў асноўную частку войска на чале з Таўцівілам на Чарнігаў, а з астатнімі рушыў дадому.

Міндоўг не здагадваўся, што гэта была пастка, загадзя падрыхтаваная Транятам і Даўмонтам. Чуткі пра падрыхтоўку ляхаў да нападу на Навагрудак зыходзілі менавіта ад Траняты. Ён падбухторыў жамойцкіх феадалаў адкрыта выступіць супраць Міндоўга, каб выйсці з-пад улады Навагрудка. Менавіта таму Транята адмовіўся ўдзельнічаць у паходзе, спаслаўшыся на пагрозы з боку крыжакоў. Тым часам ён рыхтаваў войска, каб выступіць супраць Навагрудскай дзяржавы і Полацка.

Як толькі Міндоўг прыняў рашэнне вярнуцца, Даўмонт следам за ім адмовіўся ісці за Дняпро. На пытанне ваяводы ён адказаў, што варажбіты прадракаюць яму нядобрае. Насамрэч ён развярнуў войска і пагнаўся ўслед за Міндоўгам.

Адарвацца ад пераследу Міндоўгу было не надта складана. Рухаліся хутка, з кароткімі перапынкамі на адпачынак. Уначы скакалі з запаленымі паходнямі. Абураны нахабным учынкам Даўмонта, яго здрадай, Міндоўг усё ж такі вырашыў даць бой. Ён выдатна разумеў, што сілы няроўныя, але гнеў авалодаў усёй істотай вялікага князя. Уцякаць далей, нібы палахлівы заяц, не дазваляў гонар. Нарэшце, прыгледзеўшы зручнае месца для бітвы, Міндоўг спыніўся. Наколькі змог, падрыхтаваўся.

Даўмонт атакаваў на досвітку. Пачалася злая і крывавая сеча. У бітву ўступілі пешыя воіны. Міндоўг сышоўся з Даўмонтам у двубоі і падчас сутычкі атрымаў смяротную рану. Пад прыкрыццём узброеных вершнікаў ахоўнікі вынеслі акрываўленае цела князя і памчалі далей ад небяспекі. Лекары аказвалі дапамогу, але па дарозе Міндоўг усё адно памёр.

Цела князя прывезлі ў Навагрудак і, выконваючы яго апошнюю волю, спалілі на бярозавай скірце. У тую ноч пушча вакол Навагрудка

скаланулася ад выцця ваўкоў. Людзі зразумелі: Гай і ўсе воўчыя зграі гэтак выказваюць свой сум, назаўжды развітваючыся з Міндоўгам.

На месцы здзяйснення жалобнага рытуалу маўклівыя дружыннікі ў знак павагі да караля Міндоўга насыпалі вялікі курган, дбаючы пра тое, каб яго імя ніколі не сцерлася з памяці нашчадкаў.

* * *

Полацкі князь Таўцівіл падчас кампаніі 1263 года заваяваў Чарнігаў, правёў генеральную бітву з Раманам Міхайлавічам Старым, у якой бранскі князь быў паранены. Даведаўшыся пра здраду і смерць Міндоўга, Таўцівіл спыніў наступ і тэрмінова вярнуўся дадому.

Пасля забойства навагрудскага валадара Транята абвясціў сябе гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага. Але панаваў не вельмі доўга — можа, толькі год. За гэты час ён знішчыў свайго галоўнага палітычнага апанента — Таўцівіла. Транята запрасіў полацкага князя ў Навагрудак, нібыта з мэтай падзелу спадчыны Міндоўга, і там забіў госця. Затым накіраваў сваіх людзей у Віцебск, каб забіць і сына Таўцівіла — Канстанціна. Але той своечасова збег у Вялікі Ноўгарад і толькі гэтак здолеў выратавацца ад немінучай пагібелі.

За свае ўчынкі Транята неўзабаве атрымаў па заслугах. Колішнія людзі Міндоўга ў 1264 годзе падсцераглі яго, калі ён ішоў у лазню, і зарэзалі. Мсціўцы ўцяклі да Войшалка і паведамілі яму пра пакаранне галоўнага ворага. Нашчадак навагрудскага валадара ў гэты час знаходзіўся ў Ляшчынскім манастыры, што непадалёк ад Пінска. Туды ён уцёк пасля забойства бацькі.

Войшалк імкліва згуртаваў войска і вярнуўся ў Навагрудак. Там ён жорстка расправіўся з забойцамі бацькі і іх прыхільнікамі. Пэўна, Войшалк шкадаваў, што бацьку не пахавалі паводле хрысціянскага звычаю, у труне. Аднак нічога змяніць не мог, бо такой была апошняя бацькава воля. У 1264 годзе Войшалк здзейсніў карныя экспедыцыі на Нальшаны і Дзяволту. Ён разбіў князя Даўмонта і заваяваў Нальшанскую зямлю. Неўзабаве скарыў і Дзяволту.

Пасля атрыманай паразы Даўмонт з атачэннем уцёк у Пскоў. Там ён прыняў хрышчэнне, а ў 1266 годзе пскавічы ўзвялі яго на княжанне. Даўмонт перамог у бітве з войскам Вялікага Княства Літоўскага на Дзвіне і спустошыў вотчыну Гердзеня Давыдавіча — сына віцебскага князя Давыда Расціславіча. Ён шмат ваяваў з крыжакамі. Памёр ад хваробы ў 1299 годзе.

Галіцка-валынскі валадар Даніла Раманавіч не змог ажыццявіць сваіх грандыёзных планаў. Ён не атрымаў чаканай дапамогі ад «лацінян» і не здолеў вызваліцца ад улады Арды. У 1264 годзе ён памёр.

Князь Аляксандр Неўскі, з якім Міндоўг заключыў саюз, скончыў зямны шлях 14 лістапада 1263 года, адразу пасля наведання Арды, дзе ён моцна захварэў. Магчыма, яго атруцілі, як некалі бацьку,— за тое, што не папярэдзіў і не прадухіліў паўстанняў ва Уладзіміры, Суздалі, Пераяслаўлі, Яраслаўлі і іншых гарадах, жыхары якіх у 1262 годзе адмовіліся плаціць даніну Ардзе і перабілі ханскіх збіральнікаў подаці.

У апошнія гады жыцця князь Войшалк зблізіўся са Сварамірам Данілавічам, разам з ім здзяйсняў паходы на Польшчу і гарады Галіцка-Валынскага княства. 29 красавіка 1267 года Войшалка забіў Леў Данілавіч. Пахавалі яго ў царкве Святога Міхаіла Вялікага ў горадзе Уладзіміры-Валынскім. Пасля Войшалка новым валадаром Вялікага Княства Літоўскага стаў Сварамір Данілавіч — яго надзейны паплечнік і саюзнік.

# БЛЯСК КАРОНЫ

*Князь Вітаўт — адна з культавых постацей нацыянальнай гісторыі. Менавіта ў перыяд яго гаспадарання сярэднявечная Беларуская дзяржава дасягнула найвялікшага эканамічнага і вайсковага росквіту. Вітаўт завяршыў цэнтралізацыю ўлады ў Вялікім Княстве Літоўскім, разграміў крыжакоў падчас вырашальнай Грунвальдскай бітвы 1410 года, спыніў бясконцыя набегі татараў. Ён ператварыў Вялікае Княства Літоўскае ў найбольш магутную дзяржаву Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, адцясніў на далёкую перыферыю Маскоўскае княства.*



## I

Вітаўт — сын князя Кейстута, нарадзіўся ў 1350 годзе. Яго дзяцінства, верагодней за ўсё, прайшло ў Гародні, якая ахоўвалася магутным Нёманам. З ранніх гадоў юнак выявіў схільнасці да дзяржаўных спраў і вайсковага майстэрства. Старадаўнія хронікі паведамляюць, што двойчы, у 1368 і ў 1372 гадах, ён разам з бацькам удзельнічаў у паходах на Маскоўскае княства.

У 1375 годзе Вітаўт атрымаў у спадчыну ад бацькі буйныя зямельныя надзелы: значную частку Трокскага княства з гарадамі Гародняй, Драгічынам, Мельнікам, Берасцем, Каменцам. Яму гэтаксама перайшлі землі на Палессі і на паўночным захадзе Княства з цэнтрам у Мерачы.

Як паўнаўладны гарадзенскі князь Вітаўт у 1376 годзе самастойна арганізаваў вайсковую кампанію супраць Польшчы. Некалькі разоў ён удзельнічаў у сутычках з крыжакамі.

У 1377 годзе Вітаўт падтрымаў рашэнне бацькі ўзвесці на трон Вялікага Княства Літоўскага Ягайлу — сына Альгерда. Гэткі выбар стаўся вынікам дамоўленасці Кейстута з братам Альгердам, які прасіў, каб пасля яго смерці, вялікім князем стаў менавіта Ягайла — пляменнік Кейстута і стрыечны брат Вітаўта.

Напачатку Вітаўт і Ягайла мелі надзвычай прыязныя адносіны, што спрыяла стабільнасці і міру ў дзяржаве. У 1379 годзе Вітаўт прысутнічаў пры заключэнні дагавора з немцамі, які з боку Вялікага Княства падпісалі вялікі князь Ягайла і Кейстут.

Разлад паміж уплывовымі родзічамі ўнеслі крыжакі і інтрыган Вайдыла. Узаемныя падазрэнні і непаразуменні неўзабаве перараслі ў вайсковы канфлікт. Кейстут і Вітаўт трапілі ў палон да Ягайлы. Пры нявысветленых абставінах князь Кейстут у 1382 годзе загінуў у вязніцы. Паводле адной з версій, яго задушыў Прокша — чашнік Ягайлы. Прынамсі, так меркаваў Вітаўт, аб чым ён пазней пісаў у адным з лістоў да крыжакоў.

## II

Вітаўта працяглы час утрымлівалі ў палоне ў Крэўскім замку. Толькі з дапамогай жонкі і яе служанкі ён здолеў збегчы[1]. Пасля ўцёкаў з вязніцы Вітаўт накіраваўся да мазавецкага князя Яна, а адтуль — да прускіх крыжакоў. 21 кастрычніка 1383 года ён ахрысціўся паводле каталіцкага абраду.

30 студзеня 1384 года Вітаўт паабяцаў вялікаму магістру Конраду Чолнеру фон Ротэнштэйну, узамен за вайсковую дапамогу ў змаганні за трон Вялікага Княства, саступіць яму Жамойцкую зямлю. 14 чэрвеня 1384 года падчас асабістай сустрэчы Вітаўта і вялікага магістра ў Марыенвердары яны пацвердзілі ўзаемныя абавязкі.

З дапамогай крыжакоў Вітаўт арганізаваў некалькі вайсковых кампаній супраць Ягайлы. У выніку той быў вымушаны вярнуць яму

---

[1] Аб гэтым здарэнні і падрабязнасцях вызвалення Вітаўта з вязніцы ёсць звесткі ў «Хроніцы Быхаўца».

спадчынныя ўладанні — Берасцейскую, Драгічынскую, Мельніцкую, Белзскую, Суражскую, Камянецкую і Ваўкавыскую землі.

Неўзабаве Вітаўт атрымаў у валоданне Валынь і Падолле.

## III

Канфлікт Вітаўта з Ягайлам не быў, аднак, даастатку вычарпаны. Ён неўзабаве разгарэўся з новай сілай, бо Вітаўт не падтрымаў Крэўскай уніі, падпісанай Ягайлам з палякамі 14 жніўня 1385 года.

У 1386 годзе Вітаўт разам са Скіргайлам разбіў войскі полацкага князя Андрэя Гарбатага і смаленскага князя Святаслава, якія мелі на мэце вярнуць колішнюю веліч сваіх княстваў, здабыць для іх палітычную самастойнасць.

Палітычнае супрацьстаянне ў Вялікім Княстве Літоўскім знайшло адлюстраванне ў летапісе, дзе паведамлялася літаральна наступнае:

*У тую зіму 1386 года, калі ўсе літоўскія князі і баяры былі ў Кракаве з Ягайлам, полацкі князь Андрэй Альгердавіч напаў на Літву. Разам з нямецкімі і інфлянцкімі наёмнікамі ён спаліў шмат местаў, замкаў і вёсак, а затым вярнуўся ў сваю зямлю з вялікай здабычай.*

*У наступным годзе смаленскі князь Святаслаў і полацкі князь Андрэй заключылі пагадненне аб сумесным паходзе на Літву.*

*Князь Андрэй з войскам зноў пайшоў у Літву. Князь Святаслаў рушыў да Оршы. Яны вельмі шмат зла ўчынілі хрысціянам, нават паганскія войскі такога не выраблялі: замыкалі людзей у хатах і палілі; вылівалі гарачую смалу на галовы захопленых у палон; іншых, падважыўшы хаты, клалі шыямі пад сцены, потым вагі адымалі і людзей давілі бярвёнамі. Мужчын, жанчын і дзяцей саджалі на калы. Сваёй жорсткасцю яны пераўзыходзілі ўсіх рымскіх цэзараў-тыранаў. Але замкаў не здолелі ўзяць і адышлі ў сваю зямлю.*

*У той жа год, калі надышла вясна, смаленскі князь Святаслаў згуртаваў сваё рускае войска і пайшоў на Мсціслаўль. Ён акружыў*

*замак і пачаў штурмаваць яго: падкопваў сцены, а таксама тоўк таранамі абарончыя збудаванні і брамы.*

*Войскі Святаслава спустошылі і выпалілі ўсю Мсціслаўскую воласць. Шмат хрысціянскай крыві пралілося ад мяча Святаслава.*

*Князі Вітаўт і Скіргайла вярнуліся з Польшчы ад брата Ягайлы пасля посту. Калі яны дачуліся, што князь Святаслаў з войскам стаіць пад Мсціслаўлем, то сфарміравалі войска з літвінаў і жамойтаў і пайшлі на русь, пакладаючыся на Бога і справядлівасць.*

*Святаслаў перастрэў войскі Вітаўта і Скіргайлы ў полі і ўдарыў на літву з гучнымі выкрыкамі. Вітаўт і Скіргайла стрымалі атаку і адбілі ворага.*

*У момант, калі Святаслаў перашыхтоўваў разарваныя харугвы, адзін смелы літвін прабіў яго дзідай навылёт. Святаслаў зваліўся з каня. Гэта была яму адплата за лютасць.*

*Смаленскае войска, застаўшыся без князя, кінулася ўцякаць у бліжэйшыя лясы. Харугвы Скіргайлы гналі іх, секлі і забівалі.*

*Князь Юрый, сын Святаслава, мужна біўся, але быў паранены і ўзяты ў палон. Ён пазней пакляўся Скіргайлу ў вернасці і быў адпушчаны ў Смаленск.*

*Потым Скіргайла і Вітаўт рушылі на Полацк. Яны ўзялі горад, паланілі зачыншчыкаў вайны і адсеклі ім галовы.*

*Вітаўт і Скіргайла пакінулі ўзброеныя аддзелы ў Полацку, а таксама ў Лукомльскай, Віцебскай, Аршанскай, Смаленскай і Мсціслаўскай землях. Яны выкаранілі там свавольствы і прывялі ўсіх жыхароў да паслушэнства Вялікаму Княству Літоўскаму.*

*Андрэя Альгердавіча, роднага брата Скіргайлы, які распачаў канфлікт, узялі ў палон. Тры гады трымалі яго ў вязніцы, а затым выпусцілі на волю.*

*Пасля гэтай перамогі князі Вітаўт і Скіргайла распусцілі войскі, а самі паехалі ў свае замкі. Скіргайла — у Трокі, а Вітаўт — у Гародню. Свідрыгайла застаўся ў Полацку.*

Пасля перамогі над Андрэем Гарбатым і Святаславам Вітаўт разлічваў на атрыманне ўлады над усім Вялікім Княствам Літоўскім, бо Ягайла ў 1386 годзе быў абраны каралём Польшчы і пераехаў туды на сталае жыццё.

Але Ягайла не задаволіў амбіцый Вітаўта. У 1387 годзе ён перадаў уладу над Вялікім Княствам Скіргайлу, з чым Вітаўт катэгарычна не пагадзіўся. Вітаўт распачаў змаганне з палітычным сапернікам — Скіргайлам, але доўгі час не меў поспеху.

## IV

Вітаўт жыў пераважна ў сваёй рэзідэнцыі ў Гародні. У 1387 годзе паводле загаду князя для прыхаджан быў пабудаваны драўляны касцёл, які атрымаў назву «фара Вітаўта». Бажніца ўражвала дзівоснымі формамі і прыгажосцю, прываблівала шматлікіх наведвальнікаў і суцяшала сэрцы вернікаў.

У 1389 годзе здарылася няшчасце — загарэўся драўляны замак князя, у якім ён ледзь не загінуў разам з жонкай Ганнай. Магчыма, падпал арганізавалі таемныя нядобразычліўцы ці праціўнікі князя.

Пасля пажару Вітаўт пачаў будаваць у Гародні каменны замак. Ён быў узведзены на 30-метровай гары, меў пяць вежаў і тоўстыя, каля трох метраў, абарончыя сцены. Вакол замка пракапалі глыбокі роў і запоўнілі яго вадой. Такім чынам, пабудаваная Вітаўтам фартэцыя адпавядала ўсім вайсковым задачам таго часу. Яна з'яўлялася недаступнай для любых родаў войск — лучнікаў, пяхоты, конніцы, а таксама артылерыі ворагаў.

Жывучы ў Гародні, князь Вітаўт цягам чатырох гадоў арганізоўваў вайсковыя кампаніі супраць караля Ягайлы і яго стаўленіка ў Вялікім Княстве Літоўскім.

У пачатку 1389 года ён паспрабаваў хітрасцю авалодаць Вільняй. Вітаўт накіраваў у сталіцу Вялікага Княства ўзброеных жаўнераў на санях, замаскаваных пад вясельны картэж. Але адміністратар Вільні Дзімітрый Карыбут нейкім чынам дазнаўся пра набліжэнне ўзброенага атрада і пераняў яго на подступах да горада.

Восенню 1390 года Вітаўт з наёмным войскам і нямецкімі рыцарамі паспрабаваў штурмам авалодаць Вільняй. Падчас аблогі горада выкарыстоўваліся адмысловыя вайсковыя прылады —

тараны, камнямёты, а таксама гарматы. У старажытным беларускім летапісе надзвычай падрабязна распавядаецца пра гэтую вайсковую кампанію:

*У тым жа 1390 годзе, князь Вітаўт з трыма велізарнымі вайсковымі злучэннямі зноўку рушыў на Літву. Адным войскам кіраваў сам Вітаўт. Другім — прускі магістр Конрад, трэцім — інфлянцкі магістр разам з англійскім каралевічам Ланкастрам. Войскі падышлі да Коўна, дзе Вілія ўпадае ў Нёман, а адтуль рушылі да Трокаў. Некалькі разоў штурмавалі Трокскі замак, захапілі яго, а потым разбурылі і спалілі.*

*Затым войскі пайшлі на Вільню. Іх перастрэў Скіргайла з войскам. На рацэ Віліі непадалёк ад Вільні адбылася вялікая бітва. Літва і русь пераўзыходзілі ў смеласці, а немцы мелі перавагу ў зброі. Бітва доўжылася ад раніцы да поўдня. Поле было ўслана целамі забітых і параненых жаўнераў з абодвух бакоў. Урэшце Вітаўт з немцамі і ангельцамі перамог Скіргайлу. Харугвы Скіргайлы адступілі ў напрамку да Вільні.*

*Падчас той бітвы загінула шмат славутых рыцараў, што змагаліся на баку Скіргайлы: смаленскі князь Глеб Святаславіч, князь Сямён Яўнутавіч Жаслоўскі, князь Глеб Канстанцінавіч Чартарыйскі, князь Іван Львовіч і шмат іншых паноў. Вайсковага люду з боку Скіргайлы загінула 46 000, а немцаў палегла паўтары тысячы. З рэшткамі войска Скіргайла збег у Старыя Трокі. Потым ён, папоўніўшы харугвы новымі жаўнерамі, бесперапынна атакаваў нямецкія абозы, што стаялі пад Вільняй.*

*Войска Вітаўта падступіла да Вільні з боку Ніжняга замка, які яшчэ называюць Крывым. Вітаўтавы прыхільнікі ў Вільні запалілі дзве вежы і пралёты абарончых сцен. Казімір-Карыгайла — родны брат караля Ягайлы, паспрабаваў уцячы з таго пажару, але немцы захапілі яго ў палон. Калі Казіміра прывялі да Вітаўта, той загадаў сцяць яму галаву і начапіць яе на дзіду. Так Вітаўт паквітаўся са стрыечным братам.*

*У Віленскім Ніжнім замку загінула 14 000 абаронцаў, русінаў і літвінаў,— хто ад агню, а хто быў забіты немцамі.*

*Верхні замак мужна баранілі палякі на чале з віленскім старостам Масракоўскім. Немцы бесперастанку абстрэльвалі Верхні замак з гармат. Яны разбілі значную частку замкавага муру, але абаронцы выстаялі і не паддаліся ім.*

*Пінскі князь Нарымонт — родны брат Ягайлы — мужна бараніў Віленскія замкі разам з літвінамі, палякамі і русінамі. Ён пераязджаў ад аднаго замка да другога, аказваючы дапамогу там, дзе яна была найбольш патрэбная. Адзін нямецкі рыцар выклікаў Нарымонта на двубой. У полі перад замкам яны біліся на дзідах. Нарымонт быў зрынуты з каня і ўзяты ў палон. Яго прывялі да Вітаўта. Раз'юшаны Вітаўт неміласэрна загадаў падвесіць Нарымонта на вязе і ўласнаручна забіў яго стрэламі з лука. Нарымонт быў добрым рыцарам і стрыечным братам Вітаўта.*

*Цягам трох месяцаў князь Вітаўт штурмаваў віленскія замкі. Але мэты не дасягнуў і мусіў адступіць. Яго войскі нящчадна рабавалі навакольныя мястэчкі, вёскі, фальваркі і касцёлы, а ксяндзоў забівалі. Шмат узялі палонных і са здабычай адхлынулі ў Прусію і Інфлянты.*

Такім чынам, сталіцу Вялікага Княства Літоўскага князю Вітаўту зноўку не ўдалося ўзяць. Ён мусіў адступіць разам са сваімі хаўруснікамі — германцамі.

## V

У 1390 годзе Вітаўт здзейсніў неардынарны палітычны крок: утварыў альянс з Масквой, выдаўшы дачку Соф'ю замуж за маскоўскага князя Васіля Дзмітрыевіча. У суправаджэнні Івана Гальшанскага Соф'ю завезлі да яе суджанага марскім шляхам — праз Балтыйскае мора. Дынастычны саюз Вітаўта з Масквой істотна ўзмацніў яго пазіцыі ў змаганні за трон Вялікага Княства Літоўскага.

У снежні 1391 года Вітаўт зноў атрымаў вайсковую падмогу ад Ордэна. Неўзабаве ён аваладаў Мерачу і Гародняй. Гарадзенцы выступілі на яго баку, бо яны надта не любілі палякаў, прысланых туды Ягайлам у якасці адміністратараў.

Пад моцным вайсковым ціскам Вітаўта кароль быў вымушаны пайсці на ўступкі і распачаць дыялог. Плоцкі біскуп Генрых прыехаў да Вітаўта і правёў з ім таемныя перамовы. Ён паведаў яму пра гатоўнасць Ягайлы да міру і згоду караля саступіць Вітаўту тытул вялікага князя. Той, зразумела, пагадзіўся.

Пасля таемнай дамовы з Ягайлам Вітаўт рэзка разарваў адносіны з крыжакамі, забіў шмат нямецкіх рыцараў, абрабаваў крэпасці Юрбург, Бадэнбург і Марыенвердэр, а затым адправіўся ў Вільню, дзе яго ўрачыста сустрэлі месцічы, спадзеючыся на ўсталяванне міру ў Княстве.

Улетку 1392 года Вітаўт прымаў у вёсцы Востраў, непадалёк ад Ашмян, Ягайлу з жонкай Ядвігай. 5 жніўня яны падпісалі канчатковае замірэнне, паводле якога Вітаўт станавіўся паўнаўладным гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага.

Цырымонія ўзыходжання Вітаўта на вялікае княжанне адбылася ў Віленскім замку. Прыхільны да Вітаўта летапісец падрабязна зафіксаваў дэталі ўрачыстай падзеі:

*Вітаўт узышоў на пасад вялікага князя ў Вільні, у прысутнасці караля Ягайлы і каралевы Ядвігі і ўсяго польскага Сената. Урачыстасць адбывалася ў Віленскім замку ў касцёле Святога Станіслава. Віленскі біскуп Андрэй Вазілок усклаў на галаву Вітаўта княскую шапку і адзеў на яго шаты вялікага князя. Вялікі літоўскі маршалак, паводле заведзенага звычаю, даў у рукі Вітаўту аголены меч, жэзл вялікага князя і пячатку Вялікага Княства Літоўскага. Жонку Вітаўта Ганну там жа абвясцілі вялікай княгіняй. Літоўскія паны прынеслі прысягу вялікаму князю, выканалі неабходныя абрады. Усе радаваліся і спадзяваліся, што пры Вітаўту наступіць доўгачаканы мір. Але іх надзеі і мары не спраўдзіліся.*

Вітаўт, такім чынам, дамогся свайго — стаў вялікім князем. З гэтага моманту пачаўся новы этап не толькі ў яго асабістым жыцці, але і ва ўсёй палітыцы тагачаснай Беларускай дзяржавы.

## VI

Пасля ўзыходу на трон Вітаўт неадкладна распачаў імклівую цэнтралізацыю краіны і ўсталяванне адзінаўладнай манархіі. Вялікі князь расправіўся з Альгердавічамі — галоўнымі палітычнымі канкурэнтамі, якія не жадалі прызнаваць яго ўлады і плаціць яму даніну.

Першым супраць Вітаўта выступіў Скіргайла. Ён меў мноства прыхільнікаў сярод праваслаўнага насельніцтва Беларусі, таму мог разлічваць на поспех. На баку Скіргайлы былі і асобныя нямецкія рыцары.

Але каралю Ягайлу ўдалося прымірыць Вітаўта са Скіргайлам. Вялікі князь пайшоў на значныя саступкі. Скіргайла атрымаў буйныя надзелы і гарады: Старадуб-Северскі, Крэменец-Валынскі і Старыя Трокі. Пазней, у 1395 годзе Вітаўт прызначыў Скіргайлу намеснікам у Кіеў.

Значнае супраціўленне Вітаўту аказаў Дзімітрый Карыбут, якому належаў Ноўгарад-Северскі. Вайсковая кампанія Вітаўта супраць Дзімітрыя знайшла адбітак у летапісе:

*Вітаўт моцна задумаўся пра тое, як папоўніць казну Вялікага Княства Літоўскага, бо яна была дарэшты скарыстана на войны і на абарону ад варожай агрэсіі. Вялікі князь знайшоў простае рашэнне як папоўніць дзяржаўны скарб. Вітаўт накіраваў пасла да роднага каралеўскага брата Дзімітрыя Карыбута — нашчадка князёў Збаражскіх і Вішнявецкіх, які трымаў Ноўгарад-Северскі ўдзел, з загадам прынесці яму як вялікаму князю прысягу на вернасць, пацвердзіць вяршэнства яго ўлады над сабой, а таксама плаціць падаткі ў казну Вялікага Княства Літоўскага. Вітаўт накіраваў гэткія ж пасольствы да кіеўскага князя Уладзіміра і да Фёдара Карыятавіча, які валодаў Падоллем.*

*Северскі князь Дзімітрый Карыбут, які з'яўляўся Альгердавічам і родным братам караля Ягайлы, не жадаў прысягаць Вітаўту і прызнаваць над сабой яго ўладу.*

*Ён адказаў Вітаўту:*

*— Я з'яўляюся дзедзічам (спадчыннікам) і маю больш правоў на валоданне Вільняй і тронам Вялікага Княства Літоўскага, чымся*

*ты. Не дачакаешся, каб я плаціў табе даніну і прыносіў прысягу на вернасць, як ты таго прагнеш!*

*Абураны высакамернай адмовай, вялікі князь Вітаўт выправіўся з войскам супраць Северскай зямлі.*

*Карыбут Альгердавіч, калі пачуў пра наступ Вітаўта, не стаў чакаць непрыяцеля ў сваёй зямлі, а выступіў з войскам насустрач яму.*

*Два войскі сустрэліся каля Недакудава. Там, на шырокіх палях, пачалася грозная бітва. Яна доўжылася некалькі гадзін з пераменным поспехам з абодвух бакоў. Потым харугвы Карыбута пачалі змешвацца і збівацца. Тым часам Вітаўт з літвой усё мацней націскаў. Урэшце ён разарваў і разграміў войскі Карыбута. Той у адчаі хлістануў свайго каня плёткай і ўцёк з невялікай дружынай да Ноўгарад-Северска — свайго галоўнага замка. Карыбут планаваў пазней сфарміраваць войска для новай бітвы, а пакуль зачыніўся ў замку з жонкай і дзецьмі, умацаваўшы належным чынам абарончыя сцены збраяй і жаўнерамі.*

*Вітаўт пахаваў забітых воінаў. З палеглых у бітве ворагаў яго жаўнеры паздзіралі каштоўнасці і зброю.*

*Крыху спачыўшы, Вітаўт з войскам рушыў на Ноўгарад-Северскі і акружыў замак з усіх бакоў. Пачаліся безупынныя штурмаванні горада. Пад гарадскія сцены рабіліся падкопы, падкладваўся агонь. На працягу доўгага часу Вітаўт здабываў Ноўгарад-Северскі і ўрэшце ўзяў яго.*

*Князь Карыбут з жонкай і дзецьмі трапіў у палон. Вітаўт забраў усю маёмасць Карыбута, яго скарбы і вайсковы рыштунак. Для аховы замка вялікі князь прызначыў сваіх рыцараў, а ва ўсе землі Ноўгарад-Северскага княства паслаў старостаў.*

*Карыбута з жонкай і дзецьмі Вітаўт адаслаў у Вільню, у вязніцу. Там Карыбут сядзеў вельмі працяглы час, аж пакуль яго цесць — разанскі князь Аляксандр — не ўпрасіў Вітаўта выпусціць зяця на волю. Карыбут пры гэтым пакляўся аніякім чынам не помсціць Вітаўту, не прычыняць яму аніякай шкоды, ніколі не ваяваць супраць яго. Пад гэтым яны і падпісаліся.*

Пасля захопу Ноўгарад-Северска Вітаўт накіраваў войскі на Бранск і ў хуткім часе таксама падпарадкаваў яго сваёй уладзе.

## VII

Непакорлівасць Вітаўту выявіў князь Свідрыгайла, які ў гэты час пачуваўся неверагодна абражаным. Яго маці Ульяна, якая валодала Віцебскам, у 1392 годзе памерла. Ягайла прызначыў туды намеснікам сваю давераную асобу — Фёдара Вясну, які дагэтуль быў каралеўскім лоўчым. Зняважаны Свідрыгайла, заўсёды асцярожны, не стрымаўся, напаў на Віцебск, захапіў горад і забіў Фёдара Вясну.

У старажытным летапісе гаворыцца:

*Кароль Ягайла быў надта абураны выбрыкам няўдзячнага брата. Ён напісаў Вітаўту, каб той ужыў сілу, спыніў разбой і пакараў Свідрыгайлу.*

*Вітаўт склікаў войска і пайшоў пад Оршу. Праз некалькі дзён ён узяў горад і ўсталяваў там сваю ўладу.*

*Затым Вітаўт акружыў Друцк. Друцкія князі і баяры не сталі супраціўляцца. Яны здаліся вялікаму князю, прысягнулі яму на вернасць і пацвердзілі гатоўнасць плаціць падаткі ў дзяржаўную скарбонку.*

*Потым Вітаўт з друцкімі князямі і аршанскімі панамі, што перайшлі на яго бок, пайшоў на Віцебск. Яго войскі акружылі горад. На дапамогу Вітаўту прыйшоў смаленскі князь Юрый Святаславіч. Ён урачыста даў клятву Вітаўту, за што той аддзячыў смаленскаму князю.*

*Войскі Вітаўта бесперапынна штурмавалі сцены Віцебска з абодвух бакоў. Свідрыгайла з немцамі ўпатра абараняўся. Толькі праз чатыры тыдні Вітаўт здолеў узяць Ніжні замак. Затым ён усталяваў гарматы ў Ніжнім замку, адкуль разбіваў муры Верхняга замка. Нарэшце, з-за недахопу правіянту, абаронцы здаліся. Так Вітаўт узяў і Верхні замак. Свідрыгайлу злавілі жывым.*

*Вітаўт пакінуў у Віцебску гарнізон са сваіх жаўнераў. Стрыечнага брата Свідрыгайлу ён адаслаў пад аховай у Польшчу — да караля Ягайлы.*

*Пазней, па просьбе Ягайлы, Вітаўт узяў Свідрыгайлу пад сваю ўладу, даў яму Бранск і Ноўгарад-Северскі. Але неўтаймаваны князь у трэці раз збег да крыжакоў, а потым ад'ехаў да маскоўскага князя.*

Пасля паспяховай вайсковай кампаніі Вітаўта супраць Свідрыгайлы і ўсталявання поўнага кантролю над Віцебскам палітычныя амбіцыі вялікага князя яшчэ больш узраслі.

## VIII

Увесну 1395 года Вітаўт пайшоў на Кіеў, маючы на мэце скарыць кіеўскага князя Уладзіміра Альгердавіча, які доўгі час не хацеў падпарадкоўвацца яго ўладзе.

Напружанае змаганне Вітаўта за Кіеў знайшло адлюстраванне ў летапісе. Старадаўні летапісец зазначыў:

*Затым Вітаўт, працягваючы ўмацоўваць сваю ўладу ў Літве і на Русі, накіраваў пасольства да кіеўскага князя Уладзіміра Альгердавіча. Вялікі князь ультыматыўна запатрабаваў прынесці яму прысягу, прызнаць яго ўладу і стала плаціць даніну.*

*Князь Уладзімір, які атрымаў надзел у спадчыну ад бацькі — князя Альгерда,— пачуваўся вольным валадаром Кіеўскага княства. Ён адмовіўся прысягаць на вернасць Вітаўту, не пажадаў прызнаваць над сабой улады вялікага князя і не захацеў плаціць яму даніну. Уладзімір вырашыў сілай бараніцца ад ціску Вітаўта і адбівацца ад яго беспадстаўных прэтэнзій.*

*У пачатку вясны 1395 года Вітаўт са Скіргайлам сілай узялі замкі Аўручаў і Жытомір, а таксама акупавалі прыгарады Кіева. Захопленыя тэрыторыі Вітаўт адразу аддаў Скіргайлу.*

*Затым Вітаўт з войскам пайшоў на Кіеў. Князь Уладзімір падрыхтаваў баявыя харугвы для бітвы з Вітаўтам, праўда, неўзабаве адумаўся і пайшоў на паклон да вялікага князя.*

*Вітаўт прыняў Уладзіміра, але адразу забраў у яго Кіеў і прызначыў кіеўскім князем Скіргайлу — роднага брата князя Уладзіміра. Наўзамен Кіева Вітаўт даў Уладзіміру Копыль з велізарнымі навакольнымі абшарамі.*

*Скіргайла, які атрымаў з рук Вітаўта тытул кіеўскага князя, пайшоў з войскам на Канеў, Чаркасы і Звянігарад, якія Уладзімір не*

*жадаў аддаваць Вітаўту дабравольна. Скіргайла забраў іх з дапамогай вайсковай сілы.*

*Такім чынам, Скіргайла ўзяў верх над братам Уладзімірам, здабыў Кіеўскае княства, а таксама гарады — Жытомір, Аўручаў, Канеў, Чаркасы і Звянігарад з усімі прылеглымі землямі. Але нядоўга Скіргайла цешыўся на новых панствах, забраных у старэйшага брата.*

*У Кіеве жыў тады манах Фама, што прыехаў з Афонскай гары і з'яўляўся мітрапалітавым намеснікам пры Святой Сафіі. Ён запрасіў Скіргайлу на ўрачысты абед у двор мітрапаліта. Падчас трапезы той Фама паднёс Скіргайлу напой з атрутай. Князь, нічога не падазраючы, выпіў віно. Ён пакінуў банкет і ад'ехаў у свой палац, а затым, ні пра што не здагадваючыся, адправіўся на паляванне за Дняпро, пад Мілаславічы. Там, у чацвер, ён моцна расхварэўся, ледзьве вярнуўся ў Кіеў і на сёмы дзень, у сераду, памёр.*

*Кіеўляне з жалем успрынялі вестку пра смерць Скіргайлы, не зважаючы на тое, што ён супраць іх волі нядаўна здабыў горад. Цела князя з вялікай працэсіяй неслі ад Кіеўскага замка ажно да Пячорскага манастыра. Усе баяры і духоўныя асобы плакалі. Пахавалі Скіргайлу ў царкве Успення Прасвятой Багародзіцы Пячорскай, побач са святым Феадосіем.*

*Той манах Фама ўцёк з Кіева. У Васількове ён раптоўна захварэў і памёр без споведзі. Вітаўт загадаў выстраліць яго целам з гарматы ў бок Дняпра. Гэтак той манах і згінуў.*

*Скіргайла пры святым хрышчэнні атрымаў імя Канстанцін. Ён быў праваслаўным, а не каталікам.*

Усталяванне поўнай улады над Кіевам мела для Вітаўта стратэгічнае значэнне. Ён набыў надзейны фарпост і выдатную пляцоўку для актывізацыі ўсходняй палітыкі.

## IX

Пасля авалодання Кіевам Вітаўт неадкладна арганізаваў у 1395 годзе буйную кампанію на Падолле, супраць Фёдара Карыятавіча.

Пра гэта ў летапісе распавядаецца наступнае:

*Вітаўт падцягнуўся пад Браслаў Падольскі. Фёдар з войскам хацеў адкінуць Вітаўта ад горада, але пацярпеў паражэнне і ледзьве ўцёк да Камянца-Падольскага. Вітаўт трыумфальна забраў галоўныя замкі на Падоллі: Браслаў, Заслаў, Смотрыч, Чырвоны Гарадок, Бякоту, Скалу.*

*Затым Вітаўт акружыў Камянец-Падольскі, дзе зачыніўся Карыятавіч пад аховай валашцаў, сваіх суседзяў. Абаронцы горада, аднак, убачылі бессэнсоўнасць супраціўлення і здаліся на міласць Вітаўта. Князь Фёдар Карыятавіч трапіў у палон. Вітаўт адаслаў яго ў Вільню, у вязніцу, а сам застаўся ў Камянцы, пакуль не далучыў усё Падолле да Вялікага Княства Літоўскага.*

Такім чынам, менавіта з дапамогай вайсковай сілы Вітаўт значна пашырыў тэрыторыю дзяржавы за кошт паўднёвых і паўднёва-заходніх зямель.

## X

У 1395 годзе Вітаўт здзейсніў паход на Смаленск супраць Юрыя Святаславіча, які перад тым захапіў некалькі невялікіх мястэчак каля Оршы, чым справакаваў вялікага князя.

Летапісец з гэтай нагоды зазначыў:

*Перад паходам, паводле загаду Вітаўта, былі распаўсюджаны чуткі, нібыта ён ідзе на Кутлуг Цімура (Святога Цімура).*

*Насустрач Вітаўту выехаў князь Глеб Святаславіч з нешматлікай дружынай.*

*Вітаўт ласкава прыняў князя і ўшанаваў яго. Ён сказаў князю Глебу:*

*— Няхай усе князі прыязджаюць да мяне без усялякіх засцярог. Бо чуў, што няма паміж вамі згоды і паразумення. Калі ў вас разгарыцца спрэчка, я буду трэці, хто справядліва рассудзіць вас.*

*Гэтак Вітаўт увёў у зман братоў Святаславічаў.*

*Князі выехалі да Вітаўта з надзеяй, што ён справядліва падзеліць паміж імі вотчыну (бацькаўшчыну). Яны паверылі абяцанням Вітаўта, прыехалі да яго з падарункамі. З'віліся літаральна ўсе бра-*

*ты Святаславічы, усе смаленскія князі разам з баярамі. Аніводзін не застаўся ў горадзе. Вітаўт узяў у палон смаленскіх князёў і адаслаў іх у Вялікае Княства Літоўскае. Пазней ён паланіў шмат іншых людзей, забраў пад сваю ўладу ўсё Смаленскае княства. Вітаўт прызначыў у Смаленску сваіх намеснікаў — Ямонта і Васіля Барэйкава. Гэтак адбыўся першы захоп Смаленска — 28 верасня 1395 года, у аўторак.*

Затым Вітаўт накіраваў буйны вайсковы корпус пад кіраўніцтвам мсціслаўскага ваяводы Сямёна Лынгвенавіча супраць разанскага князя Алега (Голшы). Войскі Вялікага Княства Літоўскага неўзабаве заваявалі Разань і ўсё Разанскае княства.

Цэнтралізацыйныя працэсы, якія Вітаўт ажыццяўляў з дапамогай войска на ўсходзе Княства, па ўсім відаць, выклікалі занепакоенасць у маскоўскага князя Васіля Дзмітрыевіча. Каб зняць напружанне, Вітаўт сустрэўся з зяцем у Смаленску ў 1393 годзе, а затым і ў 1396-м, дзе яны цалкам паразумеліся.

Няпроста складваліся ў гэты час адносіны Вітаўта з Польскім Каралеўствам. Фармальна вялікі князь знаходзіўся ў залежнасці ад караля Ягайлы. Амбіцыйная каралева Ядвіга ў 1398 годзе нават прад'явіла Вітаўту абсурднае патрабаванне, каб Беларуская дзяржава плаціла даніну ў скарбонку Польскага Каралеўства. Вітаўт склікаў уплывовых магнатаў Княства і агучыў ім ультыматум Ядвігі, які яна, па ўсім відаць, узгадніла з Ягайлам.

Паны і шляхта Вялікага Княства, упэўненыя ў сваіх сілах, з абурэннем адкінулі нахабныя патрабаванні палякаў.

## XI

Умацаваўшы ўладу і задаволіўшы ўласныя палітычныя амбіцыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, Вітаўт прыступіў да рэалізацыі маштабнай знешнепалітычнай стратэгіі. Яго позірк быў скіраваны, перадусім на Залатую Арду. Пры гэтым, каб ліквідаваць небяспеку з захаду, ад нямецкіх рыцараў, Вітаўт пайшоў на збліжэнне з Ордэнам.

12 кастрычніка 1398 года на востраве Салін адбылася сустрэча Вітаўта з вялікім магістрам Конрадам Юнгінгенам. Вялікі князь

прыехаў з жонкай Ганнай у атачэнні шматлікай дэлегацыі, у якую ўваходзілі ўплывовыя паны і князі. Сярод іх былі пінскі князь Юрый, заслаўскі князь Міхаіл, старадубскі князь Аляксандр, гальшанскі князь Іван і друцкі князь Іван. Паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Ордэнам было дасягнута паразуменне і падпісана мірнае пагадненне.

Такім чынам, у перыяд з 1392 да 1398 года Вітаўт сілай скарыў палітычных сапернікаў, якія спрабавалі аспрэчыць яго права на тытул вялікага князя. Ён ажыццявіў цэнтралізацыю краіны і ўсталяваў у Вялікім Княстве Літоўскім адзінаўладную манархію.

Вялікі князь атрымаў фактычную незалежнасць ад караля Ягайлы, паразумеўся з маскоўскім валадаром Васілём Дзмітрыевічам, заключыў мірнае пагадненне з крыжакамі. Вітаўт відавочна падрыхтаваў усе неабходныя перадумовы, каб распачаць знешнюю агрэсію супраць галоўных ворагаў Княства, паўнаўладных гаспадароў бяскрайніх стэпаў — татараў.

Галоўным напрамкам знешняй палітыкі Вітаўт абраў Дзікае Поле. Першая паспяховая аперацыя была здзейснена корпусам пад кіраўніцтвам Даўгерда, які разбіў тры татарскія арды і знішчыў каля пяцідзесяці шасці тысяч татараў.

Акрылены ўдачай Вітаўт пачаў рыхтаваць новую кампанію ў стэп. Перад выступленнем ён сустрэўся ў Смаленску з маскоўскім князем Васілём, які падтрымаў ідэю змагання з качэўнікамі.

У 1398 годзе войскі Вітаўта рушылі з Кіева ў накірунку Дона. Татары выступілі насустрач. Адбылася бітва, у якой харугвы Вялікага Княства атрымалі перамогу. Загінула больш за сто тысяч татараў, шмат іх трапіла ў палон. Адну татарскую арду Вітаўт адправіў у Літву і пасадзіў над ракой Вакай, а другую перадаў Ягайлу.

Нечуваны поспех разгарачыў знешнепалітычныя амбіцыі Вітаўта, і ён пачаў падрыхтоўку да новай кампаніі супраць хана Залатой Арды — Кутлуг Цімура. У 1399 годзе вялікі князь сфарміраваў велізарнае войска і выступіў з Кіева. Разам з Вітаўтам ішла арда Тахтамыша, якога вялікі князь планаваў пасадзіць на царства ў Залатой Ардзе.

5 жніўня войскі сустрэліся на рацэ Ворскле. Татарскі хан Кутлуг Цімур зацягваў пачатак бітвы, вёў перамовы з Вітаўтам, чакаючы падыходу войск Едыгея. Бітва пачалася 12 жніўня. Войскі Княства былі зламаны і раструшчаны татарамі. Вітаўт з невялікай дружынай разам

са Скіргайлам ледзьве выратаваліся ад ганебнага палону. Загінула шмат беларускіх жаўнераў і князёў.

Землі Княства засталіся безабароннымі і сталіся лёгкай здабычай для татараў. Агрэсіўныя качэўнікі напоўніцу скарысталіся зручным момантам. Татарскія войскі акружылі Кіеў. Жыхары горада, ратуючы ўласныя жыцці, адкупіліся ад іх астранамічнай сумай — трыма тысячамі сярэбраных рублёў. Татары дайшлі ажно да Луцка. Яны няшчадна рабавалі славянскія землі, гналі натоўпы людзей у палон.

Пасля паражэння на Ворскле Вітаўт пачаў шукаць збліжэння з Польшчай. У 1401 годзе ён падпісаў Віленска-Радомскае пагадненне з Ягайлам-Уладзіславам, якое прадугледжвала ўзаемную падтрымку ў выпадку знешняй агрэсіі.

Часовае палітычнае аслабленне Вітаўта скарысталі яго праціўнікі ў Смаленску. Вось як летапіс паведамляе пра тагачасныя падзеі:

*Там быў і бранскі князь Раман, пастаўлены Вітаўтам раней у якасці намесніка. Смаляне жорстка расправіліся з ім. Раманавы дзеці і княгіня былі адпушчаны. Смаляне злавілі намеснікаў Вітаўта, а таксама баяраў — бранскіх і смаленскіх,— якія не хацелі спадчынніка — князя Юрыя. Усіх іх пасеклі. Тае ж восені князь Вітаўт хадзіў вайной на Смаленск, на князя Юрыя. Шмат дзён Вітаўт трымаў горад у аблозе. Але не ўзяў Смаленска. Падпісаў замірэнне і вярнуўся ў сваю зямлю.*

Каб ліквідаваць небяспеку з захаду і актывізаваць усходнюю палітыку, Вітаўт 23 траўня 1404 года падпісаў з Ордэнам Рацянжскі мірны дагавор. І адразу ж зрабіў чарговую спробу адваяваць Смаленск, але таксама не дасягнуў поспеху. Толькі трэцяя кампанія, здзейсненая ў 1405 годзе, мела станоўчы вынік. Горад удалося ўзяць штурмам. Вітаўт прызначыў у Смаленск свайго намесніка. Жонка князя Юрыя і яго прыхільнікі былі адпраўлены ў палон у Вялікае Княства.

Ваявода Лыгвен, выконваючы распараджэнне вялікага князя, у 1403 годзе заваяваў Вязьму.

Затым Вітаўт скіраваў свой позірк на Пскоўскае княства. У 1405 годзе ён пайшоў на Пскоўскія землі і захапіў Каложу.

У 1407 годзе Ноўгарад Вялікі прыняў намесніка Вітаўта — Лыгвена Альгердавіча.

Абураны маскоўскі князь Васіль Дзмітрыевіч распачаў вайсковую кампанію супраць цесця — князя Вітаўта. У 1408 годзе войскі Вітаўта і маскоўскага князя Васіля сустрэліся на рацэ Угры, але, нягледзячы на ваяўнічыя заклікі асобных ваяводаў, ваяваць не сталі. Манархі падпісалі замірэнне, усталяваўшы трывалыя межы паміж дзяржавамі.

## XII

З 1409 года пачаў нарастаць канфлікт паміж Вітаўтам і Ордэнам з-за Жамойці. Непаразуменні неўзабаве перараслі ў адкрытыя вайсковыя дзеянні.

Вялікае Княства Літоўскае і Польскае Каралеўства сфарміравалі агромністае войска і рушылі на крыжакоў. На ўзбраенні злучэння налічвалася каля 700 гармат.

Войска Вітаўта складалася прыкладна з 40 добра ўзброеных кліноў-харугваў. Сярод іх былі Віленская, Трокская, Гарадзенская, Ковенская, Лідская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Кіеўская, Пінская, Навагрудская, Берасцейская, Ваўкавыская, Драгічынская, Мельніцкая, Крэмянецкая, Аршанская, Мсціслаўская і Старадубская. Для лепшага кіравання войскам падчас бітвы харугвы былі згрупаваны ў шэсць гуфаў (армій). Апрача беларусаў, пад камандваннем Вітаўта змагаліся татары ў колькасці 300 чалавек, якімі кіраваў хан Джалал ад-Дзін.

Бітва адбылася 15 ліпеня 1410 года каля вёскі Грунвальд (Дуброўна). Вітаўт ужыў адмысловую вайсковую тактыку: пачаў запланаванае адступленне, дзякуючы чаму разамкнуў баявыя парадкі крыжакоў. Затым ён уцягнуў ворагаў у кацёл, шчыльна атачыў іх і атакаваў з трох бакоў.

Рыцары на чале з ваяўнічым Ульрыхам фон Юнгінгенам пацярпелі страшэнную паразу. Загінула звыш ста сарака тысяч немцаў. Асаблівы ўклад у разгром крыжакоў унеслі тры харугвы — Аршанская, Мсціслаўская і Смаленская.

Беларускі летапісец вельмі падрабязна перадаў разгортванне падзей на полі бітвы, зафіксаваў асаблівасці вайсковай стратэгіі і тактыкі князя Вітаўта:

*Потым ударылі ў котлы (бубны), зайгралі сурмы. Літва з татарамі кінуліся на крыжакоў. Разгарэлася бітва, ажно коні церліся бакамі. Вітаўт сам кіраваў харугвамі, выпраўляў шыхты. Палякі са сваім каралём узялі немцаў на палашы, а потым павялі іх на гарматы. Перад замаскіраванымі гарматамі расступіліся па баках — і немцы трапілі пад прыцэльны гарматны абстрэл. Іх там адразу палегла некалькі дзясяткаў тысяч. Крыжакі, аднак, не зважалі на страты і ішлі на палякаў і літву, нібы аслеплыя. Бітва доўжылася гадзіны з тры. Пераменлівая Фартуна лётала з аднаго боку на другі. Нарэшце, немцы ўбачылі безліч сваіх трупаў, што валяліся на полі, і пачалі ў паніцы ўцякаць. Палякі, літва і татары гналі крыжакоў некалькі міль — білі іх, секлі, стралялі і калолі. Найбольш знакамітых рыцараў вязалі і бралі ў палон. Прускага магістра Ульрыха забіў просты драб (пешы воін) ударам ашчэпа. У той бітве не ўсе нашы біліся, іншыя і шаблі не дасталі, бо на полі было надта цесна. Вітаўт распусціў татарскія і літоўскія загоны па ўсёй Прускай зямлі. Агнём і мячом яны чынілі велізарную шкоду і зло немцам. Падчас той бітвы былі захоплены ўсе нямецкія штандары і ўсе іх гарматы. Параможцы авалодалі таксама ўсім багатым крыжацкім абозам, забралі ўвесь іхні скарб.*

Грунвальдская бітва 1410 года мела агульнаеўрапейскае значэнне, яна назаўсёды падарвала сілы крыжакоў. Сутыкненне германа-раманскага Захаду са славянскім Усходам скончылася трыумфальнай перамогай славян.

Аб'яднаныя войскі Вялікага Княства і Польшчы пасля разгрому асноўных сіл праціўніка разгарнулі наступ на іншыя замкі і гарады Ордэна. Яны зруйнавалі ўсю Прускую зямлю, разбурылі 70 крыжацкіх замкаў, толькі восем гарадоў засталіся не ўзятымі.

Паводле дамовы, падпісанай у 1411 годзе з Ордэнам, да Беларускай дзяржавы перайшла Жамойць. Польшчы дасталася Добрынская зямля.

Такім чынам, перыяд з 1398 да 1411 года характарызаваўся агрэсіўнай знешняй палітыкай Вітаўта, актыўным пашырэннем меж і ўплываў Вялікага Княства Літоўскага. У гэты час вялікі князь вёў войны з татарамі, Маскоўскім княствам і канчаткова разграміў нямецкіх крыжакоў.

## XIII

У 1413 годзе ўрады Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства падпісалі Гарадзельскае пагадненне, якое мацавала адзінства дзвюх дзяржаў. Беларуская шляхта і магнаты атрымалі шырокія правы і вольнасці, якія ўжо мелі польскія паны. На ўзор Польшчы ў Вялікім Княстве ўводзіліся новыя дзяржаўныя пасады — ваяводаў, кашталянаў, маршалкаў дворных і земскіх, старостаў земскіх.

Але Вітаўт з самага пачатку падпісання пагаднення ігнараваў дыскрымінацыйныя палажэнні і артыкулы, накіраваныя на поўнае зліццё дзвюх дзяржаў, а тым больш на інкарпарацыю Вялікага Княства Літоўскага ў склад Польскага Каралеўства.

Каб дасягнуць шчыльнейшай палітычнай кансалідацыі ўнутры краіны і ўмацаваць духоўную лучнасць грамадства, Вітаўт у 1415 годзе спрычыніўся да заснавання самастойнай Праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Навагрудку. У 1406 годзе памёр мітрапаліт Кіпрыян, а на яго месца з Канстанцінопаля быў прысланы Фоцій. Але з-за прынцыповых разыходжанняў з вялікім князем, які імкнуўся стварыць самастойную ад Масквы царкву, ён у 1414 годзе быў пазбаўлены вышэйшай духоўнай пасады.

15 лістапада 1415 года на царкоўным саборы епіскапаў Вялікага Княства Літоўскага адбылося абранне і пасвячэнне ў сан Кіеўскага мітрапаліта Грыгорыя Цамблака. У той жа дзень Вітаўт выдаў пастанову аб аддзяленні Кіеўскай мітраполіі ад Маскоўскай царквы.

У летапісе пра тагачасныя падзеі паведамляецца наступнае:

*У 1415 годзе вялікі князь Вітаўт, паводле Божай волі і ўласнага жадання, склікаў сабор праваслаўных епіскапаў, якія служылі на абшарах, дзе ён валадарыў. Прыехалі на сабор: полацкі епіскап Феадосій, чарнігаўскі — Ісакій, луцкі — Дзіянісій, уладзімірскі — Харытон, тураўскі — Яўхімій. З тымі епіскапамі Вітаўт паставіў на Кіеўскую мітраполію балгарына Грыгорыя Цамблака.*

Важным палітычным мерапрыемствам для Вітаўта сталася хрышчэнне ў 1417 годзе Жамойцкай зямлі. Хрысціянізацыя насельніцтва адбывалася нярэдка прымусам і гвалтам: разбураліся паган-

скія капішчы, знішчаліся драўляныя статуі багоў і бажкоў. У якасці дзейснага сродку далучэння да хрысціянскай веры выкарыстоўвалася матэрыяльнае заахвочванне і адкрыты подкуп.

1 кастрычніка 1418 года ў асабістым жыцці Вітаўта адбыліся змены. Ён узяў шлюб з Ульянай Гальшанскай. Вяселле згулялі ў Гародні.

Як адзін з уплывовых актараў еўрапейскай палітыкі, Вітаўт быў улучаны ў справы Чэхіі. У 1419 годзе чэшскія гусіты, якія змагаліся за нацыянальную незалежнасць і свабоду веры, звярнуліся да Вітаўта з прапановай прыняць карону Чэшскага каралеўства. Вялікі князь паўстаў перад складаным выбарам: ён меў прыязныя адносіны з імператарам Святой Рымскай імперыі Жыгімонтам і не жадаў іх псаваць, а апошні акурат і ваяваў з рэвалюцыянерамі. Вітаўт фармальна адхіліў прапанову гусітаў і іх кіраўніка Пракопа. Але ён накіраваў ім у дапамогу пяцітысячны корпус князя Жыгімонта — сына Дзімітрыя Карыбута, забітага ў бітве на Ворскле. 16 мая 1422 года войскі Вялікага Княства Літоўскага ўвайшлі ў Прагу. Беларускія жаўнеры змагаліся поплеч з чэхамі за незалежнасць іх дзяржавы, а Вітаўт увесь час падтрымліваў дачыненні з гусітамі.

У 1420 годзе абвастрыліся спрэчкі паміж Вялікім Княствам і Прускім Ордэнам з-за Жамойці. Неўзабаве распачаліся вайсковыя дзеянні, якія скончыліся падпісаннем 27 верасня 1422-га мірнай дамовы на возеры Мельне. Паводле пагаднення Жамойць канчаткова пераходзіла пад пратэктарат Вітаўта.

## XIV

У 20-я гады XV стагоддзя Вітаўт пачаў актыўна займацца ўрэгуляваннем дачыненняў з татарамі. Прычынай паслужыла ўварванне ў 1420 годзе на землі Вялікага Княства Літоўскага татарскага хана Едыгея і рабаванне ім Кіева. На гэты раз Вітаўт у адносінах з Залатой Ардой ужыў пераважна дыпламатычныя сродкі. Ён усяляк падаграваў канфлікты паміж ханамі, выкарыстоўваў супярэчнасці паміж імі ў змаганні за ўладу.

У 1425 годзе палітычная вага Вітаўта яшчэ больш павялічылася. У гэты год памёр яго зяць — маскоўскі князь Васіль II. Перад смерцю

ён прызначыў акурат Вітаўта апекуном непаўнагадовага Васіля III Васільевіча — спадчынніка трона. Вітаўт далікатна апекаваўся над унукам, але не надта ўмешваўся ў справы ўласна Маскоўскага княства.

Аднак у 1426 годзе Вітаўт усё ж вырашыў вярнуць пад сваю ўладу Пскоўскае княства. Ён склікаў велізарнае войска, пераправіўся праз Дзвіну, захапіў Себеж і Порхаў. Пасля гэтага жыхары Пскова здаліся на міласць вялікага князя. Вітаўт абклаў Пскоўскую зямлю вялікай данінай і прызначыў свайго намесніка — Юрыя Носа.

У 1426 і 1427 гадах Вітаўт падпісаў пагадненні з разанскім і пронскім князямі. Затым, 3 жніўня 1427 года, вялікі князь заключыў дагавор з цвярскім князем Барысам Аляксандравічам, які даводзіўся яму ўнукам.

Нарэшце, Вітаўт з войскам рушыў на Ноўгарад Вялікі. Насустрач войску Вялікага Княства Літоўскага выехала наўгародскае пасольства з прапановай мірнага ўрэгулявання канфлікту. Вольналюбівы горад прызнаў над сабой уладу вялікага князя Вітаўта і перайшоў пад пратэктарат Беларускай дзяржавы. Вітаўт прызначыў сваім намеснікам у Вялікі Ноўгарад Сямёна Алгімонта Гальшанскага.

## XV

Каб не дапусціць злучэння ў адзіную дзяржаву Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства, Вітаўт распачаў працэс падрыхтоўкі да ўласнай каранацыі і ператварэння Княства ў Каралеўства.

У 1429 годзе ў Луцку, у рэзідэнцыі Вітаўта, адбыўся вялікі з'езд, скліканы нібыта дзеля ўтварэння антытурэцкай кааліцыі хрысціянскіх дзяржаў. На з'ездзе імператар Святой Рымскай імперыі Жыгімонт публічна звярнуўся да Ягайлы з прапановай падтрымаць каранаванне Вітаўта. Польскія магнаты абурыліся. Асабліва пратэставаў кракаўскі біскуп Збігнеў Алясніцкі. Ён выступіў са з'едлівымі папрокамі ў адрас Вітаўта, абвінаваціў яго ў парушэнні дамоў, невыкананні абяцанняў. Палякі паспешліва пакінулі з'езд і ад'ехалі з Луцка.

Вітаўт і імператар Жыгімонт накіравалі паслоў да Папы Рымскага Марціна V з просьбай дабраславіць палітычныя змены ў Вялікім Княстве Літоўскім. Палякі ўсяляк пярэчылі ператварэнню Княства ў

Каралеўства і настройвалі Папу Рымскага супраць Вітаўта. Але вялікі князь дамогся свайго і схіліў Марціна V на свой бок.

Урачыстую каранацыю Вітаўт прызначыў на 15 жніўня 1430 года ў Троках. У Вялікае Княства Літоўскае прыехалі вялікія дэлегацыі: польскі кароль Ягайла, вялікі князь маскоўскі Васіль III разам з маскоўскім мітрапалітам Фоціем, дацкі кароль, прускі гросмайстар, інфлянцкі ландмаршал, гаспадар Валахіі, князь Мазавецкі, хан Крымска-Перакопскі, князь Цвярскі, князь Разанскі, князь Адоеўскі, пасол ад імператара Візантыі, папскі пасол, паслы з Ноўгарада Вялікага і Пскова.

Сем тыдняў доўжыліся прыгатаванні да каранацыі. Але палякі паўсюль на шляхах паставілі засады і не прапусцілі карону, якую везлі паслы ад імператара Жыгімонта. Вітаўт развітаўся з гасцямі і ад'ехаў у Вільню, куды запрасіў і Ягайлу.

Надламаны Вітаўт, на жаль, не здолеў ажыццявіць апошняй грандыёзнай задумы. Ён занядужаў і 27 кастрычніка 1430 года памёр.

Вялікага князя пахавалі ў Вільні ў Кафедральным саборы.

* * *

Вітаўт Вялікі — унікальная постаць палітычнай гісторыі Беларусі. Вынікі яго ўнутранай і знешняй палітыкі надзвычай маштабныя. Невыпадкова ў беларускіх летапісах і хроніках асоба князя характарызуецца выключна са станоўчага боку. Старажытны кніжнік, падсумоўваючы летапісны аповед пра Вітаўта, гэткім чынам адзначыў яго галоўныя вартасці: «Быў Вітаўт надта чуллівы гаспадар, меў вялікі розум і невымерныя заслугі. Ён ведаў меру ў ежы і ў пітве, нічога моцнага не піў, толькі ваду».

Вітаўт Вялікі сапраўды з'яўляўся выбітным манархам і дбайным гаспадаром краіны. За 38-гадовы перыяд княжання, з 1392 да 1430 года, ён шматкроць узмацніў вайскова-эканамічны патэнцыял Вялікага Княства Літоўскага. Вялікі князь арганізаваў дзясяткі пераможных вайсковых кампаній, адбудаваў гарады, наладзіў эфектыўны знешні гандаль, умацаваў цэнтральную ўладу.

Рост краіны, не зважаючы на часовыя паражэнні, адбываўся надзвычай імкліва. Вітаўт ліквідаваў сістэму ўдзельных княстваў,

пазбавіў мясцовых князёў палітычнай вагі. Ён знішчыў аўтаномію Кіеўскага княства. Вялікі князь перамог ноўгарад-северскага князя Дзімітрыя Карыбута, аслабіў падольскага князя Фёдара Карыятавіча, скарыў галоўнага палітычнага канкурэнта Свідрыгайлу, падначаліў Смаленскае княства і прызначыў туды ўласнага намесніка.

Імкнучыся ўмацаваць духоўную і культурную незалежнасць жыхароў Беларускай дзяржавы, Вітаўт стала дапамагаў праваслаўным цэрквам і прыходам. Ён паспрыяў стварэнню самастойнай Праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Навагрудку. Пры гэтым вялікі князь праяўляў рэлігійную талерантнасць, дазваляў будаваць каталіцкія касцёлы, з павагай ставіўся да мусульман і іўдзеяў.

У знешняй палітыцы Вітаўт дасягнуў выключных поспехаў. Войска Вялікага Княства Літоўскага пад яго кіраўніцтвам адыграла вырашальную ролю падчас Грунвальдскай бітвы 1410 года, пасля якой прускія і лівонскія рыцары на доўгі час адмовіліся ад агрэсіўных планаў. Вітаўт канчаткова адваяваў у крыжакоў Жамойць і падпарадкаваў яе Княству. Пад яго пратэктаратам апынуліся Вялікі Ноўгарад з агромністымі тэрыторыямі, а таксама Пскоўскае і Разанскае княствы.

Вітаўт актыўна ўплываў на ўнутрыпалітычнае жыццё Залатой Арды. Ён прызначаў ханаў і прыводзіў іх да ўлады ў Ардзе. Чэшскія палітычныя эліты запрасілі Вітаўта да сябе на гаспадаранне. Ён адгукнуўся на прапанову чэхаў і паслаў да іх намеснікам свайго пляменніка Жыгімонта Карыбута. Венгерскі кароль і германскі імператар Жыгімонт ставіўся з павагай да Вітаўта, імкнуўся да паразумення з ім.

Вітаўт выношваў планы авалодання Маскоўскім княствам і Польскім Каралеўствам, імкнучыся стварыць адзіную славянскую імперыю. Дзеля дасягнення уласных палітычных мэт вялікі князь дзейнічаў рашуча і энергічна, не зважаючы на сродкі.

Дзякуючы намаганням Вітаўта тэрыторыя Беларускай дзяржавы істотна павялічылася: абшары краіны сягалі Балтыйскага і Чорнага мораў, Берасця і Мажайска. За час яго праўлення Вялікае Княства Літоўскае ператварылася ў наймагутнейшую дзяржаву з выразнымі рысамі сярэднявечнай кантынентальнай імперыі.

# УЛАДА ПЯЧАТКІ

*Беларускія шляхецкія і магнацкія роды — надзейны грунт і трывалы грамадскі падмурак, на якім на працягу стагоддзяў трымалася дзяржава, забяспечваўся эканамічны і палітычны прагрэс краіны, імкліва развівалася духоўнасць і функцыянавала высокая нацыянальная культура.*

*Шляхціцы і магнаты Вялікага Княства Літоўскага ўзводзілі магутныя мураваныя замкі і палацы, баранілі Радзіму ад знешніх ворагаў, садзілі ўрадлівыя сады і разбівалі маляўнічыя паркі, спрыялі рамёствам і мастацтвам.*



## I

Буйны дзяржаўны і палітычны дзеяч Беларусі сярэдзіны XVI ст. Астафей Валовіч належаў да шляхетнага беларускага роду. Яго заснавальнікам з'яўляецца нейкі Ходзька, які жыў у першай палове XV ст. на Гарадзеншчыне. Дзед Астафея — Грынька — пры князю Казіміру Ягайлавічу меў пасаду канюшага. Менавіта ён у 1499 годзе атрымаў шляхецтва і прозвішча Валовіч, якое затым перайшло да яго семярых сыноў: Багдана, Яна, Лукаша ды Маркі — ад першай жонкі, а гэтаксама Рыгора, Міхаіла і Паўла — ад другой.

Бацька Астафея — Багдан Грынькавіч — з 1508 года займаў пасаду канюшага, а з 1529-га быў гарадзенскім войскім. Пазней, у 1537 годзе, ён ужо згадваецца як намеснік крыньскі, скідзельскі і азерскі. Памёр Багдан Валовіч 14 красавіка 1539 года.

У Астафея было трое братоў: Ян, скідзельскі дзяржаўца (жанаты на Эльжбеце Салагубаўне), Васіль і Рыгор. Рыгор Валовіч зрабіў у сваім жыцці бліскучую кар'еру. У 1548 годзе ён стаў каралеўскім дваранінам, у 1559-м — атрымаў Мсцібогаўскае староства, а яшчэ праз год — Слонімскае староства і тытул каралеўскага маршалка. У 1565 годзе Рыгор Валовіч займаў пасады ошыцкага, дубіцкага, зэльвінскага, канянскага і варнаўскага дзяржаўцы, а гэтаксама гарадзенскага гараднічага. Пазней ён здолеў здабыць і Смаленскае ваяводства.

Вось такія не надта багатыя звесткі пра продкаў і блізкіх родзічаў Астафея Валовіча захаваліся ў гісторыі. Аднак, не зважаючы на скупасць, яны ўсё ж такі дазваляюць скласці пэўнае ўяўленне пра ўмовы, у якіх ён рос і выхоўваўся. Пачатковую адукацыю юнак атрымаў у бацькоўскім доме, а затым, верагодна, навучаўся ў адным з універсітэтаў Нямеччыны. Праўда, пацвердзіць факт яго знаходжання ў Германіі з-за адсутнасці дакументаў немагчыма. Але сумнявацца ў тым, што ён атрымаў даволі высокую еўрапейскую адукацыю, няма падстаў.

Першыя дакладныя звесткі пра Астафея Валовіча ў аналах беларускай гісторыі сустракаюцца пад 1541 годам, калі ён разам са старэйшым братам Янам і іншымі родзічамі ўдзельнічаў у судовым працэсе, дзе разглядалася крымінальная справа аб забойстве яго брата Васіля Валовіча нейкім Матысам Кунцэвічам. У гарадзенскіх актавых кнігах XVI стагоддзя захавалася рашэнне павятовага суда, з якога відаць, што злачынца поўнасцю прызнаў сваю віну і прасіў «міласці ў пана Яна і пана Астафея». Войт і бурмістр, улічваючы добрасардэчнае прызнанне і пакаянне падсуднага, вынеслі вердыкт, у якім гаварылася: «Пан Ян са сваім братам Астафеем вольныя пакараць забойцу так, як ім падкажа іхняе сэрца». Якое пакаранне Матысу Кунцэвічу выбралі Валовічы, крыніцы не паведамляюць.

Праз невялікі прамежак часу жыццёвыя акалічнасці зноўку прымусілі Астафея Валовіча звярнуцца ў гарадзенскі суд. Здарылася гэта пасля адыходу ў нябыт другога брата — Яна, Даўспудскі маёнтак якога за час адсутнасці там гаспадароў абрабавалі слугі азерскага дзяржаўцы Каспара Кунцэвіча (напэўна, родзіча забойцы Матыса).

У скарзе, адрасаванай войту і занесенай у судовыя кнігі 6 чэрвеня 1541 года, Астафей Валовіч пісаў: «У хуткім часе па смерці нашага

брата, пана Яна, служка дзяржаўцы азерскага, пана Каспара Кунцэвіча, нейкі Андрэй са сваімі хаўруснікамі нахапіўся да нашага ўласнага маёнтка Даўспудскага і забраў усё, што засталося пасля брата. А ў мінулую сераду, перад святамі, зноўку прыехаў у Даўспудскае найміт таго ж пана Каспара — Якуб, і яго памагатыя ды няведама з чыйго загаду да смерці пабілі нашага тамашняга намесніка Мікалайца і многіх іншых нашых людзей. Праваслаўнага айца Барыса яны гэтаксама моцна збілі. Ад ран ён наўрад ці ачуняе...»

Гарадзенскі суд разгледзеў скаргу Астафея Валовіча і абараніў яго грамадзянскія правы, як тое і прадугледжвалася законамі Вялікага Княства Літоўскага.

Апроч згаданых звестак, ёсць усе падставы сцвярджаць, што Астафей Валовіч у 40-я гады XVI стагоддзя знаходзіўся пад апекай надзвычай уплывовага на той час магната, віленскага ваяводы Яна Глябовіча, які прыняў маладога чалавека да сябе на службу. Валовіч некалькі год выконваў абавязкі сакратара віленскага ваяводы, аб чым сведчыць перапісаная ім Метрыка Глябовіча за 1546-ты.

У 1550 годзе, напэўна, з хадайніцтва Яна Глябовіча, Астафей Валовіч атрымаў пасаду берасцейскага падстаросты, а яшчэ праз два гады вялікі князь і кароль Жыгімонт II Аўгуст выдаў прывілей аб прызначэнні яго найвышэйшым пісарам Вялікага Княства Літоўскага. Пісарскія абавязкі Астафей Валовіч выконваў аж да 1566 года і, мусіць, у многім дзякуючы гэтай службе, вырас да буйнога палітычнага дзеяча.

У абавязкі найвышэйшага гаспадарскага пісара ўваходзіла падрыхтоўка на загад вялікага князя і канцлера дзяржаўных папер, што рэгулявалі ўнутранае і знешняе жыццё Вялікага Княства Літоўскага. Ад пісара патрабаваліся грунтоўная дасведчанасць ва ўсіх найважнейшых гаспадарскіх справах і, канечне, адпаведныя здольнасці канцылярыста.

Мяркуючы паводле гістарычных крыніц, Астафей Валовіч даволі хутка авалодаў сваёй прафесіяй і зарэкамендаваў сябе на ніве гаспадарскага справаводства з найлепшага боку. Сумленны і акуратны ад прыроды, ён старанна выконваў ускладзеныя на яго абавязкі. У адпаведнасці з пісарскай прысягай, Астафей Валовіч павінен быў

«беражліва захоўваць і нікому не раскрываць дзяржаўных тайн; не прыціскаць людзей, якія маюць патрэбу ў распараджэннях і пастановах Дзяржаўнай Канцылярыі; не чыніць нічога супраць права і чалавечай справядлівасці; ні ў якім разе не выдаваць канцылярскіх лістоў без дазволу на тое вялікага князя альбо ўладальнікаў пячаткі Вялікага Княства...». Ад гэтых палажэнняў Астафей Валовіч у часе пісарства, відаць, ніколі не адступіўся.

У большасці дакументаў, якія выходзілі з вялікакняскай Канцылярыі, у заключных радках побач з прозвішчам вялікага князя ці канцлера стаяла і прозвішча пісара, што падкрэслівала яго асабістую адказнасць за правільнасць афармлення таго ці іншага прывілея альбо граматы.

Актавыя кнігі другой паловы XVI стагоддзя захавалі мноства розных дзяржаўных пастаноў, да падрыхтоўкі якіх непасрэднае дачыненне меў найвышэйшы пісар Астафей Валовіч. Так, у перыяд з 1552 да 1556 года ім былі падрыхтаваны наступныя дакументы: «Прывілей Жыгімонта Аўгуста абывацелям, мяшчанам і ўсяму паспольству Віцебскай зямлі» (1561), «Прывілей Жыгімонта Аўгуста гарадзенскім мяшчанам» (1561), «Прывілей князю Богушу Фёдаравічу Карэцкаму на Луцкае староства па смерці князя Андрэя Кашырскага» (1559), «Прывілей пану Рыгору Аляксандравічу Хадкевічу на Троцкае кашталянства» (1559), «Прадпісанне караля Жыгімонта Аўгуста мядзельскаму старосту аб вызваленні ад чыншу зямель Мядзельскай Троіцкай царквы» (1559), «Ліст Жыгімонта Аўгуста Юрыю Зяновічу на закладанне мястэчка Масары» (1554) ды процьма іншых. У складзе Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага захаваліся асобныя кнігі, якія рыхтаваліся Валовічам, напрыклад: «Метрика привилеев, потвержений, справ судовых и оповеданий... Жикгимонта Августа, за канцлерства пана Миколая Яновича Радивила, писарства Остафья Богдановича Воловича (1552 — 1561)».

Праз рукі найвышэйшага пісара праходзілі літаральна ўсе значныя ўрадавыя рашэнні, робячы яго надзвычай інфармаваным чалавекам, што натуральна спрыяла яго імкліваму станенню як асобы і як дзяржаўнага дзеяча. Пасада пісара ў Вялікім Княстве наогул з'яўлялася найлепшай школай спасціжэння заўсёды складанага штукарства

дзяржаўнага кіравання. Амаль усе выдатныя дзеячы сярэднявечнай Беларусі займалі яе на пачатку палітычнай кар'еры. Спазнанне феадальнай псіхалогіі ўзаемаадносін і тагачаснага этыкету, цяжка зразумелага сучаснаму чалавеку, патрабавала часу, вытрымкі і значных высілкаў.

Прыкладна ў канцы 1551 года ці ў самым пачатку 1552-га Астафей Валовіч пабраўся з Фядорай Паўлаўнай Сапяжанкай. Прынамсі, 16 лютага 1552 года Фядора ўнесла ў метрычныя кнігі Вялікага Княства «Запісанне» аб перадачы свайму «малжонку» некалькіх маёнткаў ды 1400 коп грошай. Копія гэтага старажытнага дакумента захоўваецца цяпер у Мінску ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве.

У 1552 годзе Астафей Валовіч атрымаў пасаду маршалка дворнага, які хоць і не з'яўляўся галоўным у структуры ўлады тагачаснага Беларускага гаспадарства, але ўводзіў яго ўладальніка ў склад паноў-рады — вышэйшага кіруючага органа Вялікага Княства Літоўскага. Рада на той момант утваралася з ваявод, кашталянаў, маршалка земскага, маршалка дворнага, найвышэйшага гетмана, канцлера і земскага падскарбія.

Астафей Валовіч мусіў выконваць даволі адказныя функцыі: ён дапамагаў вялікаму князю весці дзяржаўныя справы, аб'яўляў прызначэнні тых ці іншых асоб на павятовыя пасады і непасрэдна кіраваў прыдворнымі службоўцамі і дваранамі. Паўсядзённая набліжанасць да вялікага князя не толькі празмерна ўзнімала шляхецкі гонар Валовіча, але і стварала спрыяльныя ўмовы для хуткага паляпшэння яго ўласнага дабрабыту праз атрыманне новых прывілеяў на землі і маёнткі.

Пасада маршалка дворнага сапраўды з'явілася ў палітычнай кар'еры Валовіча другой важнай прыступкай, з якой ён з цягам часу здолеў узняцца на вяршыню іерархічнай лесвіцы ўлады.

Вельмі хутка Астафей Валовіч набыў прывілей на Медніцкае намесніцтва, што прынесла пісару і маршалку дворнаму дадатковыя сталыя даходы і новыя паўнамоцтвы. Яму, як і ўсім астатнім намеснікам ды дзяржаўцам, да рэформы 1564 года, калі адбылося раздзяленне выканаўчай і судовай улады, поўнасцю падпарадкоўвалася ўся мясцовая адміністрацыя, у тым ліку і судовыя чыноўнікі.

## II

Багацці Астафея Валовіча даволі імкліва павялічваліся, а з імі ўзрастала і яго вага сярод вышэйшых дзяржаўных колаў, заканамерным вынікам чаго стала далучэнне маршалка дворнага і пісара да патаемных лабірынтаў знешняй палітыкі краіны. Красамоўнае сведчанне ўзмацнення ролі Валовіча — рашэнне Галоўнага з'езда Вялікага Княства Літоўскага, які праходзіў у Вільні з 25 лістапада 1552 да студзеня 1553 года, накіраваць яго сумесна з панам Станіславам Давойнам, полацкім намеснікам, і пісарам Пятром Сямашкам, крамянецкім старостам, у Маскву. Мэта дыпламатычнай місіі палягала ў тым, каб заключыць новае мірнае пагадненне, паколькі тэрмін падпісанага раней перамір'я заканчваўся 25 сакавіка 1554 года.

Паездка ў суседнюю краіну сталася сур'ёзнай праверкай здольнасцей Астафея Валовіча самастойна вырашаць складаныя праблемы абароны палітычных інтарэсаў Айчыны на міжнароднай арэне.

17 ліпеня 1553 года беларускія паслы (усё пасольства налічвала 338 чалавек) мінулі парубежныя слупы Вялікага Княства Літоўскага. Наперадзе ляжаў шлях, напоўнены трывогамі і неспадзяванымі здарэннямі.

Астафей Валовіч упершыню ехаў у Маскву і таму, рыхтуючыся ў думках да спаткання з новым маскоўскім манархам Іванам IV Грозным, хваляваўся болей за астатніх. Праз два тыдні нялёгкага — з-за спякотнага ліпеньскага сонца — шляху перад пасламі нарэшце адчыніліся брамы Мажайска, дзе іх чакаў не толькі жаданы адпачынак, але і вымушаная, вельмі працяглая затрымка. Яе, як высветлілася пазней, загадзя падрыхтаваў Іван IV. Менавіта ён знарок адправіў у Мажайск свайго чалавека Івана Чэлішчава, які 31 ліпеня сустрэў паслоў і перадаў ім загад манарха: спыніцца ў горадзе і чакаць яго вяртання з-пад Каломны.

Але не адсутнасць Івана IV у Маскве сталася галоўнай прычынай доўгай затрымкі вялікакняскіх паслоў на сярэдзіне шляху. Давераны маскоўскага манарха Іван Чэлішчаў меў заданне — спыніць на неабходны тэрмін паслоў і ў час застолляў і неафіцыйных размоў глыбей дазнацца пра ўсе матывы пасольства, выведаць унутраныя балячкі

Вялікага Княства, распытаць аб палітычных планах Жыгімонта II Аўгуста. У Грамаце Івана IV, адрасаванай баярам і Івану Чэлішчаву, літаральна гаварылася: «Живучи с ними, Ивану розпрашивати их в разговоре, ненароком, о всяких делах про короля и про его обычаи и про их дело, которым обычаем король их послал. Да о чем у них в розговоре подобных речей повыпытает, и Ивану о том о всем царю и великому князю отписывати».

Астафей Валовіч, Станіслаў Давойна і Пётр Сямашка, няйнакш, без асаблівых цяжкасцей раскусілі задуманае Іванам IV, бо ў гутарках з Чэлішчавым, назойлівасць і дапытлівасць якога не ведалі межаў, усяляк пазбягалі размоў пра Княства, а адно толькі на ўсе лады ўзносілі маскоўскага манарха і нават выказвалі намер і жаданне ў зручны момант перайсці да яго на службу. Легкаверны Чэлішчаў, узрадаваны «нечаканым поспехам», неадкладна паведаміў пра гэта Івану IV. Маскоўскі манарх, дасведчаны ў правілах палітычных гульняў, хутчэй за ўсё не паверыў у тое, што данёс Чэлішчаў, але ўсё ж 18 жніўня 1553 года распарадзіўся, каб вялікакняскіх паслоў праводзілі з Мажайска ў Маскву.

24 жніўня, праз два дні пасля прыезду вялікага пасольства ў сталіцу Маскоўскга княства, адбыўся першы афіцыйны прыём у Івана IV. Але ён толькі расчараваў Валовіча, Давойну і Сямашку, бо, нягледзячы на аздобленыя ўсялякімі эпітэтамі прамовы, маскоўскі манарх не прыняў каралеўскай граматы, паколькі ў ёй адсутнічаў тытул, на які ён прэтэндаваў,— «цар усяе Русі». Іван IV катэгарычна адмовіўся весці перамовы аб заключэнні перамір'я да таго часу, пакуль паслы не назавуць яго царом.

З 27 жніўня між беларускімі пасламі і маскоўскімі баярамі — дварэцкім Васілём Юр'евым, акольнічым Іванам Варанцовым, казначэем Фёдарам Сукіным і дзякамі Іванам Міхайлавым ды Ішуком Бухарыным — пачаліся дыскусіі з-за царскага тытула. Трэба заўважыць, што пытанне аб тытуле маскоўскага манарха па тым часе — гэта не дробязь і не пустая забава. У палітычных стасунках паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам яно было неверагодна істотным. Найменне Івана IV «царом усяе Русі» азначала, што ён прэтэндуе на ўсе ўсходнеславянскія землі, дзе жылі праваслаўныя.

А паколькі Вялікае Княства Літоўскае ў XVI стагоддзі з'яўлялася фактычна славянскай дзяржавай (за выключэннем Жмудскай зямлі), то яго будучыня, пры дасягненні мэт Івана IV, бачылася ў вельмі змрочным святле.

Усе ўчынкі маскоўскага манарха ў стратэгічным плане былі скіраваны на захоп Беларускага гаспадарства. Вельмі паказальная ў гэтых адносінах палеміка між беларускімі пасламі і маскоўскімі баярамі вакол спрадвечнага пытання аб тэрытарыяльных размежаваннях Вялікага Княства і Масковіі. Паслы Валовіч, Давойна і Сямашка прыводзілі багата аргументаў на карысць таго, што Ноўгарад Вялікі, Пскоў, Вялікія Лукі, Тарапец ды Смаленск — гэта даўнія вотчыны Вялікага Княства Літоўскага, і таму яны павінны быць вернуты Беларускаму гаспадарству. Маскоўскія баяры не толькі сцвярджалі супрацьлеглае, але і імкнуліся даказаць, быццам бы прамыя продкі Івана IV валодалі Кіевам, Валынню, Полацкам, Віцебскам, не кажучы ўжо пра Смаленск, Пскоў, Ноўгарад і Вялікія Лукі, і на гэтай падставе пералічаныя землі — гэта значыць амаль усё Вялікае Княства Літоўскае — яны аб'яўлялі спадчынай маскоўскага манарха. Гэтая спрэчка, вядома ж, скончылася безвынікова: кожны застаўся пры сваіх думках і са сваімі перакананнямі.

3 верасня 1553 года Іван IV зноў запрасіў паслоў Валовіча, Давойну і Сямашку ў Крэмль. Аднак і цяпер размова працягвалася нядоўга. Убачыўшы, што паслы не змянілі сваіх поглядаў па пытанні аб «царскім тытуле», раззлаваны Іван IV загадаў ім пакінуць Маскву і неадкладна вяртацца дамоў.

Аднак патрэбу ў міры мела не толькі Вялікае Княства Літоўскае, яго шукаў і Іван IV, які ў гэты час імкнуўся авалодаць Казанню. Беларускія паслы ведалі пра гэта і таму, сутыкнуўшыся з малапрыемным для сябе паваротам падзей, усё ж не надта журыліся. Ды і пасля гутарак з баярамі Валовіч, Давойна і Сямашка адчувалі, што ў Маскоўскім Крамлі неўзабаве зменяць стаўленне да Беларускага гаспадарства і самі пачнуць рабіць захады, каб падпісаць перамір'е на новы тэрмін.

У сваіх разліках і прагнозах беларускія паслы сапраўды не памыліліся. Літаральна на другі дзень пасля іх ад'езду маскоўскі князь адправіў наўздагон за імі ганца з просьбаю, каб паслы ехалі назад і

прадоўжылі размовы аб міры. Прапанова была прынята, і паслы з адчуваннем маральнай перамогі вярнуліся ў Маскву.

7 верасня 1553 года Іван IV трэці раз прымаў Валовіча, Давойну і Сямашку. На гэты раз ён змяніў тон сваіх прамоў, а 12 верасня ўрэшце паставіў подпіс пад «Перамірнай Граматай» і пацалаваў крыж, абяцаючы выконваць узятыя на сябе абавязкі.

14 верасня 1553 года вялікакняскія паслы, дасягнуўшы сваёй мэты, выехалі з Масквы ў заходнім накірунку. Вынікі суцяшалі: перамір'е з Маскоўскім княствам было прадоўжана яшчэ на два гады — да 25 сакавіка 1556-га.

Як паказаў час, маршалак дворны поўнасцю апраўдаў усе надзеі, ускладзеныя на яго панамі-рада, і паспяхова пераадолеў многія нечаканыя перашкоды, што ўзніклі на яго шляху падчас знаходжання ў Маскве. Станоўчыя вынікі дыпламатычнай місіі Астафея Валовіча, Станіслава Давойны і Пятра Сямашкі не толькі мелі важнае значэнне для ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, але і прынеслі канкрэтную карысць кожнаму з паслоў. Прынамсі, Астафей Валовіч атрымаў ад Жыгімонта II Аўгуста Прывілей на Магілёўскае староства. Аднак гэтая ўзнагарода — драбніца ў параўнанні з тым палітычным вопытам і дасведчанасцю, якія маршалак дворны набыў падчас размоў з Іванам IV Грозным і шматдзённых дыскусій з маскоўскімі баярамі. Гэтая паездка ў Маскву ў многім прадвызначыла далейшы жыццёвы шлях Валовіча, падрыхтавала яго да актыўнай дзейнасці на ніве айчыннай дыпламатыі.

## III

У жыцці Астафея Валовіча, яго службовай кар'еры ды павелічэнні багаццяў не апошнюю ролю адыграла набліжанасць да Боны Сфорцы — жонкі Жыгімонта I Старога, італьянкі паводле паходжання, якой належалі шматлікія землі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага — Пінская, Езярышчанская, Клецкая, Шарашоўская, Абалецкая, Рагачоўская валасці, а таксама шэраг маёнткаў і палацаў. У 1556 годзе

перад ад'ездам на радзіму, пасля смерці мужа, Бона распрадала і раздарыла частку ўласных зямель беларускім і польскім магнатам.

У перыяд з 1553 да 1556 года Астафей Валовіч, мусіць, за дапамогу, аказаную Боне пры вядзенні гаспадаркі і ўпарадкаванні яе зямель, таксама атрымаў у падарунак ад каралевы Усвяцкае і Езярышчанскае староствы. Праз некаторы час вялікакняскі пісар і маршалак дворны наняў майстроў і ўзвёў у Езярышчах шыкоўны мураваны замак, а таксама пабудаваў абарончыя ўмацаванні, ператварыўшы дзіўнае па прыгажосці мястэчка ў гарадок.

Справы Астафея Валовіча ва ўласнай гаспадарцы на той момант наогул ішлі выключна добра. 9 верасня 1555 года ён абмяняў свой палац Сапежын, што стаяў над Нёманам непадалёк ад Гародні, на палац Квачоўскі (над рэчкаю Балею), які належаў гарадзенскаму войту Пятру Шаматулу. Акрамя таго, 11 траўня 1566 года Астафей Валовіч набыў за 66 коп грошай раскошны палац Рагожынец. Да ўсяго іншага, маршалак дворны займеў уласны дом у Гародні, дзе на працягу доўгага часу праводзіліся пасяджэнні гарадскога суда, аб чым сведчаць шматлікія актавыя матэрыялы, звязаныя з Гарадзеншчынай.

У 50-я гады XVI стагоддзя Астафея Валовіча ўсё больш пачалі хваляваць агульнадзяржаўныя праблемы, найперш — унутраная і знешняя палітыка Вялікага Княства Літоўскага. Тлумачыцца гэта тым, што па вяртанні з Масквы ў духоўным сталенні маршалка дворнага адбыўся значны прагрэс. Разам з адказнасцю, што лягла на яго плечы, ён усёй сваёй істотаю адчуў веліч Бацькаўшчыны, глыбокі гонар за народ, да якога належаў. Менавіта тады адбылося новае нараджэнне Астафея Валовіча — патрыёта і непахіснага змагара за родны край. Выбар, зроблены маршалкам дворным, стаўся пуцяводнай зоркаю праз усё яго жыццё — вельмі скупое на радасці, але багатае на цяжкія выпрабаванні ды пакуты.

У другой палове 50-х гадоў XVI стагоддзя Астафей Валовіч як найвышэйшы пісар і маршалак дворны мусіў падоўгу знаходзіцца пры двары, прымаючы непасрэдны ўдзел у кіраванні гаспадарствам. У лютым — траўні 1558 года па даручэнні вялікага князя і караля ён вёў перамовы з паслом маскоўскага цара Раманам Алфёравым, які прыбыў у Вільню, каб схіліць урад Вялікага Княства ды Жыгімонта II

Аўгуста да «дружбы» з Іванам IV і пры гэтым перашкодзіць падпісанню мірнага пагаднення Беларускага гаспадарства з Крымскім ханствам. У сакрэтным даручэнні Алфёраву гаварылася: «Короля о дружбе задрати, доколе меж себя не помирились, чтоб в то время от крымского его отвести».

У перагаворах з Раманам Алфёравым маршалак дворны, як найбольш дасведчаны ва «ўсходнім пытанні», з'яўляўся, бадай, галоўнай фігурай. У час першага афіцыйнага прыёму маскоўскага пасла ён сачыў за захаваннем рытуалу ды зачытваў царскую грамату, адрасаваную Жыгімонту II Аўгусту, у якой маскоўскі манарх заклікаў шукаць шляхі да згоды між хрысціянскімі народамі і імкнуцца да яднання ў барацьбе з «басурманамі». Праз найвышэйшага пісара і маршалка дворнага вялікі князь перадаваў усе свае рашэнні маскоўскім паслам, што гаворыць аб асаблівым даверы Жыгімонта II Аўгуста да Астафея Валовіча. Нават шкадаванне вялікага князя з той нагоды, што ён не можа накрыць святочны стол у гонар паслоў (паколькі не мінуў год з дня смерці яго маці), паведамляў Алфёраву менавіта Валовіч.

Атрымаўшы ад Жыгімонта II Аўгуста і паноў-рады Вялікага Княства шырокія паўнамоцтвы на перагаворах, маршалак дворны неаднаразова сустракаўся з маскоўскімі пасламі і дыскутаваў з імі па розных пытаннях узаемаадносін Беларускага гаспадарства з Маскоўскім княствам. Галоўнае, да чаго імкнуўся Валовіч,— дасягнуць міру між краінамі, бо войны з Масковіяй як нішто іншае знясільвалі Беларускую дзяржаву, падрывалі эканамічную моц краіны, урэшце, стрымлівалі развіццё культуры.

Палемізуючы з Алфёравым у Прачысценскай царкве (акрамя Астафея Валовіча там прысутнічалі князь Васіль Астрожскі, князь Стэфан Збаражскі і пан Ян Шымкоў), маршалак дворны ўсхвалявана прамаўляў: «Вы прыехалі ад свайго гаспадара да нашага шукаць згоды і міру, таму вы для нас — добрыя госці. Няхай Бог дае нам усім дачакацца таго дня, калі між нашымі гаспадарамі наступіць любоў, братэрства і праўда! Аб вечным міры з вамі марыць і наш манарх, і вялікія паны. Усе вельмі рады вашаму прыезду...»

Як вынікае з матэрыялаў перагавораў, погляд Астафея Валовіча на характар стасункаў Вялікага Княства з Масковіяй супадаў з

пазіцыяй вельмі аўтарытэтнага на той час палітычнага дзеяча — віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага, які пры сустрэчы з пасламі гэтаксама, як і маршалак дворны, падкрэсліваў неабходнасць міру паміж Беларускай дзяржавай і Маскоўскім княствам, заклікаў да саюзу хрысціянскіх дзяржаў супраць агульных ворагаў — крымскіх татараў і асманскай Турцыі.

Астафей Валовіч быў задаволены вынікам перамоў. Звяртаючыся да «шаноўных гасцей» на заключнай аўдыенцыі ў Жыгімонта II Аўгуста, маршалак дворны пранікнёна гаварыў: «Ваш гаспадар прасіў нашага гаспадара аб згодзе. Наш гаспадар з радасцю прыняў яго ліст і жадае жыць з ім у братэрстве і любові, аб чым паведамляе ў Грамаце, якую просіць перадаць вашаму гаспадару. А ў хуткім часе ён накіруе да вас сваіх вялікіх паслоў».

Па заканчэнні перамоў Астафей Валовіч, развітваючыся з пасламі, прасіў іх, каб яны самі ды іхні манарх без усялякай хлусні імкнуліся заўжды да міру з Вялікім Княствам: «А вас, маіх прыяцеляў, прашу: схіліце калені перад людзьмі, блізкімі да вашага гаспадара, няхай яны просяць яго аб усталяванні міру між нашымі дзяржавамі. А мы, са свайго боку, нашага гаспадара і так бесперапынна молім, каб ён з вашым памірыўся... Спадзяёмся на Божую міласць, што пасля ўзаемных вялікіх пасольстваў між нашымі гаспадарамі зробіцца вялікая справа».

Перагаворы Астафея Валовіча з маскоўскімі пасламі ў 1558 годзе цікавыя яшчэ адной акалічнасцю. Менавіта ў гэты час маршалак дворны зрабіў першую спробу, вельмі рызыкоўную, распачаць індывідуальную дыпламатычную гульню, наладзіўшы асабістыя патаемныя стасункі з Масквою. Хоць у гэтым, трэба заўважыць, і не было нічога дзіўнага і адметнага. Прыватныя зносіны між прадстаўнікамі ўплывовых палітычных колаў розных краін — з'ява натуральная для той эпохі. Яны часцей за ўсё былі вынікам вострай узаемнай канкурэнцыі, падазронасці ды недаверу між шляхецкімі і княскімі сем'ямі. Дастаткова прыгадаць сапраўдную вайну між Радзівіламі ды Хадкевічамі, якая ў часы Валовіча прыносіла страшэнную шкоду Вялікаму Княству. Таму цалкам зразумелы зварот маршалка дворнага праз Алфёрава да дзяка Івана Віскаватага з прапановай падтрымлі-

ваць кантакты «дзеля ўзаемнай карысці». Гэты крок Астафея Валовіча аніяк нельга расцэньваць як здраду Вялікаму Княству: ён быў прадыктаваны спецыфічнымі ўмовамі і характарам тагачаснага палітычнага жыцця.

## IV

Спадзяванні Астафея Валовіча на працяглае замірэнне Беларускага гаспадарства з усходнім суседам аказаліся марнымі, бо ў гэты час наспявалі падзеі, якія няўхільна вялі да рэзкай змены палітычнага клімату ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Распачатая ў 1556 годзе Швецыяй, Даніяй і Масковіяй чарговая тайная інтрыга вакол прыбалтыйскіх зямель скончылася ў 1558-м даволі трывіяльна: войскі Маскоўскага княства пачалі агрэсію супраць Інфлянтаў, авалодаўшы ў хуткім часе Нарваю, Дэрптам, Нойгаўзам ды іншымі замкамі.

Магістр Інфлянцкага Ордэна Готард Кетлер пасля няўдалых спроб арганізаваць супраціўленне Масковіі звярнуўся да Жыгімонта II Аўгуста з просьбаю аб дапамозе. Кароль і вялікі князь, імкнучыся пашырыць межы сваіх уладанняў, пагадзіўся прыняць Інфлянты пад апеку і бараніць іх ад спусташэння. Аднак польскія князі і шляхта, даведаўшыся аб каралеўскім рашэнні, катэгарычна адмовіліся ваяваць за Інфлянты. У паноў-рады Вялікага Княства Літоўскага, у адрозненне ад палякаў, не заставалася аніякага выбару: з захопам Інфлянтаў са шматлікімі замкамі і гаванямі, відавочна, узнікала пагроза паўночным рубяжам Беларускага гаспадарства. Менавіта таму 31 жніўня 1559 года на Віленскім вальным сойме была падпісана «Дамова», у адпаведнасці з якой Інфлянцкі Ордэн пераходзіў пад юрысдыкцыю Вялікага Княства. У канцы лістапада таго ж года Беларускае гаспадарства накіравала ў Інфлянты тысячны корпус (500 наёмных коннікаў і 500 драбаў — пешых воінаў) на чале са стольнікам Янам Хадкевічам і чачэрскім старостам Юрыем Зяновічам.

Вельмі хутка сітуацыя ў Інфлянтах яшчэ больш ускладнілася. Асобныя інфлянцкія землі і гарады не пагадзіліся з рашэннем

магістра Кетлера далучыцца да Беларускага гаспадарства. Некаторыя з іх, напрыклад, Пернаў, арыентаваліся на Данію і актыўна вялі перагаворы з дацкім каралём Фрыдрыхам III. Насельнікі Рэвеля, улічваючы геаграфічнае становішча горада, звярнуліся па дапамогу да маладога шведскага караля Эрыка, які не замарудзіў аказаць ім матэрыяльную і вайсковую падтрымку ўзамен на прызнанне яго гаспадаром. У выніку складаных геапалітычных працэсаў натуральна ўзнікла напружанасць ва ўзаемаадносінах Вялікага Княства Літоўскага з Даніяй і Швецыяй.

Аднак галоўная небяспека для Беларускага гаспадарства зыходзіла з іншага боку, ад Маскоўскага княства. Логіка развіцця гістарычных працэсаў у канцы 50-х гадоў XVI стагоддзя няўмольна вяла да сутыкнення жыццёвых інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага і Масковіі на прыбалтыйскіх землях. Беларускае гаспадарства з-за свайго геапалітычнага становішча не магло не браць удзелу ў драме, што разыгрывалася на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, паколькі ад вынікаў вырашэння «інфлянцкага пытання» ў многім залежала яго будучыня і нават само існаванне. Маскоўскае княства, якое ўсё болей узмацнялася, дзякуючы цэнтралізатарскай палітыцы сваіх манархаў, не жадала саступаць Вялікаму Княству Літоўскаму. Яно рашуча прагнула выйсці да Балтыйскага мора, імкнучыся сцвердзіць сваё права моцнай дзяржавы, мець уплыў на палітычны клімат Еўропы.

Да канца 1559 года Інфлянцкі вузел зацягнуўся празмерна туга. Пагроза разрыву мірнага пагаднення, падпісанага паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масковіяй у 1556-м тэрмінам на шэсць гадоў (да 25 сакавіка 1562-га), стала непазбежнай рэальнасцю.

У гэткіх найскладнейшых варунках дзяржаўныя дзеячы Беларусі, найперш Астафей Валовіч ды Мікалай Радзівіл, рабілі ўсё магчымае, каб прадухіліць небяспечны для гаспадарства канфлікт з Масковіяй, чаму, дарэчы, надта перашкаджалі польскія паны, зацікаўленыя ў аслабленні Вялікага Княства Літоўскага.

Здаецца, якраз па патрабаванні Астафея Валовіча Жыгімонт II Аўгуст спешна накіраваў у Маскву пасла Марціна Валадковіча, які, сярод іншага, у гутарцы з баярынам Адашавым звярнуў увагу на пазіцыю віленскага ваяводы і маршалка дворнага, што выступалі супраць вайны. Валадковіч, у прыватнасці, падкрэсліваў: «Палякі ўсёю зямлёю

хочуць таго, каб наш гаспадар распачаў вайну з вашым гаспадаром. Але віленскі ваявода Мікалай Радзівіл ды вялікакняскі пісар Валовіч моцна стаяць на тым, каб між нашымі гаспадарамі панавалі мір і згода». З гэтых слоў выразна бачна, што Астафей Валовіч, нават цаной канфлікту з палякамі, імкнуўся не дапусціць вайны з Маскоўскім княствам, унікнуць «праліцця хрысціянскай крыві».

У ліпені — жніўні 1560 года найвышэйшы пісар і маршалак дворны яшчэ раз паспрабаваў неяк урэгуляваць наспяваючы канфлікт, скарыстаўшы свае прыватныя кантакты з маскоўскімі дыпламатамі. Праз пасла Станіслававіча Астафей Валовіч звярнуўся да дзяка Івана Віскаватага, просячы яго садзейнічаць усталяванню міру між Вялікім Княствам Літоўскім і Масковіяй: «У нас цяпер багата людзей, што не хочуць дабра між нашымі гаспадарамі. Я ж бесперапынна змагаюся за тое, каб між імі не парушылася любоў. І ты б гэтаксама, са свайго боку, спрыяў міру між манархамі, каб не пралілася кроў ды каб не загінула хрысціянства».

Восенню 1560 года намаганні Астафея Валовіча нечакана атрымалі выдатную мажлівасць рэалізавацца. Прычынай таму — дыпламатычны крызіс ва ўзаемаадносінах Швецыі і Масковіі, які рэзка змяніў палітычную сітуацыю ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе на карысць Вялікага Княства Літоўскага.

Адмысловы палітык Іван IV, баючыся адначаснай вайны з Беларускім гаспадарствам ды Швецыяй, мусіў сам шукаць кампрамісу. Ён зрабіў крок насустрач Вялікаму Княству, выказаўшы жаданне ажаніцца з адной з сясцёр Жыгімонта II Аўгуста. Пры гэтым маскоўскі манарх меў далёкі прыцэл: дзякуючы гэтаму саюзу ён разлічваў без вайны авалодаць Інфлянтамі, а ў будучыні, пасля смерці бяздзетнага караля і вялікага князя, праз ягоную сястру, сваю будучую жонку, дамагчыся вялікакняскага вянца, а таксама далучэння Беларускага гаспадарства і Польшчы да Масковіі.

Праўда, і на гэтым шляху Івана IV узнікла адна замінка. Між ім і нявестай існавала пэўная ступень сваяцтва: яго цётка Алена Іванаўна была выдадзена ў 1499 годзе замуж за вялікага князя Аляксандра Казіміравіча (1461—1506), які даводзіўся нявесце дзядзькам. Але паколькі прамых кроўных сувязяў між імі не існавала, то

маскоўскі мітрапаліт даў дазвол на гэты шлюб. Першы бар'ер, такім чынам, маскоўскі манарх пераадолеў. Пасля гэтага дыпламатыя Івана IV спешна ўзялася за справу, праводзячы ў жыццё планы гаспадара.

У канцы лета 1560 года ў Вялікае Княства Літоўскае тэрмінова выехала маскоўскае пасольства на чале з Фёдарам Сукіным ды Рыгорам Шапкіным, каб выбраць у жонкі Івану IV адну з сясцёр Жыгімонта — Ганну ці Кацярыну — ды абгаварыць умовы шлюбу і будучага міру. Пасольства Сукіна і Шапкіна падрабязна апісана ў «Дзённіку», аўтарам якога з'яўляецца Астафей Валовіч. Як вынікае са зместу «Дзённіка» Астафея Валовіча ды дакументаў, апублікаваных у расійскай гістарычнай літаратуры XIX стагоддзя, Фёдар Сукін ды Рыгор Шапкін прыехалі ў Вільню 27 верасня 1560-га, абудзіўшы ў душах насельнікаў Княства спадзяванні на шчаслівае завяршэнне напружанага супрацьстаяння між суседнімі славянскімі дзяржавамі.

1 кастрычніка 1560 года маршалак дворны Вялікага Княства Літоўскага ў прыўзнятым, святочным настроі вітаў маскоўскіх паслоў ды пачціва праводзіў іх у палац вялікага князя. Дух надзеі лунаў у паветры ў час прыёму паслоў Жыгімонтам II Аўгустам. Усе жылі чаканнем хуткага надыходу радасных дзён ды раскошнага царскага вяселля. Гармонія і мір, здавалася, зусім побач. На гэтай аптымістычнай ноце пачаліся перамовы.

З боку Беларускай дзяржавы перагаворы вялі Астафей Валовіч, Мікалай Радзівіл Чорны, біскуп Валяр'ян і пан Ян Шымкоў. З самага пачатку яны заявілі Фёдару Сукіну і Рыгору Шапкіну, што без папярэдняга падпісання «вечнага міру» і захавання правоў Вялікага Княства Літоўскага на Інфлянты пра шлюб не можа быць аніякай размовы. Некалькі дзён абгаворваліся ўмовы шлюбу. Нарэшце, пасля шасці тураў перамоў Астафей Валовіч, скарыстаўшы тонкія дыпламатычныя манеўры, здолеў зрушыць справу з месца. Ён прапанаваў паслам сустрэцца сам-насам і спакойна, без лішніх эмоцый абгаварыць усе спрэчныя пытанні. 7 кастрычніка такая сустрэча сапраўды адбылася. Яна праходзіла ў віленскай Прачысценскай царкве па абедні.

Поўных звестак аб таемнай гутарцы Валовіча з Сукіным і Шапкіным не захавалася. Вядома толькі частка прамовы маршалка дворнага, у якой ён, звяртаючыся да паслоў, гаварыў: «Прыехалі вы ад

свайго гаспадара, каб спрыяць вялікім справам — гаварыць аб парадненні ды вечным міры. Але, скажыце, як могуць стацца тыя важныя справы і як падпісаць вечны мір між нашымі гаспадарамі, калі на рубяжах вашы людзі чыняць нам непамерныя крыўды і шкоды?.. Дый ваяводы вашага гаспадара стаяць з процьмай людзей у Інфлянтах, а насупраць — нашы ваяводы з жаўнерамі. Хіба можна зрабіць пры такіх варунках штосьці добрае?!»

Пасля бясконцых узаемных прэтэнзій і выказвання крыўдаў маскоўскія паслы ўрэшце пагадзіліся з першай прапановай прадстаўнікоў Вялікага Княства Літоўскага заключыць новае мірнае пагадненне перад жаніцьбаю Івана IV з сястрой Жыгімонта. Аднак Фёдар Сукін і Рыгор Шапкін катэгарычна адмовіліся агаворваць умовы гэтага міру, лічачы, што яны павінны абмяркоўвацца ў Маскве па прыездзе туды вялікакняскага пасольства. Такое рашэнне не зусім задавальняла Астафея Валовіча і іншых беларускіх радных паноў, бо яны хацелі, каб мір падпісваўся на мяжы Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскім княствам, прыкладна між Оршай і Смаленскам, што ставіла б абодва бакі ў роўнае становішча.

Каб канчаткова вырашыць пытанне аб сватаўстве, неабходна было пераадолець і іншыя рагаткі. Па-першае, патрабавалася згода рады Польскай Кароны, бо менавіта ў Польшчы знаходзілася асноўная частка пасагу, ці, як тады гаварылі, «вена» каралеўскіх сясцёр. Па-другое, Жыгімонт II Аўгуст лічыў неабходным узгадніць сваё рашэнне з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Фердынандам I, а гэтаксама са сваім пляменнікам, венгерскім каралевічам Янушам, і зяцем, герцагам Браўншвейгскім, паколькі парадненне з Іванам IV азначала стварэнне новага палітычнага саюза. Гэты факт, дарэчы,— красамоўнае сведчанне шчыльных дыпламатычных стасункаў Беларускага гаспадарства ў часы сярэднявечча з іншымі еўрапейскімі дзяржавамі.

Непасрэдны выбар нявесты пасламі пачаўся толькі пасля абмеркавання палітычных вынікаў шлюбу, што вельмі паказальна для тых часоў. Сукін і Шапкін хацелі на ўласныя вочы пабачыць Ганну і Кацярыну, каб прапанаваць у жонкі Івану IV «дабрэйшую ды прыгажэйшую». Але паслам адмовілі ў сустрэчы з каралеўскімі сёстрамі,

не жадаючы прадпрымаць штосьці загадзя, без адпаведных гарантый з боку Масквы. Вялікакняскія ўраднікі, аднак, дапамаглі паслам пабачыць Ганну і Кацярыну, калі тыя выходзілі пасля малебна з касцёла. Сукін і Шапкін, ацаніўшы здалёк нявест, спынілі свой выбар на Кацярыне, малодшай Жыгімонтавай сястры.

Пасля гэткіх крыху дзіўных агледзін Астафею Валовічу давялося яшчэ раз размаўляць з маскоўскімі пасламі. Гутарка цяпер ішла вакол пытання аб захаванні каталіцкага веравызнання Кацярыны ў выпадку яе пераезду ў Маскву, з чым Сукін і Шапкін пагадзіліся без усялякіх пярэчанняў.

У перыяд з 27 верасня па 10 лістапада 1560 года найвышэйшы пісар і маршалак дворны больш за дзесяць разоў сустракаўся з маскоўскімі пасламі і як ніхто іншы з паноў-рады Вялікага Княства Літоўскага ўплываў на ход гэтых перагавораў. У гістарычных падзеях сватання Івана IV да Кацярыны Астафей Валовіч наогул з'яўляўся адной з галоўных дзеючых асоб. Дзякуючы яго дыпламатычнаму таленту першы этап падрыхтоўкі гэтага важнага ў палітычных адносінах акта скончыўся паспяхова, аб чым сведчаць развітальныя словы маршалка дворнага. «Спадзяюся,— гаварыў ён Сукіну і Шапкіну,— не паспееце вы вярнуцца ў Маскву, як вялікія паслы нашага гаспадара будуць у дарозе».

Як і абяцаў Астафей Валовіч, вялікакняскае пасольства на чале з Янам Шымковым і Янам Гайкам у студзені 1561 года выехала ў Маскву, каб паставіць кропку ва ўсёй гэтай гісторыі ды падпісаць «вечны мір» Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскім княствам. Але фартуна адвярнулася ад Беларускага гаспадарства. Усе намаганні Валовіча пайшлі дымам. Маскоўскі манарх не жадаў адмаўляцца ад Інфлянтаў і, уладзіўшы нейкім чынам канфлікт са Швецыяй, восенню 1561 года узнавіў вайсковыя дзеянні супраць Інфлянтаў, юрыдычна падуладных Вялікаму Княству Літоўскаму.

У 1562-м вайсковая кампанія Івана IV набыла яшчэ большы размах, і Вялікае Княства было вымушана ўступіць у надзвычай цяжкую 20-гадовую вайну (калі не лічыць перамір'яў) з Маскоўскай дзяржавай.

## V

З моманту прызначэння Астафея Валовіча 19 ліпеня 1561 года земскім падскарбіем Вялікага Княства Літоўскага, пры захаванні ранейшых пасад маршалка дворнага і найвышэйшага пісара, у яго жыцці пачаўся новы, надта складаны этап. Аб шматбаковай дзейнасці Астафея Валовіча на пасадзе падскарбія сведчаць шматлікія гістарычныя крыніцы, што захаваліся да цяперашняга часу. Галоўная сярод іх — рукапісная кніга вялікакняскай Канцылярыі пад назваю «Метрика данин, справ розных поточных короля Его Милости Жикгимонта Августа за подскарбства земского Остафія Валовича и писарства Миколая Нарушевича (1561—1566)».

У сярэдзіне XVI стагоддзя вялікакняскі земскі падскарбі з'яўляўся не простым казначэем, як, напрыклад, у XIII—XV стагоддзях, а кіраўніком буйнога дзяржаўнага падраздзялення, якое рэгулявала эканоміку Вялікага Княства Літоўскага. Ён не толькі захоўваў скарб, але і вызначаў фінансавую палітыку гаспадарства, рыхтаваў загады і аддаваў распараджэнні, што падлягалі абавязковаму выкананню.

На працягу 1561 — 1566 гадоў Астафей Валовіч як земскі падскарбі вырашаў амаль усе фінансава-эканамічныя пытанні. Кароль і вялікі князь фізічна не мог адзін разгледзець усю тую безліч гаспадарчых пытанняў і спраў, якая штодзень звальвалася на яго. Значную іх частку ён перадаваў земскаму падскарбію, ад якога і залежаў іх лёс.

Ва ўмовах падрыхтоўкі Беларускага гаспадарства да вайны з Масковіяй пасада земскага падскарбія набывала, да ўсяго іншага, стратэгічнае значэнне. Ад фінансавай палітыкі падскарбія наўпрост залежала вайскова-эканамічная моц дзяржавы. Відаць, зусім не выпадкова Жыгімонт II Аўгуст 7 снежня 1561 года выдаў Грамату аб надзяленні Астафея Валовіча надзвычайнымі паўнамоцтвамі.

Штодзённа займаючыся пытаннямі эканомікі і фінансаў, Валовіч між тым ні на хвілю не прыпыняў дыпламатычнай чыннасці, спрабуючы, каторы ўжо раз, прымірыць Вялікае Княства Літоўскае з Маскоўскай дзяржавай.

З дакументаў тагачасных маскоўскіх дыпламатычных службаў вядома, што 16 сакавіка 1562 года беларускі пасол Баркулаб Корсак,

сустракаючыся ў Маскве з тамашнім аўтарытэтным дыпламатам, дзяком Іванам Віскаватым, прасіў яго ад імя найвышэйшага пісара, маршалка дворнага і земскага падскарбія схіліць свайго манарха да таго, каб ён накіраваў да Жыгімонта II Аўгуста вялікіх паслоў і хоць бы да ліпеня — жніўня 1562 года ўстрымаўся ад наступлення на беларускія землі. Вось што дакладна паведамлялася ў адной са стара-даўніх крыніц: «И говорил посланник Ивану Михайлову от Остафья Воловича, чтоб Иван до государя о том напомянул, чтоб государь ваш послал до нашего государя послов своих великих или своего посланника о миру, или б его отпустил ранне к королю, и с своей бы стороны рать свел. А он, едучи, с королевы стороны рать сведет. А отсрочил бы государь ваш с нашим государем посылку до июля месяца или до августа, а ему б позволил вперед отпустити человека с вестью, что государь отсрочил, ино с обе стороны кровопролитье не будет».

Іван Віскаваты, аднак, не пайшоў насустрач Валовічу і адмовіўся хадайнічаць перад Іванам IV, заявіўшы Корсаку: «Яз у государя паробок молодой... Мне о таком деле государя напомятути не вместно». Няйнакш, баючыся падазрэнняў у патаемных сувязях з варагуючай краінай, няшчыры дзяк на другі дзень данёс цару пра ўсё, што гаварыў яму Баркулаб Корсак ад імя Валовіча.

Як ні стараўся Астафей Валовіч ды паны-рада, у тое ж лета 1562 года войскі Івана IV пачалі заваёўваць уласнабеларускія землі. Карыстаючыся зручным момантам, шведскі кароль таксама абʼявіў Княству вайну і наблізіўся да Рыгі.

У хуткім часе маскоўскія войскі захапілі пяць найбуйнейшых замкаў на паўночным усходзе Беларусі: Віцебск, Оршу, Дуброўну, Копысь і Шклоў,— а таксама зруйнавалі шэраг паселішчаў у Віцебскім ваяводстве. Але на гэтым іх разбой не скончыўся. 15 лютага 1563 года войскі Маскоўскага княства ўварваліся ў старажытны беларускі горад Полацк і ўчынілі там страшэнныя пагромы, весткі аб якіх скаланулі Беларусь.

На працягу некалькіх дзён непрыяцелі крушылі і нішчылі ўсё, што стваралася працаю не аднаго пакалення руплівых палачан. Заваёўнікі да ніткі абіралі заможныя панскія ды купецкія маёнткі, набівалі

вазы скарбам полацкіх гараджан ды маёмасцю багатых рамесніцкіх цэхаў. Не спыняліся яны перад хрысціянскімі святынямі і, нібы паганцы, рабавалі цэрквы і манастыры. Полацкі Сафійскі сабор — гонар беларусаў, сімвал незалежнасці і дзяржаўнай велічы народа — стаўся ахвяраю ўсходняга дзікунства і азіяцкае раз'юшанасці. Усе каштоўныя рэчы: абразы, творы мастацтва, разам з найбагацейшай бібліятэкаю, дзе захоўваліся старажытныя рукапісныя кнігі,— былі вывезены з Сафіі.

Але не толькі незлічоныя матэрыяльныя страты панеслі беларусы. Колькі вякоў у Полацку, як і па ўсёй беларускай зямлі, побач з карэнным насельніцтвам жылі палякі, яўрэі, татары. Кожны знайшоў тут прытулак і вызнаваў тую веру, да якой ляжала ягонае сэрца: праваслаўе, каталіцтва, мусульманства ці іўдзейства. Захопнікі бязлітасна пасеклі беларускіх татараў, што жылі ў Полацку. Няшчадна расправіліся яны і з манахамі-бернардзінцамі. З асабліваю жорсткасцю тапілі ў Дзвіне полацкіх яўрэяў, не зважаючы на тое, былі перад імі жанкі, дзеці ці старыя.

Тысячы беларусаў, разам з полацкім ваяводам панам Давойнам, ворагі пагналі ў палон. Увесь нечуваны гвалт над насельнікамі Полацка апісаў тагачасны храніст Мацей Стрыйкоўскі. Скупымі радкамі ён засведчыў, якое «братэрства» і «вызваленне» прынесла Беларусі Маскоўскае княства. Здаецца, гадзіны, чарнейшай за зіму 1563 года, Полацк не ведаў з X стагоддзя, з тых часоў, калі наўгародскі князь Уладзімір, захапіўшы горад, пакараў палачан, прылюдна згвалціў князёўну Рагнеду ды пазабіваў яе бацьку і братоў. Але, на жаль, і да цяперашняга часу ў многіх даследаваннях і нават беларускіх падручніках па гісторыі можна знайсці ўзнёслыя апісанні «вялікага вызвалення» Полацка Іванам IV у 1563 годзе. Ва ўгоду імперскай палітыцы няспынна працягваецца перакручванне гістарычных фактаў.

Ад варожых рабаванняў надзвычай пацярпеў і земскі падскарбі Астафей Валовіч, шматлікія землі якога знаходзіліся якраз у Полацкім і Віцебскім ваяводствах. Нават у часы замірэння, падпісанага пасля захопу Полацка да верасня 1563 года, атрады Багдана Сабурава, Апанаса Курчава, Івана Колычава ды іншыя працягвалі руйнаваць беларускія паселішчы ў Падзвінні. Менавіта яны ў жніўні 1563-га

дазвання спустошылі заможныя маёнткі земскага падскарбія, у тым ліку Чарэю, Белую і Лепель, жыхароў якіх, як і многіх палачан, павялі ў няволю. Пазней маскоўскія атрады разбурылі прыгожы Езярышчанскі замак Астафея Валовіча.

Аб шкодах, учыненых земскаму падскарбію ды іншым насельнікам Княства ў вясенне-летні перыяд 1563 года, пісаў Жыгімонт II Аўгуст у Грамаце да Івана IV. Патрабуючы ад маскоўскага манарха выканання ўмоў перамір'я і спынення здзеку з мірных жыхароў Княства, кароль і вялікі князь паведаміў: «А табе, брату нашему, ознаймуем, иж от людей твоих с Полоцка волостям нашим и князем, паном, бояром, дворяном и подданным нашим многие и великие кривды и шкоды деются. Яко ж и сих часов, месяца августа первого дня, с Полоцка люди твои, Богдан Сабуров, Офонасей Курчов, Иван Колычов, Третьяк Черуков, Кчамшин Лазаров а Иван Тягаров и з иными людми твоими войною на князей наших Лукомских пришедъш, место Лукомль выжгли, бояр, мешчан и многих людей тамошних з жонками и з детьми, и со всими статками в полон побрали, и плен немалый и шкоду великую вчинили... Также в села маршалка дворного, подскарбего земского, писаря нашого, старосты могилевского и озерищского пана Остафья Воловича, Белое и на Лепле, и в Черею, и в иные уходечи, шкоды немалые чынят».

Згаданы вышэй ліст быў адпраўлены ў Маскву з беларускім паслом Андрэем Клабуковым. Мяркуючы паводле пафасу дыпламатычнай ноты, яго, верагодна, рыхтаваў Астафей Валовіч, інакш наўрад ці ў ім адводзілася б гэтак шмат месца яго асабістым клопатам.

Як бачна, страты Валовіча ўжо на пачатку вайны Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай дасягнулі значных памераў. Ён не толькі згубіў шэраг маёнткаў і зямель, але і страціў важныя пасады — Езярышчанскае і Усвяцкае староствы, на якіх пачалі заpraўляць намеснікі Івана IV Грознага.

Няцяжка ўявіць цяжкі псіхалагічны стан і душэўныя пакуты земскага падскарбія пасля таго, што здарылася. Але ён не толькі мужна перанёс бяду, але і не страціў веры ў перамогу, аддаючы яшчэ больш сіл і энергіі агульнай справе — барацьбе за вызваленне Бацькаўшчыны.

## VI

Апроч цяжару вайны з Масковіяй, на перыяд дзейнасці Астафея Валовіча ў якасці земскага падскарбія прыйшоўся пік грандыёзнай зямельнай рэформы, распачатай яшчэ ў 50-я гады XVI стагоддзя па ініцыятыве Боны Сфорцы і падтрыманай каралём і вялікім князем Жыгімонтам II Аўгустам.

Воляй лёсу Валовіч апынуўся ў цэнтры гэтай рэформы і стаў побач з тымі, хто сваім розумам, гаспадарчым талентам ды неймавернымі намаганнямі рухаў яе наперад, пераадольваючы шматлікія цяжкасці. Каб хоць часткова зразумець веліч здзейсненага земскім падскарбіем і ягонымі паплечнікамі, неабходна ўявіць усю гістарычную складанасць і надзвычайнасць задуманага пераўтварэння гаспадаркі Вялікага Княства Літоўскага.

Ажыццяўленне новага землеўпарадкавання вынікала з вострых патрэб і выклікаў часу. Мяркуючы паводле эканамічай сітуацыі, што склалася ў Вялікім Княстве да сярэдзіны XVI стагоддзя, унутраны патэнцыял існуючай фінансава-падатковай сістэмы быў вычарпаны. Яна не забяспечвала гаспадарскую скарбонку патрэбнымі матэрыяльнымі і грашовымі рэсурсамі, якія б дазвалялі эфектыўна бараніць гаспадарства ад знешніх ворагаў.

Хібы эканамічнай палітыкі Княства асабліва выявіліся ў крытычны момант, у час Полацка-Інфлянцкай вайны, калі ўзнікла неабходнасць у тэрміновым і шматразовым павелічэнні войска. А дзяржаўная скарбонка была пустая, паколькі землеўласнікі альбо затрымлівалі выплату падаткаў, альбо аддавалі не ўсё, утойваючы звесткі пра сапраўдныя памеры сваіх надзелаў і даходаў з іх.

Новае землеўпарадкаванне і строгі ўлік зямельных фондаў Вялікага Княства Літоўскага якраз і мелі на мэце забяспечыць у канчатковым выніку рэгулярнае і своечасовае паступленне ў дзяржаўную казну шляхецкіх падаткаў, прычым адпаведна колькасці і якасці іх ворнай зямлі, а таксама лясоў і сенажацяў.

Важнейшыя канцэптуальныя палажэнні і практычныя рэкамендацыі па ажыццяўленні новай аграрнай і фіскальнай палітыкі гаспадарства фармуляваліся ў адпаведных дакументах, найперш «Уставе на валокі», што была выдадзена ў красавіку 1557 года.

Зыходны момант у механізме зямельнай рэформы — абмер наяўных плошчаў, падзел зямлі на валокі (альбо моргі) і класіфікацыя яе на чатыры асноўныя разрады ў залежнасці ад якасці і ўрадлівасці — добрую, сярэднюю, дрэнную і вельмі дрэнную. Адна валока ўтрымлівала 33 моргі, што раўнялася прыкладна 23,43 гектара.

Ва «Уставе на валокі» вызначаліся памеры дзялянак для ўсіх сельскіх саслоўяў, у тым ліку мясцовых урадоўцаў, і фіксавалася лічба падаткаў, якія павінны былі ўносіць уладальнікі ў дзяржаўную скарбонку.

Артыкул 33 «Уставы...» вызначаў канкрэтныя тэрміны, калі кожная воласць разлічвалася з дзяржаваю. Напрыклад, для Рэчыцы, Мазыра, Любеча, Бабруйска, Чачэрска, Прапойска, Мсціслаўля ды Оршы быў устаноўлены перыяд з 6 да 18 траўня. Спагнанне падаткаў з усіх ваяводстваў Княства павінна было штогод ажыццяўляцца з 1 студзеня да канца траўня.

«Уставай на валокі» прадугледжвалася таксама стварэнне вялікага штату рэвізораў і мернікаў. Іх функцыі і правы дэталёва абгаворваліся ў 36 артыкуле. «Устава...» абавязвала мясцовых урадоўцаў і намеснікаў дапамагаць рэвізорам і мернікам: «Абы всякое послушенство в наших пожитках к ревизором и посланцом нашим мели. Обо всем ведомость им давали и в чом бы ся якое шкода нам альбо кривда подданным деяла, абы врядник або наместник на вряд во всем перед ревизором отказывал».

Адным з істотных элементаў зямельнай рэформы з'яўлялася праверка ў шляхты дакументаў на права валодання надзеламі. У тым выпадку, калі шляхціц не меў юрыдычнага пацвярджэння на ўтрыманне зямлі, яна аўтаматычна пераходзіла ва ўласнасць вялікага князя, які, адпаведна з законамі Вялікага Княства Літоўскага, лічыўся ўласнікам усёй зямлі і толькі даваў яе шляхце ў часовае, пажыццёвае альбо вечнае карыстанне. Менавіта рэвізія дакументаў выклікала найбольшае супраціўленне з боку шляхты, бо многія сем'і валодалі зямлёю на працягу некалькіх пакаленняў, неаднаразова дзелячы, купляючы альбо перапрадаючы яе. Натарыяльныя паперы па розных прычынах губляліся. Аднак даволі часта шляхціцы самавольна захоплівалі вольныя альбо гаспадарскія землі і, карыстаючыся імі, не пла-

цілі ў дзяржаўную скарбонку аніякіх падаткаў. Ліквідаваць анархію і існуючыя беспарадкі і павінна была ўсеагульная праверка дакументаў.

Як бачна, новая зямельная палітыка прыводзіла ў рух усе важнейшыя дзяржаўныя і нават царкоўныя структуры, так або інакш закранала матэрыяльныя інтарэсы розных саслоўяў — шляхты, баяраў, дваранаў, сялянства, адміністрацыі розных узроўняў ды духоўных асоб. Астафея Валовіча, як буйнога землеўласніка, яна гэтаксама не абмінула. Падобна ўсім шляхціцам, ён мусіў пацвярджаць уласныя правы на зямлю, хоць з гэтым у яго праблем і не ўзнікала. Цяжкасць для земскага падскарбія заключалася ў іншым: з 1561 года на ягоныя плечы быў ускладзены ўвесь цяжар гэтай рэформы, непамерная адказнасць за яе правядзенне і вынікі.

Сумесна з Пятром Фальчэўскім, прызначаным Жыгімонтам II Аўгустам галоўным кіраўніком рэформы, Астафей Валовіч вырашаў плойму бягучых спраў: уважліва аналізаваў вынікі ўсіх праверак, разглядаў спрэчныя моманты, шматкроць даваў самыя розныя практычныя рэкамендацыі рэвізорам. Паводле яго загаду рэвізоры і мернікі рабілі вопіс зямель, складалі маёмасныя інвентары паветаў і ваяводстваў. Прыгадаем інвентар Рэчыцы, састаўлены рэвізорам Дзмітрыем Сапегам, загаловак якога красамоўна гаворыць аб актыўным кіраванні Валовіча правядзеннем зямельнай рэформы: «Реестр списанья села Речицкого пана Мытаса Савицкого, писаря его милости пана воеводы виленского, за росказаньем его княжецкой милости и за писаньем его милости пана Остафья Воловича, маршалка дворного, подскарбьего земского, писара его королевской милости, старосты могилевского и медницкого, через мене, Дмитрия Сопегу, ревизора его королевской милости...»

Нярэдка Астафею Валовічу даводзілася, часам па даручэнні Жыгімонта II Аўгуста, выязджаць на месцы для вырашэння складаных ці спрэчных пытанняў. Пад пільным наглядам земскага падскарбія і іншых ураадоўцаў аграмадная па сваіх памерах праца, нягледзячы на ўсе перашкоды, крок за крокам пасоўвалася наперад. Толькі недзе ў 1569 годзе аграрная рэформа, дзякуючы руплівасці ды неймаверным намаганням Астафея Валовіча і Пятра Фальчэўскага, паспяхова завяршылася.

Шэраг першапачатковых тэарэтычных палажэнняў і задумак усё ж не ўдалося рэалізаваць на практыцы. Але гэта, мусіць, было непазбежна, бо рэформа з-за неспрыяльных унутраных ды знешніх умоў празмерна зацягнулася. Пры ўсіх выдатках асноўныя яе мэты былі дасягнуты.

Праведзеная Астафеем Валовічам аграрная рэформа найперш забяспечыла своечасовае і ў пэўным сэнсе справядлівае спагнанне падаткаў з жыхароў Княства, ліквідавала небяспечныя для сельскай гаспадаркі здрабнеласць дзялянак ды цераспалосіцу, спыніла згубны для краіны працэс разарэння збяднелых сялянскіх сядзіб ды пакіданне сялянамі сваіх неўрадлівых зямель. Пасля ўліку і перадзелу гаспадарчага зямельнага фонду, а гэтаксама засялення занядбаных зямель сялянская сіла размяркоўвалася на ўсіх абшарах краіны адносна раўнамерна, дзякуючы чаму павялічылася эфектыўнасць землекарыстання. Нарэшце, дакладнае вымярэнне ўсіх дзялянак і юрыдычна афармленае замацаванне іх за канкрэтнымі гаспадарамі спыняла спрадвечныя ўзаемныя прэтэнзіі ўласнікаў і незаконныя захопы чужых зямель з-за чаго, як вядома, у ранейшыя часы пралілося нямала крыві.

Вельмі важнымі сталіся вайскова-палітычныя вынікі рэформы. Без яе Вялікае Княства Літоўскае, напэўна б, не вынесла цяжару Полацка-Інфлянцкай вайны. Акрамя таго, аграрная рэформа сярэдзіны XVI стагоддзя стварыла эканамічны падмурак для развіцця культуры Беларусі.

## VII

Але не толькі зямельная рэформа паставіла Астафея Валовіча ў экстраардынарнае становішча. Незвычайнай вытрымкі і працавітасці ад яго патрабавалі і іншыя праблемы, вырашаць якія ва ўмовах вайны было надзвычай складана. Першачарговы клопат земскага падскарбія — дзяржаўны скарб, які на вачах знікаў. Вайсковыя расходы дасягнулі астранамічнай лічбы. Так, калі ў канцы 1561 года, у час пры-

няцця Валовічам гаспадарскай скарбонкі, у ёй налічвалася 111 433 капы, то ўжо ў наступным засталося менш за палову — каля 51 000 коп грошай. А ў 1563 годзе ўзнік дэфіцыт бюджэту (16 944 капы).

Каб палепшыць фінансавае становішча дзяржавы ў перыяд ліхалецця, земскі падскарбі рабіў самыя розныя захады. Ён неаднойчы выступаў з буйнымі ўрадавымі ініцыятывамі, а ў 1563 годзе падаў прапанову сабраць сярэбшчыну — пазачарговы пабор на вайсковыя патрэбы, з чым пасля доўгіх спрэчак на Сойме пагадзілася пераважная большасць беларускай шляхты.

Захаваліся гістарычныя дакументы, якія сведчаць пра самаахвярнасць Астафея Валовіча ў перыяд Полацка-Інфлянцкай вайны. Напрыклад, у снежні 1565 года на Галоўным з'ездзе Княства ў Трабах ён у цяжкі для Бацькаўшчыны час абавязаўся выставіць 250 узброеных коннікаў і ўтрымліваць іх за свой кошт. Па прыкладзе земскага падскарбія іншыя радныя паны Вялікага Княства гэтаксама сфарміравалі за свае сродкі атрады валанцёраў. Як вядома, Ян Хадкевіч выставіў 1200 коннікаў, Рыгор Война — 150, Ян Шымковіч — 100.

Багата часу ў земскага падскарбія забіралі бягучыя справы. Мытнікі, арандатары, зборшчыкі падаткаў, ліхвяры звярталіся да Валовіча з процьмаю нявырашаных пытанняў. І ва ўсім ён мусіў уважліва разбірацца ды выносіць свой вердыкт.

На працягу 1561—1566 гадоў Астафей Валовіч меў шчыльныя кантакты з мясцовымі фінансістамі — яўрэямі паводле паходжання, якім у XVI стагоддзі належала пераважная большасць мытных устаноў гаспадарства. Мноства дакументаў аб дзейнасці беларускіх яўрэяў у тыя часы пацвярджае сімпатыі земскага падскарбія да іх. Прычына таму — неардынарныя здольнасці прадстаўнікоў яўрэйскага этнасу пры ажыццяўленні грашовых аперацый, ад чаго Вялікае Княства мела немалыя прыбыткі.

25 снежня 1564 года Астафей Валовіч са згоды караля перадаў у арэнду пінскім яўрэям Ваську Медзінчычу і Гершану Абрамовічу збор пошліны з продажу піва і гарэлкі ў Менску, Моталі ды некалькіх мястэчках. Вядома, не за так. Валовіч заўжды, прымаючы падобныя рашэнні, зыходзіў выключна з эканамічных меркаванняў. І сапраўды, у падпісаным ім Прывілеі гаворыцца, што новыя арандатары

абавязваліся выплачваць штогод у дзяржаўную скарбонку 220 коп грошай, а гэта на 20 коп болей, чым уносілі іх папярэднікі — Сенька Рацэвіч, Алёшка Казарэзавіч, Позный Левановіч і Іван Шэшнік. У тым жа годзе земскі падскарбі дазволіў яўрэям на выгадных для Княства ўмовах збіраць мыта на Валынскай зямлі замест гаспадарскіх дворных Міхаіла Малінскага і Васіля Загароўскага, якія ад'язджалі на вайну.

Прыведзеныя факты зусім не азначаюць, што сярод яўрэяў-мытнікаў і арандатараў не было людзей несумленных. Вядома, хапала і гэткіх, але і адносіны Астафея Валовіча да іх былі адпаведныя. Так, 8 жніўня 1561 года земскі падскарбі паставіў подпіс пад Граматай на дазвол Хомку ды Абраму Рабіновічам, Табіяшу Багдановічу і Ісаку Машаевічу арандаваць саляны склад у Пінску, з тым каб скупляць оптам усю прывезеную туды соль, а затым гандляваць ёю па цане, устаноўленай дзяржаваю. Аднак праз колькі месяцаў да падскарбія і вялікага князя ад жыхароў Пінска паступіла мноства скаргаў. Іван Фурс, што па загадзе Валовіча даследаваў справу, пацвердзіў факты злоўжывання яўрэяў-арандатараў правамі. У выніку 6 чэрвеня 1562 года спецыяльны «Дэкрэт», падрыхтаваны Валовічам, пазбаўляў злачынцаў усяго прыбытку з арэнды.

Аналіз стасункаў Астафея Валовіча з тагачаснымі яўрэямі-фінансістамі дазваляе зрабіць і пэўныя агульныя ацэнкі дзейнасці апошніх у XVI стагоддзі. Гэта вельмі істотна, паколькі ў сучаснай літаратуры нярэдка сустракаюцца аднабаковыя характарыстыкі чыннасці прадстаўнікоў яўрэйскага этнасу на Беларусі. Часам у адзначанай і катэгарычнай форме выказваецца думка, нібыта яўрэйская буржуазія не толькі не спрыяла, а нават перашкаджала ўмацаванню беларускай дзяржаўнасці. Памылковасць гэткіх высноў даказвае, напрыклад, «Універсал» ад 25 ліпеня 1563 года, які патрабаваў ад яўрэйскіх суполак Вялікага Княства ўнесці за два тыдні ў гаспадарскую скарбонку 4000 коп грошай на вайсковыя патрэбы. Неабходная сума амаль без прэчанняў была сабрана і ў тэрмін перададзена ў казну.

У цэлым, калі гаварыць пра XVI стагоддзе, прадстаўнікі яўрэйскага этнасу, якія спрычыніліся да фінансавага жыцця Вялікага Княства, дзякуючы свайму розуму, кемлівасці ды здольнасці хутка прыстасоўвацца да новых абставін (напэўна, выпрацаванай у выніку ня-

простага лёсу гэтага народа, раскіданага па свеце), інтэнсіўна прымнажалі ўласны капітал, што, у рэшце рэшт, у розных формах садзейнічаў умацаванню тагачаснай Беларускай дзяржавы.

У першы ж год Полацка-Інфлянцкай вайны земскі падскарбі Княства ды паны-рада адчулі неймаверны ціск з боку польскай шляхты, якая, убачыўшы, што Беларускае гаспадарства апынулася ў цяжкіх абставінах, пачала праводзіць у жыццё свае даўнія задумы па авалоданні ім.

Узамен за вайсковую дапамогу, у якой Вялікае Княства Літоўскае мела пільную патрэбу, польскія паны настойвалі на інкарпарацыі, гэта значыць поўным уваходжанні Беларускай дзяржавы ў склад Кароны. Урад Вялікага Княства апынуўся амаль у бязвыхадным становішчы: з усходу напіралі маскоўскія войскі, ад якіх не было паратунку, з захаду нібыта ішла дапамога ад палякаў, але яна пагражала ператварыцца ў вечнае ярмо.

13 верасня 1562 года пад Віцебскам адбыўся з'езд рыцарства Вялікага Княства, які большасцю галасоў прыняў рашэнне — падпісаць вайскова-палітычную унію з палякамі на любых умовах, абы толькі адбіцца ад навалы з усходу. Галоўныя дыскусіі аб прынцыпах дзяржаўна-палітычнай уніі паміж Каронаю і Вялікім Княствам разгарэліся пазней, на вальным сойме ў Варшаве (1563—1564), дзе дэлегацыю ад ВКЛ узначальваў Мікалай Радзівіл Чорны — зацяты праціўнік усялякага пагаднення з палякамі.

Паны-рада Вялікага Княства замест інкарпарацыі ў склад Польшчы прапаноўвалі абмежавацца адно толькі вайскова-палітычным хаўрусам для сумеснага змагання з агульнымі ворагамі. Польскія паны не згаджаліся. Яны патрабавалі поўнага падпарадкавання Княства Кароне.

Палякі, відаць, дамагаліся б свайго, каб невядомая перамога Мікалая Радзівіла Рудога над маскоўскімі войскамі 26 студзеня 1564 года каля Улы. Першая параза Масквы ў Полацка-Інфлянцкай вайне, у выніку якой быў разбіты 24-тысячны корпус, натхніла насельнікаў Княства, абнадзеіла ўрад у магчымасці самастойна адолець ворага. Дзякуючы перамозе пад Улаю, перамовы аб уніі з палякамі перапыніліся.

Пасля падзей 1564 года Мікалай Радзівіл Чорны стаў у адкрытую апазіцыю да палякаў і Жыгімонта II Аўгуста, які гэтаксама не быў супраць інкарпарацыі Вялікага Княства ў склад Польшчы. Астафей Валовіч падтрымаў віленскага ваяводу ў барацьбе за незалежнасць Айчыны, хоць у далейшым і не адмовіўся ад кампрамісаў з палякамі і каралём, асабліва калі ад гэтага Княства мела нейкую карысць. Так, 9 сакавіка 1565 года земскі падскарбі на Сойме ў Петркове, куды ён прыехаў разам з Янам Шымковічам, змог атрымаць ад палякаў, пры спрыянні Жыгімонта, 500 000 злотых на ўтрыманне войска на ўсходніх рубяжах.

Валовіч, як найбольш гнуткі палітык і памяркоўны чалавек, і ў далейшым з'яўляўся ў нейкай ступені галоўным сувязным звяном паміж урадам Вялікага Княства і Жыгімонтам II Аўгустам. Невыпадкова на Менскім з'ездзе 1565 года паны-рада вырашылі накіраваць менавіта яго і Рыгора Хадкевіча да караля і вялікага князя, каб выказаць гаспадару ўсе патрэбы Княства. Звесткі пра гэты візіт захаваліся ў лісце Жыгімонта II Аўгуста, напісаным у траўні 1565 года і адрасаваным ураду Вялікага Княства. «Ваша миласть,— гаварылася ў ім,— зъехавшиеся до Менска, а сполное намовы вашое у великоважных справах наших государских и земских отправили. И послали до нас братю свою — пана виленского, гетмана дворного, старосту городенского, пана Григория Александровича Ходъкевича а маршалка дворного, подскарбего земского, писара нашого, державцу могилевского пана Остафья Воловича, поручивши им вси тые потребы наши и земские до нас господара донести и преложити...»

Астафей Валовіч у час асабістай сустрэчы з Жыгімонтам II Аўгустам пераканаў яго ў неабходнасці наведаць Княства і прыняць неабходныя меры для абароны краіны.

## VIII

Знаходзячыся на пасадзе земскага падскарбія, Астафей Валовіч спрычыніўся і да такога адказнага мерапрыемства, як судова-адміністрацыйная рэформа, заканадаўчае афармленне якой адбылося ў 1564 годзе на Галоўным з'ездзе Княства ў Бельску.

У адпаведнасці з планам рэформы ўсе ваяводствы Вялікага Княства Літоўскага: Віленскае, Падляшскае, Берасцейскае, Менскае, Мсціслаўскае, Браслаўска-Падольскае і Жамойцкае — былі падзелены на 30 судовых паветаў[1]. У кожным з іх на дэмакратычнай выбарчай аснове ўтвараўся падкаморскі суд. Галоўныя мясцовыя адміністратары — дзяржаўцы, намеснікі і старосты, што дагэтуль з'яўляліся адначасна паўнаўладнымі гаспадарамі і фактычнымі кіраўнікамі судоў, істотна абмяжоўваліся ў правах.

Рэформа 1564 года сталася надзвычай прагрэсіўнай з'явай: яна прадугледжвала раздзяленне судовай і адміністрацыйна-выканаўчай улад, што садзейнічала ўдасканаленню грамадскіх узаемаадносін, усталяванню прынцыпаў справядлівасці — вядома, у іх тагачасным разуменні. У Бельскім прывілеі ад 1 ліпеня 1564 года гэтак фармулявалася сутнасць рэформы: «А иж ку ровной а однакой справедливости всем была того потреба, абы стародавный обычай владности суду воевод, старост и иных врадов старых уступил новым порадком в сем часе учиненых, постановеных и в Статуте описаных». У тэксце Бельскага прывілея, які рэгламентаваў судова-адміністрацыйную рэформу, імя земскага падскарбія Астафея Валовіча згадваецца двойчы, што пацвярджае яго несумненны ўдзел у гэтай найбуйнейшай падзеі ўнутрыпалітычнага жыцця Вялікага Княства другой паловы XVI стагоддзя.

Судовая рэформа 1564 года запатрабавала адпаведных змен у агульнагаспадарскім прававым кодэксе — Статуце Вялікага Княства Літоўскага. Астафей Валовіч як адзін з вышэйшых дзяржаўных ураддоўцаў аказваў значны ўплыў на падрыхтоўку другога Статута. Ён выступіў з уласнымі прапановамі па канкрэтных артыкулах у час Сойму, дыскутаваў з апанентамі, прысутнічаў пры падпісанні Жыгімонтам II Аўгустам важных прывілеяў 1563, 1564, 1565 і 1566 гадоў, у якіх прадугледжваліся істотныя змены і дапаўненні ў дзеючы агульнадзяржаўны Статут. Земскі падскарбі шчыльна супрацоўнічаў з вядомымі юрыстамі, выдатнымі знаўцамі рымскага права і заканадаўства заходнееўрапейскіх краін — Аўгусцінам Ротундусам і Пятром Раізіем.

---

[1] Адміністрацыйнае дзяленне на паветы існавала раней.

Праца над новым Статутам, распачатая яшчэ ў 1551 годзе са стварэння статутавай камісіі ў складзе пяці праваслаўных і пяці католікаў, завяршылася яго зацвярджэннем 1 сакавіка 1566-га на Віленскім Вальным Сойме.

Выпрацоўка статутавых артыкулаў не з'яўлялася, аднак, справаю некалькіх юрыстаў. Кожны артыкул — гэта, як правіла, вынік ідэйнай барацьбы розных палітычных партый і канфесійных груповак, плён творчай думкі тагачасных інтэлектуалаў. Новы Статут 1566 года складаўся з 14 раздзелаў, 367 артыкулаў, што на 84 артыкулы болей, чым у папярэднім выданні. Першыя тры раздзелы Статута рэгулявалі дзяржаўнае, вайсковае і адміністрацыйнае жыццё; чацвёрты — судовы лад і працэсуальны парадак; пяты і шосты ўключалі нормы сямейнага і апякунскага права; сёмы, восьмы і дзявяты — гэта грамадзянскі кодэкс; дзясяты — лясное і паляўнічае права; нарэшце, чатыры апошніх раздзелы — крымінальны кодэкс тых часоў.

У параўнанні з ранейшым выданнем, многія артыкулы Статута 1566 года былі перапрацаваны, пашыраны альбо дарэшты зменены. Шмат навацый утрымліваў чацвёрты раздзел, артыкулы якога рэгулявалі дзейнасць нядаўна створаных падкаморскіх судоў.

Астафей Валовіч дамогся ўключэння ў новы Статут артыкула, які гарантаваў выключнае права грамадзян краіны на атрыманне зямель і дзяржаўных пасад у Княстве. Манарху катэгарычна забаранялася раздаваць землі і ўрады іншаземцам. Гэтыя палажэнні знайшлі адлюстраванне ў чацвёртым артыкуле трэцяга раздзела. Дарэчы, упершыню падобная норма была ўведзена па дамаганні беларускай шляхты вялікім князем Казімірам Ягайлавічам у Прывілеі 1447 года. Тады яна мела наступную фармулёўку: «Абецуем и шлюбуем, иж в землях тых наших Великого Князьства, земль, городов, мест, а любо которых-колвек дедичьств у володеніе и в дерьжаніе, а любо некоторыи вряды, а любо чьти, не имаем дать в честь никоего чюжоземца, але только там родичом тых земель наших предреченых...»

Астафей Валовіч, як прадстаўнік шляхецкага саслоўя і вышэйшы ўрадовец, быў надзвычай зацікаўлены ва ўмацаванні ўлады на месцах. Менавіта таму Статут 1566 года пацвердзіў права вялікакняскай шляхты на правядзенне павятовых соймікаў (раздзел 3, артыкул 5), што спрыяла развіццю шляхецкай дэмакратыі.

Наогул, маршалак дворны і земскі падскарбій пры канчатковай дапрацоўцы і зацвярджэнні другога Статута зрабіў вельмі шмат, асабліва калі ўлічыць, што ён акурат ля гэтага часу, пасля смерці ў канцы траўня 1565 года Мікалая Радзівіла Чорнага, нейкі тэрмін займаў пасаду віленскага ваяводы, без згоды і адабрэння якога ў Вялікім Княстве не прымаўся аніводзін агульнадзяржаўны акт. Голас Астафея Валовіча меў вырашальнае значэнне.

## IX

Увесну 1566 года ва ўрадзе Вялікага Княства Літоўскага адкрылася новая, вельмі прэстыжная пасада падканцлера. Прычынай яе ўвядзення сталася значнае павелічэнне аб'ёму працы Дзяржаўнай канцылярыі, з якой канцлер адзін ужо не спраўляўся.

Пасаду падканцлера ў пачатку сакавіка заняў Астафей Валовіч. З гэтага моманту ён займаўся пераважна палітычнай чыннасцю. 4 красавіка Валовіч зрабіў сваю апошнюю справаздачу, як земскі падскарбі.

На пасадзе падканцлера Астафей Валовіч атрымаў нарэшце магчымасць актыўна ўдзельнічаць у размеркаванні найважнейшых дзяржаўных пасад паміж саноўнікамі Княства. Ужо 11 сакавіка 1566 года паводле яго рэкамендацыі Жыгімонт II Аўгуст прызначыў на пасаду земскага падскарбія пісара Мікалая Нарушэвіча, а на пасаду земскага маршалка — пана Яна Хадкевіча. Пад прывілеямі, што прадугледжвалі гэтыя значныя кадравыя перастаноўкі, стаяў подпіс акурат Астафея Валовіча.

Мяркуючы паводле старажытных крыніц, Валовіч, узышоўшы на пасаду падканцлера, актывізаваў знешнепалітычную дзейнасць Вялікага Княства Літоўскага. Толькі ў перыяд з 1566 па 1569 год ён падрыхтаваў два вялікія пасольствы ў Маскву. Першае — на чале з Рыгорам Хадкевічам, Юрыем Тышкевічам ды пісарам Міхаілам Гарабурдам (7 траўня — 15 верасня 1566 года) і другое — на чале з Уланам Букрабам, што праходзіла з 27 кастрычніка да 8 снежня 1568 года. Апрача таго, Астафей Валовіч у 1568 годзе прыняў у Вільні маскоўскага пасла Фёдара Умнага-Колычава. З ім ён правёў адказныя

перамовы на прадмет падпісання замірэння ВКЛ з Маскоўскім княствам і вяртанне Беларускаму гаспадарству зямель, заваяваных Масковіяй у Інфлянтах, Полацкім і Віцебскім ваяводствах.

У першыя гады падканцлерства Астафею Валовічу гэтаксама давялося бараніць ад нападак маскоўскіх паслоў і Івана IV князя Андрэя Курбскага, які яшчэ ў красавіку 1563 года ўцёк з Маскоўскай дзяржавы ў Вялікае Княства Літоўскае.

Наогул гісторыя стасункаў падканцлера з князем Андрэем Курбскім надта заблытаная. Па-першае, яны нібыта знаходзіліся ў нейкім сваяцтве праз сваіх жонак. Па-другое, акурат Астафей Валовіч разам з Радзівілам Чорным, яшчэ да ад'езду Курбскага з Масковіі, у лістах да яго настойліва пераконваў князя перайсці на службу да Жыгімонта. Са свайго боку Валовіч абяцаў усебаковую дапамогу і спрыянне.

Сапраўды, у ліпені 1568 года падканцлер дапамог Курбскаму дастаць прывілей на Упіцкую воласць. Аднак у 1579-м Валовіч пасварыўся з Курбскім, пасля чаго апошні адчуваў сябе ў Вялікім Княстве Літоўскім не надта ўтульна, хоць і займаўся не столькі палітыкай, колькі асветніцтвам, перакладаючы на царкоўнаславянскую мову творы грэчаскіх айцоў царквы. Цалкам мажліва, аднак, што прычынай канфлікту між імі сталі канфесійныя разыходжанні.

Важнейшыя пытанні грамадска-палітычнага жыцця ў Вялікім Княстве Літоўскім вырашаліся, як правіла, на вальных соймах, якія праводзіліся амаль штогод і доўжыліся па некалькі месяцаў. Падканцлер звычайна мусіў не толькі прысутнічаць на іх, але і браць чынны ўдзел у працы кожнага з іх, выступаючы падчас шматлікіх дыскусій і рыхтуючы разнастайныя рашэнні і пастановы.

Адной з галоўных дзеючых асоб Астафей Валовіч быў на Берасцейскім вальным сойме, што праходзіў у красавіку — жніўні 1566 года і на якім прысутнічала вялікая дэлегацыя з Польшчы. Паколькі Жыгімонт II Аўгуст не змог прыехаць у Берасце, то менавіта падканцлер ВКЛ як давераная асоба манарха выступіў з прапановамі аб уніі і чарговым выпраўленні, у сувязі з гэтым, асобных артыкулаў нядаўна зацверджанага Статута. На жаль, падрабязныя апісанні дыскусій адсутнічаюць, таму высветліць погляды Валовіча ў той момант на унію з палякамі даволі цяжка. Вядомы, аднак, вынікі сойма: урад

і дэпутаты Вялікага Княства Літоўскага саступілі палякам і адмянілі найважнейшы дзявяты артыкул трэцяга раздзела Статута, які забараняў польскай шляхце атрымліваць пасады і набываць землі на ўсіх абшарах Беларускага гаспадарства.

На сойме ў Берасце падканцлер ад імя вялікага князя і караля ў жніўні 1566 года зачытаў «Адказы на просьбы шляхты Жамойцкай зямлі». Гэтыя «Адказы...» Астафея Валовіча складаліся з шасці артыкулаў і прадугледжвалі дзейнасць Статута Вялікага Княства на ўсёй тэрыторыі Жамойці, ранейшы парадак прызначэння там ваявод і старост, а гэтаксама захаванне адміністрацыйнай мяжы па рацэ Невяжы.

Напэўна, Валовічу належала аўтарства і «Адказаў на просьбы шляхты Віцебскага павета», абвешчаных на тым жа сойме 27 жніўня 1566 года. Аднак, у адрозненне ад папярэдніх «Адказаў...», пад гэтым дакументам няма падканцлерскага подпісу.

У час Берасцейскага сойма Астафей Валовіч прыхільна паставіўся да ідэі прызначэння вышэйшым адміністратарам Інфлянтаў Яна Хадкевіча, жамойцкага старосту, земскага маршалка, цельшаўскага і плоцельскага дзяржаўцу, замест герцага Кетлера. 2 жніўня 1566 года за подпісам падканцлера і паноў-рады з'явіўся юрыдычны прывілей аб прызначэнні Яна Хадкевіча гетманам Інфлянтаў і наданні яму неабмежаваных паўнамоцтваў на падуладных землях.

Гарадзенскі вальны сойм (канец 1566 — 6 студзеня 1567), як і папярэдні Берасцейскі, гэтаксама стаўся знамянальным у палітычным жыцці Вялікага Княства. На ім была зацверджана Канстытуцыя, падрыхтаваная падканцлерам Астафеем Валовічам, якая ўключала ажно 38 пунктаў, што ўдакладнялі шэраг момантаў дзяржаўнай палітыкі ўрада. У Канстытуцыю ўвайшлі надзвычай важныя палажэнні: аб земскай абароне, новым парадку склікання і правядзення соймікаў, абавязковай прысутнасці манарха ў войску ў час паходу, тэрміновай раздачы вакантных урадаў, службе ў вялікакняскім войску насельнікаў з Падляшша, павелічэнні колькасці драбаў, запрашэнні палякаў да хаўрусу супраць Маскоўскай дзяржавы. Асабліваe месца ў Канстытуцыі займаў артыкул аб пакаранні шляхты, якая ў тэрмін не ўносіла падаткаў у дзяржаўную казну. На думку Астафея Валовіча, выкананне

патрабаванняў соймавай Канстытуцыі павінна было істотна ўзмацніць эканамічны і вайсковы патэнцыял Беларускага гаспадарства.

Аднак, не зважаючы на жорсткія меры, абвешчаныя Гарадзенскім вальным соймам, сабраць вызначаную суму грошай на абарону Бацькаўшчыны ад чарговага наступу войскаў Маскоўскага княства не ўдалося. Вялікі князь і кароль мусіў браць пазыку ў заможнай шляхты пад заклад дзяржаўнай маёмасці. Вышэйшыя ўрадоўцы Вялікага Княства, у тым ліку і Астафей Валовіч, гэтаксама ахвяравалі значнай часткай сваіх багаццяў. У 1567 годзе падканцлер унёс у гаспадарскую скарбонку 13 000 злотых (прыкладна 5200 коп грошай), якія ён узяў у пана Яна Тарла, заклаўшы яму пад 20 працэнтаў многія свае землі ды маёнткі. Апроч таго, на Галоўным з'ездзе Вялікага Княства ў Лебедзеве, які быў скліканы ў 1567 годзе пасля няўдалага паходу супраць Масковіі, падканцлер і яго браты, родны — Рыгор Багданавіч і стрыечны — Рыгор Грынькавіч, выдалі ротмістру Юрыю Тышкевічу асігнацыю на 600 коп грошай. Услед за Валовічам і іншыя паны гэтаксама выпісалі вайскоўцам асігноўкі.

Асабістыя выдаткі падканцлера з'яўляліся ў нейкай ступені падзякай манарху за ранейшыя ўзнагароды — Кобрынскае староства і права збіраць мыта на ўсіх абшарах Княства, якое Жыгімонт II Аўгуст перадаў Астафею Валовічу і Яну Хадкевічу Прывілеем ад 1 верасня 1566 года. Хоць гэты Прывілей ім дастаўся недарма, а каштаваў каля 13 000 коп грошай, Валовіч і Хадкевіч мелі ад яго велізарныя прыбыткі.

У першыя гады падканцлерства, як, дарэчы, і ў папярэднія часы, Астафей Валовіч карыстаўся даверам караля і вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста. У 1566 годзе па загадзе манарха ён расследаваў вельмі адказную крымінальную справу, што атрымала шырокую абвестку: аб забойстве дзіцяці, у якім падазраваліся беларускія іудзеі. Валовіч сумленна выканаў ускладзены на яго абавязак і высветліў, што іўдзеі невінаватыя. Аб гэтых выніках Жыгімонт II Аўгуст паведаміў у Грамаце да яўрэяў ад 20 траўня 1566 года.

За стараннасць і сумленнае выкананне службовых абавязкаў Астафей Валовіч шчодра ўзнагароджваўся вялікім князем. Характар узаемаадносін між падканцлерам і Жыгімонтам II Аўгустам у ней-

кай меры перадае змест Прывілея ад 27 снежня 1566 года, які даваў Валовічу выключнае права на набыццё маёнткаў Крошын і Засулле, што належалі беларускім татарам. Вось некалькі радкоў з яго: «А так просил нас подканцлерый Великого Князъства Литовского и маршалок дворный, староста берестейский и кобринский, пан Остафей Волович, обыхмо тое именье Крошинское, а особливо именье Засулье, прилеглое границами именью его Станкову... Ино мы, бачечы, же в том нам государу и речи посполитой ни которое шкоды не будет, кгды ж служба земская с тых обеюх имений не зменшится, звлашча на то помнечы, иж он (Валовіч.— *І. С.*) от неприятеля нашего великого князя Московского немалую шкоду и знищенье поднял, так иж и именя его некоторые пограничные по взятю Полоцка и Озерищ в сторону неприятельскую забраныи, а за то достаточное нагорожене ему от нас, госпадара не сталося, про то дозволили есмо его милости и сим листом нышым дозволяем люди и земли того именья Крошинского... на вечность купити. Тогды то все его милости, сам, жонка, дети и потомки и по ним вси кровные близкие его, держати и вживати мают на вечность, будучи волни тым шафовати, яко своею властъностью. А мы, господар, права нашого на тое имене Крошынское ни на кого иного кроме его милости вмевати и позволяти, и куповати того именя Крошына, так теж и Засуля никому мимо пана подъканцлерего не маем». Варта нагадаць, што маёнткі Крошын, Засулле, а таксама Стайкі Астафей Валовіч набыў у 1567 годзе.

## X

Вышэйшыя пасады ва ўрадзе Вялікага Княства, якія займаў Астафей Валовіч, вымагалі ад яго пэўнасці пазіцый і акрэсленасці поглядаў падчас вострых канфесійна-тэалагічных дыскусій, што ў другой палове XVI стагоддзя набылі надзвычайны размах. У гэты перыяд, у выніку збегу розных гістарычных акалічнасцей, на Беларусі ўзмацнілася супрацьстаянне паміж пяццю важнейшымі рэлігійнымі плынямі — каталіцтвам, праваслаўем, пратэстанцтвам, іудаізмам ды

мусульманствам. Апроч таго, не было адзінства ў межах пратэстанцкага руху: агульнай мовы не знаходзілі лютэране і кальвіністы, пашыраліся антытрынітарныя, або арыянскія, погляды, прыхільнікам якіх быў і магутны беларускі князь Мікалай Радзівіл Чорны. Сярод антытрынітарыяў, з прычыны розных падыходаў да разумення сутнасці дзяржаўнай улады і арганізацыі грамадскага жыцця, хутка адбыўся раскол. Многія арыянскія дзеячы — Пётр з Гоняда, Якуб з Калінаўкі, Марцін Чаховіч, Павел з Візны — патрабавалі неадкладнага знішчэння ўсіх дзяржаўных структур і органаў улады, лічачы, што іх існаванне з'яўляецца парушэннем запаветаў Хрыста. Супроць анархістаў, як іх трапна назвалі сучаснікі, выступілі вядомыя тады тэолагі і пісьменнікі — Сымон Будны, Станіслаў Кашуцкі, Андрэй Волан, Станіслаў Рудзінскі ды іншыя.

Вядома, у гэткіх варунках падканцлер Вялікага Княства Літоўскага не мог заставацца раўнадушным да праблем, якія раздзіралі краіну знутры. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што акурат у другой палове XVI стагоддзя істотна павялічыўся інтарэс Астафея Валовіча да рэлігійных дактрын, іх тэалагічных і этычных аспектаў. Ён звярнуўся да вывучэння Бібліі, пачынаў уважліва аналізаваць творы айцоў царквы, паспрабаваў самастойна разабрацца ў сутнасці розных рэлігійных вучэнняў.

У 1560 годзе Астафей Валовіч прасіў, праз вялікакняскага пасла Андрэя Станіслававіча, маскоўскага дзяка Івана Віскаватага даслаць яму твор Яна Златавуснага «Евангельскія размовы», «Жыціе Антонія Пячэрскага» ды славянскія спісы Бібліі. Усе факты сведчаць за тое, што маршалак дворны і падканцлер належаў да пратэстанцкага веравызнання, вызначаючы напачатку лютэранства, а пазней — арыянства. Так, у яго доме пэўны час жыў лютэранін Ежы Заблоцкі, пад уплывам якога Валовіч накіраваў сваіх пляменнікаў па навуку ў Каралевецкі ўніверсітэт — аплот лютэранства ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Каля 1561 года Астафей Валовіч ліставаўся з прускім герцагам Альбрэхтам і неаднаразова сустракаўся з вядомым лютэранскім дзеячам Пятром Вергірыа, які ў кастрычніку 1566 года надрукаваў ліст папскага нунцыя ў Польшчы Алоіза Ліпамана і палемічны адказ на яго віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага.

У 1559-м Астафей Валовіч ахвяраваў уласныя сродкі на выданне твора «Аб праўдзівым прыняцці Цела і Крыві Ісуса Хрыста», што належаў пяру пратэстанцкага аўтара Генрыха Булінгера (пераклаў Станіслаў Мурмеліус). У знак удзячнасці выдаўцы на першых старонках кнігі змясцілі прысвячэнне-панегірык фундатару. Астафей Валовіч апекаваўся і над Сымонам Будным, прынамсі, выдаткаваў грошы на выданне яго арыгінальнага тэалагічнага трактата «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» (Нясвіж, 1562).

Недзе пасля 1562 года Астафей Валовіч, мусіць, услед за Мікалаем Радзівілам Чорным, схіліўся да арыянства. Гэта пацвярджаецца шэрагам фактаў. Найперш, у «Тастаменце», напісаным Радзівілам Чорным 27 траўня 1565 года за дзень да смерці, Астафей Валовіч названы апекуном яго сыноў — Мікалая, Юрыя, Альбрэхта і Станіслава. Калі б Валовіч не быў арыянінам, як і Радзівіл, то наўрад ці той стаў бы прызначаць яго апекуном над сваімі дзецьмі.

Неабвержным доказам прыналежнасці падканцлера да арыянскага веравызнання з'яўляецца і той факт, што ў заснаваным ім зборы прамаўляў нейкі час вядомы арыянін Якуб з Калінаўкі, аб чым паведамляў Сымон Будны ў творы «Аб свецкай уладзе». Астафей Валовіч, аднак, не прыняў радыкальных поглядаў арыянаў-анархістаў. Менавіта таму Якуб з Калінаўкі недзе каля 1567 года мусіў пакінуць маёнтак Валовіча. Прынамсі, у 1568-м ён як адзін з прысутных на арыянскім Сінодзе ў Іўі быў названы «колішнім міністрам Астафея Валовіча»

Гуманістычныя рэфармацыйныя ідэі вельмі моцна паўплывалі на духоўнае жыццё Астафея Валовіча. Прыналежнасць да пратэстанцкага веравызнання прадвызначала матывы многіх ягоных учынкаў, а ў нечым нават і скіраванасць грамадска-палітычнай дзейнасці. Аднак праз усё жыццё Валовіч заставаўся абаронцам талеранцыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, супрацоўнічаў з прадстаўнікамі розных рэлігійных кірункаў і плыняў. Ён падтрымліваў сталыя кантакты з вядомым праваслаўным пісьменнікам Арцёміем, які ў 1555 годзе ўцёк з Маскоўскага княства і доўгі час жыў у маёнтку князя Юрыя Слуцкага. Падканцлер звяртаўся да яго за тлумачэннямі асобных месцаў Бібліі, дасылаў яму пратэстанцкія творы Сымона Буднага. Збярогся

надзвычай цікавы ліст Арцёмія «да пана Астафея», у якім праваслаўны тэолаг крытыкаваў рэлігійную дактрыну пратэстантаў і заклікаў падканцлера схіліцца да праваслаўя. Але Астафей Валовіч, відаць, зрабіў канчатковы выбар, і заклік Арцёмія застаўся без адказу.

## XI

1569 год прынёс падканцлеру Астафею Валовічу, як і ўсяму беларускаму народу, новыя, нябачныя дагэтуль выпрабаванні і стаўся найбольш трагічным у айчыннай гісторыі другой паловы XVI стагоддзя. Галоўная прычына таму — наступ маскоўскіх войскаў на беларускія землі ды іх спусташэнне.

Ратуючы Айчыну ад пагібелі, вялікакняскі ўрад звярнуўся па дапамогу да палякаў. Але тыя, абяцаючы падтрымку ў вайне з Маскоўскім княствам, настойвалі на падпісанні уніі, прычым на ўмовах, якія прапануюць яны. Як і пяць год назад, палякі жадалі аслаблення і заняпаду Беларускага гаспадарства, імкнучыся ажыццявіць сваю даўнюю мару — падпарадкаваць Вялікае Княства Польскай Кароне. Дапамога з боку Польшчы магла каштаваць Беларусі волі і дзяржаўнасці. Вялікае Княства Літоўскае апынулася перад выбарам: альбо непазбежная страта незалежнасці пад націскам Масквы, альбо ганебная і цяжкая унія з Польшчай.

У складаных геапалітычных абставінах унія з Польскім Каралеўствам уяўлялася ўрадоўцам і шляхце Вялікага Княства Літоўскага меншай з дзвюх бед, бо пакідала нейкую надзею на выратаванне. Гэтая надзея грунтавалася найперш на гістарычным досведзе. Лёс усіх папярэдніх дамоўленасцей Княства з Каронаю, пачынаючы з часоў Ягайлы і Вітаўта, сведчыў акурат пра тое, што артыкулы падпісаных пагадненняў на практыцы можна было не выконваць, а пры больш спрыяльных умовах — і наогул разарваць унію.

10 студзеня 1569 года ў Любліне сабраўся агульны вальны сойм Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы для абмеркавання прынцыпаў дзяржаўна-палітычнай уніі. У склад вялікакняскай дэлегацыі,

апрача Астафея Валовіча, уваходзілі такія ўплывовыя асобы, як віленскі ваявода і канцлер Мікалай Радзівіл Руды, жамойцкі староста Ян Хадкевіч, падскарбі Мікалай Нарушэвіч.

Падчас Люблінскага сойму ва ўсёй паўнаце выявілася моц характару падканцлера Княства Астафея Валовіча, яго талент дзяржаўнага і палітычнага дзеяча, а гэтаксама сапраўдная мужнасць, глыбокая адданасць Айчыне і шчырае ўслугаванне свайму народу.

Па прыездзе ў Люблін Астафей Валовіч, перш чым павесці гутарку пра унію з палякамі, сумесна з раднымі панамі Княства некалькі разоў сустрэўся з Жыгімонтам II Аўгустам, вырашыў шэраг неадкладных унутрыгаспадарскіх праблем. Ён дамогся ад манарха зацвярджэння ў новай рэдакцыі паасобных артыкулаў Статута Вялікага Княства Літоўскага. Падпісанне каралём і вялікім князем Статута з прынцыповымі ўдакладненнямі мела надзвычай важнае значэнне перад абмеркаваннем пытання аб уніі. Гэта быў дадатковы козыр у руках Валовіча, што адразу заўважылі польскія сенатары. Таму, разглядаючы новы Статут Вялікага Княства Літоўскага на сваім пасяджэнні 22 студзеня 1569 года, яны адразу выступілі супраць многіх яго артыкулаў (III, 3, 6, 9), якія якраз баранілі незалежнасць Беларускага гаспадарства.

У той жа час пад пільным наглядам падканцлера Валовіча дапрацоўваўся найважнейшы дакумент, вынесены на абмеркаванне Люблінскаму сойму — «Праект уніі». Яго тэкст, у хуткім часе зачытаны на сойме, як нішто іншае дазваляе зразумець погляд Астафея Валовіча ды іншых прадстаўнікоў Беларускага гаспадарства на характар стасункаў паміж Княствам і Каронаю, разуменне імі прынцыпаў дзяржаўна-палітычнай уніі.

Падрыхтаваны ў вялікакняскай Канцылярыі пад пільным наглядам Астафея Валовіча «Праект уніі» ўключаў 15 артыкулаў і прадугледжваў даволі ўзважаныя і лагічныя ўмовы паяднання.

1) Польскае Каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае ва ўсе часы сумесным галасаваннем і аднолькавай колькасцю дэпутатаў выбіраюць аднаго агульнага гаспадара — караля і вялікага князя. Пры гэтым яны ва ўсім пазбягаюць таго, што магло б абразіць вышэйшую ўладу (маястат) ды гонар абедзвюх дзяржаў.

2) Элекцыя (абранне манарха) павінна праходзіць на сумежжы Кароны з Княствам, каб палякам і ліцвінам было аднолькава зручна прыязджаць туды для ўдзелу ў акце абрання. Той, хто падчас гэтай элекцыі будзе абвешчаны каралём, абіраецца і вялікім князем. Пасля элекцыі паслы з Вялікага Княства Літоўскага паедуць у Польшчу на каранацыю, а з Польшчы — у Вялікае Княства, каб узвесці гаспадара на вялікае княжанне, захоўваючы ўсе старадаўнія цырымоніі.

3) Каранацыя адбываецца ў Кракаве, а ўзвядзенне на вялікакняскі прастол — у Вільні. У час каранацыі гаспадар прысягае ў тым, што будзе зберагаць у Каралеўстве ўсе правы, вольнасці, ганаровыя званні і ўрады. Такую ж прысягу ён як вялікі князь прыносіць і ў Вільні пры ўзвядзенні яго на трон.

4) Клятвы, дадзеныя гаспадаром Польскаму Каралеўству і Вялікаму Княству Літоўскаму, замацоўваюцца паасобку пячаткаю Кароны і пячаткаю Княства.

5) Пасля каранацыі ў Польшчы гаспадар абавязаны на працягу трох бліжэйшых месяцаў прыехаць у Вільню для ўзыходжання на прастол Вялікага Княства Літоўскага. Да таго часу, пакуль кароль не наведаецца ў Вільню, не прынясе прысягі і не будзе ўзведзены на трон, ён не мае ўлады загадваць нешта гаспадарству.

6) Вялікае Княства і Польшча па ўзаемнай дамоўленасці будуць ажыццяўляць агульную абарону ад знешніх ворагаў.

7) Для вырашэння такіх пытанняў, як абранне караля і вялікага князя, абарона, пачатак вайны і заключэнне міру, выпраўленне пасольства ў чужыя краіны, памеры падаткаў, склікаюцца агульныя вальныя соймы, у час якіх усё сумесна разглядаюцца і прымаюцца ўзгодненыя рашэнні.

8) Агульныя вальныя соймы павінен склікаць кароль і вялікі князь, узгадняючы сваё рашэнне з урадамі дзвюх дзяржаў шляхам абвесткі граматамі. Перад кожным соймам, у адпаведнасці са Статутам, склікаюцца павятовыя соймікі для абрання дэпутатаў. Месца правядзення агульных соймаў чаргуецца: адзін раз у Польшчы, другі — у Вялікім Княстве Літоўскім. Усе соймавыя Канстытуцыі абавязкова замацоўваюцца пячаткаю Княства і Кароны, без чаго яны не маюць юрыдычнай моцы.

9) У Кароне і Княстве дазваляецца склікаць паасобныя соймы для вырашэння прыватных праблем кожнай з дзяржаваў.

10) У тым выпадку, калі кароль і вялікі князь не можа ці не жадае збіраць асобны вальны сойм, урадоўцы Княства і Кароны маюць права самастойна склікаць яго і абмяркоўваць на ім бягучыя справы, за выключэннем тых пытанняў, якія належаць кампетэнцыі агульнага сойма.

11) Ганаровыя званні і пасады, існуючыя у Вялікім Княстве, надалей ва ўсе часы павінны захоўвацца. Без страты значэння і гонару ў Княстве зберагаюцца ўрады маршалкаў, канцлераў, гетманаў і падскарбіяў.

12) Людзям польскага паходжання дазваляецца набываць нерухомую маёмасць у Вялікім Княстве і, наадварот, ураджэнцам Княства — у Польскім Каралеўстве. Аднак забараняецца атрымліваць любыя ганаровыя званні і пасады — духоўныя і свецкія (земскія, прыдворныя, судовыя). Яны ў межах Вялікага Княства не могуць нікому давацца, апроч грамадзянаў краіны.

13) Усялякая манета ў абедзвюх краінах павінна быць аднолькавай і мець роўную вагу. Для справядлівасці і лепшага парадку ў фінансах адкрыць манетныя двары ў Польшчы і ў Вялікім Княстве. Пры гэтым на манеце Княства павінен стаяць тытул вялікага князя, а не караля.

14) Межы паміж асобнымі землямі Вялікага Княства Літоўскага выпраўляюцца вялікакняскімі камісарамі. Агульныя межы між Каронаю і Княствам удакладняе галоўная камісія, створаная каралём і вялікім князем. Спрэчныя пытанні вырашаюцца праз суд.

15) Кароль і польскія паны перад падпісаннем уніі павінны даць клятву, што ніколі не будуць патрабаваць ад Вялікага Княства экзекуцыі, гэта значыць перадачы Польшчы каралеўскіх палацаў і зямель, якія знаходзяцца на абшарах Княства. Калі ж нейкі сойм запатрабуе ад Княства выканання экзекуцыі, ліцвіны маюць поўнае права адхіліць гэтае патрабаванне. У выпадку парушэння гэтага артыкула шляхам хітрасці ці падману Вялікае Княства Літоўскае вызваляе сябе ад абавязкаў, прынятых у сувязі з уніяй.

«Праект уніі», што прадугледжваў пераважна вайскова-палітычны хаўрус дзвюх дзяржаў пры захаванні іх роўнасці і свабод, быў

варожа сустрэты польскімі магнатамі і шляхтай. Яны прапанавалі ўласныя ўмовы уніі, дамагаючыся поўнай інкарпарацыі Беларускага гаспадарства ў склад Польшчы.

Літаральна вакол кожнага пункта «Праекта уніі» разгарэліся вострыя дыскусіі, падчас якіх Астафей Валовіч апантана бараніў уласную канцэпцыю аб'яднання дзяржаў. 21 студзеня 1569 года падканцлер і Ян Хадкевіч мелі працяглую размову з каралём. На другі дзень Астафей Валовіч, а з ім яшчэ некалькі прадстаўнікоў Вялікага Княства, зноўку сустракаўся з Жыгімонтам ІІ Аўгустам, але ўжо за зачыненымі дзвярыма. Напэўна, падканцлер шукаў шляхоў, каб схіліць манарха на бок Беларускага гаспадарства.

Некалькі тыдняў няспынных дыскусій, не зважаючы на рашучыя дзеянні Астафея Валовіча ды Яна Хадкевіча, на жаль, скончыліся безвынікова. У канцы лютага 1569 года беларуская дэлегацыя ў знак пратэсту пакінула Люблін. Да 1 сакавіка там засталося толькі некалькі чалавек, і сярод іх — падканцлер Княства.

Ад'езд прадстаўнікоў Вялікага Княства з сойма крануў палякаў за жывое. Абураныя няўдачай, яны пачалі патрабаваць ад караля неадкладнага пакарання ліцвінаў, з чым манарх мусіў пагадзіцца. 1 сакавіка 1569 года Жыгімонт ІІ Аўгуст падпісаў Універсал аб адарванні Валыні і Падляшша ад Вялікага Княства і далучэнні іх да Кароны. Захоп Польскім Каралеўствам багатых паўднёвых зямель — дарэчы, са згоды многіх украінскіх феадалаў — стаўся для Беларускай дзяржавы, і без таго аслабленай ў вайне з Масквой, ударам у самае сэрца.

У адказ на вераломны ўчынак палякаў беларускія радныя паны, у тым ліку і падканцлер Астафей Валовіч, паслалі ва ўсе паветы лісты, заклікаючы шляхту рыхтавацца да вайны з Каронаю.

Падканцлера надта абурала і тое, што яго маёнткі — Ламазы, Воін і Кадынец, якія знаходзіліся на Берасцейшчыне, на ўзмежжы з Падляшшам, палякі без усялякіх на тое падстаў аднеслі да Падляшша і аб'явілі ўласнасцю Кароны. Насамрэч гэтыя землі яшчэ з часоў Казіміра Ягайлавіча належалі Берасцейскаму староству. Валовіч набыў іх недзе ў 1565 годзе. У 1568-м Ламазы за ягоным хадайніцтвам нават атрымалі ўласны герб і магдэбургію. Цяпер жа палякі паставілі

Астафея Валовіча перад выбарам: альбо назаўсёды развітацца з уласнасцю, альбо прынесці прысягу на вернасць Кароне ды ў наступныя гады плаціць падатак з іх не ў вялікакняскую, а ў польскую казну.

9 сакавіка 1569-га, пасля таго як Кароне прысягнулі некалькі падляшскіх паноў, палякі звярнуліся да караля з патрабаваннем, каб ён прымусіў гэтаксама і Астафея Валовіча, як уладальніка паселішчаў, што знаходзіліся нібыта на Падляшшы, прынесці прысягу Польскаму Каралеўству. Асабліва шчыраваў пан Мікалай Сянецкі, холмскі ваявода, называючы падканцлера галоўным віноўнікам разарвання уніі.

Жыгімонт ІІ Аўгуст, параіўшыся з сенатарамі, усё-такі прыняў рашэнне вызваліць Астафея Валовіча ад прысягі. Аднак ён пагадзіўся з тым, што падканцлер павінен уносіць падаткі за карыстанне Ламазамі, Кадынцом і Воінам у казну Польскага Каралеўства. Кампраміснае рашэнне манарх абгрунтаваў існуючым у Польшчы звычаем, паводле якога шляхта, атрымліваючы новыя землі, не прыносіць каралю нейкай дадатковай прысягі.

Значная частка польскіх паслоў, аднак, адчуваючы сілу, не жадала адступаць ад свайго. Пасольскі маршалак Чарнкоўскі, звяртаючыся да караля, сцвярджаў: «Прыгадайце, ваша міласць, калі да каралеўства пераходзілі Пруская зямля і Мазавецкае княства, то ўсе афіцыйныя асобы — саноўнікі, дзяржаўцы, шляхта,— а таксама гарады прысягалі, хоць аніякага сумневу ў іх вернасці не існавала. А пан Астафей — галоўны віноўнік разарвання уніі. Ён частку паслоў выправіў адсюль, а тым, што па сваёй волі засталіся тут, пагражае. І гэтая агідная асоба не хоча прысягаць! Божа барані! Ды і хто ж яго ведае, куды ён будзе ўносіць падаткі — у княскую ці ў каралеўскую скарбонку?! Нельга нам адступаць ад свайго рашэння, бо гэта абразіць тых, хто ўжо прынёс прысягу».

Ваяўнічы пан Сянецкі паўтараў услед за Чарнкоўскім: «Сапраўды, нядобры быў бы прыклад, калі б толькі за падазрэнне належала апраўдвацца. Але тут іншы выпадак: на працягу паўтараста гадоў нашы продкі пераконваліся, што ліцвіны не жадаюць уніі з намі. Мы зараз гэта цудоўна бачым. Асабліва супрацівіцца пан Астафей — відавочны вораг Каралеўства. І калі ён не прынясе прысягі, то ад гэтага будзе вялікая шкода».

Ад імя польскіх паслоў Рафаіл Ляшчынскі, радзееўскі староста, таксама папярэджваў караля і сенатараў, каб яны не саступалі падканцлеру. Усяляк абражаючы Астафея Валовіча, ён указваў, што падканцлер мае вялікі аўтарытэт сярод шляхты Вялікага Княства Літоўскага. «Калі пан Астафей не прысягне,— гаварыў Ляшчынскі,— дык і іншыя не прыйдуць сюды. А калі ён дасць клятву, то знікне надоба пасылаць за астатнімі: усе яны будуць тут, бо глядзяць і раўняюцца на яго. Тады і Падляшша лягчэй адваюем, бо ўся Літва пойдзе за ім».

Пасля палымянай прамовы Рафаіла Ляшчынскага многія польскія паны, якія яшчэ вагаліся, пагадзіліся з тым, што Астафей Валовіч сапраўды павінен прынесці прысягу на вернасць Кароне. Аб гэтым сведчыць прамова пана Асалінскага, які гэтак падсумаваў дыскусію: «Міласцівыя панове! Я бачу слушнасць аргументаў паслоў за тое, каб Астафей даваў клятву. Паслы, па-першае, правільна ўказваюць на прыклад Прускага і Мазавецкага княстваў, насельнікі якіх прысягалі наогул усе. Па-другое, яны звяртаюць увагу на вінаватасць Астафея ў разарванні уніі. Па гэтых прычынах аніяк не дапушчальна, каб ён не прысягаў. Ён трымае аграмадныя польскія землі, і няўжо ён будзе ворагам Кароны? Калі да нас далучыліся і прынеслі прысягу тыя, што зусім не падазраваліся ў варожасці да нас, дык тым больш Астафей мусіць прысягаць, бо ён сапраўдны наш вораг. Усе мы выдатна ведаем: ён — зацяты праціўнік уніі. Таму мы павінны альбо абвергнуць паслоў паважнымі аргументамі, альбо пагадзіцца з імі. Я асабіста цалкам згодны з пасламі».

Урэшце польскія паслы і сенатары большасцю галасоў пастанавілі: прымусіць Астафея Валовіча прысягаць Кароне, а калі ён адмовіцца, то адабраць у яго маёнткі Ламазы, Кадынец і Воін.

10 сакавіка 1569 года падканцлера Вялікага Княства Літоўскага паклікалі на сумеснае пасяджэнне польскага сената і пасольскай палаты, каб аб'явіць яму канчатковае рашэнне. За некалькі хвілін да запрашэння Астафея Валовіча ў залу Жыгімонт II Аўгуст аддаў распараджэнне кароннаму канцлеру Дэмбінскаму, каб ён папярэдзіў усіх аб неабходнасці карэктных адносін да вялікакняскага падканцлера.

Зварот Дэмбінскага да паслоў вельмі шмат гаворыць пра асобу Астафея Валовіча. «Шаноўныя панове паслы! — звярнуўся канцлер Дэмбінскі да прысутных.— Пан Астафей прыйшоў сюды і знаходзіц-

ца зараз у пакоі яго міласці. Заклікаю вас улічваць, што ён чалавек важны і знакаміты. Ён, як бачыце, не збег адсюль, з Любліна, ад справы уніі, таму прашу: калі ён будзе пакліканы сюды, стаўцеся да яго з належнай павагай, прамаўляйце ветліва і добразычліва».

Пасля запрашэння Астафея Валовіча ў залу каронны канцлер паказаў прыклад, звярнуўшыся да падканцлера Княства з наступнымі словамі: «Мілы пане падканцлер Вялікага Княства Літоўскага! Яго каралеўская міласць па жаданні пасольскага кола і паноў-рады загадаў вам прыйсці сюды і выканаць свой абавязак. Паколькі вы трымаеце некалькі маёнткаў на Падляшшы — Ламазы, Кадынец і Воін,— то вам неабходна прынесці прысягу каралю і Каралеўству, як тое зрабілі ўладальнікі іншых маёнткаў на Падляшшы».

Разгублены і ашаломлены Астафей Валовіч моўчкі выслухаў маналог Дэмбінскага. Авалодаўшы сабою, ён заявіў свой пратэст супраць незаконных патрабаванняў палякаў, што непрыхавана чынілі гвалт над яго асобай і наносілі абразу ўсяму Вялікаму Княству Літоўскаму. «Найсвятлейшы і міласцівы гаспадар,— звярнуўся збянтэжаны Валовіч да Жыгімонта.— З маладых гадоў, праз усе часы, я служыў вашай міласці, і вы ніколі не памыляліся, давяраючы мне адказныя справы. Я заўжды чыніў так, як належыць вернападданаму вашай міласці. Вы, ваша міласць, добра ведаеце: я ўжо аднойчы прысягаў Княству. Як жа мне цяпер другі раз прысягаць Каралеўству?! Раней, чым вымушаць мяне да гэтай прысягі, зрабіце ласку, ваша міласць, і давядзіце, з якой прычыны тыя маёнткі належаць Кароне, а не Княству? Дагэтуль яны лічыліся ўласнасцю Княства, і я іх трымаў як землі, што прылягаюць да галоўнага Берасцейскага замка. Акрамя таго, я застаўся тут адзін і не маю права без іншых, сваёй воляй, штосьці перадаваць Каралеўству. Спадзяюся, ваша міласць як хрысціянскі гаспадар не прымусіць мяне да таго, што супрацiўна майму сумленню».

Выслухаўшы ўсхваляваную прамову Астафея Валовіча, кароль загадаў яму выйсці і зноў пачаў раіцца з пасольскім колам і сенатарамі. Няўмольныя польскія паслы, аднак, па-ранейшаму патрабавалі клятвы ад вялікакняскага падканцлера. Яны пераконвалі караля, што Валовіч павінен прысягаць не як жыхар Вялікага Княства, а як уладальнік маёнткаў на Падляшшы, якія перайшлі пад уладу Кароны.

Урэшце, Астафея Валовіча другі раз запрасілі ў залу, дзе ён атрымаў мажлівасць паўторна звярнуцца да караля і нагадаў яму, што маёнткі, з-за якіх узнікла спрэчка, ён атрымаў за вялікую пазыку грошай манарху на вайну з паўднёвымі ворагамі. «Найсветлы і міласцівы кароль! — гаварыў падканцлер.— Заўсёды я сцярогся таго, каб не ўступіць з вамі ў канфлікт. І сюды я прыехаў не на суд, і таму тут мне не павінны выносіць аніякага прыгавору. Я сюды прыйшоў таму, што вы, ваша міласць, памазаннік Божы, загадалі мне. Выконваючы вашу волю, я як вернападданы і з'явіўся сюды. І што я тут чую пра мае землі?! Яны ж былі дадзены мне вашай міласцю за сумленную службу, за тое, што я даў адпор ворагам вашай каралеўскай міласці. Прашу вашу міласць, не ўступайце са мною ў суд, бо я не пакліканы сюды літарай закона. Прашу вашу каралеўскую міласць, памазанніка Божага, адпусціць мяне адсюль з добрымі думкамі».

Каб неяк зменшыць ціск з боку палякаў ды ўнікнуць прамога прымусу, Астафей Валовіч завёў размову пра даўнія добрыя адносіны паміж насельнікамі Княства і Кароны ды пачаў прасіць даць яму час на роздум. «Паколькі мне даводзіцца мець тут непамерна цяжкую справу, з якой я ніколі раней не сутыкаўся, то прашу,— звярнуўся падканцлер да палякаў,— даць мне нейкі час, каб усё узважыць. І не вымушайце мяне да той прысягі, якую, на маю думку, я не павінен чыніць».

Аднак на палякаў не дзейнічалі ні ўгаворы Астафея Валовіча, ні яго слёзныя просьбы. Каронны канцлер урэшце даў вялікакняскаму падканцлеру канчатковы і катэгарычны адказ: «Вы чулі, міласцівы пан, волю і загад яго каралеўскай міласці. Таму выконвайце тое, што вы абавязаны выконваць. Калі ж вы не прынясеце прысягі, як тое зрабілі іншыя, то яго каралеўская міласць неадкладна забярэ тыя вашыя дзяржавы да сваіх рук і распарадзіцца імі, як палічыць патрэбным». На гэтым падканцлерава размова з палякамі скончылася. На другі дзень, 11 сакавіка 1569 года, сенат на закрытым пасяджэнні настаяў на тым, каб кароль пазбавіў Валовіча Ламазоў, Кадынца і Воіна ды перадаў іх іншаму ўладальніку.

Астафей Валовіч даведаўся пра рашэнне сената, але ўзняўся вышэй уласных матэрыяльных інтарэсаў і, не зважаючы на страты, не прысягнуў Польскаму Каралеўству і не здрадзіў Вялікаму Княству Літоўскаму.

Гэты неардынарны ўчынак падканцлера абвяргае пануючы да сёння ў гістарычнай літаратуры пункт гледжання, нібыта беларуская шляхта ў эпоху сярэднявечча кіравалася ва ўсім толькі ўласнымі меркантыльнымі разлікамі. Паводзіны Астафея Валовіча на Люблінскім сойме 1569 года, у трагічны для Айчыны момант,— неабвержнае сведчанне патрыятызму нашых продкаў, глыбіні нацыянальнай ідэі ў іх сэрцах.

Як паказалі наступныя падзеі, Астафей Валовіч не змірыўся з глумленнямі над сабою і здзекамі з законаў Вялікага Княства Літоўскага. Страціўшы надзею суняць шал палякаў, падканцлер у другой палове сакавіка 1569 года зноў пачаў рассылаць паўсюль па Вільні і Падляшшы граматы за сваім подпісам, замацаваным малой вялікакняскай пячаткаю. Ён заклікаў шляхту не ехаць на сойм і пабурыць планы ворагаў са зброяй у руках. Калі палякі дачуліся пра дзейнасць Валовіча, яны звярнуліся да Жыгімонта з просьбаю, каб той пазбавіў падканцлера малой пячаткі ды пад пагрозаю пакарання забараніў яму распальваць сярод насельнікаў Княства нянавісць да іх. Але дарэмна. Валовіч прадаўжаў антыпольскую агітацыю ды заклікаў шляхту да шырокага паспалітага рушання супраць Кароны.

Аднак ці то гісторыя распарадзілася па-свойму, ці то Астафей Валовіч зразумеў бесперспектыўнасць ды гібельнасць на той момант вайны Княства з Польшчаю, але замест вайсковых дзеянняў у красавіку 1569 года ў Любліне ўзнавіліся перамовы аб уніі.

5 красавіка прадстаўнікоў Вялікага Княства Літоўскага — Астафея Валовіча, Яна Хадкевіча, Дамініка Паца, віцебскага кашталяна, Крыштофа Мікалая Радзівіла, крайчага, ды Мікалая Кішку, падчашага,— прымалі радныя паны Польскага Каралеўства. Патрабаванні і прапазіцыі беларускай шляхты зачытваў Ян Хадкевіч. Прадстаўнікі Вялікага Княства Літоўскага ў час гэтай сустрэчы патрабавалі вяртання незаконна забраных Валыні і Падляшша ды прасілі дазволу караля і вялікага князя на правядзенне павятовых соймікаў, каб мясцовая шляхта альбо абрала новых дэпутатаў на вальны сойм, альбо пацвердзіла паўнамоцтвы папярэдніх.

Жыгімонт II Аўгуст пайшоў насустрач беларускай дэлегацыі і дазволіў склікаць 10 траўня 1569 года павятовыя соймікі Княства з умовай, што абраныя на іх дэпутаты 29 траўня прыедуць у Люблін для канчатковага вырашэння пытання аб дзяржаўнай уніі.

Аднак пасля правядзення соймікаў вялікакняская дэлегацыя ў азначаны тэрмін не з'явілася на вальны сойм, спазніўшыся амаль на тыдзень. Яе затрымкаю зноўку скарысталіся палякі і дамагліся ад Жыгімонта яшчэ аднаго прывілея — на далучэнне да Кароны ўсёй Кіеўшчыны, у чым, здаецца, часткова была зацікаўлена і тамашняя шляхта. Аказаць дзейснае супраціўленне Польшчы, са зброяю ў руках адстаяць уласныя інтарэсы Вялікае Княства Літоўскае, знямоглае ў вайне з усходнім ворагам, на той момант было не ў стане. А вусныя пратэсты ды абурэнні не дзейнічалі.

Заключны раўнд перамоў, які працягваўся з 6 па 27 чэрвеня 1569 года, не зважаючы на супраціўленне Валовіча, Хадкевіча ды іншых паноў, скончыўся падпісаннем цяжкага і надзвычай нявыгаднага для Княства «Заключнага акта аб уніі».

Але ці мела Вялікае Княства Літоўскае ў той момант іншае выйсце? Усебаковы аналіз тагачасных палітычных і эканамічных акалічнасцей дазваляе зрабіць выснову, што без уніі 1569 года Беларускае гаспадарства наогул магло б знікнуць з карты Еўропы. Таму не маюць пад сабою аніякай глебы абвінавачванні тагачасных беларускіх палітычных дзеячаў у адступніцтве ды здрадзе інтарэсам Айчыны. Яны зрабілі ўсё, што было ў іх сілах. Адчай ды бязвыхаднасць беларускіх урадоўцаў, паставіўшых свае подпісы пад «Заключным актам аб уніі», засведчыў нават польскі храніст, якога ніяк нельга западозрыць у сімпатыях да Вялікага Княства Літоўскага. Вось што ён пісаў пра паводзіны і стан вялікакняскіх паслоў у тую трагічную хвіліну: «З вялікім рыданнем яны ўсталі. І нават сярод нас, палякаў, рэдка хто не плакаў альбо не быў да глыбіні душы ўзрушаны ад жаласці, бо многія з паноў-рады абліваліся слязьмі». Не менш драматычную сцэну назіраў той жа храніст 1 ліпеня 1569 года, калі паны Астафей Валовіч дрыжачым голасам чытаў тэкст прысягі, а іншыя, заходзячыся ад плачу, паўтаралі за ім.

Некаторых урадоўцаў Княства манарх задобрываў і перад падпісаннем уніі, і пасля. 29 чэрвеня 1569 года Астафей Валовіч гэтаксама атрымаў Прывілей на Трокскае кашталянства. Апрача таго, за падканцлерам, у рэшце рэшт, засталіся Ламазы, Кадынец і Воін, бо створаная па загадзе Жыгімонта камісія, якая ўдакладняла мяжу між

Берасцейшчынай і Падляшшам, уключыла іх у склад Берасцейскага староства.

Каралеўскія падачкі не суцешылі Астафея Валовіча. Ён, падобна ўсім астатнім насельнікам Княства, успрымаў унію як страшэнную напасць, ліхасць і катастрофу, паколькі Бацькаўшчына апынулася ў няволі, а ўсе набыткі папярэдніх пакаленняў ператварыліся ў пыл. «Заключны Акт аб уніі» акурат прадугледжваў зліццё дзвюх дзяржаў і двух народаў у адзінае цэлае, забараняў правядзенне ў Княстве асобных соймаў, ліквідаваў адметны вялікакняскі Статут, адмяняў звычайны парадак абрання вялікага князя, дазваляў палякам свабодна набываць землі і атрымліваць усякія пасады на абшарах Беларускага гаспадарства. Адным словам, «Заключны акт аб уніі» рыхтаваў глебу для поўнага ўваходжання Вялікага Княства Літоўскага ў склад Польскага Каралеўства, чаго на працягу некалькіх вякоў дабіваліся палякі.

Утвораная на Люблінскім сойме статутавая камісія, мэтай якой было прывядзенне вялікакняскага заканадаўства і ўсіх судовых ды адміністрацыйных структур у адпаведнасць з польскімі, а гэтаксама фарміраванне агульнага ўрада, сталася першым крокам на шляху ліквідацыі палітычнай незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага.

Але мары палякаў засталіся няздзейсненымі. Дзякуючы неймаверным намаганням і цвёрдай палітычнай лініі вышэйшых урадоўцаў Княства і, найперш, Астафея Валовіча як галоўнага праціўніка зліцця Беларускай дзяржавы з Польшчай, ліквідавання дзяржавы ў сапраўднасці не адбылося. Вялікае Княства Літоўскае яшчэ доўгі час захоўвала ўласную незалежнасць.

## XII

Пачынаючы з другой паловы 1569 і да 1572 года Астафей Валовіч, не губляючы надзеі на лепшае, зрабіў шэраг радыкальных крокаў, каб вывесці Вялікае Княства Літоўскае з таго тупіку, у якім яно апынулася пасля Люблінскай уніі.

Падканцлер дзейнічаў адначасова ў некалькіх кірунках. Вельмі хутка ён дамогся ад караля і польскага ўрада згоды на стварэнне

сумеснага беларуска-польскага войска для аховы ўсходніх граніц. Разам з тым, Валовіч падрыхтаваў і адправіў у Маскву пасольства Яна з Кратошына і Мікалая Тальвоша, паставіўшы перад імі найскладанейшую задачу: перахітрыць Івана IV і схіліць да міру, паабяцаўшы яму ці аднаму з ягоных нашчадкаў, трон Вялікага Княства Літоўскага.

Як і разлічваў вялікакняскі падканцлер, маскоўскі манарх, спакушаны шчодрымі абяцанкамі, пагадзіўся падпісаць трохгадовае перамір'е з Беларускім гаспадарствам. Хутка ў Вільню прыехалі царскія паслы — князь Іван Канбароў ды князь Рыгор Мяшчэрскі, якія прывезлі перамірныя граматы. Значная частка праблем Вялікага Княства, такім чынам, вырашалася.

Ліквідаваўшы на тры бліжэйшыя гады небяспеку з боку Маскоўскага княства, Астафей Валовіч прыступіў да здзяйснення даўніх планаў па ўмацаванні ВКЛ і разарванні ганебнай уніі з Польшчай. Буйнейшым крокам падканцлера на гэтым шляху сталася падрыхтоўка да ўвядзення на трон Вялікага Княства Літоўскага венгерскага каралевіча Януша, пляменніка Жыгімонта II Аўгуста. Праз абранне на вялікакняскі пасад гаспадара, поўнасцю незалежнага ад Польшчы, Астафей Валовіч разлічваў адным махам пакончыць з уніяй. Вядома, ён рызыкаваў. Многія ўрадоўцы Вялікага Княства, мабыць, баючыся адказнасці, выступілі супраць падканцлеравай задумы і сваімі падкопамі прымусілі яго пераехаць у Берасце і жыць там нейкі тэрмін.

Але фартуна адвярнулася ад Астафея Валовіча. Нечакана для ўсіх каралевіч Януш памёр, і план вялікакняскага падканцлера праваліўся.

У 1572 годзе, у час падрыхтоўкі да сойму, між Астафеем Валовічам і Жыгімонтам II Аўгустам паўстаў новы канфлікт. Нагодай паслужыў незаконны ўчынак караля і вялікага князя, які, абапіраючыся на «Заключны акт аб уніі», даслаў ва ўсе ваяводствы Княства граматы толькі за сваім подпісам і пячаткаю Польскага Каралеўства.

Астафей Валовіч заявіў манарху пратэст. Падканцлера на гэты раз падтрымалі троцкі ваявода Стэфан Збаражскі і канцлер Мікалай Радзівіл, а таксама вялікакняская шляхта. Невядома, якія вынікі мела б гэтае супрацьстаянне, каб Жыгімонт заўпарціўся і паспрабаваў дамагчыся свайго. Але кароль саступіў. Ён прапанаваў абмеркаваць яго ўчынак у час вальнага сойма і, каб неяк супакоіць вялікакняскіх урадоў-

цаў, пагадзіўся з ранейшай прапановай Астафея Валовіча перадаць пад юрысдыкцыю Беларускага гаспадарства Мазовію. Праўда, далучыць да Княства Мазовію падканцлеру з-за розных перашкод не ўдалося.

7 ліпеня 1572 года адышоў у нябыт кароль і вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст. Валовіч разам з іншымі членамі камісіі, створанай для пахавання гаспадара, адвёз яго ў Польшчу і праводзіў у апошні шлях.

Смерць Жыгімонта II Аўгуста паклала пачатак унутраным забурэнням у Польшчы і вострай барацьбе між рознымі палітычнымі партыямі, дзякуючы чаму Вялікае Княства Літоўскае атрымала рэальную магчымасць умацаваць незалежнасць і вярнуць страчанае ў 1569 годзе. Троцкі кашталян і падканцлер Астафей Валовіч не ўпусціў шанц і спаўна скарыстаў зручны момант. Дзеля дасягнення галоўнай мэты — узвышэння Бацькаўшчыны — ён першым чынам забяспечыў мір на ўсходніх межах. Падканцлер ў сярэдзіне ліпеня 1572 года тэрмінова накіраваў у Маскву ганца Стэфана Мацвеева з граматамі да Івана IV, у якіх пацвярджаліся ранейшыя абяцанні падтрымліваць ягоную кандыдатуру ў час элекцыі. Гэты дыпламатычны прыём удаўся; магчымы наступ маскоўскіх войскаў на беларускія землі ў адказны гістарычны момант быў прадухілены.

У перыяд падрыхтоўкі да канвакацыі Астафей Валовіч у лістападзе—снежні 1572 года сустрэўся ў Мсцібогаве з польскімі пасламі Пятром Збароўскім і Янам Таміцкім, якія прыехалі ў Вялікае Княства Літоўскае, каб канчаткова дамовіцца аб месцы і часе правядзення сумеснага канвакацыйнага вальнага сойма. Падканцлер у першую чаргу запатрабаваў ад палякаў вяртання Княству Валыні, Падляшша і Кіеўшчыны ды асудзіў беспадстаўныя прэтэнзіі Ганны Ягайлавічаўны на вялікакняскія землі, якія яна называла сваёй вотчынай пасля смерці мужа.

У час палемікі са Збароўскім і Таміцкім Астафей Валовіч асабліва настойваў на правядзенні канвакацыі на тэрыторыі Княства. У якасці абгрунтавання палякам было сказана літаральна наступнае: «Мы не можам пакінуць Літвы. Вы абаранілі вашы межы ад татараў, туркаў і немцаў, а нашы — голыя. На нашай шыі сядзяць узброеныя і непрымірымыя ворагі. Таму ў любы момант мы павінны быць гатовы сустрэць іх. Лепей загінуць за Айчыну, чым бачыць яе заваяванай».

7 снежня 1572 года Валовіч, Радзівіл і Хадкевіч усё ж такі далі згоду на правядзенне канвакацыйнага сойма ў Варшаве.

Галоўны з'езд Вялікага Княства Літоўскага, што праходзіў у канцы 1572-га ў Вільні, прызначыў падканцлера Астафея Валовіча і віцебскага ваяводу Паўла Паца кіраўнікамі беларускай дэлегацыі на Варшаўскі канвакацыйны сойм, куды яны неўзабаве і з'ехалі.

На сойме ў Варшаве Астафей Валовіч выступіў перад дэпутатамі і зачытаў тэкст «Інструкцыі», выпрацаванай на Галоўным з'ездзе. У «Інструкцыі» ўпершыню пасля Люблінскай уніі адкрыта сцвярджалася, што Вялікае Княства Літоўскае — гэта не частка Польшчы, а самастойная і незалежная дзяржава, грамадзяне якой маюць поўнае права выбіраць сабе ў гаспадары таго, каго пажадаюць. У сваёй прамове Астафей Валовіч, як і раней у Мсцібогаве, зноў запатрабаваў ад палякаў вярнуць Княству адабраныя ў яго землі і прапаноўваў склікаць элекцыйны сойм у Парчове. Пасля доўгіх дыскусій урэшце было вырашана выбары праводзіць 5 красавіка 1573 года ў вёсцы Камень паблізу Варшавы.

У біяграфіі Астафея Валовіча Варшаўскі канвакацыйны сойм займае паважнае месца яшчэ і таму, што на ім падканцлер спрычыніўся да падрыхтоўкі і прыняцця Рэлігійнай Канфедэрацыі (28 студзеня 1573 года), аб чым сведчыць яго подпіс пад гэтым дакументам.

Рэлігійная Канфедэрацыя 1573 года — гэта не толькі буйная перамога рэфармацыйнага руху на Беларусі і ў Польшчы, але і неацэнны набытак усяго тагачаснага грамадства, надзейная заслона ад рэлігійнага фанатызму і крывавых братазабойчых войнаў паміж рознымі канфесіямі. Унесеная пазней амаль без змен у Статут 1588 года — галоўны прававы кодэкс Вялікага Княства Літоўскага,— яна на працягу доўгага часу забяспечвала роўныя правы прадстаўнікоў усіх канфесій, на справе абараняла прынцып талеранцыі. «Паколькі ў Рэчы Паспалітай,— гаварылася ў ёй,— існуюць немалыя адрозненні ў адносінах да хрысціянскай веры, то мы, імкнучыся папярэдзіць розныя шкодныя сутыкненні між людзьмі на гэтай глебе, якія назіраюцца ў іншых каралеўствах, абяцаем, прысягаючы вераю і сумленнем за сябе і нашчадкаў нашых, што мы, розныя па веравызнанні, будзем заўжды захоўваць мір між сабою. Абяцаем не праліваць крыві ў цэрквах, не караць адсуджваннем маёмасці, а таксама — пазбаўлен-

нем гонару, вязеннем і выгнаннем; і ніякаму верхавенству, ні ўраду ў гэткіх учынках нічым не дапамагаць, а, наадварот, калі б хто хацеў яе праліваць — бараніць ад гэтага. Так абавязаны чыніць усе...»

Знаходзячыся ў Варшаве, Астафей Валовіч зрабіў першыя накіды наконт будучых прэтэндэнтаў на вялікакняскі пасад, заняць які жадалі некалькі чалавек: імператар Максімільян II, яго сын эрцгерцаг Эрнэст, шведскі кароль Іаан III, Ганна Ягайлавічаўна, маскоўскі манарх Іван IV і Генрых Анжуйскі — сын Кацярыны Медзічы, каралевы Францыі. За кожнага з прэтэндэнтаў на канвакацыйным сойме вялі агітацыю іх прыхільнікі.

Астафей Валовіч уважліва вывучаў вартасці ўсіх кандыдатаў і прымяраў, хто з іх прынясе найбольшую карысць гаспадарству. Некалькі разоў падканцлер сустракаўся з французскім паслом Баланы, які агітаваў беларускую і польскую шляхту за Генрыха Анжуйскага, абяцаючы ўсім малочныя рэкі. Хоць пры размовах з Астафеем Валовічам Баланы кляўся, што Генрых, узышоўшы на трон Вялікага Княства, без усялякіх пярэчанняў выканае ўсе ўмовы шляхты, падканцлер вагаўся. Яго як пратэстанта палохалі падзеі Варфаламееўскай ночы, калі французскія ўлады ўчынілі крывавую расправу над гугенотамі — тамтэйшымі прадстаўнікамі рэфармацыйнага руху.

Вясной 1573 года Астафей Валовіч у складзе вялікакняскай дэлегацыі знаходзіўся на элекцыйным сойме, дзе якраз і разгарэлася асноўная барацьба паміж прыхільнікамі розных кандыдатаў. У ход пускалася ўсё: грошы, хлуслівыя абяцанні, неверагодныя інтрыгі і адмысловыя плёткі. Пасля некалькіх тыдняў змагання палякі ўрэшце прыйшлі да згоды і абвясцілі каралём Польшчы Генрыха Анжуйскага. Прадстаўнікі Беларускага гаспадарства ўстрымаліся ад канчатковага рашэння. Праз кароткі прамежак часу шляхта Вялікага Княства Літоўскага з’ехалася на Рудніцкі Галоўны з’езд, каб асобна ад палякаў абмеркаваць кандыдатуры прэтэндэнтаў на пасад вялікага князя.

Дакументаў Рудніцкага з’езда не захавалася, але, напэўна, беларуская шляхта, спакушаная 40 000 франкаў, папярэдне дасланымі Генрыхам Анжуйскім на патрэбы Княства, падтрымала акурат яго. Аб вырашальнай ролі грошай падчас выбараў Генрыха на вялікае княжанне пісаў адзін з удзельнікаў тагачасных падзей у ананімнай

публіцыстычнай брашуры «Погляд на абранне новага караля», аўтарства якой прыпісваецца Аўгустыну Ратундусу.

У жніўні 1573 года, пасля абвяшчэння Генрыха Анжуйскага гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага, па рашэнні з'езда Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, князь Олыца і Нясвіжа, ды Аляксандр Пронскі, надворны маршалак і кіеўскі ваявода, выехалі ў Францыю, каб перадаць каралевічу вынікі выбараў і афіцыйна запрасіць яго на вялікакняскі пасад.

## XIII

Для падканцлера Астафея Валовіча з абвяшчэннем Генрыха гаспадаром час трывог зусім не скончыўся. Яго надзвычай непакоіла, як успрыме гэтую навіну дэспатычны маскоўскі манарх, ці не паслужыць яна падставай для новага наступлення на беларускія землі. Каб папярэдзіць непрадбачанае, Валовіч тэрмінова накіраваў у Маскву пасла Мікалая Гарабурду, які, навучаны падканцлерам, паведаміў Івану IV аб выбары, зробленым шляхтай Вялікага Княства (манарх усё роўна дазнаўся б пра гэта праз сваіх віжаў), але ў тую ж хвілю заверыў яго, нібыта ён не згубіў шанцу заняць вялікакняскі пасад, паколькі Генрых быццам бы не зможа прыехаць у вызначаны тэрмін і шляхта Вялікага Княства хутка пакліча менавіта яго ці ягонага сына сабе ў гаспадары. Іван IV сумняваўся, але, здаецца, паверыў. Толькі ў снежні 1573 года ён урэшце змікіціў, што яго водзяць за нос. Раззлаваны маскоўскі манарх, не зважаючы на зімовую сцюжу, выслаў тры вайсковыя корпусы, каб сілай авалодаць Вялікім Княствам Літоўскім. Адным з карпусоў ён камандаваў асабіста.

Шлях войскам Маскоўскага княства перагарадзілі харугвы Яна Хадкевіча. Але стрымаць ворага не ўдалося. Маскоўскі манарх прагнуў крыві і помсты, а яго памагатыя — новых зямель і багаццяў. Так пачаўся чарговы этап Полацка-Інфлянцкай вайны, чарговае бязлітаснае вынішчэнне і рабаванне Беларусі.

Новы кароль і вялікі князь Генрых Анжуйскі прыехаў у Кракаў 18 лютага 1574 года. Астафей Валовіч сумесна з іншымі беларускімі і

польскімі вяльможамі ўрачыста сустракаў яго, а затым рыхтаваў гаспадара, незнаёмага з мясцовымі звычаямі, да каранацыі і ўзвядзення на вялікакняскі пасад.

Падканцлеру Вялікага Княства, як і многім, падавалася, што цяпер, пры дапамозе французскіх грошай, дзяржаўныя справы істотна палепшацца, будзе ўмацавана войска і маскоўскаму манарху давядзецца падмазваць пяткі. Але Астафей Валовіч дужа памыліўся. Сапраўдныя «вартасці» новага гаспадара неўзабаве выявіліся. Генрых быў абсалютна абыякавы да дзяржаўных клопатаў. Ён не ведаў ні беларускай, ні польскай моў, ні нават лаціны. У час пасяджэнняў сената манарх, не разумеючы, пра што ідзе гаворка, пераважна маўчаў ды чакаў іх скарэйшага заканчэння, каб заняцца больш прывабнымі справамі — добрым віном ды прыдворнымі прыгажунямі, у акружэнні якіх ён і бавіў большую частку часу.

Дзеля гістарычнай справядлівасці нельга не сказаць пра тое, што многіх беларускіх і польскіх урадоўцаў, асабліва прыхільнікаў Бахуса, новы манарх цалкам задавальняў, бо ён ніколі не перашкаджаў жыць так, як ім хацелася.

За некалькі месяцаў няспынных застолляў ды баляў двор быў давездены да поўнай нэндзы. Астафею Валовічу, які ўвесь час жыў клопатам аб гаспадарстве, будучыня Княства пры Генрыху Анжуйскім бачылася ў вельмі змрочным святле. Цяжка сказаць, чым бы скончыўся гэты «пір у час чумы» (на Беларусі ў гэты год сапраўды працягваўся мор), калі б не смерць караля Францыі Карла XII. Генрых Анжуйскі, атрымаўшы пра гэта вестку ад маці, у ноч з 28 на 29 чэрвеня 1574 года ўпотай пакінуў Кракаўскі замак і назаўсёды з'ехаў у Францыю, каб заняць па смерці брата надзейны спадчынны трон.

У першыя гады пасля Люблінскай уніі Астафей Валовіч, апроч палітыкі ды дыпламатыі, займаўся рознымі прыватнымі пытаннямі ды сямейнымі справамі. Падканцлер дапамагаў дубчынскім рамеснікам, нават вызваліў іх ад падаткаў. Ён апекаваўся над дзецьмі князя Абрама Горскага, якія засталіся сіротамі. Аб гэтым Валовіч паведамляў сваёй сястры, жонцы Юрыя Горскага-Сакалінскага. У 1570 годзе Астафей Валовіч справіў вяселле сваёй адзінай дачкі Рэгіны, выдаўшы яе замуж за кракаўскага кашталяна Севярына Бонара.

## XIV

У новы перыяд жыцця Вялікага Княства Літоўскага без гаспадара перад Астафеем Валовічам паўсталі новыя праблемы, ад вырашэння якіх залежаў лёс усяго народа. Драматычная сітуацыя вымагала ад падканцлера неймавернага напружання волі ды рашучых дзеянняў.

У канцы лета 1574 года па прапанове Астафея Валовіча ў Францыю выехала вялікакняскае пасольства, якое ўзначальваў намінат на Жамойцкае біскупства Мельхіёр Шэмет. Пасол перадаў Генрыху Анжуйскаму рашэнне паноў-рады: калі ён не з'явіцца да 12 траўня 1575 года, то Вялікае Княства Літоўскае абвесціць пачатак новай канвакацыі.

Генрых абяцаў хутка вярнуцца, але Астафей Валовіч ужо болей не спадзяваўся на яго і 1 лістапада 1574 года на Галоўным з'ездзе Княства ў Вільні паставіў свой подпіс пад «Лістом Сената і рыцарства», у якім выказваўся намер абраць вялікім князем эрцгерцага Эрнэста, сына імператара Максімільяна. Мяркуючы па змесце гэтага «Ліста...», Валовіч і тыя 35 урадоўцаў Княства, што пацвердзілі рашэнне ўласнымі пячаткамі, звязвалі з асобаю Эрнэста вяртанне Беларускаму гаспадарству Валыні, Падляшша, Кіеўшчыны ды Браслаўля, а гэтаксама — усталяванне міру між хрысціянскімі краінамі Еўропы.

У сувязі з гэтай палітычнай пераарыентацыяй Валовіча паўстаюць два вельмі важныя пытанні: чаму падканцлер кожны раз пры выбарах гаспадара аддаваў перавагу іншаземцам і што перашкаджала яму падтрымаць ідэю гаспадара са свайго народа? Каб спасцігнуць логіку паводзін падканцлера, неабходна ўлічваць своеасаблівы характар тагачасных узаемадачыненняў еўрапейскіх дзяржаў, калі найбольш трывалыя сувязі між імі ўсталёўваліся праз парадненні манархаў ці ўзвядзенне на трон прадстаўнікоў магутных дынастый. Па смерці Жыгімонта II Аўгуста, апошняга з Ягайлавічаў, Вялікае Княства Літоўскае якраз апынулася перад гістарычным выбарам: альбо шукаць замежнага гаспадара са знакамітай дынастыі, з усімі перавагамі і недахопамі гэтага кроку, альбо ўзвесці на прастол некага з магнатаў, што таксама мела свае плюсы і мінусы. Сярод шляхты Вялікага Княства Літоўскага знаходзіліся прыхільнікі як аднаго, так і другога шляхоў.

Астафей Валовіч, узважыўшы ўсе акалічнасці, выступіў супраць ідэі выбару манарха з прадстаўнікоў магнацкіх родаў. Пазіцыя падканцлера мае сваё гістарычнае апраўданне. Па-першае, абранне гаспадаром аднаго з прадстаўнікоў мясцовай магнатэрыі непазбежна прывяло б да палітычнай ізаляцыі Вялікага Княства Літоўскага, адмоўныя вынікі чаго выявіліся б даволі хутка. Па-другое, пры існуючай канкурэнцыі і варажнечы між шляхецкімі родамі, такі крок мог прывесці да ўзнікнення грамадзянскай вайны.

Апроч таго, існавала псіхалагічная цяжкасць: манарх у свядомасці тагачаснага чалавека — гэта памазаннік Божы, а яго ўлада — ад самога Госпада. Да ўсяго іншага, і гэта, можа быць, самае галоўнае, Астафей Валовіч неверагодна баяўся абрання манарха з польскага роду. Ён цалкам падзяляў думку свайго сваяка, аршанскага старосты Філона Кміты-Чарнабыльскага, які адносна польскіх кандыдатаў на вялікакняскі пасад пісаў падканцлеру наступнае: «Ино некоторые мовят: «Не дай бог ляху быть! Вырежет Литву, а Русь поготову». Давно резать почали литвина. И тот, де, с прыроженя натуры... просто як овца: где их больш берет волк, там оне дольше за ним идут! Большы будет жычлившый народу польскому, нижели своему! Ово просто есмо як рыба в омуте: слепи, неведоми! Не ведаем, куды в сию есмо диру влезли!»

10 траўня 1575 года ў Сценжыцы за два дні да вызначанага тэрміну вяртання Генрыха адкрыўся сумесны беларуска-польскі вальны сойм. Паколькі французскі прынц не з'явіўся, Астафей Валовіч 17 траўня з чыстым сэрцам аб'явіў рашэнне шляхты Вялікага Княства Літоўскага — прыступіць да выбараў новага гаспадара.

Вялікакняскія ўрадоўцы спяшаліся. Далейшае прамаруджванне пагражала бядою, бо маскоўскія войскі пад камандаю Іванавага зяця Магнуса, брата дацкага караля, пакуль працягваўся сойм, аваладалі Пернавам ды пагражалі захопам усіх Інфлянтаў. Да непамыслоты, што насоўвалася з усходу, дадаліся беспарадкі ўнутры гаспадарства. Каб уявіць іх памеры і тую небяспеку, якую яны неслі, прыгадаем словы таго ж Філона Кміты-Чарнабыльскага. Звяртаючыся да Астафея Валовіча, аршанскі староста так характарызаваў тагачаснае

становішча ў Вялікім Княстве: «Всё кламство, всё лож, нет Бога! Бий, забий, дери, лупи — то найлепший пан и то рыцер!.. Где ест слыхано?! Дитя еще невеста родит и с того дитяти мает быти внук — дай тому имене, аспективу! Сыну дай, брату дай, слузе дай! Дай, дай, дай! А на обход речи посполитое што? А заслужоному што? А все разобралшы, чому быть? Только до убоства престися. Даже вже и лупют! Ото, государю пане, от таковых бед люди топятся! Ото с таковых нендз давятся! Ото с того в неволю даются! Яко и говорят многие во вси стороны: "Не только абы московский государем быть мел, але, хотя бы вже дъябел с пекла, только абы крывды людей Божих мстил, а в порадок привел"».

Астафей Валовіч не горш за Філона Кміту-Чарнабыльскага ведаў беды Гаспадарства і не шкадаваў ні сябе, ні сваіх сродкаў, каб пазбавіцца іх. 15 жніўня 1575 года на з'ездзе паноў-рады Вялікага Княства Літоўскага падканцлер падтрымаў думку 11 іншых вышэйшых ураднікаў аб стварэнні дадатковага вайсковага корпуса з 1200 конных і 700 пешых ратнікаў у дапамогу Яну Хадкевічу, які мужна змагаўся з маскавітамі.

Галоўнай умовай навядзення парадку ў дзяржаве магло быць толькі хутчэйшае абранне новага гаспадара. На канвакацыйны сойм, што склікаўся 7 лістапада 1575 года ў Варшаве, Астафей Валовіч прыехаў разам з Мікалаем Тальвошам, жамойцкім кашталянам, і нечакана для многіх выступіў не за кандыдатуру Эрнэста, якую прапаноўваў раней, а падтрымаў венгра Стэфана Баторыя.

На рэзкую змену сімпатый падканцлера ў той момант паўплывалі важкія прычыны. Астафей Валовіч меў надта сур'ёзныя падставы, каб не падтрымліваць аўстрыяка Эрнэста. Летам і восенню 1575 года ў Дзяржаўную Канцылярыю Вялікага Княства Літоўскага ад агентаў у Аўстрыі і Маскоўскім княстве пачалі паступаць звесткі аб патаемных планах уплывовых колаў гэтых дзяржаў аб'яднацца, каб разам ваяваць супраць ВКЛ, а пасля перамогі падзяліць беларускія землі паміж сабой.

Астафею Валовічу ўдалося своечасова раскрыць інтрыгу ворагаў. Найперш быў схоплены польскі купец Крыштоф Граеўскі, які вёз нейкія сумніўныя паперы ў Маскву. Пасля допыту, што падканцлер

праводзіў асабіста, падазрэнні пацвердзіліся. Граеўскага пасадзілі ў Дзісненскую турму.

Ва ўдзеле ў палітычнай інтрызе супраць Вялікага Княства Літоўскага Астафей Валовіч западозрыў гэтаксама і прынца Даніїла з Бухава, які ехаў у Маскву ў якасці пасла імператара Максімільяна II, а затым яго пераемніка Рудольфа II. Вядома, з прынцам паступіць так, як з Граеўскім, у Вялікім Княстве не маглі. Але калі ён праязджаў праз Вільню, то яму ў «спадарожнікі» прызначылі Лаўрэнція Горскага, які пільна сачыў за кожным яго крокам і пра ўсё паведамляў у Дзяржаўную Канцылярыю.

Якраз з-за стасункаў Габсбургаў з маскоўскім манархам Іванам IV Астафей Валовіч і іншыя радныя паны Вялікага Княства — Ян Хадкевіч, Ян Кішка, Ян Глябовіч, мінскі кашталян, Аляксандр Хадкевіч, гарадзенскі староста,— адверглі кандыдатуру аўстрыяка Эрнэста, а затым і эрцгерцага Фердынанда.

На Галоўным з'ездзе шляхты ў красавіку 1576 года большасць выказалася за сямігародскага ваяводу Стэфана Баторыя, шырока вядомага сваім талентам палкаводца.

Астафей Валовіч перамог. Наступны Галоўны з'езд Княства, што праходзіў у траўні — чэрвені 1576 года ў Мсцібогаве, адхіліў усе прапазіцыі імператарскага пасла Яна Кахцінскага і прыняў канчатковае рашэнне аб узвядзенні на вялікакняскі пасад Стэфана Баторыя. Выбранне на гэтым з'ездзе пасольства, у якое ўвайшлі Астафей Валовіч, Ян Хадкевіч, менскі ваявода і староста Гаўрыла Гарнастай, Ян Глябовіч, Ян Кішка, стольнік Княства Мікалай Аляхновіч Дарагастайскі, Аляксандр Хадкевіч, Лаўрын Война, а гэтаксама прадстаўнікі ад шляхты ўсіх ваяводстваў, недзе пасля 10 чэрвеня прыбыло ў Варшаву, дзе знаходзіўся Стэфан Баторый пасля абвяшчэння яго каралём Польшчы на Андрэеўскім сойме (студзень — люты 1576). Яны афіцыйна запрасілі Баторыя на гаспадаранне ў Вялікае Княства Літоўскае.

## XV

Астафей Валовіч быў усцешаны дзейнасцю Стэфана Баторыя, бо той, па сведчанні аўтара старажытнай «Баркулабаўскай хронікі», «быў сапраўды чалавек пабожны, рыцарскі, вайсковы, шчаслівы, праўдзівы, сумленны». Даючы 29 чэрвеня 1576 года прысягу, новы манарх браў на сябе абавязак неадкладна выканаць шэраг важных умоў, выказаных яму, а астатнія абяцаў разгледзець на бліжэйшым вальным сойме. Княжанне Стэфана Баторыя азнаменавалася крутым узвышэннем Беларускага гаспадарства, эканамічным умацаваннем Княства і пераможным завяршэннем шматгадовай Полацка-Інфлянцкай вайны.

Літаральна праз некалькі дзён пасля прыняцця прысягі — 8 ліпеня 1576 года — Стэфан Баторый выдаў радным панам, шляхце і рыцарству Княства прывілей, у якім пацвердзіў захаванне ўсіх правоў і свабод. З першых дзён свайго гаспадарання ён без усялякіх ваганняў пайшоў насустрач патрабаванням шляхты Вялікага Княства Літоўскага і прызнаў, што яго манархія — не ўнітарная краіна, а канфедэрацыя дзвюх раўнапраўных дзяржаў. Новы кароль і вялікі князь хутка авалодаў прыёмамі кіравання дзвюма краінамі — Польшчай і Вялікім Княствам, чаму, відаць, паспрыяла яго знаёмства з манархіяй Габсбургаў, якая ўяўляла саюз некалькіх дзяржаў.

Першымі прывілеямі Стэфан Баторый адмяніў рашэнні Люблінскага сойма 1569 года, што прыніжалі годнасць Беларускага гаспадарства, і падкрэсліў яго поўную незалежнасць ад Польшчы. Манарх дазволіў Вялікаму Княству Літоўскаму праводзіць вальныя соймы і соймікі, а таксама чыніць судовыя справы ў адпаведнасці са сваім Статутам. Апроч таго, ён загадаў стварыць камісію па ўдакладненні дзяржаўных межаў між Каронаю і Княствам.

Стэфан Баторый з разуменнем паставіўся да прапановы падканцлера Астафея Валовіча перагледзець шэраг артыкулаў Статута Вялікага Княства, якія былі гвалтоўна зменены па рашэнні Люблінскага сойма. Сапраўды, як і паабяцаў манарх, бліжэйшы вальны сойм 1578 года зацвердзіў падрыхтаваныя ўрадоўцамі Княства «статутавыя паправы», а Астафей Валовіч загадаў служачым тэрмінова разаслаць іх па ўсіх ваяводствах. Такім чынам, важныя нормы дзяржаўнага і

судова-працэсуальнага права, адмененыя ў 1569 годзе, былі вернуты ў Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Астафей Валовіч, як прыхільнік палкаводчага таленту Стэфана Баторыя, у першыя гады княжання вельмі дапамагаў манарху ў высакароднай справе — вызваленні абшараў Княства і Інфлянтаў з-пад улады Маскоўскага княства. Падканцлер на справе ажыццяўляў распараджэнні вялікага князя, важнейшымі сярод якіх былі падрыхтоўка да вайны з маскоўскім царом (25 ліпеня 1576), збор грашовага падатку для ўмацавання прыгранічных замкаў (жнівень 1576), падрыхтоўка шляхты да паспалітага рушання супраць Маскоўскага княства (31 жніўня 1576), збор рыцарства і грошай на вайну з крымскім ханам і маскоўскім царом (1 траўня 1577); узбраенне насельнікаў Княства для абароны Інфлянтаў (14 жніўня 1577).

На з'ездах Вялікага Княства Літоўскага і агульных беларуска-польскіх соймах Астафей Валовіч амаль заўжды станавіўся на бок Стэфана Баторыя. Прыкладам таму могуць служыць падзеі вальнага сойма 1578 года, які разглядаў пытанні падрыхтоўкі да шырокай кампаніі па вызваленні паўночна-ўсходніх зямель Беларусі. Падканцлер падтрымаў просьбу гаспадара аб выдзяленні на вайсковыя патрэбы дадатковых сродкаў.

Стасункі Астафея Валовіча з вялікім князем, безумоўна, не былі ва ўсе часы бездакорнымі. Першы сур'ёзны канфлікт між імі ўзнік ужо на першым годзе гаспадарання Стэфана Баторыя, на Торуньскім вальным сойме (пачаўся 4 кастрычніка 1576). Баторый хацеў атрымаць сродкі і склікаць паспалітае рушанне для паходу на Гданьск — адзіны горад з усёй Прусіі, што не прысягнуў яму. Але беларускія паны-рада выступілі з «Пратэкцыяй» і адмовіліся ўдзельнічаць у заваяванні Гданьска. Свой адказ яны растлумачылі нежаданнем пускаць на землі Княства польскае рыцарства, якое заўжды, трапляючы на Беларусь, пачынала бязлітасна рабаваць шляхецкія маёнткі. Астафей Валовіч таксама спасылаўся на небяспеку ад магчымага ўварвання маскоўскіх войскаў.

14 чэрвеня 1577 года Стэфан Баторый накіраваў ураду ВКЛ грамату, загадваючы неадкладна пасылаць вялікакняскае войска пад Гданьск, прывесці, як ён пісаў, «людей своевольных и упорных

кгданьщан до подданства нашого и до послушенства Речи Посполитой». Але Ваўкавыскі з'езд шляхты Вялікага Княства Літоўскага 17 ліпеня 1577 года зноўку пацвердзіў ранейшую заяву — не ўдзельнічаць у паспалітым рушанні на Гданьск,— а выдаткаваныя грошы накіраваў выключна на справы вызвалення Беларусі ад Маскоўскага княства.

Цяжка адназначна сказаць, на чыім баку была праўда падчас гэтага канфлікту. Скончыўся ён тым, што настойлівы і ўладалюбівы Стэфан Баторый, нягледзячы на пратэсты Вялікага Княства, усё ж такі арганізаваў паход на Гданьск і скарыў горад.

Астафей Валовіч не знайшоў агульнай мовы з вялікім князем і ў 1578—1579 гадах, калі ордэн Ісуса займаўся стварэннем каталіцкай акадэміі ў Вільні. Падканцлер і канцлер Мікалай Радзівіл Руды, з'яўляючыся пратэстантамі па веравызнанні, адмовіліся зацвярджаць каралеўскі прывілей на адкрыццё акадэміі. Канфлікт з каралём і вялікім князем цягнуўся даволі доўга. Урэшце, Астафей Валовіч, зразумеўшы ўсю прававую неабгрунтаванасць сваёй пазіцыі, саступіў, і ў 1579 годзе першая вышэйшая навучальная ўстанова на Беларусі распачала шырокую асветніцкую дзейнасць. Здаецца, падобная гісторыя паўтарылася і ў 1581-м пры заснаванні Полацкага іезуіцкага калегіума.

Абапіраючыся на згаданыя факты выступленняў Астафея Валовіча супраць адкрыцця каталіцкіх навучальных устаноў, некаторыя пазнейшыя гісторыкі сцвярджалі, што падканцлер нібыта наогул быў праціўнікам адукацыі і асветы. Гэта зусім не так. Астафей Валовіч у дадзеным выпадку бараніў уласныя канфесійныя інтарэсы ды не хацеў саступаць першынство католікам. Рэч у тым, што ў той час беларускія пратэстанты рыхтаваліся да адкрыцця вышэйшай навучальнай установы, між іншым, мяркуючы весці выкладанне не на польскай, а на беларускай мове. Развіццю культуры, асветы і адукацыі на народнай мове павінен быў служыць і пераклад Евангелля, часткова ажыццёўлены ў 70—80-я гады Васілём Цяпінскім.

Канфлікты Астафея Валовіча з вялікім князем і каралём не перашкодзілі падканцлеру ў 1576 годзе атрымаць Рэчыцкае староства, а 1 кастрычніка 1579-га — Віленскае кашталянства.

У 1579 годзе Валовіч заняў пасаду канцлера, якую трымаў да 1584-га. Троцкае кашталянства і падканцлерства ў тым жа 1579 годзе ён саступіў Крыштофу Радзівілу Перуну.

У 1579—1582 гадах, на якія прыйшоўся заключны этап Полацка-Інфлянцкай вайны, Астафей Валовіч удзельнічаў у трох найбуйнейшых вайсковых кампаніях: вызваленні Полацка (1579), узяцці Вялікіх Лук (1580) ды паходзе ў 1581 годзе пад Пскоў.

Пад Полацкам Валовіч асабіста камандаваў харугвай, якая штурмавала гарадскія сцены. У многім дзякуючы яго мужнасці, а таксама самаахвярнасці князя Збаражскага, старажытны беларускі горад быў вызвалены ад ворага.

Знаходзячыся ў войску, Астафей Валовіч ужо ў якасці канцлера працягваў займацца дыпламатыяй. Ён прымаў пасольствы, ажыццяўляў шырокую дзяржаўную перапіску, аналізаваў палітычныя працэсы, што працякалі ў краінах Заходняй Еўропы ды суседнім Маскоўскім княстве. Шматлікія матэрыялы дыпламатычнай дзейнасці Валовіча ў часы княжання Стэфана Баторыя захаваліся ў канцылярскіх кнігах Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.

Па ўзяцці Вялікіх Лук канцлер вёў адказныя перамовы з пасламі Івана IV — князем Сіцкім і Півовым, якія прыехалі прасіць міру. У адрозненне ад ранейшых часоў, калі Астафею Валовічу даводзілася прыніжацца ды цярпець знявагі з боку Масквы, цяпер ён дыктаваў паслам свае ўмовы, ультыматыўна патрабуючы вяртання Княству ўсіх Інфлянтаў ды Смаленска, а гэтаксама Пскова і Ноўгарада.

Трэба адзначыць, што пералом ва ўсходняй дыпламатычнай стратэгіі Астафея Валовіча адбыўся крыху раней, прыкладна ў 1578 годзе, калі ён, чарговы раз прымаючы паслоў Івана IV, упершыню адкрыта абурыўся агрэсіўнай палітыкай маскоўскага манарха ды нахабнымі паводзінамі яго памагатых. «Прыйшлі вы не са звычаем да звычаю,— гаварыў тады Валовіч паслам.— Вашых загадаў тут слухацца не будуць. Як вам скажуць, так і чыніце. Калі ў вас ёсць справа, то ідзіце да гаспадара, цалуйце яму руку ды праўце пасольства».

У часе паходу ў складзе вялікакняскага войска пад Пскоў Астафей Валовіч трапіў у вельмі далікатнае становішча: 18 ліпеня 1581 года з металічнай скрыні, дзе захоўваліся дзяржаўныя дакументы,

знікла вялікая пячатка Княства з вядомым надпісам: «Sigillum maius Magni Ducatus Lithuaniae». Прапажа спарадзіла ў войску страшэнны перапалох. Стэфан Баторый нават выдаў спецыяльны Прывілей з загадам расшукваць яе. На жаль, гістарычныя крыніцы не даюць адказу на пытанні, каму і для чаго спатрэбілася пячатка Вялікага Княства Літоўскага і ці была яна наогул адшукана.

## XVI

Высокай ацэнкі заслугоўвае дзейнасць Астафея Валовіча пры ажыццяўленні вайсковай рэформы, распачатай Стэфанам Баторыем. Канцлер спрыяў утварэнню сталага войска, у склад якога ўваходзілі прафесійныя, пераважна наёмныя, жаўнеры. Астафей Валовіч гэтаксама шмат зрабіў дзеля забеспячэння войскаў надзейнай артылерыяй. Акурат названыя новаўвядзенні ў некалькі разоў павялічвалі баявыя характарыстыкі беларускага войска і, напэўна, сталіся адной з важнейшых умоў перамогі Вялікага Княства ў Полацка-Інфлянцкай вайне.

Нельга не адзначыць актыўнага ўдзелу канцлера ў распрацоўцы стратэгічнага плана сумеснага паходу войскаў Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, пры падтрымцы заходнееўрапейскіх хрысціянскіх дзяржаў, «праз Маскву на Турцыю». Новы крыжовы паход па розных прычынах не адбыўся, але факт існавання такога плана і маштабнасць задумы ўражваюць.

6 лютага 1582 года скончылася Полацка-Інфлянцкая вайна. У Ківеравай Гары, што непадалёк ад Яма-Запольскага, на ўмовах выключна выгадных для Вялікага Княства быў падпісаны мір. Астафей Валовіч па нейкіх прычынах асабіста не прысутнічаў пры перамовах, але ён уважліва сачыў за іх развіццём і даваў слушныя парады вялікакняскім прадстаўнікам — князю Янушу Збаражскаму, князю Альбрэхту Радзівілу ды пісару Міхаілу Гарабурду, аб чым сведчаць багатыя архіўныя матэрыялы, прысвечаныя тым падзеям.

У канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў Валовіч далучыў да дзяржаўных спраў адукаванага маладога чалавека Льва Сапегу, што мела

велізарнае значэнне для будучыні Беларусі. Канцлер паўплываў на станаўленне яго асобы і дзяржаўна-палітычных поглядаў.

У 1581 годзе Астафей Валовіч і Леў Сапега сумеснымі намаганнямі дабіліся ўтварэння Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда Вялікага Княства — ды падрыхтавалі юрыдычныя нормы, што рэгулявалі яго дзейнасць. Святую справу абароны Бацькаўшчыны, чаму Астафей Валовіч прысвяціў усё сваё жыццё, паспяхова прадоўжыў яго духоўны і палітычны пераемнік Леў Сапега.

15 лістапада 1584 года састарэлы Астафей Валовіч пасля адыходу ў нябыт князя Мікалая Радзівіла Рудога заняў пасаду віленскага ваяводы. Аднак сілы няўмольна пакідалі яго. Знікаў колішні імпэт. Астафей Валовіч паступова адыходзіў ад дзяржаўных спраў, перадаючы іх канцлеру Крыштофу Радзівілу Перуну ды падканцлеру Льву Сапегу.

На схіле жыцця віленскі ваявода ўсё часцей вяртаўся да думкі аб выратаванні душы, праводзячы шмат часу ў акружэнні віленскіх евангелікаў, якім яшчэ ў 1582 годзе падараваў адзін з лепшых сваіх дамоў. Вынікам яго роздуму аб сэнсе жыцця сталася рашэнне адпусціць на волю ўсіх сваіх прыгонных — «мужчын і жанчын, каб яны вольна служылі».

Памёр Астафей Багданавіч Валовіч прыкладна ў канцы 1587-га ці на самым пачатку 1588 года. У сваім «Тастаменце», напісаным уласнаручна 1 снежня 1587 года ў Мілейчыцах, віленскі ваявода прасіў выканаць апошняе яго пажаданне: «Застановляю около похованя тела моего: абы было поховано в именю моем Сідранском в костеле, в склепе мурованым под костелом, без всякого кошту. Ані коней, ані збрoй, ані чого іного не потребне чыніти, гды ж там не на войну отхожу. Але тело сукном чорным покрывшы, запроводити до гробу на возе. Привезшы в каптуру, не убирайте, бо они обжаловати не будут. Але абы там в костеле хвала Божая и проповеданя Слова Божага яко святого уставичне множана была...»

Пасмяротную волю Астафея Валовіча выканала яго адзіная дачка Рэгіна, пахаваўшы бацьку па хрысціянскім звычаі ў Сідранскай бажніцы.

# ІНТЭЛЕКТУАЛ

*Сымон Будны — найбольш яркі беларускі інтэлектуал, асветнік і філолаг эпохі Рэнесансу і Рэфармацыі. Ён першым у гісторыі Беларусі сфармуляваў прынцыпы пратэстанцкай этыкі, абгрунтаваў неабходнасць урада і дзяржавы, выступіў супраць разбуральнай дактрыны тагачасных анархістаў і камуністаў. Пісьменнік паслядоўна адстойваў правы грамадзян на свабоду думкі і слова, самастойнае прачытанне і ўласнае каментаванне Бібліі.*



**I**

арадзіўся Сымон Будны каля 1530 года ў Будзе, верагодней за ўсё, недзе на Беласточчыне. Першая дакументальная згадка пра яго — кароткі запіс у метрыцы Кракаўскага ўніверсітэта за 19 кастрычніка 1544 года, які акурат і дазваляе вызначыць прыкладны год нараджэння асветніка.

У 1558 годзе Сымон Будны распачаў самастойную дзейнасць у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — Вільні,— што пацвярджаецца пісьмовымі крыніцамі. Так, сакратар Віленскага кальвінісцкага гуртка ў адным з пратаколаў, пазней падрыхтаваных да друку Янам Зарэмбам, 11 студзеня 1558 года запісаў: «У той дзень Сымон (Зак.— *І. С.*), казнадзей збору ў Літве і на Падляшшы, а таксама суперінтэндант кальвінісцкі, паведаміў прысутным пра велізарную карысць ад вывучэння Катэхізіса і з дазволу старэйшых братоў прызначыў Сымона Буднага катэхізістам».

Сымон Будны выкладаў асновы тэалогіі ў Віленскім пратэстанцкім зборы, атрымліваючы за гэта, як сведчаць крыніцы, шчодрую па тым часе ўзнагароду. У сталіцы Вялікага Княства Літоўскага ён не толькі знайшоў надзейны прытулак, але і атрымаў выдатную магчымасць удасканаліць уласны талент пісьменніка, педагога, філосафа і багаслова.

Каля 1560 года Сымон Будны пераехаў з Вільні ў Клецк, дзе ў мясцовым кальвінісцкім зборы прадоўжыў справу, распачатую ў Вільні, адначасова рыхтуючы да друку свой першынец. 10 чэрвеня 1562 года з Нясвіжскай пратэстанцкай друкарні, што належала пану Мацвею Кавячынскаму, выйшла дыхтоўная, з густам аздобленая кніжка значных памераў, больш за пяцьсот старонак, пад тытулам: *«Катэхізіс, або Старадаўняя хрысціянская навука для простых людзей мовы рускай, у пытаннях і адказах сабраная»*. Яна адразу прыцягнула ўвагу адукаваных людзей як у Вялікім Княстве Літоўскім, так і далёка за яго межамі.

«Катэхізіс» Сымона Буднага — унікальны сінкрэтычны помнік нацыянальнай культуры, філасофіі, мовы і літаратуры. Кніга адкрываецца «Прысвячэннем князям Радзівілам», пад якім апрача імя Сымона Буднага стаяць прозвішчы тагачаснага клецкага намесніка Мацвея Кавячынскага і Лаўрэнція Крышкоўскага. Яны, верагодна, аказвалі фінансавую падтрымку аўтару выдання, аб чым ёсць звесткі і ў заключным запісе да твора: «Доконана ест сіа книга, зовемая Греческим языком «Катихисіс», а по словеньски «Оглашеніе», Богу ко чти и посполитым людем языка Руского к наказанью и доброму ученью накладом боголюбивых мужей пана Матфіа Кавечинского, Наместъника Несвижского; Сімона Будного, Лаврентіа Крышковского. На городе Несвижским. Под леты от воплошченіа Спасова тисеча пятисот шестьдесят второго, Месеца Іюніа десятого дня».

Пра аднаасобнае аўтарства Сымона Буднага сведчаць лісты да яго праваслаўнага пісьменніка Арцёмія. Ён палемізуе менавіта з Будным, асуджае яго погляды.

У «Прысвячэнні» да кнігі вытлумачваліся прычыны напісання твора па-беларуску, а таксама змяшчаўся зварот да магутных князёў — шанаваць народную мову, спрыяць яе пашырэнню ва ўсіх сферах жыцця.

Уласна «Катэхізіс» складаўся з «Прадмовы да чытача», і чатырох асноўных частак — «Аб дзесяці запаведзях Божых», «Аб веры», «Пра малітву Госпада», «Аб святых тайнах» — і пасляслоўя. Гэткі парадак раздзелаў знешне паўтараў структуру вядомага «Вялікага Катэхізіса» 1529 года Марціна Лютэра. Але «Катэхізіс», што выйшаў з-пад пяра беларускага інтэлектуала,— гэта бясспрэчна арыгінальны твор, вынік творчасці пісьменніка, філосафа і тэолага, а не пераклад.

У прадмове да твора Сымон Будны паведаміў асноўны матыў напісання і выдання ўласнага «Катэхізіса» — паставіць бар'ер на шляху распаўсюджання хлуслівых вучэнняў, «злых рэчаў, якія запанавалі ў Хрыстовай Царкве».

Галоўную мэту «Катэхізіса» асветнік бачыў у тым, каб данесці сапраўдны сэнс і сутнасць Божага Слова да людзей з тым, каб яны самі жылі паводле законаў, усталяваных Богам, і паказвалі ўзор хрысціянскага жыцця ўласным дзецям. Сымон Будны рэзка адмяжоўваўся ад вучэння каталіцкіх і праваслаўных апалагетаў, якія, паводле яго слоў, «не только не научають, але и сами мало правды знають и оным, которіи бы учити хотели, забраняють».

«Катэхізіс» прывабліваў чытачоў як зместам, так і манерай выкладання матэрыялу, выключнай логікай разважанняў і пераканаўчасцю доказаў. На старонках «Катэхізіса» Сымон Будны прапанаваў грамадству новую хрысціянскую этыку, адметную сацыяльную філасофію і абноўленыя прынцыпы арганізацыі Хрыстовай царквы.

Для «Катэхізіса» Сымона Буднага характэрна дыдактычна-павучальная скіраванасць. Яго першы твор — узорны дапаможнік, у якім арганічна спалучаліся глыбокая філасафічнасць, навучальны матэрыял і выдатны літаратурна-мастацкі выклад. Ужыванне пісьменнікам кароткіх пытанняў і поўных адказаў, несумненна, сведчыць пра яго асветніцкія памкненні. Сымон Будны, як правіла, звяртаўся да чытача з прамымі сентэнцыямі, проста і зразумела адказваў на шматлікія пытанні, што хвалявалі сучаснікаў:

*Пытанне.* Што ты ёсць?

*Адказ.* Чалавек ёсць. Стварэнне Божае разумнае, створанае Богам паводле Яго вобраза.

*Пытанне.* Дзеля чаго Госпад Бог цябе стварыў?

*Адказ.* Не таму, што без мяне не мог быць, але каб Яго пазнаў, любіў, Яму служыў, а потым з Ім навякі жыў.

*Пытанне.* Якой ты веры?

*Адказ.* Хрысціянскай веры.

*Пытанне.* Чаму ты хрысціянін?

*Адказ.* Таму што ў Хрыста верую і хрысціўся ў імя Яго.

*Пытанне.* Што павінен умець хрысціянін?

*Адказ.* Павінен умець чатыры рэчы і паводле іх жыць. Першая — закон, або запаветы. Другая — вызнанне веры. Трэцяя — малітва Гасподняя. Чацвёртая — Тайны Хрыстовы.

На ўсіх стылёвых узроўнях дыялагічнага «Катэхізіса» надзвычай адчувальны ўплыў філасофскіх «Дыялогаў» Платона. Дыялогі Сымона Буднага, часта аб'ёмныя паводле памераў,— найважнейшы мастацкі кампанент твора. Найбольш адметная іх рыса — выключная інтэлектуальная насычанасць. Пісьменнік-інтэлектуал абмяркоўваў з чытачом ключавыя грамадска-палітычныя і філасофскія праблемы, імкнуўся прадставіць вычарпальныя доказы ў абарону сваіх поглядаў, пераканаўча аспрэчваў пазіцыі апанентаў.

На старонках «Катэхізіса» Сымон Будны адстойваў ідэі крэацыянізму — аднаактовага стварэння Госпадам сусвету і першых людзей — Адама і Евы, якія да саграшэння былі несмяротныя, праведныя, самаўладныя і ва ўсім падобныя да Бога.

Сымон Будны сфармуляваў і даступна выклаў уласную этычную дактрыну. Зыходны момант яго этыкі — адрозненне найвышэйшых маральных законаў, дадзеных Богам у Дзесяці запаведзях Майсея, а затым паўтораных Ісусам Хрыстом, ад законаў, устаноўленых самімі людзьмі. Божыя законы, сцвярджаў гуманіст, у параўнанні з чалавечымі, найбольш дасканалыя, бо прадугледжваюць пакаранне не толькі за злачынныя справы, але і за благія намеры. У параўнанні з чалавечымі, Божыя законы, такім чынам, больш высокія і адпаведна больш важныя.

У «Катэхізісе» Сымон Будны падрабязна вытлумачыў сэнс кожнай запаведзі і паказаў, што тых, хто не выконвае іх, чакае жорсткае

пакаранне. Як сапраўдны гуманіст Будны крытыкаваў пралюбадзейства, блюзнерскія ўчынкі, заклікаў да пашаны бацькоў і старэйшых.

Беларускі пісьменнік-інтэлектуал з'яўляўся паслядоўным абаронцам ідэі антрапацэнтрызму — уяўленні аб чалавеку як галоўнай каштоўнасці на зямлі, якому, згодна з Божай воляй, павінна падпарадкоўвацца ўсё жывое і нежывое. Важны момант вучэння Сымона Буднага аб чалавеку — развіццё ім хрысціянскай ідэі аб спакушэнні першых людзей зайздрослівым Д'яблам і іх грэхападзенні, пасля таго як Ева не стрымалася і з'ела яблык з запаветнага дрэва пазнання. Людзі парушылі Божую забарону, за што былі пакараны Богам. Яны страцілі ўсе дадзеныя чалавечаму роду дабрачыннасці, падабенства да Бога, самаўладдзе душы і, галоўнае, веды пра Усявышняга. З таго часу чалавек пазбавіўся «вобраза і падабенства Божага» і ператварыўся ў «скота несмышленого», у бяздумную жывёліну.

У выніку грэхападзення Адама і Евы, даводзіў Сымон Будны, людзі, аднак, не пазбавіліся волі. Але іх добрая воля, якую ім адпачатку даў Бог, змянілася на злую. Аб сутнасці чалавечай волі беларускі філосаф гаварыў літаральна наступнае: «І ў нас ёсць воля, але не Божая воля. Паколькі мы самі, у выніку грэхападзення, ад нараджэння злыя, то і воля наша мусіць быць злая, адрозная ад Божай волі».

Як бачна, беларускі інтэлектуал не пакінуў незаўважанымі надзвычай складаныя пытанні аб самаўладдзі душы і чалавечай волі, спрэчкі вакол якіх не сціхалі на працягу ўсяго сярэднявечча і з новай сілай разгарэліся ў эпоху Рэфармацыі. Красамоўным пацвярджэннем таму з'яўляецца вядомая палеміка паміж Марцінам Лютэрам — аўтарам твора «Аб рабстве волі», назва якога гаворыць сама за сябе,— і Эразмам Ратэрдамскім, які ў трактаце «Аб свабодзе волі» сцвярджаў якраз супрацьлеглае.

Прызнанне міфа аб грэхападзенні лагічна прывяло Сымона Буднага да ідэі прыроджанага граху. «Праўда,— пісаў ён,— што дзеці ўласных грахоў не маюць. Але яны маюць адпрыродны грэх, аб чым шмат гаворыцца ў Святым Пісанні». Прыведзенае выказванне беларускага гуманіста паказвае, што яго разуменне першароднага граху прынцыпова адрознівалася, напрыклад, ад пазіцыі Эразма Ратэрдамскага і Ульрыха Цвінглі. Апошнія лічылі, што грэхападзенне Адама

і Евы не прывяло да поўнай сапсаванасці чалавечага роду, а толькі схіліла людзей да зла, грахі ж — гэта не заўсёдны стан, а часовая з'ява, хвароба, якую можна і трэба лячыць.

Сымон Будны лічыў прыроду чалавека дваістай, сцвярджаючы, што чалавек складаецца з грэшнага, часова існуючага цела і вечнай душы. Беларускі інтэлектуал, аднак, у адрозненне ад артадаксальных тэолагаў, адмаўляў актыўнае замагільнае жыццё душ, іх здольнасць умешвацца ў зямныя справы, уздзейнічаць на жывых людзей.

Разам з тым, Сымон Будны лічыў, што пасля смерці людзей душы не знікаюць бясследна, не растварающца ў нябеснай прасторы і не гінуць — яны толькі губляюць асобныя рысы, якія ім былі ўласцівы пры жыцці чалавека. Душы, паводле яго вучэння, пакінуўшы цела, накіроўваюцца ў пэўнае месца — «інфернус»,— пра якое людзям не дадзена нічога ведаць, і там яны знаходзяцца ў нязменным спакоі, як быццам бы спяць. Час іх абуджэння наступіць, калі Сын Божы ў другі раз прыйдзе на зямлю, каб судзіць жывых і мёртвых за нежаданне людзей выправіцца і жыць у адпаведнасці з Божымі законамі.

На старонках «Катэхізіса» Сымон Будны катэгарычна адкінуў распаўсюджаную ў сярэднія вякі думку пра перамяшчэнне душ памерлых у Ад адразу пасля скону чалавека. Асветнік пры гэтым не адмаўляў існавання Аду наогул, як падавалася асобным даследчыкам яго творчасці. Ён у сапраўднасці толькі крытыкаваў ранейшыя ўяўленні пра яго. «Пра Ад пішуць памылкова,— зазначаў інтэлектуал.— Яны мяркуюць, нібыта ў сярэдзіне Зямлі ёсць непрыступны замак з жалезнымі кратамі, у якім знаходзяцца душы святых. Паколькі яны памерлі да Хрыста, дык былі, нібы вязні, пасаджаны пад замок. Усё гэта ерэтычныя басні». Акурат гэтак памылкова, заўважаў Будны, меркаваў пра Ад старажытны тэолаг Іаан Залатавуст. Паводле слоў беларускага філосафа, ніхто з людзей насамрэч не ведае і не можа ведаць, дзе размяшчаецца Ад, паколькі Бог ніколі не гаварыў пра гэта. Таму і спрачацца пра месца яго знаходжання — пусты занятак. Несумненна толькі тое, даводзіў Будны, што Ад створаны Богам для Д'ябла, а не для душ праведных людзей і анёлаў. Ва ўсе часы душы людзей, найперш святых угоднікаў, траплялі ў «рукі Божыя», а не ў пекла і «цемрадзь апраметную».

Сымон Будны палымяна заклікаў, каб кожны чалавек, жывучы з Божым страхам у душы, заўжды памятаў пра надыход Суднага дня і ўсе ўчынкі ўзгадняў з Хрыстовымі запаведзямі, ні пры якіх акалічнасцях не апускаў рукі, не губляў надзеі на выратаванне, не бавіў час у адчаі і роспачы, а вызнаваў сапраўдную веру, чыніў добрыя справы, што і з'яўляецца галоўнай умовай набыцця Нябеснага Царства і вечнага жыцця. Думка пра непазбежнае пакаранне чалавека за зямныя грахі займала ў вучэнні беларускага інтэлектуала дамінуючае месца.

Цвёрдыя этычныя нормы, якія б рэгламентавалі паводзіны людзей, іх учынкі ў розных сферах прыватнай і грамадскай дзейнасці, Сымон Будны выпрацоўваў на працягу ўсяго жыцця. У адпаведнасці з уласным светапоглядам асветнік меў на мэце даць адказ на асноватворныя пытанні быцця, выказваў прапановы аб тым, як належыць жыць чалавеку, каб у дзень Страшнага суда ён змог атрымаць найвялікшую ўзнагароду і каб яго душа не загінула ў вогненнай геене, а атрымала Нябеснае Царства і вечнае жыццё з Богам.

Беларускі інтэлектуал лічыў, што дасканалыя маральныя прынцыпы змешчаны акурат у Слове Божым, а задача духоўных настаўнікаў заключаецца ў тым, каб зразумець, чаго хацеў Усявышні, і данесці яго волю і навуку да простага люду ў даступнай форме. Сымон Будны сцвярджаў, што Божая воля выказана не толькі ў Новым Запавеце, але таксама і ў Старым Запавеце, найперш, у Дзесяці запаведзях Майсея, чатыры з якіх вучаць, як належыць адносіцца да Бога, а астатнія шэсць — як ставіцца да бліжняга.

Сымон Будны дэталёва акрэсліў прызначэнне кожнай з дзесяці Божых запаведзяў. У «Катэхізісе», адказваючы на пытанне, дзеля чаго Госпад Бог даў свой закон і запаведзі, асветнік пісаў: «Каб кожны ведаў, што ёсць грэх, а што ёсць дабро». Адметнасць вучэння Сымона Буднага аб найвышэйшым маральным законе ў тым, што ён падрабязна аналізаваў кожную запаведзь у пяці галоўных кірунках: як належыць разумець змест і галоўны сэнс запаведзі; што неабходна чыніць, каб захоўваць яе; чаго нельга рабіць, каб не супярэчыць ёй; якія ўзнагароды чакаюць таго, хто зберагае запаведзь; як будуць пакараны тыя, хто яе парушае.

Ключавое звяно этычнай сістэмы Сымона Буднага — *шанаванне бацькоў* і наогул усіх старэйшых, як таго патрабавала пятая

запаведзь. На думку гуманіста, пашана павінна выяўляцца не толькі ў знешніх формах — уважлівым выслухоўванні старэйшых, здыманні шапкі пры сустрэчы з імі,— але і на больш глыбокім узроўні, да чаго заклікала Святое Пісанне: «Каб слухаліся сваіх бацькоў, выконвалі іх волю, усяляк шанавалі іх, а калі трэба, ахвяравалі ім вынікі ўласнай працы. У гэтым сутнасць шанавання». Кожны чалавек, вучыў Сымон Будны, мусіць гэтаксама шанаваць настаўнікаў, пастыраў, урадоўцаў, без якіх немагчыма годнае жыццё.

Да Божага маральнага закону Сымон Будны адносіў шостую запаведзь — *«Не забі»*. Беларускі асветнік так каментаваў яе сутнасць: «Забойства — гэта не толькі знішчэнне іншага рукой або зброяй, але таксама абраза і знявага чалавека, гняўлівасць і зайздрасць». У іншым месцы Сымон Будны дадаваў: «Ты, чалавек, з усімі тваімі пачуццямі, органамі, жаданнямі і схільнасцямі,— не забі!»

У рэфармацыйнай літаратуры Беларусі XVI стагоддзя запаведзь «Не забі» набыла актуальнасць у сувязі з агульнатэарэтычнай палемікай вакол пытанняў аб тым, ці можа хрысціянін забіваць разбойніка, ці мае ён права бараніцца сам, ваяваць з крыўдзіцелямі і захопнікамі, а гэтаксама ці патрэбны наогул хрысціянскай дзяржаве войска і жаўнеры. Адказваючы на першае пытанне, Сымон Будны зыходзіў з таго, што пакаранне ўсякіх разбойнікаў, ворагаў, захопнікаў павінна абапірацца выключна на закон і ажыццяўляцца толькі паводле ініцыятывы ўрада або вышэйшага гаспадара. «Урад ад Бога дзеля таго абраны,— пісаў ён,— каб злых караць, а добрых аберагаць. Таму Урад не грашыць, калі карае злых, не толькі абвінавачаннямі, збіццём, але і смерцю. Калі ж нехта забівае злачынцу сам, без рашэння Урада, той ускладае на сябе вялікі грэх. Бо ніхто не мае права асабіста помсціць і браць у свае рукі меч за прычыненыя яму крыўды і шкоды».

Сымон Будны ўзняў і адметна вырашыў надзвычай далікатную і тонкую юрыдычную праблему аб дапушчальнай ступені самаабароны. Згодна з яго тэорыяй, хрысціянін не толькі мае права, але і абавязаны ў першую чаргу асабіста супрацьстаяць разбойнікам. А калі ён раптам заб'е крыўдзіцеля, то не можа лічыцца злачынцам і ўрад не павінен караць яго як забойцу.

Чалавек высокай маралі і духоўнасці, Сымон Будны як сапраўдны гуманіст крытыкаваў масавыя забойствы, войны, асабліва асуджаючы «праліццё хрысціянскай крыві». Разам з тым, ён адрозніваў справядлівыя войны, накіраваныя на абарону радзімы, у якіх хрысціяне маглі браць удзел, ад несправядлівых, захопніцкіх, а значыць — антычалавечых, варожых Хрысту і Яго вучэнню. «Не ў кожнай вайне хрысціянін можа ўдзельнічаць,— вучыў беларускі асветнік.— Бо часам вайна бывае несправядлівая, напрыклад, калі нейкі тыран або ганарлівы дыктатар не задавальняецца сваім панствам і пачынае сілай захопліваць чужыя гарады і княствы. Такую вайну хрысціянін не павінен падтрымліваць, бо такая вайна — гэта разбой. Справядлівая вайна — гэта вайна, якая мае на мэце аброну сваёй зямлі, калі кароль ці князь бярэ зброю супраць сваіх ворагаў не дзеля ганарлівасці і прагі ўлады, а дзеля таго, каб даць адпор ворагу, каб яго падданых не мардавалі, не саджалі ў вязніцы, не гналі ў палон, не няславілі жанчын і дзяўчат, цэрквы не рабавалі, дзяцей не забіралі і не збівалі, гарады не спусташалі, настаўнікаў не разганялі і не міналі іншым добрым справам. Дзеля такіх прычын — вайна справядлівая. У такой вайне хрысціянін можа браць удзел з чыстым сумленнем».

Сымон Будны асуджаў *пралюбадзейства*. Аднак, у адрозненне ад Майсея, беларускі інтэлектуал абураўся як цялеснай, гэтак і ўнутранай, духоўнай распуснасці. Ён вучыў, што чалавек «не толькі целам павінен быць чысты ад бруду, але і сэрцам і душой». Да юрлівых, блюзнерскіх учынкаў Сымон Будны адносіў нядобрыя задумы («у сэрцы агіднае задумваць»), плюгавыя словы, брыдкія песні, паганскія карагоды і скокі, нежаданне беднякоў з-за сваёй нэндзы ўступаць у шлюб, здраду мужа жонцы і наадварот. Разам з тым, Сымон Будны адкінуў і раскрытыкаваў заклікі каталіцкіх і праваслаўных тэолагаў да захавання жанчынамі дзявоцтва, якое яны ўважалі за найвышэйшую праяву служэння Хрысту. Будны насуперак ім заяўляў, што адсутнасць дзяцей і імкненне да захавання пажыццёвага дзявоцтва не адпавядаюць ні прыродным законам, ні Божым пастановам.

Найвялікшым святатацтвам беларускі пісьменнік-гуманіст лічыў *зладзейства*. Пад гэтую катэгорыю граху адназначна траплялі гульцы ў косці і карты, ліхвяры, якія жывуць з працэнтаў, гультаі, што кор-

мяцца за кошт іншых, гандляры, якія прадаюць сапсаваны тавар, падданыя, што крадуць у сваіх гаспод, і паны, якія абіраюць падданых, а гэтаксама мытнікі, што патрабуюць платы, вышэйшай за ўстаноўленую дзяржавай. Злодзеямі ўдвая, паводле слоў Буднага, з'яўляюцца біскупы і пастары, якія ўжываюць царкоўную маёмасць дзеля ўласнай карысці і хаваюць ад сваіх парафіянаў праўду.

Да блюзнерскіх з'яў Сымон Будны адносіў хлусню, даводзячы, што толькі праўда дае мажлівасць выратавацца. Дзявятую запаведзь — *«Не ўзводзь на свайго бліжняга хлуслівага сведчання»*,— на думку асветніка, парушае той, хто хлусіць перад судом, парушае прысягу ці дагавор, узводзіць паклёпы, наўмысна перакручвае нечыя словы, думае злое пра кагосьці, а гэтаксама той, хто на словах гаворыць адно, а ў думках трымае іншае. Сымон Будны прапаноўваў адрозніваць хлусню ад замоўчвання ці ўтойвання, якія не з'яўляюцца грахом, а часам нават вельмі неабходныя дзеля добрай справы і міру між людзьмі.

Разважаючы пра найвышэйшы маральны закон, Сымон Будны прыйшоў да высновы, што выканаць яго, нават часткова, не ў стане аніводзін чалавек, апрача Сына Божага Ісуса Хрыста. Дасканалы маральны закон, дадзены Усявышнім, паводле сцвярджэння Буднага,— гэта ідэал, дасягненне якога, аднак, немагчымае. Але ён выключна патрэбны людзям: «Бог не для таго ўсталяваў закон, каб яго чалавек мог бездакорна выконваць, але, найперш, для таго, каб усвядоміў і ўбачыў уласныя недахопы. А ўбачыўшы, каб на сябе не спадзяваўся, а там дзе належыць шукаў лекі і выратаванне». Акрамя таго, Божыя запаведзі, на думку Буднага, патрэбны і дзеля таго, каб злыя людзі памяталі пра немінучае пакаранне, а добрыя мелі перад сабой надзейны жыццёвы арыенцір і сапраўдную навуку, а гэтаксама — дзеля выкрывання грахоў, застрашэння сумлення, урэшце, каб людзі ведалі, што яны не вольныя чыніць усё гэтак, як ім уздумаецца.

Адметны падыход Сымона Буднага да Божых запаведзяў прадвызначыў адметнае вырашэнне асветнікам шматвяковай спрэчкі пра тое, што найбольш даспадобы Богу і што патрэбна чалавеку дзеля выратавання — вера ў Хрыста альбо добрыя справы. Сымон Будны прыйшоў да наступнай высновы: толькі непарыўнае спалучэнне веры,

якая ўсё ж з’яўляецца вызначальнай, і добрых спраў дае надзею на будучае жыццё. У пацвярджэнне свайго меркавання ён спасылаўся на словы апостала Паўла з «Паслання да яўрэяў» (11: 1 — 16).

На старонках «Катэхізіса» Сымон Будны звярнуўся да палітыка-прававых праблем — аптымальнай арганізацыі жыцця грамадства, функцыянавання дзяржавы і ўрадавых структур, узаемадачыненняў розных станаў, адносін да прыватнай уласнасці. Пісьменнік-інтэлектуал паказваў непазбежнасць сацыяльнай іерархіі ў грамадстве, сцвярджаючы, што ні Ісус Хрыстос, ні апосталы ніколі не патрабавалі знішчэння багатых і прыватнай уласнасці.

У «Катэхізісе» беларускі філосаф выступіў з доказамі не толькі непазбежнасці, але і неабходнасці сацыяльнай няроўнасці: «Такім чынам, хрысціяніну можна мець уласную маёмасць. Але яна павінна быць набыта сумленным шляхам. Кожны ўласнік павінен таксама даваць міласціну бедным».

Абапіраючыся на глыбокі аналіз новазапаветных твораў, Сымон Будны прыйшоў да надзвычай важнай высновы аб тым, што ў часы Хрыста і апосталаў, калі, на яго думку, між паслядоўнікамі Месіі існавалі ўзорныя адносіны, хрысціяне валодалі рознымі відамі ўласнасці: маёнткамі, землямі, грашыма, каштоўнымі рэчамі. Акурат гэта давала яму ўсе падставы сцвярджаць: кожны хрысціянін, ва ўсе часы і дзе б ён ні знаходзіўся, не толькі мае права на нейкую ўласнасць, але і абавязаны мець яе, каб прыстойна жыць і мець магчымасць выконваць запаветы Хрыста.

У абарону ўласнага меркавання асветнік прыводзіў у першую чаргу рацыяналістычныя доказы, звяртаючы ўвагу на тое, што пазбаўленне хрысціяніна яго набытку і скарбу — гэта найвышэйшае глупства і, больш за тое, шкодная для ўсіх рэч. «Зразумей, чаму кожны чалавек павінен мець уласную маёмасць,— вучыў Будны.— Бо калі зараз кожны пакіне свой маёнтак або аддасць яго некаму, дык не толькі не будзе мець з чаго даваць міласціну ў будучым, але і сам будзе змушаны прасіць хлеба ў іншых».

Выключныя разумовыя здольнасці дазвалялі Сымону Буднаму падчас выпрацоўкі ўласнай сацыяльна-палітычнай дактрыны ўлічваць усе фактары грамадскага жыцця, дзякуючы чаму ён дасягаў збалан-

саванасці інтарэсаў розных сацыяльных станаў і груповак. У выніку, тэарэтычныя разважанні Буднага і зробленыя на іх падставе практычныя рэкамендацыі ўдасканалення грамадства сталіся найбольш эфектыўнымі і прынеслі аптымальную карысць тагачаснаму чалавеку. Вучэнне Сымона Буднага аб прыродзе ўлады вонкава традыцыйнае, але яно цалкам наватарскае паводле сутнасці. За знешнім падабенствам з вядомымі ўжо тэорыямі праглядваўся цалкам новы змест, які ўлічваў новыя гісторыка-культурныя і сацыяльна-палітычныя рэаліі.

Акурат у «Катэхізісе» Сымон Будны сфармуляваў фундаментальныя прынцыпы функцыянавання справядлівай улады. Ён пры гэтым даводзіў, што ўсякая ўлада, усякі ўрад і нават кожная яго састаўная частка паходзяць ад Бога, створаны Яго воляй і ўжо таму з'яўляюцца недатыкальнымі і неабходнымі, нават калі знаходзяцца людзі, якія думаюць інакш. «Не далёка адыходзячы,— пісаў асветнік,— убачым, хто паставіў цароў, князёў, ваяводаў і іншых урадоўцаў. Усё Святое Пісанне — Стары і Новы Запаветы — сведчыць: усіх іх на пасады ўзвёў Бог». Сымон Будны пры гэтым, у якасці абгрунтавання выказанай думкі, спасылаўся на «Прытчы» Саламона, дзе Прамудрасць (Сын Божы) гэтак мовіла: «Праз мяне цары правяць і ўладары ўзаконьваюць праўду. Праз мяне начальнікі кіруюць, і вяльможы, і ўсе суддзі зямныя» (Прытчы 8: 15—16). Згадаўшы гэтыя словы Сына Божага ў «Катэхізісе», асветнік зазначыў: «І як можа быць больш яскрава сказана, чым тое, што тут сказаў Сын Божы!»

З мэтай пацвярджэння Божага паходжання ўлады Сымон Будны прыводзіў гэтаксама выказванне апостала Паўла, які ў «Пасланні да рымлян» сцвярджаў: «Няма ўлады не ад Бога, усе існыя ўлады пастаўлены Богам» (13 :1),— і словы Ісуса, звернутыя да Пілата: «Ты не меў бы нада Мною аніякай улады, калі б не было табе дадзена зверху» (Ін. 19 :11).

Аднак Сымон Будны ўзняўся над традыцыйнымі ўяўленнямі пра сутнасць улады, зрабіўшы прыкметны ўнёсак у тэорыю дзяржавы. Асветнік пераканаўча давёў, што ў тых выпадках, калі ад улады зыходзіць зло, то вінавата не ўлада наогул, а канкрэтныя людзі, што карыстаюцца ёй з мэтай задавальнення ўласных амбіцый, а не дзеля грамадскай карысці. Улада і ўрадавыя пасады ні пры чым, сцвярджаў

Будны, калі канкрэтныя ўрадоўцы ператвараюцца ў жорсткіх тыранаў і дэспатаў. Улада гэтак жа невінаватая, як і золата, якое ліхія людзі скарыстоўваюць у злых і нікчэмных справах. Галоўная мэта, прызначэнне ўсякай улады і найвышэйшае апраўданне яе існавання, на думку асветніка,— дасягненне спакою ў гаспадарстве, захаванне правоў усіх грамадзян, абарона інтарэсаў кожнай асобы і ўсяго грамадства.

Сказанае вышэй ніколькі не азначае, што Сымон Будны не заўважаў хібаў у дзейнасці ўлад ці ў сістэме ўрадавых структур. Наадварот, ён як ніхто іншы бачыў недахопы і заганы тагачаснай дзяржавы. Праўда, філосаф пры гэтым не кідаўся ў крайнасць і не патрабаваў на ўзор анархістаў яе ліквідацыі, а прапаноўваў эвалюцыйны шлях пераўтварэнняў і ўдасканалення грамадства шляхам укаранення ў жыццё шэрагу гуманістычных прынцыпаў. На іх, згодна з яго тэорыяй, павінны будавацца ўзаемаадносіны паміж носьбітамі ўлады — урадоўцамі — і ўсімі шэраговымі грамадзянамі — падданымі Вялікага Княства Літоўскага.

Галоўнае месца ў грамадстве, паводле меркавання Сымона Буднага, павінны займаць настаўнікі і пастыры. Адстойваючы ідэю прыватнай пропаведзі, гуманіст падкрэсліваў, што кожны член збору можа быць настаўнікам, калі ён адчувае сваю здатнасць выконваць гэтую місію. Вельмі істотна, што Сымон Будны выступаў за ўжыванне роднай мовы ў набажэнстве і казаннях.

Беларускі пісьменнік-інтэлектуал не лічыў бездакорнымі творы ні заходніх, ні ўсходніх аўтараў. Адмаўляючы абсалютны аўтарытэт святых айцоў Царквы, як праваслаўных, так і каталіцкіх, Сымон Будны выкрываў памылкі іх вучэнняў. Да прыкладу, пра Іаана Дамаскіна ён аднойчы напісаў: «А што датычыць Дамаскіна, той не толькі ў гэтым памыляецца, але і ў шмат якіх іншых рэчах. Таму не варта на яго пісанні асабліва зважаць».

Сымон Будны сцвярджаў, што дзеля беспамылковага спасціжэння сэнсу Святога Пісання абавязкова неабходна разглядаць і ўважліва аналізаваць, паклікаўшы на падмогу Святога Духа, кожнае выказванне не толькі паасобку, але і ў кантэксце ўсяго твора. «Катэхізіс» Сымона Буднага перапоўнены ўласна тэалагічнай праблематыкай.

Паводле характару вырашэння пытанняў, звязаных з магчымасцю пазнання Бога, пісьменнік выкарыстоўваў два падыходы, існуючыя ў сярэднявечнай хрысціянскай тэалогіі: катафатычны, у адпаведнасці з традыцыямі якога Бог вызначаўся праз станоўчыя характарыстыкі — вечны, добры, мудры,— і апафатычны, паводле якога Госпад Бог характарызаваўся шляхам адмаўлення нейкіх уласцівасцей — несмяротны, непадзельны, неабдымны і гэтак далей.

Выхаваны на рэнесансавых ідэях, Сымон Будны катэгарычна не пагаджаўся з антрапамарфічнай тэорыяй Бога, паводле якой Усявышні персаніфікаваўся, упадабляўся людзям. Беларускі філосаф не прымаў артадаксальнага вучэння аб тым, што адзіным сапраўдным Богам з'яўляецца непадзельная Тройца.

Сымон Будны шматкроць звяртаўся да хрысталагічнай праблематыкі. Як і большасць тагачасных пісьменнікаў, ён лічыў, што Ісус Хрыстос з'явіўся на свет з Божай волі, каб выратаваць чалавечы род, які патануў у грахах. Аднак Будны не пагаджаўся з разважаннямі так званых «спрадвечнікаў», якія даводзілі, нібыта Ісус Хрыстос існаваў ужо да стварэння свету і побач з Айцом ствараў усё жывое і нежывое. Адметнасць хрысталогіі Сымона Буднага выявілася пры асвятленні ім зямнога жыцця Ісуса Хрыста, а таксама пры раскрыцці сутнасці ўкрыжавання Сына Божага. Так, беларускі пісьменнік падкрэсліваў, што пакаранне смерцю Месіі менавіта Пілатам — прадстаўніком імператарскай улады — невыпадковае. Яно падкрэслівала невінаватасць, бязгрэшнасць укрыжаванага і чысціню яго намераў.

Значнае месца ў «Катэхізісе» Сымона Буднага займала эклезіялагічная тэматыка. Новае прачытанне Сымонам Будным Біблii і пераасэнсаванне яе зместу стварылі перадумовы для перагляду ім традыцыйных поглядаў на Хрыстову Царкву. Услед за еўрапейскімі рэфарматарамі ён выступіў з крытыкай царкоўнай іерархіі, абсалютызаванай і абагатворанай улады Папы Рымскага. Адстойваючы гуманістычныя ідэі свабоды духу, індывідуальнай вартасці чалавека, унікальнасці кожнай асобы, Сымон Будны сцвярджаў, што ўсякі вернік можа размаўляць з Богам без пасярэднікаў.

Сымон Будны выказаў адмоўнае стаўленне да манастырскага жыцця, пустэльніцтва і скітніцтва. Крайнія формы аскетызму, як і

прага непамерных багаццяў, супярэчыла, паводле яго слоў, сутнасці сапраўднай Хрыстовай Царквы. У адрозненне ад радыкальных пратэстанцкіх ідэолагаў, Сымон Будны бараніў правы хрысціянскіх збораў на прыватную ўласнасць, маёнткі і землі.

Як бачна, «Катэхізіс» Сымона Буднага з'яўляўся незаменнай чытанкай для дзетак. Але адначасова гэта быў неардынарны літаратурны, філасофскі і багаслоўскі твор, адметны паводле стылю і духоўнай глыбіні. Невыпадкова «Катэхізіс» Сымона Буднага выклікаў шырокую палеміку, якая стала прыкметнай з'явай усяго ўсходнеславянскага і еўрапейскага інтэлектуальнага жыцця.

## II

Літаральна праз тры месяцы пасля з'яўлення «Катэхізіса» з Нясвіжскай друкарні выйшаў другі твор Сымона Буднага на старабеларускай мове — *«Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам»*. На жаль, да цяперашняга часу не захавалася аніводнага экзэмпляра твора.

У «Пасляслоўі» да кнігі адзначалася: «Завершана гэтая кніга аб Апраўданні 11 кастрычніка 1562 года ў Нясвіжы. Надрукавана коштам дабрасумленных людзей — Мацвея Кавячынскага, Лаўрэнція Крышкоўскага і Сымона Буднага». Кніга прысвячалася вядомаму дзяржаўнаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага Астафею Валовічу — тагачаснаму земскаму падскарбію. Бо менавіта ён выдаткаваў значную суму грошай на пабудову Нясвіжскай друкарні і яе матэрыяльнае забеспячэнне.

У «Прысвячэнні» аўтар «Апраўдання...» выказваў шчырую ўдзячнасць беларускаму магнату Астафею Валовічу. Ён, у прыватнасці, адзначаў: «Часта ад вашай міласці чуў абяцанні, што гатовы падтрымліваць сапраўдных настаўнікаў і не шкадаваць сродкаў дзеля выдання кніг, каб навучаць падданых. І не толькі абяцаеш, але і шмат робіш. Вось заснаваў друкарню, а гэта добры грунт для пачатку вялікай справы. Памятаючы пра добрыя справы вашай міласці і жа-

даючы выказаць маю сардэчную ўдзячнасць, я з маімі таварышамі вырашыў надрукаваць нашу кнігу з прысвячэннем вашай міласці».

Твор Сымона Буднага «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» не менш значны, чым «Катэхізіс». Зусім невыпадкова супраць яго выступіў пісьменнік-палеміст XVI стагоддзя манах Арцёмій, які жыў у маёнтку Юрыя Слуцкага пасля ўцёкаў ад праследу з Маскоўскага княства.

Арцёмій адрасаваў беларускаму асветніку два «Пасланні». У адным з іх ён адзначаў, што новая кніга Буднага напісана на грунце памылковых вучэнняў — «паводле твайго хлуслівага розуму».

Гістарычная каштоўнасць «Пасланняў» Арцёмія ў тым, што яны дазваляюць глыбей зразумець характар узаемаадносін Сымона Буднага з маскоўскім багасловам, а таксама выявіць, як успрымаліся яго першыя творы сучаснікамі і, нарэшце, якія аргументы супраць іх выстаўлялі апаненты, у дадзеным выпадку — прадстаўнік Праваслаўнай царквы.

З «Пасланняў» Арцёмія дакладна вядома, што Сымон Будны сустракаўся з іх аўтарам, непасрэдна гутарыў з ім, а пазней ліставаўся і дасылаў яму ўласныя кніжкі, жадаючы пачуць ягоныя меркаванні. Доказам таму з'яўляецца наступнае выказванне праваслаўнага пісьменніка: «А затым пішаш да нас, пытаючы нашага меркавання адносна той кнігі, якую нядаўна надрукавалі ў Нясвіжы».

Арцёмій адмоўна ацэньваў абодва творы Буднага, паколькі ў іх, на яго думку, беларускі тэолаг пайшоў не за сапраўднымі настаўнікамі — грэчаскімі айцамі Царквы,— а ўзброіўся ідэямі «ерэтыкоў» — Арыя, Петыяна, Маркіёна, Яўномія, Пелагея, Македонія ды ўсялякіх іншых «адступнікаў». На пытанне Сымона Буднага, як ён ацэньвае плён яго працы, Арцёмій адказаў яму красамоўнай прымаўкай: «Мякка сцелеш, ды мулка спаць».

Праваслаўны пісьменнік неаднаразова падкрэсліваў, што ён жадае Сымону Буднаму толькі дабра і мае да яго асабістыя сімпатыі — «ставіцца з павагай, спадзеючыся на яго добры розум». Арцёмій настойліва раіў асветніку карэнным чынам змяніць погляды і пісаць не «аднадзёнкі», а кнігі, багатыя зместам, «грунтоўныя, якія карысныя ўсім хрысціянам, не шкодзяць ім, не з'яўляюцца ні дровамі, ні сенам,

ні саломай новых навук, што супярэчаць Божай царкве». Вядома, адзінай «Божай царквой» Арцёмій лічыў Праваслаўную. Творы Сымона Буднага, скіраваныя супраць яе, паводле сцвярджэння Арцёмія, неўзабаве будуць забыты, і кожны будзе мець падставы пагарджаць імі. Але, як паказаў час, тагачасны лідар праваслаўных памыляўся ў сваіх ацэнках.

Арцёмій пісаў да Сымона Буднага не толькі з мэтаю асудзіць яго дзейнасць. Змест яго «Пасланняў» сведчыць пра імкненне схіліць неардынарнага і таленавітага інтэлектуала на бок праваслаўя. Невыпадкова, звяртаючыся да аўтара «Катэхізіса» і «Апраўдання», ён угаворваў яго: «Прашу тваю міласць, спадара майго, калі яшчэ не канчаткова зваліўся ў жыдоўства, спыніся. Перастань ганьбіць Божую царкву, пакайся перад Богам. Пакінь ерэтычныя вучэнні, выдуманыя для ганарлівых людзей. Не пашырай цёмныя вынаходніцтвы, якія вынайдзеныя дзеля пагібелі тых, хто прыме іх».

Імкнучыся ўздзейнічаць на пачуцці Буднага і яго аднадумцаў, Арцёмій у вобразнай форме, карыстаючыся алегорыямі і сімваламі, раіў яму неадкладна пакінуць «няправедныя навукі», выйсці на шлях праўды, вярнуцца да «сонечнага святла». Ён палымяна заклікаў: «Дай божа, каб не толькі ты, але і ўсе астатнія пакінулі цёмныя шляхі аблудных навук і святлом праўды азарыліся! Каб выкінулі са сваіх сэрцаў тое, што нарадзілася ў начной цемрадзі. Каб развіталіся з тым, што вадой не адмыць і ў бялізну не загарнуць, і на што сонца не жадае свяціць, і знікненню чаго ўвесь свет радуецца».

Сярод таварышаў Сымона Буднага Арцёмій называў Кузьму (Андрэя) Каладзінскага — аўтара апакрыфічнага «Ліста палачаніна Смеры да вялікага князя Уладзіміра Святога», які, паводле сцвярджэння Арцёмія, прапаведаваў шкодныя антытрынітарныя ідэі. З абурэннем Арцёмій паведамляў Буднаму пра ўчынкі Кузьмы Каладзінскага: «І таварыш ваш, Кузьма, якога вы называеце Андрэем, у Віцебску пашырае агідныя ерасі. Ён вучыць, што нельга верыць у адзінасутнасную Тройцу. Яго знявагі ў адрас Бога чула ўсё войска, якое знаходзілася там, і сам вялікі гетман, і шматлікія князі, і вялікія паны. І той Кузьма распаўсюджваў ліст, які быў дасланы яму ад вашага зборышча з Вільні».

На просьбу Сымона Буднага выказаць уласнае стаўленне да новастворанай Царквы Арцёмій здзекліва адказаў, што ён ніколі не лічыў іх «зборышча» Царквою, бо, апрача мясаядзення і непрыняцця пастоў, у іх «сектах» няма аніякага адзінства, а ўсю навуку яны зводзяць толькі да крытыкі сапраўдных хрысціян і лаюць праўдзівую Царкву, не раўнуючы, як «бязбожныя ерэтыкі».

Арцёмій не абмежаваўся агульнымі абвінавачваннямі. У «Пасланнях» ён як след прааналізаваў галоўныя палажэнні «Катэхізіса» і «Апраўдання...», выказаў уласныя аргументы супраць хрысталогіі Буднага, раскрытыкаваў яго вучэнні аб абразах, тайнах і пастах. Дарэчы, менавіта дзякуючы крытыцы Арцёмія і цытаванням у яго лістах асобных месцаў з «Апраўдання...» сёння можна атрымаць пэўнае ўяўленне пра змест страчанага твора Сымона Буднага.

Як бачна, Сымон Будны свае першыя творы — «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» — напісаў акурат на старабеларускай мове, а не па-польску, што з'яўляецца фундаментальным доказам на карысць яго беларускага паходжання, а не польскага. Матчынай мовай асветніка несумненна была беларуская мова, аб чым дадаткова сведчыць і яго красамоўны заклік да князёў Радзівілаў шанаваць яе ва ўсе часы, берагчы як неацэнны скарб. «Добрая была б справа,— пісаў ён у звароце да Радзівілаў,— каб ваша княская міласць, перадусім, шанавалі мову таго народа, да якога належалі славутыя продкі вашай міласці».

Іншаземец, відавочна, не напісаў бы гэткіх пранікнёных слоў. Яны маглі нарадзіцца толькі ў сэрцы патрыёта, якому была дарагая матчына мова.

## III

Публічная дыскусія пачатку 60-х гадоў XVI стагоддзя паміж клецкімі, нясвіжскімі, віленскімі і малапалянскімі пратэстантамі, прысвечаная досыць складанаму тэалагічнаму пытанню пра зыходжанне Святога Духа, падштурхнула Сымона Буднага да напісання

твора *«Аб зыходжанні Святога Духа»*. Беларускі тэолаг, жадаючы пачуць меркаванні знаных еўрапейскіх тэарэтыкаў Рэфармацыі, паслаў падрыхтаваны на лаціне багаслоўскі трактат у Цюрых Генрыху Булінгеру, які з 1532 года з'яўляўся кіраўніком рэфармацыйнай Царквы, спрыяў увядзенню Рэфармацыі ў Бернскім кантоне, напісаў Гельвецкі сімвал веры 1536 года.

Надзвычай цікавы суправаджальны ліст Сымона Буднага да лідара швейцарскай Рэфармацыі. У ім паведамлялася пра поспехі новага вучэння ў Вялікім Княстве Літоўскім, ухвалялася дзейнасць мецэната Мікалая Радзівіла, якому, дарэчы, Булінгер таксама прысвячаў свае творы. Сымон Будны пісаў славутаму вучонаму пра цяжкасці, з якімі сутыкаліся беларускія пратэстанты, асуджаў уціск з боку Каталіцкага касцёла і Праваслаўнай царквы, а таксама перашкоды, якія чынілі яму прыхільнікі паганства.

Такім чынам, жывучы ў Клецку, Сымон Будны ў 1562—1563 гадах пачаў наладжваць непасрэдныя кантакты з дзеячамі заходнееўрапейскай Рэфармацыі. Беларускі тэолаг, робячы кампліменты свайму далёкаму аднадумцу, пісаў пра шырокую папулярнасць яго твораў на Беларусі і паўсюль сярод славян, урэшце, прасіў прачытаць твор «Аб зыходжанні Святога Духа» і выказаць меркаванні наконт узнятых пытанняў. Цяпер, на жаль, невядома, ці адказаў Булінгер Сымону Буднаму. Хутчэй за ўсё, не, бо рукапіс твора беларускага пісьменніка застаўся ў Цюрыху, дзе і па сёння захоўваецца ў дзяржаўным архіве. Напэўна, штосьці перашкодзіла Булінгеру даць адказ і адаслаць «адрэцэнзаваны» твор аўтару.

Прыкладна ў сярэдзіне 1563 года тэалагічныя погляды Сымона Буднага радыкальна змяніліся. Ён перайшоў на бок антытрынітарыяў і пачаў вызнаваць адзінага Бога, адмовіўшыся ад дагмата Тройцы.

Светапоглядныя зрухі беларускага асветніка знайшлі адлюстраванне ўжо ў польскамоўным выданні «Катэхізіса» (Нясвіж, 1563—1564), у якім ён змясціў асобныя раздзелы з крытыкай абаронцаў ідэі траістасці Бога і аргументы супраць іх дактрыны.

Неўзабаве пасля выхаду з друку «Катэхізіса» на польскай мове і публічных антытрынітарных выступленняў клецкага катэхізіста праваслаўныя і каталіцкія дзеячы абвінавацілі яго ў сувязях са стараза-

коннікамі, ці старазапаветнікамі, вучэнне якіх з'яўлялася мадыфікацыяй іўдаізму. Але гэта быў несправядлівы папрок. Погляды Сымона Буднага ў некаторых другасных момантах сапраўды супадалі з вучэннем старазапаветнікаў — у стаўленні да абразоў, малітваў да святых і ў адносінах да некаторых іншых догматаў. Аднак яны разыходзіліся ў галоўным: антытрынітарыі, у адрозненне ад старазапаветнікаў, ніколі не выракаліся хрысціянскага вучэння. Яны верылі ў выратавальную місію Сына Божага, лічылі Законам Божым не толькі Стары, але і Новы Запавет. Між імі існаваў непераадольны бар'ер: тэалагічная і этычная дактрына антытрынітарыяў — гэта толькі адметны кірунак хрысціянства, у той час як вучэнне старазапаветнікаў — не што іншае, як абноўлены іўдаізм.

Каб адмежавацца ад іўдаізму і развеяць усялякія сумненні сучаснікаў у дачыненнях са старазапаветнікамі, Сымон Будны узяўся за пераклад на польскую мову твора раннехрысціянскага апалагета Юстына *«Размовы Святога Юстына, філосафа і пакутніка, з Трыфанам Яўрэем»*, у якім якраз выкрывалася іўдзейскае вучэнне, паказваліся «перавагі» над ім хрысціянскай дактрыны.

16 кастрычніка 1564 года «Размовы...» Юстына былі надрукаваны Сымонам Будным у Нясвіжскай друкарні. У сваёй «Прадмове» перакладчык яшчэ раз падкрэсліў адмоўнае стаўленне да іўдаізму і выклаў уласнае разуменне сутнасці Хрыстовай навукі. Гэта быў вычарпальны і годны адказ на неабгрунтаваную крытыку з боку яго ідэйных праціўнікаў.

У Клецку Сымон Будны працягваў самаадукацыю. Ён набываў для сваёй бібліятэкі кнігі заходнееўрапейскіх аўтараў, захоплена аналізаваў творы грэчаскіх і лацінскіх апалагетаў хрысціянства, асабліва шануючы Тамаша Аквінскага. Пасля выдання польскамоўнай Брэсцкай Бібліі (1563) беларускім асветнікам авалодала ідэя зрабіць новы, больш дасканалы пераклад Святога Пісання і выправіць нарэшце хібы, якія з розных прычын былі дапушчаныя на працягу некалькіх стагоддзяў.

Пры здзяйсненні грандыёзнага перакладчыцкага праекта Сымон Будны натуральна разлічваў на матэрыяльную падтрымку Мікалая Радзівіла, які не толькі быў сталым фундатарам і арганізатарам

кнігавыдавецкай справы, але і сам някепска валодаў пяром, выступаў як пісьменнік-публіцыст і таму як ніхто іншы мог ацаніць нялёгкую працу творцы і вучонага.

Аднак ажыццявіць план перакладу Бібліі ў клецка-нясвіжскі перыяд Сымону Буднаму не ўдалося. У 1565 годзе Мікалай Радзівіл Чорны памёр. Увесь рэфармацыйны рух Беларусі пазбавіўся сваёй галоўнай апоры. Неспадзяваныя жыццёвыя абставіны прымусілі беларускага гуманіста шукаць іншы, больш прыдатны для творчасці прытулак.

## IV

Час няпэўнасці ў жыцці Сымона Буднага, на шчасце, не быў працяглым. Дзесьці ў канцы 1565-га ці ў самым пачатку 1566 года Ганна Кішчына, віцебская ваяводзіна, запрасіла яго ў Хоўхава кіраўніком, або, як тады казалі пратэстанты, міністрам тамашняга арыянскага збору.

У жыцці асветніка пачаўся новы перыяд. Упэўнены ва ўласных ведах і здольнасцях, таленавіты прапаведнік апантана ўзяўся за сталую працу над перакладам Бібліі і апокрыфаў на старазапаветныя і новазапаветныя тэмы, адначасова навукова асэнсоўваючы гэтыя творы. Ён меў намер самастойна, без непасрэднага творчага супрацоўніцтва з іншымі тэолагамі, справіцца з вырашэннем найскладанейшай задачы. І ўжо на сінодзе 1568 года ў Іўі Сымон Будны не без радасці паведамляў прысутным пра пэўныя поспехі сваіх безупынных перакладчыцкіх заняткаў.

У час знаходжання ў Хоўхаве Сымон Будны адхіляўся ад працы над перакладам, бадай, толькі для ўдзелу ў сінодах. Так, вядома, што ён браў удзел у рабоце арыянскіх сінодаў у Венграве (1566, снежань 1567) і Скрыне (чэрвень 1567), на якіх выступіў з абвяржэннем тэорыі спрадвечнага існавання Ісуса Хрыста.

З яго удзелам праходзіў вядомы сінод у Іўі (з 20 да 26 студзеня 1568). На ім Сымон Будны выступаў літаральна па кожным з пытан-

няў, вакол якіх узніклі дыскусіі: аб Пане Хрысце, які не быў асобай да нараджэння Марыяй; аб тым, што Пан Хрыстос і па лініі Іосіфа, і па лініі Марыі — сын Давыдаў; аб Святым Духу; аб Хрышчэнні: ці патрэбна яно верным або досыць таго, што іх хрысцілі ў дзяцінстве; пра ганарлівасць свету, пра запіранне саміх сябе, пра падданых і нявольнікаў, ці дазволена іх мець; аб клятвах і тым, у якім выпадку верныя могуць прысягаць; аб посце; аб выхаванні міністраў і аб плябанах; аб пакаранні ў Божым Слове; аб падрыхтоўцы міністраў і іх выпраўленні.

Сярод тых, хто прысутнічаў на Іўеўскім сінодзе і з кім Сымон Будны, несумненна, асабіста пазнаёміўся, былі многія тагачасныя арыянскія настаўнікі і казнадзеі: Павел з Візны — міністр пана Давыда Эсмана, былы суперінтэндант віленскі, Ян Баптыста Свяніцкі — кейданскі міністр, Блазіуш Качаноўскі — заслаўскі міністр, Якуб з Калінаўкі — колішні міністр пана Астафея Валовіча, Сымон Зыра — лоскі міністр, Валянцін Еранімовіч — іўеўскі міністр, Сімяон Міхайловіч — лоскі катэхізіст.

Шляхту і гараджан Вялікага Княства Літоўскага на Іўеўскім сінодзе прадстаўлялі Мікалай Карызна, Давыд Эсман, Мікалай Станіслававіч, Вацлаў Карызна, Юрый Свяніцкі, Мікалай з Гэмбіна — віленскі аптэкар,— Рыгор Валадковіч — віленскі мешчанін — і іншыя прыхільнікі рэфармацыйнага вучэння на Беларусі.

Характар дыскусій і іх вынікі Сымон Будны перадаў у сваім творы *«Апісанне Іўеўскага сінода 1568 года»*, напісаным неўзабаве пасля сінода, але выдадзеным значна пазней. На старонках твора Сымон Будны выступіў як гістарыёграф пратэстантызму.

У першай частцы «Апісання...» вельмі дэталёва пададзены спрэчкі аб тым, ці могуць сапраўдныя хрысціяне мець падданых і нявольную чэлядзь. Як сведчыць змест твора, Сымон Будны вёў на сінодзе гарачыя дыскусіі з ваяўнічымі камуністамі XVI стагоддзя. Яго апаненты, не прызнаючы аніякіх кампрамісаў, катэгарычна сцвярджалі, што падзел людзей на гаспадароў і падданых не адпавядае Хрыстовай навуцы, з чым не пагаджаўся Сымон Будны. Абапіраючыся на творы апостала Паўла, ён даводзіў якраз адваротнае.

На пачатку твора, у звароце да чытача, Сымон Будны зазначаў: «Шаноўны Чытач! Каб ты не марнаваў дарэмна часу, падам тут

вытрымкі з майго дыспуту ці размовы, якую меў 15 год назад з некалькімі міністрамі на Іўеўскім сінодку. Там абмяркоўвалася наступнае пытанне: ці можа хрысціянін мець падданых і нявольную чэлядзь або не. На той час нейкі Якуб з Калінаўкі выказаў ерэтычныя думкі, нібыта сапраўдным вучням Пана Хрыста нельга трымаць урад і мець паднявольную чэлядзь. На свой бок ён схіліў некалькіх асоб са шляхты, з міністраў і з мяшчан віленскіх. З імі пазней, у 1569 годзе, ён выехаў з Літвы да нейкага Ракава».

Вастрыню і небывалы драматызм спрэчкам аб гаспадарах і падданых надавала тое, што акурат у 70—80-я гады XVI стагоддзя пачаўся перагляд шэрагу юрыдычных нормаў Статута — асноўнага прававога кодэкса тагачаснай дзяржавы. Тэарэтычныя дыскусіі пераходзілі ў плоскасць практычных дзеянняў: яны маглі аказваць непасрэдны ўплыў на канкрэтны змест новай рэдакцыі Статута, што мела як станоўчыя, так і адмоўныя бакі. Перад Сымонам Будным і яго аднадумцамі, такім чынам, паўстала звышзадача — разбіць сістэму аргументаў радыкальна настроеных дзеячаў Рэфармацыі, адкінуць іх сацыяльна-палітычную канцэпцыю, пераканаць дзяржаўных дзеячаў, юрыстаў, членаў статутавай камісіі ў тым, што асноватворныя палажэнні камуністычнай дактрыны з'яўляюцца памылковымі.

Тэзіс аб немагчымасці і недазволенасці сапраўдным хрысціянам мець падданых і нявольную чэлядзь ідэйныя праціўнікі Сымона Буднага пацвярджалі сведчаннямі са Святога Пісання і на іх падставе будавалі свае довады. Настойваючы на радыкальных рэформах грамадства, яны патрабавалі ад шляхты і магнатаў неадкладна даць свабоду нявольнай чэлядзі. У гэтым беларускія камуністы эпохі Рэфармацыі бачылі тую роўнасць, што, на іх думку, як быццам бы мела месца ў перыяд Хрыста і апосталаў, на якую, згодна з агульнапратэстанцкай дактрынай, неабходна было абапірацца ў часе рэформаў.

Першы довад супраць існавання падданых і нявольнай чэлядзі, як вынікае з твора Сымона Буднага, выказаў Павел з Візны.

Ён, крытыкуючы, між іншым, сацыяльную дактрыну Каталіцкага касцёла, якую лічыў вынікам дзейнасці Д'ябла, разважаў аб гаспадарах і падданых наступным чынам: «Дзякуючы ласцы майго Бога і прасветленасці ад Яго Святога Духа, я бачу шэраг рэчаў, якія ёсць

не што іншае, як сапраўднае папства. Адна з тых рэчаў — наяўнасць у некаторых братоў падданых, а яшчэ горш — нявольнай чэлядзі, якую яны трымаюць у прыгоне насуперак Божаму Слову. Калі ж нехта лічыць інакш — няхай адклікнецца і, калі здолее, давядзе ўласнае меркаванне Божым Словам. А я гэтак разумею і вызнаю, што вернаму нельга мець падданых, тым болей нявольнікаў і нявольніц. Панаваць над сваім братам, эксплуатаваць яго і распараджацца яго жыццём — гэта паганскі звычай! Святое Пісанне выразна сведчыць: Бог стварыў увесь чалавечы род з адной крыві (Дзеян. 17: 26). Таму ўсе роўныя між сабою. А раз мы з адной крыві, значыць, мы — браты адзін аднаму. А калі браты, то як можа адзін брат панаваць над іншым братам?! Як можа карыстацца вынікамі ягонай працы?! Буду рады пачуць, калі хто-небудзь дакажа мне адваротнае».

Выдатны экзегет і тонкі знаўца Бібліі Сымон Будны на старонках свайго твора аспрэчыў высновы Паўла з Візны. Ён зазначыў наступнае: словы «І сатварыў Бог з адной крыві ўвесь род чалавечы» (Дзеян. 17: 26), ужытыя апосталам Паўлам не для таго, каб заклікаць усіх да поўнай роўнасці, а зусім з іншай мэтай — адвесці людзей ад паганскага пакланення слупам і дрэвам, схіліць іх да веры ў адзінага Бога. Менавіта за гэткае прачытанне выказвання апостала Паўла, на думку Буднага, гаворыць увесь змест 17 раздзела Дзеянняў. «Добра, браце, сказаў,— звяртаўся Будны да свайго апанента,— што Антыхрыст у Доме Божым усё змяшаў, зламаў, падмяніў, выкараніў ці хаця б сапсаваў. Так, не трэба верыць у тое, каб засталіся рэчы непашкоджаныя, трывалыя ў сваёй шчырасці. Пра гэта, сапраўды, ты добра давёў. Але надта памыляешся ў тым выпадку, калі гаворыш, што вернаму хрысціяніну нельга мець падданых і нявольную чэлядзь. Згадваеш Пісанне, дзе гаворыцца: Бог з адной крыві сатварыў увесь чалавечы род. Ведаю, гэта апостал Павел мовіў да афінянаў, а Лука напісаў. Аднак апостал сказаў тыя словы зусім не пра тое, аб чым ты зараз даводзіў. Бо ён там не кажа: Бог сатварыў з аднаго чалавека ці з адной крыві ўвесь род чалавечы, каб усе былі роўныя і адзін не панаваў над другім. Не тое апостал сцвярджаў. Кажучы, што ўсё сатворана Богам і пайшло ад Яго, ён звяртаў увагу афінянаў на неабходнасць маліцца толькі адзінаму Богу, забыцца на ўсялякіх балванаў, аб чым

ніжэй прама гаворыць». Вось такім чынам Сымон Будны выбіў першы моцны слуп, на якім трымалася ўтапічнае вучэнне беларускіх камуністаў XVI стагоддзя.

Другі довад, скіраваны супраць падзелу грамадства на гаспадароў і падданых, быў выказаны вуснамі таго ж Паўла з Візны, які сцвярджаў, што панаванне адных людзей над другімі існавала не заўсёды. На яго думку, яно пачалося толькі з Німрада, аб чым паведамляў Святы Дух цераз Майсея (1 Майс. 10: 8—10). «Німрад,— пісаў Павел з Візны,— быў першы, хто забіраў людзей у няволю, панаваў над імі і прымушаў працаваць на сябе». З гэтага напэўна вынікала, што з'яўленне гаспадароў-тыранаў адбылося насуперак Божай волі.

Адказ Сымона Буднага на прыведзены довад быў, здаецца, не надта ўдалым, бо ў ім не было галоўнага — пераканаўчых доказаў. Аднак ён уяўляе пэўную цікавасць і без сумневу заслугоўвае ўвагі дзеля аб'ектыўнага высвятлення пазіцый кожнага з удзельнікаў тагачаснай палемікі. Пагадзіўшыся, што тыраны і тыранія — гэта зло, Сымон Будны растлумачыў іх з'яўленне дзейнасцю Д'ябла. Ён, у прыватнасці, пісаў: «Не абараняю Німрада і па ўсім бачу: ён быў тыранам. Але тое і не дзіўна, бо для Д'ябла звыклая справа — паварочваць добрыя рэчы на злыя. Так Бог даў чалавечай натуры ці прыродзе здольнасць мілаваць сваю жонку, а Д'ябал скіраваў яе ў іншы бок, на нікчэмныя пралюбадзействы... Гэтаксама ён пастанавіў, каб кароль ці пан правіў зямлёю, чыніў справядлівы суд, захоўваў пакой для падданых, а яны каб слухаліся свайго караля ці пана, шанавалі яго, рабілі яму ўсялякую карысць. Але Чорт не перастае перайначваць Божыя пастановы і схіляць каралёў і паноў да тыраніі. Трапіўшы ў Д'яблавы лапы, яны заганяюць людзей пад сваё тыранства, выцягваюць з падданых невыносныя падаткі, патрабуюць цяжкой службы і абыходзяцца з імі неверагодна жорстка. Тыранія, такім чынам, не Божая пастанова, а Д'яблава сфальшаванне». Як бачна, Сымон Будны ў сваім адказе адметна растлумачыў прычыны ўзнікнення тыраніі.

Трэці довад на карысць вызвалення нявольнай чэлядзі і поўнай свабоды для ўсіх падданых, па сведчанні Сымона Буднага, выказаў Якуб з Калінаўкі. Ён сцвярджаў, што сапраўдны хрысціянін не можа мець у няволі нават нявернага. Якуб з Калінаўкі спасылаўся на словы

апостала Паўла, сказаныя ў Другім пасланні да Карынфянаў: «Што за згода між Хрыстом і Вэліялам? Ці якая частка вернаму з няверным» (6: 15). Гэтым выказваннем, як здалося Якубу з Калінаўкі, Павел сведчыў пра немагчымасць якой-небудзь згоды між вернымі і няверными, а значыць, і пра немагчымасць хрысціяніну панаваць над паганым.

Сымон Будны без асаблівых цяжкасцей указаў на памылку апанента, яшчэ раз пацвердзіўшы сваю дасведчанасць у Бібліі і непадрыхтаванасць Якуба з Калінаўкі да сур'ёзных тэалагічных дыспутаў. «Кажаш,— звяртаўся да яго Будны з іроніяй,— хрысціянін не можа мець у няволі паганага, бо апостал Павел напісаў, што «няма згоды паміж Хрыстом і Вэліялам», а гэтаксама «вернага з няверным». Але апостал, кажучы гэтак, меў на ўвазе не тое, што хрысціянін не можа быць нявольнікам у паганага ці паганы ў хрысціяніна. Ён там толькі заклікаў да таго, каб хрысціяне не дапамагалі паганым чыніць зло ды каб жылі інакш, чым яны,— не датыкаліся да ўсялякіх паганскіх рэчаў».

Імкнучыся давесці, што хрысціянін не можа панаваць над іншым хрысціянінам, Якуб з Калінаўкі згадваў другое выказванне апостала Паўла: «Няма ўжо Іўдзея, ані Грэка; няма раба, ані свабоднага...» (Гал. 3: 28), лічачы, нібыта апостал якраз тутака прапаведаваў поўную роўнасць людзей, нават выступаў за ліквідацыю ўсялякіх нацыянальных адметнасцей.

Абвяргаючы вывады апанента, Сымон Будны звяртаў увагу чытачоў на эклектыку яго экзегетычных ведаў і лагічныя хібы ў развагаханнях. «Калі лічыць,— пісаў ён,— што ў тым месцы гаворыцца пра немагчымасць для вернага быць нявольным, дык у адпаведнасці з той жа логікай трэба сказаць — верны не можа быць вольным, бо апостал Павел кажа: «Колькі вас у Хрыста ахрысціліся, у Хрыста апрануліся. Няма ўжо Іўдзея, ані Грэка; няма раба, ані свабоднага; няма мужчынскага полу, ані жаноцкага: бо ўсе вы адно ў Ісусе Хрысце» (Гал. 3: 27—28). Трэба быць вялікім невукам, каб не разумець, што апостал тут мовіў не пра тое, як быццам бы ніхто не можа быць у няволі, а пра тое, што нікому не дапаможа перад Богам іўдзейскае паходжанне, гэтак як і не зашкодзіць нікому, што ён грэк ці паганы язычнік. Нікому не дапаможа гэтаксама і тое — вольны чалавек ці свабодны, як і не зашкодзіць, калі ён падданы ды нявольны. Не дапаможа

мужчынам і не зашкодзіць жанчынам. Вось сутнасць сказанага апосталам Паўлам». Адданы прыхільнік Хрыста і найлепшы папулярызатар яго вучэння, апостал Павел, паводле слоў Сымона Буднага, наогул ніколі і нідзе не вучыў супраць гаспадароў.

Урэшце, чацвёрты довад у абарону ідэі сацыяльнай роўнасці гэтаксама сфармуляваў Якуб з Калінаўкі. Сутнасць яго ў тым, што першыя хрысціяне нібыта не мелі падданых і рабоў. Прынамсі, у Бібліі, на думку камуністаў XVI стагоддзя, аб гэтым няма аніякіх сведчанняў. Тэрмін «dulos», які сустракаецца ў Новым Запавеце, яны прапаноўвалі перакладаць не «раб», а «слуга» ці «служэбнік».

Абазнаны лінгвіст Сымон Будны не пагадзіўся з вывадамі апанентаў. Ён выявіў слабыя месцы іх доказаў, у прыватнасці, аргументавана паказаў, што грэцкі тэрмін «dulos», а гэтаксама ў некаторых выпадках словы «hypiretis» і «oiketis» азначаюць «раба» ці «нявольніка». У лацінскай мове гэтаму тэрміну адпавядае слова «servus», а ў іўрыце — «ewed».

Адпаведнікі тэрмінаў «вольны слуга» ці «служэбнік» у грэчаскай мове — «diacones», у лаціне — «famulus» альбо «minister», у іўрыце — «пааг». Правільнасць менавіта гэтага перакладу тэрмінаў «dulos», «servus» і «ewed» Сымон Будны пацвердзіў шэрагам прыкладаў. Між іншым ён звярнуў увагу на памылковы пераклад названых тэрмінаў у Берасцейскай Бібліі 1563 года. Такім чынам, асветнік змог пераканаўча давесці, што ў Бібліі даволі шмат сведчанняў пра наяўнасць у першых паслядоўнікаў Хрыста рабоў і нявольнікаў, сярод якіх былі як язычнікі, так і хрысціяне. Пацвердзіўшы факт існавання нявольнікаў у першых хрысціян, Сымон Будны з уласцівай для яго логікай зрабіў агульную выснову пра дазволенасць усім хрысціянам мець падданых і нявольную чэлядзь, што, паводле яго слоў, ніколькі не супярэчыла вучэнню Хрыста.

Абвергнуць аўтарытэтныя контраргументы Сымона Буднага яго апаненты былі не ў стане. Таму яны пачалі дзейнічаць у іншым кірунку. Адзначыўшы для сябе, што асветнік, як і яны, асуджае тыранію, камуністы XVI стагоддзя, каб дасягнуць пастаўленай мэты, пачалі настойліва праводзіць думку, нібыта ў Вялікім Княстве, а таксама ў Польшчы існуе акурат тыранія, якую неабходна знішчыць.

Сымон Будны пагаджаўся з прыведзенымі фактамі і таксама выказваў шкадаванне з той нагоды, што на радзіме можна бачыць, як гаспадары здзекуюцца са сваіх падданых. Аднак ён зноў-такі катэгарычна не прымаў таго рэвалюцыйнага шляху выпраўлення грамадства, які прапаноўвалі камуністы XVI стагоддзя. Найперш, у адрозненне ад Паўла з Візны, ён лічыў, што ў Вялікім Княстве Літоўскім далёка не ўсе гаспадары з'яўляюцца тыранамі. «Я не кажу,— пісаў ён,— што тыраніі ў нас няма. Але ж ёсць і шмат богабаязных паноў, якія робяць жыццё сваіх падданых лягчэйшым: не абцяжарваюць іх невыноснымі падаткамі і працамі». Сымон Будны гэтаксама падкрэсліваў, што сярод усіх саслоўяў — рамеснікаў, аратых, купцоў і нават настаўнікаў — ёсць добрыя і злыя, сумленныя і нягоднікі. Але з-за некалькіх нікчэмных ліхадзеяў, сцвярджаў ён, нельга асуджаць усіх прадстаўнікоў таго альбо іншага стану.

Адзіна правільнае выйсце з узнікшай сітуацыі, на думку Сымона Буднага,— зварот да сумлення тых, што чыняць зло, публічнае асуджэнне і выкрыццё іх мярзотнай сутнасці. «Наш абавязак,— звяртаўся Будны да ўсіх духоўных настаўнікаў,— калі гэта адбываецца на нашых вачах, не маўчаць, а заклікаць не чыніць тыраніі. А дзе яна ўсё роўна будзе працягвацца, то, пасля некалькіх зваротаў да тырана, належыць пакінуць яго і не есці ягонага хлеба. Бо той, хто маўчыць тырану ці яшчэ горай — спрыяе яму,— будзе строга пакараны Госпадам».

У другой частцы «Апісання Іўеўскага сінода 1568 года» Сымон Будны раскрыў сутнасць дыскусій паміж рознымі пратэстанцкімі групоўкамі вакол пытання аб багатых і бедных. Як вынікае са зместу твора, беларускі інтэлектуал даказваў непазбежнасць сацыяльнага расслаення і нават грамадскую неабходнасць розных станаў. Але ён рашуча адстойваў ідэю грамадскай гармоніі, выступаў за дыялог паміж саслоўямі, з'яўляўся прыхільнікам мірных стасункаў паміж гаспадарамі і падданымі, заклікаў да паразумення паміж багатымі і беднымі.

На старонках «Апісання...» вельмі шмат месца займаюць біблейска-экзегетычныя экскурсы і філалагічныя спрэчкі вакол семантыкі асобных біблейскіх выказванняў і тэрмінаў, што мелі дачыненне да асноўнай тэмы палемікі — аб падданых і нявольнай чэлядзі, аб

багатых і бедных. Падчас дыскусіі Сымон Будны выкарыстоўваў розныя тыпы аргументаў: схаластычныя (спасылкі на аўтарытэты), гістарычныя, філалагічныя і рацыяналістычныя.

Сымон Будны найперш даводзіў, што апосталы — верныя вучні Хрыстовы — ніколі і нідзе не заклікалі хрысціян выракацца ўласнасці. Наадварот, апостал Павел у Пасланні да Цімафея вучыў багатых, як ім належыць жыць па-хрысціянску і правільна распараджацца ўласнымі грашыма. «Багатым,— казаў ён,— у гэтым веку загадвай, каб яны не думалі шмат аб сабе, ані спадзяваліся на багацце няпэўнае, але на Бога Жывога, што дае нам усё шчодра дзеля ўсцехі» (1 Цім. 6: 17). Беларускі асветнік, звяртаючыся да Якуба з Калінаўкі і каментуючы прыведзеныя словы апостала Паўла, рабіў наступную выснову: «Калі б усе хрысціяне павінны былі жыць гэтак, як ты хочаш і як ты сам жывеш, то апостал засароміў бы таго Цімафея і загадаў бы яму, каб ён выракся багаццяў ці раздаў іх даастатку жабракам. Але ён не сказаў “прадайце”, а толькі — “прадавайце і давайце ўбогім”».

Дзеля поўнага асэнсавання спецыфікі палемікі Сымона Буднага з аскетамі-камуністамі надзвычай істотным уяўляецца разгляд довадаў яго апанентаў, улік дробных, але надзвычай важкіх дэталяў дыскусіі, а гэтаксама вывучэнне контраргументаў, якія выказваў асветнік, адбіваючыся ад сваіх ідэйных праціўнікаў.

Беларускія камуністы XVI стагоддзя ў абарону ўласнай пазіцыі прыводзілі некалькі схаластычных аргументаў — сведчанняў са Святога Пісання. Так, Якуб з Калінаўкі, адмаўляючы багацці, спасылаўся на словы Ісуса Хрыста, выказаныя ў Евангеллі паводле Мацвея: «Шчаслівыя ўбогія духам, бо іх ёсць Царства Нябеснае» (5: 3) і Евангеллі паводле Лукі: «Гора вам, багатыя! Вы ўжо дасталі сваю радасць» (6: 24). Прыведзеныя выказванні, на думку Якуба з Калінаўкі, быццам бы акурат сведчылі пра ўхваленне Сынам Божым беднасці і бедных і пра яго адмоўнае стаўленне да багаццяў і багатых.

Аднак Сымон Будны не пагадзіўся з гэткім тлумачэннем згаданых выказванняў. Адказваючы свайму апаненту, ён падкрэсліваў, што Хрыстос ніколі не ўзносіў усіх бедных. Больш таго, тых, якія «ў сваіх сэрцах паўставалі супраць яго», ён асуджаў і пагражаў ім страшнымі карамі. У прыведзеных словах Мацвея і Лукі, паводле сцвярджэння

асветніка, Хрыстос, зноў жа, не ганіў і не дакараў наогул усіх багатых — ён бічаваў толькі эгаістычных і ганарлівых уласнікаў, якія дбаюць адно пра свой дабрабыт, забыўшыся на Бога. Такім чынам, рабіў выснову асветнік, Ісус Хрыстос не патрабаваў усеагульнай роўнасці, на чым настойвалі беларускія камуністы XVI стагоддзя.

Несумненным козырам у руках Якуба з Калінаўкі супраць багатых быў прыклад жыцця самога Ісуса Хрыста, які нават «не меў дзе прыхіліць галавы» (Мф. 8: 20). Сымон Будны, вядома, пагаджаўся са сцвярджэннем свайго апанента аб беднасці Ісуса, аднак цалкам не прымаў яго высновы, сутнасць якой у тым, каб усе ўзялі прыклад з Хрыста. «Кажаш,— звяртаўся ён да Якуба з Калінаўкі,— што Хрыстос быў бедны і не меў нават дзе прыхіліць галавы. Гэта праўда. Але ж ён нікому не забараняў мець уласнасці. Ды і з якой нагоды яго верныя мусяць пакідаць свае дамы і, нібы звяры, блукаць па пушчах, ці ад места да места, ці ад вёскі да вёскі?! Чаму яны павінны дакучаць людзям, жабраваць і валачыцца паўсюль?»

У якасці аргумента супраць багатых Якуб з Калінаўкі спасылаўся на павучанні Хрыста, звернутыя да дванаццаці апосталаў: «Не бярыце з сабой ні золата, ні серабра, ні медзі ў паясы свае, ні торбы на дарогу, ні дзвюх адзежын, ні абутку, ні кія. Бо работнік варты справы сваёй» (Мф. 10: 9—10). Гэтымі словамі Хрыстос быццам бы зноў-такі выказваў сваю непрыязнасць да багатых. Беларускі асветнік досыць лёгка аспрэчыў і гэты, здавалася б, вельмі сур'ёзны аргумент Якуба з Калінаўкі. «Тыя словы,— пісаў ён,— не маюць аніякага дачынення да нас, гэтаксама як і мы да іх. Пан Бог тымі словамі забараняў мець уласнасць апосталам і тое не ва ўсе часы, а пакуль яны знаходзіліся ў Зямлі Іўдзейскай. А паколькі мы не апосталы, дык якая ж нам справа да таго, што ім было забаронена часова нешта чыніць? Вось такі мой адказ на той довад». На гэтым спрэчка, аднак, не спынілася. Камуністы мелі, па меншай меры, яшчэ чатыры сведчанні са Святога Пісьма супраць багатых.

Якуб з Калінаўкі раіў уласнікам неадкладна прадаць усе скарбы — дамы, маёнткі, землі і стаць вольнымі, як птушкі, да чаго нібыта заклікаў Ісус Хрыстос. Адказваючы на гэты аргумент, Сымон Будны са свайго боку даводзіў, што яго апанент памылкова пераклаў 33 верш

12 раздзела Евангелля паводле Лукі: «Прадайце, што маеце, і раздайце ялмужну». Хрыстос жа казаў: «Прадавайце, што маеце, і давайце ялмужну». Такім чынам, адзначаў Сымон Будны, Сын Божы ў згаданым вершы не заклікаў сваіх паслядоўнікаў адразу ўсё прадаць і раздаць: «Хрыстос жадае ад сваіх вучняў не таго, каб яны нічога не мелі, а каб яны спраўна давалі ялмужну, былі гатовы аддаць нават апошняе».

Імкнучыся давесці, што Богу больш даспадобы бедныя, чым багатыя, Якуб з Калінаўкі спасылаўся на 33 верш 14 раздзела Евангелля паводле Лукі, дзе гаварылася: «Гэтак кожны з вас, хто не адрачэцца ад усяго, што мае, не можа быць Маім вучнем». Беларускі аскет-камуніст XVI стагоддзя лічыў, што гэтымі словамі Ісус Хрыстос выявіў сваё шанаванне жабракоў і бедных і выказаў нянавісць да багацеяў. Сымон Будны, вядома ж, выступіў супраць падобнага тлумачэння выказвання Хрыста. На яго думку, Сын Божы, прамаўляючы гэтак, выказваў толькі жаданне, каб яго вучні і паслядоўнікі былі гатовыя ў любую хвілю адмовіцца ад усіх зямных даброт і выгод, маглі цярпліва пераносіць усе крыўды, няшчасце і гора. Ніякага катэгарычнага загаду ў прыведзеных словах Хрыста не ўтрымліваецца. Размова ў 14 раздзеле Евангелля паводле Лукі, падсумоўваў Сымон Будны, ідзе зусім не пра адносіны да ўласнасці, а толькі пра тое, што «Хрыста Пана належыць любіць болей, чым бацьку, матку, жонку, дзяцей, братоў, сясцёр, нават болей, ніж сваё жыццё».

На думку ваяўнічых аскетаў-камуністаў, справе практычнага здзяйснення ідэі роўнасці служылі словы апостала Паўла, сказаныя ў «Пасланні да яўрэяў»: «Бо не маем тут сталага месца, але шукаем таго, што мае быць» (13: 14). Аднак Сымон Будны, як і раней, заявіў, што сказанае апосталам не мае літаральна аніякага дачынення да пытання аб тым, ці могуць сапраўдныя хрысціяне мець уласнасць. «У тым месцы,— пісаў ён,— не тое сцвярджаецца, каб верныя не маглі мець дамоў і іншай уласнасці ці нявольнай чэлядзі, а тое, што верныя павінны добра памятаць пра вечнае жыццё і каб тут жылі, як у гасцях: не спадзяваліся на раскошу і штодня былі б гатовы да крыжа, цяжкасцей, здзеку, нянавісці і інш.».

Урэшце, апошняе сведчанне Якуба з Калінаўкі на карысць яго сацыяльнай тэорыі — словы Ісуса Хрыста, адрасаваныя юнаку: «Ісус

сказаў яму: калі хочаш быць беззаганным — пайдзі прадай маёмасць тваю і раздай бедным; і будзеш мець скарб на небе; і прыходзь ды ідзі за Мною» (Мф. 19: 21). Але Сымон Будны і ў дадзеным выпадку знайшоў чым аспрэчыць вывад заўзятага аскета-камуніста. Ён пагадзіўся з тым, што Хрыстос сапраўды загадваў юнаку прадаць усе скарбы, але пры гэтым асветнік падкрэсліў адну вельмі істотную дэталь: Сын Божы не патрабаваў і не заклікаў усіх сваіх паслядоўнікаў учыніць тое ж самае: «Хрыстос Пан казаў юнаку прадаць маёмасць не таму, што гэта трэба было дзеля выратавання яго душы, а толькі з той мэтай, каб юнак на справе пацвердзіў, што ён стаў іншы, чым быў дагэтуль. Тое загадвалася з мэтай выпрабавання, а не для патрэбы».

Як бачна, Сымон Будны без асаблівых цяжкасцей адкінуў літаральна ўсе аргументы Якуба з Калінаўкі — лідара беларускіх камуністаў XVI стагоддзя. Абапіраючыся на глыбокі аналіз новазапаветных твораў, ён прыйшоў да надзвычай важнай высновы аб тым, што ў часы Хрыста і апосталаў, калі, на яго думку, між паслядоўнікамі Месіі існавалі ўзорныя адносіны, хрысціяне валодалі рознымі відамі ўласнасці — маёнткамі, землямі, грашыма, каштоўнымі рэчамі. Акурат гэта давала яму ўсе падставы сцвярджаць: кожны хрысціянін, ва ўсе часы і дзе б ён ні знаходзіўся, не толькі мае права на нейкую ўласнасць, але і абавязаны мець яе, каб прыстойна жыць і выконваць запаветы Хрыста.

Такім чынам, імкнучыся дасягнуць сацыяльнай справядлівасці і грамадскай гармоніі, Сымон Будны выказаў шэраг арыгінальных ідэй і прапаноў, накіраваных на ўрэгуляванне ўзаемадачыненняў паміж беднымі і багатымі. Беларускі інтэлектуал паспяхова палемізаваў з ваяўнічымі камуністамі XVI стагоддзя вакол пытання аб тым, ці можа хрысціянін мець падданых і нявольную чэлядзь. У процівагу тэарэтыкам радыкальнага кірунку Сымон Будны прапанаваў не ліквідаванне гаспадароў і падданых, а памяркоўны шлях удасканалення ўзаемаадносін між імі, вызначыў іх абавязкі і правы. Згодна з яго тэорыяй, гаспадары ні пры якіх абставінах не павінны біць сваіх падданых, пазбаўляць іх неабходных для жыцця рэчаў, патрабаваць больш падаткаў, чым прадугледжана законам. Яны мусяць адкрываць для падданых навучальныя ўстановы, будаваць бажніцы, справядліва

судзіць, вучыць на свае сродкі і аберагаць ад паганскіх і эпікурэйскіх уплываў. У сваю чаргу, падданыя павінны маліцца за сваіх гаспадароў, дапамагаць ім ва ўсіх справах, ніколі не казаць і нават не думаць пра іх кепскага, шанаваць іх, заўсёды жадаць толькі дабра, без абурэння плаціць падаткі, выконваць усе распараджэнні і загады за выключэннем тых, што скіраваны супраць Бога. Асветнік рэзка крытыкаваў тых падданых, якія, абурыўшыся сваім становішчам, паўставалі са зброяй у руках супраць гаспадароў.

## V

У сакавіку 1569 года Сымон Будны прыехаў на чарговы, вельмі прадстаўнічы пратэстанцкі сінод, што праходзіў у Бельжыцах. Сярод 24 слухачоў-арыянаў, якія ўдзельнічалі ў рабоце гэтага сінода, названы і Васіль Цяпінскі — аднадумец Сымона Буднага, яго блізкі і надзейны сябра.

На сінодзе ў Бельжыцах, пры актыўным удзеле Сымона Буднага, абмяркоўвалася каля сарака пытанняў, сярод якіх — аб школе для хрысціянскіх дзетак, пра навуку для простага люду, пра купцоў і спекулянтаў, аптэкараў і лекараў, падаткі і мыта, зборавых рамеснікаў, хрысціянскіх слуг і абавязкі паноў. Вынікам удзелу Сымона Буднага ў хрысталагічных дыскусіях на ўсіх сінодах 1566 — 1569 гадоў было з'яўленне каля 1569-га яго твора *«Аб зачацці Сына Божага»*, які, на жаль, не захаваўся да нашых дзён.

У 1570 годзе Сымон Будны быў вымушаны перапыніць сваю перакладчыцкую працу, каб адказаць Пятру Гоняду, які абвінаваціў яго ў «эбіёнскай ерасі». Імкнучыся грунтоўна абвергнуць довады апанента, Сымон Будны ў чэрвені 1570-га выдаў у Берасцейскай друкарні на сродкі Астафея Валовіча невялікую брашуру на лаціне *«Аб асноўных догматах веры»*.

Дзесьці ў канцы 1570-га, прыкладна пасля пяці год руплівай працы, Сымон Будны нарэшце надрукаваў у Нясвіжскай друкарні Даніэля з Ленчыцы пад адной вокладкай пераклад Новага Запаве-

ту і апокрыфаў з уласнай прадмовай да іх. Кніга выйшла накладам нясвіжскага старосты Мацвея Кавячынскага і адразу стала найбуйнейшай з'явай духоўнага жыцця.

Каля 1571 года Сымон Будны з невядомых сёння прычын пакінуў Хоўхава і пераехаў у Заслаўе, у маёнтак менскага кашталяна Яна Глябовіча. У Заслаўі Сымон Будны пражыў каля двух год. Тут у чэрвені 1572-га асветнік скончыў працу над перакладам кніг Старога Запавету, якія неўзабаве разам з перапрацаваным Новым Запаветам, «Прысвячэннем Мікалаю Радзівілу» і «Прадмоваю да Чытача» былі выдадзены Даніэлем Ленчыцкім, няйнакш, у мястэчку Узда. Бо менавіта туды Гектар і Альбрэхт Кавячынскія, пасля смерці брата Мацвея, перавезлі колішнюю Нясвіжскую друкарню, што стала іх уласнасцю.

Перад асноўным тэкстам Бібліі 1572 года выдаўцы змясцілі «Прадмову да Чытача» Сымона Буднага, дзе паведамлялася, што яна напісана «ў Заслаўі». «Прадмова да Чытача» ўтрымлівала шэраг надзвычай цікавых гістарычных звестак, перадусім — адказ Сымона Буднага на пытанне, чаму ён наогул узяўся за новы пераклад Бібліі, хоць, як вядома, незадоўга перад тым з друку выйшлі Кракаўская Біблія (1561) і Берасцейская Біблія (1563).

Асветнік растлумачыў зварот да перакладу Святога Пісання імкненнем пазбавіць «боганатхнёныя кнігі» шматлікіх хібаў і недакладнасцей. Паводле яго слоў, да працы над перакладам Бібліі ён схіліўся пасля таго, як Скрынскі арыянскі сінод, што звярнуў увагу на шэраг памылак у Берасцейскай і Кракаўскай Бібліях, даручыў яму і яшчэ нейкаму «брату» дэталёва праверыць выдадзеныя тэксты Святога Пісання на прадмет іх семантычнай дакладнасці. Уважліва параўнаўшы розныя спісы на грэчаскай мове, іўрыце і лаціне, Сымон Будны заўважыў «безліч хібаў ды вадаў» у перакладах біблейскіх твораў.

Але выдаўцы «адрэдагавалі» пераклад Сымона Буднага. Вядома, асветнік не мог нават уявіць, што вынікі яго шматгадовай працы хтосьці зменіць, пераверне на свой капыл. Прыкрая гісторыя з Бібліяй 1572 года на доўгі час азмрочыла жыццё Сымона Буднага. Аднак ён мужна перанёс нечаканы ўдар лёсу і, нягледзячы на цяжкасці, не звярнуў з абранага шляху.

Залатою парою ў творчасці Сымона Буднага стаўся перыяд з 1573 да 1583 года, калі ён жыў у Лоску, у доме вядомага беларускага магната, прыхільніка арыянаў Яна Кішкі. Той прыдбаў у братоў Кавячынскіх друкарню, запрасіўшы да сябе і яе кіраўніка Даніэля Ленчыцкага.

У Лоску Сымон Будны знайшоў выключна спрыяльныя ўмовы для плённай працы. Не губляючы часу, ён неадкладна прыступіў да выпраўлення «сапсаванага» Гектарам і Альбрэхтам Кавячынскімі перакладу Новага Запавету і неўзабаве, у 1574 годзе, надрукаваў яго ў Лоску, напісаўшы прысвячэнне і «Эпіграму на герб Яна Кішкі», а таксама грунтоўную «Прадмову да чытачоў».

Беларускі філолаг выдатна ўсведамляў тагачаснае становішча з перакладам біблейных кніг. У «Прадмове да чытачоў» ён адзначаў: «Цяпер намножылася больш хлуслівых кніг, чым праўдзівых... асабліва сярод Новых Запаветаў, якія так сапсаваны, так скажоны, што і не ведаю, з чым такое можна параўнаць!» Ад распаўсюджання «памылковых» біблейскіх кніг, сцвярджаў Сымон Будны, усёй Хрыстовай навуцы чыніцца велізарная шкода, паколькі даверлівыя, прастадушныя людзі чытаюць іх і лічаць за праўдзівыя.

Асветнік адкрыта абураўся пазіцыяй кансерватыўных біблеістаў, якія закрывалі вочы на існуючыя ў тэкстах Святога Пісання недарэчнасці і ваяўніча пагражалі анафемай і геенай вогненнай усім, хто хоць нешта жадаў палепшыць. Сымон Будны гэтаксама асудзіў лацінскіх і праваслаўных «дактароў», што гаварылі пра памылкі адзін у аднаго, але ніяк не прызнавалі кожны сваіх. Аднак найбольш беларускага філолага непакоілі людзі, якія, убачыўшы супярэчлівасці і агрэхі ў розных спісах і перакладах Бібліі, наогул пачалі выракацца яго і лічыць вучэнне Хрыста, услед за старазаконнікамі, «выдумкай і байкамі».

У «Прадмове да чытачоў» Сымон Будны распавёў прыкрую гісторыю з «выпраўленнем» кніг Святога Пісання архімандрытам Супрасльскага манастыра Кімбарам у сярэдзіне 30-х гадоў XVI стагоддзя.

Будны, глыбока адчуваючы асабістую адказнасць за лёс хрысціянскага вучэння, усклаў на ўласныя плечы ўвесь цяжар падрыхтоўкі і выдання Святога Пісання, выпраўленага паводле «праўдзівых» метадаў.

Пры перакладзе Бібліі ў найбольшай ступені выявіўся выключны перакладчыцкі талент Сымона Буднага. Ён, як вядома, перакладаў Біблію на польскую мову, якая на той час, побач са старабеларускай, царкоўнаславянскай і лацінскай, з'яўлялася адной з літаратурных моў Беларусі.

Мяркуючы паводле ўласных выказванняў Сымона Буднага і шматлікіх спасылак у тэксце Новага Запавету 1574 года, перакладчык карыстаўся разнастайнымі выданнямі і рукапісамі Святога Пісання: лацінскімі, яўрэйскімі, грэчаскімі, славянскімі, а таксама шматлікімі творамі старажытных тэолагаў, якія хоць неяк закраналі ці цытавалі біблейскія тэксты. У час працы над Новым Запаветам ён абапіраўся на ранейшыя пераклады, зробленыя выдатнымі еўрапейскімі вучонымі Ларэнцам Валам, Эразмам Ратэрдамскім, Марцінам Лютэрам, Себасцьянам Касталіёнам, Тэадорам Бэзаю, Мікалаем Зэгерам.

Са старажытных аўтараў Сымон Будны нязменна карыстаўся творамі Тэртуліяна, Эўсебія, Эпіфанія, Ераніма. Беларускі перакладчык меў пад рукой Біблію Францыска Скарыны, пераклад Бібліі Пятра Мсціслаўца і Івана Фёдарава, берасцейскую Біблію 1563 года, пераклад Станіслава Мужыноўскага, чэшскую і харвацкую Бібліі ды шэраг іншых тэкстаў Святога Пісання.

Можна адназначна сцвярджаць: ніхто з тагачасных славянскіх перакладчыкаў новазапаветных твораў не праводзіў папярэдне такой грандыёзнай тэксталагічнай працы, як Сымон Будны. Сам жа асветнік, з характэрнай для яго сціпласцю, не лічыў сваю працу дасканалай. Ён, паводле яго сцвярджэння, не разлічваў на шчодрыя ўзнагароды і не шукаў лаўраў лепшага перакладчыка. «Якая ласка мне будзе,— пісаў Сымон Будны,— не ведаю. Але пра тое зусім не дбаю. Мне досыць ужо таго, што не закапаў майго малога таленту, а прынёс карысць... Усю маю працу няхай ацэняць наступныя пакаленні».

Дзякуючы надзвычайным аналітычным здольнасцям беларускага асветніка, яго таленту, шырокай эрудыцыі, глыбокай дасведчанасці ў пытаннях экзегетыкі і, галоўнае, дасканаламу веданню старажытных і новых літаратурных моў, навукова-крытычны ўзровень выдання Новага Запавету 1574 года стаўся адным з найбольш высокіх сярод вядомых на той час у Еўропе.

Выключная ўвага Сымона Буднага да філалогіі, нават дамінуючая яе роля ў яго філасофска-публіцыстычных творах — гэта, несумненна, праява рэнесансавых рыс у творчасці асветніка, што яшчэ раз пацвярджае думку аб яго прыналежнасці адначасна да дзвюх найбуйнейшых гісторыка-культурных плыняў XVI стагоддзя — Рэнесансу і Рэфармацыі.

Пасля з'яўлення Новага Запавету імя Сымона Буднага набыло яшчэ большую папулярнасць у краінах Заходняй Еўропы — Англіі, Францыі, Германіі. З ім імкнуліся завесці знаёмства, пачуць яго меркаванні па ключавых праблемах філалогіі, філасофіі і тэалогіі. Красамоўнае сведчанне шырокай вядомасці беларускага пісьменніка — яго перапіска з англійскім гісторыкам Ёганам Фоксам. Да нашых дзён захаваўся «Ліст» Сымона Буднага да Фокса ад 4 траўня 1574 года, які цяпер зберагаецца ў Оксфардскай бібліятэцы.

У Сымона Буднага, вядома, з'явіліся не толькі новыя сябры і шчырыя паплечнікі, але і новыя апаненты, да ліку якіх належаў цюрыхскі багаслоў І. Сімлер. Так, па выхадзе ў свет кнігі Сымона Буднага *«Аб дзвюх прыродах Хрыста»* (Лоск, 1574) І. Сімлер выступіў з вострай крытыкай яе ў сваім творы «Абвяшчэнне праўдзівага вучэння аб дзвюх прыродах Хрыста» (1575).

Хрысталагічныя ідэі Сымона Буднага, выказаныя ім у творы *«Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як Бог Айцец»* (1574), раскрытыкаваў другі апанент беларускага асветніка Ян Віганд у кнізе «Туман арыянскай ерасі».

На крытыку еўрапейскіх апанентаў Сымон Будны адразу ж адказаў палемічным трактатам на лацінскай мове *«Да аргументаў Сімлера і некаторых іншых аб дзвюх прыродах Хрыста»*. Праўда, аніводнага друкаванага асобніка гэтага твора не захавалася да нашага часу. Але яго рукапіс, магчыма, аўтограф, захоўваецца ў Гамбургскай публічнай бібліятэцы. У арыгінале твор меў назву: «Ad argumenta Simleri et aliorum quorundam pro duabus in Christo naturis dimicantium quaecumque Stanislau Grochovius contra Simon Budnaeum excerpsit, eiusdem S.B. responsio. Losci, 1574».

У жніўні 1576 года Сымон Будны надрукаваў у Лоску на польскай мове свой галоўны тэалагічны трактат *«Аб асноўных артыку-*

*лах хрысціянскай веры»*. Твор складаўся з дзвюх частак — «Сімвала веры» і «Абароны сімвала веры». Да кожнай з іх былі напісаны асобныя прадмовы, дзе раскрывалася гісторыя іх узнікнення.

Так, ідэя стварэння «Сімвала веры» зарадзілася ў беларускага асветніка ў час арыянскага сінода, што адбываўся, напэўна, у Вільні ў 1573 годзе. Пасля яго выступлення прысутныя там браты якраз і параілі лоскаму міністру пісьмова сфармуляваць выказаныя ім думкі, што ён неўзабаве і зрабіў.

Вярнуўшыся дадому ў Лоск, Сымон Будны неадкладна ўзяўся за справу і неўзабаве падрыхтаваў «Сімвал веры», рукапіс якога адаслаў на Генеральны сінод, што сабраўся ў Кракаве недзе ў канцы 1573-га ці ў самым пачатку 1574 года. Але асветнік дарэмна спяшаўся: сінод не толькі не ўхваліў яго «Сімвал веры», але нават большасцю галасоў асудзіў выказаныя ў ім ідэі. Калі Будны даведаўся пра гэткія сумныя вынікі, ён зазначыў: «Вельмі шкадую, што пасылаў ім свой «Сімвал» на абмеркаванне».

Аднак сярод пратэстантаў Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы Сымон Будны меў шмат прыхільнікаў і аднадумцаў. Яны шчыра віталі з'яўленне «Сімвала веры». «У хуткім часе на Сінодзе,— пісаў Будны,— адбылася наша сходка ў доме мілага брата Васіля Цяпінскага, дзе я паказаў усім прысутным мой «Сімвал веры». Пасля прачытання браты не толькі ўхвалілі яго, але і настойліва выказаліся за неадкладнае друкаванне».

Такім чынам, просьба «мілых братоў» сталася галоўнай прычынай таго, што Сымон Будны даў згоду на друк «Сімвала веры». Акрамя таго, блізу 1574—1575 гадоў вакол асобы і вучэння беларускага асветніка яго праціўнікі пачалі распускаць неверагодныя плёткі, нібыта ён не толькі выракся Хрыста, але і далучыўся да «яўрэйскай бязбожнасці». Іншыя абвінавацілі яго ў сімпатыях да сервета ў і цвінгліянаў.

Каб спыніць плёткі, Сымон Будны быў вымушаны яшчэ раз праз друк выказаць уласныя рэлігійныя погляды. «Я не бачыў іншага шляху і іншых сродкаў, каб знішчыць усе тыя байкі,— пісаў ён,— як толькі надрукаваць «Сімвал веры» і распаўсюдзіць яго, суцешыўшы такім чынам сяброў і пасаромеўшы непрыяцеляў».

Сымонам Будным, калі ён прымаў рашэнне аб выданні «Сімвала веры», кіравала яшчэ і жаданне абараніць Збор ад нападак прадстаўнікоў іншых канфесій, што распаўсюджвалі пра ўсіх арыян розныя небыліцы, дагаворваючыся нават да таго, што яны быццам бы вызнаюць некалькіх багоў, а Сына Божага Ісуса Хрыста лічаць не вышэй за Майсея. Урэшце, апошняя прычына, што змусіла Сымона Буднага аператыўна завяршыць і надрукаваць «Сімвал веры»,— недахоп «праўдзівых кніжак», з дапамогай якіх просты люд Вялікага Княства Літоўскага мог бы спасцігаць сутнасць Бога і яго Сына, адкідваць разнастайныя «ерэтычныя» вучэнні.

Паводле задумы Сымона Буднага, «Сімвал веры» павінен быў гэтаксама ў нейкай ступені кампенсаваць недахоп сапраўдных настаўнікаў. Натуральна, твор адрасаваўся ўсім «верным», хто прагне ісціны, і асабліва людзям малапісьменным, якія не заўсёды здольныя самастойна вызначыць, дзе праўда, а дзе хлусня. Аднак галоўную задачу кнігі асветнік бачыў не ў тым, каб падштурхнуць паспаліты люд да вайны за веру, а каб падрыхтаваць яго да абароны ад хлуслівых прарокаў, назойлівых і вераломных «сафістаў» з іх хітрымі сілагізмамі.

Звяртаючыся да сэрца і розуму чытачоў, Сымон Будны ў «Прадмове» літаральна пісаў наступнае: «Мае мілыя браты! Прашу вас усіх, незалежна ад таго, да якіх станаў вы належыце — высокіх, найвышэйшых альбо нізкіх ці найніжэйшых,— чытайце кнігу вашага пакорнага брата. Яна адпавядае Святому Пісанню і ўмацуе вашу веру ў адзінага і праўдзівага Бога».

Задума напісаць «Абарону Сімвала веры» ўзнікла ў Сымона Буднага пазней, недзе ў канцы 1575 года, пасля новых палемічных выпадаў у яго адрас Пятра Гоняда, Сімлера, Мацвея Бжазоўскага, Яна Віснёўскага, Гераніма Занхіуса, Станіслава Фарноўскага і Марціна Чаховіца. Апошні не толькі раскрытыкаваў навуку лоскага міністра ў творы «Хрысціянскія размовы» (1575), але і назваў яго «язэпчыкам».

У «Прадмове да Чытача» Сымон Будны падрабязна спыніўся на прычынах і акалічнасцях, што прымусілі яго ўзяцца за пяро і ўступіць у палеміку. «Мой мілы Чытач! — пісаў ён.— Як і «Сімвал веры» напісаны мною не з асабістага жадання, а дзеля просьбы нашых братоў,

так і «Абарону сімвала веры» я быў вымушаны ствараць з-за знешніх абставін. Даўно існуе паспаліты звычай друкаваць разам з «Сімвалам веры» і «Апалогію, або Абарону». Да прыкладу, пры «Аўгсбургскім сімвале», напісаным Філіпам Меланхтонам па просьбе германскіх князёў, той жа аўтар надрукаваў «Апалогію». Мне той прыклад надзвычай спадабаўся, бо «Сімвал веры», як правіла, кароткі і сціслы, таму да яго абавязкова неабходна «Абарона», якая б пацвярджала яго Святым Пісаннем і бурыла б розныя круцельствы праціўнікаў. Мой «Сімвал» гэтаксама невялікі, таму і ўзнікла патрэба напісаць да яго «Абарону». Апрача таго, мяне дужа прыціснулі «пісанні» розных нашых ворагаў, бо ўбачылі свет іхнія творы супраць мяне не толькі на лаціне, але і на нашай мове. Ніхто з маіх аднадумцаў пакуль не адпісаў ім, за выключэннем, праўда, Паўла Гжэгожа, які даў ім досыць мудры і аргументаваны адказ. Але пасля яго шмат трайчакоў, трохбожнікаў, двухбожнікаў і розных спрадвечнікаў выступілі зноў з уласнымі творамі. Напрыклад, на польскай мове з'явіліся водпаведзі Мацвея Бжазоўскага, Пятра Гоняда, Яна Казаноўскага разам з Янам Віснёўскім, Станіслава Фарноніуса, а на лаціне — Сімлера і Гераніма Занхіуса. Супраць маёй навукі скіраваны розныя сімвалы і канфесіі, асабліва "Сімвал Сандамірскага сінода"».

Пасля выхаду ў свет кнігі *«Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры»* (Лоск, 1576) палеміка не толькі не прыпынілася, а, наадварот, яшчэ больш узмацнілася. Асабліва з'едліва Сымона Буднага крытыкавалі Пётр Скарга і Ян Віганд. Апошні адгукнуўся на новы твор беларускага тэолага кнігай «Аб Ісусе Хрысце» (1576).

На працягу некалькіх наступных дзесяцігоддзяў трактат Сымона Буднага «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» заставаўся ў цэнтры рэфармацыйнай палемікі. З яго высновамі дыскутавалі Станіслаў Астроўскі ў кнізе «Аб спрадвечнай боскасці Ісуса Хрыста» (1588) і Марцін Сміглецкі ў творы з аднайменнай назвай, што выйшаў з Віленскай іезуіцкай друкарні ў 1595 годзе.

## VI

З 1572 да 1576 года Сымон Будны, па ўсім відаць, браў актыўны ўдзел у палітычных дзеях, што адбываліся ў першы і другі перыяды жыцця Вялікага Княства Літоўскага без манархаў. Пасля смерці ў 1572-м вялікага князя Жыгімонта ІІ Аўгуста ён, няйнакш, далучыўся да палітычнай партыі, якая выступала супраць абрання на вялікакняскі пасад француза Генрыха Валуа. Пра гэта ўскосна сведчыць пераклад на польскую мову і публікацыя ім у 1576 годзе твора Эрнэста Варамунда Фрыза «Аб фурыях, або Французскае шаленства» (Лоск, 1576), які быў скіраваны супраць французскіх улад.

Апрача таго, у 70-я гады XVI стагоддзя на землях Вялікага Княства Літоўскага пачаўся працэс выпрацоўкі дзяржаўна-палітычнай дактрыны пратэстанцтва. Паміж прадстаўнікамі розных яго кірункаў узнікалі вострыя дыскусіі, найперш па пытаннях аб прызначэнні дзяржавы, сутнасці ўрада, абавязках урадоўцаў. Уласны погляд на надзённыя палітычныя пытанні Сымон Будны выказаў у творы *«Абвяржэнне Чаховіца, які лічыць, што хрысціяніну нельга займаць дзяржаўную пасаду»*.

Пасля апублікавання палемічнага твора ў адрас беларускага асветніка з боку так званых анархістаў — Якуба з Калінаўкі, Пятра Гоняда, Яна Немаеўскага і Паўла з Візны,— нібы град, пасыпаліся надзвычай рэзкія абвінавачванні.

Сымон Будны, аднак, і далей займаў цвёрдую пазіцыю і пры кожным зручным моманце даказваў неабходнасць урада. У 1577 годзе ён узяў чынны ўдзел у падрыхтоўцы перавыдання кнігі Анджэя Фрыча Маджэўскага «Аб выпраўленні дзяржавы». У гэтым творы якраз прыводзіліся шматлікія гістарычныя і лагічныя аргументы ў абарону ўрада і пацвярджалася права хрысціяніна займаць свецкія пасады. Да кнігі Сымон Будны напісаў паэтычнае прысвячэнне пану Мікалаю Дарагастайскаму і празаічную «Прадмову да Чытача».

У паэтычнай *«Эпіграме на герб Дарагастайскіх»* Будны стварыў малюнак непаўторнага ззяння месяца, са святлом якога ён параўноўваў учынкі сваіх апекуноў. Ён вытрымаў усе каноны эмблематычнай паэзіі, існуючыя ў тагачаснай літаратуры.

Апрача Сымона Буднага над перавыданнем твора Маджэўскага працавалі яшчэ некалькі чалавек. Так, Цыпрыян Базылік ажыццявіў пераклад кнігі з лацінскай на польскую мову. Андрэй Валян у жніўні 1577 года напісаў да кнігі «Прысвячэнне пану Мікалаю Аляхновічу Монвіду-Дарагастайскаму, старасце ваўкавыскаму і лепельскаму», на сродкі якога яна друкавалася. Вядомы гісторык і паэт Мацей Стрыйкоўскі напісаў па-польску вершаваны панегірык на герб таго ж мецэната. Як паведамлялася на тытульным аркушы кнігі, яна выйшла «ў Лоску з друкарні вяльможнага пана Яна Кішкі, крайчага Вялікага Княства Літоўскага... праз Яна Карцана з Вялічкі, месяца кастрычніка, 1577 года ад нараджэння Сына Божага».

У «Прадмове да Чытача», напісанай у жніўні 1577-га, Сымон Будны заклікаў жыхароў Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы пераадолець нарэшце заганнае ўяўленне аб тым, што ў сваёй Айчыне няма прарока, і звярнуцца да крыніцы сапраўднай мудрасці — твораў Маджэўскага, імя якога, паводле яго слоў, «ведаюць сярод многіх народаў, вельмі высока ставяць яго вучонасць і перакладаюць напісаныя ім творы на розныя мовы». У пацвярджэнне сказанаму Сымон Будны прывёў вытрымкі з лістоў аўтарытэтных людзей таго часу — Іагана Юстыніяна і Іагана Апорынуса, якія надзвычай высока ацэньвалі творы Маджэўскага, сапраўды ставілі яго імя побач з найбуйнейшымі еўрапейскімі інтэлектуаламі.

У 1578 годзе на пратэстанцкім Сінодзе ў Лоску адбылася вострая дыскусія, падчас якой Сымон Будны досыць акрэслена выказаўся ў абарону ўлады і ўрада. Яго прынцыповую пазіцыю падтрымалі амаль усе прысутныя там беларускія антытрынітарыі.

Праз нейкі час Сымон Будны з арыянскім дзеячам Фабіянам Даманоўскім накіраваўся на Луцлавіцкі сінод (1578) з тым, каб схіліць на свой бок польскіх братоў і выпрацаваць агульную канцэпцыю дзяржавы і ўрада. Але там яго чакала поўная няўдача.

Апаненты лоскага міністра не пажадалі нават распачынаць размову пра ўрад, а тым больш выслухоўваць аргументы Сымона Буднага ў абарону ўлады. Яны паведамілі Буднаму цераз Яна Немаеўскага, што іх погляды дакладна перададзены Марцінам Чаховіцам у 12 размове яго кнігі «Хрысціянскія размовы» і пераглядаць іх яны не маюць аніякай патрэбы.

На гэтым Луцлавіцкі сінод 1578 года фактычна і скончыўся. Праўда, у заключэнне Сымон Будны звярнуўся да польскіх «братоў» з просьбай, каб яны падаравалі вялікакняскаму Збору творы Палеолага. Але яму зноўку давялося пачуць адмоўны адказ.

Не знайшоўшы паразумення і падтрымкі ў Луцлавічах, лоскі міністр накіраваўся ў Кракаў, адкуль неўзабаве паслаў ліст да Якуба Палеолага, які на той момант жыў у Маравіі, з просьбай даслаць у Лоск свае кнігі. Палеолаг не затрымаўся з адказам і ў хуткім часе прыслаў на імя Яна Кішкі «Абарону правільнага погляду на ўладу». У снежні 1579 года ад яго прывезлі і рукапіс «Падзякі» фундатару, які меркавалася надрукаваць у новым выданні.

У 1580 годзе Сымон Будны перавыдаў у друкарні Яна Карцана твор Якуба Палеолага «Абарона правільнага погляду на ўладу», змест якога гэтаксама быў скіраваны супраць анархістаў. Аб мэце гэтага выдання асветнік пазней вобразна гаварыў: «Мы надрукавалі Палеолагавы лацінамоўныя кнігі, у якіх абараняецца ўрад дзеля таго, каб Гонядавы вучні агледзеліся і не кідаліся з матыкамі на сонца».

У кнізе, перад асноўным тэкстам, Сымон Будны змясціў уласную эпіграму на герб Яна Кішкі, панегірычны верш Тамаша Гарлінія ў гонар аўтара твора і «Падзяку Яну Кішку», напісаную асабіста Якубам Палеолагам.

Лоскае выданне Палеолагавай «Абароны...» з'явілася, напэўна, у першай палове 1580 года, паколькі ўжо восенню Сымон Будны прывёз некалькі дзясяткаў яе экзэмпляраў на Сінод, што пачаўся ў Левартове, блізу Любліна, а затым працягваўся ў самім Любліне.

«Абарону...» Якуба Палеолага з ахвотай набывалі прысутныя на Сінодзе замежныя вучоныя. «Толькі нашыя браты,— успамінаў пазней Сымон Будны з крыўдаю,— нават тыя, каму заўжды былі ўласцівы спакой і цярплівасць да іншадумцаў, з трэскам накінуліся на мяне, грамілі надрукаваныя кнігі і не жадалі нават трымаць іх у руках».

У часе Люблінскага сінода 1580 года зноў адбыўся дыялог Сымона Буднага з польскімі «братамі». Апаненты лоскага міністра тады спыталі яго:

— Чаму ты, Будны, выдаў тыя кнігі, не параіўшыся папярэдне з намі? Чаму не даслаў іх нам для папярэдняга прагляду?

Беларускі асветнік, не маючы намеру апраўдвацца, заявіў ім:

— Найперш з той нагоды, што не ведаў пра вашу дысцыпліну і зараз ведаць не хачу, бо лічу яе лішняй у Зборы. А па-другое, хачу вас саміх запытаць: ці дазволілі б вы мне іх друкаваць, калі б я да вас звярнуўся?

Крытыкі Сымона Буднага пасля гэтых слоў сумеліся, а калі лоскі міністр паўтарыў сваё пытанне, то Ян Немаеўскі нясмела заўважыў:

— Не, не дазволілі б.

Услед за ім іншыя чатырнаццаць чалавек ледзьве не хорам паўтарылі тое ж самае.

— Вось таму, мілыя браты,— падсумаваў размову Сымон Будны,— я да вас і не звяртаўся. Вы ўсё роўна ніколі б не дазволілі мне друкаваць Палеолагавы кнігі. Гэта я зразумеў яшчэ ў Луцлавічах, пасля таго як вы не захацелі даць яго кнігі для Збору Вялікага Княства Літоўскага і не выявілі аніякага жадання гутарыць пра ўрад.

Лоскаму міністру палякі прыгразілі адлучэннем ад Збору, чым, паводле слоў самога асветніка, толькі насмяшылі яго.

У студзені 1581 года Сымон Будны склікаў у Лоску пратэстанцкі Сінод Вялікага Княства Літоўскага і зноў вынес на яго абмеркаванне пытанне пра ўладу. Калі прыйшоў час галасавання, увесь Сінод, за выключэннем двух чалавек, пайшоў следам за сваім духоўным лідарам і выказаўся ў абарону ўлады і ўрада.

Падтрымка аднадумцаў натхніла Сымона Буднага і ўжо 21 лютага 1581 года ён напісаў свой знакаміты *«Адказ на ліст побажнага мужа, Сеньёра аднаго з польскіх збораў»*. Гэты бліскучы «Адказ...» лоскі міністр падрыхтаваў у Любчы, дзе знаходзіўся нейкі час, аб чым красамоўна сведчыць подпіс у канцы твора.

Хто схаваўся за імем Сеньёра, на жаль, дакладна невядома. Гэта цяжка вызначыць яшчэ і таму, што «Ліст...» таго Сеньёра да Сымона Буднага не збярогся, хоць, праўда, лоскі міністр неаднаразова цытуе яго.

Абапіраючыся на змест «Адказу...» Буднага, пра Сеньёра можна сказаць наступнае: ён быў палякам і анархістам паводле сваіх поглядаў, належаў да Кракаўскага ці Люблінскага арыянскага збору, з'яўляўся ўдзельнікам Луцлавіцкага сінода 1578 года, на якім сумесна з Якубам Каліноўскім спрачаўся з Палеолагам. Паколькі ў «Адказе...»

беларускага асветніка як пра трэціх асоб гаворыцца пра Марціна Чаховіца, Пятра Гоняда, Паўла з Бжэзін, Яна Немаеўскага, то сярод магчымых аўтараў «Ліста...» маглі быць, бадай, толькі Пятро Любянецкі, Мікалай Жытно ці Пятро Даманеўскі.

Мяркуючы паводле «Адказу...» лоскага міністра, «Ліст...» Сеньёра выклікаў у яго дваістае пачуццё: з аднаго боку — шчырую радасць з той нагоды, што яго ідэі не пакідаюць братоў раўнадушнымі, знаходзяць водгук у іх сэрцах, а з другога — перажыванні, смутак і нават расчараванне, паколькі яго не заўжды разумеюць ды выносяць несправядлівыя абвінавачванні.

«Мілы браце! — пісаў Будны апаненту.— Дайшоў да мяне, хоць і не надта хутка, твой ліст, які мне вельмі дарагі і прыемны, але адначасна мне ад яго прыкра і цяжка. Дарагі ён мне таму, што напісаны табою, мілы браце. А яшчэ таму, што ён напоўнены шчырай міласцю. Але твой ліст прыносіць мне шмат пакут, бо бачу, як дрэнна ты думаеш пра мяне, а ў тым артыкуле, вакол якога між намі даўно ідзе размова, не надта дасведчаны.

Аднак я не лямантую, цалкам спадзяюся на Пана Бога з вераю, што час пакажа, на чыім баку праўда. Адносна твайго напаміну, вер мне, мой мілы браце, я не гультай і неаднойчы прасіў Бога, каб Ён сваім Святым Духам дапамог мне асэнсаваць тую рэч. Скажу, не хаваючыся. Не бачу, чым я заслужыў з твайго боку гэткія непрыемныя водгукі.

У сваім досыць доўгім лісце амаль ні аб чым не пішаш, адно толькі нас дваіх, мяне і Тамаша (Гарлінія.— *І. С.*), хочаш прыцягнуць да пакаяння.

Наймілейшы браце! Спачатку належала б паказаць наш грэх і даведацца ад нас усё пра яго, а пасля ўжо цягнуць да пакаяння. Мудры суддзя павінны выслухоўваць абодва бакі, а не падстаўляць аднаму два вухі, а другому ніводнага».

Затым Сымон Будны асудзіў манеру палемікі, прынятую Сеньёрам, калі эмоцыі замяняюць строгія лагічныя разважанні, а замест абгрунтаваных доказаў і аргументаў выносяцца абвінавачванні агульнага парадку.

«Бачу,— працягваў лоскі міністр,— ты пакрыўджаны на мяне за тое, што я надрукаваў кнігу, з тваіх слоў — неразумную,— Яку-

ба Палеолага, прычым як быццам бы толькі дзеля ўласнай карысці. Далібог, усё гэта не так!

Тая кніжка, сцвярджаеш ты, нібыта многім людзям, у тым ліку і табе, надта агідная, і горш за яе ўсё роўна як няма. Але не гідзіць трэба, а паказаць ясным Словам Божым, у чым яна супярэчыць яму. Вельмі проста сказаць — «гэта зло». Але давесці і паказаць, у чым і чаму зло, бывае вельмі цяжка, а для іншых часам і наогул немагчыма.

Прымаю ад цябе твой ліст толькі таму, што ты мой мілы брат. Але і цябе прашу, каб і ты, мой мілы браце, прыняў мой ліст, напісаны коратка, шчыра і, далібог, з патрэбаю».

Лоскі міністр, уважліва прааналізаваўшы «Ліст...» Сеньёра, заўважыў, што яго апанент наогул не чытаў твора Якуба Палеолага, зусім не знаёмы з яго зместам і, як вынік, не змог зрабіць аніякіх канкрэтных заўваг, аспрэчыць выказаныя ў ім думкі.

Сымон Будны, натуральна, не ўпусціў магчымасці высмеяць гэткі несур'ёзны падыход да надзвычай адказнай справы.

«Кажаш, браце, што бачыў Палеолагавы кніжкі,— з іроніяй пісаў Будны.— Бачыць-то бачыў, мой мілы браце, але напэўна не чытаў, не разбіраў, не аналізаваў. Бо калі б чытаў, то згадаў бы хоць адну нейкую сентэнцыю і паспрабаваў бы аспрэчыць яе Словам Божым. Несур'ёзна тое, мой наймілейшы браце, пабачыўшы тытул якіх-небудзь кніг альбо толькі імя аўтара, а затым ганіць іх з трэскам, крытыкаваць і адкідваць».

З твора Сымона Буднага выразна відаць, у чым яго абвінавачваў Сеньёр і якія контраргументы ў сваю абарону выказаў лоскі міністр.

Сеньёр дакараў Буднага найперш за тое, што ён нібыта паспешліва і неабачліва выдаў твор Палеолага, а гэтаксама няўзважана вырашыў пытанне аб урадзе, ні з кім не параіўшыся і не выслухаўшы думкі ўсяго Збору. Лоскі міністр не прыняў гэтыя папрокі і нагадаў свайму апаненту аб падзеях Луцлавіцкага сінода 1578 года, калі польскія браты адмовіліся нават размаўляць з ім на гэтую тэму.

Сымон Будны падкрэсліваў: «Ужо нябожчык, Пётр Гоняд пісаў пра урад каля 20 год таму, грунтоўна разважаў аб урадзе, вёў спрэчкі са сваімі праціўнікамі».

Акрамя таго, Сымон Будны спасылаўся на вядомую палеміку, якая адбылася ў 1578 годзе ў Лоску паміж беларускай шляхтай на

чале з Васілём Цяпінскім і анархістамі — Марцінам Чаховіцам і Аляксандрам Вітрэлінам.

«Можа, ты, браце,— звяртаўся беларускі асветнік да Сеньёра,— не ведаеш, што ў нас, у Літве, даўно аб тым ідуць размовы, але Марцін Чаховіц ды Аляксандр Вітрэлін у тым досыць хораша дасведчаны. Бо калі былі ў нас у 1578 годзе, то ўсё пабачылі на свае вочы. Некаторыя шляхціцы там, у Лоску, выступілі супраць іх і давялі ім, што трымаць урад і ехаць на вайну — гэта не супярэчыць Слову Божаму. Пра тое паміж Марцінам ды Вітрэлінам, з аднаго боку, і Васілём Цяпінскім — з другога пачалася дыскусія».

Паводле сцвярджэння Сеньёра, беларускі асветнік прапагандаваў творы Палеолага, а гэтаксама Глірыя з нейкім злым намерам, каб нашкодзіць Збору, і нібыта сам не надта быў дасведчаны ў сутнасці іхняй рэлігійнай дактрыны.

Сымон Будны, называючы словы апанента выдумкай і баронячы аўтарытэт вядомых у Еўропе вучоных, заўважаў: «Пра Глірыя доўга казаць не буду, паведамлю толькі, што досыць добра ведаю яго і дастаткова дасведчаны ў змесце яго рэлігіі. Пра пана Палеолага скажу наступнае: хоць з ім і не сустракаўся, але з аповедаў добрых людзей і з лістоў, якія ён часта дасылае мне, ведаю — ён чалавек добры, богабаязлівы і вучоны».

Сеньёр таксама ўзводзіў на Сымона Буднага паклёп, гаворачы пра парушэнне лоскім міністрам сваёй ранейшай клятвы, нібыта дадзенай падчас нейкага сінода: ніколі не заступацца за ўрад. У дакументах арыянскіх сінодаў за XVI стагоддзе падобная інфармацыя адсутнічае. Яе абвяргаў і сам асветнік у сваім «Адказе...».

Сымон Будны цалкам не пагадзіўся з заявай Сеньёра, які даказваў, што выдаўцы твора Палеолага нібыта мелі на мэце ўзбудзіць урад супраць ідэйных ворагаў і заклікаць урадоўцаў учыніць фізічную расправу над тымі, хто выступаў з радыкальнымі ідэямі пераўтварэння грамадскага жыцця. Але гэта, вядома, было не так. Таму Будны, маючы ўсе падставы для абурэння, пісаў Сеньёру: «Ты кажаш аб узбуджэнні ўрада, аднак я не магу пагадзіцца, бо ў той кнізе няма аніякіх кпінаў у ваш адрас, за выключэннем, бадай, аднаго, калі Палеолаг некаторых асоб назваў «пнямі», а іх думкі — «мроямі». Адносна

заклікаў урада дакладна кажу: у тым творы — ні ў Палеолага, ні ў Гарлінія, ні ў мяне — няма і блізка нават згадак пра тое, не кажучы ўжо пра прамыя заклікі ўрада пакараць кагосьці».

У «Адказе...» Сымон Будны паказаў на шэраг хібаў у поглядах самога «абвінаваўцы». Напрыклад, ён выкрыў яго памылковыя ўяўленні аб Законе Божым.

Беларускі асветнік гэтаксама раскрытыкаваў ваяўнічасць Сеньёра, яго хваравітае непрыняцце іншадумства, урэшце, абвінавацію польскіх «братоў» у дачаснай смерці Францішка Давідовіча, якога яны, не раўнуючы, як Папа Рымскі, абвясцілі «ерэтыкам» і адлучылі ад Збору.

На пагрозы з боку Сеньёра ў свой адрас Сымон Будны коратка і смела адказаў: «Я не баюся вашага гневу».

Аднак і пасля вострай палемічнай сутычкі з Сеньёрам беларускі асветнік не страціў надзеі знайсці агульную мову з польскімі «братамі». Сымон Будны сапраўды імкнуўся да паразумення і згоды ў Зборы, бо бачыў, якая смяротная небяспека для ўсяго руху зыходзіць ад унутраных канфліктаў.

Наступны агульны антытрынітарны сінод Сымону Буднаму ўдалося склікаць у сакавіку 1582 года. Ён праходзіў у Любчы. Радыкальны кірунак на ім прадстаўлялі Марцін Чаховіц, Ян Немаеўскі, Мікалай Жытно і Пётр Даманеўскі. Спрэчкі доўжыліся два дні — 1 і 6 сакавіка. Скончыліся яны, аднак, безвынікова: кожны бок застаўся пры сваім.

Ідэйныя ворагі лоскага міністра, імкнучыся ўхіліцца ад абмеркавання пытання пра ўрад, здолелі навязаць Любчанскаму сіноду другасную на той момант дыскусію пра Сына Божага. «Яны,— пісаў пазней Сымон Будны,— гвалтам прымусілі нас да той размовы, паставіўшы ўмову: калі мы не захочам гаварыць аб Сыне Божым, то яны адмовяцца весці гутарку пра ўрад».

Праціўнікі Сымона Буднага скарысталі яго неаднаразовыя пратэсты супраць абмеркавання на сінодзе тэалагічных пытанняў дзеля сваіх карыслівых мэт. Яны ўзвялі на лоскага міністра паклёп, нібыта ён абвяргае ў сваіх казаннях боскасць Хрыста, а на сінодзе не хоча пра гэта гаварыць.

На наступным Луцлавіцкім сінодзе, які адбыўся ў траўні 1582 года, апаненты адлучылі яго ад Збору. Ян Кішка, напэўна, не надта

разумеючы прыроду разыходжанняў асветніка з аднаверцамі, калі даведаўся пра рашэнне Сінода, пазбавіў Сымона Буднага месца міністра ў Лоску і адмовіў яму ў далейшай падтрымцы. Здарылася найвялікшая несправядлівасць: лепшага і разумнейшага палічылі за ворага і выгналі са сваіх шэрагаў. Гэта была трагічная памылка, якая сведчыла пра глыбокі ідэйны і арганізацыйны крызіс тагачаснага рэфармацыйнага руху на Беларусі.

## VII

Пацярпеўшы няўдачу, Сымон Будны, аднак, не пакінуў арэны змагання. Ён зноў узяўся за пяро і пачаў дзейнічаць праверанымі сродкамі.

За кароткі тэрмін пры матэрыяльнай падтрымцы шляхціца Аляксандра Хамутоўскага асветнік напісаў бліскучыя публіцыстычныя трактаты на польскай мове — *«Сімвал улады»* і *«Абарона ўрада»*. Яны склалі аснову яго новай кнігі, прысвечанай ключавым сацыяльна-палітычным праблемам.

Зборнік твораў Сымона Буднага выйшаў у студзені 1583 года з Лоскай друкарні пад красамоўнай назвай «Аб свецкай уладзе». Кніга выдавалася з дазволу Яна Кішкі, які, няйнакш, пашкадаваў свайго былога духоўнага настаўніка і выканаў яго апошнюю просьбу. Зборнік быў надрукаваны коштам любельскага падчашага, вядомага арыянскага дзеяча Крыштофа Ласоты. Якраз на яго герб Сымон Будны і паплечнік беларускага асветніка Фабіян Даманоўскі напісалі два панегірычныя вершы на лаціне.

У «Прадмове да ласкавага Чытача», змешчанай перад «Сімвалам улады» і «Абаронай урада», Сымон Будны прасіў паблажлівых адносін да яго твораў, спасылаючыся на супярэчлівасць гістарычнага моманту, у які яны рыхтаваліся. «Ласкавы Чытач! — пісаў асветнік.— Убачыўшы маю «Абарону...», не трэба здзіўляцца і абурацца тым, што я толькі цяпер пачаў заступацца за свецкі ўрад, які заўсёды быў са Зборам Пана Хрыста. Сапраўды, ужо мінула каля 20 год, як тутака ў

нас, у Сармацыі, пачаў вучыць і пісаць супраць яго Пётр Гоняд. Напэўна, не адзін з вас незадаволена спытае: чаму ж не тушыў тады, калі толькі разгаралася?! Чаму не напісаў супраць тых варожых выдумак адразу?! Я распавяду, што ў той момант стрымала мяне, і патлумачу, якія абставіны падштурхнулі зараз узяцца за пяро. Вядома, я мог бы назваць процьму прычын майго маўчання ў той час, але, пазбягаючы шматслоўя і паважаючы сцісласць, прыгадаю тры галоўныя».

Першая прычына працяглага маўчання асветніка — нежаданне парушаць прыняты аднойчы жыццёвы прынцып уважлівага, мудрага і спакойнага стаўлення да ўсяго новага і нечаканага. «Таму,— падкрэсліваў Будны,— калі я пачуў у Хрыстовым Зборы навуку Пятра Гоняда і прачытаў яго творы, то не дазволіў сабе ні адразу прымаць яе, ні з трэскам ганіць».

Другая прычына доўгага маўчання Сымона Буднага — крытычныя выступленні іншых пратэстанцкіх дзеячаў, якія, на думку асветніка, досыць аўтарытэтна паказалі хібы вучэння заснавальніка анархізму ў Вялікім Княстве Літоўскім. «Я бачыў,— пісаў ён,— што ў нашай Сармацыі ўзняліся тады вельмі вучоныя людзі — Паклёпка, Кравіцкі, Павел, Шоман і іншыя мудрыя ды пабожныя мужы. Яны выявілі слабыя бакі довадаў Гоняда і з дапамогай Слова Божага абверглі іх».

Урэшце, трэцяя прычына — спадзяванне на тое, што выдадзены ім твор Якуба Палеолага, які ўтрымліваў вельмі шмат аргументаў у абарону ўрада, перакanae апанентаў, змусіць іх адмовіцца ад сваіх памылковых поглядаў. Аднак гэтага не здарылася. Наадварот, бурныя падзеі, пачынаючы з 1578 года, паставілі Сымона Буднага, паводле яго асабістага прызнання, перад неабходнасцю вышэй узняць галаву і на ўвесь голас выказацца ў абарону ўрада.

У «Сімвале ўлады» Сымон Будны распрацаваў аптымальную мадэль узаемных абавязкаў і правоў паміж урадоўцамі і шэраговымі грамадзянамі. У адпаведнасці з вучэннем асветніка, усе прадстаўнікі ўлады — вялікія князі, ваяводы, кашталяны, старосты, гетманы, канцлеры, падканцлеры, падскарбіі, суддзі, жаўнеры — з'яўляліся слугамі Божымі, яго памазанцамі (абраннікамі), пастаўленымі ім пастарамі.

«Найперш, кожны ўрад, улада і ўсе правіцелі — ад Бога. Незалежна ад таго, які паводле сваёй сутнасці ўрад — добры ці злы,

богабаязны ці, наадварот, самы высокі, сярэдні ці найніжэйшы,— усялякі пастаўлены Богам. Бо сам Госпад Бог гэтак мовіў: «Хто пралье кроў чалавечую, таго кроў пральецца ад рукі чалавека» (1 Майс. 9: 6), дазволіўшы, такім чынам, урад, які б караў парушальнікаў Закону. Менавіта гэтак тлумачыў згаданыя словы апостал, калі пісаў да рымлян: «Няма ўлады не ад Бога; існуючыя ж улады пастаўлены Богам» (Рым. 13: 1). Таму і Нерон, і Навухаданосар, і Геліягабал, і Ірад, і ўсе астатнія яшчэ горшыя за іх, што жылі некалі сярод хрысціян і язычнікаў,— усе пастаўлены Богам, усе атрымалі моц і ўладу акурат ад Яго. Пацвярджаў гэта і Сам Пан Хрыстос, калі, звярнуўшыся да ерусалімскага старосты, мовіў: «Ты не меў бы нада Мною аніякай улады, калі б не было табе дадзена зверху» (Ін. 19: 11). Мы гэтаксама, у адпаведнасці са Святым Пісаннем, вучым і вызнаем, што ўсе каралі і іншыя вышэйшыя ўрадоўцы — Божыя слугі, прызначаныя Ім пастары, Ягоныя памазанцы».

Пры абгрунтаванні ўласнай канцэпцыі Сымон Будны абапіраўся на Біблію. Так, даводзячы праўдзівасць сваёй навукі, ён спасылаўся на 82 псальму, дзе Святы Дух мовіў да начальнікаў: «Я сказаў: вы — багі і сыны Усявышняга ўсе вы» (Пс. 82: 6),— а таксама на словы Бога, сказаныя заканадаўцу Майсею: «Я паставіў цябе богам фараону, а Аарон, брат твой, будзе тваім прарокам» (2 Майс. 7: 1).

Асветнік адзначаў: «Фундамент нашага хрысціянскага набажэнства наступны: вучыць, верыць і вызнаваць пра кожную рэч гэтак, як вучыць, верыць і вызнае Святое Пісанне — Стары Запавет і Новы Запавет. Таму і аб урадзе, з-за якога зараз паміж намі — вернікамі ў адзінага Бога, палякамі і літвінамі,— разгарэлася спрэчка, належыць вучыць, верыць і вызнаваць не інакш, як пра тое падаецца ў Святым Пісанні. Такім парадкам, мы вучым і вызнаём — проста, коратка і шчыра, абапіраючыся на самога праўдзівага Бога і, як ужо казалі, на Яго Святое Слова, сведчанні Яго Найсвяцейшага Духа. Мы не азіраемся ні на якія іншыя аўтарытэты, ні на якіх вучоных — пабожных, святых ці найсвяцейшых людзей; нават не зважаем на цэлыя Зборы — слаўныя ці няслаўныя, старажытныя альбо нядаўнія».

Сымон Будны даводзіў, што шэраговыя грамадзяне, шляхта юрыдычна з'яўляюцца падданымі найвышэйшага гаспадара — вяліка-

га князя. Яны мусяць безагаворачна падпарадкоўвацца яму і прызначаным ім урадоўцам, выконваць без пярэчанняў усе загады і распараджэнні. Сымон Будны грунтоўна распрацаваў сістэму ўзаемных абавязкаў урадоўцаў і простых грамадзян, сфармуляваў найважнейшыя прынцыпы падтрымання грамадскага міру ў дзяржаве.

Асветнік зазначаў: «Мы вучым і вызнаём, што ўсе без выключэння абываталі якой-кольвек зямлі, найперш хрысціяне, павінны быць узорнымі падданымі і слухацца найвышэйшага гаспадара — імператара, цара альбо караля ці іхных наместнікаў — і ставіцца да іх з вялікай пачцівасцю. Супраць іх нельга паўставаць, бунтаваць ці дапамагаць бунтаўнікам. Нават калі пан — тыран (ад чаго крый божа), калі ён без віны сільнічае сваіх падданых, забірае маёмасць ці ўвогуле забівае. У любым выпадку няможна чыніць аніякіх забурэнняў і падтрымліваць тых, хто заклікае не падпарадкоўвацца. Заўжды належыць бараніць сваіх гаспадароў ад бунтаўнікоў на ўзор святога мужа Мардахея і святой каралевы Эсфіры.

Вялікае зло чынілі і не ў хрысціянскім звычаі дзейнічалі халопы Нямеччыны, калі ў 1525 годзе паўсталі супраць сваіх паноў. Аднак Бог не спрыяў ім: у розных бітвах загінула блізу ста тысяч сялян. Стапрэды, ротманы і іншыя, што зачыніліся ў Вестфальскім манастыры і абралі сабе кіраўніком Голандра, нарабілі дужа зашмат зла. Але ўрэшце і самі яны склалі галовы.

Наадварот, добра чынілі сыны Ізраілевы, калі апынуліся ў цяжкой няволі. Іх прымушалі замешваць цэглу і будаваць замкі, а народжаных сыноў сілай забіралі й забівалі. Але яны і ў гэткіх невыносных абставінах не паўсталі і не чынілі аніякіх разбурэнняў, адно толькі з плачам звярталіся да Бога сваіх продкаў.

Разважліва паступаў і Давыд. Ён мог двойчы забіць свайго гаспадара Саўла і здабыць каралеўства, на якое быў памазаны, але ён сцярпеў. Калі Давыдавы людзі раілі яму зарэзаць соннага Саўла, то ён адказаў ім: «Ды не дапусціць мне Госпад зрабіць гэта гаспадару майму, абранніку Божаму, каб паклаў руку маю на яго. Бо ён — абраннік Божы» (1 Цар. 24: 7).

Гэтаксама, калі Авеса хацеў ашчэпам забіць соннага Саўла, Давыд забараніў яму ўчыняць злачынства. Давыд мовіў: «Жывы Госпад! Няхай ён знішчыць яго, або прыйдзе дзень, калі ён памрэ, або пойдзе

на вайну і загіне; мяне ж няхай абароніць Госпад, каб я ўзняў руку на абранніка яго» (1 Цар. 26: 10).

І цяпер кожны падданы не павінны выступаць наперакор свайму пану ці каралю. Не зважаючы на здзек, уціск ці нават смерць ад яго, не можа падымаць рукі на яго».

Другі абавязак шэраговых грамадзян — заўжды прасіць Бога за сваіх урадоўцаў і гаспадароў. Сымон Будны пісаў: «Яшчэ вызнаём і вучым, што падданыя мусяць маліцца Богу за караля і за іншых паноў, не зважаючы на тое, хрысціяне яны ці не. Так, вавілонскі цар быў няверны, але ізраільцяне маліліся за яго і ягонае царства (Ер. 29: 7).

Ведаем, якія каралі былі ў часы апосталаў, аднак Павел у Лісце да Цімафея пісаў: «Прашу, найперш, каб чынілі малітвы, прашэнні, падзякі за ўсіх людзей. За цароў і за ўсіх правіцеляў, каб жыць нам у пабожнасці й чысціні. Бо гэта добра і прыемна Спасу нашаму Госпаду» (1 Цім. 2: 1—3).

Хрысціяне павінны маліцца Пану Богу за ўсіх гаспадароў, не дазваляць аніякай абразы іх. Нельга лаяць, сарамаціць ці праклінаць свайго пана, бо сам Бог у Законе забараніў гэта, кажучы: «Суддзяў не абгаворвай і гаспадара над народам тваім не асуджай» (2 Майс. 22: 28). Таму правільна паступіў Давыд, загадаўшы забіць Шымея, сына Герэя, які пярэчыў яму. Гэтаксама слушна зрабіў Саламон, калі выканаў запавет свайго бацькі, дазволіўшы замардаваць яго. Бо, як кажа апостал, слуга Божы носіць меч недарэмна (Рым. 13: 4)».

Трэці абавязак грамадзян — своечасова ўносіць у дзяржаўную скарбонку прадугледжаныя законам падаткі: «Вызнаём і вучым, што ўсе падданыя, асабліва хрысціяне, павінны плаціць і аддаваць сваім панам і каралям розныя падаткі — чынш, паборы, пошліну, мыта, перавоз і інш. Падданыя абавязаны без пярэчанняў ісці на вайсковую службу (Мф. 22). Сам Хрыстос плаціў падаткі, хоць мог і не даваць іх, бо паходзіў з царскага роду і іншым загадваў плаціць: «Аддавайце кесару кесарава, а Богу Божае» (Мф. 22: 21). Гэтак жа вучыў і яго паслядоўнік апостал Павел: «Аддавайце кожнаму тое, што належыць. Каму падатак — падатак. Каму аброк — аброк. Каму баязнь — баязнь. Каму гонар — гонар. Не заставайцеся нікому ні ў чым вінныя, апрача ўзаемнай любові» (Рым. 13: 7—8)».

Чацвёрты абавязак грамадзян — без пярэчанняў выпраўляцца на вайсковую ці нейкую іншую службу, калі загад адданы найвышэйшым гаспадаром.

Пяты абавязак грамадзян, паводле слоў Сымона Буднага,— неабходнасць поўнага падпарадкоўвання таму ўрадоўцу, якога Бог даў зямлі, і забарона гвалтам мяняць яго ці патрабаваць іншага. У якасці абгрунтавання прыведзенага палажэння Будны згадваў паводзіны апосталаў і іх вучняў, якія ніколі не патрабавалі сабе іншых урадоўцаў і каралёў, хоць і жылі ў няпростыя для хрысціянства часы Ірада (Дзеян. 12), Агрыпы (Дзеян. 26), Тыберыя альбо Нерона.

Што да правоў шэраговых грамадзян краіны, то Сымон Будны выступаў як прыхільнік шляхецкай дэмакратыі. Ён справядліва лічыў, што кожны хрысціянін можа заняць любую дзяржаўную пасаду і трымаць яе ў адпаведнасці з законамі краіны. «Вызнаём і вучым,— падкрэсліваў ён,— што кожны сапраўдны хрысціянін можа трымаць урад і служыць урадоўцам. Калі каго-небудзь Евангелле захопіць на ўрадзе, то не трэба пакідаць і бегчы ад яго. Наадварот, належыць заставацца на ўрадзе, як піша апостал да карынфян: «Кожны заставайся ў тым званні, у якім пакліканы» (1 Кар. 7: 20). Усе каралі з прыняццем хрысціянства павінны заставацца каралямі. Гэтаксама ваяводы — ваяводамі, старосты — старостамі, гетманы — гетманамі, ротмістры — ротмістрамі, войты — войтамі, бурмістры — бурмістрамі. Заўжды ўсе ўрадоўцы, ад найвышэйшага да найніжэйшага, калі яны верныя хрысціяне, павінны мець, як і прыватныя асобы, пакаянне, смерць, адмаўленне ад старога Адама і прыняцце новага, аднаўленне і новае нараджэнне».

У «Сімвале ўлады» Сымон Будны адказаў на надзённае пытанне аб тым, якімі павінны быць урадоўцы, сфармуляваў этычны кодэкс найвышэйшага гаспадара, вызначыў кола яго галоўных абавязкаў і правоў, а гэтаксама формы кіравання дзяржавай.

Будны зыходзіў з таго, што хрысціянскі манарх і яго памочнікі — урадоўцы — павінны адрознівацца ад носьбітаў улады ў паганскіх краінах, дзе, як правіла, пануе тыранія, а ўрадоўцы да ніткі абіраюць падданых дзяржавы. «Хрысціянскі кароль не павінен, аднак, быць гэткім, як паганін. Князь або князі, ды і ўсе іншыя ўрадоўцы, калі яны хрысціяне, мусяць адрознівацца ад паганскіх урадоўцаў. Калі ж

хтосьці лічыць, што хрысціянскі манарх або ваявода, гетман, ротмістр, дзясятнік можа быць гэткі ж, як і паганскія ўрадоўцы, то адкажу ім проста: хрысціянін не можа займаць такой пасады. Паганін бывае каралём з той мэтай, каб яму ўсе кланяліся, служылі, неслі золата, срэбра, каштоўныя камяні, папаўнялі яго скарбонкі іншымі дарагімі рэчамі. Ён жа прымушае сваіх падданых плаціць яму велізарныя падаткі. Хрысціянскі кароль, вядома, усё можа мець: і золата, і грошы, і каштоўныя камяні, і дарагія шаты (калі Бог тое стварыў недарэмна і не для бестыяў). Аднак, у адрозненне ад паганіна, ён не мае права атрымліваць тыя скарбы з непамернага абцяжарання падданых».

Будны падкрэсліваў: «Хрысціянскі кароль мусіць быць богабаязны, справядлівы, міласэрны, бо напісана: «Міласэрнасць і праўда сцерагуць цара, і міласэрнасць — апірышча сталіцы яго» (Прытчы 20: 28). Ён павінны бараніць удоў, убогіх і сірот; сачыць, каб судзілі ў адпаведнасці з законамі, заснаванымі на Святым Пісьме; не памыляцца, прызначаючы суддзяў; не распачынаць вайны дзеля пашырэння сваіх уладанняў, а ўступаць у бойку толькі тады, калі вымушаюць абставіны, калі неабходна абараніць падданых. Адным словам, хрысціянскі гаспадар павінен кіравацца інтарэсамі ўсёй дзяржавы, усіх абывацеляў, а не толькі ўласнай карысцю. Узорным гаспадаром быў іўдзейскі цар Давыд, а гэтаксама Язафат і Езэкія».

Да найважнейшых павіннасцей хрысціянскага гаспадара беларускі тэарэтык дзяржавы адносіў клопат пра пашырэнне хрысціянскай веры, прымнажэнне хвалы адзінага праўдзівага Бога і Яго Сына Ісуса Хрыста, каб пазбегнуць таго духоўнага голаду, якім Усявышні пагражаў праз прарока Амоса: «Вось надыходзяць дні, кажа Госпад Бог, калі Я пашлю на зямлю голад. Але не голад без хлеба, не прагу вады, а прагу слухання слоў Гасподніх» (Амос 8: 11). Манарх-хрысціянін мае прызначэнне сцерагчы сваіх падданых ад паганскіх звычаяў, выкараняць балванаў з іх сэрцаў, на ўзор Езэкіі, што знішчыў меднага вужа (2 Цар. 18: 3—4).

Занепакоенасць становішчам бедных і абяздоленых людзей, якія не ў стане пракарміць сябе, і выкараненне дармаедаў, гультаёў і нядбальцаў Сымон Будны таксама адносіў да абавязкаў манарха. «Хрысціянскаму гаспадару,— падкрэсліваў асветнік,— належыць сачыць за тым, каб непатрэбныя гультаі, якіх поўна ў нашай Сармацыі і безліч

ва ўсёй Еўропе, не елі дарма хлеба. Трэба таксама клапаціцца пра ўбогіх і сірот, каб яны ад голаду, а зімой ад холаду не цярпелі і нідзе пад платамі не паміралі. Гаспадар абавязаны прымусіць лайдакоў і нядбальцаў працаваць, а калі яны пачнуць хавацца, указаць ім дарогу са сваёй зямлі, бо напісана: "Мудры кароль разгоніць бязбожнікаў"».

Прыхільнік пашырэння асветы, укаранення гуманістычных прынцыпаў узаемаадносін між людзьмі праз адукацыю, Сымон Будны заклікаў і абавязваў манархаў акружаць сябе мудрымі і вучонымі асобамі, якія маглі б даваць слушныя парады, асабліва ў складаныя моманты, каб ад найвышэйшых урадоўцаў ніколі не зыходзіла шкода падданым.

Будны згадваў Саламона, які казаў: «Без парады намеры не спраўдзяцца, а пры мностве дарадцаў яны здзейсняцца» (Прытчы 15: 22). Акрамя таго, побач з асвечанымі людзьмі манарх меў бы магчымасць удасканальваць свае веды. «Невыпадкова,— заўважаў асветнік,— Святое Пісьмо ўхваляе звычаі персаў і медаў, якія ля караля заўжды мелі вучоных людзей, што выдатна ведалі права і ўсе законы».

Ідэал найвышэйшага гаспадара, паводле Сымона Буднага,— адукаваны манарх, які шмат чытае і шмат ведае. Вялікі князь не можа абыходзіць сваёй увагай Святое Пісьмо, якое Госпад Бог загадаў чытаць Майсею і ўсім яго пераемнікам (5 Майс. 17: 18—19). Вядома, у часы Майсея, дадаваў асветнік, размова ішла толькі пра Стары Закон, паколькі іншыя боганатхнёныя кнігі тады адсутнічалі. У цяперашнія часы хрысціянскаму манарху належыць чытаць усю Біблію цалкам, прарокаў і апосталаў. Сымон Будны гэтаксама раіў найвышэйшым гаспадарам звяртацца да скарбніцы мудрасці — антычных аўтараў, найперш гісторыкаў. Услед за Цыцэронам беларускі асветнік паўтараў: «Хто не ведае таго, што дзеялася на свеце даўней, той заўсёды будзе рабом».

Досыць высокія патрабаванні Сымон Будны прад'яўляў да іншых дзяржаўных урадоўцаў — ваявод, кашталянаў, старостаў, суддзяў, падкрэсліваючы, што ім належыць быць не менш богабаязнымі, справядлівымі і сумленнымі, чым найвышэйшаму гаспадару. Як і манарх, усе ўрадоўцы павінны выдатна ведаць законы, мець высокую адукацыю, імкнуцца быць ва ўсім акуратнымі і спраўнымі, выкараніць са сваіх сэрцаў сквапнасць і хцівасць.

Што да суддзяў, дык асветнік згадваў Божую навуку, дадзеную ім у Святым Пісьме. Божая навука аб тым, як належыць паводзіць

сябе суддзям, указваў Будны, пададзена гэтаксама ў Пятай кнізе Майсея (1: 9—13) і ў Другой яго кнізе (18: 17—21). Надзвычай цікавы той факт, што беларускі асветнік адсылаў урадоўцаў да твораў «вельмі вучоных людзей» — Платона, Арыстоцеля, Ісакрата, Эразма Ратэрдамскага, Рэйнгарда Ларыхія і Андрэя Фрыча Маджэўскага,— у якіх, паводле яго слоў, даваліся глыбокія і грунтоўныя адказы на пытанні аб правільных паводзінах усіх носьбітаў улады.

У заключэнне Сымон Будны пацвердзіў права ўсіх урадоўцаў належыць да Хрыстовага Збору, у чым ім адмаўлялі беларускія і польскія анархісты. «Мы,— пісаў Будны,— дапускаем і дапускаць будзем заўжды да Хрыстовага Збору людзей усіх станаў: каралёў, імператараў, князёў або княжат, гетманаў, ваявод, графаў, старостаў, намеснікаў, бурмістраў, войтаў, нават жаўнераў, і наогул усіх іншых службовых асоб і ўрадоўцаў — вялікіх, малых і найменшых. Кожны мае права належыць да Хрыстовага Збору, але, вядома, не кожны зможа, а толькі тыя, што моцна і шчыра паверылі пачутаму Слову Божаму, што каяцца за сваё ранейшае жыццё, выкаранілі з сябе старога Адама і прынялі новага, ды жывуць добра, справядліва і пабожна, гэтак, як гаварыў апостал: «Навучаючы нас, каб разважліва, праведна і богабаязна жылі мы ў цяперашнім веку, адцураўшыся бязбожнасці і пажадлівасці свету, ждучы шчаснай надзеі і з'яўлення славы вялікага Бога і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста» (Ціт. 2: 12—13)».

Строгае выкананне шэраговымі грамадзянамі сваіх абавязкаў і высокая адказнасць урадоўцаў, адчуванне імі важнасці ўласнай місіі акурат і давалі, на думку беларускага асветніка, гарантыі спакою ў дзяржаве, стваралі найбольш спрыяльныя варункі для развіцця грамадства і асобы.

## VIII

У перыяд з 1581 да 1583 года Сымон Будны працаваў над «Абаронай урада» — найбольш яркім сацыяльна-філасофскім трактатам.

Твор быў скіраваны супраць тагачасных анархістаў — Марціна Чаховіча, Паўла з Візны, Яна Немаеўскага і Пятра Гоняда, якія пра-

паноўвалі ліквідаваць дзяржаву і ўсе яе галоўныя атрыбуты — урад, войска, суды.

«Абарона ўрада» складаецца з прадмовы і дзвюх асноўных частак. Ва ўступе Сымон Будны раскрыў місію і мэту працы, акрэсліў яе структуру і кампазіцыйную будову.

У першай частцы кнігі пісьменнік-інтэлектуал аспрэчыў 22 довады Марціна Чаховіча, змешчаныя ў яго творы «Хрысціянскія размовы», дзе той даводзіў, што існаванне ўрада і дзяржаўных інстытуцый супярэчыць хрысціянскаму вучэнню.

У другой, найбольш цікавай частцы твора, Сымон Будны прывёў 15 разгорнутых доказаў у абарону ўрада і дзяржавы. Ён даводзіў выключную неабходнасць дзяржаўных інстытуцый, а таксама бліскуча пацвердзіў думку, што кожны хрысціянін можа займаць свецкую пасаду і, сумленна выконваючы ўласныя абавязкі, прыносіць велізарную карысць грамадству.

На старонках твора шмат разважанняў пра сутнасць улады, абавязкі ўрадоўцаў, шляхі ўдасканалення грамадскіх дачыненняў, смяротнае пакаранне, а таксама пра пазнанне ісціны, дыялектыку і сафістыку, дакладную сістэму доказаў. Вельмі шмат месца ў творы займаюць філалагічныя экскурсы і вытлумачэнні біблейскіх выказванняў, якія мелі дачыненне да спрэчак аб урадзе і дзяржаве.

«Абарона ўрада» напісана ў форме дыялогу з ідэйнымі апанентамі. Рацыянальная дамінанта дыялогаў Сымона Буднага арганічна спалучалася з эмацыйнасцю, духоўнай напружанасцю і ўзрушанасцю, што дасягалася праз шырокае выкарыстанне пісьменнікам рытарычных пытанняў, яркіх параўнанняў, выслоўяў, метафар і сімвалаў. Прыкладам, Павел з Візны, выступаючы ў абарону правоў падданых і «нявольнай чэлядзі», страсна прамаўляў: «Ці ж цяпер у нас не так робіцца? Ці ж не працуюць падданыя на сваіх паноў без перапынку і без спачыну ў нас на Літве і ў Польшчы? Ці не плацяць цяжкіх падаткаў? Самі бедакі мякіну ядуць, нібы свінні, а зерне на чынш, на сярэбшчыну ды іншыя пабор і выплаты мусяць аддаваць».

Аўтарская пазіцыя падчас дыялогаў выяўлялася пераважна ў форме дыдактычных сентэнцый. Так, асуджаючы тыранію і знявагу гаспадарамі падданых, Сымон Будны павучаў свайго апанента: «Наш

абавязак, калі здзек адбываецца на нашых вачах,— не маўчаць, а заклікаць не чыніць тыраніі. А дзе яна ўсё роўна працягвае заставацца, то, нагадаўшы тырану адзін раз, другі, трэці — пакінуць яго і не есці ягонага хлеба. Бо таго, хто будзе маўчаць тырану або спрыяць яму, несумненна пакарае Госпад Бог».

Для гэтага твора Сымона Буднага, як і для папярэдніх, уласцівы непрыхаваны дыдактызм і маралізаванне — рысы, характэрныя для ўсёй старажытнай літаратуры Беларусі.

На старонках «Абароны ўрада» ў найбольшай ступені выявілася арыгінальнасць Сымона Буднага як яркага нацыянальнага мысліцеля. Ва ўступнай частцы ён абгрунтаваў уласны філасофскі метад і тыя зыходныя прынцыпы, якія лічыў слушнымі і на якія абапіраўся ў часе аналітычных заняткаў.

Паводле яго слоў, ён з'яўляўся прыхільнікам дыялектыкі, якую, у адрозненне ад многіх сваіх сучаснікаў, лічыў не парадженнем антычнасці, а адпрыроднай здольнасцю чалавека і найвышэйшай каштоўнасцю. «Няхай паважаныя калегі ведаюць і памятаюць пра тое,— пісаў ён,— што навука прыгожага маўлення, па-грэчаску дыялектыка,— не вымысел паганскіх філосафаў, як думаюць малаадукаваныя людзі, а дар Божы, рэч, дадзеная чалавеку прыродай».

Каб абараніць дыялектыку ад нападак схаластаў, што наогул адкідвалі ўсялякі рацыяналізм, Будны карыстаўся найаўтарытэтнейшым па тым часе аргументам: ён спасылаўся на Хрыста і апосталаў, якія неаднаразова ўжывалі дыялектычны метад. Ісус Хрыстос, паводле слоў асветніка, карыстаўся якраз дыялектычнымі сілагізмамі, калі, спрачаючыся са сваімі праціўнікамі, гаварыў: «Хто ад Бога, той слухае словы Божыя. Вы затым не слухаеце, што вы не ад Бога» (Ін. 8: 47). Да разважанняў у духу Арыстоцеля і Парфірыя шматкроць прыбягаў і апостал Павел у «Пасланні да рымлян» і ў «Пасланні да яўрэяў». «Значыць,— заўважаў Сымон Будны,— паколькі сам Хрыстос і ягоныя пасланцы не абыходзілі той навукі, што завецца дыялектыкай, то ёй нельга пагарджаць. Вядома, пры ўмове, каб з яе дапамогаю не чынілі хітрасці і не абводзілі вакол пальца непісьменных людзей».

Пра якую «ўмову» гаворыў філосаф і ад якой «хітрасці» імкнуўся засцерагчы свайго чытача? Сымон Будны, як вынікае з яго разваг,

не прымаў тых формаў рацыяналізму і дыялектыкі, якія мелі месца ў творах антычных філосафаў, у чым ён і бачыў іх галоўны недахоп. Згодна з яго меркаваннем, дыялектыку — найвялікшую праяву чалавечага духу — антычныя філосафы ператварылі ў «сафістыку» — гэткую «памылковую» сістэму разважанняў, калі агульныя высновы робяцца выключна на падставе лагічных прапазіцый, ці сілагізмаў, што не адпавядаюць найвышэйшай ісціне — Слову Божаму.

У сваіх творах Сымон Будны неаднойчы адмоўна выказваўся пра антычную дыялектыку, «філасофскія досціпы» і «сафістычныя выкрунтасы». У «Абароне ўрада» ён, даючы ўласную версію развіцця дыялектыкі, пісаў: «Адпрыродны Божы дар — дыялектыку — разумныя людзі з цягам часу апісалі, а затым сфармулявалі пэўныя яе правілы, або каноны. Але пасля, абапіраючыся на іх, пачалі чыніць розныя бязбожныя выкрунтасы, кажучы па-грэчаску,— стварылі сафістыку, да якой і зараз некаторыя маюць асаблівыя сімпатыі. Богабаязныя людзі павінны, аднак, сцерагчыся гэтай навукі, каб не быць абдуранымі і каб не хлусіць іншым. Толькі пры правільным карыстанні ў дыялектыцы няма здрады, толькі тады яна сапраўдная!»

Абапіраючыся на творы асветніка, можна зрабіць выснову, што «сапраўднай дыялектыкай» ён лічыў гэткі спосаб разважанняў, калі сілагізмы, або лагічныя сентэнцыі, абавязкова падмацоўваліся Словам Божым, «аксіёмамі» са Святога Пісання. «Напэўна, праціўнікі будуць гаварыць супраць мяне,— адзначыў Сымон Будны ў «Абароне ўрада»,— што я пішу як шкаляр ці студэнт і нібыта прыходжу да паганскіх высноў, нарабіўшы дыялектыкі і сафістыкі. Аднак мне няма патрэбы вельмі апраўдвацца. Скажу, бадай, наступнае: шкалярства мае месца тады, калі фундамент бярэцца з філасофіі. Я ж бяру фундамент, асновы ці пачаткі, не з філасофіі, а з самога Святога Пісання».

Будны не абмяжоўваўся тэарэтычнымі абгрунтаваннямі агульнага прынцыпу ўласнага метаду. Ён выказаў шэраг практычных рэкамендацый, як карыстацца «сапраўднай дыялектыкай». Так, паводле яго слоў, усялякі рацыяналістычны довад павінен складацца з трох частак: галоўнай сентэнцыі, меншай сентэнцыі і высновы, якая абапіраецца на іх. Кожную з сентэнцый, або прапазіцый, належыць пацвердзіць Святым Пісаннем. Толькі ў гэткім выпадку выснову можна

лічыць слушнай. Як бачна, грунтам усялякага пазнання для Сымона Буднага з'яўлялася Біблія. Больш за тое, яна для яго — бясспрэчны аўтарытэт, кніга, якая ўтрымлівае найвышэйшую ісціну. «Размаітыя рэчы і з'явы,— падкрэсліваў ён,— кожны хрысціянін мусіць разумець паводле Слова Божага».

Сымон Будны не толькі вучыў гэтак, але і сам дзейнічаў у адпаведнасці з выказанымі прынцыпамі, што дае ўсе падставы гаварыць пра схаластычны характар гнасеалогіі беларускага філосафа XVI стагоддзя. Разам з тым, нельга не адзначыць і другі аспект: на практыцы Сымон Будны не заўжды заставаўся верным свайму ж вучэнню аб пазнанні. Нярэдка сфармуляваныя ім сілагізмы, сентэнцыі або тэзісы ён пацвярджаў не Словам Божым, а рацыяналістычнымі аргументамі — філалагічна-лінгвістычнымі экскурсамі, гістарычнымі прыкладамі, спасылкамі на закон і здаровы сэнс.

Улічваючы гэтую акалічнасць, можна зрабіць агульную выснову: філасофскі метад Буднага ўяўляў сінтэз ratio і schola, спалучаў элементы сярэднявечнай схаластыкі і рэнесансавага рацыяналізму. Выпрацоўка гнасеалогіі і станаўленне філасофскага метаду Сымона Буднага цесна лучыліся з яго пошукамі агульнага ідэалу, ісціны, з вызначэннем гістарычнай перспектывы ўсёй еўрапейскай культуры. Ідэя неабходнасці рэформаў усіх грамадскіх інстытутаў, у тым ліку і царкоўных, а таксама патрэба новай маралі, што вынікала з унутранага гістарычнага развіцця еўрапейскіх дзяржаў, у XVI стагоддзі выйшлі на першае месца і прадвызначылі характар і напрамкі духоўных пошукаў таго часу.

На старонках «Абароны ўрада» Сымон Будны галоўным чынам выступіў супраць грамадска-палітычнай дактрыны вялікакняскіх і польскіх анархістаў — Паўла з Візны, Яна Немаеўскага, Пятра Гоняда і іншых, што патрабавалі знішчэння дзяржавы і ўсіх урадавых структур — суда, войска, канцылярыі, цэнтральнай і мясцовай адміністрацыі.

Беларускі пісьменнік-інтэлектуал сфармуляваў найважнейшыя аргументы ў абарону ўрада і дзяржавы, бліскуча пацвердзіўшы думку, што кожны хрысціянін можа займаць свецкую пасаду і, сумленна выконваючы свае абавязкі, прыносіць велізарную карысць грамадству. Пісьменнік-інтэлектуал закрануў пытанне аб прыналежнасці саслоўя

жаўнераў да дзяржавы. У якасці ўзору разважанняў Сымона Буднага прыгадаем яго першы аргумент у абарону ўрада:

*У аргументах, накіраваных у абарону ўрада, мы будзем скарыстоўваць дыялектыку для падмацавання нашых меркаванняў, каб яны былі больш слушнымі і пераканаўчымі.*

*Цяпер пачнём абгрунтоўваць нашу першую выснову пра ўрад. Гэтая выснова, як і належыць, складаецца з трох частак. Усе астатнія высновы таксама маюць тры часткі, апрача тых, у якіх ужываецца адмысловы прыём — суджэнне ад супрацьлеглага (лац. enthymemat). Першае палажэнне называецца агульным, а другое — прыватным. На іх падставе акурат і робіцца выснова. Першая і другая сентэнцыі павінны быць дакладнымі і слушнымі. Калі хоць адна з іх будзе памылковай, то і ўся выснова будзе фальшывай, хібнай. Калі ж два палажэнні праўдзівыя, то і агульнае заключэнне, зробленае на іх грунце, безумоўна будзе слушным.*

*У першай нашай выснове, як і належыць,— тры часткі. Першая — гэта агульнае палажэнне, другая — меншае палажэнне, і, нарэшце, заключэнне. Каб заключэнне было праўдзівым і дакладным, неабходна, каб два папярэднія палажэнні гэтаксама былі бездакорнымі. Таму належыць пацвердзіць слушнасць кожнай прапазіцыі.*

*Першая прапазіцыя гучыць наступным чынам: адпрыродны закон, які запісаны Богам у сэрцах людзей, мусіць быць у Божым Зборы вечна. Гэтае палажэнне не патрабуе асаблівага абгрунтавання і дадатковых доказаў, бо ўсе з ім згодныя і ўсе прымаюць яго. Нават Марцін Чаховіч, з якім мы тут дыскутуем, гэтую прапазіцыю лічыць праўдзівай.*

*Дыскусіі выклікае другая прапазіцыя, якая гучыць наступным чынам: караць забойцаў пазбаўленнем жыцця — гэта адпрыродны закон. Менавіта гэтую прапазіцыю належыць дэталёва абгрунтаваць, пацвердзіць яе дакладнасць і слушнасць Святым Пісаннем. Гэтае сцвярджэнне нашы апаненты лічаць памылковым, не прыводзячы аніякіх доказаў у абарону ўласнага меркавання. Пэўнасць нашага другога палажэння пацвярджаецца тымі словамі з кнігі «Быцця», дзе распавядаецца пра Каіна, які, будучы пакараны Богам за братазабойства, гэтак мовіў да Усявышняга: «Вось, Ты цяпер зганяеш мяне з зямлі, і ад твару Твайго я схаваюся і буду выгнаннікам і*

*вандроўнікам на зямлі. І кожны, хто сустрэнецца са мною, заб'е мяне» (1 Майс. 4: 14). Гэта яскравае сведчанне на карысць таго, што сама прырода паказвае чалавеку: калі ён заб'е, дык, адпаведна, будзе сам забіты. Бо на той час, калі гаварыліся гэтыя словы, аніякіх пісаных правоў і законаў не існавала. Да таго часу яшчэ ніхто нікога не забіваў. Але Каін разумее і адчувае, што ён заслужыў пакаранне. Хто ж яму пра гэта сказаў? Хто яго навучыў? Толькі адпрыродны закон, які вучыць кожнага чалавека, каб ён рабіў другому тое, што хацеў бы, каб і яму чынілі.*

*Ці варта яшчэ больш казаць, калі ўсе народы і іх заканадаўцы — драконы, лікургі, салоны ды іншыя — не мелі Божага закону, але паводле адпрыроднага закону яскрава бачылі: за зло належыць жорстка караць злачынцаў, а за забойства чалавека наогул павінен выносіцца смяротны прысуд. Так пра Салона напісана, што ён усе статуты Дракона паламаў, апрача аднаго — пра пакаранне забойцаў. Гэты артыкул ён пакінуў нязменным, гэта значыць дазволіў караць смерцю чалавеказабойцаў. Дракон, праўда, пастанавіў караць смерцю не толькі забойцаў, але таксама злодзеяў і гультаёў. Усё гэта яскрава сведчыць, што адпрыродны закон палягае на тым, каб выносіць забойцам смяротны прысуд.*

*Такім чынам, другая наша прапазіцыя праўдзівая і дакладная, гэтак жа, як і першая. А паколькі дзве прапазіцыі дакладныя, моцныя і праўдзівыя, то і заключэнне, зробленае на іх падставе, не можа быць памылковым. Яно мусіць быць дакладным, моцным і праўдзівым. Гэта значыць пакаранне смерцю за забойства чалавека — ёсць адпрыродны Божы закон. Ён упісаны Богам у чалавечыя сэрцы і мусіць быць вечна ў Хрыстовым Зборы. З гэтых разваг вынікае, што ўрад, які пакарае мячом чалавеказабойцаў, павінен заўжды трываць у Божым Зборы.*

Сымон Будны даў вычарпальны адказ апанентам. На гэтым дыскусія, аднак, не скончылася. Яна працягвалася на сінодах і сходах пратэстантаў. Да яе далучыліся і прадстаўнікі іншых канфесій. Асабліва прыкметным стаўся ўдзел у спрэчцы вакол урада Арцёмія — тагачаснага лідара праваслаўных, які падтрымаў сацыяльную дактрыну Сымона Буднага аб неабходнасці ўрада, незаменнай ролі ўрадоўцаў пры рэгуляванні грамадскіх дачыненняў.

## IX

Погляды беларускага пісьменніка на ўрад падтрымалі многія дзяржаўныя дзеячы Беларусі і Польшчы — ваяводы, кашталяны, старосты,— незалежна ад іх веравызнання. Але яны чамусьці не абаранілі асветніка ад нападкаў Яна Немаеўскага і Каспара Вілкоўскага.

Трагічныя падзеі 80-х гадоў XVI стагоддзя пазбавілі Сымона Буднага душэўнай раўнавагі, назаўсёды выбілі яго са звыклай жыццёвай каляіны. Каля 1583 года ён пакінуў Лоск накіраваўся ў Іўе, дзе дзейнічала арыянская акадэмія. Доказам знаходжання Буднага ў Іўі з'яўляецца вядомы факт яго супрацоўніцтва з рэктарам Іўеўскай акадэміі Янам Ліцыніем Намыслоўскім, на падручнік якога ён у 1589-м напісаў панегірычны верш. Апрача працы над літаратурнымі творамі і філасофскімі трактатамі, асветнік, мусіць, зноў шчыраваў на педагагічнай ніве.

Венграўскі пратэстанцкі сінод 1584 года вынес канчатковы прысуд Сымону Буднаму. У рашэнні Сінода рэзка асуджалася яго вучэнне. Такім чынам, Будны быў пазбаўлены апошняй надзеі прыйсці да згоды з братамі і супольна пашыраць хрысціянскую навуку сярод славянскіх народаў.

У канцы 80-х гадоў XVI стагоддзя Сымон Будны разам з Фабіянам Даманоўскім удзельнічаў у дыспутах з полацкімі езуітамі, пра што ёсць паведамленне ў кнізе «Апісанне Навагрудскага дыспута 1594 года».

Творчы і жыццёвы шлях Сымона Буднага — славутага асветніка Беларусі, чалавека ўніверсальных ведаў, таленавітага пісьменніка, унікальнага філосафа, прапаведніка і перакладчыка — завяршыўся 13 студзеня 1593 года ў доме шляхціца-пратэстанта Лявона Моклака. У ціхім кутку Беларусі — мястэчку Вішнева — душа і цела Сымона Буднага знайшлі апошні прытулак.

# КАНЦЛЕР

*Леў Сапега — зорка першай велічыні на небасхіле нацыянальнай гісторыі, палітыкі і культуры. Ён з'яўляецца стваральнікам славутага трэцяга Статута 1588 года — найбольш дасканалага кодэкса законаў у тагачаснай Еўропе. Мудры чалавек і адказны ўрадовец, ён паклапаціўся пра належнае ўпарадкаванне і захаванне для нашчадкаў каштоўнага дзяржаўнага архіва — Літоўскай Метрыкі, большасць дакументаў якой напісаны на старабеларускай літаратурнай мове.*

*Як канцлер Вялікага Княства Літоўскага, Леў Сапега ажыццяўляў выключна эфектыўную ўнутраную і знешнюю палітыку краіны, надзейна забяспечваў яе палітычны, эканамічны і духоўна-культурны суверэнітэт.*




## I

арадзіўся Леў Сапега 4 красавіка 1557 года ў Астроўне, што на Віцебшчыне. Менавіта там, у маляўнічым кутку Беларусі, на ўзгорку каля цудоўнага возера, некалі стаяў сямейны палац старадаўняга магнацкага роду Сапегаў.

Пачатковую адукацыю Леў атрымаў у Нясвіжскай пратэстанцкай школе. У 13-гадовым узросце ён паступіў у Лейпцыгскі ўніверсітэт, дзе некалькі гадоў вывучаў права. Па вяртанні на радзіму адукаваны юнак трапіў на службу да вялікага князя Стэфана Баторыя.

У 1579—1582 гадах Леў Сапега са зброяй у руках адстойваў незалежнасць Бацькаўшчыны. На чале гусарскай харугвы ён ваяваў пад Вялікімі Лукамі, Псковам і Завалачам, вызваляў беларускія землі ад

маскоўскіх войскаў. Мусіць, за вайсковыя заслугі 4 лютага 1580 года Леў Сапега атрымаў вельмі прэстыжную і, галоўнае, надзвычай перспектыўную ў кар'ерным плане пасаду сакратара Вялікага Княства Літоўскага.

У 1581 годзе Леў Сапега заняў новую пасаду — найвышэйшага пісара. Дзяржаўная служба стала яго наканаваннем і шчаслівым лёсам.

Леў Сапега прыклаў шмат намаганняў, каб удасканаліць дзейнасць дзяржаўных інстытутаў, узняць аўтарытэт судовай і выканаўчай улады краіны. Ужо ў 1581 годзе ён спрычыніўся да ўтварэння Трыбунала — найвышэйшага апеляцыйнага суда Княства. Мяркуючы па ўсім, дасведчаны ў юрыспрудэнцыі пісар асабіста падрыхтаваў яго прававое абгрунтаванне з аднайменным назовам — *«Трыбунал»* (Вільня, 1581).

## II

Увосень 1583 года, калі Леў Сапега знаходзіўся ў Кракаве пры каралеўскім двары, орды Асманскай імперыі напалі на паўднёвыя землі федэрацыі. «Ад пана старосты камянецкага,— паведамляў Леў Сапега ў Вільню Крыштофу Радзівілу,— прымчаў ганец з весткай, што туркі пераправіліся цераз Дунай і сталі лагерам каля Камянца».

Вялікае Княства Літоўскае і Польшча распачалі тэрміновую падрыхтоўку да абароны. Каб засцерагчы краіну ад небяспекі з усходу на час вайны з паўднёвым ворагам, урад Вялікага Княства Літоўскага прыняў рашэнне падпісаць мір з Маскоўскім княствам. З гэтай мэтай да Івана IV Грознага было накіравана аўтарытэтнае пасольства. Менавіта Леў Сапега, якому яшчэ не споўнілася і 27 гадоў, узначаліў адказную пасольскую місію ў Маскву.

Дэлегацыя выехала з Вільні ўвесну 1584 года. У склад пасольскай місіі Вялікага Княства ўваходзіла 275 чалавек. Апрача Льва Сапегі і пяці галоўных шляхціцаў, у Маскву накіроўваліся 29 беларускіх купцоў, што на 177 вазах везлі на продаж свае тавары.

Паводле тагачаснага звычаю, Леў Сапега меў пры сабе каштоўныя падарункі, або «памінкі», да гаспадара Маскоўскага княства — пародзістых коней, упрыгожаную золатам збрую, пістолі, срэбныя кубкі, аздобленую карэту ды іншае багацце.

У дарозе, пад Мажайскам, паслоў сустрэў ганец з Масквы і перадаў раптоўны і незразумелы напачатку загад — спыніцца і чакаць далейшых распараджэнняў. Прычыну затрымкі Льву Сапегу не растлумачылі. Да пасольства прыставілі ахову і не дазвалялі нічога паведамляць у Вільню.

Паступова сярод паслоў расла трывога. Шырыліся розныя супярэчлівыя чуткі. Усе хваляваліся, адчуваючы, што здарылася нешта надзвычайнае. Паслоў трымалі ў няведанні. Нарэшце, адзін з ахоўнікаў выпадкова прагаварыўся аб смерці манарха Івана IV Грознага. Праз пэўны час у Мажайск да Льва Сапегі прыйшоў новы загад — ехаць далей у Маскву.

Каля Масквы-ракі пасольства сустрэлі два царскія прыставы з некалькімі сотнямі коннікаў і афіцыйна паведамілі Сапегу аб смерці 28 сакавіка 1584 года гаспадара і аб узыходзе на маскоўскі трон яго сына Фёдара Іванавіча, дабраславёнага на царства бацькам перад адыходам у лепшы свет.

Па прыездзе ў Маскву Льва Сапегу пад ганаровым эскортам правадзілі да пасольскай рэзідэнцыі, дзе некалькі дзён, нібы злачынцу, трымалі пад вартай. Пра жахлівыя ўмовы, у якіх кіраўнік пасольства ВКЛ апынуўся ў Маскве, ён паведамляў 26 красавіка 1584 года ў сваім *«Допісе да Крыштофа Радзівіла, падканцлера і польскага гетмана».* Вось некалькі радкоў з яго: «Тыя прыставы суправаджалі мяне да пасольскага двара. Там мяне хавалі, не раўнуючы як нейкага вязня: усе дзіркі ў плоце пазатыкалі, наўкол двара выставілі стражнікаў, якія ахоўвалі мяне ўдзень і ўначы. Усё гэта зусім не дзіўна, бо, як я пачуў, іх новы гаспадар мае не шмат розуму і да таго ж часта хварэе на цяжкую хваробу. Паміж маскоўскімі дваранамі няма згоды і паразумення, яны ўвесь час спрачаюцца і высвятляюць міжсобку, хто з іх важнейшы...»

Першая афіцыйная аўдыенцыя ў Крамлі адбылася толькі 12 красавіка 1584 года. Леў Сапега атрымаў магчымасць выказаць незадаволенасць стаўленнем да яго. Але на пратэсты і абурэнні пасла ніхто не звяртаў асаблівай увагі.

Уражанні Льва Сапегі ад сустрэч з маскоўскімі баярамі былі не з лепшых. Ён увачавідкі пазнаёміўся з норавамі, што панавалі ў Крамлі, і паводзінамі баяр, паміж якімі, з узыходам на пасад новага валадара, яшчэ больш узрасла канкурэнцыя і ўзаемная непрыязнасць. Леў Сапега ў сваім «Дапісе...» адзначаў: «12 красавіка паводле новага календара я быў запрошаны ў замак дзеля спаткання з думнымі баярамі вялікага князя маскоўскага. Яны павінны былі сустрэцца са мной у поўным складзе. Але паміж імі пачаўся вэрхал з-за месцаў. Перад самым маім прыездам яны ледзьве не перарэзалі адзін аднаго. З усіх думных баяраў засталіся толькі чатыры: князь Фёдар Міхайлавіч Трубяцкі, Фёдар Барысавіч Гадуноў, Андрэй і Васіль Шчаўкалавы. З імі я сустракаўся і прасіў іх аб тым, каб яны адпусцілі мяне назад да яго каралеўскай міласці, паколькі той гаспадар, да якога мяне накіроўвалі, памёр».

Сапраўды, з самага пачатку перамоў Леў Сапега апынуўся ў экстраардынарным становішчы: усе граматы і лісты, падпісаныя Стэфанам Баторыем і замацаваныя пячаткамі Кароны і Княства, адрасаваліся Івану IV. Цяпер жа, пасля яго раптоўнай смерці, усё належала перарабіць ды перапісаць нанава. Гэта, пэўна ж, вымагала часу. Узнікла складаная, нават драматычная сітуацыя. Надзеі на хуткае падпісанне мірнага пагаднення бурыліся. Горш за тое, паўстала пагроза поўнага зрыву перамоў. Але вяртацца ні з чым, не падпісаўшы пагаднення з Масквой, калі над Айчынай навісла страшная бяда, Леў Сапега не мог. Ён адчуваў асабістую адказнасць за лёс краіны, выдатна ўсведамляючы, што ад вынікаў яго перамоў шмат у чым залежыць яе будучыня.

Крытычная сітуацыя вымагала ад кіраўніка пасольства выключна абачлівых крокаў. Таму, калі маскоўскія баяры пачалі ўльтыматыўна патрабаваць ад яго «справіць пасольства» да цара Фёдара, Леў Сапега мусіў адмовіцца ад сустрэчы з ім, настойліва дамагаючыся дазволу накіраваць пасыльных да вялікага князя і караля па новыя распараджэнні і граматы. Пасля доўгай цяганіны баяры ўсё ж такі далі яму магчымасць выправіць пасыльных у ВКЛ. Пачаліся доўгія дні чакання, трывожныя і небяспечныя.

У Маскве тым часам успыхнулі ўнутраныя забурэнні, аб чым Леў Сапега падрабязна паведамляў у Вільню: «Калі я ад'ехаў з замка,

а баяры таксама накіраваліся абедаць да сваіх палацаў, Бельскі са стральцамі акружыў замак. Бельскі пайшоў да вялікага князя і запатрабаваў ад яго, каб ён вярнуў апрыччыну і ўсе парадкі, якія існавалі ў часы папярэдняга князя.

Звесткі пра ўчынак Бельскага дайшлі да баяраў. Яны хутка вярнуліся да галоўнага замка. Але стральцы не пускалі іх у замак. Тады слугі Мсціслаўскага і Мікіты Рамановіча распачалі бойку са стральцамі, але стральцы пабілі іх. Неўзабаве ўсе астатнія баяры з іх людзьмі аб'ядналіся і разам пачалі прабівацца да замка. Стральцы стралялі па іх з ручніц, забілі каля 20 чалавек і вельмі многіх паранілі.

Баяры з іх людзьмі акружылі замак, падрыхтавалі вялізную гармату, каб біць па замку. Але адтуль выбег Андрэй Шчаўкалаў і адгаварыў іх ад штурму.

Пазней, калі людзей запыталі ад імя вялікага князя, чаму яны распачалі гвалт, яны патлумачылі, што Бельскі знішчыў князя Мсціслаўскага і князя Шуйскага, а таксама іншых баяраў пазабіваў, а сам прысягае на вернасць вялікаму князю.

Бельскі быў выдалены з Думы. Яго хочуць саслаць у Казань. Супраць Бельскага паўсталі ўсе, яны ў адзін голас заявілі, што гатовыя закалоць або зарэзаць яго нажамі.

У Маскве турбуюцца, каб у гэтакі час супраць іх не выступілі татары. Але яны больш за ўсё баяцца яго міласці нашага караля».

Па вяртанні пасыльных з новымі граматамі доўгачаканыя перамовы ўзнавіліся. Леў Сапега сустрэўся з царом Фёдарам. Галоўнае для яго цяпер было — пераканаць маскоўскага манарха ды баяр у неабходнасці і ўзаемнай карысці міру. Каб павялічыць свае шанцы на поспех, Леў Сапега скарыстаў стары, але надзвычай дзейсны ў дыпламатыі сродак, наўмысна паведаміўшы цару, што туркі нібыта рыхтуюцца да вайны з Масковіяй і султан шукае ў ВКЛ падтрымкі. Аргументы Льва Сапегі прынеслі плён. Праз некалькі дзён, нягледзячы на нявырашаныя пытанні вакол Інфлянцкіх зямель, паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масквой быў падпісаны 10-гадовы мір.

Апрача пагаднення аб міры Леў Сапега дамогся ад Фёдара Іванавіча вызвалення з палону, без аніякага выкупу, блізу 900 беларусаў. Няцяжка ўявіць радасць вялікага пасла, бо крыху раней ён прасіў ура-

доўцаў Княства, каб яны звярнуліся да манарха па дазвол узняць на перагаворах пытанне аб вызваленні палонных суайчыннікаў: «Ласкава прашу вас звярнуцца да караля, каб ён дазволіў мне паклапаціцца пра ўсіх іх. Сапраўды, трэба над імі злітасцівіцца. Я кожны дзень абліваюся слязьмі, калі чую іх стогны, хаця і далёка ад іх стаю. Усіх вязняў тут у Маскве налічваецца 614 чалавек, а ў іншых замках — яшэ каля трохсот».

Нечуваны поспех пасольства ўзняў аўтарытэт Льва Сапегі ў вачах суайчыннікаў. За паспяховае завяршэнне перагавораў ён атрымаў шчодрыя ўзнагароды — Слонімскае староства, а 2 лютага 1585 года, цалкам справядліва і заслужана,— уплывовую пасаду падканцлера Вялікага Княства Літоўскага.

## III

Новая дзяржаўная пасада адкрыла перад Львом Сапегам шырокія магчымасці па ўмацаванні Вялікага Княства, захаванні яго палітычнага і эканамічнага суверэнітэту. Аднак на гэтым шляху падканцлера чакалі сур'ёзныя выпрабаванні.

Ужо ў сакавіку 1585 года польскія магнаты пачалі атрымліваць каралеўскія прывілеі на землі Вялікага Княства Літоўскага, вернутыя беларускім рыцарствам падчас баталій з Маскоўскай дзяржавай. Абураны дзеяннямі нахабных суседзяў і, як усё больш пераконваўся Леў Сапега, не надта надзейных і шчырых хаўруснікаў, ён з гневам асуджаў беспадстаўныя прэтэнзіі палякаў і даказваў абсалютнае права Беларускага гаспадарства на набытыя тэрыторыі. «Ад таго часу як пачалася вайна за Інфлянты,— пісаў падканцлер,— палякі і гарэлага шэлега не далі нам у дапамогу. А цяпер, калі ўсё ідзе пад канец, паны-палякі імкнуцца авалодаць Вялікімі Лукамі, Завалачам, Холмам... Яны нас хочуць адпіхнуць не толькі ад заваяванага намі цяпер, але і ад таго, што мы трымалі раней».

Клапоцячыся пра беларускі народ, пашыраючы тэрыторыю Княства, умацоўваючы яго межы, падканцлер кожны раз стрымліваў

парыванні палякаў падпарадкаваць вялікакняскія землі. Праўда, падчас канфліктаў з палякамі ў 1585 годзе Леў Сапега, займаючыся міжнароднымі справамі, улічваючы канкрэтныя гістарычныя абставіны, нярэдка выступаў як прадстаўнік усёй федэрацыі. Але пры гэтым ён заўсёды зыходзіў найперш з інтарэсаў Вялікага Княства Літоўскага, прымяраючы важнейшыя рашэнні да палітычных мэт свайго гаспадарства, узгадняючы іх з памкненнямі беларускай шляхты. Разнастайныя гістарычныя дакументы, звязаныя з дзейнасцю Льва Сапегі, дазваляюць адназначна сцвярджаць, што ва ўсёй яго шматгадовай палітычнай чыннасці не было ніводнага выпадку, каб інтарэсы Польшчы ці нават усёй федэрацыі ён ставіў вышэй за ўласна вялікакняскія.

Пасада падканцлера вымагала ад Льва Сапегі штодзённага аналізу не толькі ўнутранага становішча Княства, але і міжнародных стасункаў. Кожны зрух, кожны паварот у палітыцы еўрапейскіх і бліжэйшых азіяцкіх краін натуральна патрабаваў адпаведных крокаў ад выканаўчых улад Вялікага Княства Літоўскага.

Так, у 1585 годзе падканцлера вельмі насцярожылі звесткі, што паступілі ў Вялікую канцылярыю, аб намеры Максімільяна, брата імператара Святой Рымскай імперыі Рудольфа, заняць маскоўскі трон замест Фёдара Іванавіча. Хаўрус Святой Рымскай імперыі з Масковіяй нічога добрага не абяцаў для Вялікага Княства Літоўскага.

Каб перашкодзіць новаму небяспечнаму для Бацькаўшчыны альянсу, Леў Сапега неадкладна падрыхтаваў і накіраваў у Маскву пасольства Гарабурды, які, пераняўшы дыпламатычны досвед падканцлера, змог пераканаць маскоўскіх баяраў у немэтазгоднасці паяднання з каталіцкім светам.

1 верасня 1586 года ў асабістым жыцці Льва Сапегі адбыліся перамены. Ён ажаніўся з Даротай Фірліёўнай, удавой князя Стэфана Збаражскага. Матэрыяльнае становішча падканцлера ў гэты час, пэўна, было не надта добрае. Каб справіць вяселле, ён мусіў прадаць адзін са сваіх маёнткаў за 500 коп грошай. Дарэчы, дакументы судовай справы Льва Сапегі з панамі Гарнастаем і Цеханавецкім за 1586 год, занесеныя ў кнігі Метрыкі Вялікага Княства, таксама сведчаць пра цяжкасці ў яго гаспадарцы.

Пабраўшыся з заможнай удавой, падканцлер істотна павялічыў свой капітал. Аднак нельга думаць, што шлюб Льва Сапегі і Дароты Фірліёўны — вынік меркантыльнага разліку падканцлера. Іх паяднала глыбокае ўзаемнае каханне. Праз усё нядоўгае сужэнства Леў Сапега і Дарота Фірліёўна пранеслі трапяткое і чыстае пачуццё замілаванасці адно адным, нягледзячы на плёткі, што няспынна распускалі зайздроснікі іх сямейнага шчасця.

## IV

Пасля нечаканай смерці 12 снежня 1586 года ў Гародні Стэфана Баторыя (паводле гістарычнай легенды, атручанага некім з яго ворагаў) для Льва Сапегі пачаўся амаль двухгадовы перыяд выпрабавання на мужнасць і палітычную сталасць.

З прычыны адсутнасці манарха ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы ўзнік востры грамадскі крызіс. Канвакацыйны (перадвыбарчы) вальны сойм, скліканы 1 лютага 1587 года, засведчыў, што федэрацыю наперадзе чакаюць новыя беспарадкі ды непрымірэнчая барацьба між рознымі шляхецкімі і магнацкімі групоўкамі.

Сваю задачу падчас элекцыі падканцлер перадусім бачыў у тым, каб абараніць інтарэсы Княства і, не зважаючы на ўсеагульны ўпадак ды звычайныя для гэтакіх момантаў свавольствы і анархію, дамагчыся ўзвышэння Бацькаўшчыны. І ён, як паказалі пазнейшыя падзеі, дасягнуў пастаўленай мэты. Найперш, дзякуючы заўсёды разважлівым крокам, неймавернай вытрымцы, моцнаму аналітычнаму розуму ды той палітычнай прадбачлівасці, якой прырода надзяліла яго напоўніцу.

Абранне манарха ў тыя часы зазвычай не было толькі ўнутранай справай гаспадарства. Амаль заўсёды гэтая падзея апыналася ў цэнтры ўсёй еўрапейскай палітыкі. У Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы да таго ж гаспадарскі трон быў выбарны, а не дынастычны, што ўскладняла і без таго няпростую сітуацыю. Так, пасля смерці Стэфана Баторыя на яе скіравалі свае погляды Аўстрыя, Швецыя і Маскоўскае княства. Неўзабаве аб'явіліся і галоўныя прэтэндэнты на

каралеўскі і вялікакняскі прастол: аўстрыйскі эрцгерцаг Максімільян, маскоўскі цар Фёдар Іванавіч і прадстаўнік дынастыі Ягайлавічаў па жаночай лініі — Жыгімонт III Ваза, якія пачалі шукаць прыхільнікаў сярод шляхты Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы.

Да вясны 1587 года арыентацыя розных палітычных сіл ВКЛ і Польшчы акрэслілася даволі пэўна. Магутныя польскія паны Збароўскія падтрымлівалі кандыдатуру Максімільяна. За Жыгімонта, сына шведскага караля Іаана III і Кацярыны з Ягайлавічаў, унука знакамітага Густава Вазы, стаяла «Чорная Рада» Замойскіх[1]. Каралева Ганна, удава Стэфана Баторыя, таксама лічыла свайго пляменніка Жыгімонта III Вазу найлепшай кандыдатурай на каралеўскі і вялікакняскі трон. Паны-рада Вялікага Княства Літоўскага, а разам з імі і Леў Сапега прапаноўвалі абраць каралём і вялікім князем маскоўскага цара Фёдара.

На элекцыйным (выбарчым) вальным сойме, прызначаным на канец чэрвеня 1587 года, павінна была наступіць развязка. Леў Сапега, як і большая частка шляхты Вялікага Княства Літоўскага, рабіў усё, каб кандыдатура Фёдара Іванавіча атрымала большасць галасоў. Недзе ў студзені — лютым ён разам з Фёдарам Скумінам, Крыштофам Радзівілам Перуном ды Лукашом Мамонічам прымаў у Вільні маскоўскае пасольства на чале з баярынам Ржэўскім, які прывёз царскія граматы да беларускіх магнатаў з просьбай абраць яго манархам ВКЛ і Польшчы. Звяртаючыся да паноў-рады, маскоўскі князь заклікаў іх: «Вы б, паны-рада, свецкія і духоўныя, параіўшыся між сабою і з усімі сваімі землямі, паклапаціліся б пра дабро хрысціянскае і нас гаспадаром на Карону Польскую ды Вялікае Княства пажадалі б...»

У Маскве выдатна разумелі адмоўныя вынікі абрання каралём і вялікім князем Жыгімонта III Вазы ці Максімільяна, што па логіцы рэчаў стварала ўмовы для ваенна-палітычнага хаўрусу ВКЛ і Польшчы са Швецыяй або Аўстрыяй. Каб перашкодзіць утварэнню новых небяспечных для Маскоўскага княства дзяржаўных паяднанняў,

---

[1] Прыхільнікі канцлера Замойскага, смуткуючы з нагоды смерці Стэфана Баторыя, падчас элекцыі апраналіся ў чорнае адзенне, адсюль і назва — «Чорная Рада».

Фёдар Іванавіч згаджаўся на ўсе ўмовы магнатаў Вялікага Княства Літоўскага.

Са свайго боку Леў Сапега, імкнучыся скарыстаць зручны момант для ўзмацнення Княства, паабяцаў цару праз яго паслоў усялякую падтрымку надалей. «Мы ўсе жадаем,— перадаваў Фёдар Скумін думку паноў-рады маскоўскім паслам,— каб нам з вамі быць разам навякі, каб гаспадар ваш панаваў і на нашых землях».

У красавіку 1587 года па ініцыятыве Льва Сапегі ў Маскву выправілася пасольства князя Агінскага і Чарнікоўскага, каб яшчэ раз папярэдне абмеркаваць умовы, на якіх Княства згаджалася на абранне Фёдара Іванавіча вялікім князем і каралём. З пасольствам падканцлер перадаў цару запрашэнне на элекцыйны вальны сойм. Аднак той, ведаючы, што выбары ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы, як правіла, заканчваліся бойкамі, а то і сапраўднымі войнамі, сам ехаць не наважыўся, а накіраваў у Варшаву сваіх новых паслоў — баярына Сцяпана Васільевіча Гадунова, князя Фёдара Міхайлавіча Траякурава і дзяка Васіля Шчалкалава.

4 жніўня 1587 года на Варшаўскім элекцыйным сойме, куды Леў Сапега прыбыў з уласнай узброенай харугвай (як, дарэчы, і ўсе астатнія, хто рыхтаваўся адстойваць сваіх кандыдатаў), адбылася яго сустрэча з маскоўскімі фасламі, якіх ён неўзабаве запрасіў для гутаркі з усім «рыцарскім колам». Падчас гэтай сустрэчы царскія паслы выявілі поўную інфантыльнасць і сваімі бязглуздымі дзеяннямі адштурхнулі шмат каго з прыхільнікаў кандыдатуры Фёдара Іванавіча, сярод якіх, дарэчы, было нямала і палякаў. Прывучаныя слепа, па-лакейску выконваць волю свайго гаспадара, баяры, апрача гэтага, яшчэ і саманадзейна не пагаджаліся ледзьве не з усімі ўмовамі, на якіх настойвала рыцарства.

Нават далёка не прынцыповае патрабаванне шляхты, каб цар пасля яго абрання каралём і вялікім князем праз дзесяць тыдняў, а ў выпадку ваеннай неабходнасці і раней, прыехаў у Вялікае Княства Літоўскае і Польшчу, выклікала пярэчанні з іх боку. З фанабэрыяй і традыцыйнай напышлівасцю паслы адказвалі: «У Варшаву цар прыедзе тады, калі пажадае». Пры такіх неабдуманых паводзінах паслоў Фёдару Іванавічу цяжка было разлічваць на поспех. Тым больш што ён адмаўляўся даць 200 000 рублёў на выплату даўгоў і абарону краіны,

бо іншыя прэтэндэнты, як небеспадстаўна меркавалася, па завяршэнні элекцыі пачнуць даказваць сваё права на пасад з дапамогай зброі.

Калі 19 жніўня 1587 года каронны канцлер Замойскі і яго аднадумцы нарэшце абвясцілі сваім прэтэндэнтам на каралеўскі пасад Жыгімонта III Вазу, а Збароўскія — эрцгерцага Максіміл'яна, шляхта Вялікага Княства дала яшчэ адзін шанц Маскве. З ведама Льва Сапегі беларускія радныя паны пісалі да паслоў: «Замойскі выбраў шведскага каралевіча, Збароўскія — цэсарава брата, а мы ўсе — літвіны і большая частка палякаў — хочам гаспадара вашага. Але затрымка толькі за вераю і прыездам. Калі б нам быў хутка вядомы прыезд вашага гаспадара, мы б, абраўшы яго, у той жа час рушылі б да Кракава і кароны не далі б ні шведу, ні цэсараваму брату».

Апошнія словы «Паслання...» — зусім не самаўпэўненасць беларускай шляхты. Вялікае Княства мела дастаткова сіл, каб узвесці на пасад свайго абранніка. Пераканаўчым доказам таму служыць і «Пратэст» супраць абвяшчэння Замойскімі каралём Жыгімонта III Вазы, падпісаны 31 кастрычніка 1587 года падканцлерам Львом Сапегам, трокскім ваяводам Янам Глябовічам і святаром Бенедыктам Войнам. Толькі непаваротлівасць ды тугадумства маскоўскіх паслоў, а мо і сапраўды няздольнасць Фёдара звялі яго шанцы да нуля.

Нельга, аднак, не ўлічваць і яшчэ адной немалаважнай дэталі: намаганні самога Льва Сапегі ды ўсіх іншых беларускіх паноў зусім не былі скіраваныя на тое, каб, «ададраўшыся ад Польшчы», як пісаў падканцлер, безаглядна кінуцца ў абдымкі да маскоўскага цара. Леў Сапега ды і ўсе беларускія радныя паны выдатна ўсведамлялі, што пагроза з усходу не лепшая за небяспеку з захаду. Жыццё навучыла падканцлера асцярожнасці. Нават залішне мудрагелістыя пасткі, расстаўленыя ворагамі, ён абыходзіў не параніўшыся, адчуваючы адмысловыя падкопы праціўнікаў на адлегласці.

Леў Сапега меў дастаткова падстаў, каб вельмі актыўна, прынамсі, напачатку падтрымліваць кандыдатуру маскоўскага цара. Логіка дзеянняў падканцлера ў тых складаных гістарычных абставінах становіцца зразумелай толькі тады, калі ўлічваць асноўную мэту яго палітычнай чыннасці — імкненне да поўнай незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, яго ўзвелічэнне і росквіт.

Леў Сапега, бясспрэчна, добра ведаў пра магчымыя негатыўныя вынікі аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай. Наконт хаўрусаў з іншымі дзяржавамі ў падканцлера быў багаты досвед — найперш узаемадачыненняў Беларускага гаспадарства з Польшчай, слабыя і моцныя бакі якіх ён зведаў на ўласнай скуры.

Але, застаючыся палітыкам, Леў Сапега бачыў і выключнасць таго становішча, што ўзнікла ў ВКЛ. Добра інфармаваны ў маскоўскім пытанні і ведаючы рэальныя абставіны значна лепей за многіх сучаснікаў, ён разлічваў на адсутнасць у цара Фёдара магчымасці, у выпадку абрання яго вялікім князем, займацца праблемамі Вялікага Княства Літоўскага. Акрамя таго, Леў Сапега, выдатна дасведчаны ў псіхалогіі ўлады, слушна меркаваў, што Фёдар Іванавіч ніколі, ні пры якіх абставінах не пакіне надзейны спадчынны трон у Маскве і не рызыкне пераехаць у іншую краіну, дзе яму непазбежна давялося б сутыкнуцца са шляхецкай дэмакратыяй, да якой маскоўскія манархі, вядома ж, зусім не былі прывучаныя. А калі б такое і здарылася, то ўсё роўна хваравіты маскоўскі цар, па цвёрдым перакананні падканцлера, не змог бы сур'ёзна ўплываць на палітыку беларускага ўрада.

Дый пасол Ржэўскі, нібыта выпадкова, а насамрэч наўмысна паведаміў панам-радзе: «Вы толькі выберыце сабе ў гаспадары нашага цара, будзьце пад яго царскай рукой, а ўсім кіруйце самі ў Кароне Польскай і Вялікім Княстве па сваіх правах». Гэтыя словы няйначай зыходзілі ад самога цара Фёдара.

Такім чынам, паводле планаў Льва Сапегі, абранне вялікім князем маскоўскага манарха гарантавала б Вялікаму Княству Літоўскаму першынство над Польшчай, бо трываць далей прэтэнцыёзнасць польскіх паноў было немагчыма, а гэтаксама пазбаўляла б гаспадарства ад небяспекі з усходу. За ўзвышэннем і ваенна-палітычным узмацненнем Княства, напэўна, настаў бы разрыў хаўрусу з Польшчай ды адбылося б абранне манарха са свайго народа.

Ведучы перагаворы з пасламі Фёдара Іванавіча, Леў Сапега, разам з тым, уважліва сачыў за дзеяннямі праціўнікаў і расстаноўкай палітычных сіл. А калі сітуацыя абвастрылася ды гістарычныя шалі схіліліся на бок Жыгімонта III Вазы, то ён, прааналізаваўшы папярэдне ўсе

магчымыя вынікі, змяніў тактыку і адмовіўся ад далейшай падтрымкі Фёдара Іванавіча. Затым падканцлер прапанаваў шведскаму каралевічу ўмовы, на якіх Вялікае Княства згаджалася прызнаць вялікім князем менавіта яго.

Жыгімонт III Ваза, якому яшчэ належала з дапамогаю зброі даказваць свае права на каралеўскі і вялікакняскі прастол, мусіў пайсці на кампраміс, неабходны Льву Сапегу, ды прыняць умовы, выказаныя беларускай шляхтай.

Паколькі Вялікае Княства, паводле слоў самога ж Льва Сапегі, заўсёды існавала inter Scyllam et Charibdim[1], то пастаяннае лавіраванне паміж хаўруснай Польшчай і суседнім Маскоўскім княствам стала ледзьве не важнейшым элементам ва ўсёй яго тактыцы, у барацьбе за незалежнасць дзяржавы. Імкнучыся перамагаць з найменшымі стратамі, Леў Сапега лічыў неабходным па магчымасці часцей карыстацца не зброяй, а тонкай дыпламатыяй і беспамылковым палітычным разлікам.

Узяўшы чынны ўдзел у драме, што распачалася на канвакацыйным, а затым працягвалася на элекцыйным вальным сойме 1587 года, Леў Сапега таленавіта адыграў складаную ролю ў палітычным спектаклі выбараў манарха і выйшаў да фінальнай сцэны пераможцам.

Вынікі намаганняў падканцлера і яго аднадумцаў падчас падзей 1587—1588 гадоў былі вельмі значнымі. Гісторыя пацвердзіла, што толькі дзякуючы ім Вялікае Княства Літоўскае выйшла з той найскладанейшай сітуацыі, якая ўзнікла ў цэнтры еўрапейскай палітыкі, без нейкіх істотных страт. Гаспадарства, працягваючы ўваходзіць у пакуль што неабходны для яго ваенна-палітычны хаўрус с Польшчай, па-ранейшаму захоўвала ўсе атрыбуты асобнай дзяржаўнасці. Найперш, заставаліся непарушнымі дзяржаўныя межы, што ахоўваліся прыгранічнымі ўзброенымі аддзеламі, існавала разгалінаваная сістэма мясцовых улад розных узроўняў, якія падпарадкоўваліся найвышэйшым гаспадарскім структурам. Як і раней, у Вялікім Княстве працягваў ажыццяўляць свае паўнамоцтвы свабодны і дэмакратычны

---

[1] Між Сцылы і Харыбды (лацінскае выслоўе). Азначае становішча, калі небяспека пагражае з двух бакоў. У грэчаскай міфалогіі Сцыла і Харыбда — пачвары, што жылі па абодва бакі вузкай пратокі і губілі мараходаў.

заканадаўчы орган — вальны сойм — дзейнічалі незалежны ўрад і ўстанова замежных спраў — Дзяржаўная канцылярыя. Былі ўласныя кодэксы законаў, карныя органы, вайсковыя фарміраванні, а гэтаксама асобныя фінансы ды адметная валюта.

Існаваў і яшчэ адзін важны вынік палітычнай барацьбы Льва Сапегі ў 1587—1588 гадах, што заслугоўвае больш пільнай увагі. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, падканцлер на той час узначальваў соймавую камісію, што працавала над новым Статутам, патрэба ў якім узнікла пасля падпісання Люблінскай уніі 1569 года. Леў Сапега асабіста адрэдагаваў артыкулы Статута, па сутнасці стварыўшы новую канцэпцыю незалежнай Беларускай дзяржавы. Выкарыстоўваючы цяжкае становішча Жыгімонта III Вазы (а яно з чарговым уварваннем татараў увосень 1587 года яшчэ больш ускладнілася) Леў Сапега дамогся ад яго падпісання 28 студзеня 1588 года Граматы, якая пацвярджала юрыдычную моц трэцяга Статута Вялікага Княства Літоўскага.

Аднак пасля падпісання Статут 1588 года не адразу пачаў выкарыстоўвацца ў судовай практыцы на месцах, бо яго там папросту не мелі. Паўстала праблема арганізацыі неадкладнага друкавання гэтага збору законаў. Трэба было, каб ён як мага хутчэй пачаў дзейнічаць, бо нават сам Жыгімонт III Ваза забыўся на свае абяцанні і, не зважаючы на артыкулы толькі што падпісанага ім Статута, усяляк парушаў правы беларускай шляхты, раздорваючы землі і пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім палякам. Новы манарх імкнуўся самавольна і адзінаўладна распараджацца на тэрыторыі не толькі Польшчы, але і Княства, пры гэтым зусім не раячыся з падканцлерам Львом Сапегам, які знаходзіўся пры яго двары.

Незадаволены паводзінамі Жыгімонта III Вазы, Леў Сапега ў лісце да Крыштофа Мікалая Радзівіла Перуна ад 31 студзеня 1588 года абураўся прэтэнзіямі палякаў на Інфлянцкія землі: «Перамогай над Максімільянам вельмі ўзмацніліся паны-палякі, пачалі пагардліва ставіцца да народа літоўскага, кажучы: калі б гэтая навіна прыйшла перад заканчэннем нашых спраў, то не дазволілі б ані нашых пастулатаў, ані супакою, ані паловы Інфлянцкай зямлі».

17 лютага 1588 года ў наступным лісце да Крыштофа Радзівіла Леў Сапега паведамляў аб непрыкрытай непрыязі караля і вялікага

князя да грамадзян Вялікага Княства Літоўскага. «Кароль казаў,— пісаў падканцлер,— што больш палякам павінны, чым літве, бо яму нібыта палякі больш, чым літва, паказалі зычлівасці. І ён не толькі гэтак кажа, але і робіць. Ужо палякі ў нас больш дастаюць, чым сама літва. Літвіну адмовяць, а паляку ў той жа час дадуць».

Пры такім становішчы спраў Леў Сапега адчуваў сябе ля караля, паводле яго слоў, «як кот на лёдзе», бо той нават не жадаў прымаць падканцлера, не кажучы ўжо пра сумленнае ды законнае вырашэнне праблем Вялікага Княства Літоўскага. Цярпенню Льва Сапегі надыходзіў канец. 7 чэрвеня 1588 года ён напісаў Крыштофу Радзівілу: «Не толькі я, але і ўвесь народ наш зняважаны каралём. Жыву тут pro forma (дзеля формы; дзеля прыліку — *лац.*), аўдыенцыі аніяк не магу дамагчыся, таму і не жадаю далей парогаў абіваць...»

Ужо ў сярэдзіне ліпеня 1588 года падканцлер канчаткова вырашыў пакінуць каралеўскі двор, не жадаючы цярпець асабістыя абразы і сапраўдны гвалт над урадам Вялікага Княства з боку палякаў. «Не хачу,— катэгарычна заяўляў ён,— быць пры двары толькі дзеля формы і слухаць зняважгі нашага ўрада, бо правіць камора, а ўраднікі — непатрэбныя».

Настаў крытычны момант ва ўзаемадачыненнях паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім. Ад'езд прадстаўнікоў Княства ад каралеўскага двара азначаў бы найперш палітычны, а затым і няўхільны эканамічны ды ваенны разрыў між дзвюма дзяржавамі. Але абставіны нечакана змяніліся: паўстала пагроза чарговай вайны з туркамі ды татарамі. Таму Жыгімонт III Ваза запрасіў да сябе Льва Сапегу, павініўся за ўсе «непаразуменні» і пакляўся наперад заўжды строга выконваць каралеўскія ды вялікакняскія абавязкі, не дапускаючы аніякіх парушэнняў законаў Вялікага Княства Літоўскага.

Аднак абяцанням непаслядоўнага манарха Леў Сапега ўжо не верыў. Ён яшчэ больш пераканаўся, што толькі выданне новага Статута ды абавязковае выкананне яго артыкулаў усімі грамадзянамі Княства, а найперш вялікім князем ды каралём, пакладзе канец беззаконню і здзекам з жыхароў гаспадарства. Падканцлер прыспешыў падрыхтоўку Статута да друку, ахвяраваўшы на яго выданне ўласныя сродкі. 12 ліпеня 1588 года ён пісаў тагачаснаму канцлеру Крыштофу

Мікалаю Радзівілу: «Статут новы загадаў ужо друкаваць па-руску[1], хацеў бы яго выдаць і па-польску, аднак, калі б давялося яго перакладаць de verbo ad verbum (слова ў слова; літаральна), паводле рускіх слоў і сентэнцый, то атрымалася б вельмі блага, а інакш — не наважваюся. Ахвотна пачуў бы рады вашай міласці. Прывілеі гэтаксама хацеў бы выдаць пры Статуце, аднак дзеля таго, што не ўсе яны для нас прыдатныя — у адных пачатак добры, а сярэдзіна дрэнная, у другіх сярэдзіна добрая, а пачатак і канец дрэнныя — не магу вырашыць, ці належыць выкінуць тое, што кепскае, ці не?»

Урэшце летам 1588 года з віленскай друкарні Мамонічаў выйшаў новы Статут — найважнейшы праўны кодэкс сярэднявечнага Беларускага гаспадарства, якому па дасканаласці і лагічнай завершанасці не было роўных ва ўсёй тагачаснай еўрапейскай юрыдычнай думцы[2]. Выданне ўпрыгожваў партрэт Жыгімонта III Вазы, а таксама выява герба Льва Сапегі ды панегірык да яго, напісаны беларускім паэтам Андрэем Рымшам.

Статут 1588 года — буйная перамога Льва Сапегі. Гэты кодэкс законаў гарантаваў эканамічную, палітычную і культурную незалежнасць Княства. Згодна з яго артыкуламі, усім іншаземцам забаранялася набываць (купляць або атрымліваць як узнагароду ад вялікага князя) зямельныя надзелы, замкі ды маёнткі, а гэтаксама гаспадарскія і духоўныя пасады на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства. Такім чынам, ставіўся заслон ад пранікнення на землі гаспадарства палякаў, чым стрымліваўся працэс апалячвання беларусаў, што распачаўся ўжо ў другой палове XVI стагоддзя.

Усе пытанні ўнутранага жыцця Вялікага Княства Літоўскага, адпаведна з новым заканадаўствам, вырашаліся цяпер самастойна. Найвышэйшым заканадаўчым органам лічыўся вальны сойм, месцам правядзення якога прызначаўся Слонім.

---

[1] «Рускай», або «літоўскай», у XVI ст. называлася беларуская мова, якая была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім.

[2] У канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя Статут 1588 года быў перакладзены на польскую мову і лаціну, дзякуючы чаму стаўся даступным для знаўцаў права заходнееўрапейскіх краін. Ён гэтаксама паўплываў на змест шэрагу артыкулаў маскоўскага зводу законаў — Саборнага Укладання 1649 года.

У Статуце 1588 года Леў Сапега зафіксаваў, як адно з карэнных патрабаванняў, дзяржаўнасць беларускай мовы на ўсёй тэрыторыі гаспадарства. «А пісар земскі,— падкрэслівалася ў першым артыкуле чацвёртага раздзела Статута,— мае па-руску, літарамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпісы і позвы пісаць, а не якой іншай мовай і словамі».

Галоўныя прынцыпы падрыхтаванага Львом Сапегам кодэкса законаў, такія, як прэзумпцыя невінаватасці, дзяржаўны ды нацыянальна-культурны суверэнітэт, рэлігійная талеранцыя і іншыя, былі надзвычай прагрэсіўныя для таго часу. Яны і на сёння выступаюць як прынцыпова важныя палажэнні грамадзянскіх кодэксаў многіх дэмакратычных краін свету.

У якасці прадмовы да друкаванага Статута 1588 года Леў Сапега змясціў два ўласныя творы — *«Удзячнасць найяснейшаму пану Жыгімонту Трэцяму», і «Зварот да ўсіх станаў Вялікага Княства Літоўскага».*

У іх падканцлер выступіў у абарону канцэпцыі прававой дзяржавы, сутнасць якой у тым, каб у краіне панавала не сваволя манархаў, а закон, парадак і справядлівасць. «Калі чалавеку прыстойнаму,— пісаў ён,— нічога няма даражэй за тое, каб у Айчыне сваёй бяспечна жыць, не баючыся, каб яго добрай славы не зганьбілі, целу ды здароўю не прычынілі шкоды, каб не маглі пакрыўдзіць яго на ўласнай маёмасці, тады толькі праву, а не чаму іншаму, павінен быць адданы. Дзякуючы законам, чалавек абаронены, аніякага прымусу, знявагі і крыўды не церпіць. Бо мэта і сэнс усіх законаў на свеце, каб кожны добрую славу сваю, здароўе і маёмасць захоўваў у цэласці, ва ўсім гэтым аніякіх стратаў не меў. Нашая вольнасць, якую мы хвалім сярод іншых народаў хрысціянскіх, у тым, што маем гаспадара, які пануе не паводле волі сваёй, а паводле права нашага. І як славай добрапрыстойнай, гэтак жыццём і маёмасцю вольна карыстаемся. Бо калі б нехта ў тых трох рэчах нас пакрыўдзіць наважыўся і паводле прыхаці сваёй, а не паводле законаў нашых, узвысіўся над намі, той быў бы не панам нашым, а парушальнікам правоў і вольнасцей нашых. Мы пры гэтым мусілі б быць яго нявольнікамі».

Звяртаючыся да жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, Леў Сапега палымяна пераконваў суайчыннікаў засвойваць права, жыць

паводле законаў, бараніць праўду і даваць адпор крыўдзіцелям: «І слушна за праўду маем, за што дзякуй Пану Богу, што пры панаванні каралёў іх міласцяў і вялікіх князёў, гаспадароў нашых, тую ўладу і вольнасць у руках сваіх маем. Творачы права самі сабе, найлепш можам вольнасці свае ва ўсім захаваць, бо не толькі сусед ці просты абывацель у Айчыне, але і сам гаспадар, пан наш, аніякай тыраніі над намі ўжываць не можа, адно толькі столькі, колькі яму права дазваляе. Таму, маючы гэтакі скарб у руках нашых, каторы нельга купіць ні за якую суму, належыць кожнаму прыстойнаму чалавеку ведаць пра яго. Каб быў добра абазнаны, сам сябе і жарсці свае стрымліваў, дзейнічаў паводле пісанага права і нікога не крыўдзіў. Калі б быў некім пакрыўджаны, каб ведаў, дзе мусіць шукаць абароны і лекаў у крыўдзе сваёй. Як адзін сенатар рымскі другога караў за тое, што права Айчыны сваёй не ведаў, гэтак і кожны наш абывацель заслугоўвае прачуханкі за тое, што вольнасцю сваёй выхваляецца, а законаў сваіх ведаць і разумець не хоча, тых законаў, якія вольнасць яго дазваляюць захоўваць. Сорамна народу не ведаць сваіх законаў, асабліва нам, бо не на чужой якой мове, а на сваёй уласнай маем пісанае права! І кожнага моманту, пры патрэбе даць адпор усялякай крыўдзе, мусім ведаць права».

Статут 1588 года дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі аж да 1840 года, нават пасля ліквідацыі Княства, і адыграў выключную ролю ў захаванні беларускага народа.

## V

У 1589 годзе ў вышэйшых структурах улады Вялікага Княства Літоўскага адбыліся істотныя змены. Пасля смерці Астафея Валовіча (канец 1587) Віленскае ваяводства перайшло да Крыштофа Мікалая Радзівіла Перуна.

Леў Сапега атрымаў вакантную пасаду канцлера, узначаліўшы адзін з адказных інстытутаў выканаўчай улады гаспадарства. Ад яго цяпер цалкам залежала практычнае ажыццяўленне ўнутранай і знешняй палітыкі Княства: падрыхтоўка сваіх і прыманне замежных

пасольстваў, правядзенне павятовых соймікаў і галоўных з'ездаў Княства. На плечы Льва Сапегі лягла адказнасць за дзейнасць мясцовых улад, прававахоўных устаноў, урэгуляванне канфліктаў між дзяржавай і царквой ды многае іншае. Адным словам, канцлер знаходзіўся на скрыжаванні ўсіх жыццёва важных артэрый гаспадарства.

Аднак у сваіх дзеяннях, у правядзенні адметнай палітычнай лініі Леў Сапега і на пасадзе канцлера не быў цалкам свабодны. Нягледзячы на новае заканадаўства, у гаспадарстве па-ранейшаму прысутнічаў адзін з парадоксаў улады. Ні ўрад, у які акрамя канцлера ды падканцлера ўваходзілі ваяводы, кашталяны, вялікі гетман, падскарбі, вялікі, надворны ды трыбунальскі маршалкі, ні галоўны заканадаўчы орган Княства — вальны сойм — не валодалі напоўніцу эканамічнымі правамі на тэрыторыі свайго ж гаспадарства. Яны, гаворачы сённяшняю моваю, фактычна не вызначалі кадравай палітыкі Княства. Права прызначэння на кіраўнічыя гаспадарскія пасады трымаў у сваіх руках манарх. У выніку ўся без выключэння беларуская шляхта на справе матэрыяльна залежала ад вялікага князя, бо ён падпісваў прывілеі на вольныя землі, а таксама на свецкія і духоўныя вакансіі.

Пры гэтай даволі спецыфічнай форме абмежаванай манархіі ў Вялікім Княстве Літоўскім любая палітычная апазіцыя заўсёды параўнальна лёгка разбівалася. А метад «пугі і перніка», якім зазвычай карысталіся манархі, дазваляў пры неабходнасці ў любы момант пасварыць беларускіх паноў. У выніку многія магнаты і шляхціцы нярэдка станавіліся ў руках гаспадароў ледзьве не паслухмянымі марыянеткамі.

Леў Сапега як патрыёт ды, урэшце, уладалюбівая асоба, не жадаў мірыцца з неабмежаванымі дзеяннямі новага манарха, трагічныя вынікі якіх для Княства былі ўжо відавочныя. Ён пачаў самаахвярную барацьбу з Жыгімонтам III Вазам за поўную самастойнасць Княства, імкнучыся прымусіць яго паважаць вялікакняскія законы.

Канцлер найперш катэгарычна запатрабаваў, каб вялікі князь выконваў прынятыя на сябе абавязкі, успомніў свае нядаўнія абяцанні і перастаў без узгаднення з урадам Вялікага Княства Літоўскага раздаваць палякам прывілеі на землі, а таксама прызначаць іх на свецкія і царкоўныя пасады.

Аднак Жыгімонт III Ваза праігнараваў патрабаванні канцлера: у 1590 годзе пад уздзеяннем польскай каталіцкай магнатэрыі ён зрабіў спробу зноўку абысці законы Вялікага Княства Літоўскага і навязаць беларусам сваю волю. На месца памерлага кракаўскага каталіцкага біскупа манарх запрасіў адданага беларускага католіка Юрыя Радзівіла, які займаў дагэтуль віленскую кафедру, і прапанаваў, нібы наўзамен, на вакантную пасаду ў Вільню — тагачасную сталіцу Беларусі — паляка Бернарда Мацяеўскага. Гэта было грубым парушэннем Статута 1588 года, паводле якога палякам, як і ўсім іншаземцам, забаранялася займаць на землях Княства хоць якія пасады, у тым ліку і ў царкоўных структурах.

Абураны бесцырымонным учынкам манарха, яго палітычным авантурызмам, Леў Сапега ўльтыматыўна заявіў, што ён ніколі не дасць згоды на прысутнасць Бернарда Мацяеўскага на віленскай кафедры, і катэгарычна адмовіўся замацоўваць гаспадарскай пячаткай Княства рашэнні біскупа-паляка.

Пачаўся працяглы канфлікт Льва Сапегі з Жыгімонтам III Вазам. Скончыўся ён толькі праз дзесяць гадоў: у няпростай барацьбе з вялікім князем канцлер перамог. 26 красавіка 1600 года на віленскую каталіцкую кафедру заступіў беларус Бенедыкт Война.

Нязгода з воляй манарха, а тым больш адкрыты пратэст супраць яго — гэта быў на той час надзвычай рызыкоўны крок. Кожны, нават вельмі магутны феадал, выступаючы насуперак вялікаму князю, асабліва такому ўладалюбіваму, як Жыгімонт III Ваза, ставіў на карту ўсё: палітычную кар'еру, становішча ў грамадстве, матэрыяльны дабрабыт.

Вядома, Леў Сапега не быў аскетам і зусім не жадаў без дай рады развітвацца са сваімі прывілеямі. І ўсё ж, не зважаючы на небяспеку, ён мужна прыняў выклік манарха. Значыць, можна меркаваць, лёс беларускага народа, захаванне яго самабытнай культуры, традыцый і выкананне гаспадарскіх законаў ён ставіў вышэй за ўласны дабрабыт.

Канфлікт паміж Жыгімонтам III Вазам і Львом Сапегам з-за віленскага біскупства цікавы яшчэ адной акалічнасцю. Якраз яна дазваляе зразумець усю веліч асобы канцлера. Як вядома, Леў Сапега ў 1586 годзе прыняў каталіцкую веру і, здавалася б, згодна з логікай

тых часоў, мусіў абараняць гонар сваёй канфесіі, спрыяць яе ўмацаванню. Аднак, як гэта ні дзіўна нават сёння, канцлер паставіў на першае месца не канфесійныя, а палітычныя інтарэсы гаспадарства. Сімвалічныя словы Льва Сапегі, выказаныя ім у лісце да Крыштофа Мікалая Радзівіла: «Я каталік і з ласкі Божай каталіком хачу памерці, але спакой Айчыны сваёй да скону дзён сцерагчы буду».

Выбар, зроблены Львом Сапегам,— унікальны выпадак у гісторыі сярэднявечных дзяржаў і чыннасці тагачасных еўрапейскіх палітыкаў. Пазіцыя канцлера — гэта патрыятызм найвышэйшага ўзроўню, красамоўнае сведчанне яго адданасці беларускай ідэі.

Жыгімонт III Ваза, сутыкнуўшыся з сапраўды жалезнай воляй вялікага канцлера, пацярпеў фіяска і мусіў нарэшце скарыцца: пры развязанні нават дробязных пытанняў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ён, хоць і без асаблівых сімпатый да прынцыповага Льва Сапегі, павінен быў лічыцца з яго думкай, адсылаючы яму ўсе паперы і граматы для папярэдняга ўзгаднення. Ніводны дакумент манарха з гэтага часу без канцлерскага подпісу і пячаткі Вялікага Княства Літоўскага не меў сілы на землях гаспадарства.

З прычыны напружаных стасункаў з Жыгімонтам III Вазам Леў Сапега свой матэрыяльны дабрабыт паляпшаў, карыстаючыся паслугамі каралеўскай цёткі — Ганны з Ягайлавічаў. Канцлер дасылаў ёй падарункі, а яна, са свайго боку, хадайнічала перад пляменнікам, дапамагаючы Льву Сапегу атрымліваць новыя землі і прывілеі. Да цяперашняга часу захаваліся два лісты Ганны да Льва Сапегі (за 20 кастрычніка і 29 снежня 1589), якія якраз і даюць уяўленне аб характары ўзаемадачыненняў між імі.

Аднак калі прыватныя праблемы Льву Сапегу ўдавалася вырашаць абыходнымі шляхамі і, як бачна, даволі трывіяльна, то абарона агульнагаспадарскіх інтарэсаў Княства вымагала ад яго смелых дзеянняў, волі і асабістай мужнасці.

Небяспека страты Княствам незалежнасці з-за безупынных прэтэнзій польскіх паноў на яго землі фактычна ніколі не знікала — ні на працягу канцлерства Льва Сапегі (нават пасля таго як ён знайшоў «агульную мову» з Жыгімонтам), ні пазней. Гісторыя захавала звесткі пра шматлікія сутычкі канцлера з польскімі панамі.

Увесну 1590 года, калі пільна спатрэбіліся сродкі на ўтрыманне ўзмоцненага войска на паўднёвых рубяжах, палякі настойвалі на пазачарговым паборы менавіта з беларускіх зямель, самі нічога не жадаючы даваць. Леў Сапега папсаваў шмат крыві і нерваў, пакуль адвёў ад Княства гэтую ліхасць, якая, здаецца, пагражала гаспадарству поўным спусташэннем. Але, як сведчылі наступныя падзеі, зусім ненадоўга.

Ужо ў траўні таго ж года канцлеру зноўку давялося ваяваць з польскімі сенатарамі. Падчас Варшаўскага Генеральнага вальнага сойма пры падзеле «гаспод» (уладанняў) палякі лезлі са скуры, каб ашукаць паноў-рады Вялікага Княства Літоўскага і праз свае махлярствы крывадушна абабраць іх, захапіўшы для сябе з агульнай скарбонкі лепшыя кавалкі. Толькі прыезд у Варшаву Крыштофа Радзівіла Перуна ды яго аўтарытэт дапамаглі Льву Сапегу на той момант спыніць непрыхаванае круцельства ляхаў.

Як бачна, зусім невыпадкова польскія паны на працягу ўсёй дзейнасці Льва Сапегі люта ненавідзелі яго. І наадварот, у вачах беларускай шляхты аўтарытэт канцлера як палітыка і змагара за вялікакняскія інтарэсы павялічваўся з кожным годам.

Папулярнасці Льва Сапегі сярод насельніцтва Беларусі не мог не заўважыць і Жыгімонт III Ваза, у планы якога на пачатку 90-х гадоў XVI стагоддзя ўваходзіла ўмацаванне сувязяў Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага з Аўстрыяй. Польскія магнаты на чале з каронным канцлерам Янам Замойскім, не жадаючы бачыць пры двары іншаземцаў, не падтрымалі намераў караля ды вялікага князя і выступілі насуперак яго планам ажаніцца з Ганнай Габсбургскай.

Жыгімонту III Вазу нічога не заставалася, як звярнуцца па дапамогу да Льва Сапегі і шукаць падтрымкі ў паноў-рады Вялікага Княства Літоўскага. 31 ліпеня 1590 года манарх напісаў чарговы прымірэнчы ліст да канцлера, просячы ўхваліць ягоны выбар і дазволіць пабрацца са старэйшай дачкой эрцгерцага Карла.

Леў Сапега, імкнучыся ўзмацніць уласныя пазіцыі пры двары, пачаў актыўна спрыяць Жыгімонту III Вазу. Ён, здаецца, нават пазычыў яму грошы на вяселле, якое было спраўлена 30 траўня 1593 года. А калі на вальным сойме паўстала пытанне пра выдзяленне для жонкі Жыгімонта III Вазы зямель і маёнткаў, супраць чаго зноў

пратэставалі палякі, Леў Сапега ды іншыя беларускія сенатары зноў падтрымалі караля і вялікага князя. У выніку Ганна Габсбургская здабыла некалькі маёнткаў на тэрыторыі Польшчы. Пасля гэтых падзей асабістыя адносіны канцлера з манархам нібыта крыху пацяплелі, хоць і не сталі да канца шчырымі.

## VI

Вясной 1591 года ў дом Льва Сапегі прыйшла бяда. 14 сакавіка памерла яго жонка Дарота Фірліёўна, пакінуўшы двухгадовага сына Янку і дачку ад першага мужа Барбару. У тастаменце, напісаным за дзевяць дзён да смерці, канцлярына завяшчала сваю маёмасць дачцэ і сыну. Мужу яна адпісала 30 000 залатых.

Тастамент Дароты Фірліёўны не зусім звычайны. Гэта не толькі юрыдычны дакумент, а ў нейкай меры і літаратурны помнік, духоўны запавет клапатлівай жонкі і маці, перапоўнены пачуццямі і неймаверным смуткам.

Вось некалькі радкоў з яго: «Божачка мой, зрабі так, каб дачушка мая Бася не асірацела пасля мяне зусім. Каб выхоўвалі яе пачціва да паўналецця ці да таго часу, пакуль не знойдзецца ёй сябар. Прашу ваяводзіну віленскую, маю міласцівую пані і сястру <Кацярыну Танчынскую>, якая заўсёды да мяне была ласкаваю, каб яе міласць тую ж ласку на дзетак маіх звярнула, асабліва на дачушку маю Басю...»

Леў Сапега пахаваў Дароту Фірліёўну ў Вільні ў касцёле Св. Міхаіла, які ён пабудаваў два гады таму на ўласныя сродкі.

Смерць жонкі, самага блізкага чалавека, падкасіла канцлера. «Цяжкае гора і нязносная бяда цяпер у мяне,— пісаў ён да Кацярыны Танчынскай.— Жонка мая а шостай гадзіне ночы з чацвярга на пятніцу аддала сваю душу ў рукі Госпада Бога, разлучылася з гэтым светам і са мною, пакінуўшы асірацелых дзетак і мяне ў вялікай роспачы...»

Але ішоў час. Цяжкі боль страты каханай жонкі пакрысе адпускаў. Плойма дзяржаўных спраў, што чакалі неадкладнага вырашэння, прымушалі забывацца на ўласнае гора.

Зміцер Халецкі, вялікакняскі падскарбі, ужо неаднаразова звяртаўся да Льва Сапегі з просьбай пачаць наводзіць парадак у фінансах.

Трэба было вяртаць у каралеўскую скарбонку грошы, узятыя некалі мяшчанамі Магілёва, на пільнай выплаце якіх цяпер настойваў Жыгімонт III Ваза.

Апрача праблем з фінансамі, у Вялікім Княстве Літоўскім насяваў канфлікт на рэлігійнай глебе: пратэстанты патрабавалі ад улад выканання Акта Канфедэрацыі 1573 года, што абараняў іх канфесійныя правы, пагражаючы ў адваротным выпадку грамадскім непадпарадкаваннем і вайной.

Каб суцішыць пратэстантаў, Леў Сапега зрабіў неадкладныя захады для развязвання канкрэтных пытанняў, што іх хвалявалі. 13 снежня 1591 года ён накіроўвае ім на Радомскі з'езд ліст, які, апроч яго, падпісалі Крыштоф Зяновіч, берасцейскі ваявода, Альбрэхт Радзівіл, маршалак Княства, і Гаўрыла Война, падканцлер. Урадоўцы прасілі пратэстантаў супакоіцца, не распальваць узаемнай нянавісці ды не парушаць спакою ў Княстве. Канцлер абяцаў пратэстантам абараніць усе іх «правы і вальносці», што з нейкіх прычын дагэтуль парушаліся. Аднак зусім пазбегнуць беспарадкаў у гаспадарстве не ўдалося. Выступленні пратэстантаў прайшлі па ўсёй краіне.

Небяспека ўнутраных канфліктаў павялічвалася з-за адсутнасці Жыгімонта III Вазы, які пасля смерці ў лістападзе 1592 года бацькі, шведскага караля Іаана, з дазволу сойма ў траўні 1593 года ад'ехаў у Швецыю. Там ён пачаў дамагацца дзедзічнага трона, бо шведская карона была спадчынная і на той час больш ганаровая.

Жыгімонт III Ваза запрашаў з сабой у паездку і канцлера. Аднак Леў Сапега, спаслаўшыся на хваробу, адмовіўся. Трывожныя часы і безліч гаспадарскіх спраў аніяк не спрыялі таму, каб выправіцца ў параўнальна бесклапотнае падарожжа сярод знатнай каралеўскай світы.

Пераадольваючы неймаверныя цяжкасці, Леў Сапега ў гэты час шмат сіл аддае ўрэгуляванню канфліктаў паміж шляхтай, беспералынна вядзе перамовы з пратэстантамі, сустракаецца з лідарам беларускіх евангелікаў Андрэем Волянам, забяспечвае ахову паўднёвых рубяжоў, распачынае ўпарадкаванне галоўнага архіва Княства — Літоўскай Метрыкі. Ён развязвае надзвычай істотнае пытанне аб удзеле Вялікага Княства Літоўскага ў антытурэцкай кааліцыі хрысціянскіх дзяржаў, якая ствaралася ў сярэдзіне 90-х гадоў XVI стагоддзя пад эгідай Папы Рымскага Клімента VIII.

Праз нейкі час са Швецыі прыйшло паведамленне пра адклад каранацыі на пазнейшы час, на сярэдзіну студзеня 1594 года. Прычынай было адмоўнае стаўленне тамтэйшага дваранства да караля-католіка. Але не гэта насцярожыла Льва Сапегу. На шведскую карону нечакана прад'явіў прэтэнзіі Карл, дзядзька Жыгімонта III Вазы. Узнікла рэальная пагроза вайны Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы са Швецыяй, што стварала вялікую небяспеку для беларускіх зямель, бо тут у 1594 годзе пачалася шырокая хваля выступленняў сялянскай беднаты.

Найбольшыя клопаты канцлеру прынеслі казацкія атрады Лабады і Налівайкі, што бязлітасна рабавалі беларускія і ўкраінскія гарады і маёнткі шляхты, дашчэнту выпальвалі вёскі, руйнавалі паселішчы, не шкадуючы, seклі малых і старых, няславілі жанок і дзяўчат. Аб варварскай жорсткасці «налівайкаўцаў», якія справілі свой дзікі шабаш у Магілёве, аўтар старажытнай «Баркулабаўскай хронікі» пісаў так: «Спалілі слаўнае места Магілёў, места пабожнае, дамы, крамы, астрог. Усяго знішчылі блізу 500 дамоў і 400 крамаў з вялікімі багаццямі... Мяшчан, баяраў і вельмі пачцівых людзей, так мужоў, як і жанок, і малых дзетак пабілі, пасеклі, апаганілі. Апрача таго, з крамаў і дамоў забралі безліч скарбу».

Леў Сапега і Крыштоф Радзівіл арганізавалі супраціў казацкім аддзелам. На чале з Мікалаем Буйвідам ды славутым крычаўскім старостам Багданам Саламярэцкім беларускія жаўнеры квітам паквіталіся з «бунтаўнікамі» на Буйніцкім полі, што пад Магілёвам. Галоўны злачынец — Севярын Налівайка — пазней быў злоўлены і пакараны.

Леў Сапега і надалей заўсёды заставаўся прыхільнікам моцнай прававой дзяржавы. Пра гэта яскрава сведчыць, напрыклад, тое, што ён, прамаўляючы на Варшаўскім сойме 1597 года, асудзіў шляхецкі рокаш, які ўзначальвалі Януш Радзівіл і Мікалай Забжыдоўскі. У сваёй прамове канцлер падкрэсліваў, што ні закон, ні гісторыя не даюць нікому падстаў дамагацца нечага ад улады з дапамогай сілы.

Леў Сапега, які быў магілёўскім старостам, учыніў жорсткую расправу над завадатарамі паўстання гараджан у Магілёве, якое адбывалася ў 1606—1610 гадах. Да парушальнікаў закону, кім бы яны ні былі, канцлер Вялікага Княства ніколі не меў ні літасці, ні спагады.

## VII

Апынуўшыся на вяршыні ўлады, Леў Сапега шмат у чым вызначаў характар дзяржаўнай палітыкі ў духоўна-рэлігійнай сферы, адносінах паміж дзяржавай і царквой. Ад яго залежала дасягненне згоды паміж канфесіямі, што было надзвычай складана. На той час у Беларусі існавалі некалькі рэлігійных плыняў — каталіцтва, праваслаўе, пратэстантызм, іудаізм і мусульманства. Кожная з іх мела ўласныя гістарычныя карані, адметную філасофію і арыентацыю на пэўны тып культуры. Леў Сапега выдатна ўсведамляў, што пры такім кангламераце канфесій выключна важна захоўваць талеранцыю, аднолькава ставіцца да ўсіх вернікаў, паважаць іх царкоўна-рэлігійныя правы.

На рэлігійнае становішча ў ВКЛ надзвычай паўплывала заснаванне ў 1589 годзе Маскоўскай Патрыярхіі. Царкоўныя вярхі Маскоўскага княства адразу ж заявілі пра неабходнасць аб'яднання пад іх уладай усіх праваслаўных, у тым ліку і жыхароў ВКЛ. Усё праваслаўнае абвяшчалася маскоўскім. Леў Сапега выдатна ўсведамляў, да чаго на практыцы прывядуць дэкларацыі маскоўскіх патрыярхаў. А яны сведчылі якраз пра тое, што даўнія прэтэнзіі Масквы на землі Беларусі набываюць абрысы палітычнай праграмы.

Імкнучыся засцерагчы інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага, захаваць духоўна-культурную незалежнасць краіны, абараніць беларускі народ і вернікаў ад экспансіі з усходу, Леў Сапега актыўна падтрымаў праект рэгіянальнай уніі — пагаднення Праваслаўнай царквы ВКЛ з Каталіцкім касцёлам.

10 верасня 1595 года Леў Сапега напісаў надзвычай яркі ліст да князя Канстанціна Астрожскага, у якім даваў параду ўстрымацца ад публічных пагроз у адрас царкоўных іерархаў. Канцлер настойліва рэкамендаваў свавольнаму князю выяўляць стрыманасць пры падрыхтоўцы міжцаркоўнага пагаднення, раіў не ўжываць абраз у адрас манарха, прасіў спыніць праслед уладзімірскага епіскапа Іпація Пацея. Леў Сапега адзначаў: «Стаўленне да царкоўнай лучнасці — гэта твая ўласная справа. Але як можна лаяць Папу, называць яго антыхрыстам і непрыяцелем Слова Божага, абражаць усіх католікаў і святую саборную веру, пагражаць каралю замахам на яго жыццё і

стратаю каралеўства, прыраўноўваць манарха да ерэтыкоў і ачарніцелей вялікасці Божай! А паколькі кароль — каталік, то палохаеш яго тым, што выставіш супраць яго дваццаць тысяч жаўнераў... Усяго гэтага, мой міласцівы спадару, не трэба чыніць. А я сам, хоць і зычлівы слуга і крэўны вашай княжацкай міласці, але таго ўхваліць не магу і сардэчна перажываю, што гэта ад вас зыходзіць».

Канцлер папярэджваў Канстанціна Астрожскага і тлумачыў яму: «Кароль — вярхоўны гаспадар і абаронца ўсіх духоўных асоб — як рымскай, гэтак і грэчаскай веры — не дапусціць, каб хто-небудзь чыніў зло. Ягомасць кароль хоча і будзе бараніць усіх ад любога гвалту, крыўды і ўціскаў».

Спасылаючыся на ўласны досвед узаемаадносін з Жыгімонтам III Вазам, Леў Сапега настойліва рэкамендаваў князю Астрожскаму ў складаны для краіны перыяд не асабліва канфліктаваць з манархам: «Хоць мяне і самога нярэдка заносіць, але зараз не той час».

Леў Сапега меў рацыю: у любую хвіліну міжцаркоўныя непаразуменні і рэлігійныя спрэчкі ў Вялікім Княстве Літоўскім маглі перарасці ў поўную анархію і хаос. Мусіць, толькі своечасовыя парады канцлера, яго рашучыя дзеянні і тэрміновыя перамовы з украінскай і беларускай шляхтай спынілі князя Канстанціна Астрожскага ад непапраўных учынкаў, выратавалі на той момант Беларусь ад грамадзянскай вайны на рэлігійнай глебе, вынікі якой маглі быць надта трагічнымі для ўсёй краіны і ўсяго грамадства.

Леў Сапега ўзяў чынны ўдзел у Берасцейскім царкоўным саборы, які праходзіў 6—8 кастрычніка 1596 года. Ён прысутнічаў на ім у якасці каралеўскага камісара і выступіў з палымянай прамовай у абарону царкоўнай уніі.

*«Прамова на Берасцейскім царкоўным саборы 1596 года»* Льва Сапегі — унікальны літаратурна-мастацкі твор і адначасна рарытэтны помнік беларускай гістарыяграфіі. Яна дайшла да нашага часу ў складзе твора Пятра Скаргі «Берасцейскі сабор і абарона яго».

Леў Сапега, выступаючы ад імя каралеўскіх камісараў, агучваў пазіцыю ўладных колаў Вялікага Княства. Выступленне канцлера, як вынікае з тэксту «Прамовы...», адбывалася перад апанентамі уніі на

адной з іх сустрэч, куды ён прыехаў з праваслаўнымі епіскапамі і каталіцкімі біскупамі.

Як сведчыць змест «Прамовы...», Леў Сапега перадусім абураўся пазіцыяй кіеўскага ваяводы Канстанціна Астрожскага, які стаў на бок праціўнікаў уніі і арганізаваў паралельны сабор. Канцлер зноў засцерагаў яго ад агрэсіўных дзеянняў. Ён папярэджваў Канстанціна Астрожскага, каб той не ставіў сябе вышэй за караля, бо з'яўляецца яго падданым, не імкнуўся сілай вырашаць царкоўныя справы, якія знаходзяцца ў кампетэнцыі духоўных асоб.

Леў Сапега, урэшце, зазначаў, што ён, як каралеўскі камісар, дадзенай яму ўладай забяспечыць парадак і спакой на саборы: «Паколькі Усемагутны Пан Бог з'яўляецца пачаткам і крыніцай усялякай згоды і міласці, таму богабаязлівыя і разумныя людзі шануюць адзін аднаго ў згодзе і лучнасці, якая ёсць маткай усякага дабра.

Яго міласць кароль быў надта рады вашай дамове, пра якую вы паведамілі яму тры гады таму. Мітрапаліт і ўсе епіскапы на той момант дасягнулі згоды, у тым ліку і вашы міласці — епіскап львоўскі і епіскап перамышльскі. Аб гэтым красамоўна сведчаць подпісы вашых уласных рук пад супольнай пастановай.

Вы заяўлялі, што падданыя яго міласці караля — людзі грэчаскай веры — хочуць задзіночыцца з католікамі, вярнуцца пад уладу адзінага пастыра, не жадаючы надалей дапамагаць новым грэкам — цараградскім патрыярхам, адступнікам і адшчапенцам.

Кароль нікога аніякім чынам не схіляў да такога рашэння, не падгаворваў, а тым болей — нікога не прымушаў. Ён сапраўды быў вельмі ўсцешаны, бо праз лучнасць веры шмат людзей станавілася на шлях збавення, пашыралася хвала Богу, умацоўваліся згода і адзінства ў гаспадарстве яго каралеўскай міласці, на чым трымаюцца ўсе дзяржавы.

Яго міласць кароль ведаў, што пра лучнасць людзей хрысціянскай веры цягам некалькіх дзесяцігоддзяў надта стараўся кіеўскі ваявода (Канстанцін Астрожскі), які цяпер тут з намі сядзіць. Праз вялебнага айца Пасевіна ён звяртаўся да Папы Рымскага Грыгорыя XIII, просячы яго, каб згода шчасліва здзейснілася.

Кароль памятаў, што яго продкі — колішнія каралі — спрыялі адзінству, здзейсненаму на Фларэнційскім саборы, рашэнні якога

распаўсюджваліся на іх гаспадарствы. Таму яго міласць кароль лічыць за вялікую паслугу Пану Богу і ўсёй дзяржаве — ажывіць і абнавіць тую святую і выратавальную лучнасць.

Калі справы пайшлі далей, а паслы айцоў епіскапаў ужо вярнуліся з Рыма, пан кіеўскі ваявода на мінулым сойме вельмі прасіў караля спрыяць уніі, абяцаючы са свайго боку дапамогу хрысціянскай згодзе. Яго міласць кароль ласкава дазволіў здзейсніць унію паміж Касцёлам і Царквой.

Калі прайшоў пэўны час, а прыхільнікі лучнасці не змаглі ў вызначаны тэрмін і ў акрэсленым месцы завяршыць распачатую справу, кароль зноў пайшоў насустрач жаданню кіеўскага ваяводы і даў чарговы дазвол на скліканне сабора.

Больш за тое, калі набліжаўся час правядзення сабора, пан кіеўскі ваявода за некалькі тыдняў да пачатку накіраваў да караля паноў Мацея Малінскага, Лаўрына Дрэвінскага, якія перадалі каралю яго сардэчную ўдзячнасць за дазвол на скліканне сабора. Праз тых сваіх паслоў кіеўскі ваявода прасіў аб чатырох рэчах.

Першае, каб ніхто не прыязджаў на той сабор узброеным і ў атачэнні жаўнераў. Каб падчас сабору ўсё адбывалася без прымусу і гвалту, у спакоі і бяспецы.

Другое, каб на сабор свабодна мог прыехаць кожны чалавек, незалежна ад веры.

Трэцяе, каб на тым саборы мог прысутнічаць Нікіфар Грэчын, якога злавілі з Розванам у Валахіі, а ён уцёк з палону з Хоцінскага замка.

Чацвёртае, калі на саборы не будзе дасягнута паразуменне па нейкім з пытанняў, каб тыя пярэчанні можна было вынесці на абмеркаванне сойма.

Яго міласць кароль накіраваў кіеўскаму ваяводзе пісьмовы адказ, замацаваўшы сваё рашэнне пячаткай.

На першую просьбу кароль не толькі даў поўную згоду, але і распарадзіўся, каб на саборы ўсё адбывалася ладам, спакойна, прыстойна, усе пачуваліся ў бяспецы. З гэтай мэтай ён і накіраваў уласных паслоў на сабор.

Другую просьбу яго міласць кароль не задаволіў. Ён патлумачыў, паколькі сабор склікаецца дзеля паразумення праваслаўных з католікамі, то людзям іншых веравызнанняў няма чаго рабіць на ім.

На трэцюю просьбу кароль таксама не даў згоды. Ён растлумачыў, што Нікіфар прывёў з Валахіі Розвана, падтрымліваў таемныя стасункі з туркамі, чым наносіў вялікую шкоду ўсяму Каралеўству і ўсёй Рэчы Паспалітай. Таму засядаць разам з ім на саборы, а тым болей вырашаць царкоўныя справы анікому з падданых яго каралеўскай міласці не варта.

Чацвёртую просьбу кіеўскага ваяводы яго міласць кароль таксама адхіліў. Ён давёў, што сабор і сойм — дзве розныя рэчы. На соймах не павінны разглядацца духоўныя пытанні, сойм не можа выносіць прысуды па духоўных справах.

І вось цяпер, на гэтым саборы мы назіраем непарадак і супраціўленне волі і рашэнням яго міласці караля.

Тыя асобы, што настойліва прасілі аб скліканні сабора, адступілі ад яго раней, чым ён пачаўся.

Не ведаем, якім духам і з якімі думкамі вы прыехалі сюды, ваша міласць кіеўскі ваяводзе,— з гэтакім початам, з узброенымі пешымі жаўнерамі і коннікамі. Вы ж самі заракаліся чыніць падобнае! Вы давалі пісьмовае абяцанне, за подпісам вашай уласнай рукі і некаторых валынскіх шляхціцаў, перадаўшы яго праз пана Малінскага яго міласці каралю! Каго тым войскам вы напалохаць хочаце? Гэта вы так трымаецеся вашага слова? Дзе ваша прыстойнасць? Дзеля братэрскай дамовы, а не на вайну сюды з'ехаліся! На сабор, а не на непрыяцельскія граніцы! На згоду, а не на зваду!

Калі вы хочаце застрашыць айцоў епіскапаў, біскупаў і іншых духоўных асоб, перашкодзіць ім вольна абмяркоўваць духоўныя справы і выносіць царкоўныя пастановы, дык мы вам таго не дазволім! За нашых духоўных пастыраў мы гатовыя скласці ўласныя галовы!

Мы паверылі вашым словам і просьбам, прыехалі з пакорлівасцю, як належыць прыязджаць да Божай царквы. На саборы, дзе пануе Святы Дух, дзе святыя епіскапы, Божыя слугі, засядаюць і радзяцца, шукаюць ісціну, дбаюць пра спакой і карысць Божай царквы,— нельга дапускаць аніякага прыніжэння і зняваг!

Лепей бы вы не прасілі яго міласць караля ні аб чым! Не падманвалі яго і нас. Вы, просячы аб міры, прыехалі нібы на вайну!

Вы падбухторваеце вашых людзей да беспарадкаў!

Вы не размаўлялі, не дыскутавалі, урэшце, нікога не пыталіся, а адразу склікалі ўласную сходку, учынілі раскол і падзел!

Вы правялі недазволены і супрацьпраўны соймік, абралі на ім маршалка, чым зняважылі вярхоўную ўладу яго міласці караля! Менавіта кароль прыслаў нас сюды, каб мы забяспечвалі парадак і спакой, ажыццяўлялі маршальскія абавязкі!

Вы дапусцілі да сябе не толькі людзей рознай веры, але і ненадзейных і падазроных асоб. І што яшчэ горай — галавой вашай грамады вылучылі Нікіфара Грэчына, якога пераследуе яго міласць кароль! Той Нікіфар нядаўна ўцёк з вязніцы, абвінавачваецца ў злачынных сувязях з туркамі і непрыяцелямі дзяржавы. Ён паклёпнічаў на караля, абражаў яго, чаго ніхто з вас, як падданых яго міласці караля, не павінен быў трываць!

Вашая сходка не можа быць названа не толькі саборам, але нават і шляхецкім соймікам, бо і яны збіраюцца толькі з дазволу караля! Яна інакш і назвацца не можа, як толькі праявай непаслухмянасці, супраціўленнем ураду, пастаўленаму Богам! Святое Пісанне прыраўноўвае гэтакі грэх да пакланення ідалам.

Сапраўдны сабор склікаў мітрапаліт, а не Балабан і Капысцінскі!

Месца сабораў — у цэрквах і касцёлах, а не ў гасподах і шынках, памазаных ерэтызмам!

Узганарыліся вашымі духоўнымі айцамі, дадзенымі вам Богам, праз вашых паслоў выказваеце толькі ім паслушэнства! А гэтых наважваецеся пазбавіць сану, скінуць з мітраполіі і з епіскопій! Адкуль, з якой нагоды прыўлашчваеце царкоўную і каралеўскую ўладу? Вы такія ж свецкія людзі, як і мы! Аніякай духоўнай моцы і ўлады, без вышэйшага дазволу і адабрэння, вы не можаце прысвойваць сабе!

Сабор — гэта трыбунал для ўласна духоўных спраў, на якія не распаўсюджваюцца свецкія законы і каралеўская ўлада. Мы чулі, як ваш грэчаскі святы Афанасій назваў антыхрыстам імператара Канстанціна, які хацеў паўплываць на рашэнні епіскапскіх сабораў. Святы Афанасій граміў Канстанціна, указваў яму, каб ён займаўся ўпарадкаваннем дзяржавы, гарадоў і замкаў. Каб ён не прысвойваў сабе права выносіць прысуды па справах, якія знаходзяцца ў кампетэнцыі святароў, прызначаных Богам. Калі гэтакія словы гава-

рыліся манарху над усім светам, дык што б ён сказаў каму-небудзь з вашых міласцяў!

Яго каралеўская міласць дае згоду на прызначэнне царкоўных іерархаў, як найвышэйшы ўладар і абаронца. Той, хто хоча іх турбаваць без ведама караля, замахваецца на ўладу большую, чым тая, якой валодае манарх.

Патрыярх Ерамія, калі быў тут і хацеў замяніць епіскапаў, прасіў дазволу яго міласці караля. Вы ж, з'яўляючыся падданымі яго каралеўскай міласці, здымаеце епіскапаў, чым ставіце сябе вышэй за караля. Але ж вы не маеце аніякай духоўнай улады на гэта. Памятайце, куды вядзеце сябе і іншых разам з сабой!

Ускладаеце вялікія грахі на сваіх старэйшых — мітрапалітаў і епіскапаў! Яны шукаюць згоды, хочуць хрысціянскай лучнасці, прагнуць паразумення з лацінянамі, вызваляюцца ад царградскага патрыярха! І за гэта губляюць свой сан і пасады ад вас! Калі гэта грэх — нязгодных злучаць, усталёўваць хрысціянскую міласэрнасць, мацаваць спакой Хрыстовай царквы і Касцёла, весці душы да выратавання, дык узнагародай і дабрачыннасцю будзе — сеяць непаразуменне паміж братамі, раздзіраць рызу Хрыстову, разбураць адзінства яго вучняў і чыніць усё злое!

Але што на свеце можа быць больш прыемным Богу, карысным дзяржаве і людзям, за адзінства, згоду і супольную міласэрнасць! Акурат згоду Хрыстос запаведваў нам сваім тастаментам. Ён загадваў і папярэджваў, калі не будзем мець яе — не павінны называцца яго вучнямі! Хто ад згоды і лучнасці Хрыстовай царквы ўцякае, пра яе паўсюль, дзе можна, не дбае,— той не можа называцца ані хрысціянінам, ані вучнем Хрыстовым.

Чым жа мы, католікі, гэтак брыдкія вам, што вы моцна гневаецеся на вашых старэйшых, якія хочуць задзіночання з намі? Нібыта злучаюцца з ерэтыкамі, да іх праклятых аблудаў прысталі! Відаць, ім бы вы дзякавалі».

Канцлер Леў Сапега рэзка асудзіў раскольніцкую дзейнасць праваслаўных епіскапаў Гедэона Балабана і Зіновія Капысцінскага, іх непадпарадкаванне мітрапаліту і каралю. Асабліва ён абураўся іх альянсам з пратэстантамі: «А вы, два мізэрныя ўладыкі і ўсе папы! Няўжо

не бачыце, якое зло чыніце? Вы з'ядналіся з ерэтыкамі. Не толькі засядаеце на іх нарадах, скіраваных супраць Святога Пісання і Божай волі! Слухаецеся іх парадаў, нябачна служыце ім. Не хочаце слухацца старых і прававерных хрысціян, а слухаецеся аблудных! Не прымаеце Божай праўды, давяраеце хлусні! Лічыце іх за надзейных прыяцеляў. А яны ж толькі ў адным Навагрудскім ваяводстве спустошылі 650 цэркваў і Божых службаў у іх! Там налічвалася звыш 600 шляхецкіх дамоў, дзе спавядалі грэчаскую рэлігію, а засталося ледзьве 16, ці і таго меней. Астатнія адышлі да ерэтычнай новахрышчэнскай заразы! Яны называюць сябе вашымі сынамі і паслушнікамі. Але калі вы спытаеце іх, як яны вераць, дзе спавядаюцца і прымаюць сакраманты, яны пакажуць вам воўчыя зубы, разарвуць вас і вашых авечак на кавалкі! О слепата ваша! Вы хіліцеся да тых, хто нішчыць вас, вашу веру і вашыя цэрквы! А бяжыце ад тых, якія хочуць захаваць вас у цэласці і абараніць!»

На думку аўтара «Прамовы...», выхад праваслаўных іерархаў з-пад улады канстанцінопальскіх патрыярхаў і прызнанне вяршэнства Папы Рымскага — гістарычна цалкам апраўданы крок. Канстанцінопаль трапіў ва ўладу турак, уся Усходняя царква апынулася ў няволі, а вышэйшыя іерархі сталі цалкам залежныя ад «басурманаў». Ва ўмовах турэцкай пагрозы і маскоўскай экспансіі, падкрэсліваў Леў Сапега, адзіны выратавальны крок для Праваслаўнай царквы ВКЛ — унія з Каталіцкім касцёлам, пераход у падпарадкаванне да Папы Рымскага, але з захаваннем усіх праваслаўных абрадаў і цырымоній.

Канцлер даводзіў літаральна наступнае: «Найперш, вы пыталіся, чаму адступаюць ад царградскіх патрыярхаў? Варта было б нам прывесці прыклады са Святога Пісання, з твораў святых айцоў — усходніх і заходніх,— з канонаў і правілаў святых сабораў, з вашых рускіх (праваслаўных) пісанняў аб тым, што ніхто не можа быць выратаваны, хто не застаецца ў царкоўным адзінстве.

Як вядома, Пан Бог паставіў пастырам над усімі авечкамі Святога Пятра і яго наступнікаў. Калі ж хто не слухае іх, той не з'яўляецца Хрыстовай авечкай. Ад пачатку Святой царквы, з часоў апосталаў, рымскі біскуп, як пераемнік Святога Пятра, меў і мае вярхоўную ўладу над цэрквамі ўсяго свету. Вы ж самі ў вашых літургіях і абеднях падчас Божай службы заўжды просіце пра злучэнне веры. А цяпер,

калі Госпад Бог, дзякуючы вашым малітвам, пасылае тое злучэнне, вы пагарджаеце ім.

Мы маглі б прывесці са Святога Пісання неабходныя доказы, на якія б вы не змаглі нічым запярэчыць. Вам цяпер іх могуць прадставіць нашыя духоўныя айцы, калі вы пажадаеце весці з імі размовы і дыскусіі на гэты конт. Яны ўжо падрыхтаваліся і дзеля гэтага некаторыя з іх прыйшлі сюды разам з намі.

А тое, што епіскапы адступаюць ад царградскіх патрыярхаў,— слушна гэта робяць! Бо царградскія патрыярхі адступілі ад Бога, ад праўды і ад адзінства Божай царквы. Яны або не хочуць ісці да згоды, або з-за турэцкай няволі — не могуць. Для іх загінуць, а згоды і хрысціянскага адзінства не жадаць, было б вялікай бязбожнасцю і глупствам.

Тыя царградскія патрыярхі і епіскапы — надта сапсаваныя, прыніжаныя і Панам Богам праклятыя. Аб гэтым вам не складана дазнацца. Як вы дакладна ведаеце, ніводзін з царградскіх духоўных айцоў не можа заняць пасады без святакупства. Кожны з іх мусіць купіць у турка тое месца. Каго турак вызначыць на пасаду, той яе і зойме. А ён не прызначае, пакуль яму добра не заплоцяць. Такім парадкам, аніводзін з царградскіх патрыярхаў не з'яўляецца сапраўдным і законным духоўным пастырам. Бо паводле Божых і царкоўных законаў, кожны святакупца і сіманіянін губляе грошы і пазбаўляецца царкоўнай пасады, якую ён купіў.

Царградскія патрыярхі — праклятыя Богам, бо яны адзін аднаго скідваюць з пасад, заплаціўшы туркам грошы. А часам здараецца, там дзейнічаюць адразу тры ці чатыры жывыя патрыярхі! Гэтак пералюбніца мае трох мужоў, чужаложніца жыве з чужаложнікамі! Духоўныя асобы — патрыярхі, манахі і ігумены — там бесперастанку турчаць і басурманяць, валочацца па іншых краінах, знаходзяць там хрысціян і заражаюць іх. Яны даходзяць нават да рускіх краёў, падрабляючы пячаткі патрыярхаў. Бо жывыя яшчэ тыя залатары, якія дапамагалі ім фальшаваць пячаткі.

Знойдзецца і яшчэ мноства грахоў, за якія іх праклялі рымскія папы, бо ім Святы Пётр перадаў моц царкоўных ключоў. Вялікі грэх царградскіх патрыярхаў і епіскапаў — упартасць і адшчапенства. Ім

карысней было б не ўцякаць ад рымскіх пастыраў, а ісці следам за імі. А яны, наадварот, выяўляюць падкрэсленую нядбайнасць пра ўласнае выратаванне.

Вашы старэйшыя дбаюць пра сябе і пра вас, не да злога паказваюць вам шлях, а да вечнага выратавання, якога не можа быць без згоды і царкоўнага адзінства. Аб гэтым вашыя духоўныя айцы вас могуць навучыць шырэй. Мы ж на вас скардзімся Богу за тое, што вы прысвойваеце ўладу і суды, якія належаць вашым старэйшым. Іх, нікім не асуджаных, вы хочаце без суда і права праклінаць! Гэтыя дзве рэчы — беспадстаўныя і несправядлівыя. Яны называюцца тыранствам і бунтам.

Калі вас паслухаць, дык вы ўсе нібыта правыя, усе важныя, абараняеце людзей розных рэлігій. Але толькі не аберагаеце грэчаскага набажэнства. Бурыце праваслаўныя храмы, пакідаеце іх пустымі! Не баіцеся ўцякаць да новахрышчэнства (арыянства) ды іншых ерасяў. Чаму ж вы не дазваляеце вашым старэйшым пакараць вас за аблуднасць?

Вы бароніце канфедэрацыю, якая дэкларуе, каб ніхто не быў пакараны за веру, а самі прагнеце пакараць іншых. Хочаце скінуць з духоўных пасад тых, якія ідуць не да нейкай ерасі, а да грунтоўнай праўды і чыстай крыніцы Хрыстовай навукі. Ці ж не супраць сваёй уласнай канфедэрацыі чыніце?

Вас не трывожыць тое, што адступаеце ад грэчаскай рэлігіі. А тыя духоўныя айцы ўмацоўваюць яе. Дасягаючы адзінства, яны нічога не адмяняюць — ані веры святых грэчаскіх старых айцоў, ані цырымоній і службаў царкоўных, ані звычаю набажэнства ва Усходняй царкве.

Чаму ж вы іх за гэта пакараць хочаце, а самі за сваё адступніцтва аніякага пакарання не хочаце мець? Яны — вашы старэйшыя і якраз маглі б пакараць вас за вашу шкодную навуку і злыя ерасі. Бо ім дадзена такое права і ўлада. Яны — пастыры, а вы — авечкі! Яны — гаспадары, а вы — падданыя. Пан Бог загадаў вам браць навуку з іх вуснаў, ва ўсім слухацца іх.

Таму просім вас: вярніцеся да абачлівасці і розуму, не перашкаджайце правядзенню сабора, адмоўцеся ад антызаконных сходак

і ідзіце ўсе да царквы, дзе сабраліся епіскапы і духоўныя айцы — сапраўдныя Божыя слугі! Слухайце, як нашыя старэйшыя будуць радзіцца пра нашае збавенне!

Яны маюць адказнасць перад Панам Богам, а мы не памылімся, калі паслухаем іх навукі, бо яны маюць пры сабе настаўніка, абяцанага Хрыстом, магістра праўды — Святога Духа!

Яны маюць Святога айца, пастыра над усім светам, дабраславенне Святога Пятра і яго ўладу!

Яны маюць святых і вучоных епіскапаў! Маюць старажытных настаўнікаў грэчаскай веры і ўсе высновы праўды!

Не лічыце, што духоўныя айцы з'ехаліся сюды, каб усталяваць новую веру. Унія нічога новага не стварае.

Аніякіх змен у Грэчаскую царкву і Каталіцкі касцёл не ўносім!

Згоды хочам, міласэрнасці прагнем!»

Леў Сапега, такім чынам, настойліва заклікаў праціўнікаў уніі прыслухацца да голасу мітрапаліта і вышэйшых іерархаў, праявіць абачлівасць і разважлівасць, не чыніць анархіі і бунтаў, а, наадварот, дапамагчы духоўным асобам дасягнуць згоды і «хрысціянскай міласэрнасці».

Канцлер асобна звярнуўся да жаўнераў і рыцарства, каб яны не перашкаджалі правядзенню сабора, не ўзводзілі бар'еры на шляху да згоды паміж Праваслаўнай царквой і Каталіцкім касцёлам: «На вас, дабраслаўных рыцараў, скардзімся. Бо чыніце вялікі грэх супраць Бога і яго памазанца. Выяўляеце непаслухмянасць перад Панам Богам, сееце варажнечу паміж братамі, выступаеце як непрыяцелі згоды і міласэрнасці, не хочаце ведаць аб праўдзе і выратавальных шляхах, пагарджаеце вашымі духоўнымі айцамі, разрываеце саборы, не зважаеце на караля і яго мандаты. Як гэта ўсё можа быць даравана вам? Напэўна, Пан Бог ускладзе на вас помсту. Хаця б не такую, дзе і мы акажамся далучанымі да вашых грахоў. Сведчым перад Богам нашым, што не жадаем вашай крыві і згубы. Але мы, выконваючы даручэнне караля, братэрскімі ўгаворамі і разумнымі довадамі заклікаем вас да міласэрнасці і згоды дзеля Божай царквы, у якой вы знойдзеце вечнае выратаванне. Вы зробіце дабро і захаваеце адзінства Рэчы Паспалітай, якая найбольш трымаецца згодай і міласэрнасцю

грамадзянаў. Вы акажаце ёй вялікую паслугу, а пры ёй — захаваеце сябе, вашы дамы і вашых дзетак праз Божае дабраславенне. Глядзіце, каб вашыя разбуральныя дзеянні не нашкодзілі соймікам, не прынеслі шкоды абароне ад турэцкай агрэсіі, якая над намі вісіць. Каб з-за вас усе мы не трапілі ў турэцкую няволю, разам з грэкамі-адшчапенцамі і іншымі ерэтыкамі».

Як выразна бачна, «Прамова на Берасцейскім царкоўным саборы 1596 года» Льва Сапегі адлюстравала тагачасную ідэйную барацьбу, логіку паводзін і аргументы варагуючых бакоў.

Станоўчым вынікам Берасцейскага сабора 1596 года стала падпісанне міжцаркоўнага пагаднення, у выніку якога адбыўся пераход значнай часткі праваслаўных іерархаў пад уладу Папы Рымскага. Фактычна на Беларусі ўтварылася новая хрысціянская супольнасць — Уніяцкая царква.

Не зважаючы на заклікі і просьбы канцлера Льва Сапегі, значная частка праваслаўных правяла ў Берасці альтэрнатыўны сабор. Яны асудзілі Унію і адмежаваліся ад новай царкоўна-рэлігійнай плыні.

Леў Сапега не змог прадухіліць барацьбы паміж канфесіямі. Ва ўсіх спрэчных пытаннях, якія ўзнікалі паміж праваслаўнымі і ўніятамі, канцлер, як правіла, падтрымліваў апошніх. У 1597 годзе ён аказваў ціск на Берасцейскае і Віленскае праваслаўныя брацтвы, а таксама на манахаў Кіева-Пячорскага манастыра, якія не прынялі уніі і аказвалі супраціўленне пашырэнню ўніяцтва.

Канцлер жорстка расправіўся з віленскімі праваслаўнымі мяшчанамі — Рыгорам Ждановічам, Каралём Лазаровічам і Іванам Парошкам, якія наладзілі таемныя зносіны з Маскоўскай праваслаўнай царквой.

## VIII

У канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя Вялікае Княства Літоўскае і Польскае Каралеўства распачалі працяглую вайну са Швецыяй. Жыгімонт III Ваза сілай дамагаўся спадчыннай кароны пасля смерці бацькі — шведскага караля Іаана III.

Каб пазбавіць шведаў падтрымкі з боку Маскоўскага княства і пазбегнуць адначасовай вайны з дзвюма дзяржавамі, улады ВКЛ і Польшчы прынялі рашэнне накіраваць у Маскву да Барыса Гадунова пасольства з мэтай падпісаць «вечны мір». Адказную місію зноў давялося ўзначаліць Льву Сапегу, за плячыма якога быў значны дыпламатычны досвед.

27 верасня 1600 года пасольства выехала з Вільні. У склад дэлегацыі, апрача Льва Сапегі, уваходзілі: Гальяш Пельгрымоўскі, сакратар Княства, Андрэй Варапай, аршанскі земскі суддзя, Ян Сапега, віцебскі ваяводзіч, Станіслаў Варшыцкі, варшаўскі кашталян, а таксама паны Мікалай Францкевіч, Пётр Дунін, Ян Баруцкі, Ян Пасек.

Шлях да Масквы быў не лягчэйшы, чым у 1584 годзе, бо з боку маскавітаў парушаліся ўсе артыкулы тагачаснага міжнароднага этыкету, якія прадугледжваў паважлівыя адносіны да дыпламатычных дэлегацый замежных краін. Паслам нават не прадастаўлялі належнага начлегу, не выдавалі неабходнай колькасці прадуктаў. Але гэтыя абразы і прыніжэнні ў дарозе былі драбязой у параўнанні з адмовай цара Барыса Гадунова прыняць Льва Сапегу ў хуткім часе пасля яго прыбыцця ў Маскву 16 кастрычніка 1600 года.

Спасылаючыся на хваробу ног, Барыс Гадуноў наўмысля зацягваў пачатак перагавораў. І толькі пажар 16 лістапада ў Маскве, ад якога ледзь не пацярпелі паслы, змусіў рускіх баяр і цара згадзіцца на сустрэчу.

Афіцыйны прыём у цара адбыўся 26 лістапада 1600 года, а непасрэдныя перамовы аб артыкулах замірэння пачаліся яшчэ на тыдзень пазней.

На другой сесіі, якая адкрылася 4 снежня, Леў Сапега абвясціў свае ўмовы «вечнага міру», якія ўключалі 24 артыкулы. Усе яны дэталёва пералічаны ў «Дзённіку» Гальяша Пельгрымоўскага.

Канцлер прапаноўваў наступнае: каралі польскія і вялікія князі літоўскія з аднаго боку ды князі маскоўскія разам з усімі баярамі — з другога наперад заўжды павінны жыць у згодзе; калі вораг нападзе на адну з саюзных дзяржаў, то другая абавязана дапамагаць ёй; заключаць мір або аб'яўляць вайну трэцім краінам належыць толькі пасля папярэдняга ўзаемнага ўзгаднення; набытыя падчас сумесных

войнаў землі дзяліць пароўну; дазволіць народам саюзных дзяржаў свабодна перамяшчацца па тэрыторыі краін; даць права жыхарам гаспадарстваў дабраахвотна выбіраць уласную веру; злодзеяў, уцекачоў і іншых злачынцаў вяртаць без затрымкі іх гаспадарам; трымаць на поўдні агульнае войска для абароны ад татар і турак...

Менавіта вакол артыкулаў «вечнага міру» і распачаліся вострыя дыскусіі Льва Сапегі з тагачаснымі дыпламатамі — Іванам Тацішчавым, Стэфанам і Іванам Гадуновымі, Міхаілам Абаленскім і Васілём Плашчэевым. Перамовы з маскоўскімі баярамі праходзілі надзвычай цяжка. У найбольш складанай сітуацыі канцлер апынуўся 18 лютага 1601 года, калі ў Маскву завіталі шведскія паслы — Клаўсан і Гендэрсан, якіх знарок правезлі з ганаровым эскортам паўз дома, дзе спынілася дэлегацыя Вялікага Княства Літоўскага.

Нягледзячы на шматлікія складанасці, Леў Сапега дасягнуў жаданай мэты. Прапанаваныя ім 24 артыкулы «вечнага міру», пасля спрэчак і ўзгадненняў, былі ўрэшце прыняты. 22-гадовы мір, надзвычай неабходны Вялікаму Княству Літоўскаму, быў падпісаны.

Як і патрабаваў тагачасны міжнародны этыкет, у пачатку 1602 года да Жыгімонта III Вазы ад маскоўскага князя прыехаў пасол Міхаіл Салтыкоў-Марозаў. Манарх Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы са свайго боку замацаваў вынікі палітычных дамоўленасцей.

Мірнае пагадненне з Масквой сапраўды развязала Жыгімонту III Вазе рукі для паўнамаштабнай вайны за шведскую карону. Аднак жыхарам Беларусі гэта чарговая бойня не прынесла нічога, апрача новых страт, дадатковых падаткаў і невыносных пакут ад польскіх жаўнераў, якія, не атрымаўшы абяцанай платы за службу, пачалі рабаваць шляхецкія маёнткі, а таксама беларускія гарады і паселішчы.

Леў Сапега звярнуўся да манарха, каб той загадаў спыніць анархію і спусташэнне абшараў Вялікага Княства. Дэпутаты Слонімскага сойма 1603 года не менш ультыматыўна запатрабавалі ад манарха пакараць злачынцаў і выплаціць кампенсацыі тым, хто пацярпеў ад рабаванняў польскіх жаўнераў.

Спыніць дзікую неўтаймаванасць палякаў Леў Сапега здолеў толькі з дапамогай харугваў Беларускай дзяржавы, якія выступілі ў абарону мірных жыхароў.

## IX

Падпісаны Львом Сапегам мір з Маскоўскім княствам, на жаль, быў нядоўгім.

Летам 1604 года яго парушыў Ілжэдзмітрый І (Грыгорый Атрэп'еў). Заручыўшыся падтрымкай ваяводы Юрыя Мнішка, ён абвясціў сябе «сапраўдным царэвічам» і з атрадамі беларускіх і польскіх ваяроў рушыў на Маскву, каб здабыць Крэмль і «царскую карону».

Леў Сапега на сойме 1605 года асудзіў авантуру Ілжэдзмітрыя І. Ён напісаў ліст да Юрыя Мнішка, у якім перадаў незадаволенасць паноў-рады Вялікага Княства яго свавольнымі дзеяннямі. Ён запатрабаваў ад ваяводы вярнуцца і пакаяцца перад манархам. Але яго голас не быў пачуты. 20 чэрвеня 1605 года Ілжэдзмітрый І увайшоў у Маскву з трыумфам і пачаў там усталёўваць новыя парадкі. Праўда, ужо 17 траўня 1606 года ён быў забіты дваранскімі наймітамі. На маскоўскі трон узышоў Васіль Шуйскі (1606—1610).

У 1607 годзе на Беларусі, а менавіта ў Прапойску, з'явіўся чарговы самазванец — Ілжэдзмітрый ІІ (Андрэй Нагі), які пазней у Маскоўскім княстве атрымаў непрывабную мянушку — Тушынскі злодзей.

У траўні Ілжэдзмітрый ІІ, пры падтрымцы харугваў Іосіфа Будзілы з Мазыра і корпуса Яна Сапегі, рушыў на землі Маскоўскага княства і ў чэрвені заняў Тушына. На працягу лета 1607 і ўсяго 1608 года паміж «тушынцамі» і войскамі Васіля Шуйскага вяліся няспынныя жорсткія баі.

Леў Сапега вырашыў скарыстацца спрыяльнай палітычнай сітуацыяй, забурэннямі і непарадкамі ў Маскоўскім княстве, значным саслабленнем улады ў Крамлі.

Паводле прапановы канцлера ўлетку 1609 года распачалася шырокая вайсковая кампанія Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы супраць Маскоўскай дзяржавы. У адпаведнасці з адмысловай задумай Льва Сапегі напачатку афіцыйна абвяшчалася, што войска нібыта ідзе на Ілжэдзмітрыя ІІ, каб пакараць Тушынскага злодзея і яго хаўруснікаў за свавольствы.

Хітры палітычны ход Льва Сапегі ў Маскве разгадалі толькі тады, калі 19 верасня 1609 года канцлер з войскам ужо стаяў пад

Смаленскам. Праз два дні туды падцягнуўся і другі вайсковы корпус пад непасрэдным камандаваннем Уладзіслава, сына караля і вялікага князя.

Пачалася працяглая аблога Смаленска. Праз нейкі час пад Смаленск пачалі прыязджаць маскоўскія баяры, якія перад тым служылі ў Тушынскага злодзея. Цяпер яны хацелі «цалаваць крыж» манарху Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, выказваючы жаданне бачыць яго сына Уладзіслава на маскоўскім троне.

Леў Сапега неадкладна прыступіў да падрыхтоўкі ўступлення Уладзіслава на прастол. 14 лютага 1610 года складзены канцлерам і падпісаны Жыгімонтам III Вазам дакумент, у якім агаворваліся ўмовы каранацыі, быў перададзены маскоўскім баярам.

Як і разлічваў Леў Сапега, умовы абрання на царскі пасад Уладзіслава, што амаль не змянялі маскоўскіх парадкаў, падтрымала значная частка баярства.

Маскоўскія купцы і баяры, ведаючы пра палітычную вагу Льва Сапегі, забегалі перад ім, імкнуліся выслужыцца, узводзячы пры гэтым паклёпы адзін на аднаго. Напрыклад, купец Фёдар Андронаў раіў канцлеру пасля ўзыходу Уладзіслава на трон выгнаць з «приказов» (дзяржаўных устаноў) усіх прыслужнікаў Васіля Шуйскага, а таксама заўсёды трымаць пад Масквой вайсковы корпус на выпадак паўстання ў горадзе.

Неўзабаве ў Маскве пачаліся хваляванні. 19 ліпеня 1610 года ворагі Васіля Шуйскага скінулі яго з царства і прымусова пастрыглі ў манахі.

У ноч з 20 на 21 верасня 1610 года войскі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы ўвайшлі ў Маскву.

Зыходзячы з інтарэсаў Вялікага Княства, Леў Сапега прапаноўваў Жыгімонту III Вазу дачакацца канчатковай капітуляцыі Смаленска, каб спачатку ўключыць яго ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Толькі пасля гэтага ён прапаноўваў манарху накіроўваць Уладзіслава ў Маскву для ўзыходжання на царства.

7 кастрычніка 1610 года Леў Сапега пад Смаленскам прымаў маскоўскае пасольства на чале з мітрапалітам Філарэтам і князем Васілём Галіцыным. Яны са свайго боку прасілі, каб Уладзіслаў неад-

кладна прыезджаў у Маскву. Леў Сапега заставаўся няўмольным. Ён патрабаваў, каб папярэдзе быў здадзены Смаленск. «Мы хочам,— гаварыў канцлер паслам,— каб Смаленск цалаваў каралю крыж толькі дзеля гонару, у знак пашаны да яго».

Калі хітрасць не дапамагла, Леў Сапега падкупіў членаў маскоўскага пасольства — баяр Тамілу Лугоўскага і Васіля Сукіна — і выправіў іх у акружаны Смаленск, каб яны ўгаварылі абаронцаў горада адчыніць браму і здаць нарэшце Смаленск. Але ўсё марна. Ваявода Шэін не жадаў здаваць горад без згоды на тое патрыярха Гермагена.

Толькі 3 чэрвеня 1611 года знясілены Смаленск быў захоплены штурмам. Ваявода Шэін разам з сям'ёй трапіў у палон. Філарэта і Васіля Галіцына таксама неўзабаве арыштавалі і адправілі ў замак Марыенбург, адкуль пазней перавезлі ў вязніцу аднаго з маёнткаў Льва Сапегі.

Часовыя вайсковыя поспехі, аднак, мала радавалі канцлера. Сродкаў, каб утрымліваць велізарнае войска на маскоўскіх землях, катастрафічна не хапала.

У гэты час актывізаваліся шведы. 10-тысячны корпус пад камандаваннем Якава Дэлагардзі выступіў супраць Вялікага Княства Літоўскага.

18 кастрычніка 1611 года памерла другая жонка канцлера — Глашка Радзівілаўна, ад якой Леў Сапега меў трох сыноў — Мікалая, Крыштофа і Казіміра. Канцлер быў вымушаны вярнуцца дамоў, каб заняцца пахаваннем і вырашэннем неадкладных унутрыдзяржаўных праблем.

У Маскве засталіся нязначныя сілы Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы — харугвы Яна Сапегі і Яна Караля Хадкевіча. Але з-за недахопу сродкаў яны праз год пакінулі сталіцу Маскоўскага княства.

Вядома, што ў 1617 годзе Леў Сапега выступіў у якасці мецэната віленскага друкара Лявона Мамоніча, які падрыхтаваў да друку праваслаўны «Служэбнік» (Вільня, 1617). Лявон Мамоніч змясціў у выданні ўласныя панегірычныя вершы на герб мецэната і празаічную «Удзячнасць канцлеру Льву Сапегу».

Лявон Мамоніч выказваў глыбокую пашану Льву Сапегу, жадаў яму доўгіх гадоў жыцця, здароўя, мужнасці, славы і памнажэння багаццяў. Ён літаральна пісаў: «Так нехай будет за то заплата вашей

милости вечная в небе у Бога и тут, на земли, у людей слава несмертельная, што, ваша милость, собе еднаеш яко иншими добрыми делы своими, так и тым святобливым делом, помогаючы Хрестіянству нашему Церкви Восточное, яко бы в обрадках своих, по уставу святых и богоносных отец, хвалу Божую порядне отправовало.

Бог вседеръжитель нехай умножит лета вашей милости, даст доброе здоровье и силу мужественную в тых подвигах и трудах вашей милости, которые для хвалы Божое и добра Речи Посполитое подыймовати рачиш.

Чого вси, милующі хвалу Божую и дебро Речи Посполитое, зычать вашей милости, межы иншими и я, хотя ж найменшій, але упрійме зычливый слуга вашей милости, моего милостивого пана, зычу и Пана Бога прошу».

## X

Леў Сапега не адмовіўся ад планаў пашырэння абшараў Вялікага Княства за кошт тэрыторый на ўсходзе. У 1617 годзе ён зноў актуалізаваў праект узвядзення на маскоўскі трон каралевіча Уладзіслава.

Беларускія і польскія харугвы першымі распачалі вайсковыя дзеянні супраць Маскоўскага княства. Да іх далучыўся 20-тысячны казацкі корпус гетмана Пятра Канашэвіча-Сагайдачнага.

Увосень 1618 года войскі Вялікага Княства і Польшчы штурмавалі Маскву. Над акружаным горадам у другой палове верасня з'явілася камета. Напалоханыя нябесным знаменнем жыхары Масквы чакалі страшных падзей. Леў Сапега дзейнічаў напорыста, патрабуючы мірнай здачы горада. 24 лістапада ён пісаў абаронцам Масквы, каб яны спынілі бессэнсоўнае супраціўленне і здалі горад: «Няма ні цярпення, ні жадання далей валаводзіцца з вамі... Заўтра аддадзім загад войску пачаць наступленне, а самі ад'едзем на Сойм».

І сапраўды, гораду быў нанесены вялікі ўрон. Але лёс злітасціўся над Масквой. У войску Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы расло незадавальненне, жаўнеры не атрымалі абяцаных узнагарод па тысячы залатых на кожнага.

Леў Сапега ад'ехаў на Варшаўскі вальны сойм, каб здабыць дзяржаўныя сродкі на працяг кампаніі. Але марна, казна была пустая. Канцлер вярнуўся пад Маскву толькі з новымі абяцанкамі. Запарожскія казакі пагадзіліся пачакаць і прадоўжыць аблогу Масквы да поўнага трыумфу. Але частка беларускіх і польскіх харугваў адмовілася ваяваць за так. У хуткім часе яны падаліся дамоў.

Адчуўшы, што авалодаць Масквой не хопіць сіл, канцлер, пасля парады з Уладзіславам, наважыўся пачаць перамовы аб заключэнні міру. Адбылося некалькі папярэдніх спатканняў і падрыхтоўчых перагавораў з маскоўскімі прадстаўнікамі.

Нарэшце, 1 снежня 1618 года ў вёсцы Дзявуліна, што непадалёк ад Троіца-Сергіевай лаўры, сустрэліся дзве ўпаўнаважаныя дэлегацыі. Леў Сапега асабіста ўзначальваў місію. Менавіта ён і паставіў подпіс пад Граматай аб замірэнні паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскім княствам на чатырнаццаць з паловай гадоў.

Паводле ўмоў Дзявулінскага замірэння пад уладу Вялікага Княства Літоўскага вярталіся значныя тэрытэрыі на ўсходзе з гарадамі: Смаленск, Дарагабуж, Старадуб, Чарнігаў, Невель, Себеж, Красен, Ноўгарад-Северскі, а таксама Вяліжская воласць і Манастырскае гарадзішча.

Са свайго боку канцлер пакляўся вярнуць палонных — князя Васіля Галіцына і мітрапаліта Філарэта, бацьку новага маскоўскага манарха Міхаіла Фёдаравіча.

Праз нейкі час Леў Сапега ў якасці чарговага «царэвіча» на маскоўскі трон рыхтаваў пры сваім двары шляхціца-сірату Яна Лубу. Пра гэта ў 20-я гады XVII стагоддзя паведамляў Афанасій Філіповіч, які асабіста вучыў Яна Лубу рускай, польскай і лацінскай мовам. З дзяржаўнай казны на ўтрыманне «царэвіча» выдаткоўвалася значная сума — 6000 залатых на год.

Пасля ўзнаўлення Праваслаўнай мітраполіі ў 1620 годзе і абвастрэння рэлігійнага супрацьстаяння Леў Сапега выступіў з заклікам да варагуючых бакоў аб прымірэнні. У лістах да Іосіфа Вельяміна-Руцкага і Іасафата Кунцэвіча канцлер патрабаваў адкласці ўбок узаемныя маёмасныя прэтэнзіі і спыніць распальванне варожасці.

Праўда, пасля забойства Іасафата Кунцэвіча праваслаўнымі жыхарамі Віцебска, Леў Сапега, які ўзначальваў камісарскі суд, загадаў жорстка пакараць злачынцаў. Двум бурмістрам і 18 мяшчанам адсеклі галовы. Маёмасць забойцаў канфіскавалі. Віцебск быў пазбаўлены ўсіх прывілеяў.

У 1621 годзе Леў Сапега заняў пасаду віленскага ваяводы, якая з'яўлялася галоўнай у дзяржаўнай іерархіі Вялікага Княства. У 1623 годзе ён склаў з сябе абавязкі канцлера на карысць Альбрэхта Станіслава Радзівіла.

На плечы састарэлага Льва Сапегі лёг увесь цяжар вайны са Швецыяй, якая згуртавала вакол сябе кааліцыю пратэстанцкіх краін дзеля заваёвы каталіцкага свету. 25 ліпеня 1625 года Леў Сапега атрымаў булаву вялікага гетмана — галоўнага военачальніка Княства. Каб абараніць Радзіму ад ворага, ён ахвяраваў амаль усю набытую за жыццё маёмасць і скарбы, заплаціўшы за ўтрыманне войска каля 40 000 фларэнаў. Толькі дзякуючы самаахвярнасці і намаганням гетмана ў верасні 1629 года ў Альтмарку быў падпісаны мір са Швецыяй.

* * *

Займаючы на працягу жыцця важныя дзяржаўныя пасады — сакратара, найвышэйшага пісара, падканцлера, канцлера, віленскага ваяводы і найвышэйшага гетмана — Леў Сапега адыграў ключавую ролю ў палітычным жыцці старажытнай Беларускай дзяржавы. Яго дыпламатычны талент і адказная дзяржаўная дзейнасць паспрыялі імклівому росту міжнароднага аўтарытэту краіны і ўмацаванню яе бяспекі.

# МІТРАПАЛІТ

*Іпацій Пацей — буйны дзяржаўны і царкоўны дзеяч старажытнай Беларусі, выдатны пісьменік-палеміст і прапаведнік. Ён пакінуў багатую пісьмовую спадчыну, аказаў вялікае ўздзеянне на развіццё беларускай літаратурнай мовы. Праз усё жыццё ён дбаў пра захаванне духоўна-культурнай самабытнасці беларусаў, адстойваў ідэі рэлігійнай талерантнасці, выступаў за пашырэнне асветы і ведаў.*

## I



Іпацій Пацей (Адам Львовіч Пацей) нарадзіўся ў 1541 годзе на Берасцейшчыне ў шляхецкай сям'і. Яго бацька — Леў Пацей — служыў найвышэйшым пісарам Жыгімонта I Старога, а таксама займаў надзвычай адказную пасаду падскарбія (міністра фінансаў) Вялікага Княства Літоўскага. Маці — Ганна Лашчанка,— па сведчанні сучаснікаў, была надзвычай адукаванай жанчынай свайго часу.

Дзяцінства Пацея праходзіла ў асяроддзі вышэйшай арыстакратыі, што паўплывала на выхаванне юнака, шмат у чым прадвызначыла яго будучыню. Пачатковую адукацыю падлетак атрымаў у Нясвіжскай пратэстанцкай школе. Пасля смерці бацькі маці накіравала яго ў Кракаўскі ўніверсітэт, дзе ён паступіў на факультэт свабодных мастацтваў.

Па вяртанні на радзіму Пацей да 1572 года служыў пры двары Жыгімонта II Аўгуста. У 33-гадовым узросце ён пакінуў кальвініскае веравызнанне і вярнуўся ў праваслаўе. Вядома таксама, што ў 1580 годзе Пацей займаў пасаду берасцейскага суддзі, а ў 1589-м

атрымаў прывілей на Берасцейскае кашталянства, а разам з ім і месца ў Сенаце — верхняй палаце вальнага сойма. Каля 1590 года аўтарытэтны ўрадовец выступіў ініцыятарам стварэння Берасцейскага брацтва, пры якім былі адкрыты школа і шпіталь.

## II

Пасля смерці жонкі Пацей пакінуў свецкае жыццё і пастрыгся ў манахі, узяўшы духоўнае імя Іпацій. Але ў манастыры ён не знайшоў чаканага спакою. Увесну 1593 года Іпацій Пацей атрымаў духоўнае пасвячэнне і прывілей манарха на займанне пасады ўладзіміра-берасцейскага епіскапа.

У якасці епіскапа Іпацій Пацей далучыўся да праекта падрыхтоўкі уніі паміж Праваслаўнай царквой Вялікага Княства Літоўскага і Каталіцкім касцёлам, ідэя якой набыла рысы практычнага ўвасаблення пасля з'езда епіскапаў у сакавіку—красавіку 1590 года. Далучэнне ўладзіміра-брэсцкага епіскапа да таемнага праекта мела прынцыпова важнае значэнне, бо на момант разгортвання вострай царкоўна-рэлігійнай палемікі ён быў найбольш адукаванай асобай у Праваслаўнай царкве. Луцкі каталіцкі біскуп у лісце да папскага нунцыя Анібала так характарызаваў Іпація Пацея: «Паводле адукаванасці, аўтарытэту і дасведчанасці гэта чалавек надзвычайны, да таго ж, паміж сваіх, ён найбольш абазнаны ў рэлігійных справах».

Ужо ў 1593 годзе ўладзіміра-берасцейскі епіскап уключыўся ў распрацоўку канцэпцыі ўз'яднання Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла. Напачатку сярод прыхільнікаў уніі не было поўнага адзінства. З архіваў Уніяцкай царквы вядома, што рознагалоссе паміж імі існавала паводле двух пытанняў. Першае: ці варта пры падпісанні уніі абмяжоўвацца толькі Праваслаўнай царквой ВКЛ або неабходна дамагацца ўдзелу ў ёй Грэчаскай і Маскоўскай цэркваў (гэта значыць паступова рыхтавацца да аб'яднання заходняга і ўсходняга хрысціянскага свету)? Другое: пад чыёй уладай — Папы Рымскага або грэчаскага патрыярха — мусіць адбывацца аб'яднанне?

З'яўляючыся прыхільнікам ідэі ўсеагульнага яднання Каталіцкага касцёла і Праваслаўнай царквы, Іпацій Пацей з улікам рэальнай сітуацыі ўсё ж меркаваў, што ва ўмовах канца XVI стагоддзя далучыць да справы уніі Маскоўскую і Грэчаскую цэрквы немагчыма. Пагадненне з рэфарматарамі Іпацій Пацей цалкам выключаў, бо лічыў іх рэлігійную дактрыну несумяшчальнай з вучэннем Ісуса Хрыста.

Пасля папярэдніх узгадненняў і ўдакладненняў, аб чым вядома з перапіскі тых часоў, Іпацій Пацей дамогся таго, каб праваслаўны сабор 1594 года, які праходзіў у Берасці, большасцю галасоў, у тым ліку пры згодзе мітрапаліта Міхаіла Рагозы, прыняў Саборную грамату (2 снежня 1594 года). У ёй якраз і былі вызначаны асноўныя мэты аб'яднання Царквы і Касцёла. Апрача дасягнення міру і паразумення, у грамаце падкрэслівалася другая, не менш важная задача — кансалідаванне намаганняў праваслаўных і католікаў у барацьбе з «ерэтычнымі сектамі», да якіх залічваліся пратэстанты ўсіх мадыфікацый.

Тады ж, у снежні 1594 года, праваслаўныя іерархі, прыхільнікі уніі, на чале з Іпаціем Пацеем прынялі і падпісалі новую Грамату, накіраваўшы яе вялікаму князю і каралю Жыгімонту III Вазе. У ёй галоўным чынам фармуляваліся ўмовы, на захаванні якіх настойвалі праваслаўныя лідары, што рыхтавалі унію.

Так, яны патрабавалі захавання ўсіх усходніх абрадаў і рытуалаў, незалежнага распараджэння ўласнымі зямельнымі ўладаннямі — цэрквамі і манастырамі,— захавання старога (юліянскага) календара. Яны дамагаліся права на ўдзел епіскапаў у дзяржаўным кіраванні — уключэнні іх у склад Сената,— ліквідавання юрыдычнай моцы грамат грэчаскіх патрыярхаў, каралеўскай абароны ў выпадку магчымых прэтэнзій Канстанцінопаля, роўнасці ва ўсім з каталіцкімі біскупамі, права самім выбіраць уласнага мітрапаліта.

Усе выкладзеныя ўмовы амаль без змен былі паўтораны ў Грамаце ад 12 чэрвеня 1595 года да Папы Рымскага Клімента VIII. У сваім пасланні ў адказ Папа Рымскі браў на сябе абавязак безумоўна выконваць усе выкладзеныя патрабаванні праваслаўных іерархаў ВКЛ узамен на іх згоду перайсці пад яго духоўную і юрыдычную ўладу.

Іпацій Пацей неўзабаве ўступіў у публічную дыскусію з князем Канстанцінам Астрожскім, які хацеў далучыць да ўніяцкай справы

беларускіх пратэстантаў. У *«Лісце да князя Канстанціна Астрожскага»* ад 25 сакавіка 1595 года Іпацій Пацей катэгарычна выказаўся супраць уз'яднання праваслаўных з рэфарматарамі, тэалагічную дактрыну якіх ён лічыў цалкам памылковай.

На прапанову князя звярнуць увагу на «добры парадак» і «дасканалую навуку» евангелікаў Іпацій Пацей адказаў: «Ваша міласць раіць мне пераняць парадкі іншаверцаў, маўляў, яны надта добрыя. Няхай яны будуць самыя лепшыя, але ж яны ўзведзены на памылковым фундаменце. Усё, што маюць пратэстанты,— гэта смецце, і іх школы, і друкарні, і мноства прапаведнікаў. Бо іншаверцы — гэта непрыяцелі Сына Божага, зневажальнікі Божай улады. Іх плады не надта прыемныя Богу. Усё іх збудаванне — на пяску, а не на моцнай аснове, якой з'яўляецца Хрыстос, Сын Божы, Бог і сапраўдны чалавек».

Іпацій Пацей далей адзначаў, што ён не схільны захапляцца новаўвядзеннямі пратэстантаў, параўноўваў іх з небяспечнай атрутай: «Я зусім не зайздрошчу іх парадку. Калі б атруту не саладзілі мёдам, дык, пэўна, да яе б не прыліпалі ўбогія мухі! Д'ябал прывык выкарыстоўваць анёльскае святло і на ваўкоў нацягваць авечую шкуру!» Уладзіміра-берасцейскі епіскап настойліва раіў Канстанціну Астрожскаму не верыць пратэстантам, быць асцярожным і абачлівым у адносінах з імі. Ён заклікаў яго шукаць згоды не з іншаверцамі і вычварэнцамі, а з сапраўднымі паслядоўнікамі Ісуса Хрыста: «Не трэба ім верыць! Чаго яны ў сапраўднасці вартыя, добра відаць па іх пладах. Часта здараецца, што звонку яны прывабныя, але знутры — напоўненыя смуродам і чарвямі. Я іх не надта шаную і вашу міласць засцерагаю. Лепей шукаць паразумення з сапраўднымі прыхільнікамі Бога адзінага ў Троіцы, чым з вычварэнцамі і яўнымі непрыяцелямі Сына Божага».

16 чэрвеня 1595 года Іпацій Пацей напісаў чарговы *«Ліст да князя Канстанціна Астрожскага»*. У ім ён прасіў уплывовага магната ўважліва разабрацца ў сутнасці прапаноў іерархаў Царквы па справе уніі: «Схіляю калені і слёзна прашу Божым імем, як ласкавага і добрасумленнага сына Божай царквы, не кідайся з гневам, а спакойна і добразычліва прачытай тыя артыкулы. Убачыш, што ў іх няма нічога новага адносна нашай веры, апрача аднаго календара. Але ён не

з'яўляецца артыкулам веры, а належыць да цырымоніі, якую Божая царква без парушэння фундамента веры можа без шкоды памяняць. На кожную рэч магу даць больш дасканалыя адказы і прывесці шырэйшыя доказы, калі хто будзе мець у гэтым патрэбу. Усё маем ва ўласных руках, але не хочам таго бачыць, або, бачачы, на жаль, не хочам разумець».

Просьбы і пранікнёныя заклікі царкоўнага іерарха да князя не былі ім пачутыя. У сваю чаргу, прапановы князя Канстанціна Астрожскага не знайшлі падтрымкі ў большасці праваслаўных епіскапаў.

## III

У 1595 годзе Іпацій Пацей, маючы на мэце прыцягнуць да справы уніі як мага больш прыхільнікаў, напісаў і выдаў на старабеларускай мове твор *«Унія, або Выклад галоўных артыкулаў лучнасці грэкаў з Касцёлам Рымскім»* (Вільня, 1595), які меў велізарнае значэнне для ўсёй славянскай культуры. Дастаткова адзначыць, што аўтар «Уніі...» упершыню ў славянскай літаратуры загаварыў не пра адрозненні Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла, а аб тым, што іх аб'ядноўвае, збліжае. Ён прыводзіў прыклады, якія пацвярджалі агульнае паміж дзвюма асноўнымі адгалінаваннямі хрысціянства.

Апрача таго, у сваім трактаце Іпацій Пацей прапанаваў канкрэтныя шляхі пераадолення супярэчнасцей паміж Праваслаўнай царквой і Каталіцкім касцёлам. У кнізе падазены глыбокі аналіз сутнасці пяці артыкулаў — пра зыходжанне Святога Духа, Чысцілішча, Папу Рымскага, каляндар, Антыхрыста. Для аўтара ўяўлялася першачарговым паказаць праўду людзям: «Імкнуся расплюшчыць простым і недасведчаным людзям вочы, каб яны выразна ўбачылі, ці варта нам дамагацца святой згоды, дзеля якой мы робім гэтакія намаганні. Задумалі мы ўсе тыя артыкулы, вакол якіх існуюць галоўныя спрэчкі паміж католікамі і праваслаўнымі, коратка вытлумачыць. Гэтаксама хочам дакладна паказаць, з-за якіх артыкулаў праваслаўныя людзі пазбягаюць той святой згоды».

Твор Іпація Пацея «Унія...» не толькі адыграў выключную ролю ў гісторыі Царквы, але і паклаў пачатак новаму буйному напрамку нацыянальнай культуры — уніяцкай літаратуры Беларусі.

Восенню 1595 года Іпацій Пацей разам з Кірылам Тарлецкім і вялікай дэлегацыяй у складзе свецкіх і духоўных асоб накіраваўся да Папы Рымскага.

23 снежня ў святочнай атмасферы дэлегацыю прыняў Клімент VIII. Іпацій Пацей і Кірыла Тарлецкі, выконваючы даручэнне сабора, прысягнулі Папу Рымскаму, за сябе і за іншых, на вечнае злучэнне Царквы і Касцёла пад уладай Рымскага прастола.

На другі дзень адбылася служба, якую па чарзе адпраўлялі беларускія епіскапы і Клімент VIII. Папа Рымскі аказаў гасцям з ВКЛ вялікі гонар: ён зрабіў Іпація Пацея і Кірылу Тарлецкага «прыдворнымі прэлатамі».

Адной з важных спраў, здзейсненых Іпаціем Пацеем у Рыме, была падрыхтоўка да друку кнігі *«Ключ на пасхалію водлуг нового календара рімскаго, направлены через Леонарда Авеля, епіскопа Сідоньскаго»*. Кніга была выдадзена кірылічным друкам у 1596 годзе ў «друкарні апостольской Ватыканской».

У першых чыслах студзеня 1596 года пасольства выехала з Рыма. Візіт быў удала завершаны, але на радзіме Іпація Пацея чакалі новыя выпрабаванні.

У Варшаве ў гэты час праходзіў Генеральны вальны сойм, на якім дэпутаты Менскага, Навагрудскага, Полацкага, Валынскага і Кіеўскага паветаў, даведаўшыся пра вяртанне Іпація Пацея і Кірылы Тарлецкага з Рыма, аб'ядналіся вакол князя Канстанціна Астрожскага і запатрабавалі ад Жыгімонта III Вазы пазбаўлення ўладзіміра-берасцейскага епіскапа архіерэйскага сану. Але манарх палічыў іх прэтэнзіі неабгрунтаванымі і абараніў Іпація Пацея.

## IV

Улетку 1596 года Іпацій Пацей завяршыў падрыхтоўку да міжцаркоўнага пагаднення. На Берасцейскім саборы, які праходзіў 6—8 кастрычніка, адбылося падпісанне пагаднення паміж Праваслаўнай царквой ВКЛ і Каталіцкім касцёлам. Такім чынам, у выніку перамагла канцэпцыя уніі, выпрацаваная Іпаціем Пацеем.

Аднак здарылася непрадбачанае: частка праваслаўных не пагадзілася на альянс з каталікамі. Там жа, у Берасці, яны правялі асобны сабор пад кіраўніцтвам патрыяршага экзарха Нікіфара, на якім асудзілі дзеянні іерархаў, што падпісалі унію. 8 кастрычніка 1596 года яны прынялі Грамату аб непадпарадкаванні ўніяцкаму мітрапаліту. Яны абвясцілі, што пазбаўляюць епіскапскіх санаў іерархаў, якія перайшлі пад уладу Папы Рымскага.

Пасля падзей, што адбыліся ў Берасці, Іпацій Пацей і яго аднадумцы апынуліся ў найскладанейшай сітуацыі. Гуманны, паводле глыбіннай сутнасці, крок міжканфесійнага пагаднення выклікаў абурэнне значнай колькасці праваслаўнага насельніцтва Беларусі. Гэта тлумачылася іх жаданнем захоўваць у нязменным выглядзе ранейшыя царкоўныя парадкі і падпарадкоўвацца, у адпаведнасці са шматгадовай традыцыяй, грэчаскім патрыярхам, а не Папу Рымскаму.

У выніку ў Вялікім Княстве Літоўскім пачаўся працяглы перыяд міжканфесійнага супрацьстаяння, які доўжыўся некалькі стагоддзяў. Праваслаўныя святары, што не прынялі уніі, усяляк зневажалі падпісанае пагадненне і яго ініцыятараў.

Каб абараніць справу святой лучнасці і ўласны гонар, Іпацій Пацей напісаў разгорнуты белетрызаваны твор пад назвай *«Справядлівае апісанне ўчынку і справы сінодавай і Абарона здзейсненых згоды і лучнасці, якія сталіся на сінодзе Берасцейскім у 1596 годзе»* (Вільня, 1597).

На старонках твора Іпацій Пацей найперш паведамляў пра глыбокія карані ўніяцкай ідэі на Беларусі. Каб давесці думку аб тым, што унія ў Вялікім Княстве Літоўскім мае даўнюю традыцыю, пісьменнік падаў панарамны гістарычны нарыс пра паездку мітрапаліта Ісідара на Фларэнтыйскі сабор 1439 года: «Я толькі тое пакажу табе

яўна, што дзеялася ў панстве пана нашага, Айчыне нашай, каб з таго ўбачыў, ці новыя тыя рэчы і хто дзейнічае супраць права. Такім чынам, слухай. Фларэнтыйскі сінод скончыўся ў 1439 годзе. На ім быў гэтаксама і мітрапаліт кіеўскі Ісідар, які меў запрашэнне ад антыяхійскага патрыярха Дарафея і ад сталіцы яго, бо быў ён чалавек у грэчаскім пісьме вельмі вучоны і з'яўляўся не толькі мітрапалітам усяе Русі, але і сірыйскім, і Венгерскага панства, як вынікае з яго подпісу на тым сінодзе. Па заключэнні згоды і лучнасці на тым сінодзе, едучы з Італіі да Русі з тым святым мірам, на мяжы польскай быў Ісідар урачыста прыняты кардыналам і біскупам кракаўскім Збігневам. Там жа ў рымскім касцёле ён здзейсніў святую Літургію паводле ўсходняга абраду, аб чым чытай у новай «Кроніцы» Меховіца».

Затым Іпацій Пацей згадаў колішні візіт паноў Сапегаў да Папы Рымскага і з ім перамовы пра унію: «А калі мала, дык маглі б прывесці датычнае той справы пасольства да Рыма іх міласцяў паноў Сапегаў, якія наведваліся да Папы Рымскага. І толькі нядбайнасцю самой Русі і духоўных іхных заняпала справа лучнасці, бо самі не пажадалі пачувацца ў сваіх вольнасцях».

Усялякія перашкоды на шляху ўсталявання царкоўнага адзінства і неаднаразовыя спробы яго разбурэння Іпацій Пацей назваў «выбрыкамі Д'ябла». Выкарыстоўваючы яркія літаратурныя вобразы і параўнанні, ён пісаў: «Паколькі няма на свеце такой добрай рэчы, якую б Д'ябал, імкнучыся нашкодзіць людзям, не рады быў перавярнуць, пэўна, і тую справу згоды і лучнасці святой, якая сталася паміж Рымскім касцёлам і Грэчаскаю царквой на сінодзе ў Берасці, праз зласлівых людзей абражае рознымі патварамі ды пачаў шырока рассяваць сваё кламства. Перадусім нібыта тая рэч новая і ніколі ў нашым панстве раней нечуваная. Другое — нібыта праз тую лучнасць пачалі бурыцца правы і вольнасці хрысціянскія. Трэцяе — нібыта ў дачыненні да русі чыніцца гвалт, прымус да іншай веры без іхняе згоды. Чацвёртае, нібыта ўсе цырымоніі Усходняй царквы адкідваюцца, а замест іх уводзяцца рымскія абрады. Нарэшце, указваюць, як на нібыта сапраўдны, на нейкі іншы сінод і яго пастановы. Затым разносяць па краіне нейкія «сінодавыя дэкрэты» патрыярхавых пасланцоў, адводзячы тым хрысціянскіх людзей ад належнага паслушэнства ўласным

пастырам, ад Госпада Бога і ад найвышэйшага пана, яго каралеўскай міласці. Усіх падбухторваюць яўнымі выдумкамі, выдаюць хлусню за праўду, парушаюць спакой паспалітага люду, усчыняюць розныя бунты, згубіўшы сорам і страх Божы».

Дэталёва асвятляючы падзеі падрыхтоўкі і падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года, Іпацій Пацей акцэнтаваў увагу на тым, што гэта справа не была вынікам таемнай змовай вузкай купкі святароў, а мела шырокае кола ўдзельнікаў і прыхільнікаў сярод духоўных і свецкіх асоб.

Як і належала паводле царкоўнага права, даводзіў аўтар «Справядлівага апісання...», найвышэйшыя іерархі царквы — епіскапы і мітрапаліт — узгаднялі ўсе важнейшыя рашэнні з вялікім князем: «Пытаю цябе, ці могуць лічыцца вінаватымі тыя, якія вольнасці царкоўныя ўзнаўляюць, і тое, дзеля чаго тую вольнасць атрымалі? Напэўна, ім таго аніякае права не можа забараніць, бо каралі іх міласці ўсе прывілеі, прыватныя і агульныя, прынялі пад прысягай. Значыць, няма зламання права і вольнасці, як некаторыя кажуць, а наадварот — даўнія ўпрывілеяваныя справы да свайго завяршэння даводзяцца. Яны выпраўляюць тое, што аказалася занядбаным. Мы мусілі прыгадаць тут пра ўсе нашы правы. Калі правоў сваіх свецкіх сцеражэцеся, дык не трушчыце і Божай царквы, яе пракаветных правоў! І не называйце тое навіною, што даўно сталася».

Паводле сцвярджэнняў Іпація Пацея, іерархі супольна рыхтавалі ўказы і агаворвалі ўсе дэталі: «І яшчэ гавораць, маўляў, усё адбылося без ведама іншых. Не разумею, каму яшчэ належала ведаць, апрача пастыраў Божай царквы — мітрапаліта і ўсіх епіскапаў, якія мелі на руках сваіх прывілеі. Яны добра пра ўсё ведалі і згаджаліся на лучнасць. Праўда, два з іх, перамышльскі і львоўскі, сталіся супастатамі, але пра іх ніжэй будзе сказана як след».

Зусім лагічна і нармальна, на думку Іпація Пацея, і тое, што простыя святары не заўсёды атрымлівалі вычарпальную інфармацыю. Усялякія пратэсты і абурэнні з гэтай нагоды — недарэчныя і беспадставаўныя, бо адказныя рашэнні ў Хрыстовай царкве, згодна з кананічным правам, належыць прымаць акурат епіскапам, а святары мусяць неадмоўна выконваць пастановы: «А пра іншых, малодшых,

калі яны супраць уніі, пытаю: хто кім кіруе: ці папы — уладыкамі або ўсё ж уладыкі — папамі? Каму даручаны парадак у Божай царкве? Бо не да папоў і не да свецкіх асоб прамаўляў Дух Святы: «Схіляйце сябе і ўвесь статак. Дух Святы паставіў вас епіскапамі — берагчы Царкву Госпада і Бога, якой аддаў кроў сваю». А калі гаворка пра людзей свецкага стану, дык тыя наогул не маюць да царкоўнай лучнасці аніякага дачынення. Яны павінны за пастырамі сваімі ісці як авечкі і слухацца іх. Бо пастыр лепей ведае, што карысней для авечкі. Таму пажадана, каб яны людзей не абражалі і сэрцы свае супакоілі».

Іпацій Пацей рэзка асудзіў анархію ў царкоўных справах. Пісьменнік востра раскрытыкаваў віленскіх рамеснікаў, што, апанаваныя прагай барацьбы, раптам перасталі займацца сваёй непасрэднай справай і пачалі на свой розум, замест тэолагаў, тлумачыць Біблію. Звяртаючыся да простых людзей, ён заклікаў іх слухацца ўласных пастыраў: «А вас, іншых простых людзей, якія туляецеся паміж знакамітымі і шляхетнымі станамі, што пакінулі рамяство сваё, шыла і дратву, дзеля чаго вас Бог спадобіў, адсылаю да варштатаў вашых, каб вы перасталі раіць Царкве і святарству, не ўмешваліся не ў свае справы. Пільнуйцеся кожны свайго прызначэння, каб не забыліся на рамяство сваё! А калі дбаеце пра выратаванне, дык слухайцеся старэйшых сваіх, седзячы дома, не лётаючы па свеце і не бунтуючы людзей хрысціянскіх. Бо лепей ведае пастыр, што авечцы трэба. І не адступай ад пастыра, бо будзеш у ваўка ў зубах. Напэўна, паміж вас знойдуцца бязбожныя і бяспамятныя, што наважацца ўголас блюзнерыць, прасіць Пана Бога на сваю пагібель, каб аддаў вас пад уладу турэцкую, каб вамі не Папа Рымскі, а патрыярхі кіравалі».

Як бачна, у змаганні са сваімі ідэйнымі апанетамі Іпацій Пацей аддаваў перавагу пяру і пісьмоваму слову, глыбока ўсведамляючы, што справядлівую справу можна ажыццяўляць толькі сумленным шляхам.

## V

Надзелены значнымі ўладнымі паўнамоцтвамі, Іпацій Пацей меў дастаткова інструментаў, каб імкліва, з дапамогай сілы прывесці да паслухмянасці ўсіх, хто супраціўляўся яго волі і рашэнням Берасцейскага сабора. Аднак ён, выдатна ўсведамляючы ўсю важнасць распачатай справы, не пайшоў шляхам прымусу. Ва ўсіх канфліктных сітуацыях Іпацій Пацей дзейнічаў выключна ў рамках прававога поля, прытрымліваючыся агульнадзяржаўных законаў.

Іпацій Пацей разлічваў на асвету і адукацыю. У 1597 годзе ён заснаваў у Берасці школу, куды запрасіў надзвычай адукаванага доктара багаслоўя Пятра Аркудзія, грэка паводле паходжання. Неўзабаве ён адкрыў калегіум пры Віленскім Свята-Троіцкім манастыры, рэктарам якога прызначыў Пятра Федаровіча-Сумерэтніковіча. Штогод Іпацій Пацей са сваіх уласных сродкаў выдзяляў значныя сумы для школ ва Уладзіміры.

25 лютага 1598 года ён выдаў распараджэнне аб стварэнні Капітулы — калегіі святароў пры сабornай Уладзімірскай царкве. У прывілеі вызначаўся склад калегіі і размеркаванне абавязкаў паміж яе членамі.

Праваслаўныя, аднак, не збіраліся маўчаць. Афонскі манах Іван Вішанскі ў сваім допісе да ўніятаў груба раскрытыкаваў і абразіў Іпація Пацея, мітрапаліта і іншых епіскапаў. Пра звычкі Іпація Пацея ён здзекліва пісаў: «Раней яго міласць Пацей зганьбіў кашталянскі тытул. Ён цягаў за сабой па чатыры слугі і апранаўся ў раскошнае адзенне. А цяпер, калі стаў епіскапам, лічба прыслугі перавысіць і дзесяць чалавек, а адзенне яго будзе яшчэ больш раскошным і дарагім».

Іпацій Пацей адрэагаваў даволі стрымана. Ён наогул ніколі не рабіў неабачлівых крокаў і тым больш не чыніў злачынстваў і пагромаў. Усе спрэчкі аб падзеле царкоўнай і манастырскай маёмасці разглядаліся ў судовым парадку, аб чым сведчаць крыніцы. Іпацій Пацей не выйшаў з раўнавагі і не звярнуў з абранага шляху нават пасля таго, як на яго быў зроблены замах з мэтай забойства.

## VI

Іпацій Пацей заўжды выказваў гатоўнасць палемізаваць са сваімі апанентамі літаральна па ўсіх пытаннях, што мелі дачыненне да арганізацыі Царквы. Так, у адказ на шматлікія паклёпы і беспадстаўныя абвінавачванні ён 3 чэрвеня 1598 года накіраваў *«Ліст да князя Канстанціна Астрожскага»*, які паводле зместу з'яўляўся вострым публіцыстычным творам.

Як адзначыў ва ўступным слове выдавец, твор друкаваўся з мэтай адказаць на «выбрыкі» Канстанціна Астрожскага, каб кожны змог «добра ўбачыць, дзе праўда, а дзе хлусня».

Аўтар «Ліста...» меў на мэце спыніць распальванне варожасці і непаразуменняў, даказаць слушнасць тых прынцыпаў, на якіх будавалася хрысціянская лучнасць. Перадусім ён выказаў абурэнне манерай палемікі, абранай апанентам. Іпацій Пацей падрабязна растлумачыў сутнасць уласных поглядаў на пытанне пра магчымых партнёраў у справе задзіночання. Ён паведамляў, што цяперашнія грэкі з-за ганарлівасці і пыхі, у адрозненне ад сваіх продкаў, ніколі не пагадзіліся б на змены. Яны, даводзіў Іпацій Пацей, не здатныя ўспрымаць новыя ідэі, не хочуць бачыць хібаў сваёй Царквы. «І хто ж не ведае,— усклікаў Іпацій Пацей,— гнюснага і ганарыстага грэчаскага народа, які глыбока закаранеў у хібах і схізме! Грэкі ўжо не могуць нічога зрабіць вартага славы. Іх звычаі гэтак сапсаваліся, што яны ўжо не вераць самі сабе і сваім іерархам. Яны напоўненыя славалюбствам, пыхай і ганарыстасцю. Прыдумляюць розныя небыліцы і ўсялякімі выдумкамі цешаць сябе. А калі што і даведаюцца праўдзівага, дык адзін аднаго, нібы на забойства, выдаюць».

Да таго ж, вернікі Грэчаскай царквы, адзначаў Іпацій Пацей, амаль не падпарадкоўваюцца ўласным патрыярхам, якія ледзьве не цалкам страцілі ўладу. Таму нават калі б патрыярх як найвышэйшая духоўная асоба і згадзіўся на унію, то ўсё роўна народ не пайшоў бы за ім, бо не верыць яму і не любіць яго. «Але,— працягваў Іпацій Пацей,— нехай хотя бы на то и патриархове позволили,— изали не зараз, взгордивши ими, инших на их местце поставят их же власные епископове и народ греческий». У сітуацыі, калі канстанцінопальскія

патрыярхі былі поўнасцю залежныя ад турэцкіх султанаў, спадзяванне на задзіночанне з Грэчаскай царквой — марная справа.

Што да Маскоўскай дзяржавы, дык, паводле слоў Іпація Пацея, там было яшчэ болей розных заганаў, чым у Грэцыі, якія не дазвалялі супрацоўнічаць з маскоўскімі патрыярхамі. «Бо хто ж не ведае, якое вялікае грубіянства, незвычайная ўпартасць і забабоны пануюць сярод народу маскоўскага?!» — усклікаў ён.

Такім чынам, на старонках «Ліста да князя Канстанціна Астрожскага» Іпацій Пацей яшчэ раз дэталёва абгрунтаваў слушнасць мясцовага міжцаркоўнага пагаднення, даказаў гістарычную неабходнасць пераходу Усходняй царквы Вялікага Княства Літоўскага пад уладу Папы Рымскага.

## VII

У 1599 годзе Іпацій Пацей надрукаваў свой найбуйнейшы твор — *«Антырызіс»*, які з'яўляўся разгорнутым палемічным адказам на «Апокрысіс» Крыштофа Філалета.

На старонках «Антырызіса» пісьменнік аргументавана даводзіў, што падпісанне уніі не супярэчыла царкоўнаму праву і свецкім законам Вялікага Княства Літоўскага. Паводле яго сведчанняў, усё адбывалася належным чынам — сабор іерархаў праводзіўся ў адпаведнасці з даўнімі традыцыямі і ўсталяванымі нормамі.

У «Антырызісе» Іпацій Пацей сфармуляваў галоўную мэту царкоўнай лучнасці. Яна, на яго думку, заключалася ў тым, каб хрысціяне нарэшце перасталі «выношваць гнеў» адзін супраць другога, а супольна, «адзінымі вуснамі і адзіным сэрцам, у згодзе і ў міласці братэрскай, як аднаго Бога дзеці, хвалілі Айца і Сына і Святога Духа».

Іпацій Пацей усебакова абгрунтоўваў думку пра глыбокія гістарычныя карані ўніяцкай ідэі, прывёў шматлікія прыклады і меркаванні на гэты конт. У «Антырызісе» ён апублікаваў вытрымкі з прывілея Уладзіслава ад 1443 года, які служыў аргументам падчас дыскусіі аб гісторыі міжканфесійных дачыненняў у ВКЛ.

Апраўдваючы пераход беларускіх святароў у падпарадкаванне Рыму і даказваючы першынство Папы Рымскага перад астатнімі епіскапамі, Іпацій Пацей прыводзіў у «Антырызісе» прыклад з жыцця славутых іерархаў Усходняй царквы — Афанасія Вялікага і Іаана Залатавуста, якія таксама прызнавалі над сабой уладу Папы Рымскага.

Іпацій Пацей не пагадзіўся з ацэнкай паводзін на саборы дызунітаў, якую даў ім Крыштоф Філалет. Сэнс яе ў тым, што яны нібыта, прыехаўшы ў Берасце, ціха-мірна чакалі спаткання з мітрапалітам і іерархамі, не бурылі ўстаноўленых звычаяў, не парушалі грамадскага спакою. Іпацій Пацей у «Антырызісе» зусім інакш ацаніў паводзіны апанентаў. Паводле яго сцвярджэнняў, у Берасці многія з дызунітаў, наадварот, трымаліся нахабна і агрэсіўна. Пісьменнік літаральна адзначаў наступнае: «А некаторыя свецкія паны, што прадстаўлялі варожы бок, прыехалі ў Берасце напярэдадні, раней прызначанага дня сабора. Яны прыбылі, нібы на вайну,— з вялікай колькасцю людзей і з гарматамі. Неўзабаве яны пачалі пагражаць і запалохваць мітрапаліта і епіскапаў».

Іпацій Пацей выказаўся па пытанні аб прычынах расколу праваслаўных на два лагеры і паасобнага правядзення імі пасяджэнняў у Берасці. Пісьменнік раскрытыкаваў Крыштофа Філалета, які імкнуўся давесці, што частка праваслаўных збіралася не ў бажніцы Святога Мікалая, а ў прыватным палацы, і праводзіла асобныя пасяджэнні з той прычыны, што не мела запрашэння ад імя мітрапаліта. Аўтар «Антырызіса» абвінаваціў апанента ў хлусні, падкрэсліваючы, што дызунітаў неаднаразова ласкава заклікалі вярнуцца, дасылалі ім запрашэнні, вялі з імі перамовы на ўзроўні паноў сенатараў, ад імя караля прасілі, каб яны спынілі прыватныя пасяджэнні і вярнуліся на сабор. Але, па словах Іпація Пацея, праціўнікі лучнасці зрабілі ўласны выбар, напэўна, таму, што «ім мілейшая ерэтычная шопа, чым дом Божы; мілейшыя ерэтыкі, арыяне, чым каталікі і рымляне». Іпацій Пацей рэзка адмоўна выказаўся ў адрас «маршалка» дызуніцкіх пасяджэнняў.

Іпацій Пацей прывёў уласную ацэнку ролі мітрапаліта Міхаіла Рагозы падчас падпісання міжцаркоўнага пагаднення. Рэч у тым, што

Крыштоф Філалет у сваім «Апокрысісе» апублікаваў мітрапалітавы лісты да князя Канстанціна Астрожскага, сцвярджаючы на іх падставе, што Рагода не з'яўляўся прыхільнікам уніі. Паколькі ў грамадстве ўсё больш пашыралася думка, нібыта мітрапаліт выступаў супраць міжцаркоўнага пагаднення, Іпацій Пацей прывёў пераканаўчыя доказы на карысць іншага меркавання.

Прысутнасць Міхаіла Рагозы на Берасцейскім саборы 1596 года, яго непасрэдны ўдзел у справе падрыхтоўкі і падпісання пагаднення дазвалялі, паводле слушнага сцвярджэння ўніяцкага пісьменніка-палеміста, прымаць законныя пастановы, выступаць ад імя Усходняй царквы ВКЛ. Іпацій Пацей адназначна ацэньваў ролю Міхаіла Рагозы ў справе задзіночання цэркваў як выключна пазітыўную.

На старонках «Антырызіса» Іпацій Пацей выказаў абурэнне паводзінамі святароў, якія адмовіліся выконваць даручэнне мітрапаліта і пастанову сабора. Ён раскрытыкаваў учынак Нікіфара за тое, што той разам з іншымі дызунітамі асудзіў мітрапаліта і епіскапаў, якія падпісалі міжцаркоўнае пагадненне.

Іпацій Пацей асудзіў святароў, ужываючы нечуваныя абразы і заяўляючы пра «пазбаўленне санаў» найвышэйшых духоўных асоб. Ён назваў іх «ваўкамі», «вырадкамі», «ерэтыкамі», «арыянамі», «супастатамі». Пісьменнік літаральна адзначаў: «Дай божа, каб тое было праўдай, што вы шчырыя прыхільнікі святой Усходняй царквы! Але варта паглядзець на пячаткі і подпісы пад тым вашым дакументам, каб яскрава пераканацца, што сярод вас больш ваўкоў, чым авечак! Больш вырадкаў, чым сапраўдных сыноў! Больш ерэтыкоў, арыянаў, атэістаў, чым прававерных хрысціян! Сярод вашых галоўных духоўных асоб — супастаты, якія здрадзілі Богу, Царкве, уласнаму манарху, а не толькі патрыярхам!»

У творы Іпацій Пацей выказаў свой погляд на ролю князя Канстанціна Астрожскага ў справе міжцаркоўнага пагаднення, паколькі праваслаўныя аўтары паўсюль спасылаліся на пазіцыю ўплывовага магната. Іпацій Пацей, у прыватнасці, апублікаваў таемныя лісты кіеўскага князя да яго, дзе выкладаліся сакрэтныя планы, умовы і прынцыпы міжцаркоўнай уніі. Князь Астрожскі акурат паведамляў у іх пра ўласныя перамовы з папскім нунцыем Антоніем Пасевінам,

выказваў намер асабіста наведаць Ватыкан і перагаварыць там наконт пагаднення. Пісьменнік гэтаксама нагадаў пра заклікі Канстанціна Астрожскага да духоўных асоб неадкладна зрабіць канкрэтныя захады для найхутчэйшай падрыхтоўкі царкоўнага хаўрусу. Аўтар «Антырызіса», друкуючы прыватныя лісты князя Астрожскага, усведамляў усю небяспеку падобнага кроку. Аб сваёй трывозе з гэтай нагоды ён адкрыта паведамляў чытачам.

Наогул Іпацій Пацей ухваляў пазіцыю свецкіх улад, манарха і ўрадоўцаў, якія ўсяляк спрыялі падрыхтоўцы і падпісанню міжканфесійнага пагаднення: «Свецкая ўлада заўжды дапамагала духоўнай уладзе, выконвала ўсе судовыя рашэнні і пастановы, караючы парушальнікаў царкоўных правоў». Пісьменнік заяўляў аб тым, што нянавісць і варажнеча паміж хрысціянамі — недарэчнасць, вартая найхутчэйшага пераадолення. Іпацій Пацей заклікаў, каб апаненты не абвяшчалі аўтарытэтных тэолагаў старажытнасці «крывапрысяжнікамі», не вызнавалі дзве царквы на радасць ворагам, а баранілі кафаліцкую (сусветную) Хрыстову царкву.

Аўтар «Антырызіса» ўзняў актуальную для яго часу праблему ўзаемадачыненняў паміж свецкай і духоўнай уладамі. Пісьменнік адкрыта і ў рэзкай форме выказваўся супраць намераў асобных свецкіх паноў і магнатаў непадзельна кіраваць святарамі. Дыктат над духоўнымі асобамі недапушчальны, сцвярджаў пісьменнік-інтэлектуал, бо гэта знявага Царквы, ігнараванне Божай навукі, здзек з запаветаў Хрыста, што з'яўляецца падмуркам і пачаткам поўнага заняпаду хрысціянства. «Вы хочаце,— звяртаўся Іпацій Пацей да свецкіх асоб Вялікага Княства Літоўскага,— кіраваць духоўнымі асобамі не толькі ў свецкіх справах, што вам не забараняецца, але і ў царкоўных, да якіх вы не маеце аніякага дачынення. Вы павінны, нібы авечкі, слухацца пастыраў сваіх і падпарадкоўвацца ім! А вы прагнеце кіраваць Божымі цэрквамі! А на вас гледзячы, і жонкі вашы пачынаюць умешвацца ў царкоўныя справы!»

Сутнасць канцэпцыі Іпація Пацея ў сферы ўзаемадачыненняў паміж свецкімі і царкоўнымі ўладамі заключалася ў тым, каб духоўныя справы вырашаліся выключна духоўнымі асобамі, цалкам залежалі ад волі святароў. Свецкія людзі павінны ісці за імі без ваганняў, «бо лепш ведае пастыр, што авечкам карысней».

Бадай, першым у гісторыі нацыянальнай публіцыстыкі Іпацій Пацей сфармуляваў ідэю роўнасці грамадзянскіх і палітычных правоў для людзей свецкага і духоўнага станаў. Ён запатрабаваў, каб святарам усходняга абраду быў нарэшце адкрыты прававы шлях ў раду — вышэйшы орган выканаўчай улады Вялікага Княства Літоўскага,— спачатку праз абранне кандыдатаў у сваім коле, а затым праз прызначэнне іх манархам.

На старонках «Антырызіса» Іпацій Пацей публічна заявіў, што атрымаць месца ў радзе на працягу доўгага часу праваслаўным іерархам перашкаджалі не каталікі, як меркавалі многія, а праваслаўныя свецкія паны: «Тое не рымляне забараняюць, а вы самі, бо праваслаўнай верай грэбуеце». Пазіцыя Іпація Пацея найбольш адпавядала гістарычным рэаліям. Сапраўды, магнаты ў сваіх паводзінах і ўчынках кіраваліся перадусім матэрыяльнымі інтарэсамі, прагай паляпшэння ўласнага дабрабыту — прыбытковымі пасадамі, урадлівымі землямі, шчодрымі лясамі і пушчамі, шыкоўнымі маёнткамі. Канфесійныя пачуцці, інтарэсы Царквы не дамінавалі ў іх дзейнасці.

У «Антырызісе» беларускі пісьменнік-інтэлектуал дакладна вызначыў асноватворныя прынцыпы міжканфесійнага дыялогу. Ідэя блізкасці, адзінства, адсутнасць падставы для нянавісці — лейтматыў твораў гуманіста. Пераадоленне варажнечы, непаразуменняў, нечуваных узаемных абраз сярод хрысціян, паводле пераканання Іпація Пацея, закладзена ў самой прыродзе адзінай Хрыстовай царквы — святой, апостальскай, сусветнай. Глыбокі аналіз яе шматвяковай гісторыі даваў яму цвёрдыя падставы сцвярджаць: «Нічога не знойдзеш у Грэчаскай царкве такога, чаго б не было ў Рымскай. Гэтаксама і ў Рымскім касцёле няма нічога такога, чаго не знойдзеш у Грэчаскай царкве».

У публіцыстычным «замкненні» да «Антырызіса» Іпацій Пацей у рытарычна-вобразнай форме, з улікам новай сітуацыі, яшчэ раз акрэсліў памкненні, мэты і ідэалы прыхільнікаў міжканфесійнай згоды. Паводле слоў пісьменніка, сутнасць і сэнс чыннасці прыхільнікаў уніі ў тым, каб нарэшце прымірыць праваслаўных і католікаў, спыніць звадкі, узаемныя абразы і крыўды, адрэгуляваць дачыненні паміж імі на аснове права.

## VIII

Яркі палемічны талент Іпація Пацея выявіўся падчас дыскусій з Клірыкам Астрожскім. Каля 1600 года ён напісаў палемічны *«Адказ на ліст нейкага безыменнага Клірыка Астрожскага»*.

Галоўнае, да чаго імкнуўся пісьменнік у «Адказе...»,— публічна абвергнуць усе абвінавачванні ў адрас уніятаў у «здрадзе» Хрыстовай веры. Ён меў на мэце раскрыць матывы і місію уніі, патлумачыць глыбінныя прычыны міжцаркоўнага пагаднення, паказаць аптымальныя шляхі пераадолення міжканфесійных канфліктаў, абгрунтаваць неабходнасць паважлівага стаўлення да тэолагаў мінулых часоў, абараніць ад нападак дактрыну першынства рымскага біскупа, усебакова ацаніць ролю галоўных цэнтраў хрысціянства ў пашырэнні царкоўных навук, аспрэчыць «памылковае» інтэрпрэтаванне падзей Ферара-Фларэнтыйскага сабора.

У «Адказе...» Іпацій Пацей найперш раскрытыкаваў свайго апанента за тое, што той падпісаўся не ўласным імем, а схаваўся за псеўданімам. Ён раіў яму пачытаць Катона, каб зразумець, што гэткі ўчынак — неспрыстойная рэч. Іпацій Пацей запрашаў Клірыка Астрожскага ва Уладзімір, «каб, гледзячы адзін аднаму ў вочы, абмеркаваць усе хвалюючыя пытанні».

На старонках твора беларускі пісьменнік-інтэлектуал выступіў у абарону грамадскага дыялогу і паразумення станаў. Сацыяльныя супярэчнасці, канфесійныя непаразуменні і міждзяржаўныя канфлікты, паводле непахіснага перакanання гуманіста, лепш за ўсё пераадольваць мірным шляхам — праз перамовы і ўзаемныя саступкі.

Спрадвечную дылему, што лепей — справядлівая вайна або кепскі мір,— ён без ваганняў вырашаў на карысць міру. Вайна, паводле слоў асветніка, «выварочвае грунт» пад нагамі народа і дзяржавы. Іпацій Пацей літаральна даводзіў наступнае: «Несумненна, што мір паміж хрысціянамі, нават калі адзін з бакоў застаецца пакрыўджаным, усё роўна лепей, чым канфлікты і вайна справядлівая. Бо вайна ніколі не бывае без праліцця хрысціянскай крыві. Толькі неразумны можа ўхваляць такую злую і шкодную рэч, як вайна! Нават кепскі мір, няхай са стратамі і крыўдамі, усё ж такі лепей, чым крывавая

і несправядлівая вайна. Зусім жа кепска, калі вайна распачынаецца ўнутры краіны, паміж грамадзянамі адной дзяржавы. Такую вайну не толькі хрысціянін, але нават апошні паганец не адважыцца ўхваляць».

Аднак Іпацій Пацей зусім не быў пацыфістам. У сваіх сцвярджэннях ён, хутчэй, кіраваўся логікай здаровага сэнсу, які падказваў яму аптымальную мадэль суіснавання станаў і канфесій.

## IX

У 1600 годзе Іпацій Пацей атрымаў сан мітрапаліта. Абавязкаў і клопатаў, безумоўна, прыбавілася. На пачатку XVII стагоддзя ён вельмі шмат выступаў з пропаведзямі і казаннямі. Як правіла, Іпацій Пацей прамаўляў іх на беларускай мове, якой валодаў бездакорна. На жаль, яго пропаведзі дайшлі да нашага часу не на мове арыгінала, а толькі ў перакладах на польскую мову, зробленых пазней.

У якасці мітрапаліта Іпацію Пацею зноўку давялося выступаць з палемічнымі творамі. Адзін з яркіх палемічных тэкстаў — *«Адказ на Ліст Мялецiя, патрыярха александрыйскага»* (1601). Твор пісаўся аўтарам дзеля публічнага выкрыцця «хібаў» Канстанцінопальскай Патрыярхіі, сярод якіх — залежнасць найвышэйшых духоўных асоб ад турэцкіх султанаў, заняпад царкоўных навук, рэлігійнае сектанства, непрыглядныя ўчынкі святароў. У кнізе пісьменнік на новым тэарэтычным узроўні даводзіў, што Усходняя царква «з усімі яе цырымоніямі» насамрэч вельмі блізкая да Каталіцкага касцёла.

Выключна шырокую вядомасць сярод інтэлектуалаў Вялікага Княства Літоўскага атрымала канцэптуальная праца Іпацiя Пацея *«Гармонія, або Згода веры, сакраментаў і цырымоній святой Усходняй Царквы з Касцёлам Рымскім»* (Вільня, 1608).

Галоўная мэта «Гармоніі...», паводле слоў аўтара, была ў тым, каб паказаць агульнае паміж Каталіцкім касцёлам і Усходняй царквой, а таксама іх адрозненні ад пратэстанцкіх збораў: «Сабралі тут некаторыя галоўныя артыкулы веры, тайнаў і цырымоній Грэчаскай царквы і Каталіцкага касцёла, якія з'яўляюцца іх сутнасцю і грунтам.

Мелі на мэце яскрава паказаць, што святая Усходняя царква з усімі яе цырымоніямі вельмі блізкая да Заходняй царквы. Нават простыя людзі змогуць убачыць і ўсвядоміць, што апостальская сусветная Царква была адзінай. Менавіта гэта і ў сімвале нашай хрысціянскай веры вызнаём».

## X

Іпацій Пацей меў выключны літаратурны талент і незвычайныя здольнасці пісьменніка-палеміста. Для яго творчага метаду характэрна сінкрэтычнае спалучэнне антычных, заходнераманскіх і грэка-візантыйскіх мастацка-эстэтычных традыцый з глыбіннай арыентацыяй на традыцыйную беларускую культуру, перадусім гутарковую народную мову з яе лексіка-фразеалагічным багаццем і марфалагічна-сінтаксічным каларытам.

Творы Іпація Пацея ідэйна і тэматычна шматпланавыя. У іх дамінавала царкоўна-рэлігійная і маральна-філасофская праблематыка — тэалагічныя і хрысталагічныя матывы (непадзельнасць Святой Троіцы, выпраменьванне Святога Духа, богачалавечая прырода Хрыста), хрысціянская антрапалогія (сэнс чалавечага жыцця, шлях да Бога, маральны імператыў і аналіз чалавечых учынкаў у святле антынамічных катэгорый: «шчырасць — хлуслівасць», «пакорлівасць — пыхлівасць», «вернасць — адступніцтва»), сатэрыялогія (Чысцец і Мытарства, Пекла і Нябеснае Царства), эклесіялогія (сапраўдная вера і ерасі ў царкве), дэманалогія (вядзьмарства, паганскія багі, панаванне Антыхрыста). Шырока асвятляліся тэмы Суднага дня, царкоўных цырымоній (абедня, вячэрня, павячэрніца, паўночніца, ютрань, славаслоўе, першая гадзіна, трэцяя гадзіна, шостая гадзіна, дзявятая гадзіна), Тайнаў Хрыстовых (Хрышчэнне, Мірапамазанне, Еўхарысція, або Цела і Кроў Хрыстовы, Пакаянне, Чыны святарства, Алеяпамазанне, Жаніцьба), пастоў, абразоў і выяваў Бога, святых мошчаў, каляндарнай рэформы.

Асвятленне многіх тэм і вырашэнне шэрагу актуальных пытанняў у творах Іпація Пацея вельмі часта адметнае, што вызначалася

светапоглядам пісьменніка, уласцівай яму іерархіяй духоўных і мастацка-эстэтычных каштоўнасцей.

Творчая заслуга Іпація Пацея як бліскучага літаратара-белетрыста ў тым, што ён па-майстэрску асвятліў драматычны перыяд у гісторыі Царквы з 1590 да 1613 года. Усведамляючы ўласную адказнасць перад нашчадкамі і гісторыяй, ён узнавіў храналогію падзей, падаў шырокую панараму найважнейшых, вузлавых момантаў сацыяльнай, палітычнай і міжканфесійнай барацьбы, раскрыў сутнасць палемікі на царкоўных саборах і вальных соймах, характар перамоў паміж варагуючымі групоўкамі, абставіны прыняцця лёсавызначальных пастаноў, вызначыў ролю канкрэтных гістарычных асоб — Канстанціна Астрожскага, Льва Сапегі, Міхаіла Рагозы — у тагачасных падзеях, матывы іх дзейнасці, уплыў на царкоўнае і грамадскае жыццё. Шматлікія факты і акалічнасці засталіся вядомыя ў гісторыі толькі дзякуючы яго багатай літаратурна-пісьмовай спадчыне.

Для Іпація Пацея як майстра слова характэрны анталагізм — імкненне да ўсёхопнасці, шырокага асвятлення найбольш значных грамадскіх праблем, гістарычных працэсаў, жыцця сацыяльных станаў, духоўна-інтэлектуальных пошукаў.

Пісьменнік напоўніцу рэалізаваў барокавы мастацкі прынцып вычарпальнасці, аб'ёмнасці. Ён, як правіла, усебакова распрацоўваў малавядомыя і традыцыйныя тэмы, узбагачаючы іх новымі сюжэтнымі лініямі. Іпацій Пацей кожны раз прыгадваў думкі апанентаў, прыводзіў іх аргументы, падаваў шматлікія цытаты з твораў антычных філосафаў і сярэднявечных багасловаў, з-за чаго значна ўскладнялася архітэктоніка тэкстаў.

Амаль ва ўсіх творах Іпація Пацея сустракаецца вызначэнне асноўнай тэмы, акрэсленне мэт і задач, абгрунтаванне іх грамадскай значнасці, раскрыццё ўжытай методыкі ды прынцыпаў выкладу матэрыялу. Гэты кампанент паэтыкі структурна і сэнсава разнапланавы: ён вызначаў межы ўсяго семантычнага блока, акрэсліваў яго асноўныя лініі, выконваў ролю арыенціра для чытача, рыхтаваў да ўспрымання аўтарскіх ідэй. Найбольш часта ў творах Іпація Пацея акрэсліваліся мікратэмы. Кожнаму навароту думкі папярэднічаў знакавы сігнал, афармлены рознымі граматычнымі і сінтаксічнымі сродкамі.

Наватарскай з'яўлялася скіраванасць пісьменніка на пошук свежай інфармацыі, імкненне да сенсацыйнасці.

Адна з найбольш характэрных рыс творчага метаду Іпація Пацея — палемічнасць, якая ўключала зазвычай чатыры кампаненты: раскрыццё або інтэрпрэтаванне пазіцыі апанента; аспрэчанне, адкідванне памылковага тэзіса; аргументаванне, або пазітыўны доказ; высновы.

Карэктнасць як прынцып стаўлення да апанента прымушала пісьменніка-інтэлектуала дэталёва аналізаваць пазіцыю апанента, паслядоўна выкладаць сістэму яго аргументаў, падаваць асноўныя вывады ў форме пераказу або цытавання, нярэдка з дакладным указаннем нумара аркуша, года выдання твора, месца захавання экзэмпляра кнігадруку або рукапісу. Непасрэдныя каментарыі і выклад меркаванняў апанентаў — Крыштофа Філалета, Клірыка Астрожскага, Стэфана Зізанія — займалі ў творах Іпація Пацея паважнае месца, што ў нейкай ступені абцяжарвала іх, але, разам з тым, забяспечвала дастатковую фундаментальнасць, выклікала чытацкі давер.

Для аспрэчання тэзісаў апанентаў і сцвярджэння ўласнай пазіцыі Іпацій Пацей ужываў шэраг творча-мастацкіх прыёмаў, якія выконвалі ў аналітычна-палемічных тэкстах функцыю аргументаў. Агульная колькасць дыскусійных тэзісаў (папярэдніх і асноўных) у публіцыстычнай спадчыне Іпація Пацея набліжаецца да трох тысяч. Яны ахопліваюць актуальныя для таго часу сацыяльныя, грамадскія, царкоўна-гістарычныя, тэалагічныя, біблейна-экзегетычныя і эстэтычна-мастацкія тэмы.

Сістэму доказаў Іпацій Пацей будаваў на агульналагічным падмурку, ужываючы ўсе кампаненты і функцыянальныя элементы ўніверсальнай логікі, вядома, з яе адметным выяўленнем у сферы публіцыстыкі і пісьменства таго часу. Логіка надзвычай глыбока ўплецена ва ўсе творы Іпація Пацея, як правіла, утвараючы іх галоўны ўнутраны стрыжань.

У кнігах пісьменніка да найбольш пашыраных тыпаў аргументавання і адначасова мастацка-творчых прыёмаў належалі так званыя схаластычныя аргументы — спасылкі на аўтарытэты. Для яго гэта прарокі, Ісус Хрыстос, антычныя мысліцелі (Катон, Піндар),

сярэднявечныя тэолагі (Іаан Залатавуст, Васіль Вялікі, Кірыла Александрыйскі, Марк Эфескі, Іеранім, Амброжый, Тэртуліян, Аўгусцін, Феафілакт), епіскапы, патрыярхі (Генадзі Схалярый), папы рымскія (Грыгорый Дваяслоў), візантыйскія імператары.

Іпацій Пацей цытуе Гамера, нагадваючы апаненту пра неабходнасць стрыманасці, узаемапавагі ў часе дыскусій. У спрэчках з Крыштофам Філалетам пра ролю свецкіх асоб у вырашэнні духоўных спраў, нормаў царкоўнага жыцця Іпацій Пацей уласную ідэю аўтаноміі Царквы, яе высокі грамадскі і прававы статус падмацоўваў публікацыяй вытрымкі з недвухсэнсоўнай прамовы Канстанціна Вялікага на Нікейскім саборы. Гэтай жа мэце служыла і пададзенае ў «Справядлівым апісанні...» аб'ёмнае «Пасланне імператара Феадосія Меншага да Эфескага сабора». Некаторыя цытаты, што мелі выключную важнасць, як ліст Папы Рымскага Клімента да праваслаўных іерархаў ВКЛ ад 1596 года, аўтар апублікаваў на мове арыгінала і ва ўласным перакладзе.

Вельмі распаўсюджаны ў творах Іпація Пацея такі тып аргумента, як прыклад — у форме сціслай даведкі або разгорнутага белетрызаванага аповеда. Аўтар неаднаразова прыводзіў прыклады са старазапаветнай і рымскай гісторыі, палітычных і грамадскіх падзей краін Заходняй Еўропы (Англіі, Германіі, Італіі), жыцця знакамітых асоб (Піндара, Марціна Лютэра), Хрысціянскай царквы.

Пашыраны тып аргумента ў публіцыстыцы Іпація Пацея — юрыдычныя акты свецкага і царкоўнага права: соймавыя канстытуцыі, прывілеі і ўніверсалы вялікіх князёў, пастановы сусветных і мясцовых сабораў. Аўтар нярэдка асабіста перакладаў іх на старабеларускую з моў арыгінала — грэчаскай, стараславянскай, лацінскай. Кожны дакумент падаваўся ў адпаведным кантэксце і суправаджаўся разнаплanавымі, дастасаванымі да канкрэтнай тэмы каментарыямі, высновамі. Не забываўся пісьменнік і на рэквізіты (дакладныя даты і месца выдання) юрыдычных актаў.

Каб сцвердзіць уласнае меркаванне, Іпацій Пацей не спыняўся перад падробкай дакументаў, здзяйсняючы значныя гістарычныя містыфікацыі. Да іх варта аднесці апублікаваны ім *«Прывілей цара Канстанціна Вялікага»*.

Падчас літаратурных дыскусій Іпацій Пацей часта звяртаўся да такога прыёму, як давядзенне да абсурду (reductio ab absurdum). У функцыянальным аспекце гэтая лагічная фігура была часам найбольш прыдатная, а яе выкарыстанне давала бліскучы эфект. Вельмі ўдала пісьменнік ужыў яе ў палеміцы з пратэстантамі пры абароне тэзіса аб неабходнасці царкоўнай іерархіі.

У творах Іпація Пацея шырока ўжываліся і іншыя тыпы аргументаў: указанні на бяздоказнасць сцвярджэнняў і некарэктнасць меркаванняў ды высноў апанентаў; пытанні з адмоўем; адсылкі да крыніцы; наўпроставыя абвінавачанні супрацьлеглага боку ў хлусні і няшчырасці; выкрыццё дробных хібаў і памылак апанента з высновай пра адсутнасць у яго глыбокіх ведаў, а то і наогул якіх-небудзь здольнасцей; пацвельванні з апанента, сарказм, з'едлівыя кпіны і ўзвальванне на яго тых жа «грахоў», якія той асмельваўся прыпісваць Іпацію Пацею.

Ролю аргументаў у творах Іпація Пацея вельмі часта выконвалі, побач з уласна мастацкімі функцыямі, устойлівыя выразы, выслоўі, прыказкі і прымаўкі.

Характэрная рыса белетрызаваных твораў Іпація Пацея — аўтабіяграфізм, які ў пісьменніка меў досыць спецыфічныя праявы і ўласцівасці. На першым месцы знаходзіліся апісанні ўласнай публічнай дзейнасці: удзел у падрыхтоўцы уніі і падзеях Берасцейскага сабора, выкананне абавязкаў суддзі і кашталяна, наведванне соймаў і палітычная барацьба, ліставанне з урадоўцамі, духоўнымі асобамі, паплечнікамі і сябрамі.

Адзін з важных прынцыпаў канструявання тэксту для Іпація Пацея — звароты. Аўтар звяртаўся да апанентаў, чытачоў, свецкіх асоб, святароў, Пана Бога. Семантыка зваротаў вельмі багатая. У іх — просьбы, напаміны, пытанні, заклікі, маленні, ушчуванні, дакоры, папярэджанні, асуджэнні, пакепліванні і абразы.

Герменеўтыка персанажаў у творах Іпація Пацея мае пэўныя асаблівасці. Пісьменнік абмалёўваў толькі рэальных гістарычных асоб, рэалізуючы лінейную схему: асабістыя рысы персанажаў (сацыяльны і грамадскі статус, род занятку); характарыстыка спраў і ўчынкаў; грамадскае і гістарычнае значэнне дзейнасці. Кантрасны

падзел Іпаціем Пацеем герояў на станоўчых (Міхаіл Рагоза, Канстанцін Астрожскі) і адмоўных (Ерамія, Нікіфар Тур, Крыштоф Філалет, Клірык Астрожскі, Гедэон Балабан) вызначаў тыпалогію мастацкай вобразатворчасці пісьменніка.

## XI

Значны ўклад Іпацій Пацей унёс у развіццё вобразнай сістэмы і станаўленне старабеларускай літаратурнай мовы. Іпацій Пацей — таленавіты майстар слова, непаўторны стыліст. Паводле функцыянальна-жанравых крытэрыяў у яго пісьмовай спадчыне вылучаюцца наступныя тыпы стыляў: аналітычна-публіцыстычны, катэхізічны, прапаведніцкі, мемуарна-белетрыстычны і панегірычны.

Іпацій Пацей адным з першых у гісторыі беларускага прыгожага пісьменства зрабіў (у практычнай сферы) надзвычай важнае мастацка-эстэтычнае адкрыццё, сутнасць якога ў тым, што ўвесь свет — гэта безліч знакаў, невычэрпная крыніца для сімвалатворчасці і ўтварэння шматлікіх тропаў. Гэтым закладваўся «код» барокавага мастацтва, які прадвызначыў магістральны шлях развіцця беларускай літаратуры.

У творах Іпація Пацея ўжываюцца самыя розныя тыпы тропаў: метафара, метанімія, параўнанне, эпітэт, сінекдаха, літота, гіпербал, перыфразіс, антанамасія, эўфімізм, алегоры. У якасці аб'ектаў для ўтварэння пераносных значэнняў выступалі разнастайныя з'явы і прадметы — жывёльны свет (звяры, птушкі, рэптыліі, насякомыя, рыбы): *заяц, змяя, варона, сава, ваўкі, шэршань;* прадметы ўжытку (побытавыя, канфесійныя) і акаляючыя рэчы: *акуляры, камень, фундамент, ярмо;* ежа: *піва, мёд, пірагі;* касмічныя целы і з'явы прыроды: *сонца, вецер;* вайсковы рыштунак: тарча, кулі; біблейныя персанажы і гістарычныя асобы: *Аўрам, Лазар, Цыцэрон, Канстанцін Вялікі;* міфалагічныя істоты і паганскія багі: *Цмок, Атропа;* рэлігійныя святы: *татарскі мясапуст;* тэрміны, што абазначаюць сацыяльныя і сваяцкія адносіны: *пан, дзедзіч, матка.* Побач з прадметна-рэчавым светам асновай для вобразатворчасці служылі дзеянні, працэсы, учынкі,

пачуцці: *паліць, мыць, прарастаць, садзіцца, замыкаць, шчыпаць, вылятаць, кахаць, штрафаваць, грызці, красці, каркаць, смажыць, лямантаваць, даходзіць, схаваць, дакляраваць.* Нарэшце, апошняя група — зборныя, адцягненыя і абстрактныя паняцці: *ежа, зброя, яд, скарб, смецце.*

Тропы ў творах Іпація Пацея ахоплівалі шырокі семантычны спектр і выконвалі шматлікія стылістычна-экспрэсіўныя функцыі. Так, Іпацій Пацей выкарыстоўваў разгорнутую алегорыю, якая ўтрымлівала некалькі сімвалаў-вобразаў — «атрута», «салодкі мёд», «мухі»,— з мэтай выкрыцця пратэстанцкіх настаўнікаў, якія нібыта маюць ад свайго вучэння толькі асабістую карысць. Каб падкрэсліць няўважлівасць апанента, пісьменнік ужываў сімвал «акуляраў», якіх Крыштоф Філалет не меў, калі чытаў ягоную кнігу. Уласныя вострыя словы, скіраваныя супраць апанента, Іпацій Пацей называў «нясмачнай ежай». Вобразы «саламяных стрэльбаў» і «гарохавых куляў» сімвалізавалі слабасць, неабгрунтаванасць крытыкі з боку пратэстанцкіх і праваслаўных аўтараў у яго адрас.

Каб падкрэсліць унікальнае гістарычнае значэнне ўніверсала Жыгімонта III Вазы, што быў выдадзены з нагоды Брэсцкай уніі, Іпацій Пацей праводзіў паралель паміж ім і ўніверсалам Канстанціна Вялікага, падрыхтаваным пасля Нікейскага сабора. Паспяховы вынік выкрыцця фальсіфікацый Крыштофа Філалета, які апублікаваў лісты Папы Рымскага з уласнымі купюрамі, Іпацій Пацей параўноўваў з паляваннем на зайца. Да вобраза зайца, яго здольнасці заблытваць сляды пісьменнік звяртаўся і ў іншым кантэксце, каб абмаляваць творчую манеру апанента, сумбурны выклад у «Апокрысісе» вытрымак з яго лістоў.

З мастацкіх фігур Іпацій Пацей найчасцей ўжываў антытэзу. Супрацьпастаўленні выкарыстоўваліся ім з наступнымі мэтамі: ухваленне міжцаркоўнай лучнасці; выкрыцця памылак тэалагічнай дактрыны пратэстантаў, якія паразумеліся з праваслаўнымі «турка-грэкамі»; выразнага акрэслення мэт царкоўнага сінода.

Дэманструючы бліскучыя здольнасці стыліста, Іпацій Пацей свабодна ўжываў мноства іншых фігур, якія надавалі яго мове каларыт: антыфразіс, гульню слоў (asteia), пералічэнні, аксюмаран, гратэск, анафару, паралелізм, рытарычныя пытанні, сінанімічныя пары

і шэрагі назоўнікаў *(баламутня і небыліца; крыўды і ўціскі; пакой і парадак)*, дзеясловаў *(заступіцца і замовіць; ганіць і штрафаваць; згвалціць і парушыць; ведаў і бачыў)*, прыметнікаў *(мілы і добрасумленны)*, прыслоўяў *(уніжана і слёзна; слушна, прыстойна, праўдзіва)*.

Пры выбары лексем Іпацій Пацей пазбягаў нейтральных слоў, аддаючы перавагу стылёва-экспрэсіўным сродкам выражэння. Вельмі часта пісьменнік ужываў жартаўлівыя, пагардлівыя, асуджальныя, іранічныя, ласкальныя словы. Нярэдка ў яго палемічных творах сустракалася грубая і абразлівая лексіка. Пратэстанцкі малельны дом на старонках яго твораў — «шопа ерэтычная»; удзельнікі Брэсцкага праваслаўнага сабора — «духоўныя супастаты», «чужаземцы», «гаспадарскія зрайцы», «вырадкі», «атэісты», «арыяны»; пастановы і ўльтыматумы дызунітаў — «вымоўкі», «плёткі» «безыменны картэлюш»; іншыя веравызнанні — «баламутня», «сцызма», «спросныя ерасі».

Непаўторнасць почырку Іпація Пацея надавалі народныя прымаўкі, прыказкі і ўстойлівыя выслоўі, сентэнцыі, што ўжываліся пераважна ў палемічных блоках: «Які суддзя, такі і дэкрэт яго»; «Рады не рады, а мусіш»; «Апёкшыся на малацэ, на ваду дзьме»; «Сам сябе сваім козікам пілуе»; «Што дзень — то навіна, што чалавек — то вера»; «Што поп, што просты халоп»; «На злодзею шапка гарыць»; «Паказаў, якога цэху рамеснік»; «Не забірайце таго, чаго не давалі».

Тэксты Іпація Пацея маюць высокую ступень рытмічнай арганізаванасці, што ўтваралася за кошт падобнай метрычнай будовы калонаў, амаль роўных паводле колькасці складоў перыядаў і пераважна дзеяслоўных гамеатэлеўтаў (сугучнасці канчаткаў).

Іпацій Пацей ажыццявіў значныя змены ў лінгвафілалагічнай сферы на лексіка-марфалагічным, правапісным, сінтаксічным і стылістычным узроўнях. У аснову сваёй літаратурнай мовы пісьменнік паклаў лексічны фонд і граматычныя асаблівасці народнай мовы, дыялектаў усходнеславянскага арэала, пераважна тых, што ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Выступаючы за захаванне царкоўнаславянскай мовы ў якасці мовы набажэнства, Іпацій Пацей уласныя казанні і гаміліі пісаў і прамаўляў, аднак, на «простай мове». Зусім выразная тэндэнцыя, характэрная для ўсёй яго літаратурнай спадчыны,— інтэнсіўная замена царкоўнаславянскага сінтаксічнага

і асабліва лексіка-марфалагічнага фонду на дыялектна-гутарковыя, народныя формы, напрыклад: назоўнікаў *(разарванне, згода, гвалт, крыўда, пакора, няволя, рада, шаленства, артыкулы, абаронца, плёткі)*, прыметнікаў *(малёваныя, уласны, нязвыклы, лепшы, чужы)*, дзеясловаў *(жадаюць, злажыць, прыходзілі, прагнулі, дзякаваць, згаджацца, ганіць, прызнаваць)*, прыслоўяў *(бяспечна, справядліва, пільна, шчыра, непрыстойна)*.

Уласным творчым прыкладам Іпацій Пацей адкрываў грандыёзную мастацка-эстэтычную перспектыву для наступнікаў — стварэнне публіцыстычных і белетрызаваных твораў на беларускай літаратурнай мове, з густам апрацаванай і ўнармаванай паводле дамінантаў жывой вусна-гутарковай традыцыі.

Іпацій Пацей самаахвярна працаваў дзеля высокіх мэт. Ён ніколі не шукаў багацця і ўласных выгод. На старасці год мітрапаліт пісаў: «Я прасіў і прагнуў спакою для карысці веры і лучнасці, не зважаючы на асабістыя страты». Адсутнасць меркантыльнага разліку ў дзеяннях, незвычайны альтруізм і аскетызм мітрапаліта мусілі прызнаваць нават яго непрымірымыя апаненты.

Памёр Іпацій Пацей 18 ліпеня 1613-га, калі яму споўнілася 72 гады. Пахавалі яго з належным ушанаваннем ва Уладзімірскім кафедральным саборы.

Багатая творчая спадчына, учынкі і паводзіны Іпацыя Пацея дазваляюць сцвярджаць, што ён заўжды кіраваўся выключна гуманістычнымі мэтамі, імкнуўся да міжканфесійнага паразумення, прагнуў міру і згоды, клапаціўся пра выхаванне моладзі, дбаў пра грамадскае дабро, сацыяльную справядлівасць і гармонію.

# АПОСТАЛ ЛУЧНАСЦІ

*Хрысціянская лучнасць і міжканфесійны дыялог — важнейшыя фактары грамадскай стабільнасці і паспяховага развіцця краіны. Беларускія пісьменнікі-інтэлектуалы ўсвядомілі важнасць рэлігійнага міру ўжо ў глыбокай старажытнасці. Асабліва шмат дзеля прымірэння і згоды зрабіў Іосіф Вельямін Руцкі — выдатны пісьменнік-палеміст і царкоўны дзеяч. Ён вылучыў і адстойваў ідэю стварэння на Беларусі самастойнай Патрыярхіі для вернікаў усходняга абраду.*



## I

Нарадзіўся Іосіф (Іван) Вельямін Руцкі ў 1574 годзе ў радавым маёнтку Рута[1], што знаходзіўся блізу Навагрудка, у шляхецкай сям'і. Яго бацькі — Фелікс Руцкі і Багуміла Корсак — належалі да кальвінскага веравызнання. Пачатковую адукацыю падлетак атрымаў у навагрудскіх анабаптыстаў. Мусіць, з парады настаўнікаў бацькі накіравалі юнака ў Віленскую кальвінскую школу, дзе ён навучаўся некалькі гадоў, старанна вывучаючы класічныя мовы — лаціну, грэчаскую і іўрыт.

У 16-гадовым узросце Іван Руцкі накіраваўся за мяжу, каб прадоўжыць навучанне. Нейкі час ён слухаў лекцыі ў славутым Пражскім Карлавым універсітэце, затым тры гады правёў у Нямеччыне, дзе з выдатнымі адзнакамі закончыў Вюрцбургскі ўніверсітэт. Пэўную матэрыяльную падтрымку ў часе навучання за мяжой ён меў ад маці, бо бацька памёр у 1590 годзе, яшчэ да яго ад'езду ў Чэхію.

---

[1] Цяпер — вёска Дольная Рута Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці.

Пракуратар вялікакняскай і польскай каталіцкіх правінцый айцец Бокса, які пазнаёміўся з Іванам Руцкім, параіў здольнаму юнаку ехаць у Рым і паступаць у Грэцкі калегіум, дзе багасло̆ўскую адукацыю можна было атрымаць бясплатна. Руцкі так і зрабіў. Блізу 1600 года ён быў залічаны ў Грэцкі калегіум у Рыме. Тады ж адбылася вельмі важная ў яго жыцці падзея: ён урачыста пакляўся заўсёды трымацца ўсходняга веравызнання, бо гэта было адной з умоў прыняцця ў калегіум.

У 1601 годзе Іван Руцкі вярнуўся на радзіму. Сустрэўшыся ў Вільні з Іпаціем Пацеем, асвечаны юнак прапанаваў свае паслугі і веды на карысць Уніяцкай царквы. Але мітрапаліт стрымана паставіўся да прапазіцыі выхаванца еўрапейскіх універсітэтаў і параіў яму накіравацца ў новае падарожжа па Еўропе з дзецьмі віленскага ваяводы князя Радзівіла. Разгублены і занепакоены няўдачай, Руцкі паехаў у Руту да маці, каб адпачыць і вызначыцца з будучым заняткам.

Час няпэўнасці быў кароткі. У 1602 годзе памёр рэктар Віленскай уніяцкай семінарыі Пётра Федаровіч. Іпацій Пацей, пасля настойлівай просьбы каталіцкага біскупа Бенедыкта Войны, згадзіўся прызначыць Руцкага кіраўніком семінарыі. З гэтага моманту пачалася яго сталая дзейнасць.

На пасадзе рэктара, якую Руцкі займаў на працягу трох гадоў, выявіліся яго бліскучы педагагічны талент і здольнасці рэфарматара. Як творчая асоба ён адразу ж ажыццявіў шэраг змен у сістэме навучання ў Віленскай семінарыі.

Падчас знаходжання на пасадзе рэктара Руцкі падрыхтаваў выдатны паводле зместу навукова-педагагічны трактат пад тытулам *«Дыскурсус»* (каля 1605 года). У ім ён абгрунтаваў неабходнасць карэнных рэформ у сферы адукацыі і выхавання. Гэтыя рэформы, на яго думку, мусілі істотна змяніць жыццё ўсёй уніяцкай царквы.

Рэктар Віленскай семінарыі не меў, аднак, рэальных магчымасцей карэнным чынам рэфармаваць царкоўную сістэму навучання. Яго радыкальная педагагічна-асветніцкая праграма хоць і знайшла разуменне сярод іерархаў, але, відочна, не магла быць здзейсненай у найбліжэйшым часе ў маштабах усёй Царквы. Магчыма, што і сам ініцыятар рэформ не выявіў тады асаблівай настойлівасці і паслядоўнасці ў дасягненні пастаўленай мэты.

## II

У 1606 годзе, захапіўшыся місіянерскай ідэяй, Іван Руцкі накіроўваўся ў Маскву, дзе бачыў магчымасць рэалізаваць сябе, ажыццявіць смелыя задумы ўдасканалення Хрыстовай царквы.

На маскоўскім прастоле на той момант знаходзіўся цар Дзмітрый І (пазней названы Ілжэдзмітрыем), які прывёў у Маскву беларускія і польскія вайсковыя харугвы.

Руцкі меў цесныя стасункі з новым маскоўскім гаспадаром і неаднаразова прапаноўваў яму накіроўваць юнакоў па навуку ў Вялікае Княства Літоўскае з тым, каб пасля з іх дапамогай праводзіць дзяржаўныя і царкоўныя пераўтварэнні ў Маскоўскім княстве. Але і ў Маскве здзейсніць свае задумы Іван Руцкі не змог. Улада Дзмітрыя І неўзабаве пахіснулася, пачаліся ўнутраныя забурэнні, у выніку якіх цар быў забіты, а ў Маскоўскім княстве наступіў Смутны час.

Увесну 1606 года Іван Руцкі, сутыкнуўшыся ў Маскве з неспрыяльнымі для рэформы ўмовамі, намерыўся накіравацца разам з кармелітам Паўлам у Персію. Аднак падарожжа на Усход не адбылося. Як апавядае легенда, па выездзе місіянераў з Масквы, праз суткі блуканняў, яны дзівосным чынам зноў апынуліся каля яе сцен, хоць іх і суправаджалі дасведчаныя праваднікі. Руцкі ўспрыняў загадкавае здарэнне як яскравы Божы знак. Ён адмовіўся ад авантурных планаў наведвання Персіі і ў хуткім часе вярнуўся на радзіму.

У Вільні Руцкі зблізіўся з манахам Свята-Троіцкага манастыра Іасафатам Кунцэвічам і, мусіць, пад яго ўплывам 6 верасня 1607 года падаўся ва ўніяцкі манастыр.

1 студзеня, па сканчэнні тэрміна выпрабавання, адбылося яго пастрыжэнне ў манахі пад імем Іосіфа. У тым жа годзе архімандрыт Свята-Троіцкага манастыра Самуіл Сянчыла пасвяціў Руцкага ў дыяканы, а затым надаў яму сан прасвітара. З гэтага моманту жыццё і чыннасць Руцкага становяцца цалкам знітаванымі з Уніяцкай царквой.

Пасля таго як Свята-Троіцкі манастыр папоўніўся моладдзю, пераважна шляхецкага паходжання, Іосіфу Вельяміну Руцкаму было даручана яе выхаванне. Ён чытаў навіцыянам лекцыі па багаслоўі, навучаў лацінскай і царкоўнаславянскай мовам. Менавіта ў перыяд

знаходжання ў Віленскім уніяцкім манастыры, з 1607 да 1613 года, канчаткова сфарміравалася філасофска-тэалагічная дактрына Іосіфа Вельяміна Руцкага. Аб гэтым красамоўна сведчаць яго *«Тэзісы»*, выдадзеныя на старабеларускай і польскай мовах недзе ў канцы 1607 ці самым пачатку 1608 года.

У арыгінале твор Іосіфа Вельяміна Руцкага меў тыповую барокавую назву: «Teses, сиреч Известны предложенія от ученій, еже о тайнах церковных. На размышленіе к общему состезанію данны честным отцем Іосифом Велямином Рутъским, иноком Закону Святого Василія в монастыру Виленском Святое Живоначалное Тройцы».

«Тэзісы» былі падрыхтаваны да чарговага дыспуту, прызначанага на 8 студзеня 1608 года, аб чым наўпрост паведамлялася на тытуле кнігі: «Состязаніе же се на обычном месте ученій будет, пры монастыри пред реченном, року от Нароженія Христова 1608, месяца генваря, дня 8, часу второго по полудни».

Аўтар «Тэзісаў» прапанаваў уласную багаслоўскую дактрыну. Ён раскрытыкаваў вучэнні Лютэра, Кальвіна і «новахрышчэнцаў» аб таінствах, адзначыўшы, што іх сцвярджэнні супярэчаць «прававернай Царкве». Настойваючы на існаванні сямі тайнаў і называючы іх «Божымі прыладамі», з дапамогай якіх Госпад «пазбаўляе людскі род грахоў і ўласную дабрыню вылівае на душы людзей», Іосіф Вельямін Руцкі ўступіў у адкрытую палеміку з тагачасным аўтарытэтным тэолагам і пісьменнікам Стэфанам Зізаніем, які ў сваіх творах — «Катэхізіс» (1595) і «Казанне Святога Кірылы» (Вільня, 1596) — адстойваў адметную тэалагічную дактрыну, што ў многім не супадала з вучэннем усходніх айцоў Царквы.

## III

Нягледзячы на тое што Іосіф Вельямін Руцкі не займаў нейкіх значных царкоўных пасад, ён паступова станавіўся ўсё больш аўтарытэтнай асобай сярод віленскіх уніятаў. Гэтаму спрыялі яго неаднаразовыя выступленні ў час дыспутаў, паспяховая педагагічная дзей-

насць і, несумненна, асабістая абаяльнасць. Па-еўрапейску асвечаны чалавек, ён досыць лёгка заваёўваў сімпатыі людзей, без асаблівых цяжкасцей знаходзіў агульную мову з прадстаўнікамі розных канфесій, а таксама дзяржаўнымі дзеячамі Вялікага Княства Літоўскага. Таму зусім невыпадкова Іпацій Пацей у ліпені 1608 года прыняў пастанову аб узвядзенні менавіта Іосіфа Вельяміна Руцкага на пасаду каадʼютара — намесніка мітрапаліта, хоць, паводле заведзенага звычаю, яе мусіў заняць архімандрыт Віленскага Свята-Троіцкага манастыра.

З прызначэннем Руцкага катэгарычна не пагадзіліся кіраўнікі Свята-Троіцкага манастыра Самуіл Сянчыла і Баўтрамей Рашкоўскі. 13 жніўня 1608 года яны звярнуліся ў Віленскі магістрат са скаргай, а 1 верасня — з пратэстам да мітрапаліта Іпація Пацея. У звароце да мітрапаліта Сянчыла і Рашкоўскі спасылаліся на старадаўнія прывілеі вялікіх князёў і пастановы ранейшых іерархаў Царквы. Яны адмаўляліся падпарадкоўвацца Іосіфу Вельяміну Руцкаму, паколькі ён перад тым быў толькі простым манахам. «Пакорліва просім Вас, свайго міласцівага пастара,— пісалі яны да Пацея,— каб Вы захавалі старадаўні звычай і не парушалі нашых правоў». Іпацій Пацей, аднак, не адмяніў прынятай пастановы.

Барацьба на гэтым не скончылася. 19 снежня 1608 года прадстаўнікі Віленскага праваслаўнага брацтва — троцкі падкаморый Б. Агінскі і шляхціц А. Вырыкоўскі — звярнуліся ў гарадскі суд з заявай. Яны даводзілі, што Руцкі разам з Марахоўскім перашкаджаюць дзейнасці брацтва, чыняць яму розныя крыўды, парушаюць спрадвечныя правы, беспадстаўна прэтэндуюць на валоданне царквой Святой Троіцы.

Канфлікт паміж Іосіфам Вельямінам Руцкім і Самуілам Сянчылам зайшоў так глыбока, што вырашыць яго ў межах Царквы ці на ўзроўні гарадскіх улад стала немагчыма. Справа была вынесена на суд вялікага князя, які адбыўся ў пачатку 1609 года падчас Варшаўскага сойма. Некалькі бурных пасяджэнняў скончыліся перамогай Руцкага.

20 лютага 1609 года Жыгімонт III Ваза падпісаў загад, адрасаваны Віленскай ратушы, у якім запатрабаваў неадкладна скласці рэестр усёй маёмасці і скарбу Свята-Троіцкага манастыра. Манарх загадаў у выпадку нястачы маёмасці адшукаць яе і без важданіны перадаць усё Уніяцкай царкве. У другім прывілеі, падпісаным тым жа днём,

Жыгімонт III Ваза прызначаў Іосіфа Вельяміна Руцкага архімандрытам Свята-Троіцкага манастыра. Ён гэтаксама загадаў магістрату перадаць у падпарадкаванне новага архімандрыта «ўсе манастырскія фальваркі з землямі і людзьмі». Паводле прывілею, Руцкі станавіўся пажыццёвым уладальнікам Троіцкага манастыра.

Пазней, дзякуючы менавіта Іосіфу Вельяміну Руцкаму, Свята-Троіцкі манастыр стаў галоўным апірышчам Уніяцкай царквы.

## IV

З прызначэннем на пасаду намесніка мітрапаліта на плечы Іосіфа Вельяміна Руцкага лёг практычна ўвесь цяжар кіраўніцтва Уніяцкай царквой, бо састарэлы і хворы Іпацій Пацей быў не ў стане штодзённа «даглядаць духоўныя парадкі». Перад Руцкім паўстала найскладанейшая задача: праз рэформы ўмацаваць Царкву — арганізацыйна і эканамічна,— зрабіць яе прыцягальнай для вернікаў, узняць аўтарытэт у вачах хрысціянскага свету.

Каб дасягнуць пастаўленай мэты, Іосіф Вельямін Руцкі перш за ўсё дамогся канчатковага захавання Свята-Троіцкага манастыра за ўніятамі, бо праваслаўныя, не зважаючы на вырак манарха, у сакавіку 1609 года паспрабавалі сілай авалодаць ім. Архімандрыт 20 сакавіка падаў скаргу ў магістрат, патрабуючы пакарання вінаватых. Яго падтрымаў Іпацій Пацей. 30 красавіка ў адказ на дзеянні ўніятаў Віленскае праваслаўнае брацтва выступіла з заявай, у якой адзначалася, што праваслаўныя ніколі не прызнаюць яго рашэнняў. Праціўнікі не абмежаваліся толькі словамі. Праваслаўны месціч Максім Шэмбель зрабіў замах на жыццё Руцкага, і толькі дзякуючы шчасліваму збегу абставін архімандрыт застаўся ў жывых.

Найважнейшы кірунак дзейнасці Іосіфа Вельяміна Руцкага на шляху ўмацавання Уніяцкай царквы — пабудова новых бажніц і заснаванне манастыроў, якія сталі грунтам, фундаментам новай Царквы. Так, Руцкаму і яго аднадумцу Іасафату Кунцэвічу ўдалося схіліць багатага шляхціца Рыгора Трызну да думкі аб пабудове ў Быцені мужчынскага манастыра. Дзякуючы іхнім намаганням блізу 1613 года

на месцы бажніцы ў Жыровічах таксама быў закладзены ўніяцкі манастыр, які з часам стаўся выбітным асяродкам хрысціянскай культуры. Сродкі на яго пабудову ахвяраваў смаленскі кашталян Ян Мялешка. Пад уплывам Іосіфа Вельяміна Руцкага і Іасафата Канцэвіча Мялешка схіліўся да ўніяцкай веры. Ён з цягам часу стаў адным з найбольш актыўных яе прапагандыстаў сярод шляхты.

Плён намаганняў Руцкага і яго манахаў-аднадумцаў — адкрыццё буйнога ўніяцкага манастыра ў Навагрудку.

Мітрапаліт Іпацій Пацей, які стаяў ля вытокаў Уніяцкай царквы, высока ацэньваў чыннасць Іосіфа Вельяміна Руцкага і цешыўся з таго, што не памыліўся ў сваім выбары. 16 чэрвеня 1612 года ён выдаў прывілей аб узвядзенні архімандрыта Свята-Троіцкага манастыра на Галіцкую епіскопію і наданні яму сана «надворнага ўладыкі» — кіраўніка ўсёй царкоўнай адміністрацыі.

Да найбольш значных заслуг Руцкага належыць і далучэнне да Уніяцкай царквы Менскага Узнясенскага манастыра. Менавіта з яго хадайніцтва Жыгімонт III Ваза 30 сакавіка 1613 года выдаў прывілей, паводле якога гэты старажытны куток царкоўнай духоўнасці станавіўся ўніяцкім.

Не на апошнім месцы ў дзейнасці Іосіфа Вельяміна Руцкага быў і клопат пра навучанне моладзі і падрыхтоўку новых пастараў. Ён не толькі ствараў умовы для паляпшэння навучання ў школцы пры Свята-Троіцкім манастыры, але і па дамове з каталіцкімі іерархамі накіроўваў моладзь у Нясвіжскі, Калішскі і Пултускі езуіцкія калегіумы, дзе падлеткі мелі магчымасць атрымаць выдатную адукацыю еўрапейскага ўзроўню.

Пасля некалькіх аўдыенцый у вялікага князя Руцкі 31 сакавіка 1613 года дастаў прывілей на заснаванне школ у Менску, Навагрудку і іншых месцах, падпарадкаваўшы іх выключна духоўным уладам. У заснаваных навучальных установах, прадугледжвалася навучанне пяці мовам — беларускай, польскай, царкоўнаславянскай, грэчаскай і лаціне, а таксама выкладанне цыкла сямі «вызваленых мастацтваў».

Пазней, у снежні 1615 года, Іосіф Вельямін Руцкі дамогся ад Папы Рымскага пацвярджэння для ўсіх уніяцкіх школ шырокіх правоў, якія мелі іезуіцкія калегіумы.

## V

Новы этап у жыцці Іосіфа Вельяміна Руцкага пачаўся пасля смерці ўніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея 8 жніўня 1613 года. Праз некалькі дзён Жыгімонт Ваза выдаў прывілей, паводле якога новым уніяцкім мітрапалітам прызначаўся Руцкі. З гэтым прызначэннем Уніяцкая царква без забурэнняў і прыкметных змен уступіла ў новы перыяд, які стаўся найбольш значным ва ўсёй яе гісторыі. Што асабіста да Іосіфа Вельяміна Руцкага, дык ён разам з новым санам атрымаў дадатковыя землі і маёнткі, перадусім тыя, што калісьці належалі Міхаілу Рагозу і Іпацію Пацею, маёнткі ў Навагрудку, Прылепічах, Шашолах і Свіранах, а таксама шматлікія вёскі.

Па ўзыходзе на мітраполію Руцкі разгарнуў яшчэ большую дзейнасць, накіраваную на ўмацаванне Уніяцкай царквы, якая на той момант улучала 5 буйных царкоўна-адміністрацыйных адзінак — архіепіскопій: Полацкую, Уладзімірскую, Пінскую, Холмскую і Смаленскую.

Іосіф Вельямін Руцкі пачаў дамагацца палітычных правоў для Уніяцкай царквы, увядзення яе найвышэйшых іерархаў у склад Рады — найвышэйшага выканаўча-распарадчага органа Вялікага Княства Літоўскага. Захаваўся дакумент ад 20 студзеня 1615 года, у якім якраз паведамлялася пра настойлівую просьбу мітрапаліта да дэпутатаў, абраных на Генеральны сойм ад Слоніма, паставіць перад заканадаўчым органам пытанне пра ўлучэнне некалькіх прадстаўнікоў Уніяцкай царквы ў склад Рады. Руцкі звярнуўся і да Папы Рымскага Паўла V, каб той са свайго боку падтрымаў гэтыя справядлівыя патрабаванні і паўплываў на Жыгімонта Вазу. Нягледзячы на перашкоды і цяжкасці, ён праз нейкі час усё ж дамогся свайго — і некалькі ўніяцкіх іерархаў увайшлі ў Раду.

Руцкі няспынна наведваў епархіі, манастыры і прыходы, каб ведаць рэальнае становішча і ажыццяўляць кантроль над дзейнасцю іерархаў. Гэта дазволіла мітрапаліту зрабіць шэраг удалых і своечасовых перамяшчэнняў сярод вышэйшага і асабліва сярэдняга святарства. Так, 3 ліпеня 1614 года Руцкі ўзвёў на Уладзімірскую кафедру свайго паплечніка, Яўхіма (Іллю) Марахоўскага. Архімандрытам Віленскага Свята-Троіцкага манастыра ён у 1617 годзе паставіў

Льва Крэўзу, а полацкім архіепіскапам у 1618-м, на змену Гедэону Бральніцкаму, зрабіў адданага ўніяцкага дзеяча Іасафата Кунцэвіча.

Мітрапаліт гэтаксама пасправабаваў падпарадкаваць Уніяцкай царкве праваслаўныя асяродкі Кіева, найперш славутую Кіева-Пячорскую лаўру. Працяглае змаганне ўніятаў за лаўру скончылася, аднак, безвынікова.

Іосіф Вельямін Руцкі дзейнічаў у досыць складаных абставінах жорсткага супрацьстаяння з праваслаўнымі. Аднак ні супраціў апанентаў, ні ўнутраныя перашкоды не спынілі яго. Ён пачаў падрыхтоўку да карэнных, глыбокіх рэформ Царквы. Найважнейшы крок на гэтым шляху, паводле яго задумы,— утварэнне Ордэна, на які ўскладалася б функцыя флагмана, збіральніка ўсіх духоўных сіл Царквы.

На працягу прыкладна чатырох гадоў мітрапаліт аналізаваў магчымасці ўтварэння Ордэна. Ён абмяркоўваў гэтае пытанне з аўтарытэтнымі дзеячамі Каталіцкага касцёла, вёў перамовы з уплывовымі ўрадоўцамі Вялікага Княства Літоўскага, перапісваўся з Жыгімонтам III Вазай, нарэшце, няспынна пераконваў скептыкаў у неабходнасці заснавання Ордэна. Адначасна Іосіф Вельямін Руцкі праробляў велізарную аналітычную працу: ён вывучаў унутранае жыццё і арганізацыю дзейнасці іншых ордэнаў, існуючых у Хрысціянскай царкве. Мітрапаліт заглыбляўся ў царкоўную гісторыю, грунтоўна вывучаў тэалагічныя трактаты апалагетаў хрысціянства — Васіля Вялікага, Іаана Залатавуста, Грыгорыя Багаслова, Кірылы Іерусалімскага, Еранізма, Аўгусціна і іншых, настойліва шукаючы адказу на пытанне, якім павінен быць дасканалы Ордэн і паводле якіх прынцыпаў павінна ўладкоўвацца яго жыццё.

Вынік шматгадовай аналітычнай працы Руцкага — аб'ёмны рукапісны том *«Правілаў манаскага жыцця»*, закончаны да 1617 года, дзе дэталёва вызначаліся структура новага Ордэна, яго мэты і характар дзейнасці.

Афармленне Базыльянскага ордэна, набыццё ім акрэсленага юрыдычнага статусу адбылося ў часе шасці з'ездаў прадстаўнікоў манастыроў — у Наваградку (1617), Лаўрышаве (1621, 1626), Руце (1623), Жыровічах (1629) і Вільні (1636). Іосіф Вельямін Руцкі зрабіў неверагодна шмат дзеля арганізацыі Базыльянскага ордэна.

## VI

Абсалютнаму трыумфу ўніяцтва на абшарах Вялікага Княства Літоўскага перашкодзіла, аднак, узнаўленне ў 1620 годзе іерусалімскім патрыярхам Тэафанам Праваслаўнай мітраполіі. Тэафан прызначыў праваслаўным мітрапалітам Іова Барэцкага, а 15 жніўня 1620 года пасвяціў на пасады шэсць епіскапаў: Мялеція Сматрыцкага — на Полацкую епіскопію, Я. Курцэвіча — на Уладзімірскую, І. Чарнецкага — на Луцкую, І. Копінскага — на Перамышльскую, П. Іпалітовіча-Пузыну — на Холмскую, А. Стагонскага — на Пінскую. Іерусалімскі патрыярх гэтаксама пацвердзіў паўнамоцтвы некалькіх дзясяткаў ігуменаў, прызначаўшы такім чынам на духоўныя пасады каля 70 асоб.

Іосіф Вельямін Руцкі мусіў з гэтага часу мецць справу з сістэмнай апазіцыяй. Абураны дзеяннямі Тэафана, на сойме 1620 года ён выступіў з рэзкім пратэстам, у якім асудзіў учынкі іерусалімскага патрыярха, назваў яго «галоўным парушальнікам спакою», «маскоўскім агентам» і «турэцкім шпіёнам». Ён заклікаў вялікага князя і ўрад ВКЛ спыніць «разбуральную дзейнасць дызунітаў».

У 1621 годзе кароль і вялікі князь Жыгімонт III Ваза выдаў загад — арыштаваць Іова Барэцкага і Мялеція Сматрыцкага, а затым асудзіць іх. Але схапіць новапрызнаных праваслаўных іерархаў і правесці над імі публічны судовы працэс не ўдалося, бо яны папросту схаваліся ад пераследу. У адказ праваслаўныя аўтары пачалі абгрунтоўваць уласную пазіцыю ў друку. Мялецій Сматрыцкі, да прыкладу, апублікаваў цэлую серыю палемічных твораў — «Верыфікацыя невінаватасці» (1621), «Абарона верыфікацыі» (1621), «Апендыкс» (1622), «Эленхус» (1622) і «Юстыфікацыя» (1622).

Іосіф Вельямін Руцкі распачаў літаратурную палеміку з праваслаўнымі, найперш, Мялеціем Сматрыцкім. Уніяцкі мітрапаліт апублікаваў два буйныя публіцыстычна-палемічныя трактаты — «Падвойная віна» (1621) і «Экзамен абароны» (1621). На старонках твораў Руцкі выявіў сябе як выдатны літаратар, майстар мастацка-публіцыстычнага слова, філосаф і аналітык.

У першую чаргу Іосіф Вельямін Руцкі прапанаваў развязанне актуальных пытанняў грамадскага і царкоўнага жыцця. Закранаючы праблему ўзаемадачыненняў паміж свецкай і духоўнымі ўладамі,

Руцкі схіляўся на бок дактрыны аб прыярытэтнасці свецкіх улад у краіне. У «Падвойнай віне» ён падкрэсліваў: «У многіх хрысціянскіх краінах — Грэцыі, Балгарыі, Сербіі, Валахіі, Масковіі — ніхто без дазволу манарха не можа займаць пасады мітрапалітаў і епіскапаў».

Іосіф Вельямін Руцкі абгрунтоўваў антызаконнасць узнаўлення праваслаўнай мітраполіі ў Вялікім Княстве Літоўскім. На старонках «Экзамена абароны» пісьменнік-палеміст раскрытыкаваў праваслаўную дактрыну, рэзка асудзіў «разбуральную» дзейнасць праваслаўнага святарства. Ён назваў Мялеція Сматрыцкага чалавекам «абмежаваных здольнасцей», які імкнецца «сцвярджаць ісціну не фактамі і аргументамі, а непрыстойнай лаянкай і абразамі».

Выдатны знаўца гісторыі Царквы, кананічнага права і свецкіх законаў, Іосіф Вельямін Руцкі сфармуляваў пяць асноўных антытэзісаў супраць узнаўлення праваслаўнай іерархіі Вялікага Княства Літоўскага. У сваіх творах ён аргументавана даводзіў, што ў Вялікім Княстве здаўна існуе закон, паводле якога менавіта манарх спачатку прызначае («прэзентуе») на найвышэйшыя духоўныя пасады, а патрыярх толькі робіць пасвячэнне. У якасці прыкладу ён прыгадваў, што ўжо чацвёрты мітрапаліт Іларыён, «русін з Берасцейскага манастыра», быў спачатку прызначаны князем Яраславам Уладзіміравічам і толькі праз нейкі час атрымаў пасвячэнне ад канстантынопальскага патрыярха. Па словах Руцкага, такім жа парадкам узводзіліся на пасады і іншыя мітрапаліты — Клімент, Аляксей, Пётр, Кіпрыян, Грыгорый Цамблак і ўсе астатнія — на працягу 200 гадоў.

Аўтар «Падвойнай віны» аспрэчыў беспадстаўныя абвінавачанні ў адрас уніятаў, нібыта яны выракаюцца «славянскай» (царкоўнаславянскай) і «рускай» (старабеларускай) моў. «Хтосьці вас памылкова інфармаваў,— зазначаў Іосіф Вельямін Руцкі.— Мы шануем славянскія кнігі і нават бяром з іх аргументы супраць вас. Болей за тое, заўсёды заклікаем рабіць казанні на беларускай мове і патрабуем прамаўляць на ёй усе публічныя выступленні».

Руцкі абураўся нападкамі на Уніяцкую царкву з боку праваслаўных, якія ганьбавалі ў побыце і з амбонаў. Пісьменнік з гонарам адказваў сваім апанентам: «Цяпер у нашай супольнасці мноства заслужаных людзей розных станаў — павятовыя, дворныя і земскія ўрадоўцы, а таксама

сенатары, шляхта, мяшчане і мноства паспалітага люду». З асалодай і радасцю мітрапаліт распавядаў пра значныя поспехі Уніяцкай царквы на ніве асветы. «Мы,— зазначаў ён,— маем намер і надалей збіраць адораных падлеткаў і даваць ім добрае выхаванне ў пабожнасці і навуках. Цяпер, дзякаваць богу, маем у сваім Законе больш за 100 юнакоў. Вядома, з імі яшчэ шмат клопатаў, але праўду кажуць: "Не бядуй, калі арэш, што не адразу жнеш. Заўжды трэба чакаць пакуль колас саспее"».

Уніяцкі мітрапаліт паслядоўна адстойваў ідэю паяднання ўсіх «вернікаў адзінага народу» на грунце грамадзянскасці. Абураючыся фактамі міжканфесійнай канфрантацыі, ён заклікаў да паразумення, супольнага і мірнага вырашэння спрэчных пытанняў: «Тыя прыкрасці паміж намі, людзьмі адзінага народа і набажэнства, не гвалтоўным і бяздумным наступленнем на нас, як цяпер, не трыбунальскімі, не соймікавымі, не соймавымі пастановамі, як заклікае Верыфікатар, галасамі і дамаганнем тых ды іншых канстытуцый, бо тыя сродкі дагэтуль толькі ўзмацнялі варажнечу. Але толькі з'ехаўшыся ў адзінае месца і зносінамі супольнымі ў міласці братэрскай, маючы перад вачыма толькі Пана Бога і яго праўду, супакоіцца патрэбна».

Пісьменнік-палеміст усебакова абгрунтоўваў неабходнасць поўнай еднасці вернікаў усходняга абраду, прапануючы дзеля гэтага толькі мірныя сродкі. «Мэта нашай справы,— адзначаў ён,— памнажэнне еднасці. Сродак — згуртаваць работнікаў добрых. І менавіта такога сродку патрабуе абраная мэта. Бо не праз анёлаў, а праз людзей. А людзей належыць пабажна і ўмела весці. Чым болей іх будзе, тым спарней справа пойдзе. І мы не чынілі інакш. Толькі гэтак! Таму лучнасць пашыраецца. Той сродак добры з гледзішча Бога і з гледзішча людзей. Ён з моцы нашай. Добрае паразуменне сярод нас».

Іосіф Вельямін Руцкі запэўніваў у цвёрдасці і нязменнасці абранага шляху: «Не чакаем узнагароды за працу рук нашых ад тых людзей, дзеля якіх працуем. Але і няўдзячнасць, зласлоўе, дзякуючы Божай помачы, у той справе нас не спалохае». Сваіх шматлікіх паслядоўнікаў і аднадумцаў пісьменнік-палеміст параўноўваў з жаўнерамі, добра падрыхтаванымі да бою.

Літаратурныя і інтэлектуальныя дыскусіі, вядома, не знялі ўсіх пытанняў. Мітрапаліту з часам усё ж такі давялося наладжваць дачыненні з Праваслаўнай царквой.

## VII

Поспехі Іосіфа Вельяміна Руцкага на ніве адбудовы Уніяцкай царквы на Беларусі былі надзвычай маштабнымі. Паводле звестак «Супплікацыі» (Вільня, 1623) — вельмі аўтарытэтнай гістарычнай крыніцы — да 1623 года ўніяцтва стала панавальным веравызнаннем у 42 беларускіх гарадах, сярод якіх — Вільня, Менск, Навагрудак, Горадня, Мазыр, Слонім, Берасце, Кобрын, Пінск, Оўруч, Крычаў, Чачэрск, Прапойск, Рагачоў, Гомель, Рэчыца, Полацк, Віцебск, Мсціслаўль, Орша і Магілёў.

Руцкі прыкладаў намаганні, каб падпарадкаваць Уніяцкай царкве Віленскі Свята-Духаўскі манастыр — галоўнае апірышча праваслаўных.

Пашырэнне ўніяцтва не абышлося, аднак, без трагедый. У 1623 годзе віцебскія праваслаўныя месцічы забілі ўніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча. Сумная вестка пра смерць надзейнага сябра і аднадумца азмрочыла жыццё Іосіфа Вельяміна Руцкага.

Пасля працяглых філасофскіх разважанняў ён прыйшоў да высновы, што неабходна ісці іншым шляхам, кардынальна змяніць тактыку і стратэгію адбудовы Царквы. У новых умовах грамадскага і царкоўнага жыцця ўніяцкі мітрапаліт узяў курс на замірэнне канфесій.

Надзвычай цікавы эпістальярны твор Іосіфа Вельяміна Руцкага *«Ліст да кардынала Бандыні»*, напісаны 11 лютага 1624 года. У ім мітрапаліт распавёў пра характар пакарання забойцаў Іасафата Кунцэвіча, паведаміў пра пазбаўленне Віцебска прывілеяў і зняцце званоў, якімі склікалі месцічаў падчас забурэнняў, перадаў разгубленасць і прыгнечанасць жыхароў горада, даў уласную ацэнку падзей у Віцебску.

Час і абставіны пераканалі Руцкага, што напружаныя дачыненні паміж праваслаўнымі і ўніятамі ў Княстве можна грунтоўна ўрэгуляваць толькі праз утварэнне самастойнай Патрыярхіі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Усе дэталі грандыёзнага праекта мітрапаліта сёння, на жаль, невядомыя. Відавочна толькі тое, што мітрапаліт імкнуўся дасягнуць адміністрацыйнай незалежнасці Хрысціянскай царквы Вялікага Княства ад Масквы, Канстанцінопаля і Рыма.

Глабальны праект утварэння вялікакняскай Патрыярхіі Іосіф Вельямін Руцкі распрацоўваў і карэктаваў на працягу 1623—1629 гадоў. Новая Патрыярхія, паводле задумы мітрапаліта, павінна была

аб'яднаць хрысціянскіх вернікаў Вялікага Княства Літоўскага, стаць важнейшым цэнтрам духоўнасці ў краіне. Паводле прызнання Руцкага, ён хацеў, «каб яна была ўфундаваная ў нашых краях накшталт маскоўскай, і мы не ехалі кожны раз некуды за дабраславеннем».

У рэалізацыі ўласнай грандыёзнай задумы па стварэнні новага цэнтра хрысціянства Іосіф Вельямін Руцкі разлічваў абаперціся найперш на ўтвораны ім жа ў 1617 годзе Базыльянскі ордэн і сваіх бліжэйшых паплечнікаў — уніяцкіх епіскапаў: І. Марахоўскага, уладзімірскага і берасцейскага; А. Пакосту, холмскага і белзаўскага; Ерамію, луцкага і астрожскага; А. Сяляву, полацкага, віцебскага і мсціслаўскага; Р. Міхалоўскага, тураўскага і пінскага.

У 1626 годзе Іосіфу Вельяміну Руцкаму ўдалося далучыць да сваёй партыі былога рэктара Кіеўскай брацкай школы, ігумена Дубненскага манастыра Касьяна Саковіча. У тым жа годзе да ажыццяўлення праекта новай уніі і ўтварэння Патрыярхіі Вялікага Княства Літоўскага далучыўся Кірыла Транквіліён-Стаўравецкі, аўтар выдатных твораў — «Люстра багаслоўя» (1618) і «Евангелле навучальнае» (1619). 26 сакавіка 1626 года Руцкі прызначыў гэтага надзвычай таленавітага пісьменніка і інтэлектуала архімандрытам Чарнігаўскага манастыра.

Мітрапаліт, напэўна, пачаў рабіць энергічныя захады, каб схіліць на свой бок і іншых аўтарытэтных дзеячаў праваслаўя — Мялеція Сматрыцкага, Сільвестра Косава, Іова Барэцкага. Невыпадкова ж па абшарах Княства распаўсюдзіліся звесткі пра таемныя перамовы паміж уніятамі і праваслаўнымі ды засакрэчаную падрыхтоўку пагаднення паміж імі. Іоў Барэцкі мусіў нават публічна аспрэчваць гэта ў сваім «Пасланні» ад 23 мая 1623 года.

Праз нейкі час здагадкі пацвердзіліся. Мялецій Сматрыцкі пасля наведання ў 1623—1624 гадах Канстанцінопаля сапраўды падтрымаў ідэю новай уніі і праект утварэння Патрыярхіі ВКЛ. Больш за тое, ён неўзабаве стаў адным з галоўных яе абаронцаў. Пасля трох год таемнага супрацоўніцтва з Іосіфам Вельямінам Руцкім Мялецій Сматрыцкі 21 жніўня 1627 года публічна абвясціў уласныя намеры. Ён звярнуўся з «Лістом да канстанцінопальскага патрыярха», у якім заклікаў яго спрыяць задзіночанню вернікаў усходняга абраду Вялікага Княства Літоўскага. Тэарэтычныя аспекты новай уніі Мялецій

Сматрыцкі падрабязна выклаў у фундаментальных філасофска-багаслоўскіх трактатах — «Апалогіі» (1628), «Аб шасці адрозненнях у вучэнні Усходняй і Заходняй Цэркваў» (1628) і «Катэхізісе» (каля 1628). Шляхі і сродкі практычнага задзіночання вернікаў усходняга абраду знайшлі адлюстраванне таксама ў яго перапісцы з Іосіфам Вельямінам Руцкім і ў палемічных творах — «Пратэстацыя» (1628) і «Парэнезіс» (1629).

З боку праваслаўных аўтараў на Мялецця Сматрыцкага абрынуўся шквал абвінавачанняў і нечуваных паклёпаў. З крытыкай яго «здрады» выступіў колішні паплечнік Андрэй Мужылоўскі ў творы «Антыдотум» (1629). На гэты твор Мялецій Сматрыцкі амаль адразу адказаў «Экзетэзісам» (1629). У дыскусію з Мялеціем Сматрыцкім уступіў А. Дзіпліц, які надрукаваў «Антапалогію» (1632). Невядомы праваслаўны аўтар апублікаваў супраць Мялецця Сматрыцкага памфлет пад тытулам «Тропар і кандак».

Погляды Іосіфа Вельяміна Руцкага і Мялецця Сматрыцкага на тактыку і стратэгію ўтварэння Патрыярхіі і далейшага паяднання хрысціян амаль цалкам супадалі, пра што яскрава сведчыць перапіска паміж імі. 2 сакавіка 1628 года Сматрыцкі ў лісце да Руцкага пісаў: «Пакуль уся Руская царква не будзе прыведзена да адзінства, да таго часу дарэмнымі выглядаюць клопаты пра грэкаў, святагорцаў, маскавітаў і іншыя народы, якія вызнаюць усходні абрад. Таму трэба прыкласці ўсе сілы, каб пераадолець разлад у сябе дома, і толькі тады, узброіўшыся малітвай і пакладаючыся на Божую помач, яднаць усе іншыя народы грэчаскай веры».

Каля 1628 года Іосіф Вельямін Руцкі паспрабаваў далучыць да свайго глабальнага праекта надзвычай аўтарытэтнага ў асяроддзі праваслаўных чалавека — архімандрыта Кіева-Пячорскай лаўры Пятра Магілу. Той напачатку даў згоду, але пасля чамусьці перадумаў.

20 сакавіка 1629 года Жыгімонт III Ваза ў лісце да Руцкага паведаміў, што дазваляе правесці супольны сабор праваслаўных і ўніятаў у Львове 28 кастрычніка 1629 года, а папярэднія, партыкулярныя саборы прызначае на 9 ліпеня, для ўніятаў — ва Уладзіміры-Валынскім, для праваслаўных — у Кіеве.

Справа пакрысе рухалася наперад. Але нечакана з боку праваслаўных дзеячаў пачалі гучаць галасы пратэстаў. 29 чэрвеня 1629 года

запарожскія казакі накіравалі ліст кіеўскаму праваслаўнаму мітрапаліту Іову Барэцкаму, у якім выказалі намер са зброяй у руках «бараніць праваслаўную веру бацькоў». 5 ліпеня свой пратэст абвясціла шляхта Кіеўскага ваяводства. У выніку шматлікіх пратэстаў прызначаны манархам праваслаўны сабор у Кіеве не адбыўся.

Аднак і пасля гэтага Іосіф Вельямін Руцкі не губляў надзеі на станоўчае вырашэнне справы. Ён засяродзіўся на падрыхтоўцы сабора ў Львове, разлічваючы, што на яго прыедуць і праваслаўныя іерархі.

Але надзеі не спраўдзіліся. 28 кастрычніка 1629 года не прынесла суцяшэння: праваслаўныя епіскапы і мітрапаліт Іоў Барэцкі не з'явіліся ў Львове. Уніяцкі мітрапаліт мусіў абвясціць сабор закрытым.

5 лістапада 1629 года Іосіф Вельямін Руцкі з прыкрымі пачуццямі пакінуў Львоў. Па дарозе ў Навагрудак, дзе месцілася рэзідэнцыя ўніяцкага мітрапаліта, яго дагнала сумная вестка аб смерці 14 лістапада князя А. Заслаўскага, шчырага дарадцы і прыхільніка уніі. Гэта быў змрочны знак для Руцкага. Мітрапаліт адчуў: плану паяднання ўніятаў з праваслаўнымі не суджана здзейсніцца.

Грандыёзны праект утварэння Патрыярхіі ВКЛ не спраўдзіўся з-за розных прычын. Найперш, адсутнічала шырокая падтрымка з боку ўплывовых урадоўцаў Вялікага Княства. Далёка не ўсе праваслаўныя жыхары Беларусі і Украіны віталі новае пагадненне. Але найбольш моцнае супрацьдзеянне зыходзіла непасрэдна з Канстанцінопаля, Рыма і Масквы, якія рознымі шляхамі імкнуліся перашкодзіць утварэнню яшчэ адной сталіцы хрысціянства.

Адукаванейшы чалавек свайго часу, тонкі дыпламат і стратэг, Іосіф Вельямін Руцкі апынуўся, па сутнасці, у ізаляцыі: аддаленыя гістарычныя перспектывы і велічнае значэнне яго праекта, скіраванага на кансалідацыю народа, усведамлялі толькі лічаныя асобы. На шляху мітрапаліта паўстала значна болей перашкод і бар'ераў, чым гэта ўяўлялася яму напачатку. Жыццёвыя акалічнасці сталіся мацнейшымі за яго. Ён мусіў адступіць і прызнаць уласнае паражэнне.

Паяднання, такім чынам, не адбылося. Пачаліся доўгія гады і дзесяцігоддзі ўзаемных прэтэнзій, абвінавачанняў і агульнай незадаволенасці. Паклаўшыся на Божую волю, Іосіф Вельямін Руцкі працягваў кіраваць Уніяцкай царквой. Праваслаўныя іерархі прагнулі

атрымаць рэванш. Яны распачалі актыўнае змаганне за свае правы, асабліва пасля смерці вялікага князя Жыгімонта III Вазы ў 1632 годзе.

Для дэпутатаў Варшаўскага канвакацыйнага сойма 1632 года яны падрыхтавалі «Сінопсіс» (Вільня, 1632) — праграмны твор, які атрымаў шырокі розгалас у славянскім свеце. Каб давесці паслам і сенатарам права праваслаўных на ўласную Царкву, мітрапаліта і іерархаў, у «Сінопсісе» былі сабраныя шматлікія прывілеі вялікіх князёў, соймавыя канстытуцыі і ўніверсалы, нададзеныя Праваслаўнай царкве з 946 да 1632 года. У ім, у прыватнасці, змяшчаліся Прывілей Ягайлы 1386 года, Прывілей Аляксандра 1501 года, а таксама Прывілеі 1511, 1514, 1550, 1557, 1567 і 1569 гадоў і шмат іншых юрыдычных актаў.

У многім дзякуючы якраз гэтаму твору, на сойме 1632 года была ўтворана аўтарытэтная камісія на чале з новым прэтэндэнтам на вялікакняскі пасад — Уладзіславам, які паставіў за мэту прымірыць нарэшце ўніятаў з праваслаўнымі.

Дзейнасць соймавай камісіі па ўрэгуляванні міжцаркоўных дачыненняў у Княстве і Кароне падрабязна раскрыта ў творы «Суплементум Сінопсіс» (Вільня, 1632). Невядомы аўтар найперш пералічыў усіх сяброў камісіі, у якую апрача ўжо названага прэтэндэнта на пасаду вялікага князя і караля Уладзіслава ўвайшлі: ад сената — віленскі ваявода Леў Сапега, біскуп Якуб Задзік, сандамірскі ваявода і каронны гетман Станіслаў Канцэпольскі, белзаўскі ваявода Рафал Ляшчынскі, земскі падскарбі ды пісар Вялікага Княства Літоўскага Стэфан Пац, ад пасольскага кола — вялікакняскі польны гетман Крыштоф Радзівіл, каронны падскарбі Ежы Асалінскі, пасол Якуб Сабескі, львоўскі падкаморы Аляксандр Трубінскі, суддзя і пасол Галіцкай зямлі Адам Лыгоўскі ды маршалак Упіцкага павета, пасол Крыштоф Белазор.

У «Суплементуме...» падрабязна занатаваны дыскусіі, што адбыліся падчас пяці пасяджэнняў камісіі. У ім якраз апублікаваны палымяныя прамовы ўніяцкага мітрапаліта Руцкага і грунтоўныя адказы на іх праваслаўных паслоў Лаўрэнція Дрэвінскага і Іосіфа Бабрыковіча.

Іосіф Вельямін Руцкі займаў цвёрдую пазіцыю. Ужо на першым пасяджэнні ён выступіў з вялікай прамовай, у якой пералічыў парушэнні вялікакняскіх законаў з боку праваслаўных вернікаў, распавёў пра шматлікія злачынствы, учыненыя імі, назваў крыўды і абразы,

якія яны нанеслі Уніяцкай царкве і яе духоўным айцам. Руцкі прыгадаў забойствы Кунцэвіча і Грэковіча, здзейсненыя праваслаўнымі, а таксама замах на жыццё Іпація Пацея і здзекі казакоў над уніяцкімі манахамі.

Уладзіслаў пайшоў насустрач праваслаўным і 1 лістапада 1632 года падпісаў «Артыкулы для супакаення праваслаўных», паводле якіх абодвум бакам загадвалася «жыць у міры і згодзе, спыніць узаемныя пагрозы, не пісаць і не друкаваць кніг з узаемнымі абразамі».

Іосіф Вельямін Руцкі выступіў з пратэстам, накіраваў ліст да Папы Рымскага. Але, не надта разлічваючы на дапамогу збоку, ён асабіста разгарнуў актыўную дзейнасць па абароне маёмасці Царквы, манастыроў і бажніц. У 1633 годзе ён вёў змаганне за вяртанне Кіеўскай Сафіі, гвалтоўна захопленай Пятром Магілам і яго манахамі. Ён уступіў у палеміку з магілёўскім, аршанскім і мсціслаўскім праваслаўным епіскапам Сільвестрам Косавым, які заклікаў да супраціву ўніяцкім іерархам.

14 сакавіка 1635 года Руцкі дамогся ад Уладзіслава прывілея, паводле якога за ўніятамі пажыццёва замацоўваліся шматлікія манастыры і цэрквы.

Да апошніх дзён жыцця мітрапаліт верыў, што здолее кардынальна змяніць сітуацыю на карысць Уніяцкай царквы. Памёр Іосіф Вельямін Руцкі 5 студзеня 1637 года. Пахавалі яго ў славутым Віленскім Свята-Троіцкім манастыры.

Справа, якой Руцкі служыў усё жыццё, урэшце перамагла. Пасля перамяшчэння ў сярэдзіне XVII стагоддзя цэнтра праваслаўя ў старажытны Кіеў на доўгі час на беларускіх землях пануючай стала Уніяцкая царква.

Як бачна, трэці ўніяцкі мітрапаліт Іосіф Вельямін Руцкі — выдатны літаратар, філосаф, педагог, тэолаг і тонкі дыпламат. З яго імем звязана ўмацаванне Уніяцкай царквы Вялікага Княства Літоўскага, час яе небывалага росквіту. Як таленавіты пісьменнік-палеміст і яркі публіцыст Руцкі аказаў заўважны ўплыў на культуру і духоўнае жыццё Беларусі.

# ЛІДАР ПАЎСТАННЯ



Кастусь Каліноўскі — легендарная постаць нацыянальнай гісторыі і культуры, ідэолаг народнага адраджэння, аўтар першага палітычнага праекта стварэння нацыянальнай сацыяльна-арыентаванай дзяржавы.

Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі 2 лютага 1838 года ў маёнтку Мастаўляны (цяпер Гродзенскі раён). Бацька — Сямён Каліноўскі, беззямельны шляхціц з Горадні. Маці — Вераніка Рыбінская — памерла, калі хлопцу было пяць год.

Адукацыю Кастусь атрымаў у Свіслацкай прагімназіі, якую скончыў у 1856-м. Затым, на працягу 1856—1860 гадоў, навучаўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Там Каліноўскі пазнаёміўся з рэвалюцыйнымі ідэямі Чарнышэўскага і Герцэна, якія істотна паўплывалі на станаўленне яго светапогляду. У час вучобы ён браў актыўны ўдзел у працы беларускага студэнцкага зямляцтва.

Пасля вяртання на радзіму Кастусь Каліноўскі ў 1861 годзе разам з аднадумцам Валерыем Урублеўскім стварыў канспірацыйную арганізацыю, суполкі якой дзейнічалі ў Віленскай і Гродзенскай губернях. У 1862 годзе Каліноўскі стаў на чале Камітэта, што ажыццяўляў агульнае кіраўніцтва рэвалюцыйнай арганізацыяй.

Каб абгрунтаваць палітычную ідэалогію арганізацыі, пашырыць кола яе прыхільнікаў, Кастусь Каліноўскі наладзіў друк і выданне першай нацыянальнай газеты пад назвай *«Мужыцкая праўда»* (1862). Ён выразна ўсведамляў старую ісціну: спачатку мусіць быць слова, асвета, яднанне аднадумцаў. Менавіта таму Каліноўскі і стварыў друкаваны орган, які стаў найважнейшым сродкам агітацыі і кансалідавання нацыі.

На старонках сямі нумароў «Мужыцкай праўды» Каліноўскі грунтоўна распрацаваў асноўныя палажэнні канцэпцыі палітычнай і эканамічнай незалежнасці Беларусі, сфармуляваў фундаментальныя прынцыпы пабудовы дэмакратычнага грамадства.

Інтэлектуал перадусім абгрунтаваў крытэрыі ісціны і акрэсліў духоўныя арыенціры для нацыі. Ён шчыра вызначыў уласную светапоглядную пазіцыю. У другім нумары «Мужыцкай праўды» Кастусь Каліноўскі адзначаў: «Каб расталкаваць людзям, у чым праўда, я пішу пісьмо, а пісаці буду, як Бог і сумленне кажуць». Ён падкрэсліваў, што менавіта яго філасофкія і сацыяльныя прыярытэты найбольш адпавядаюць інтарэсам простых людзей. Звяртаючыся наўпрост да сялян, пісьменнік-інтэлектуал заклікаў, каб яны верылі яму і ішлі за ім.

Кастусь Каліноўскі пераканаўча даводзіў, што сацыяльная няроўнасць супярэчыць Божай волі і прыродзе чалавека. Публіцыст лічыў несправядлівым такі парадак, калі багатыя жывуць у непамернай раскошы, а сяляне цяжка працуюць, але жывуць у галоце і нярэдка вымушаны галадаць. На яго думку, словы цара і паноў, што яны клапоцяцца пра сялян,— суцэльны падман, бо сяляне цягам усяго жыцця гібеюць у нястачы: «Калі Бог стварыў усіх людзей вольнымі і ўсім даў адзінакую душу, так скуль жа гэта ўзялося, што адзін марнуе да і над людзьмі збыткуе, а другі, бедны, паншчыну служыць альбо аброкі ў казну плаціць? Кожны па-свойму талкуе, на сваю старану цягне. Цар кажа, што ён добра нам думае, а паны кажуць, што яны добра думаюць нам зрабіці, а мужык бедны ад іх дабросці як прападаў, так і прападае».

Кастусь Каліноўскі прапанаваў адметную канцэпцыю нацыянальнай гісторыі. Ён, у прыватнасці, слушна сцвярджаў, што ў старадаўнія часы на Беларусі не існавала прыгоннага права. Вольныя людзі спрадвеку вялі ўласную гаспадарку, без перашкод і абмежаванняў карысталіся дарункамі прыроды — лясамі і лугамі, рэкамі і азёрамі. «Быў то калісьці народ наш вольны і багаты, — пісаў Каліноўскі. — Не помняць гэтага нашыя бацькі і дзяды, но я вычытаў у старых ксёнжках, што так калісьці бывала. Паншчыны тагды ніякай не было. І няма чаго таму дзівавацїся, бо было лесу шмат, поля колька хочаш, а людзей-то мала, так нашто ж служыць паншчыну за зямлю, калі кожны мог лесу выцерабіць, хату сабе паставіць і меці сваё поле».

Паводле канцэпцыі Каліноўскага, паншчына і прыгон на Беларусі з'явіліся ў выніку складаных гісторыка-палітычных працэсаў і падзелу сацыяльных функцый паміж грамадзянамі. Паколькі не ўсе жадалі ўдзельнічаць у войнах і абараняць Айчыну, то быў прыняты закон, паводле якога тыя, хто адмаўляўся браць удзел у вайсковых паходах, мусілі адпрацоўваць на зямлі гаспадароў, якія ішлі на вайну.

Найбольш цяжкім у гісторыі беларускага народа, на думку Кастуся Каліноўскага, стаўся перыяд, калі край апынуўся пад уладай маскоўскіх цароў. Менавіта пасля анексіі Беларусі, сцвярджаў ён, пачалася нечуваная эканамічная эксплуатацыя сялян. Кастусь Каліноўскі станоўча ацэньваў дзейнасць генерала Тадэвуша Касцюшкі, які выступіў з ідэямі сацыяльнай роўнасці. Менавіта таму, на яго думку, расійскі імператар з дапамогай вайсковай сілы падавіў паўстанне.

Кастусь Каліноўскі — выдатны сацыяльны філосаф. Ён адкрыта заклікаў людзей рыхтавацца да змагання са зброяй у руках за ўласныя эканамічныя і палітычныя правы: «Так з гэтага пісьма і відна, што мужыкі панскія і казённыя не павінны плаціць ані чыншу панам, ані аброку ў казну за зямлю, бо гэта зямля да нас належыць; но калі будзе вайна з маскалём за нашу вольнасць, то той час трэба ўсім ісці на вайну проціў маскаля. А то для таго, каб хутчэй прагнаць маскаля з яго сабачым рондам, і каб ніколі ніякай нікому мужыкі паншчыны не служылі і ніякага ў казну аброку не плацілі, і каб на век вякоў народ наш быў вольны і шчаслівы».

Кастусь Каліноўскі адзначаў, што беларускі мужыцкі народ здатны не толькі пракарміць сябе, але і адстаяць уласныя правы, уласную праўду. У першым жа нумары «Мужыцкай праўды» ён выказаў веру ў тое, што надзеі і канкрэтныя патрабаванні беларусаў неўзабаве стануць шырока вядомыя ва ўсім свеце. Іншыя народы не толькі даведаюцца пра памкненні беларусаў, але гэтаксама пойдуць следам за імі: «Мінула ўжэ тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука здасца толькі да сахі, — цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці, і то пісаці такую праўду справядліву, як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце! Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ і вучыць сваёй мужыцкай праўды».

Кастусь Каліноўскі засяроджваў увагу на галоўных пытаннях: хто з'яўляецца ворагам сялян, хто дапаможа ім здабываць вольнасць, на каго яны могуць разлічваць пры змаганні за свае правы. Паводле меркавання інтэлектуала, ворагамі сялян з'яўляюцца шматлікія чыноўнікі і паны, а таксама імперскія ўладныя колы. На яго думку, сяляне змогуць знайсці саюзнікаў толькі сярод асобных мясцовых паноў і гараджан, якія будуць спрыяць ім здабываць свабоду.

Царскі маніфест аб скасаванні прыгоннага права, адзначаў Каліноўскі, на справе зусім не палепшыў становішча сялян, нічога не змяніў у лепшы бок. У ім толькі падман і хлусня: «А гэты маніфест, што цар з сенатам і з панамі для нас напісаў, то такі дурны, што чорт ведае да чаго ён падобны, — ніякай у нём няма праўды, няма з яго для нас ніякой карысці».

Кастусь Каліноўскі справядліва зазначаў, што шматлікія абяцанні з вуснаў цара і яго атачэння — даць сялянам вольнасць — на справе не выконваюцца і ніколі не будуць выконвацца, нягледзячы на гучныя заявы і адмысловыя цыркуляры. Наадварот, улады робяць усё магчымае, каб узмацніць эксплуатацыю працоўнага чалавека: «Праўда, абяшчалі-то калісь даць нам вольнасць, но як нам здаецца на наш мужыцкі розум, што хочуць ашукаці, бо калі праз шэсць лет нічога не зрабілі, то чэраз рок пэўне не зробяць. Могуць яшчэ напісаці і другі маніфест, яшчэ больш ад гэтага, но і з гэтага другога маніфеста нічога добрага, як і з першага, не будзе».

Кастусь Каліноўскі заклікаў сялян развітацца з сацыяльнымі ілюзіямі, марнымі спадзяваннямі на царскую ласку і клопат з яго боку. Працоўныя людзі, на яго думку, павінны як найхутчэй аб'яднацца і кансалідавацца дзеля абароны ўласных інтарэсаў, дзеля змагання за свабоду: «Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацися, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць. Но не доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, гдзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду. Вазьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай жа робяць па свентай справядлівасці: бо калі іначай — так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе».

Кастусь Каліноўскі абгрунтаваў ключавое філасофскае палажэнне аб адпрыроднай здольнасці і праве чалавека мяняць існуючы лад жыцця, уплываць на абставіны, пераадольваць бар'еры на шляху да свабоды. У трэцім нумары «Мужыцкай праўды» ён адзначаў: «Чалавек-то такую мае натуру, што альбо нічога не ведае і нічога меці не хоча, альбо калі даведаецца, то хоча зразумеці добра і дастаці ўсенька, што яму належыць. Гэта вялікая праўда». Галоўная перашкода на шляху да справядлівага вырашэння сацыяльных праблем і грамадскага прагрэсу, на думку інтэлектуала, — антынародны імперскі ўрад, які не толькі не дбае пра чалавека працы, а, наадварот, няспынна ўсіх «абдзірае і глуміць».

Ідэолаг нацыянальнага руху шчыра вітаў рост сацыяльнай актыўнасці працоўных сялян і гараджан, усведамленне імі ўласных палітычных і эканамічных правоў. Адукаванасць і абазнанасць простых людзей, паводле яго пераканання, непазбежна прывядуць да карэнных грамадскіх пераўтварэнняў: «От яшчэ нядаўна гаварылі нашыя, што яны створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі нявольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога меці не хацелі, — а чы сягодня гэтак скажуць, калі ўжэ ведаюць многа і многа хочуць? Сягодня ўсе ўжэ паразумнелі, усе ўжэ мужыкі талкуюць, што Бог стварыў чалавека, каб ён карыстаў з вольнасці справядлівай, і смяюцца, як гэта маглі інак думаці. Гэта права, што народ робіцца разумнейшым, выходзіць ад самога Бога, а хто яму схоча спраціўляціся, таго альбо сам Бог, альбо народ па прыказу Боскаму з зямлёю змяшае!»

Ідэю вызвалення сялян ад прыгону, паводле слоў Каліноўскага, упершыню выказалі французы, якія падчас вайны з Расіяй хацелі такім агітацыйным крокам схіліць на свой бок шырокія народныя масы. Гэта французскім уладам не надта ўдалося, але думка пра волю імкліва завалодала розумам і сэрцамі людзей.

Да несумненных заслуг Кастуся Каліноўскага належыць тое, што ён упершыню ў нацыянальнай філасофскай думцы ўсебакова абгрунтаваў зместавыя складнікі канцэпта «воля». На яго думку, воля ўключае эканамічныя, палітычныя і грамадзянскія свабоды людзей, правa асабістага выбару ў жыцці, свабоду сумлення, магчымасць удзелу ў вырашэнні агульнанацыянальных задач: «Мы сягодня ўсе ўжэ ведаем,

што чалавек вольны — гэта калі мае кусок сваёй зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць, калі плаціць малыя падаткі, і то не на царскія стайні, псярні і курвы, а на патрэбу цэлага народу, калі не ідзе ў рэкруты чорт ведае гдзе, а ідзе бараніці свайго краю тагды толька, калі які непрыяцель надыдзе, калі робіць усенька, што спадабае і што не крыўдзіць бліжняга і хвалы Боскай, і калі вызнае тую веру, якую вызнавалі яго бацькі, дзяды, прадзеды. От што вольнасць значыць. Сягодня то ронд маскоўскі нас не атуманіць, бо мы цяпер не такія дурныя, як былі ўперад, і пазналі, што нам не маніхвэстаў царскіх, а вольнасці патрэба».

На старонках газеты Кастусь Каліноўскі аргументавана тлумачыў, што цар і сенат падманам і пустымі абяцаннямі спрабуюць спыніць народныя пратэсты. Яны не толькі не задавальняюць справядлівых патрабаванняў людзей аб наданні ім вольнасцей, а, наадварот, узмацняюць ціск на працоўных, уводзяць новыя падаткі і павіннасці.

Працоўныя людзі, на думку Каліноўскага, павінны дамагацца сапраўднай волі, а не папяровых запэўненняў. Яны павінны дамовіцца міжсобку і ставіць перад уладамі ўзгодненыя патрабаванні: «Як я казаў, мы ўжэ пазналі, што нам не маніхвэстаў, а вольнасці патрэба — і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо. А для таго, дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужэ талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа. Толька, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваці трудна, бо Боска моц вяліка, а народу многа».

Ідэолаг дэмакратычных пераўтварэнняў заклікаў дзейнічаць рашуча і смела, спадзеючыся пераважна на ўласныя сілы і розум: «Так з гэтага пісьма і відна: што няма чаго ждаці ад нікога, бо той толька жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою — не шкадуйце працы, — каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюськам свеце. Бог нам дапаможа!»

Кастусь Каліноўскі ўпершыню ў нацыянальнай грамадска-палітычнай думцы вызначыў місію і функцыі народнага ўрада. Паводле яго канцэпцыі, урад ствараецца для таго, каб гарантаваць бяспеку грамадзян, адукоўваць людзей, падтрымліваць законнасць і парадак

у краіне, абараняць Айчыну ад знешніх ворагаў. У чацвёртым нумары «Мужыцкай праўды» ён літаральна пісаў: «Няма і куска зямлі на свеце, каб людзі былі адзін у другога ўсё добрыя, не хацелі жыці з крыўдаю свайго бліжняга. Для таго, каб была справядлівасць і праўда на свеце, а злыя людзі не збыткавалі і крыўды другім не рабілі, е ронд, што бярэ падаткі, робіць школы, наўчае кажнага, каб жыў па праўдзе, становіць суд; а калі гэта не памагае і робіцца несправядлівасць, то наймае войска і так сцеражэ кажнага ад ліха і здзерства. От на што ронд патрэбны».

Задача ўрада і дзяржавы — прыслухоўвацца да патрэб народа, выконваць яго волю, рабіць гэтак, каб кожнаму станавілася лепей і каб кожны пачуваўся шчаслівым: «І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ронд глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народаві лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ронду, а ронд для народу».

На думку Каліноўскага, урад і дзяржаўныя чыноўнікі на Беларусі, у адрозненне ад заходніх краін, чыняць сапраўдны гвалт супраць людзей, не падтрымліваюць парадку, не адукоўваюць належным чынам, не забяспечваюць справядлівасці ў судах. Яны ўсё робяць выключна дзеля ўласнай карысці: «Гэтак, дзецюкі, робіцца на цалюськам свеце. А калі за граніцаю, чы то ў Француза, чы ў Англічаніна, народ спагадае рондаві, то для таго, што ронд слухае народу і робіць так, каб народ быў багаты і шчаслівы. А ў нас, дзецюкі, чы гэтак? Чы ў нас е справядлівая наука ў школах, што учыць жыці без крыўды другога? Чы е праўда і справядлівасць у судзе? Чы можа чалавек быць пэўны, што яго ніхто не скрыўдзіць? Чы ронд маскоўскі думае аб людзях, каб яны маглі жыці шчасліве? Самі скажэце».

Публіцыст меў усе падставы сцвярджаць, што імперскія ўлады на Беларусі ажыццяўляюць русіфікацыю праз школы, у судах толькі абіраюць грамадзян і аніякай праўды там нельга знайсці. Паводле яго слоў, ніхто ў краіне не пачуваецца абароненым, войска выкарыстоўваецца для падаўлення народных пратэстаў. Расійскі ўрад на Беларусі робіць усё, каб абкласці сялян новымі падаткамі і да ніткі абрабаваць іх: «У нас, дзецюкі, адно учаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе заўсім перарабіці на маскаля.

Суды маскоўскія — гэта воўчая яма, гдзе не разбіраюць, чы за табою праўда, чы не, а скубуць адно як могуць. Бяспечнасці пад маскалём ніякай няма, хто дужшы, той і глуміць; а войска-то не для таго трымаюць, каб аберагаці кожнага ад злых людзей і ад глуму, а для таго, каб не пазволіць народаві і застанаць, калі пазнае сваю няволю, калі зглядзіцца, што дзяруць з яго над сілы. Ронд маскоўскі, як той ліхі пан, што, пачаўшы ад камісара аж да цівуна, пазваляе кажнаму народ глуміці, каб адно як найбольш грошай у кішэнь яго дасталася. Ронд маскоўскі, дзецюкі, не так робіць, як рабіці трэба, не думае, каб палегчыць народаві, а вымышляе адно спосабы, як абадраці і заўсім людзей зглуміці».

Кастусь Каліноўскі даступна тлумачыў людзям, што чыноўнікі на месцах паслядоўна ажыццяўляюць палітыку вышэйшых улад, выконваюць волю цара і яго бліжэйшага атачэння. Паводле слоў пісьменніка-інтэлектуала, на Беларусі дастаткова таленавітых і сумленных людзей, якія б маглі быць добрымі ўрадоўцамі і аддана служыць уласнаму народу. Але менавіта паводле распараджэнняў цара метадычна вынішчаецца эліта краіны, а лепшыя людзі высылаюцца ў Сібір і на катаргу: «Ронд — гэта заўсім так сама, як чалавек. І як чалавек мае галаву на тое, каб думаў, а рукі і ногі — каб зрабіў так, як задумаў, так ронд мае цара, каб рондзіў, а чыноўнікаў па ўсіх местах і мястэчках — каб рабілі, як цар захоча. Для таго як галава ў чалавека калі задумае кепскае, то ногі і рукі кепскае зробяць, так у рондзе: калі цар глуму захоча, то чыноўнікі глуму наробяць. А з гэтага-то і відаць, што здзерства, якое ў нас вычаўпляюць, то не для таго робіцца, што ў нашым краю няма людзей, здатных на чыноўнікаў, гатовых і жыццё сваё аддаці для народу, а для таго, што цар гэтакіх людзей у Сыбір высылае, а за нашыя грошы назначае чыноўнікамі гэтых, што адно самі людзей глумяць, другім глуміці пазваляюць і Бога не баяцца. Гэтакі чыноўнік не давядзе ўжэ да розуму — ён, калі і няма прыказу цара, то сам выдумае спосаб, як абадраці бедны народ. І гдзе ж тут шукаці праўды?»

Паводле высновы Каліноўскага, галоўнае грамадскае зло і асноўная перашкода на шляху народа да волі — цар і яго антынародная палітыка. Менавіта цар загадвае абіраць працоўных, устанаўлівае невыносныя падаткі, набірае войска, з дапамогай якога трымае ўсіх у няволі, гвалціць і нішчыць: «Глум, здзерства і несправядлівасць

выходзяць ад самаго цара — ён-то з нас выбірае войска, ён-то з нас выдзірае грошы нібы на патрэбу народа, а узяўшыся за ўсімі гыцлямі за рукі, адно нас цяменжыць, трымае ў няволі».

Кастусь Каліноўскі выказваў шчырую радасць з той нагоды, што сяляне ўсё шырэй усведамляюць неабходнасць волі, гатоўнасць змагацца за яе, каб нарэшце спыніць бясконцыя здзекі і глумленні. На думку інтэлектуала, цар баіцца справядлівых патрабаванняў сялян, бо выдатна ўсведамляе, што ў выпадку, калі людзі атрымаюць вольнасць, непазбежна скончыцца яго неабмежаванае самаўладдзе: «Но прыходзіць яму ўжэ канец, бо мужык пачуў вольнасць, а мужыцкая вольнасць — гэта ўсё роўна што шубеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцеляў народу! Для таго-то цар спыняе вольнасць мужыцкую і спыняці будзе, для таго-то калі ў паноў сто раз пытаў, якую яны хочуць даці вольнасць мужыкам, у мужыкоў і разу не спытаў, якой яны хочуць вольнасці. Ён знае, якая-то вольнасць мужыцкая, ён ведае, што наш мужык хоча, каб ніхто не смеў драці з нікога — і для таго як мы яго ронду, так ён нашай вольнасці баіцца».

Асветнік папярэджваў кіруючыя колы аб наступленні хуткай расплаты за здзекі з народа: «Дзяры з нас, цар, дзярэце з нас, чыноўнікі яго, хаця да астатняй шкуры, но памятайце, што і на нас прыйдзе пара, памятайце, што калі мужык разгуляецца, то, як свет шырокі, кроў ваша пальецца!»

Кастусь Каліноўскі рэзка асуджаў рэкруцтва і выкрываў сутнасць прымусовых прызываў у войска: адарваныя ад радзімы і ад родных каранёў вясковыя хлопцы вымушаны праліваць кроў за чужыя інтарэсы, гінуць у далёкіх краях, а маткі змушаны ліць горкія слёзы па страчаных дзецях. У пятым нумары «Мужыцкай праўды» ён пісаў: «Мала таго, што з мужыка дзяруць на ўсякія падаткі астатню кашулю, мала таго, што ніколі не можаш дабіціся да куска хлеба, а ўсё, што заробіш, аддаці мусіш чорт ведае каму і чорт ведае на што, мала таго, кажу, што жыццё нашае горша сабачага, — но скажэце, мае міленькія, чы есць паміж намі хто-лень, каб не аплаківаў яшчэ альбо свайго сына, альбо свайго брата, альбо свайго мужа, што цар забраў яго ў рэкруты да і загнаў чорт ведае гдзе? Працуе бацька цяжка на дзецеткі свае, гадуе маці сына, ночанькі не спіць, а цар, сабача яго вера, як

гэты воўк, закраўшыся, вяліць лавіці, у дыбы скуці і гнаці ад радні далёка. А маскоўскае жыццё — горка ўжэ доля. Забыці там трэба, што есць у нас наша бацькаўшчына, што есць у нас наша радня, а аддаці жыццё не за дабро і шчасце ўсіх, а за ліха і вечну няволю нашых братоў. Гэтакага ліха, дзецючкі, і скаціна не знае, а вы, мае міленькія, пэўне, і не падумалі, скуль яно на нас навязалася, чы гэтак было за нашых дзядоў і прадзедаў і чы гэтак мусіць быці?»

Інтэлектуал тлумачыў людзям адрозненні паміж рэкруцтвам і справядлівым удзелам у абароне Айчыны. Паводле яго слоў, у ранейшыя часы сяляне таксама бралі ўдзел у вайсковых паходах. Але яны за гэта атрымлівалі ад урада шэраг прывілеяў: ім змяншалі падаткі або наогул вызвалялі ад іх, узнагароджвалі новымі землямі, надавалі шляхецкія правы ўсёй вёсцы. Зараз жа за 25 гадоў службы ў маскоўскім войску просты беларус не атрымліваў нічога, аніякай палёгкі, каб неяк дажыць да скону веку. Ён быў вымушаны пад старасць ісці жабраваць або зноўку цяжка працаваць, не маючы аніякіх прывілеяў ад цара.

Каліноўскі справядліва ўшчуваў сялян, якія пакорліва і ціхмяна выконвалі царскія загады. Публіцыст раіў ім усім гуртам выступіць супраць чарговага пабору ў рэкруты. Ён тлумачыў: калі цар здолее ўзяць пяць тысяч рэкрутаў, дык ён на гэтым не спыніцца і ў наступны раз запатрабуе ў два разы болей. Таму трэба аказваць супраціў усім тым, хто прыедзе ў вёскі выконваць царскі загад.

Кастусь Каліноўскі заклікаў сялян прыслухацца да яго шчырых парад, калі яны хочуць здабыць волю і жыць шчасліва. Ён раіў ім усё рабіць паводле сумлення і дзейнічаць у адпаведнасці з уласным розумам. У шостым нумары «Мужыцкай праўды» ён падкрэсліваў: «Вы адно слухайце мяне, талкуйце добра і рабеце так, як сумленне вам скажа, а Бог яшчэ злітуецца над намі і дасць нам шчасце, і дабро ў нас будзе». Кастусь Каліноўскі прапаноўваў звяртацца да Бога з малітвай, каб той дапамог Беларусі вызваліцца ад царскага прыгнёту, ад праваслаўных папоў і ненасытных чыноўнікаў.

Беларускі інтэлектуал распрацаваў іерархію духоўных і маральных каштоўнасцей для чалавека. Галоўнае месца сярод іх займалі «зямля» і «справядлівая воля». Менавіта зямлі і волі, сцвярджаў Кастусь Каліноўскі, чакалі працоўныя беларусы ад цара і яго чыноўнікаў, але не дачакаліся. У сёмым нумары «Мужыцкай праўды»

Кастусь Каліноўскі пісаў: «Абяцаў нам цар зямлю. Чыноўнікі, папы да маскалі — усі ў адзін голас дурылі нас, што цар нам шчыра думае да дасць волю, справядлівую волю. І слухалі мы цара. Казаў ён нам яшчэ два гады служыць паншчыну, і паншчыну мы адбывалі. Наказаў цар некрута, далі мы яму і некрута, а самі моўчкі глядзелі, як нашых сынкоў да братоў на край свету пагналі. Накінуў нам падушнага — плацілі мы падушнэ за жывых і ўмёрлых, за дзяцей да за старцаў нядужых, плацілі мы земску павіннасць да ўсялякія зборы, плацілі на пасярэдніка, на праўленне, старшынам, пісарам, акружным, асэсарам — да Бог ведае каму ні плацілі, — да ўсё не пыталісь, куды йдуць нашы грошы. Усі нас крыўдзілі да ўсі абдзіралі; біў нас сільнейшы, крыўдзіў багатшы — а на тое нідзе не было справядлівасці. Мы ўсё маўчалі да слухалі, усім кланялісь, за ўсё плацілі, усё цярпелі, ждучы канца, бо спадзяялісь справядлівай вольнасці, спадзяялісь, штоададуць вольную зямельку да ў падушнам справядлівы пабор будзе. Заміст таго, штоб аддаць нашу зямельку да якую ж зямлю?! Гэту, што з дзядоў-прадзедаў кроўнаю працай дзесяць раз ужэ на яе зарабілі да заплацілі. За гэту зямлю цар наказуе нам чыншы плаціць у казначэйства. Да якія ж чыншы? Якія ўздумаецца пастанавіць чыноўнікам да судовым кравапійцам, да яшчэ з кожным годам усё большыя да большыя. Так волі нам ужэ і не будзе: век цэлы плаці да на век нясі астаткі, штоб адплаціцца палатам да праўленням. Падмануў жа нас цар, а яго служкі — папы, чыноўнікі да маскалі — падвялі нас, як чорт добрую душу».

Калі Каліноўскі зразумеў, што яго словы і патрабаванні аб вызваленні сялян не будуць пачуты ўладамі, ён стаў адкрыта заклікаць працоўны люд да ўзброенага паўстання за свае правы, за зямлю і волю: «Падумайце добра, да, памаліўшыся Богу, станьма дружна разам за нашую вольнасць! Нас цар ужэ не падмане — не падвядуць маскалі! Няма для ніх у нашых сёлах ні вады, ні хлеба — для ніх мы глухі і немы і нічога не бачылі і не чулі. А пакуль яшчэ пара, трэба нашым хлопцам спяшыць з віламі да з косамі там, гдзе дабіваюцца волі да праўды — а мы, іх бацькі да жонкі нашы, сцерагці будзем да ўведамляць, адкуль на ніх цягне нячыста маскоўска сіла, да ад душы памагаць усялякімі спосабамі дзецюкам нашым, што за нас пойдуць біцца. А будзе ў нас вольнасць, якой не было нашым дзядам да бацькам».

У 1863 годзе Кастусь Каліноўскі асабіста ўзначаліў узброенае паўстанне на Беларусі. Жорсткі час нараджаў жорсткія спосабы і сродкі вырашэння грамадскіх канфліктаў. Каліноўскі выдатна ўсведамляў жыццёвыя рэаліі. У сваёй барацьбе ён выкарыстоўваў увесь арсенал наяўных сродкаў, у тым ліку і зброю.

Кастусь Каліноўскі непасрэдна кіраваў дзейнасцю паўстанцкіх атрадаў, якія змагаліся з карнікамі. Падчас паўстання выявіліся лепшыя рысы нязломных змагароў за Беларусь. Гэта быў велічны і адначасна трагічны момант у гісторыі, дзе мела месца геравічнае і высакароднае, але сустракаліся таксама маладушнасць і нават здрада.

Аднак перамагчы рэгулярную армію Расійскай імперыі звычайныя сяляне і шляхта былі не ў стане. Нацыянальна-вызваленчае паўстанне было жорстка задушана імперскімі акупацыйнымі войскамі. У студзені 1864 года кіраўнік паўстання быў арыштаваны.

У час знаходжання ў турме Кастусь Каліноўскі звярнуўся з лістом да народа. *«Пісьмо з-пад шыбеніцы»* займае асаблівае месца ў яго творчай спадчыне і ў нацыянальнай публіцыстыцы. У ім у інтэграваным выглядзе выкладзены яго разважанні пра грамадства і шляхі вызвалення беларускага народа з-пад царскага прыгнёту.

У творы-запавеце Кастусь Каліноўскі, найперш, вызначыў розныя этнакультурныя вытокі беларускага і рускага народаў, адкрыта выказаў непрыняцце тыраніі, якая ўсталявалася ў Расійскай імперыі паводле ўзору ўсходніх дэспатычных рэжымаў. Ён лічыў гістарычнай трагедыяй уваходжанне беларускіх зямель у склад Расіі і пісаў пра небяспеку навязвання беларусам усходніх палітычных рэжымаў. Інтэлектуал асудзіў бясконцыя малебны ў Праваслаўнай царкве за цара, нібы той з'яўляўся Богам на зямлі і галоўным аўтарытэтам у царкве, дзе «адно за цара да за цара маліціся трэба, як бы ўжэ цар быў Богам на свеце, а вера да казны належала».

Царская палітыка на Беларусі, на думку Кастуся Каліноўскага, набыла дзікія праявы і самыя пачварныя формы. Публіцыст смела выступіў супраць татальнай русіфікацыі насельніцтва, супраць закрыцця беларускіх школ, знішчэння дэмакратычных пачаткаў самакіравання, неабмежаванай улады паноў і іх здзекаў над людзьмі. Ён асудзіў прадажнасць судоў, беспадстаўныя высылкі мужыкоў у Сібір і забранне непакорных сялян у салдаты на ўсё жыццё: «Пагляньма ж

цяпер, што ён зараз пачаў рабіці, гэты дабрадзей мужыцкі, як сам цяпер кажа: найперш, каб не магло вырабляціся сумленне народнае, пакасаваў маскаль усе сходкі людзей выбарных, усе школы нашы, а так, абабраўшы з сумлення да і з розуму, а завёўшы ў нас свой парадак маскоўскі, пазволіў кожнаму дужшаму глуміцца над бедным як толька хоча. Паноў заўсім увольніў ад усякіх ценжараў, даў ім права завадзіць паншчыну маскоўскую, а яна-то не тры дай не шэсць дзён з хаты, но шэсць дзён з душы рабочай. Мужыку не толька што не даў ніякага права, но яшчэ адабраў і тое права, якое ён меў ад ронду польскага; многа людзей вольных да і каралеўшчызны вялеў у паншчызну ўпісаць, кажнаму можна было мужыка крыўдзіць, а чыноўнікі маскоўскія не рабілі яму ніякай справядлівасці, но яшчэ калі суд на глум не ссылаў мужыка ў Сібір, то аддаваў на вечнасць у салдаты».

Кастусь Каліноўскі яшчэ раз адкрыта ўхваліў дзейнасць генерала Касцюшкі і яго імкненне вызваліць сялян з-пад жорсткай эксплуатацыі, надзяліць палітычнымі і эканамічнымі правамі. Ён асудзіў падаўленне паўстання канца XVIII стагоддзя расійскімі войскамі: «А енарал Касьцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і а каторым народ наш спявае, што ён вельмі быў добрым і маскаля крэпка біў, высказаўся ён за вольнасць нашу, но маскаль то перашкодзіў і завёў свае ронды».

Асабліва Кастусь Каліноўскі абураўся царскай імперскай палітыкай у галіне адукацыі і выхавання. Ён асуджаў насаджэнне расійскай ідэалогіі і чужых беларускаму народу каштоўнасцей: «Маскаль мала таго, што гэтак не робіць, но яшчэ там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хоча, а ў гэтыя школы адно з другога канца свету маскалёў насылаюць, што толька ўмеюць красці, людзей абдзіраці дай служыць за грошы паганаму дзелу на глум народу. Дзікі маскаль думае, што калі можа народ абдзіраці за ўсякага дабытку, то і патрапіць кажнаму ўбіць у галаву свой дурны розум, дурны для таго, што розум маскоўскі калі не раз харашо кажа, то ніколі па-людску нічога не робіць, адно людзей абманывае, а перад кнутом царскім гнецца, як астатні валацуга».

Публіцыст адзначаў, што дзеля вызвалення ўвесь народ павінен прарабіць велізарную працу, адчуць уласную духоўную моц і

здольнасць самастойна вырашаць агульнанацыянальныя пытанні: «Но не мала працы трэба, каб здабыць гэту свабоду, каторай жджэ ўсякі, пачаўшы ад дзіцяці да старога дзеда, бо калі маскаль гэтулькі лет упускаў свае пазуры ў грудзь нашу, так не дзіва, што трэба пацярпець доўга, каб вырвацца з-пад яго братняй апекі, для таго і не без карысці будзе, калі цяпер паталкуем, якія мы маем на то спосабы».

Беларускі інтэлектуал вельмі слушна вызначыў магістральны шлях пераадолення агульнанацыянальных праблем. Галоўны сродак вызвалення ад палітычнай і эканамічнай залежнасці, на яго думку, — развіццё навукі і ведаў. Ён падкрэсліваў: «Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, папраўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць».

Ускладаць залішнія спадзяванні на дапамогу іншых народаў, паводле аўтара «Пісьма з-пад шыбеніцы», — марная справа. Трэба разлічваць на сябе і спадзявацца на ўласныя сілы і здольнасці. Кожны беларус павінен сумленна і самаадданa выконваць свае абавязкі, працаваць дзеля ўласнага дабрабыту і на карысць роднай Бацькаўшчыны. Пісьменнік-інтэлектуал агучыў універсальны грамадскі лозунг: «Няхай кожан робіць, як яму ляпей здаецца».

Кастусь Каліноўскі марыў пра народны ўрад, які б шчыра дбаў пра інтарэсы працоўных беларусаў, мацаваў духоўны і эканамічны патэнцыял краіны. З верай у перамогу і адраджэнне народа ён пісаў: «Нам адно сільна з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд наш павінен быць на ўсё чуткі, каб мог для дабра народнага за ўсяго карыставаць; сілы нашы яшчэ вялікі, ваяваць з німі можам бог ведае як доўга, но для таго трэба, з аднэй стараны, іх аберагаць, а з другой — вырабляць што раз то новыя. І так калі паўстанне зроблена пад добрую пару — узрастае і ажыўляе народ, не ў час — марнуе сілы кожнага, аслабляе ў прастоце духа дай разводзіць страх і няверу ў дзела наша, у моц Божу».

Лідар беларускага нацыянальнага руху слушна засцерагаў ад паспешлівасці і надзеі на імклівыя грамадскія пераўтварэнні. Ён указваў на неабходнасць выканання велізарнай працы ва ўсіх сферах жыцця: «Работа тут не хутка дай непаказна, но за то пэўна, і яна нас давядзе

да канца добрага. Работа тут сярмяжна, для таго каб была скутэчна, павінна быць так шчыра і проста, як тое сэрца, што б'е пад сярмягай, як той розум мужыцкі, што не перабірае, калі рабіць трэба».

Пры гэтым Кастусь Каліноўскі справядліва лічыў, што народ, каб адстаяць уласныя правы і захаваць гістарычную перспектыву, мае права на радыкальныя дзеянні, на ўзброены выступ супраць прыгнятальнікаў. Паводле яго перакanання, зусім не варта звяртаць увагі на выбар сродкаў змагання, асабліва калі размова ідзе пра выжыванне і захаванне ўласнай будучыні: «Ты, аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну. Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута; гэта твае спосабы, бо табе, як таму мужыку нявольнаму, бяспраўнаму, не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога не можна. А калі народы заграмічныя, з дзіва разінуўшы рот, скажуць: «шалёныя», Ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленне цяжкім грэхам ляжа».

У вершы *«Марыська чарнаброва, галубка мая»* Кастусь Каліноўскі выказаў гатоўнасць памерці за праўду, пажадаў народу як найхутчэй здабыць шчасце і свабоду:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яська твайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.

А калі слова пяройдзе у дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.

Як бачна, Кастусь Каліноўскі з'яўляўся лідарам радыкальнага кірунку ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху другой паловы XIX стагоддзя. Ён выступаў за ліквідаванне царскага самаўладдзя, абараняў грамадзянскія і эканамічныя правы беларускіх сялян і гараджан, дамагаўся палітычнай незалежнасці Беларусі. Творам Каліноўскага ўласцівы інтэлектуальнасць, аргументаванасць, даступнасць выкладу, патрыятызм і высокі грамадзянскі пафас.

Кастусь Каліноўскі — велічная і сапраўды гераічная постаць нацыянальнай гісторыі, чалавек слова і гонару, надзвычай шчыры і самаахвярны. Сэрцам і розумам ён адчуў неабходнасць служэння беларускаму народу. Разняволенне нацыянальнага духу, вырашэнне сацыяльных праблем, дасягненне шчасця для ўсіх людзей — сэнс і місія дзейнасці героя. Высокія ідэалы свабоды, роўнасці і справядлівасці для Кастуся Каліноўскага — вышэй за ўласнае жыццё. Тут ён выяўляецца як рамантык і нацыянальны прарок.

Каліноўскі прагнуў палітычнага, нацыянальнага і эканамічнага вызвалення беларускага народа і ўсіх народаў Расійскай імперыі. Ён марыў пра стварэнне нацыянальнай дзяржавы і народнага ўрада, які б эфектыўна абараняў краіну ад знешніх ворагаў і забяспечваў правы грамадзян. Царская ўлада з'яўлялася галоўным бар'ерам на шляху рэформ і грамадскага прагрэсу. Таму галоўнай тактычнай задачай для лідара паўстання было знішчэнне царызму, манархіі і расійскай дзяржаўнай бюракратыі. Кастусь Каліноўскі выступаў за пабудову дэмакратычнай і прававой дзяржавы, за ўсталяванне на Беларусі справядлівай судовай сістэмы.

Да несумненных заслуг Каліноўскага належыць і тое, што ён патрабаваў развіцця асветы і адукацыі на беларускай мове, заклікаў да выхавання моладзі на грунце нацыянальных каштоўнасцей.

Відавочна, што ён быў мужны ў словах і гераічны ва ўчынках. Кастусь Каліноўскі і яго аднадумцы выдатна ўсведамлялі магутнасць імперыі і царскай улады. Яны таксама бачылі непадрыхтаванасць беларускіх сялян да паслядоўнага змагання за ўласныя правы. Але яны не збаяліся, абаперліся менавіта на простых людзей і адкрыта выступілі супраць невымернай сілы.

Каліноўскі быў жорстка пакараны царскім самаўладдзем. Інтэлектуальнаму лідару паўстання, аднаму з найбольш адукаваных людзей свайго часу, быў вынесены смяротны прысуд. 22 сакавіка 1864-га яго павесілі ў Вільні ва ўзросце 26 гадоў.

Але справа Кастуся Каліноўскага ўрэшце перамагла. Дзякуючы менавіта такім волатам духу беларусы сёння маюць уласную дзяржаву, урад, адукаванае грамадства. На палітычнай карце свету існуе незалежная дзяржава — Рэспубліка Беларусь, якая з'яўляецца паўнаважным суб'ектам міжнароднага права і міжнародных адносін.

# АКАДЭМІК

*Вацлаў Ластоўскі — унікальная постаць у беларускай літаратуры і культуры пачатку XX стагоддзя. Таленавіты пісьменнік, этнограф, гісторык, кнігазнавец, грамадскі дзеяч і старшыня Урада Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Вацлаў Ластоўскі пакінуў багатую мастацкую і інтэлектуальную спадчыну. У гісторыю нацыянальнай літаратуры ён увайшоў як аўтар выдатных аповесцей і апавяданняў, прыпавесцей і абразкоў, яркіх успамінаў і публіцыстычных твораў.*

## I



арадзіўся Вацлаў Ластоўскі ў 1883 годзе ў маёнтку Калеснікаў (Глыбоцкі раён). Пачатковую адукацыю атрымаў дома, затым вучыўся ў вясковай школцы, якая была ў суседняй вёсцы Стары Пагост. Нейкі час юнак навучаўся лекарскай прафесіі ў дзядзькі Францішка Ластоўскага. У 1896 годзе ён перабраўся ў Вільню, дзе тры гады навучаўся купецкай справе.

У 1899 годзе Ластоўскі накіраваўся ў Пецярбург. Там зарабляў на жыццё працай бухгалтара, бібліятэкара, а ў вольны час слухаў лекцыі ва ўніверсітэтах. У 1906 годзе яго арыштавалі за прапаганду сацыялістычных ідэй і на некалькі месяцаў адправілі за краты.

З 1906 года Ластоўскі жыў у Рызе, дзе далучыўся да беларускага руху, стаў сябрам Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

У сакавіку 1909 года Вацлаў Ластоўскі заняў пасаду сакратара «Нашай Нівы», якую займаў да 1914 года. Ён таксама загадваў

першай беларускай кнігарняй у Вільні. Ластоўскі працаваў плячо ў плячо з волатамі нацыянальнага адраджэння — Янкам Купалам, Ядвігіным Ш., братамі Луцкевічамі.

Вацлаў Ластоўскі па-сапраўднаму захапіўся вывучэннем гісторыі Беларусі. У 1910 годзе ён апублікаваў першую ў нацыянальнай гістарыяграфіі абагульняльную працу «Кароткая гісторыя Беларусі», апісаную даступна і ярка. Ва ўступным слове да кнігі аўтар вельмі сціпла ацэньваў вынікі ўласнай працы. Але насамрэч гэта была кніга, якая закладвала фундамент нацыянальнай гістарыяграфіі, акрэслівала яе важнейшыя напрамкі і галіны.

Да галоўных вартасцей «Кароткай гісторыі Беларусі» належыць тое, што на яе старонках вучоны прадставіў якасна новую канцэпцыю дзяржаўнасці Беларусі і гісторыі беларускага народа як адметнай супольнасці, што сфарміравалася на грунце плямён, якія жылі ў басейнах Дзвіны, Прыпяці, Дняпра, Сожа і Нёмана — крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і літвінаў. На падставе аб'ектыўных крытэрыяў ён прапанаваў навуковую перыядызацыю нацыянальнай гісторыі.

Вацлаў Ластоўскі ўнікнуў класавага падыходу пры асвятленні палітычных і грамадскіх падзей. Ён упершыню звярнуў увагу на дзейнасць буйных палітычных асоб, князёў і магнатаў, дзеячаў культуры і царквы, паказаў іх ролю і месца ў нацыянальнай гісторыі. Вучоны раскрыў малавядомыя факты знешняй палітыкі і дыпламатыі, асвятліў шматлікія вайсковыя падзеі, адзначыў найбольш буйныя культурныя здабыткі беларускага народа.

Вацлаў Ластоўскі актыўна друкаваўся на старонках «Нашай Нівы». Тут былі змешчаны яго яркія апавяданні і абразкі: *«Нарадзіны»* (1909), *«Зайчык»* (1909), *«Слёзы», «Мары», «Лебядзіная песня»* (1910), *«Панас гуляе»* (1910), *«Краскі»* (1910), *«Мост у Кутах»* (1910), *«Апаўшае лісце»* (1910), *«Голад»* (1911), *«Хрыстос нарадзіўся»* (1911), *«Дзень ружавай кветкі»* (1912). Ужо першыя літаратурныя творы Ластоўскага сведчылі пра яго несумненны пісьменніцкі талент, асаблівую ўвагу да ўнутранага свету герoeў, імкненне да пабудовы складаных сюжэтаў, яркіх дыялогаў, старанную працу над мовай і стылем твораў.

Падчас працы ў «Нашай Ніве» Вацлаў Ластоўскі напісаў шмат нарысаў і публіцыстычных артыкулаў. Асабліва значны яго артыкул

*«Колькі слоў аб даўняй веры беларусаў»* (1910). У ім пісьменнік-інтэлектуал звярнуўся да міфалогіі, падаў звесткі пра пантэон язычніцкіх багоў — Перуна, Воласа, Ладу, Дажбога, Ярылу, раскрыў сімвалічную сутнасць старадаўніх свят і абрадаў беларусаў.

На старонках «Нашай Нівы» пісьменнік змясціў шэраг папулярных артыкулаў на гістарычную тэматыку: *«Земскія суды»* (1912), *«Копныя суды»* (1912), *«Станы ў старой Беларусі»* (1912), *«Раздзелы і сваркі»* ( 1912), *«Хлебаробства на Беларусі ў даўнія часы»* (1914).

У 1912 годзе Вацлаў Ластоўскі апублікаваў аповесць *«Прыгоды Панаса і Тараса»*. Яна была надрукавана ў Пінску асобнай брашурай пад псеўданімам Арцём Музыка. Аповесць «Прыгоды Панаса і Тараса» — выключна яркі і надзвычай цікавы празаічны твор. Яна з'яўляецца істотным укладам пісьменніка ў развіццё сатырычна-гумарыстычнай традыцыі, якая мела глыбокія карані ў нацыянальнай літаратуры. У аповесці мноства забаўных здарэнняў і карнавальных сцэн.

Твор скіраваны супраць палякаў, іх непамерных амбіцый і ганарыстасці. Сюжэт аповесці пабудаваны паводле прыгодніцкай логікі. Беларускія сяляне — Панас і Тарас, што жывуць у адной з вёсак на Піншчыне, выпраўляюцца ў падарожжа. Яны хочуць паглядзець свет, убачыць, як жывуць іншыя людзі. Падрыхтаваўшы калёсы і назапасіўшы ежы, яны накіроўваюцца ў бок Берасця, а затым трапляюць у Польшчу. Там сяляне назіраюць дзівосныя падзеі, якія пісьменнік напаўняе сімвалічным сэнсам. Тамтэйшыя жыхары — мазуры — паводзяць сябе незвычайным чынам, камічна і надзвычай пацешна. Яны амаль нічога не ўмеюць рабіць па-людску. У выніку, беларускія сяляне — Панас і Тарас — навучаюць іх шмат якім рэчам, разнастайным побытавым і гаспадарчым заняткам: як правільна надзяваць нагавіцы, як накарміць кароў свежай травой, як падрыхтаваць лазню, як узвесці жыллё. Пісьменнік пакеплівае з мазураў, смяецца з іх блукліваcці, паказвае іх адпрыродную нягегласць, някемлівасць, а часам і дзікунства, як, напрыклад, звычай запрагаць жанчын у плуг замест валоў.

Аповесць «Прыгоды Панаса і Тараса» стылёва надзвычай адметная. Майстар слова ўмела выкарыстоўваў казачны стыль, устойлівыя эпічныя формулы, якія шмат разоў паўтараюцца, а таксама рыфму і рытмізаваныя малюнкі: «Едуць сабе, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі —

пык! пык! пык! — пакурваюць. Конікі — трух! трух! трух! — патрухваюць».

Шырокі грамадскі водгук атрымаў артыкул Вацлава Ластоўскага *«Сплачывайце доўг»*, апублікаваны ў «Нашай Ніве» 5 ліпеня 1913 года. У ім пісьменнік-інтэлектуал акрэсліў шляхі развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства. Ён вельмі высока ацэньваў грамадскую місію літаратараў — паэтаў і празаікаў. «Паэта,— падкрэсліваў Ластоўскі,— павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народа, павінен быць суддзёй і цветам душы яго, павінен выяўляць красу свайго народа і краю».

У артыкуле *«Родная мова»* (1914) Вацлаў Ластоўскі прадставіў фундаментальнае асэнсаванне ролі роднай мовы ў развіцці беларускага грамадства і нацыі. Ён узрушана пісаў: «Родная мова наша для нас — гэта музыка ўсіх пачуццяў, якія перажывае народ наш: яго болесцей і радасцей, голас яго сэрца і святло яго розуму».

Працуючы ў «Нашай Ніве», Вацлаў Ластоўскі дапамог Максіму Багдановічу ў падрыхтоўцы і выданні «Вянка» (1914) — адзінага прыжыццёвага зборніка твораў геніяльнага паэта.

## II

Побач з навуковай і творчай працай Вацлаў Ластоўскі ўвесь час актыўна займаўся палітычнай дзейнасцю. З 1915 года ён увахо дзіў у склад кіраўніцтва партыі «Хрысціянская злучнасць». Ластоўскі браў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы «Мемарандума прадстаўнікоў Беларусі» (1916), які быў накіраваны на міжнародную канферэнцыю ў Лазане (Швейцарыя). У дакуменце, які меў стратэгічнае значэнне, абгрунтоўвалася права беларусаў на ўласную дзяржаўнасць.

З 1918 года Вацлаў Ластоўскі з’яўляўся сябрам Віленскага беларускага савета. Менавіта ад гэтай арганізацыі ён быў накіраваны ў сакавіку ў склад Рады БНР. Напэўна, ён узяў дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы асноватворных дакументаў БНР, у прыватнасці, «Трэцяй Устаўнай Граматы», прынятай 25 сакавіка 1918 года. Вацлаў Ластоўскі зрабіў надзвычай шмат для ўвасаблення ў жыццё ідэі незалежнай і вольнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

У канцы 1918 года Ластоўскі выконваў абавязкі беларускага аташэ пры пасольстве Літвы ў Берліне, дзе працягваў адстойваць інтарэсы беларусаў. У 1919 годзе ён стаў сябрам Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

У снежні 1919 года ў адказны гістарычны момант Вацлаў Ластоўскі ўзначаліў Урад Беларускай Народнай Рэспублікі. Але ўжо 17 снежня ён быў арыштаваны польскімі ўладамі. Вызвалілі яго ў лютым 1920 года.

Затым Вацлаў Ластоўскі пераехаў спачатку ў Рыгу, а затым у Коўна. Разам з Тамашом Грыбам, Дуж-Душэўскім і Аляксандрам Цвікевічам Вацлаў Ластоўскі ўвайшоў у Камітэт заграпічных груп Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Важная старонка ў жыцці Ластоўскага — арганізацыя антыпольскага партызанскага руху.

Пасля падпісання папярэдніх мірных дамоў паміж панскай Польшчай і Савецкай Расіяй у кастрычніку 1920 года Вацлаў Ластоўскі актывізаваў міжнародную дзейнасць, каб адстаяць інтарэсы Беларусі. У пасланні да мірнай канферэнцыі, якая адбывалася ў Парыжы, ён прасіў краіны Антанты дапамагчы Ураду БНР. Але яго звароты засталіся непачутымі.

Усведамляючы асабістую адказнасць за лёс Беларусі, Ластоўскі ініцыяваў стварэнне 20 кастрычніка 1920 года падчас канферэнцыі ў Рызе блока беларускіх партый для барацьбы «за незалежную і непадзельную» Беларусь.

Вацлаў Ластоўскі актыўна займаўся рэдакцыйна-выдавецкай дзейнасцю. У 1916—1917 гадах ён рэдагаваў і выдаваў газету *«Гоман»*, напісаў для яе шмат літаратурных і публіцыстычных твораў. Ва ўступным артыкуле рэдактар акрэсліў агульнанацыянальную місію выдання: «Патрэба газеты адчуваецца наймацней тады, калі настаюць часы важных перамен, калі ідзе справа аб долі народаў. Беларускі край цяпер перажывае якраз такі вялікі гістарычны момант: перад намі адкрываецца шырокі прастор для працы, і ў гэты момант больш, чым калі, патрэбна нам беларуская газета».

Вацлаў Ластоўскі старанна апрацоўваў народныя легенды і паданні, аб чым сведчаць надрукаваныя ў газеце «Гоман» апавяданні: *«Сцяпан і Вяльяна»*, *«Юга і Грамавік»*, *«Каменная труна»*. Апавяданне

«Каменная труна» (1917) заснавана на легендзе пра пана Бутрыма Няміру. Пан вылучаўся асаблівай жорсткасцю, забіў уласную жонку Мару і яе каханага Стаўра. Няміра быў пакараны, а яго цела застыла ў каменнай труне, якая ляжыць на гары непадалёк ад мястэчка Дзісна.

Несумненнай мастацкай удачай Вацлава Ластоўскага з'яўляецца апавяданне *«Злыя вочы»* (1917), таксама надрукаванае ў «Гомане». Для яго характэрны выключны псіхалагізм. Пісьменнік перадае душэўны стан героя, яго ўнутраныя трывогі. Злыя вочы — сімвал усяго нялюдскага, жорсткага, крыважэрнага.

У 1918 годзе Вацлаў Ластоўскі выдаваў часопіс *«Крывічанін»*. У ім ён змясціў *«Прыпавесць аб старым мужу і гожай дзеве»*, у аснове якой народнае паданне з дыдактычным сюжэтам. На старонках часопіса быў надрукаваны канцэптуальны артыкул Ластоўскага пад назвай *«Нацыянальнае пытанне»*. У ім пісьменнік-інтэлектуал абгрунтоўваў права ўсіх народаў, у тым ліку і беларусаў, на развіццё ўласнай культуры і палітычную незалежнасць.

У 1922 годзе Вацлаў Ластоўскі надрукаваў некалькі твораў у часопісе «Беларускі сцяг», сярод якіх патрыятычныя вершы: *«Наперад, змагарна наперад!»* і *«Благаслаўлён сын...»*. Верш «Наперад, змагарна наперад!» — палымяны заклік паэта да супрацьстаяння ворагам, да кансалідацыі народа, з мэтай захавання гістарычнай перспектывы беларусаў як асобнай нацыі.

## III

З 1923 года Вацлаў Ластоўскі, улічваючы новыя грамадска-палітычныя рэаліі, змяніў тактыку паводзінаў і скарэктаваў прыярытэты ўласнай дзейнасці. Ён выразна ўсведамляў, што для народа і краіны ў новых абставінах абсалютным прыярытэтам з'яўляецца ўмацаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, рэалізацыя навуковых і культурна-асветніцкіх праектаў, развіццё высокаякаснай нацыянальнай літаратуры, станаўленне прафесійнай філалогіі, актывізацыя ўсіх галін духоўнай дзейнасці. Яго пазіцыя была глыбока матываванай, што вынікае з прадмовы да часопіса *«Крывіч»*, дзе, у прыватнасці,

адзначалася: «Увесь час рэвалюцыі ўсе нашыя сілы былі скіраваныя ў старану абароны палітычных пазіцый, клалася на гэты бок многа ахвярнай і труднай працы, ніва ж нашай культурнай працы была пакінута выключна ініцыятыве і засабам паасобных дзеячаў. У выніку атрымалася значнае папярэджанне працы палітычнай перад культурнаю. Настаў вялікі час, калі беларускай адраджэнчай думцы, ані на момант не спыняючы ні з якога боку змагання, патрэба акапацца на здабытых дагэтуль пазіцыях: прыступіць да творчай працы ў дзедзіне нашага самапазнання, самаацэнцы і самакрытыкі».

Часопіс «Крывіч» Вацлаў Ластоўскі рыхтаваў і выдаваў на працягу пяці год, з 1923 да 1927-га, у Коўна. На яго старонках ён надрукаваў мноства артыкулаў на гістарычную тэматыку — пра паленне кніг на Беларусі, пра друкарні, пра Навагрудскую мітраполію, пра Віленскую акадэмію, аб лесаўчыках, пра унію і інш. Грунтоўныя публікацыі Вацлава Ластоўскага — гэта вынік яго шматбаковых даследаванняў гісторыі і культуры Беларусі.

У часопісе «Крывіч» Вацлаў Ластоўскі змясціў вялікую колькасць апавяданняў, нарысаў, замалёвак. Сюжэты многіх твораў аўтар пачарпнуў з вуснай народнай творчасці: *«Векавечная мяжа»*, *«Бяздоннае багацце»*, *«Князь Барыс і Чорт»*, *«Аб сытой свінні»*, *«Дзед і ўнук»*, *«Певень і гуся»*, *«Аб мядзведзю і асінавым калу з голасам»*, *«Аб чорце бязродным»*, *«Пад старасць адгукнецца»*, *«Ліхая баба»*, *«Варона і рак»*, *«Вуж куртаты і мужык багаты»*, *«Чаму Панас стаўся Ваўкалакам»*, *«Як Кузьма стрэльбу рабіў»*, *«Лепей вол ярэмны, як жарабец стаенны»*, *«Смерд і ваявода»*. Яны адлюстроўвалі шматвяковы досвед народа і выконвалі дыдактычныя функцыі.

Народны аповед пра міфічных істот — цмокаў — Вацлаў Ластоўскі скарыстаў у якасці асновы для яркага апавядання *«Цмок»* (1926). Паводле сюжэта твора, цмокі вылупляюцца з яйка, якое нясе певень на сёмы год жыцця. Калі тое яйка насіць пад пахай тры гады, дык з яго абавязкова вылупіцца цмок, які потым будзе ўслугоўваць гаспадару, прыносіць яму золата і серабро. Герой апавядання спрабуе абзавесціся ўласным цмокам, але церпіць фіяска. Пісьменнік, відавочна, звярнуўся да народнага сюжэта з тым, каб сцвердзіць істотную сентэнцыю: дзеля дасягнення вялікай мэты і шчаслівага жыцця трэба спадзявацца перадусім на ўласныя сілы, а не шукаць намарна чароўных сродкаў.

Найбольш значным празаічным творам у спадчыне Вацлава Ластоўскага з'яўляецца аповесць *«Лабірынты»* (1923). Твор утрымлівае прыгодніцкія элементы і шматлікія містычныя сцэны. Галоўны герой «Лабірынтаў», ад імя якога вядзецца апавяданне, накіроўваецца з Вільні ў Полацк, каб убачыць помнікі мінуўшчыны. У Полацку ён знаёміцца з археолагам Іванам Іванавічам і мешчанінам Грыгорам Н.— сівавусым старцам, які размаўляе выключна па-беларуску. Ён меў мянушку Падземны чалавек, бо ведаў старадаўнія падземныя хады ў Полацку. Галоўны герой аповесці загадкавым чынам трапляе ў падземны горад, дзе працуюць вучоныя. Усе людзі там не ведаюць старасці.

У аповесці дамінуе інтэлектуальны пачатак, героі дыскутуюць аб узроўні культуры славянскіх народаў у дахрысціянскія часы. Вуснамі персанажаў аповесці пісьменнік сцвярджае, што продкі беларусаў мелі шырокія пазнанні ў астраноміі, карысталіся ўласнымі найменнямі нябесных знакаў: «Як довад магу прывесці, што дагэтуль сярод нашага простага народа, які паўтысячы лет ходзіць у чужым ярме, дагэтуль маюцца ўласныя назовы важнейшых нябесных знакаў. Напрыклад, гвязду Венеру дасягоння называюць Чагір. Пад найменнем Чагір фігуруе Венера ў супрасльскім календары XVIII ст... Вялікую Мядзведзіцу называюць Стажарамі; Плеяды — Сітцом, або Вуціным Гняздом; Арыёнаў пояс — Кігачамі; тры гвязды каля Млечнай Дарогі называюць Пралямі, або Жалезны Абруч; у галаве Млечнай Дарогі знаюць Касьбітоў, а саму Млечную Дарогу называюць Вайсковым Станам. Назоваў гэтых захавалася многа. А што гэта знача? Гэта знача, што быў калісь час, калі ў нас працвітала астралогія, глыбокае знанне якой з'яўлялася прывілеем класа вучоных, але была адначасна, мабыць, ведай, даступнай для ўсіх станаў».

Герой твора «Лабірынты» Падземны чалавек даводзіў, што на востраве Багінскага возера стаяў капец, на якім была ўзведена бажніца, што дапамагала заўсёды дакладна вызначаць поўдзень: «На востраве, яшчэ да скасавання паншчыны, трымаўся высокі капец, у сярэдзіне каторага была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ўсярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень».

На старонках аповесці «Лабірынты» Вацлаў Ластоўскі выказаў гіпотэзу аб існаванні кніг, напісаных для славян грэчаскім алфавітам

задоўга да перакладаў Кірылы і Мяфодзія. Іх, на думку пісьменніка, у I—V стагоддзях падрыхтавалі хрысціянскія місіянеры — маніхеі, паўлікіяне і месальянцы: «Усе гэтыя сектанты пісалі грэцкімі літарамі па-славянску, дапасоўваючы іх да славянскай мовы».

Шэраг апокрыфаў, паводле Вацлава Ластоўскага, гэтаксама былі перакладзены на славянскую мову раней IX стагоддзя: «І пераклад кананічных кніг на славянскую мову папярэдзілі розныя сказанні, як прыкладам: «Сказанне аб Адаме», «Кнігі Эноха справядлівага», «Сказанне аб Ламэху і Мельхіседэку», «Запаветы дванаццаці патрыярхаў», «Пасланне Абраама да Хрыста», «Евангелле Хамы», «Евангелле Нікадымава» і шмат іншых».

У ковенскі перыяд Вацлавам Ластоўскім быў напісаны верш у прозе *«У час аблогі»* (1924), напоўнены трагізмам, адчуваннем адзіноты і пакінутасці. Другі верш — *«Чала я не схіліў прад сілай»* — гэта паэтычная споведзь вялікага чалавека, які шчыра служыў народу, дбаў пра яго будучыню, не баючыся аніякіх перашкод і варожых пастак.

Вядома, Вацлаў Ластоўскі не цалкам адышоў ад палітычнай працы, аб чым сведчыць яго глыбока выверанае і аргументаванае выступленне на V Асамблеі Лігі Нацый, якая праходзіла ў Жэневе ў верасні 1924 года. У сваёй прамове ён асуджаў ганебны падзел Беларусі паміж Польшчай і Расіяй, які адбыўся ў 1920 годзе ў Рызе. Паказваючы здзекі над беларусамі з боку палякаў і рускіх, палітык зазначаў: «Гэты кароткі агляд палажэнняў беларусаў пад Польшчай і пад Масквой паказуе, што ні там ні тут не мае беларус свабоды, што і там і тут ён знаходзіцца ў няволі, у рабстве. Каторая няволя горшая, маскальская ці польская, сказаць цяжка. І саламенны і раменны хамут муляе шыю». Вацлаў Ластоўскі даводзіў, што асноўная агульнанацыянальная задача для беларусаў — здабыць сапраўдную свабоду: «Быць вольным — прыроднае і людскае права кожнага чалавека і кожнага народа».

Працяглы час, звыш двух дзесяцігоддзяў, Вацлаў Ластоўскі збіраў матэрыял для руска-беларускага слоўніка. Праца ўбычыла свет у 1924 годзе пад назвай *«Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік»*. У прадмове аўтар сфамуляваў уласную канцэпцыю мовы, дакладна вызначыў яе сацыяльныя і грамадскія функцыі. Выдатны філолаг усведамляў выключную ролю слова ў фарміраванні асобы і

працэсе пазнання. «Слова,— пісаў Ластоўскі,— гэта не ўмоўны знак для выражэння мыслі, але мастацкі абраз, вызваны найжывейшымі пачуваннямі, якія прырода і жыццё выклікалі ў первабытным чалавеку. Яно знаходзіцца ў цесным звязку з народным бытам, яго светаглядам, гісторыяй, звычаямі і абычаямі, а дзеля гэтага мова ёсць вялікай нацыянальнай легендай і скарбніцай, святой спадчынай, каторая пераходзіць з пакалення ў пакаленне, з дзядоў на ўнукаў. Увесь светагляд і паэзія нашых прадзедаў замыкаліся ў мове. Кожнае слова было легендай-пагудкай, мітам, было поўнае зместу і паэзіі: бо міт асновываўся на легендзе, а легенда замыкалася ў слове. Слова ёсць творчасцю ўсяго народа, формы слова шліфаваліся многімі пакаленнямі і сталеццямі, пакуль сталіся тым, чым яны сягоння ёсць».

Вацлаў Ластоўскі вызначыў асноўныя чыннікі фарміравання беларускай літаратурнай мовы, акрэсліў шляхі ўздзеяння на яе старaславянскай мовы, гоцка-нямецкіх уплываў, а таксама польскай і чэшскай моў. Аўтар слоўніка выступаў за чысціню беларускай літаратурнай мовы, паказваў небяспеку засмечвання яе непатрэбнымі запазычаннямі. Ён падкрэсліваў: «Мова — гэта аблічча душы народа, і гэтае аблічча народнай душы нельга брыдзіць прылепкамі і наклейкамі, а наадварот, чым яно будзе чысцейшым, тым прыгажэйшым і здаравейшым». Слоўнік Вацлава Ластоўскага істотна ўзбагаціў нацыянальную філалагічную навуку, ён і цяпер не страціў свайго практычнага і навуковага значэння.

Важным напрамкам навуковых пошукаў Вацлава Ластоўскага на працягу доўгага часу з'яўлялася старажытнае беларускае прыгожае пісьменства, рукапісныя кнігі, княскія граматы і помнікі юрыдычнай думкі. У 1926 годзе ён апублікаваў фундаментальную *«Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі»*, якая стала значнай падзеяй у культурным і духоўным жыцці краіны.

«Гісторыя...» Вацлава Ластоўскага ахоплівала перыяд з X да XVIII стагоддзя. У выданні навуковец падаў падрабязныя бібліяграфічныя звесткі і змясціў разгорнутыя характарыстыкі помнікаў пісьменства — Святога Пісання на беларускай мове, богаслужбовых твораў, паломніцкай літаратуры, зборнікаў пропаведзяў, жыцій, хронік і летапісаў, палемічнай літаратуры.

Даволі поўна ў кнізе былі прадстаўлены помнікі перакладной літаратуры, у прыватнасці — «Александрыя», «Аповесць пра Трою», «Рымскія дзяянні», «Арыстоцелевы врата», «Хроніка Малалы», «Шастакрыл» і «Лапатачнік».

Асобныя, найбольш каштоўныя старажытныя творы, невялікія паводле памераў, Вацлаў Ластоўскі асабіста рэканструяваў і змясціў у выданні. Сярод іх — «Аповесць пра Грунвальдскую бітву» і шэраг рэдкіх інтэрмедый XVII—XVIII стагоддзяў.

* * *

Увесну 1927 года Вацлаў Ластоўскі, паводле запрашэння Урада Савецкай Беларусі, пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск.

Першае, чым ён заняўся,— разгортванне музейнай справы на Беларусі. На пасадзе дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея ён зрабіў неверагодна шмат для пошукаў і захавання помнікаў матэрыяльнай культуры.

Каля 1928 года Вацлаў Ластоўскі быў прызначаны на пасаду неадменнага сакратара Інбелкульта. Ён адначасова кіраваў кафедрай этнаграфіі, рэдагаваў «Працы кафедры этнаграфіі», працаваў у «Камісіі жывой беларускай мовы», ладзіў этнаграфічныя экспедыцыі ў розныя куткі Беларусі. Менавіта Вацлаў Ластоўскі адшукаў нацыянальную рэліквію — Крыж Ефрасінні Полацкай. Ён актыўна спрыяў стварэнню на базе Інбелкульта Беларускай акадэміі навук. У канцы 1928 — пачатку 1929 года Савет Народных Камісараў БССР зацвердзіў яго ў званні акадэміка АН. Аднак 20 лістапада 1929 года пастановай СНК БССР ён быў зняты з пасады сакратара Беларускай акадэміі навук.

18 ліпеня 1930 года Вацлава Ластоўскага арыштавалі, а ў яго кватэры супрацоўнікі Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення правялі вобыск. З бібліятэкі забралі шмат рукапісаў.

Акадэміка Ластоўскага саслалі ў Саратаў. 23 студзеня 1938 года Ваенная калегія Вярхоўнага суда СССР прыгаварыла Ластоўскага да расстрэлу. Заўчасная смерць Вацлава Ластоўскага стала велізарнай стратай для беларускай гуманітарнай навукі і ўсёй нацыянальнай культуры.

# ЗМЕСТ

**Саверчанка, І. В.**

С12 Улада пячаткі : легенда, аповесць, містэрыя, эсэ / Іван Васільевіч Саверчанка.— Мінск : Мастацкая літаратура, 2016.— 406 с.

ISBN 978-985-02-1727-1.

У кнізе ўзноўлены гераічныя і трагічныя старонкі старажытнай гісторыі Беларусі, здзейснена мастацкая рэканструкцыя глыбінных пластоў нацыянальнай міфалогіі і вераванняў беларусаў. Галоўнымі героямі твораў з'яўляюцца найбольш значныя асобы мінулага — Рагвалод і Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Міндоўг, Вітаўт Вялікі, Астафей Валовіч, Сымон Будны, Леў Сапега, Іпацій Пацей, Іосіф Вельямін Руцкі, Кастусь Каліноўскі і Вацлаў Ластоўскі.

Выданне разлічана на шырокае кола чытачоў: выкладчыкаў і студэнтаў, настаўнікаў і школьнікаў старэйшых класаў.

**УДК 821.161.3-4**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

**САВЕРЧАНКА** Іван Васільевіч

УЛАДА ПЯЧАТКІ

*Легенда, аповесць, містэрыя і эсэ*

Рэдактар *С. В. Умец*
Мастацкі рэдактар *В. М. Максімовіч*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычныя рэдактары *Ю. В. Тыркіч, М. А. Анцытовіч*

Падпісана да друку 19.10.2016. Фармат $70 \times 90\,^1/_{16}$.
Папера афсетная. Гарнітура Warnock Pro. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 29,84. Ул.-выд. арк. 21,11.
Тыраж 500 экз. Заказ 926.

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.